
Беларускі інстытут навукі й мастацтва


Бібліятэка Бацькаўшчыны
Міжнароднае грамадскае аб'яднанне
«Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»

Кніга 24

Святаслаў Шабовіч

# З фальварка Марцінова да Фармінгтонскіх узгоркаў:
*гісторыя аднаго падарожжа*

Мінск
«Кнігазбор»
2015

УДК 821.161.3-3
ББК 84(4Беи)
Ш12

*Серыя «Бібліятэка Бацькаўшчыны»*
*заснавана МГА «ЗБС “Бацькаўшчына”» ў 2004 годзе*

Пераклад з англійскай мовы *Віялеты Кавалёвай*
Прадмова, каментары, рэдагаванне *Наталлі Гардзіенкі*

Кніга выдаецца сумесна з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва (Нью-Ёрк, ЗША).

**Шабовіч, С.**

Ш12 З фальварка Марцінова да Фармінгтонскіх узгоркаў: гісторыя аднаго падарожжа / Святаслаў Шабовіч ; пер. з англ. В. Кавалёвай ; прадм., камент. Н. Гардзіенкі. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 260 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны ; кн. 24).

ISBN 978-985-7119-49-3.

Кніга Святаслава Шабовіча «Ад фальварка Марцінова да Фармінгтонскіх узгоркаў: гісторыя аднаго падарожжа» (24-я ў серыі «Бібліятэка “Бацькаўшчыны”») уяўляе з сябе ўспаміны беларускага эмігранта, што падчас Другой сусветнай вайны страціў бацькоў і ў дванаццацігадовым узросце пакінуў Беларусь. Аўтар распавядае пра беларускае дзяцінства, тулянні па паваеннай Германіі, выезд у ЗША і ўладкаванне ў новай краіне. Успаміны адлюстроўваюць погляд на падзеі беларускай гісторыі і эміграцыі прадстаўніка пакалення Ды-Пі, на станаўленне светапогляду якога значны ўплыў зрабіла жыццё ў лагерах для перамешчаных асобаў.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7119-49-3**

## ГОЛАС ПАКАЛЕННЯ

Тэма беларускай эміграцыі, збольшага рэабілітаваная ў 1990-я гг., прайшла свой заканамерны шлях ад міфаў да шаблону. Спытай сёння шараговага чытача, неабыякавага да айчыннай гісторыі, хто такі паваенны эмігрант, і ён ці яна адкажуць, што гэта была асоба, рэпрэсаваная за Саветамі, падчас вайны — вайсковец, як Барыс Рагуля, ці грамадскі дзеяч, як Леанід Галяк або Яўхім Кіпель, ці культурнік, кім была Наталля Арсеннева, або выхаванец СБМ, як Мікола Ганько, — вымушаныя супрацоўнічаць з акупацыйным рэжымам. І тое будзе праўда.

Аднак мы забываемся, што па выніках Другой сусветнай вайны на Захадзе апынуліся прадстаўнікі і іншага пакалення, чый светапогляд фармаваўся ў іншы гістарычныя перыяд і нават у іншых дзяржавах. Сярод дзясяткаў і соцень тысяч паваенных уцекачоў была значная частка дзяцей і падлеткаў. Іх маленства і юнацтва прыпалі на вайну, бежанства 1944 г. не было вынікам уласнага выбару, а на іх светапогляд і стаўленне да Беларусі вызначальна паўплывалі гады, праведзеныя ў паваеннай Еўропе, найчасцей у лагерах Ды-Пі.

Гэта былі дзеці, народжаныя ў 1930-я гг. На момант пачатку Другой сусветнай вайны яны мелі не болей за 10 гадоў. У часе вайны прадстаўнікі гэтага пакалення звычайна жылі пры бацьках, не займаючыся нейкай самастойнай працай, а па сканчэнні ваеннага ліхалецця апынуліся пераважна ў Нямеччыне ці Аўстрыі ў якасці перамешчаных асобаў. Тут яны вучыліся ў школах, удзельнічалі ў скаўтынгу — атрымалі пэўную «прышчэпку беларушчыны», адсюль выехалі на новае месца жыхарства ў іншыя краіны, каб здабываць прафесійную адукацыю, працаваць і жыць.

У нашым эміграцыязнаўстве гэтае пакаленне да канца XX ст. заставалася незаўважаным, бо яго прадстаўнікі амаль не стварылі ўласных успамінаў. У працы Лявона Юрэвіча «Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі»[1] іх сведчанні не згадваюцца, бо такіх фактычна не было. Выключэннем могуць быць тэксты кшталту

---

[1] Юрэвіч, Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью Ёрк, 1999. 360 с.

«Шлях беларускіх дзяцей у вапошнюю вайну» Алеся Галубіцкага (Марговіча) у газеце «Бацькаўшчына»[2] ці нявыдрукаваная праца Алеся Вініцкага «Матар'ялы да гісторыі беларускага скаўтынгу»[3]. У першым са згаданых тэкстаў аўтар закранае праблему дзіцячага досведу ваенных часоў, у другім — часоў лагераў Ды-Пі.

Спецыяльныя мемуарныя тэксты прадстаўнікоў згаданага пакалення пачалі з'яўляцца толькі ў XXI ст. І хоць да сёння іх параўнальна няшмат, тым не менш мы можам казаць пра гэтыя ўспаміны як асаблівую з'яву ў эміграцыйнай мемуарыстыцы. Асобнымі выданнямі пакуль выйшлі толькі «Птушкі пералётныя» Галіны Ганчарэнкі[4] ды «Дарога» Івонкі Сурвілы[5] (апошняя мела досвед лагераў Ды-Пі не ў Нямеччыне, а ў Даніі). Ёсць таксама публікацыі ўспамінаў Надзеі Запруднік «Блуканне па лягерах у паваеннай Нямеччыне (1945–1950)»[6] і Вітаўта Кіпеля «Моладзь у лягерах Ды-Пі»[7] на старонках альманаха «Запісы БІНіМ». Можна адзначыць і больш за дзясятак інтэрв'ю народжаных у 1930-я эмігрантаў, што змешчаны ў кнізе Аляксандра Адзінца «Паваенная эміграцыя: скрыжаванні лёсаў»[8], а таксама пакуль неапублікаваныя ўспаміны Льва і Тамары Стагановічаў[9]. Усе гэтыя тэксты пры розніцы апісаных жыццёвых калізій аб'ядноўвае тое, што, паводле Лявона Юрэвіча, іх аўтары глядзяць вакол сябе падлеткавымі вачыма і застаюцца пераважна староннімі да палітычных падзей і

---

[2] Галубіцкі [Марговіч], Алесь. Шлях беларускіх дзяцей у вапошняю вайну // Бацькаўшчына. № 24 (254). 12 чырвеня 1955. С. 2, 4; № 25 (255). 19 чырвеня 1955. С. 2, 4; № 26 (256). 26 чырвеня 1955. С. 1, 4; № 28 (258). 10 ліпеня 1955. С. 2–3; № 29 (259). 17 ліпеня 1955. С. 1–2; № 30–31 (260–261). 21 ліпеня 1955. С. 2; № 34 (264). 21 жніўня 1955. С. 2–3. Перадрукаваны ў: Запісы БІНіМ. № 34. Нью-Ёрк — Менск, 2011. С. 185–215.

[3] Адзін з асобнікаў працы захоўваецца ў асабістым архіве аўтара прадмовы.

[4] Руднік, Галіна. Птушкі пералётныя. Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2011. 192 с.

[5] Сурвіла, Івонка. Дарога. Стоўпцы — Капэнгаген — Парыж — Мадрыд — Атава — Менск. Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2008. 144 с.

[6] Запісы БІНіМ. № 34. Нью-Ёрк — Менск, 2011. С. 163–175.

[7] Запісы БІНіМ. № 34. Нью-Ёрк — Менск, 2011. С. 176–184.

[8] Адзінец, Аляксандр. Паваенная эміграцыя: скрыжаванні лёсаў. Мінск: Медысонт, 2007. 704 с.

[9] Рукапісы захоўваюцца ў архіве БІНіМа.

падзелаў, якія складалі ці не асноўны змест успамінаў старэйшага пакалення[10].

Гэтае маладзейшае пакаленне я называю пакаленнем Ды-Пі. І іх сведчанні — будзь тое дзённік Дзмітрыя Сямёнава ці ўспаміны Тамары Стагановіч — разрываюць той шаблон, з якім мы звычайна падыходзім да ўспамінаў паваенных эмігрантаў, нашых чаканняў ад іх.

Народжаны 17 лістапада 1932 г. у фальварку Марцінова (сёння Мядзельскі раён Мінскай вобласці) Святаслаў Шабовіч — таксама прадстаўнік пакалення Ды-Пі, і ягоныя ўспаміны — яскравае адлюстраванне досведу гэтай катэгорыі эмігрантаў, іх бачання падзей і сябе. Як і ў іншых мемуарных тэкстах прадстаўнікоў гэтага пакалення, у аповедзе Святаслава Шабовіча вельмі шмат увагі аддаецца дзіцячым успамінам пра бацькоў, родныя мясціны, падзеі вайны, у выніку якіх хлопец з трыма сёстрамі засталіся сіротамі. Далей распавядаецца пра ўцёкі на Захад разам з сям’ёй дзядзькі — праваслаўнага святара Яна Жарскага. Уражлівая дзіцячая свядомасць захавала побытавыя падрабязнасці выезду з Беларусі і бадзянняў па паваеннай Еўропе. Аўтар памятае, як выглядалі будынкі, ваколіцы, людзі, якіх ён сустракаў у Польшчы, Чэхаславаччыне, Германіі і пазней у ЗША.

Выразнай адметнасцю ўспамінаў Святаслава Шабовіча ёсць гранічная аўтарская шчырасць і непасрэднасць, на мяжы з агаленасцю, што пераводзіць мемуары ў іншы жанр — споведзь і прымушае згадаць аднайменны твор Жан-Жака Русо. Гэты тэкст, бадай першы ў эміграцыйнай (а мо не толькі эміграцыйнай) мемуарыстыцы, дзе аўтар расказвае пра ўласнае дзіцячае сутыкненне з гвалтам у сям’і, з алкаголем, пра сексуальныя назіранні і перажыванні. Ва ўспамінах Святаслава Шабовіча можна знайсці рэфлексіі пра тое, што разведзеная з бацькам маці мела натуральную патрэбу, каб побач быў мужчына. Падглядаючы за адным з тых мужчынаў, юнак даведаўся, што такое мастурбацыя. У мемуарах можна знайсці згадкі, як, жывучы ў лагеры Ды-Пі ў Тырсгайме, архіепіскап БАПЦ Філафей па начах сустракаўся з жанчынай, і ў вачах падлетка гэта выглядала зусім зразумелым. Таксама Святаслаў Шабовіч піша, як нямецкія жанчыны ў паваенны час прадавалі сваё цела амерыканскім салдатам за цыгарэты, харчы ці рэчы з вайсковых пасылак. І аўтар прапануе ўраду ЗША падзякаваць тым жанчынам, бо яны

---

[10] Гл.: Юрэвіч, Лявон. Краіна Ды-Пі: замалёўкі побыту й нораваў зь лягерных часоў // Запісы БІНіМ. № 34. Нью-Ёрк — Менск, 2011. С. 88.

забяспечвалі жаўнераў у іх натуральных патрэбах. Усе згаданыя, як і іншыя падобныя, моманты ў тэксце выглядаюць арганічна і суправаджаюцца шчырымі развагамі і назіраннямі за чалавечай прыродай і сутнасцю міжчалавечых дачыненняў.

Яшчэ адна спецыфічная рыса ўспамінаў Святаслава Шабовіча — своеасаблівая цыклічнасць аповеду. Кожны раздзел пісаўся як адносна самастойны ўспамін з завершанай структурай, таму да найбольш важных падзей аўтар вяртаецца неаднойчы, згадваючы іх з рознымі падрабязнасцямі. Да таго ж, відавочна, штуршком да пісання мемуараў стала здзейсненае на пачатку XXI ст. падарожжа па Еўропе і наведванне Беларусі. Ад гэтых сваіх уражанняў аўтар адштурхоўваецца ў аповедах. У выніку мінулае часта перагукаецца ў тэкстах з сучаснасцю, з уражаннямі пра адведванне больш як праз паўстагоддзя месцаў, дзе адбываліся важныя падзеі дзяцінства і юнацтва.

«З фальварка Марцінова да Фармінгтонскіх узгоркаў» пісаліся першапачаткова як успаміны для сям'і — для дзяцей, унукаў, праўнукаў. І гэта адлюстравалася не толькі ў англійскай мове арыгіналу, перакладзенага для кніжнай публікацыі Віялетай Кавалёвай. Адбітак уяўлення аўтара пра мэтавую аўдыторыю можна знайсці ў тлумачэннях некаторых рэчаў і з'яваў, людзям з беларускім досведам блізкіх і зразумелых. Так, народжаным у ЗША нашчадкам трэба было тлумачыць, як рабілі са збожжа муку, як без электрычнасці ўзбівалі масла, як выглядала лазня і г. д. З пазіцыі ўжо амерыканца Святаслаў Шабовіч тлумачыць, чаму вясковы сабака мусіў жыць у будцы і што гэта не ўспрымалася як здзек з жывёлы. Гэткія ж рэфлексіі з пазіцыі гадоў, пражытых у ЗША, над рэпрэсіямі, пад якія патрапіў бацька, над дзейнасцю партызанаў, што забілі маці і бабулю, над бамбардаваннямі нямецкіх гарадоў і іншым — таксама неад'емная частка ўспамінаў.

У сваім аповедзе Святаслаў Шабовіч даволі падрабязна апісвае падзеі жыцця ў паваеннай Нямеччыне: пераезды з аднаго лагера ў іншы ў пошуках бяспечнага месца, каб пазбегнуць рэпатрыяцыі, навучанне ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхельсдорфе, скаўтынг. І нягледзячы на заўвагу самога аўтара, што ў згадках пра навучанне яму шмат дапамагла кніга Яна Максімюка[11], успаміны напоўненыя каштоўнымі дэталямі. Што праўда, у гэтай частцы ўспамінаў прысутнічаюць і водгукі палітычнага падзелу беларускай эміграцыі. Яны заўважныя ў апісанні вядомых падзей з

[11] Максімюк, Ян. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне (1945–1950). Нью-Ёрк–Беласток, 1994. 196 с.

выгнаннем скаўтаў з Міхельсдорфскай царквы ў 1948 г. і развагах пра паходжанне «крывічоў» і «зарубежнікаў». Аднак і гэтыя аўтарскія рэфлексіі адлюстроўваюць, наколькі далёкія былі падлеткі ад тагачасных палітычных дыскусій.

Сітуацыя Святаслава Шабовіча адметная яшчэ і тым, што на эміграцыі ён быў мала заангажаваны ў беларускую дзейнасць. Усведамляючы сябе беларусам, ён пераважна трапляў у асяродкі, далёкія ад сталай нацыянальнай актыўнасці суродзічаў. І значная частка яго і «нямецкіх» успамінаў, і «амерыканскіх» — гэта аповед пра падзеі ўласнага сталення, пошуку месца ў жыцці.

Аўтар успамінаў з дзяцінства марыў пра Амерыку, куды ездзіў калісьці на заробкі ягоны бацька і дзе засталіся бацькавы браты. І цалкам заканамерна, што жыццёвае падарожжа прывяло Святаслава Шабовіча ў 1949 г. менавіта ў ЗША. «Амерыканская» частка ўспамінаў, што ўвайшлі ў гэтую кнігу, закранае толькі прыезд, спатканне з дзядзькам Пятром і пераезд да яго ды службу ў амерыканскай арміі. Па-за гэтым тэкстам[12] застаўся пераезд у Дэтройт, дзе аўтар жыў у сям'і аднаго з найбольш дзейных мясцовых беларусаў Міколы Прускага. Тут жа Святаслаў Шабовіч пачаў навучанне ва ўніверсітэце. Спачатку вывучаў хімію і біялогію, каб далей пайсці на медыцыну, але перадумаў і закончыў універсітэт у 1962 г., спецыялізуючыся на славістыцы (усходнеславянскіх студыях). Пазней, у 1966 г., атрымаў ступень магістра бібліятэказнаўства ў Заходне-мічыганскім універсітэце.

Навучанне трэба было аплочваць, таму практычна праз увесь час Святаслаў Шабовіч мусіў працаваць. З аплатай магістарскага навучання пэўную дапамогу маладзёну як сябру Беларуска-амерыканскага задзіночання дала мясцовая беларуская грамада Дэтройта.

Цікавая калізія амерыканскага жыцця аўтара ўспамінаў, што таксама, на жаданне аўтара, не ўвайшла ў пададзены ніжэй тэкст, звязаная з праходжаннем спецыяльнага курса навучання ў ЦРУ. Аднак кар'еры тайнага агента не атрымалася. Затое Святаслаў Шабовіч амаль усё жыццё працаваў універсітэцкім бібліятэкарам: у Тэхасе, Паўночнай Караліне, Індыяне, зноў у Тэхасе. У 1968 г. ён спаткаў Люсіль Бат і ажаніўся з ёй. Яна стала вернай спадарожніцай яго жыцця.

Сёння спадарства Шабовічы жывуць у Фармінгтан Хілз (штат Мічыган). Нягледзячы на абставіны жыцця ў розных аддаленых

---

[12] З агульнага англамоўнага тэксту ўспамінаў Святаслаў Шабовіч адабраў для перакладу на беларускую і публікацыі не ўсе раздзелы. Поўны тэкст захоўваецца ў перакладчыка і рэдактара кнігі.

штатах, Святаслаў Шабовіч падтрымоўваў сувязі з беларускімі суродзічамі. Дзякуючы гэтаму ягоныя ўспаміны не зніклі ў моры сямейных амерыканскіх успамінаў, а, заўважаныя Вітаўтам Кіпелем, урэшце знайшлі свой шлях да чытача і сталі яшчэ адным яскравым голасам таго самага «пакалення Ды-Пі».

*Наталля Гардзіенка*

# ПРАДМОВА

Я, Святаслаў Шабовіч, нарадзіўся ў 1932 годзе ў фальварку Марцінова, на тэрыторыі Заходняй Беларусі, якая тады была ў складзе Польшчы.

Антон Шабовіч, мой бацька, купіў гэты маёнтак на сродкі, зароблены ў Амерыцы (тата прабыў там ад сярэдзіны да канца 20-х гадоў мінулага стагоддзя). Калі б палітычны клімат у маёй роднай краіне не быў такі спусташальны, цалкам магчыма, што я дагэтуль жыў бы на радзіме — у Беларусі. Але не мне было дадзена распараджацца лёсам, я і мае тры сястры былі гвалтам вырваныя з роднага дому і ледзь не загінулі.

Нас уратавалі нашыя дзядзька і цётка Жарскія, якія жылі ў Радашковічах. Калі Другая сусветная вайна зноў пачала каціцца на нас вогненным валам, мы выехалі з мястэчка Радашковічы на Захад; пазней нам пашанцавала знайсці лагер для ўцекачоў у Германіі. Пасля Другой сусветнай мой дзядзька Пётр, брат таты, які жыў у горадзе Лын штата Масачусетс, забраў мяне і сёстраў да сябе ў Амерыку.

Упершыню я вярнуўся ў Еўропу толькі ў 1991 годзе. Я пабываў у Празе, дзе жыве мая сястра Ірына з сям’ёй, а таксама заехаў на кароткі час у Беларусь. Потым, у 2000 годзе, я прыняў вельмі важнае рашэнне: вярнуцца туды, дзе я нарадзіўся, і наведаць навакольныя мястэчкі і вёскі. Як жа балюча мне стала, калі я ўбачыў, што зямля, якая была калісьці ўласнасцю майго таты і месцам майго нараджэння, аказалася глыбока знявечанай: рэчка і лес зніклі дазвання, і гэтыя мясціны больш не спараджалі радасці ў душы, як калісьці, у далёкія гады майго дзяцінства. Тады і нарадзілася думка напісаць і апублікаваць гэтыя ўспаміны пра маё дзяцінства, юнацтва і пазнейшы жыццёвы досвед.

У працы над гэтай кнігай мне вельмі паспрыялі сябры, сваякі і мая жонка Люсіль Шабовіч. Мае стрыечныя сястра і брат, доктар Таісія Творэк і доктар Уладзімір Жарскі, дапамаглі мне як мага больш дакладна і акуратна ўзнавіць дэталі — даты, імёны, месцы, дзе знаходзіліся лагеры для ўцекачоў, а таксама розныя падзеі і выпадкі, якія адбыліся з намі, калі мы спрабавалі ўцякаць ад гвалту, спароджанага вайной у Еўропе.

Калі першыя некалькі раздзелаў кнігі былі напісаныя, я паказаў іх сябрам і сваякам. Прачытаўшы тэкст, доктар Вітаўт Кіпель пачаў настойліва заахвочваць мяне, каб я дапісаў успаміны і апублікаваў іх. Ён жа параіў мне звярнуцца да Лявона Юрэвіча з просьбай знайсці перакладчыка, рэдактара і выдаўца.

Спадар Юрэвіч выказаў вялікую зацікаўленасць у тым, каб мае ўспаміны былі перакладзеныя на беларускую мову, і гэта яшчэ больш падахвоціла мяне працягнуць працу над імі. Да таго ж спадар Юрэвіч звёў мяне з людзьмі, якія зрабілі наступныя крокі для публікацыі. Спадарыня Віялета Кавалёва з Таронта (Канада) ласкава пагадзілася супрацоўнічаць са мной і пераклала тэкст успамінаў, Наталля Гардзіенка з Мінска (Беларусь) адрэдагавала і пракаментавала іх. Усім названым асобам я вельмі ўдзячны за зацікаўленасць і падтрымку.

*Святаслаў Шабовіч,*
*9 снежня 2014 г.*

# 1. ЗНОЎКУ Ў МАРЦІНОВЕ: КРОК У ДАЛЁКАЕ МІНУЛАЕ

Пачатак чэрвеня 2000 года. Я зноў апынуўся на зямлі, калісьці вядомай як фальварак Марцінова, — на беразе рэчкі Вузлянкі[13], непадалёк ад вёскі Сваткі[14]. Сюды, на зямлю, дзе нарадзіўся, я вярнуўся другі раз пасля 1943 года (першы раз я ненадоўга спыняўся тут улетку 1991-га).

Сонца паварочвае да палудня, але неба шэрае і пахмурнае. З дапамогай мясцовага жыхара я адшукаў месца, дзе калісьці стаяў дом маіх бацькоў. Кавалкі падмурка яшчэ праглядаюць скрозь траву. Я абводжу вачамі наваколле — і не магу пазнаць анічога! Краявід, які я бачыў і запомніў з маленства, знік дашчэнту. Я спрабую засяродзіцца на новым вобліку маёй малой радзімы, але марна. Думкі самі сабой пераносяць мяне ў далёкае мінулае. Я зноў бачу рэчку Вузлянку такой, якой яна была раней: вось яна кружляе між зялёных лугоў, што стракацяць рознакаляровымі краскамі, а над імі лётаюць чмялі і збіраюць нектар. На берагах рэчкі высяцца таполі, на вяршалінах якіх там і тут відаць вароніныя гнёзды. Чыстая сіняя вада Вузлянкі цурчыць на мелкаводдзі, а на глыбіні спакойна цячэ альбо злёгку віруе. Я бачу стракозаў, што праносяцца нізка-нізка над ракой; добра відаць, як плынь няспешна калыша сцябліны водных раслінаў… Раптоўна мяне абуджаюць з гэтага ледзь не трансу. Мой спадарожнік звяртаецца да мяне, мы абменьваемся парай словаў. Ён сыходзіць, я застаюся — каб сузіраць і ўзгадваць.

Рэчка займала агромністае месца ў маім дзяцінстве — можна сказаць, што вакол яе ў вялікай ступені будавалася маё жыццё. Улетку я лавіў у Вузлянцы рыбу, брадзіў на мелкаводдзі і плёскаўся ў празрыстай вадзе. Часам на пясчаных берагах трапляліся нават боепрыпасы (галоўным чынам нескарыстаныя патроны для він-

---

[13] **Вузлянка (Узлянка)** — рэчка ў Мядзельскім і Вілейскім раёнах, левы прыток ракі Нарачанка (Нарач).

[14] **Сваткі** — вёска ў Мядзельскім раёне, за 20 км на паўднёвы ўсход ад Мядзела, цэнтр сельсавета. У 1921–1939 гг. тут размяшчаліся паліцэйскі ўчастак, 2 крамы, царква, польская пачатковая школа, у якой вучылася 25 вучняў.

товак), якія засталіся тут яшчэ ад часоў Першай сусветнай. Такія знаходкі прыносілі мне бязмерную радасць.

Вузлянка заварожвала мяне, я вельмі яе любіў. Узімку, калі паверхня рэчкі пакрывалася лёдам, я катаўся тут на каньках. Вясна прыносіла новыя дзівосы. Як толькі надыходзіў сакавік, снег пачынаў хутка раставаць, і гэта спараджала гіганцкую масу вады, якая рухалася ўніз па плыні. Раптам, заўсёды нечакана, рэчка выходзіла з берагоў і разлівалася ўшыркі на некалькі сотняў метраў. Бурлівая вада несла з сабой вялікія крыгі лёду. Неўзабаве з’яўляліся флатыліі плытагонаў, якія спяшаліся выкарыстаць гэтую шырокую водную магістраль, каб сплавіць лес уніз па рацэ. Некалькі дзён платы плылі міма нашых вокнаў. Мужчыны з доўгімі драўлянымі бусакамі, стоячы на плытах, умела кіравалі імі на неспакойнай вадзе. Я захапляўся іхным спрытам: і як толькі ў іх атрымоўвалася так добра трымаць раўнавагу на слізкіх бярвёнах, па-простаму звязаных вяроўкамі! Гэтае відовішча настолькі вабіла мяне, што я гадзінамі мог назіраць за плытагонамі.

Вада адступала з лугоў паступова, і рэчка вярталася ў сваё звыклае рэчышча. Паводка не разбурала глебы, бо паабапал рэчкі зямлю не аралі, там пакідалі суцэльную паласу заліўных лугоў.

Лютавала Другая сусветная вайна. У мяне больш не было бацькі: яго арыштавалі і завезлі ў лагер, кудысьці далёка ў СССР. Не было больш і бацькавай маці — маёй бабулі: аднойчы невядомыя забойцы застрэлілі яе праз акно нашага дома. Я і тры мае сястры па-ранейшаму жылі на бацькавай зямлі (дакладней, на тым лапіку, што ад яе застаўся) разам з маці. Гэта быў, відаць, 1942 год.

У нас была невялікая чарада свойскіх гусей — каля тузіна. Усе яны былі снежна-белыя, за выключэннем аднаго-двух, у якіх на спінах былі цёмна-шэрыя лапікі. Штораніцы гусі адплывалі па рацэ дзесьці за кіламетр уніз, да вёскі Рудзевічы[15]. Бліжэй да заходу сонца гусі ўздымаліся з вады і ляцелі ў напрамку нашага дома. Па дарозе яны пераляталі цераз высокія кедравыя сосны, высаджаныя ў радок уздоўж саду, потым рабілі кола над ракой і сядалі на ваду вышэй па плыні, заўсёды ў адным і тым месцы. Скончыўшы гэты рытуал, гусі плылі па рацэ ўніз і непадалёк ад нашага дома выходзілі на бераг. Гусі начавалі ў адмыслова збудаванай для іх «гусінай хатцы». Я думаю, мае бацькі ставіліся да тых гусей як да хатніх улюбёнцаў, бо ніколі не бачыў гусі ні на кухонным, ні

[15] **Рудзевічы** — вёска ў Сваткаўскім сельсавеце Мядзельскага раёна. У 1921 г. мела 31 двор, 190 жыхароў, а ў 1940 г. — 37 двароў, 135 жыхароў.

на абедзенным стале — нават у часы вайны! Які быў потым лёс гусей, не магу прыпомніць.

Цяпер, праз пяцьдзясят восем гадоў, я зноў узіраюся туды, дзе калісьці несла свае воды прыгажэнная Вузлянка. Я цалкам збіты з тропу і прыгаломшаны: рэчкі больш няма. У пошуку яе слядоў я падыходжу да змрочнай вузкай канавы, вада ў якой амаль не рухаецца. Яна выглядае агідна цёмнай, без усялякіх прыкметаў жыцця — што ў самой вадзе, што над вадой. Больш таго, на берагах і прылеглых да былой ракі лугах зусім не відаць і не чуваць птушак. Гэта надзвычай сумнае відовішча. Зямля, якая калісьці зачароўвала хараством, выглядае скарыстанай, згвалчанай і прыніжанай. Самотны ястраб, што кружляе ў вышыні, не можа мяне супакоіць.

Як толькі пачалася Другая сусветная вайна, Заходняя Беларусь апынулася ў складзе СССР. Марцінова было далучанае да вёскі Сваткі, і на яго тэрыторыі ўтварылі саўгас. Большасць ручаёў і рачулак, што жывілі Вузлянку ў часы майго дзяцінства, пасля вайны былі перанакіраваныя ў іншыя бакі. Да таго ж масавае асушэнне балотаў таксама паспрыяла таму, каб Вузлянка ў сваіх вярхоўях перастала існаваць. Тое, што засталося ад рэчкі, спусцілі ў канаву.

Я быў вельмі шчаслівы, калі праз некалькі дзён трапіў на іншае месца, за некалькі кіламетраў уніз па плыні, дзе Вузлянка па-ранейшаму цякла вольна і нязмушана…

Марцінова ў тым выглядзе, у якім яно існавала да 1939 года, знікла з мапаў і з рэчаіснасці. Абодва сасняки былі высечаныя. Купа вялікіх ліставых дрэваў, што стаяла на беразе ракі і дзе віравала птушынае жыццё, засталася толькі ва ўспамінах. Падвойны шэраг статных спракаветных бярозаў, якія высіліся паабапал дарогі, што вяла са Сватак у Рудзевічы, знік таксама. Але ў маёй памяці дагэтуль чуецца гучны вароніны грай, што даносіўся з тракту, калі па вечарах сотні гэтых птушак рассаджваліся на галіны бярозаў, рыхтуючыся да начлегу.

Потым думкі вяртаюць мяне да іншага малюнка. Вечар. Пара жніва. Група маладзіц вяртаецца дадому, у Рудзевічы, пасля дня цяжкай працы на жытнім полі. Жанчыны ідуць пешшу, паклаўшы сярпы на плечы. Ідуць і спяваюць. Меладычныя беларускія песні ажываюць у памяці, і я ледзь стрымліваю слёзы. Няхутка я наважваюся зірнуць на наваколле зноў — прыгледзецца да вуліцаў таго селішча, якое цяпер называецца «Сваткі за рэчкаю». Далягляд захінаюць хаты, раней з гэтага месца можна было бачыць той самы абсаджаны бярозамі гасцінец.

У памяці ўзнікае карцінка летняй раніцы. Адзеты ў кароткія штонікі, я стаю каля ганка і разгублена назіраю, як воз, на якім сядзіць мой тата, ад’язджае далей і далей ад дому. За некалькі хві-

лінаў да таго два ўзброеныя савецкія міліцыянеры вывелі бацьку з дома пад рулямі пісталетаў. Застыглы на месцы, я гляджу, як татава блакітная кашуля быццам выцвітае ўдалечыні, робіцца ўсё больш невыразнай. Потым і воз, і блакітная кашуля цалкам знікаюць з вачэй і растаюць у ранішняй смузе.

Марцінова — дом майго дзяцінства, якім чужым ты стала для мяне! Толькі дзве мясцінкі ва ўсім наваколлі засталіся мне больш-менш знаёмымі. Першая — насып ад чыгункі, што раней вяла да ракі праз луг. Цяпер гэты насып зарос маладымі дрэўцамі. Другое месца — гэта магіла Уладзіслава Пілсудскага[16]. Хоць яна моцна пашкоджаная вандаламі і часам, яе ўсё яшчэ можна пазнаць.

Добра, што я не «крыжак» па натуры і не прагну помсты: мая душа прымірылася са светам, які аднойчы знішчыў нашую сям’ю. Балючыя ўспаміны дзяцінства перасталі быць такімі нясцерпна пякучымі; і калі некаторыя з іх вяртаюцца назад, я, дзякаваць Богу, навучыўся не затрымлівацца на іх надоўга. Замест гэтага я раблю глыбокі ўдых — і адчуваю ўдзячнасць, што застаўся жывы.

Мой кіроўца і праваднік, Мікалай Корсак, падыходзіць да мяне. *«Я гатовы ехаць, Коля»,* — кажу я яму. Мы пакідаем Марцінова — альбо, больш дакладна будзе сказаць, «Сваткі за рэчкай»…

*Ліпень 2001 года*

## 2. МАРЦІНОВА. СВЕТЛЫЯ ГАДЫ

Фальварак Марцінова — так называлася мясціна, дзе я нарадзіўся і дзе прайшло маё дзяцінства. Раскошная прыгажосць гэтага куточка зямлі спараджала пачуцці захаплення і зайздрасці, хоць у параўнанні з іншымі дварамі тагачаснай Польшчы Марцінова было параўнальна невялікім. Бацька купіў Марцінова неўзабаве пасля таго, як вярнуўся з Амерыкі, у 20-я гады мінулага стагоддзя. Ён набыў гэты фальварак ад сям’і ранейшага ўладальніка — шляхціца, якога звалі Уладзіслаў Пілсудскі.

Бацька эміграваў у Злучаныя Штаты падчас Першай сусветнай вайны (той самай, якую схільныя да памылак гісторыкі і сродкі масавай інфармацыі паспяшаліся пайменаваць *«вайной, што пакладзе канец усім будучым войнам»*[17]). Галоўных прычынаў эміграцыі

[16] Звестак пра **Уладзіслава Пілсудскага** знайсці не ўдалося, акрамя таго, што ён быў народжаны ў 1860 г. і некаторы час быў жанаты з Паўлінай Пілсудскай (Старэвіч).

[17] ***«Вайна, што пакладзе канец усім будучым войнам»*** — выраз, аўтарам якога з’яўляецца англійскі пісьменнік Герберт Джордж Уэлс

было дзве: ухіліцца ад мабілізацыі ў царскае войска Расійскай імперыі і пашукаць лепшай долі. Два бацькавы браты, Пётр і Ян, таксама падаліся следам за ім у Зямлю Абяцаную. Яны пасяліліся ва ўсходнім Масачусетсе[18], здаецца, у мястэчку Лын[19], што за сямнаццаць міляў на поўнач ад Бостана[20]. Там было мноства гарбарняў, дзе маглі ўладкавацца на працу свежаспечаныя імігранты з Еўропы. Я магу толькі ўявіць — і здрыгануцца, — якой цяжкай была тады праца дубільшчыка скураў. У тыя часы на гарбарнях не існавала кандыцыянераў, і спёка там стаяла невыносная.

Такая праца бацьку не вабіла. Ён знайшоў лягчэйшы і ямчэйшы шлях зарабляць на жыццё: абыходзячы так званы сухі закон, які набыў моц у 1920 г. як вынік 18-й папраўкі да амерыканскай Канстытуцыі[21]. Кангрэс, што прыняў гэтую папраўку, меў намерам забараніць выраб, продаж, перавозку і спажыванне, з якой бы то ні было нагоды, любых алкагольных напояў на тэрыторыі Злучаных Штатаў Амерыкі. Няцяжка здагадацца, як адрэагавалі на прыняцце гэтай драконаўскай папраўкі людзі — як запойныя п’яніцы, так і звычайныя аматары спажыць келіх-другі віна за вячэрай. Не забудзьмася і пра тых, хто браў чарку, каб узвесяліцца, каб адзначыць адмысловую ўрачыстасць, каб адсунуць штодзённыя клопаты далоў з вачэй, няхай сабе нават і на кароткі час. Сухі закон стаўся гвалтоўным адыходам ад асноўных традыцый краіны, бо алкаголь зрабіўся складовай часткай амерыканскага грамадства яшчэ ад каланіяльных часоў.

Як і варта было чакаць, знайшліся гатовыя да рызыкі людзі, якія скарысталі сухі закон як магчымасць разжыцца капейчынай. Мой бацька быў адным з іх. Ён займаўся перавозкай алкаголю з Канады

---

(*Herbert George Wells,* 1866–1946), што ў 1914 г. выдаў кнігу з назвай *«The War That Will End War»*. Аднак папулярным выраз стаў дзякуючы амерыканскаму прэзідэнту Вудра Вільсану (*Thomas Woodrow Wilson*, 1856–1924), які скарыстаў яго ў прамове да Кангрэса перад прыняццем пастановы аб уступленні ЗША ў Першую сусветную вайну ў красавіку 1917 г.

18 **Масачусетс** (англ. *Commonwealth of Massachusetts*) — штат у Новай Англіі на паўночным усходзе ЗША, на беразе Атлантычнага акіяна.

19 **Лын** (англ. *Lynn*) — горад у акрузе Эсэкс у штаце Масачусетс, на узбярэжжы Атлантычнага акіяна. Знаходзіцца за 16 км ад Бостана.

20 **Бостан** (англ. *Boston*) — найбуйнейшы горад штата Масачусетс, неафіцыйная сталіца Новай Англіі.

21 **18-я папраўка да Канстытуцыі ЗША** была прынятая 17 снежня 1919 г. і прадугледжвала забарону на вытворчасць, продаж і перавозку алкаголю. Дзейнічала да 5 снежня 1933 г.

ў Злучаныя Штаты — у штаты Новай Англіі[22]. За непрацяглы час бацька здолеў сабраць ладную суму грошай. Разбагацеўшы, ён вырашыў вярнуцца ў Стары Свет і там, па вяртанні, набыў Марцінова.

Гісторыя Марцінова была славутая. Мясцовыя людзі прыгадвалі сядзібу ранейшага ўладальніка і называлі яе няйнакш як «палацам». На жаль, той будынак згарэў дазвання, ад яго засталіся толькі парэшткі. Я любіў гуляць на месцы, дзе калісьці стаяў «палац». Там усё парасло быльнягом, праз траву прасвечвалі кавалкі парцаляны. Сям-там у траве віднеліся суніцы, я збіраў іх і адразу з'ядаў. Бацька не чапаў падмуркаў спаленай сядзібы — магчыма, з павагі да былога ўладальніка.

Шляхціц Уладзіслаў Пілсудскі быў пахаваны непадалёк, на зямлі, якая калісьці была ягонай уласнасцю. Магіла яго знаходзілася у хваёвым лесе, там была збудаваная падземная крыпта, накрытая тоўстым слоем бетону. Зверху быў усталяваны надмагільны камень. Па перыметры магілы стаялі ўмураваныя ў бетон слупкі магільнай агароджы — каменныя, закругленыя, вышынёй да калена. Цяжкі металічны ланцуг, крыху правісаючы, злучаў слупкі паміж сабой. Пасля таго як мая сям'я з'ехала з Марцінова, магіла Пілсудскага ўлучна з надмагіллем стала ахвярай вандалаў і злодзеяў. Калі я прыязджаў у Беларусь у канцы 1980-х гадоў і пазней, у 2000 годзе, я адведваў зруйнаваную магілу Пілсудскага, каб аддаць пашану памяці гэтага чалавека.

З аднаго боку Марцінова межавала з землямі некалькіх драбнейшых землеўласнікаў. На двух супрацьлеглых канцах нашага надзелу знаходзіліся вёскі — Сваткі і Рудзевічы. Рэчка Вузлянка, рака маіх дзіцячых мараў, служыла натуральнай мяжой фальварка з пазасталага, чацвёртага боку. Рэчка злёгку звівалася, агінаючы фальварак па ўсёй даўжыні. На сваім шляху яна раз-пораз рабіла крутыя павароты, а потым, ніжэй па плыні, вярталася да старога рэчышча. Гэтыя рэзкія выгіны рэчкі былі досыць глыбокія — там добра было плаваць і там найлепей лавілася рыба. Найглыбейшая мясціна таго адрэзка ракі, які межаваў з нашым надзелам, знаходзілася насупраць лугу. Раней тут стаяў чыгуначны мост. Потым, калі чыгунку перасталі выкарыстоўваць, мост раскідалі, а рэйкі прыбралі. У гэтым месцы Вузлянка была не толькі найглыбейшая, але і найшырэйшая. На сярэдзіне вада павольна віравала і пенілася. Наколькі мне вядома, ніхто не адважваўся тут плаваць. Але

---

[22] **Новая Англія** (англ. *New England*) — рэгіён на паўночным усходзе ЗША, у які ўваходзяць штаты: Канектыкут, Мэн, Масачусетс, Нью-Гэмпшыр, Род-Айленд і Вермонт.

гэтую бяздонную прорву ўпадабалі спрактыкаваныя рыбакі, бо тут вадзіліся самыя вялікія шчупакі. Памятаю аднаго такога заўзятага рыбака, чый надзел межаваў з нашым. Аднойчы раніцай ён з’явіўся ў нас на двары, каб пахваліцца сваім уловам — велічэзным шчупаком. Бацька не перашкаджаў рыбаловам вудзіць рыбу на нашай тэрыторыі. Рыбы ў рэчцы было колькі хочаш і самай рознай. Не забруджаная аніякімі адкідамі вада Вузлянкі была чыстая, калі не сказаць — крышталёва чыстая. Якраз насупраць нашага дома знаходзілася шырокае мелкаводдзе, і там на дне можна было разгледзець кожную пясчынку.

Краявіды Марцінова цешылі вока сваёй прыгажосцю. Два саснякі, аддзеленыя адзін ад аднаго ўробленымі палямі, аздаблялі землі фальварка. Тут і там віднеліся купкі бярозаў, якія дадавалі маляўнічасці наваколлю. Каля дома раслі некалькі клёнаў. Увосень, калі клёны пачыналі губляць сваё каляровае лісце, бабуля Альжбета высцілала гэтым лісцем начынне, у якім пякла хлеб. Яна казала, што калі пячы хлеб на кляновых лістах, ён не прыстае да бляхі.

Непадалёк ад нашага дома, у невялікай лагчыне па-над ракой, блізка-блізка адзін да аднаго раслі некалькі высачэзных дрэваў. Іх кароны перапляталіся, і промні сонца ў гэтым месцы не дасягалі зямлі. Толькі крапіва буяла ў засені тых дрэваў, а ў іх вершалінах гнездавалі птушкі, якіх мы называлі «сіневаронкі». Гэтыя птушкі памерам былі значна меншыя за варонаў і лёталі яны вельмі хутка — імкліва рэзалі паветра, пералятаючы з галіны на галіну. Памятаю іх мілагучныя высокія галасы… А яшчэ на тых дрэвах жылі рыжыя вавёркі, якія таксама рабілі сабе тут гнёзды.

Дарога, якая злучала Рудзевічы з шашой каля Сватак, праходзіла ўздоўж нашых земляў. Па абодва бакі гасцінца, наколькі хапала вачэй, стаялі высокія пракаветныя бярозы. З нашага двара быў добра відаць вялікі кавалак дарогі, а таксама кожны рух на ёй. Па вечарах незлічоныя зграі варонаў абсядалі галіны бярозаў. Было падобна, што дрэвы ахутваюцца ў чорныя мантыі. Вароніна карканне далёка разносілася ў вечаровым паветры.

На роўнядзях уздоўж рэчкі былі заліўныя лугі. Улетку наймалі касцоў, якія скошвалі траву косамі. Праз колькі дзён падсохлае сена збіралі ў высокія стагі, а потым перавозілі ў адрыну. Я вельмі любіў куляцца ў сене, мне падабаўся ягоны пах.

На муку для хлеба мы малолі пшаніцу і жыта. Калі збожжа выспявала, яго прыходзілі жаць сярпамі маладыя вясковыя жанчыны і дзяўчаты. Яны збіралі сцятыя каласы ў снапы, а потым складалі ў капу. Пасля на запрэжаных коньмі вазах збожжа вывозілі з палёў на малатарню.

Штодзённае адзенне жней складалася са спадніцы даўжынёй да сярэдзіны лыткі, вышыванай кашулі і квяцістай хусткі. Абуваліся жнеі ў лапці. Замест шкарпэтак яны намотвалі на ногі анучы. Калі працоўны дзень заканчваўся, дзяўчаты і маладзіцы ішлі дадому ў Рудзевічы, спяваючы прыгожыя беларускія песні.

У нас быў сад, у якім раслі пераважна яблыні. Было там яшчэ некалькі грушаў, можа з тузін вішняў і мноства кустоў парэчак, але яблыні розных гатункаў займалі большую частку саду, і ўраджай з іх даваў неблагі прыбытак. Я памятаю, адзін год увесь ураджай яблыкаў загадзя прадалі габрэю-гандляру. Габрэй з сям'ёю пасяліліся ў будане на тэрыторыі саду, каб ахоўваць свае яблыкі ад злодзеяў. Яны прывезлі з сабой вартавога сабаку, і гэты сабака настолькі спадабаўся тату, што тата перакупіў яго ад габрэя, калі той зняў свой ураджай і з'ехаў. Гэта быў чорны кабель, выдатны вартаўнік, заўсёды гатовы накінуцца на чужынцаў. Для сабакі нацягнулі дрот паміж двума будынкамі, на дрот надзелі колца і ланцугом прымацавалі яго да сабачага ашыйніка. Дзякуючы гэтаму немудрагелістаму прыстасаванню сабака мог адносна вольна бегаць ад аднаго будынка да другога, што ён і рабіў з ахвотай. Я быў сведкам, як ён выдраў клок з кашулі аднаго нашага найміта, які доўга не з'яўляўся ў двары і якога сабака паспеў забыць. Наагул сабака быў вельмі дружалюбны і бяспечны для сваіх, але чужынцам лепей было трымацца ад яго як далей. Асабіста мяне сабака ніколі не пакрыўдзіў і не пакусаў. Я думаю, ён лічыў мяне сваім сябрам. Сабаку збудавалі надзейную будку, якая бараніла яго ад дажджу і снегу, яго добра кармілі. І тым не менш, калі я ўзгадваю таго сабаку цяпер, мне робіцца яго шкада. Ён жыў у зняволенні, не ўчыніўшы ніякай правіны.

На тэрыторыі фальварка было некалькі будынкаў, і некаторыя з іх вельмі ўражвалі мяне. Напрыклад, падобнае да вежы масіўнае збудаванне з бетону і чырвонай цэглы, якое стаяла сярод іншых сельскагаспадарчых будынкаў. Гэта быў колішні бровар, які цяпер ужо не выкарыстоўваўся. Унутры знаходзіўся механізм, галоўнай часткай якога з'яўляўся металічны кацёл. Кацёл быў велічэзных памераў — і глыбінёй, і па акружнасці. За такую каштоўную рэч можна было атрымаць добрыя грошы. Урэшце знайшоўся і пакупнік. Я бачыў, як кацёл вывозілі на адмыслова абсталяваным возе. Хоць колы воза былі вельмі шырокія, яны пакінулі на сваім шляху глыбокія каляіны. Каб везці такі гіганцкі цяжар, у воз запрэглі не менш за дваццаць коней! Закінуты і пусты бровар стаўся потым раем для галубоў. Я вельмі любіў прыходзіць туды адзін. Там, усярэдзіне, у неабдымнай пустой прасторы, я гучна галёкаў і слу-

хаў, як рэха майго голасу адбіваецца ад сценаў. Гэта мяне вельмі захапляла.

Комплекс сельскагаспадарчых збудаванняў, дзе знаходзіўся бровар, уражваў і сам па сабе. У вялізным — доўгім, шырокім і высокім — будынку месціліся стайня для коней і хлеў для кароваў. Будынак падзяляўся на дзве неаднолькавыя часткі. Тая, што была спераду, прызначалася для зімовага ўтрымання свойскай жывёлы. Столь там была нізкая і добра ўцепленая, яна засцерагала ад дажджу і снегу. Ад коней і кароваў ішло цяпло, і паветра ўнутры хлява заўсёды было цёплае і вільготнае. У задняй частцы будынка столі не было зусім, толькі дах. Гэтае прасторнае памяшканне не выкарыстоўвалася ні для якіх работаў, таму там было зручна аб’язджаць коней. У хлевушку меншага памеру трымалі авечкі і свінні; там таксама была зробленая надзейная столь, якая не прапускала снегу і дажджу. Сена і іншы корм для жывёлаў захоўвалі ў пуні. Быў, вядома, і свіран для збожжа.

Ішло дваццатае стагоддзе, а мы па-ранейшаму жылі ў эпоху коней і вазоў. Таму мы мусілі мець адмысловую спаруду, дзе стаялі вазы, брычкі і сані. Вазоўня была высокім будынкам з двума ўзроўнямі, і на вышках там хапала месца для ўсялякага рыштунку.

Немагчыма не ўзгадаць і пра вяндлярню. Вяндліна, каўбасы і іншыя вырабы з мяса гатаваліся тут пад пільным наглядам маёй бабулі Альжбеты. Яна была першакласным спецыялістам у гэтай справе, і вэнджанае мяса заўсёды мела выдатны смак.

Ззаду вяндлярні была вельмі цікавая пабудова: палова яе знаходзілася пад зямлёй, другая палова — зверху. У падземнай частцы размяшчаўся склеп, ягоная столь была ўмацаваная чыгуначнымі рэйкамі. Склеп быў масіўнай спарудай, ён адзіны на тэрыторыі фальварка быў збудаваны з суцэльнага бетону. Тут захоўваліся морква, бульба, цыбуля і іншая гародніна. Тутака ж стаялі бочкі з салёнымі гуркамі і квашанай капустай. Мая бабуля Альжбета заўсёды саліла шмат гуркоў, каб іх хапіла да новага ўраджаю. Яна ніколі не дадавала воцату ні ў гуркі, ні ў капусту.

Калі нарыхтоўвалі квашаную капусту, збіраліся некалькі жанчын, якія шаткавалі качаны на адмысловых дошках-шаткоўках. Качаны трэба было рухаць па гэтых дошках узад-уперад, каб прымацаваныя ўнізе нажы секлі капусту на доўгія палоскі. Каб нашаткаваць капусты на ўсю зіму, жанчынам даводзілася працаваць цэлы дзень. Нашаткаваную капусту складалі ў вялізныя драўляныя бочкі, напаўняючы іх даверху. Туды ж укладалі і некалькі цэлых качаноў. Мне было вельмі цікава назіраць за працай жанчын. Квашаная капуста пачала мець для мяне зусім іншы смак, калі я

зразумеў, колькі працы трэба ўкласці, каб яе прыгатаваць. А капуста і сапраўды атрымоўвалася смачная!

У некаторыя гады нашыя каровы давалі так шмат малака, што частку яго збівалі на масла. Заварожаны гэтым працэсам, я на ўсе вочы глядзеў, як жанчыны аддзялялі вяршкі ад малака і як потым з вяршкоў збівалася масла і заставалася сыроватка. Усё гэта рабілася ўручную, бо электрычнасці ў нас не было. Ва ўсім нашым раёне ў тыя гады не было электрычнасці. У хаце мы карысталіся газніцамі, на двары — газавымі ліхтарамі. Я так разумею, што большая частка збітага масла ішла на продаж, прычым усе гандлёвыя аперацыі павінны былі адбывацца вокамгненна, бо малочныя прадукты хутка псаваліся.

Яшчэ мы мелі лазню. Лазня стаяла каля рэчкі, на ўзгорачку. Усярэдзіне яна раздзялялася на мужчынскую і жаночую паловы. У абедзвюх паловах, асабліва ў жаночай, былі асобныя кабінкі. Наколькі я памятаю, тату больш падабалася мыцца на адкрытай прасторы. Я заўсёды сядаў каля таты. Палк*í* для сядзення былі на трох узроўнях. На самым ніжнім палку адчувалася прыемная прахалода. Я забіраўся на самы верх, але доўга вытрымаць не мог, бо там панавала страшэнная спякота. Пара была густая, але вельмі лагодная. Дадатковую асалоду прыносілі бярозавыя венікі, якімі хвасталі цела, калі парыліся ў лазні. Гэта замяняла ў тыя часы масаж.

Непадалёк ад уваходу ў лазню на адкрытым агні напаляліся вялізныя камяні. Калі іх потым кідалі ў цэбры з вадой, уздымаліся клубы пары. Чалавека, які награваў камяні на распаленых вуглях, звалі Раман. Раман жыў у блізкай вёсцы Сваткі і рабіў па гаспадарцы шмат球 рознай працы, але не вельмі цяжкай фізічна. Ён карыстаўся поўным даверам маіх бацькоў і бабулі Альжбеты. Можна нават сказаць, што ён быў сябрам сям'і — часцяком ён завітваў у наш дом, проста каб паразмаўляць з бабуляй. Калі мы акурат у той час сядалі есці, Рамана таксама запрашалі да стала.

Лепей за ўсіх апісала Рамана ва ўспамінах мая нябожчыца сястра Фаіна (Фэй). Як яна прыгадвала, Раман быў высокім мужчынам, ён заўсёды насіў белую льняную кашулю навыпуск светлых ільняных штаноў. Тканы ўзорысты пояс, завязаны ў нетугі вузел з левага боку, надаваў завершанасць ягонаму строю. Доўгая снежна-белая барада добра гарманіравала з ягоным убраннем. Раман звычайна абуваўся ў лапці з лыка, якія завязваліся аборкамі крыжнакрыж да самага калена.

Мяне захапляла мудрасць Рамана. Памятаю, неяк раз я сядзеў побач з ім на возе, на высокім стагу сена, які мы перавозілі ў пуню. Ён трымаў у руках лейцы, а я ўсё прасіў яго, каб ён вытлу-

мачыў мне ўсе таямніцы неба, расказаў пра планеты і зоркі. Раман уважліва выслухаў усе мае пытанні, а потым нават спыніў коней, каб лепей абдумаць адказы. Гутаркі з Раманам вельмі адукоўвалі мяне. Праз усё маё дзяцінства я працягваў задаваць яму пытанні на самыя розныя тэмы. Раман стаўся для мяне чымсьці накшталт прыёмнага дзеда.

Я вельмі любіў быць на дварэ. Двор фальварка і ўсё наваколле былі маёй, так бы мовіць, пляцоўкай для гульняў. А на гэтай пляцоўцы самае галоўнае месца займала рэчка. Я лавіў там рыбу — з дапамогай лазовага кошыка з круглым дном. На дно кошыка клалі для прынады хлебныя крошкі, потым некалькі камянёў для грузу і апускалі яго ў рэчку з драўляных сходняў. Калі я выцягваў кошык з вады і бачыў, што ў ім скачуць серабрыстыя рыбкі, вельмі радаваўся і хутчэй бег з кошыкам дадому, пахваліцца сваім уловам.

Хадзіць у грыбы — традыцыйны занятак беларусаў. Я вельмі любіў збіраць грыбы. Калі знаходзіш праўдзівы грыб, адчуваеш такую невымоўную радасць! У нашым лесе раслі самыя розныя грыбы, і іх было шмат, асабліва калі стаяла вільготнае і цёплае надвор'е. Збіраць суніцы і маліны таксама было цікавым заняткам, прыемна было ў цёплы летні дзень даць нырца ў рэчку, весела было пракаціцца на конях.

З самага ранняга дзяцінства я захапляўся назіраннем за птушкамі. На беразе рэчкі, уніз па плыні ад нашага дома, стаяла высачэзнае дрэва. Верхавіна адной з галінаў была спілаваная, і на яе ўсцягнулі кола ад воза — адмыслова для буслоў, каб яны маглі збудаваць там гняздо. Для буслінай сям'і гэта было ідэальнае месца, каб гадаваць буслянятаў. На балоце праз рэчку для птушак заўсёды было поўна ежы. Да таго ж буслы маглі лавіць тут рыбу на мелкаводдзі. Відаць, птушкі сапраўды ўпадабалі тутэйшыя краявіды, бо аднае вясны бусел з буслiхай змайстравалі на коле вялізнае гняздо пераважна з галінак дрэваў. Потым гэтая бусліная пара вярталася сюды штогод, і з кожным годам гняздо рабілася ўсё таўсцейшым. Пад буслянкай знайшла сабе прытулак чарада ластавак, якія збудавалі там свае маленькія гнёзды. Я быў вельмі рады, што буслы пасяліліся зусім побач з нашым домам — з'явілася цудоўная магчымасць назіраць зблізку за гэтымі велічнымі і годнымі птушкамі. Я слухаў бусліны клёкат. Мяне вельмі дзівіла здольнасць буслоў праз доўгі час стаяць на адной назе. Калі бусляняты падрасталі, яны таксама падоўгу стаялі ў гняздзе, лапочучы крыламі, — рыхтаваліся да палётаў. Бусляняты заставаліся ў гняздзе да таго часу, пакуль не засвойвалі добра навуку лётаць. Сем'і ў буслоў невялікія. Я не памятаю, каб я бачыў больш за трох буслянятаў у гняздзе, але звычайна іх было толькі двое.

Мне падаваліся надзвычай прыгожымі featuredрознакаляровыя дзікія птушкі. Зімой, калі зямля пакрывалася снегам, я ставіў сілкі, каб злавіць у іх прыгожую птушку. Для прынады выкарыстоўваў зярняткі. Каб заманіць у сілок птушку, якая мне спадабалася, я падсыпаў зярняткі ўсё бліжэй і бліжэй да пасткі. Гэта звычайна спрацоўвала: птушка заблытвалася ў сілку. Яна пачынала спалохана біць крыламі, спрабуючы вызваліцца. Я выблытваў птушку з сілка і, перш чым выпусціць на волю, нядоўга трымаў яе ў руках, любуючыся хараством птушыных пёраў. Хоць я заўсёды выпускаў птушак, цяпер шкадую, што лавіў іх.

Яшчэ адзін яскравы ўспамін з ранняга дзяцінства — гэта казкі, якія расказваліся позна ўвечары ў спальні пры газніцы. Перад сном я і мае сёстры вельмі любілі слухаць страшныя казкі пра здані і прывіды, што расказвала нам бабуля Сцепаніда, маці маёй маці. Бабуля Сцепаніда жыла не з намі, але часам наязджала ў Марцінова і заставалася ў нас начаваць. Яна была выдатная казачніца, ад яе аповедаў літаральна валасы ўставалі дыбарам.

Мае бацькі былі досыць буйнымі землеўласнікамі, і гэта давала нам статус «вышэйшага класу», але ў той самы час змяншала мае магчымасці сябраваць з іншымі дзецьмі. Па-першае, ад нашага фальварка да бліжэйшых вёсак было далекавата, а па-другое, мне, як «панічу», не выпадала таварышаваць з раўналеткамі, якія паходзілі «з нізоў». У даваеннай Польшчы сяляне называлі заможных землеўласнікаў «панамі», і мяжа паміж рознымі класамі была вельмі выразная. Мой бацька, безумоўна, усведамляў свой высокі статус і ганарыўся ім. Магчыма, ён лічыў, што мне не пасуе гуляць з вясковымі дзецьмі, бо гэта неяк «прыніжала» б маю сям’ю. На шчасце, я не адчуваў сябе абдзеленым кампаніяй. Мне вельмі падабалася маё жыццё — менавіта такім, якім яно было.

Я быў бацькавым пястунчыкам — магу ўявіць, як гэта раздражняла маіх сёстраў. Калі тату трэба было з’ездзіць на дзень у горад, ён браў мяне з сабой. Мы ехалі ў брычцы, запрэжанай коньмі, фурман трымаў лейцы. У такія паездкі бацька заўсёды апранаўся прэзентабельна — надзяваў пінжак і гальштук. Пад пінжаком, у кабуры, у яго быў бельгійскі пісталет сістэмы браўнінг[23], на нашэнне якога ў бацькі быў дазвол. Без зараджанага пісталета бацька нікуды не выязджаў і не выходзіў з дому, нават у царкву ён прыходзіў уз-

[23] Першым і найбуйнейшым вытворцам пісталетаў паводле канструкцыі Джона Мозэса Браўнінга (1855–1926) у Еўропе была бельгійская фірма *«Fabrique Nationale d’Armes de Guerre»*. Праз гэта з’явіўся выраз «бельгійскі браўнінг».

броеным. І хто асудзіў бы яго за гэта? Лепей быць абачлівым, чым потым каяцца… Калі мы ездзілі з татам у горад, заўсёды абедалі ў рэстаране. Да абеду падавалі віно, і бацька дазваляў мне адпіць глыток — пакаштаваць віно на смак.

Мне вельмі запомнілася, як аднойчы напярэдадні Калядаў мы з бацькам паехалі ў лес па ялінку. Зямля была пакрытая тоўстым слоем снегу. Мы паехалі на санях, і бацька сам кіраваў канём, чаго ён звычайна не рабіў. Мы выбралі прыгожую ялінку, ссеклі яе і прывезлі на санях дадому. Я быў вельмі ўзрушаны, мяне агарнула пачуццё блізкасці да таты.

У той жа вечар ялінку ўпрыгожылі прывабнымі цацкамі. Рознакаляровыя васковыя свечкі, прымацаваныя да галінак, дадавалі хараства аздабленню. Нашая сям'я рыхтавалася сустракаць Каляды. Перадкалядная вячэра, якую беларусы называюць «куцця», — гэта вялікі абед, на які гатуюць толькі посныя стравы. У адпаведнасці з праваслаўнай усходнееўрапейскай традыцыяй на стол пад святочны абрус клалі сена. Сярод страваў, якія падаваліся на куццю, я памятаю варэнікі, што елі з рознымі прысмакамі і падліўкамі, некаторыя з іх гатаваліся з макам. З напояў на стале былі малако, гарбата і квас.

У адпаведнасці з яшчэ адной каляднай традыцыяй пасля вячэры ежу са стала не прыбіралі, пакідаючы яе на ноч для дзядоў — духаў памерлых продкаў. Яшчэ лічылася, што калі паставіць сабе пад ложак талерку з-пад каляднай вячэры, твае жаданні спраўдзяцца. Не памятаю, ці я гэта калі рабіў.

Бацька клапаціўся, каб мне нічога не бракавала, я гадаваўся, як каралевіч. І вось аднойчы здарылася нечуванае. Хлопец, які пасвіў каровы, мусіў на кароткі час адлучыцца з пашы праз нейкую сямейную патрэбу. Каб каровы не ўбіліся ў шкоду, бацька ў суровых выразах загадаў мне пайсці і замяніць таго хлопца на выгане. Я быў проста агаломшаны, мяне апанавала глыбокае пачуццё прыніжэння. Мяне прыраўнялі да простага пастуха, і хто — мой родны бацька! Я быў глыбока зняважаны і моцна пакрыўджаны.

Нягледзячы на гэтае непрыемнае здарэнне, я ўсё ж усведамляў, што і мае бацькі, і бабулі вельмі любяць мяне, і таму я досыць хутка забыўся на той прыкры выпадак. Жыццё было цудоўнае, і я па-ранейшаму заставаўся бацькавым пестуном.

Мая бабуля Альжбета, бацькава маці, заўсёды гатавала для мяне снеданне. Найбольш я любіў, калі на сняданак былі смажаныя яйкі са скваркамі, жытні хлеб з маслам і малако. Часам на сняданак пякліся аладкі з мукі ці бульбы. Бабуля вельмі клапацілася, каб яе ўнук не застаўся галодным.

У абавязкі маіх нянек уваходзіла рыхтаваць для мяне ванну. Спачатку я саромеўся гэтага працэсу, але потым сарамлівасць знікла, і я вельмі палюбіў купацца ў ванне.

Маё ранняе дзяцінства было пераважна мірнае і бестурботнае. І раптам цёплым сонечным днём, як гром з яснага неба, здарылася штосьці жахлівае. Я гуляў на двары, калі да мяне падбеглі дзве ўсхваляваныя маладыя жанчыны. Яны расказалі, што вось толькі што непадалёк ад нашага фальварка яны натыкнуліся ў полі на мужчыну, які ляжаў на зямлі ўвесь у крыві. Калі я пачуў гэтую жудасную гісторыю, я ўпершыню ў жыцці адчуў, што такое страх. Памятаю, што тым вечарам да мяне ў спальню зайшла мама, лёгка пагладзіла мяне па галаве і сказала, што баяцца не трэба, бо яна са мной і заўсёды абароніць мяне.

У доме маіх бацькоў часта збіраліся госці. Гулялі ў вялікай залі, адмыслова прызначанай для гэтых мэтаў. У цэнтры залі са столі звісаў вялікі кандэлябр, які дадаваў утульнасці памяшканню. Гулянкі ладзіліся ў суботу і пачыналіся досыць рана, пасля палудня. Памятаю, што сярод гасцей зазвычай былі сваякі з матчынага і татавага бакоў, запрашаліся таксама ўплывовыя і важныя асобы з наваколля. Наймалі адмысловых кухараў, якія гатавалі і падавалі раскошны абед. На стол выстаўляліся бутэлькі віна і гарэлкі. Паступова застолле рабілася ўсё больш шумным, госці пачыналі спяваць песні. Звон кілішкаў і тосты разносіліся па ўсёй залі. Беларусы, як і расейцы, звычайна п’юць неразведзеную гарэлку, а потым запіваюць яе ці закусваюць. Я звычайна далучаўся да застолля на кароткі час, седзячы каля бацькі. Тата нават дазваляў мне адпіць глыточак гарэлкі са свайго кілішка. Гулянка працягвалася ўвесь дзень, аж да захаду сонца, пасля чаго госці пачыналі раз’язджацца.

Падчас гулянак у нашым доме ніхто не курыў. Бацька пагарджаў цыгаркамі. «Толькі шаўцы паляць», — грэбліва казаў ён.

Пасля застолляў пустыя бутэлькі з-пад гарэлкі не выкідалі — іх складалі ў склепе і захоўвалі як трафеі, на ўспамін аб добра прабаўленым часе. Увосень, аднак, частку гэтых бутэлек выкарыстоўвалі, каб разліваць туды таматны соус. За градкай з памідорамі ў нашым агародзе даглядаў сам бацька, гэта была ягоная ўлюбёная агародная культура. Я таксама любіў наведвацца да градкі з памідорамі. Я выбіраў самыя спелыя памідоры, зрываў іх і з’ядаў на месцы. Спелыя памідоры мелі выдатны смак, але каб яшчэ больш падсаладзіць іх, часам я прыносіў з сабой у гарод грануляваны цукар.

Мой бацька аддаваў вялікую ўвагу свайму вонкаваму выгляду, у прыватнасці адзенню. Бацька заўсёды апранаўся вельмі элегантна. Ён імкнуўся і ва мне выхаваць гэтую любоў да прыгожага адзення, прычым з самага ранняга веку. Не дзіва, што мой гардэроб

быў вялікі — я меў адзенне на ўсе сезоны і на ўсе выпадкі. Калі надыходзіла зіма, я абуваўся ў валёнкі — самы зручны абутак, каб хадзіць па цвёрдым снежным покрыве. У мяне быў белы кажушок і футравая шапка-аблавушка. У снег і завіруху яе вушы апускаліся долу і выдатна ратавалі ад холаду. Памятаю, аднаго разу я ішоў са школы дадому і паленаваўся апусціць вушы шапкі. На паўдарозе дакрануўся да сваіх уласных вушэй і зразумеў, што адмарозіў іх. Я чым хутчэй апусціў шапку і туга завязаў матузкі пад падбароддзем. У школу, якая месцілася ў вёсцы Сваткі, я заўсёды хадзіў пешшу. Звычайна ішоў не адзін, а разам з дзецьмі з вёскі Рудзевічы. Па дарозе ў школу яны заходзілі ў наш двор, і я далучаўся да іх. Мне вельмі падабалася хадзіць у школу у кампаніі з іншымі дзецьмі.

Тата марыў, каб я атрымаў універсітэцкую адукацыю. Ён хацеў, каб я стаў доктарам. За некалькі месяцаў да таго, як я пайшоў у першы клас, тата падарыў мне лемантар. Дзякуючы гэтаму я адразу пачаў абганяць у вучобе маіх аднакласнікаў, асабліва ў чытанні.

У нас часам здараліся крадзяжы, і гэтую з’яву немагчыма было выкараніць. Злодзеі прыходзілі звонку. Аднойчы пасярод ночы мяне разбудзіў бацькаў голас. З ягоных словаў было зразумела, што тата кудысьці вельмі спяшаецца. Што адбываецца? Я вылез з ложка і пабег даведацца. Тата быў ужо цалкам апрануты і выходзіў з дому разам з начным вартаўнікам. Я зразумеў, што на тэрыторыі фальварка штосьці здарылася. Так яно і было. Начны вартаўнік прыбег з паведамленнем, што злодзеі забраліся ў наш лес і спрабуюць высекчы дрэвы. Іх цікавілі вялікія страявыя сосны. Тата разам з вартаўніком цішком падабраліся бліжэй да злодзеяў. На гэты раз апрача пісталета тата ўзяў з сабой больш сур’ёзную зброю — магутную стрэльбу, на якую ў яго не было дазволу. Тата пачаў страляць. Ён не цэліўся ў людзей, бо не хацеў нікога забіваць, ён хацеў іх проста спалохаць. Так і атрымалася: злодзеі выракліся сваёй здабычы і ўцяклі.

Бацькавы стрэлы пачулі на паліцэйскім участку ў Сватках. Паліцыянты прыбеглі да нас дадому — праўдзіць, ці ўсё ў парадку. Яны з’явіліся ў нас яшчэ да таго, як вярнуўся тата. Але тата, перад тым як увайсці ў дом, здагадаўся дзесьці прыхаваць сваю баявую зброю. Паліцыянтаў вельмі цікавіла, хто страляў са стрэльбы. Тата патлумачыў, што ён і злодзеі абмяняліся стрэламі, але ён страляў з пісталета, а злодзеі — са стрэльбы. Пазней тата хвастаўся, як спрытна ён абдурыў паліцыянтаў.

Я думаю, што ў бацькавы намеры не ўваходзіла знайсці тых злодзеяў і прыцягнуць іх да суда. Здаецца, ён разглядаў тую начную сутычку як цікавую прыгоду, якая крыху разбурыла манатоннасць штодзённага жыцця.

Большасць крадзяжоў здаралася ўначы, і звычайна поспех быў на баку злодзеяў: ім удавалася сысці непрыкметна, а факт крадзяжу станавіўся вядомым нашмат пазней. Некаторыя са злодзеяў былі вельмі вынаходлівыя, каб не сказаць — геніяльныя. Напрыклад, аднойчы злодзеі прасвідравалі дзірку ў сцяне свірна, дзе пад замком захоўвалася збожжа. Пад сваім уласным ціскам зерне пацякло струменем у падстаўленыя мяхі. Вельмі часта цярпеў ад злодзеяў і наш яблыневы сад. Але крадзеж яблыкаў не лічыўся за вялікую шкоду ў гаспадарцы. Ураджаі яблыкаў былі вялікія, а прадаць іх было не так лёгка, бо яблычныя сады меліся паўсюль. Яблыкі, якія заставаліся ад ураджаю, складалі ў скрыні, перасцілаючы іх слаямі саломы, і захоўвалі ў адмысловай спарудзе з трохкутным дахам, якая ўзвышалася над вялікім бетонным склепам. Наколькі я памятаю, да вясны яблыкаў не заставалася: іх або з'ядалі, або прадавалі.

Так, маё ранняе дзяцінства было шчаслівае. На жаль, гэтае шчасце было вельмі нядоўгае. Неўзабаве мне давялося перажыць шмат гора і смутку. Падавалася, што цэлы свет абрынуўся дагары нагамі. Будучыня страціла пэўнасць, а ў жыцці пасяліўся страх. Усё пачалося з таго, што мае бацькі разышліся, і абставіны, якія прывялі да разводу, былі жахлівыя. Потым, у 1939 годзе, Германія напала на Польшчу. У адпаведнасці з дамовай паміж Гітлерам[24] і Сталіным[25] аб раздзеле Польшчы[26] войскі Чырвонай арміі акупавалі тэрыторыі Усходняй Польшчы, этнічна заселеныя беларусамі і ўкраінцамі (Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну). Савецкая ўлада канфіскавала нашую зямлю, стварыўшы на нашай тэрыторыі саўгас. Як і варта было чакаць, бацьку арыштавалі і выслалі ў канцлагер. Пазней, калі пачалася вайна паміж Германіяй і Савецкім Саюзам, на нашую сям'ю абрынуліся новыя няшчасці. Падчас вайны партызаны забілі маю маці. Гэта былі, без перабольшан-

24 **Адольф Гітлер** (1889–1945) — заснавальнік нацыянал-сацыялізму, правадыр Нацыянал-сацыялістычнай нямецкай рабочай партыі, у 1933–1945 гг. — рэйхсканцлер, у 1934–1945 гг. — фюрэр Германіі.

25 **Іосіф Сталін** (сапр. **Джугашвілі**, 1878–1953) — савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, у 1922–1953 гг. — Генеральны сакратар ЦК ВКП(б) (пазней КПСС), у 1941–1953 гг. — старшыня ўрада СССР (Савета Народных Камісараў, пазней — Савета міністраў СССР).

26 Маецца на ўвазе так званы Пакт Молатава – Рыбентропа — **Дагавор аб ненападзе** паміж СССР і Германіяй, падпісаны 22 жніўня 1939 г., што ўтрымліваў «Дадатковы сакрэтны пратакол», што размяжоўваў сферы ўзаемных інтарэсаў дзвюх краінаў ва Усходняй Еўропе, у тым ліку прадугледжваў і падзел Польшчы.

ня, надзвычай трагічныя часы. Добрыя людзі, сярод якіх былі як нашыя сваякі, так і суседзі-вяскоўцы, дапамаглі мне і маім сёстрам выбрацца жывымі з тых пакутных выпрабаванняў. Усім ім я буду бязмежна ўдзячны да канца майго жыцця!

*Чэрвень 2008 года*

## 3. РАСПАД СЯМ'І

Мая мама была чацвёртай жонкай таты. Пра ранейшыя бацькавы сем'і я не ведаю амаль нічога — тады, у дзяцінстве, гэтая тэма мяне не цікавіла. З выпадковых словаў, пачутых ад людзей, якія ведалі нашую сям'ю, можна было зрабіць выснову, што тыя шлюбы былі непрацяглыя і скончыліся разводамі.

Мама выходзіла замуж вельмі маладой. Калі меркаваць па фотаздымках, ёй не было яшчэ і дваццаці. Яна была стройная, мела класічныя рысы твару і магла б паспаборнічаць у прыгажосці са старажытнагрэчаскімі багінямі. Калі Яраслаў Крыз, мой швагер, пабачыў наш сямейны партрэт (на якім бацька, я і сястра Фаіна сядзяць, а маці стаіць ззаду, трымаючы на руках маленькую Ніну), ён сказаў, што мама — сапраўдная прыгажуня, і я цалкам з гэтым пагаджаюся. Быў і яшчэ адзін прызабыты партрэт, зроблены, калі мама была маладой жанчынай, і на ім яна выглядала проста чароўна. На цёмным фоне выразна вылучаўся яе мілавідны твар з лёгкім ценем злева на лобе.

Шукаючы сабе новую нявесту, мой будучы бацька (Антон Шабовіч) завітаў у сям'ю Дубягаў, у іхні радавы маёнтак Дубавое. На той час у сям'і былі тры незамужнія дачкі, усе ў шлюбным веку. Паколькі мой бацька быў заможным землеўласнікам, ён, відавочна, лічыўся зайздросным жаніхом, і Дубягі ўсяляк віталі ягонае зацікаўленне сваімі дочкамі. А з цягам часу яны прынялі яго ў сям'ю як зяця. Ці былі ў іх нейкія засцярогі што да папярэдніх нетрывалых бацькавых шлюбаў — застаецца загадкай. Аднойчы ў кампаніі гэтых трох сімпатычных дзяўчын і іх бацькоў Антон Шабовіч працягнуў руку да Галіны (маёй будучай маці) і абвясціў свой выбар: *«Я вазьму найпрыгажэйшую»*. Бацькі Галіны ўсталі, усміхаючыся і віншуючы таго, хто неўзабаве зрабіўся іхным зяцем. Менавіта так апісвала мне гэтую сцэну мая дарагая цётачка Антаніна (на жаль, яе больш няма з намі). Яна і была адной з тых трох сімпатычных дзяўчын…

Падарожжа па жыцці поўнае пякучых нечаканак. Нічога не можа быць страшнейшым для дзіцяці, чым бачыць гвалт унутры сям'і, і асабліва калі гэтае дзіця зусім малое — такое, якім быў я

сам. Я ніколі не змагу забыцца на дзень, калі апынуўся ў адным пакоі з бацькамі і ўбачыў, як бацька, закіпаючы ад шалу, падступае да маці. *«Славік, Славік, адчыні дзверы»*, — умольна прасіла яна мяне. Я пабег да дзвярэй. *«Толькі паспрабуй адчыніць!»* — зароў бацька. Я адступіў убок. Тое, што здарылася потым, мой розум адмаўляецца ўспрымаць. Бацька пачаў біць маці кулакамі ў твар. Яна марна спрабавала затуліцца рукамі, пасля знепрытомнела і ўпала на падлогу, уся ў крыві. Гэтая жахлівая карціна назаўсёды ўрэзалася ў маю памяць.

Потым у мяне пыталіся, як я апынуўся ў пакоі, дзе адбывалася такая дзікая сцэна. Шчыра кажучы, я зусім не памятаю. Магчыма, я пачуў крыкі, што даносіліся з пакоя, і прыбег паглядзець, што там дзеецца.

У той час, калі адбылося гэтае жудаснае здарэнне, мама была цяжарная і насіла пад сэрцам чацвёртае дзіця — Ірыну. Памятаю, што мама ўжо потым, калі сышла ад бацькі, гаварыла, што яна магла б выскачыць з акна, каб пазбегнуць бацькавых кулакоў, але не захацела, бо баялася выкідыша.

Пакуль гэты неймаверны выпадак не здарыўся на маіх вачах, я не меў уяўлення, што бацька падымае руку на маці. Толькі потым, калі яны разлучыліся, я даведаўся ад матчыных сваякоў і іншых людзей страшную праўду: маці заўсёды цярпела ад бацькі фізічны гвалт. Нейкім чынам я зусім не здагадваўся, што шлюб маці і бацькі быў такім пеклам. Відаць, абое мае бацькі старанна ахоўвалі мяне ад гэтай праўды. Я ніколі не чуў нават, каб яны зняважліва гаварылі адно пра аднаго ў маёй прысутнасці.

Цалкам верагодна, што бацька пакутаваў на нейкае псіхічнае захворванне — магчыма, дэпрэсію. Бо што іншае магло падштурхнуць яго да такіх дзікунскіх паводзінаў?

Сваякі дапамаглі маці выбавіцца з жахлівага становішча. Аляксандр Дубяга, матчын брат, аддаў ёй кавалак зямлі ад свайго надзелу ў маёнтку Дубавое. На гэтым участку знаходзіўся хутар пад назвай Сымоніха, там і пасяліліся мы з маці. Другі матчын брат, Канстанцін Дубяга, наняў прафесійных будаўнікоў, якія збудавалі на хутары ўсё неабходнае для жыцця.

Хутар Сымоніха быў размешчаны на аддаленым участку маёнтка Дубавое, побач з лесам, і не меў блізкіх суседзяў. Да найбліжэйшай вёскі Даўжані[27] было даволі далёка, таму сядзіба была натуральным чынам абароненая ад няпрошаных гасцей.

---

[27] **Даўжані** — вёска ў Сваткаўскім сельсавеце Мядзельскага раёна. У 1940 г. вёска мела 31 двор, 92 жыхары.

Дом для маці збудавалі з бярвення — звычайнага будаўнічага матэрыялу ў тыя часы і ў тых краях. З аднаго боку бярвёны былі гладка абчасаныя, каб усярэдзіне дома сцены атрымаліся роўнымі (ужо падрыхтаваныя такім чынам бярвёны купляліся на мясцовым тартаку). Знутры дома сцены атынкавалі і пафарбавалі. Падлога была кафляная. Дом абаграваўся печкай, якую прапальвалі дровамі. Ежу мы гатавалі на чыгуннай кухоннай печцы, якая мела і духоўку, а таксама рэзервуар для вады. З усімі гэтымі выгодамі дом зрабіўся прыдатным для жыцця. Удзень тут было вельмі светла: у сценах прасеклі вялікія вокны, падваконні і рамы якіх пафарбавалі ў белы колер. Рамы на вокнах зрабілі падвойныя, каб засцерагчыся ад марозу ў халодныя зімовыя месяцы.

Каб захоўваць бульбу, моркву, капусту і іншую гароднiну, за домам вырылі склеп, накрылі яго зверху паўкруглым дахам.

Другое збудаванне, без якога не магла абысціся ніякая сядзіба, — гэта хлеў. У хляве трымалі свойскую жывёлу, там жа захоўвалі сена на корм і салому для падсцілкі. Апрача таго, у хляве размяшчаліся некаторыя сельскагаспадарчыя механізмы, розныя прылады і інструменты, а таксама павозка. Сваякі аддалі маме каня, на якім мы ездзілі, і дойную карову.

На двары сядзібы вырылі калодзеж, над ім паставілі квадратны драўляны зруб. Па абодвух баках зруба стаялі слупы, да якіх быў прымацаваны калаўрот, а да калаўрота вяроўкай прывязвалася вядро. Набіраць ваду са студні было нескладана. Вядро апускалі ў ваду, пакуль яно не дасягала дна, потым калаўрот круцілі ручкай і падымалі поўнае вядро на паверхню. Дно калодзежа было выбрукаванае каменнем, і вада ў ім была крышталёва чыстая. Тым не менш мама заўсёды гатавала ваду для піцця.

З ганка дома навакольны краявід выглядаў спакойным, нават сонным. Ва ўсе бакі разлягаліся шырокія лугі. Непадалёк ад дома на схіле пагорка быў маленькі лясок, парослы нізкаватымі дрэвамі, — можа, не самы паглядны, але з яго нам было багата карысці. Увесну мы збіралі тут вельмі шмат лісічак. Невялікія, ярка-жоўтыя, яны раслі сем'ямі, і іх было тут безліч. Мясцовыя гаспадыні шырока выкарыстоўвалі лісічкі ў ежу. Мая маці вельмі любіла гэтыя грыбы, таму часта гатавала іх. Варта яшчэ дадаць, што збіраць грыбы на гэтым пагорку было прывілеяй нашай сям'і, сяляне з бліжэйшых вёсак сюды не заходзілі.

Калі сядзіба для маці была гатовая, я не адразу пераехаў туды. Я пэўны час заставаўся ў фальварку, дзе нарадзіўся, у Марцінове — разам з бацькам і бабуляй Альжбетай. Толькі пасля таго, як майго бацьку арыштавалі і вывезлі ў ГУЛАГ, у адзін з незлічоных канцэнтрацыйных лагераў, што знаходзіўся дзесьці далёка на ўсходзе, у

глыбінях СССР, маці змагла сабраць усіх сваіх дзяцей разам. Мне вельмі падабалася жыць разам з маці ў Сымонісе. Менавіта там я адчуў, як моцна мама любіць мяне. Але і сувязяў з Марціновам я не абарваў. З дазволу мамы я адведваў у Марцінове маю бабулю Альжбету. Урэшце, маё сэрца належала Марцінову!

За гравейкай, якая злучала Дубавое і Даўжані, уздоўж Вузлянкі — рэчкі маіх сноў і мараў, што працякала каля Марцінова, — разляглося вялікае балота. Для мяне яно было нібы зачараванае каралеўства. Сцяжынка, што ішла ад матчынага дому, безліч разоў прыводзіла мяне сюды. Я прыходзіў на балота, каб палюбавацца прыродай і яе шматлікімі дзівосамі. Калі я асцярожна прабіраўся праз імшарышча, паветра аж гуло ад стракозаў, чмялёў і матылёў. Аднойчы я натрапіў там на купіну вышынёй да калена — такіх купінаў на балоце было шмат. Маленькая птушка зляцела з гнязда, калі я падышоў бліжэй. Я трошкі пастаяў там, разглядаючы маленькія птушыныя яйкі.

Балота належала да сям'і Дубягаў. Частка яго была адведзеная пад сенажаць, там касілі траву. Сена сушылі там жа, дзе касілі, на азяродах — самаробных драўляных падпорках. Калі балота ўзімку замярзала, сена вывозілі з балота на павозках, запрэжаных конямі.

Настолькі ж моцна, як балота, мяне вабіў і лес у сядзібе Сымонісе. Калі ўлетку я жыў там з маці, я вельмі любіў блукаць па лесе. Мяне зачароўвала ў ім усё. Моцны п'янкі пах квецені — так пахлі кусты, якія, мне здаецца, растуць толькі ў Беларусі. Спевы і перагуканні птушак, стук дзятла, мыканне кароваў — усе гэтыя гукі здаваліся такімі роднымі і блізкімі. Па дрэвах скакалі вавёркі, іншыя лясныя звяркі часам выскоквалі з нетраў проста на паляну перада мной, і кожны раз я вельмі радаваўся такой сустрэчы і яшчэ больш захапляўся ляснымі дзівосамі. А калі прыходзіла ягадная пара, я наядаўся ягадамі дасхочу, і ў гэтым была дадатковая прыемнасць ад прагулянак па лесе.

Калі я жыў з маці, у мяне не было сяброў майго веку. Аднойчы ў школе я пасябраваў з аднакласнікам, хлопчыкам з вёскі Даўжані. Пачыналася ўсё добра. Той хлопчык некалькі разоў прыходзіў да мяне ў Сымоніху. На жаль, гэтае сяброўства скончылася раптоўна — калі я адкрыў, што пасля візітаў новага прыяцеля пазнікала частка маіх школьных прыладаў…

З Сымоніхі выходзіла некалькі дарог. Дзве з іх былі дастаткова шырокія, і па іх можна было ездзіць на павозцы, запрэжанай канём. Я вельмі добра памятаю адну з дарог: яна зліваліся з грунтовай каля могілак, што належалі вёсцы Даўжані. Дарога ішла ў Даўжані, праходзіла праз вёску і вяла далей у Сваткі — менавіта там і знаходзілася школа, у якую я хадзіў.

Хадзіць аднаму з Сымоніхі паўз могілкі было для мяне жахлівым выпрабаваннем. У дзяцінстве я вельмі баяўся могілак. А цяпер, па дарозе ў школу, я мусіў праходзіць зусім блізка каля іх, і мне здавалася, што нябожчыкі глядзяць на мяне з помнікаў. У тыя часы я верыў усяму, што расказвалі пра здані, і асабліва страшылі мяне аповеды пра прывідаў, якія жывуць на могілках. Гаварылася, што здані выходзяць з магілаў у выглядзе воблака густога туману і што часам яны пераследуюць жывых людзей. Асаблівы жах выклікалі ў мяне свежыя магілы. Зусім нядаўна памерла ад невядомай хваробы маладая дваццацігадовая жанчына, дачка заможнага гаспадара з Даўжаняў, і яе пахавалі зусім побач з дарогай. Калі на пачатку шляху паўз могілкі ў мяне яшчэ заставаліся нейкія рэшткі смеласці, дык у гэтым месцы яны пакідалі мяне канчаткова.

Я трымаў усе свае страхі глыбока ў сабе, не наважваючыся падзяліцца імі ні з кім — відаць, не дазваляў гонар. Але я мусіў неяк хадзіць у школу — пра тое, каб прапускаць урокі, немагчыма было і падумаць! Таму я прыдумаў сабе новы маршрут: я пачаў хадзіць праз поле, даючы вялікага кругаля, каб толькі не ісці паблізу могілак. Узімку, калі палі пакрываў глыбокі снег, мая дарога рабілася цяжкапраходнай. Дый увесну было не лягчэй. Як толькі пачынала прыграваць сонца, пад верхнім слоем снегу каля зямлі збіралася талая вада. Часам, ідучы па цвёрдым снежным цаліку, я правальваўся ў ваду, але заўсёды працягваў ісці далей, ніколі не павярнуў дадому. З усёй сям'і я адзін хадзіў у школу ў Сватках. Мама сама вучыла сёстраў дома.

Вядома ж, я даўно перастаў баяцца могілак… Але засвоенае ў дзяцінстве правіла — ніколі не паварочваць назад! — так і засталося маім прынцыпам на ўсё жыццё.

Яшчэ адзін шлях вёў з Сымоніхі ў супрацьлеглым кірунку — праз лес і далей да маёнтка Дубягаў. Жывучы з маці, я бегаў па гэтай дарозе ў сад Дубягаў паласавацца садавінай. Пазней, за Саветамі, калі ўсю сям'ю Дубягаў рэпрэсавалі і выслалі ў Казахстан, ад усёй іхнай сядзібы застаўся толькі гэты сад. Сядзібныя будынкі раскідалі на бярвёны і перавезлі ў Сваткі, каб збудаваць з іх школу.

У тыя часы, калі я ўжо жыў з маці, ёй было вельмі нялёгка знайсці сродкі, каб пракарміцца самой і пракарміць усіх нас. Сям'я Дубягаў, якая прытуліла маці пасля распаду яе няўдалага шлюбу, была цяпер у высылцы, у Казахстане. Маці засталася адна з чатырма дзецьмі на руках. Каб зарабіць хоць нейкую капейчыну, маці даводзілася ездзіць на далёкі рынак, дзе яна прадавала згатаваную дома ежу, у тым ліку і розную выпечку.

Халоднымі зімовымі днямі, калі балота прамярзала і рэчка Вузлянка таксама пакрывалася лёдам, маці выязджала на сваім вазку ў

вёску Наўраны[28]. Ускраіна Наўранаў была відаць з акна матчынага дома. З Наўранаў маці працягвала свой шлях у далёкае мястэчка, дзе на адкрытым рынку яна спадзявалася прадаць нагатаваную ежу савецкім вайскоўцам. Аднойчы яна прадала там наш прыгожы персідскі дыван афіцэру НКУС высокага рангу.

Маці выпраўлялася на рынак на досвітку. Я ўжо не памятаю, што яна наказвала нам, дзецям, калі выязджала ў дарогу. Але я памятаю, з якім цяжкім сэрцам я назіраў з акна, як яе вазок пераязджае цераз рэчку і дабіраецца да Наўранаў, а потым знікае з вачэй. Як толькі дзень пачынаў хіліцца да вечара і сонца спускалася ніжэй, маё чаканне ўзрастала з кожнай хвілінай. А калі надыходзіла шэрая гадзіна, я больш не мог трываць. Я сядаў пры акне і бясконца доўга ўзіраўся ў далячынь, спрабуючы разгледзець там знаёмыя сілуэты каня і павозкі. І калі ўрэшце я бачыў, як наш вазок пераязджае цераз Вузлянку, у мяне проста камень з душы падаў. Моманты, калі маці вярталася дадому, былі аднымі з самых шчаслівых імгненняў майго жыцця.

Калі ў 2000 годзе я пяць тыдняў падарожнічаў па Еўропе, у тым ліку і па Беларусі, мой кіроўца аднойчы завёз мяне ў вёску Наўраны. Калі я жыў з мамай, я ніколі не бываў у гэтай вёсцы, толькі бачыў яе здалёк з акна нашага дома. А вось цяпер мне захацелася праехацца па той дарозе, па якой маці ездзіла на далёкі рынак. Тое, што я ўбачыў з акна аўтамабіля, мне спадабалася: дамы вяскоўцаў выглядалі дыхтоўнымі і дагледжанымі, а сустрэчныя людзі шчыра ўсміхаліся нам.

## 4. ЯК МОЙ ТАТА СПРАБАВАЎ ВЫЖЫЦЬ ПРЫ САВЕЦКІМ РЭЖЫМЕ

Жыццё непрадказальнае адпачатку. Наш лёс ахінуты таямніцай. А людзям так хочацца зазірнуць за яе — не дзіва, што многія шукаюць парады ў астролагаў! На жаль, ніхто не можа гарантаваць, што нашае плаванне па жыцці будзе гладкім. Нечаканы шторм можа кінуць нас у бурлівае мора. І нам вельмі пашанцуе, калі нам удасца яго вытрымаць…

З самага пачатку гісторыі чалавецтва ягоным бедствам былі войны. Немалая частка іх прыпала і на дваццатае стагоддзе. Войны,

[28] Маюцца на ўвазе **Наўры** — вёска ў Сваткаўскім сельсавеце Мядзельскага раёна. У 1940 г. вёска мела 51 двор, 175 жыхароў.

уключаючы Другую сусветную, трагічна перайначылі лёс мільёнаў звычайных людзей — такіх, як я сам.

Калі Савецкі Саюз, гэтая камуністычная імперыя, захапіў частку Польшчы ў 1939 годзе[29], камуністы не гублялі часу і адразу пачалі рэалізоўваць сваю драконаўскую праграму канфіскацыі зямельных надзелаў у іх ўладальнікаў. У адпаведнасці з дактрынай Маркса[30] камуністычны рэжым забараніў прыватную ўласнасць на зямлю. Вялікія зямельныя надзелы былі канфіскаваныя і пераўтвораныя ў дзяржаўныя саўгасы, у той час як маленькія шнуры зямлі, якімі валодалі вяскоўцы, былі аб'яднаныя ў калгасы (калектыўныя гаспадаркі).

Савецка-германскі пакт пра ненапад ад 1939 года ўтрымліваў сакрэтныя пратаколы, у якіх зацвярджаўся падзел Польшчы паміж Германіяй і Савецкім Саюзам. Згодна з гэтымі сакрэтнымі пагадненнямі, Савецкі Саюз атрымліваў кантроль над Латвіяй, Літвой, Эстоніяй і Фінляндыяй. Заходняя частка Польшчы, населеная пераважна этнічнымі палякамі, адыходзіла да Германіі, дзве часткі ўсходняй Польшчы — этнічна беларускія і ўкраінскія землі — рабіліся часткай Савецкага Саюза. Калі Германія напала на Польшчу з захаду, савецкая Чырвоная армія хуткім маршам заняла Усходнюю Польшчу. У выніку тое, што было раней Усходняй Польшчай, зрабілася часткай Савецкага Саюза.

Для майго таты гэтыя змены ў палітычнай геаграфіі мелі катастрафічныя наступствы. Яго фальварак Марцінова перастаў яму належаць. Ён зрабіўся дзяржаўнай уласнасцю. Я ўпэўнены, што ў бацькавым жыцці гэта была найбольш апакаліптычная падзея.

Пераход нашай зямлі пад дзяржаўны кантроль пакінуў мне цяжкія ўспаміны. Першым здарэннем, якое назаўсёды ўрэзалася ў памяць, быў перагон кароваў праз тэрыторыю Марцінова. Усяго праз некалькі дзён пасля таго, як Савецкі Саюз акупаваў Усходнюю Польшчу, аднойчы раніцай, раптоўна, на лугах Марцінова з'явіўся велізарны статак кароваў, якія гналі савецкія пастухі. Тыя, хто пераганяў статак, вырашылі, што Марцінова вельмі добра пасуе ім як месца, дзе пераганяныя каровы могуць адпачыць і пад'есці. Хоць каровы прабылі на лугах нядоўга, шкоду па сабе яны пакінулі на

---

[29] Савецкія войскі ўступілі на тэрыторыю Другой Рэчы Паспалітай 17 верасня 1939 г. А 28 верасня 1939 г. СССР і Германія падпісалі Дагавор аб сяброўстве і мяжы, паводле якога тэрыторыя польскай дзяржавы была падзеленая паміж удзельнікамі дамовы.

[30] **Карл Маркс** (1818–1883) — нямецкі філосаф, эканаміст, грамадскі дзеяч, стваральнік ідэалогіі, на якой заснаваныя сацыялістычны і камуністычны рухі.

дзіва вялікую. Кожная травінка была з’едзеная. Паўсюль ляжалі сотні каровіных ляпёшак, а ўся зямля была здратаваная каровінымі капытамі. Я знерухомеў, пабачыўшы гэтае відовішча, і ніколі не мог пра яго забыцца!

Каровы, якія былі ў тым статку, былі канфіскаваныя з розных фальваркаў — такіх, як Марцінова. У нас забралі амаль усю нашую свойскую жывёлу. З усяго пагалоўя нам пакінулі ўсяго некалькі галоў скаціны для патрэбаў нашай сям’і.

Перагоншчыкі гналі кароў на чыгуначную станцыю. Адтуль, як я здагадваюся, іх павезлі на ўсход, праз былую польска-савецкую мяжу, бо на калгасных фермах Савецкага Саюза заўсёды быў крызіс і прадуктаў жывёлагадоўлі ніколі не хапала.

Санкцыянаванае дзяржавай рабаўніцтва татавай маёмасці не скончылася адной толькі канфіскацыяй жывёлы. У нашым доме было дастаткова панадных рэчаў, якія так вабілі рабаўнікоў: напрыклад, мэбля. Нашая сталовая, якой карысталіся падчас вялікіх гулянак, калі збіралася шмат гасцей, была ўмэбляваная вельмі прыгожа, каб не сказаць — раскошна. Але гэтаму прыйшоў канец. Уся мэбля са сталовай, уключаючы жырандолі, была канфіскаваная. Такім чынам, пакой больш не мог выкарыстоўвацца па прызначэнні. Госці і гулянкі ў бацькавым доме — усё гэта адышло ў мінулае. У той час мяне, праўда, мала абыходзіў наш абсталюнак. Я быў задаволены тым, што ў мяне ёсць зручны ложак, у якім я мог спакойна спаць уначы.

Усе гэтыя перамены, якія зваліліся на нас, і ўплыў, які яны зрабілі на маю сям’ю, відаць, адбіліся і на маіх паводзінах. Я стаў вельмі агрэсіўным, пачаў біцца з аднакласнікамі. Дырэктар скіраваў мяне да кансультанта. Кансультанткай была маладая жанчына, гадоў 25. Яна сустрэла мяне, дружалюбна ўсміхаючыся, і прапанавала мне сесці. Калі я паглядзеў на яе добра абстаўлены кабінет, я імгненна пазнаў крэслы — гэта былі крэслы з нашай сталовай! Больш таго, я меў гонар сядзець якраз на адным з іх.

Кансультантка размаўляла са мной вельмі прыязна. Яна не сварылася і не чытала мне натацый. Наадварот, яна спытала, што мяне турбуе і як яна магла б мне дапамагчы. Кансультантка сказала, што я магу прыходзіць да яе ў любы час, калі захачу. Выходзячы з яе кабінета, я адчуў, што ў мяне з’явіўся сябар.

Ці быў я засмучаны, пабачыўшы нашыя крэслы ў яе кабінеце? Ды не, абсалютна не! Нашая сталовая зрабілася фактам мінулага. Таму я зусім не сумаваў па мэблі, якая была ў нашым доме ў старыя добрыя часы. Мэбля не была для мяне галоўным элементам у жыцці. А вось навакольная прырода — была! У значнай ступені я прымірыўся з рэаліямі новай эпохі. На шчасце, я не чапляўся за

мінулае. І калі цяпер узгадваю тыя часы, думаю, што цяжка было б знайсці чалавека, які б больш заслугоўваў мець тыя крэслы, чым мая кансультантка.

Для мяне навакольная прырода была самым улюбёным месцам адпачынку. Прырода заўсёды зачароўвала мяне, і гэта не дзіўна — я ж вырас у казачна прыгожых мясцінах! Я атрымліваў асалоду, назіраючы за прыроднымі з'явамі, слухаючы галасы птушак, іх спевы і перагуканне. Я ўжо расказваў, што ў нізоўях нашага надзелу, уздоўж па рацэ, расла густая купа высачэзных ліставых дрэваў. Высока-высока над зямлёй, у вершалінах дрэваў гняздзіліся птушкі, якіх мы называлі сіневаронкамі. Я вельмі здзіўляўся іхнаму спрыту і здольнасці маланкава пералятаць з дрэва на дрэва. У сіневаронак вельмі выразныя высокія галасы, і я дагэтуль памятаю, як яны перагукаліся. Мне было вельмі сумна, калі сіневаронкі зніклі з нашай зямлі, дакладней, з таго ўчастка, што быў калісьці нашай зямлёй. Усяго за пару дзён нашыя высокія дрэвы спілавалі пад корань, усе да аднаго. Бярвенне адразу кудысьці вывезлі — відаць, каб прадаць драўніну на рынку. Высечка дрэваў зруйнавала месцы гнездавання сіневаронак. Я вельмі сумаваў па іхных галасах, ды і цяпер сумую.

Савецкая прапаганда спрабавала замаскаваць камунізм, называючы яго сацыялізмам і няспынна расхвальваючы перавагі, якія сацыялістычная эканамічная сістэма прынесла *«прыгнечаным працоўным масам»*.

Абяцанкі лепшай будучыні заставаліся абяцанкамі, а перабоі з прадуктамі першай неабходнасці пачаліся адразу. З паліцаў крамы ў Сватках знік цукар. Цяпер прывоз і размеркаванне цукру, ды і ўсіх іншых тавараў першай патрэбы, быў у руках дзяржавы. Прыватны гандаль спыніў існаванне. Цукар зрабіўся дэфіцытам. Яго прывозілі сюды, у Сваткі, нячаста і ў недастатковай колькасці, таму ўсім яго не хапала. У кожнай гаспадарцы, уключаючы нашую, цукар быў цяпер самым каштоўным прадуктам. Калі з крамы прасочваліся чуткі, што на наступны дзень павінны завезці цукар, людзі пачыналі займаць чаргу знадворку з вечара. І, безумоўна, цукар прадавалі па талонах, так што людзям было дазволена купляць толькі абмежаваную колькасць грамаў.

Мне таксама аднойчы давялося стаяць у чарзе па цукар. Ноч была халодная і бязвоблачная, зоркі свяцілі вельмі ярка. Памятаю, што мне нават спадабалася гэтая прыгода. Не магу прыгадаць, хто паставіў мяне ў чаргу — відаць, бабуля. Калі развіднела, яшчэ да адкрыцця крамы, мяне замяніла ў чарзе жанчына, якая дапамагала маёй бабулі па гаспадарцы.

У нашай сям'і была даўняя традыцыя: у нядзелю па абедзе ўся сям'я збіралася ў сталовай на гарбату. Памятаю, як я сядзеў за сталом, засланым белым ільняным абрусам, і налягаў на печыва і на варэнне з трускалак. Ваду для гарбаты гатавалі ў самавары. Мне вельмі падабаліся такія нядзельныя пачосткі, і я заўсёды з нецярплівасцю іх чакаў. Дэфіцыт цукру паклаў канец і гэтай традыцыі. Трускалкі па-ранейшаму можна было купіць ад мясцовых жыхароў, але як жа наварыць з іх варэння без цукру? Мая бабуля Альжбета аднойчы паспрабавала гэта зрабіць, але вынік атрымаўся вартым жалю: усё варэнне хутка скісла. У нас жа не было халадзільніка, бо не было і электрычнасці.

Яшчэ адным з незлічоных дэфіцытаў савецкай эпохі стаўся шкляны посуд, асабліва празрыстыя бутэлькі. Наш падвал быў забіты пустымі бутэлькамі з-пад гарэлкі — спадчынай ад грандыёзных гулянак, якія калісьці ладзіў мой бацька. Цяпер гэтыя бутэлькі набылі вялікую каштоўнасць: іх можна было абмяняць у краме ў Сватках на прадукты. І мы іх абменьвалі. Памятаю, што з цягам часу паліцы ў склепе зрабіліся зусім пустыя…

Нягледзячы на жахлівае збядненне маёй сям'і, я не адчуваў усяго цяжару сітуацыі. Як быццам праз нейкае чарадзейства, я прымаў становішча такім, якім яно было. Урэшце, я ж не мог анічога змяніць. Пазбаўлены шматлікіх прыемнасцяў, якімі цешыўся раней, я здолеў адаптавацца да новага жыцця і нават знаходзіў у ім штосьці добрае. Я не адчуваў, каб мне штосьці пагражала фізічна, і гэта, упэўнены, дазволіла мне працягваць жыць амаль што нармальным жыццём.

Я магу толькі здагадвацца, што перажыў мой бацька, калі ў яго забралі фальварак. Кожны раз, калі ўзгадваю тыя страшныя гады, у маім сэрцы нязменна ўзнікае боль за тату. І таму я стараюся як мага менш вяртацца думкамі ў тое мінулае.

Пасля таго як у нас канфіскавалі сядзібу, з'явіўся і наглядчык за ёй. О, як ён упіваўся сваёй новай роляй! Гэта быў звычайны селянін з суседняй вёскі Рудзевічы. Я не памятаю, каб я бачыў яго раней, пакуль ён не з'явіўся ў Марцінове на пасадзе наглядчыка. Аднойчы ён накрычаў на бацьку за тое, што той прырэзаў вала. Вол быў адной з нешматлікіх жывёлаў, якіх нам пакінулі. Наглядчык доўга распінаўся пра тое, што мой тата не мае права рэзаць жывёлу без ягонага — наглядчыка — асабістага дазволу. Бацька спрабаваў патлумачыць, што вол быў хворы і яго трэба было як мага хутчэй прырэзаць, пакуль ён не здох. *«Бздура!* — адказваў наглядчык. — *Ён бы не здох, каб яго не зарэзалі»*. Магу ўявіць, колькі асалоды меў гэты селянін ад усведамлення, што ён мог цяпер колькі хочаш

прыніжаць колішняга багатага землеўласніка, да якога ён раней звяртаўся няйнакш як «пане».

Як бацька здолеў перажыць столькі прыніжэнняў і захаваць здаровы розум, я не ўяўляю. Зрэшты, прымірэнне з сітуацыяй, калі штосьці выходзіць далёка з-пад кантролю, таксама можа прынесці душэўны спакой. Пакорлівасць валодае ўласцівасцю абараняць чалавечую існасць ва ўмовах гвалту. Жыць цяперашнім днём замест таго, каб зноў і зноў вяртацца думкамі ва ўчора — гэта аблягчае боль чалавека, чыё становішча і маёмасць абрынуліся ў нябыт. Ці мой бацька знаходзіў супакаенне ў такіх і падобных думках — я не ведаю. Думаю, што бацька любіў жыццё і ўсё ж спадзяваўся, што яно неяк пераменіцца да лепшага.

Урэшце бацьку арыштавалі і выслалі кудысьці на Далёкі Усход СССР, у адзін з лагераў ГУЛАГу (*«ГУЛАГ складаўся з сотняў падкантрольных НКУС лагераў, у якіх вязні валілі лес, працавалі ў шахтах альбо на будоўлях. Не менш як дзесяць працэнтаў вязняў паміралі штогод ад цяжкіх умоваў працы, голаду і здзекаў. ГУЛАГ працаваў на поўную моц ад дваццатых гадоў да сярэдзіны пяцідзясятых. Ён пачаў памалу згортвацца толькі пасля смерці Сталіна. Паводле падлікаў, ад 15 да 30 мільёнаў савецкіх грамадзянаў загінулі ў лагерах ГУЛАГу»*[31]). Майму бацьку пашанцавала: ён быў адным з тых, хто выжыў.

Калі бацьку выпусцілі з лагера, ён пасяліўся ў Вільнюсе, сталіцы Літвы. Адтуль ён часта наведваў сваю родную Беларусь, якая ў той час стала называцца Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай. Падчас адной з такіх паездак бацька пазнаёміўся на чыгуначнай станцыі з маладой жанчынай, якая там працавала. Яе звалі Серафіма Грыцкевіч. Знаёмства паступова перарасло ў каханне. Бацьку заўсёды падабаліся маладзейшыя за яго жанчыны: яму было тады 55 гадоў, Серафіме — 28. Яна была прывабнай жанчынай, хоць далёка не такой прыгажуняй, як мая мама. У дадатак Серафіма мела невялікі горбік на спіне. Тым не менш я лічу, што бацьку вельмі пашанцавала. Серафіма стала ягоным надзейным сябрам, чалавекам, які ўратаваў тату ад адзіноты. У 1946 годзе Серафіма пераехала ў Вільнюс, каб быць побач са сваім каханнем, маім татам.

Бацькава свабода працягвалася нядоўга. Уначы 20 сакавіка 1947 года ў татавай кватэры з'явіліся супрацоўнікі НКУС — без

---

[31] Пераклад цытаты з Кароткай энцыклапедыі Брытаніка: Britannica Concise Encyclopedia. 2012. Гл.: http://slovar-vocab.com/english/britannica-concise-encyclopedia/gulag-6528867.html.

усялякага папярэджання, як у іх было заведзена. Бацьку зноў арыштавалі і выслалі ў далёкі сібірскі горад, гэта ў іх называлася — «на рэабілітацыю». Уся татава правіна палягала на тым, што ў ранейшыя часы ёй быў буйным землеўласнікам. Серафіма засталася ў Вільнюсе: яна была цяжарная. У маі 1947 года яна нарадзіла сына, якога назвала ў гонар бацькі — Антонам.

Калі Антону споўніўся годзік, Серафіма паехала з ім у Сібір да мужа. На жаль, немаўлятка не змагло перанесці цяжкасцяў дарогі і сібірскага клімату і неўзабаве памерла. Потым у таты і Серафімы нарадзілася яшчэ трое дзяцей. Спачатку дзве дзяўчынкі — Ліза (13 снежня 1951 года) і Ларыса (4 жніўня 1953 года), а 16 чэрвеня 1956 года — доўгачаканы сын, якога таксама назвалі Антонам. Ведаючы бацьку, я не сумняюся, што ён не адчуваў бы сябе цалкам задаволеным, маючы адных толькі дачок. Яму абавязкова быў патрэбны сын. У верасні 1956 года, пасля дзевяці гадоў высылкі, уся сям'я, улучна з бацькам, вярнулася ў Вільнюс.

Можна зрабіць выснову, што ў свае сталыя гады бацька зрабіўся паважным сямейным чалавекам. Мяне ўразіў ягоны сямейны фотаздымак з канца 1950-х гадоў. Бацька на ім у пінжаку з гальштукам, побач з ім жонка ў прыгожай квяцістай сукенцы. На абедзвюх дачушках яркія сукенкі ў кветкі і стужкі ў валасах. Паміж сястрычкамі сядзіць бацькаў сын, таксама святочна прыбраны.

Бацьку вельмі пашанцавала, што яму ўдалося знайсці новую спадарожніцу жыцця. У фінансавым плане ён не мог прапанаваць ёй нічога: усё ягонае багацце бясследна згінула. Адзінае, што ён мог аддаць каханаму чалавеку, — гэта быў ён сам. Без сумневу, бацька захаваў пэўныя рысы і якасці, якія падабаліся жанчынам. Пасля лагераў ГУЛАГу і далейшай сібірскай «рэабілітацыі» ягоны характар стаў мякчэйшым і лагоднейшым, але за гэта давялося заплаціць здароўем. Бацька адышоў у вечнасць 16 чэрвеня 1959 года, у веку 68 гадоў. Прычынай смерці была лейкемія. Серафіма перажыла мужа на вельмі шмат гадоў і памерла ў другой палове студзеня 2008 года, зусім крыху не дацягнуўшы да свайго 90-годдзя, якое прыпадала на 28 лютага.

Вільнюс, відаць, быў улюбёным горадам майго таты. Яшчэ да прыходу савецкай улады бацька вельмі часта наведваў яго. Тады места называлася Вільняй, і гэта была частка Польшчы. У архітэктуры горада, які налічвае некалькі стагоддзяў[32], перапляліся гатычныя, рэнесансавыя і барокавыя стылі. У тыя перадваенныя гады на вузкіх і пакручастых віленскіх вуліцах было вельмі шмат

[32] Вільня была заснаваная ў XIV ст.

кавярняў, многія з якіх мелі столікі на вуліцы, і гэта надавала гораду дадатковы каларыт. Без сумневу, бацьку вельмі падабалася Вільня, і ён атрымліваў шмат асалоды ад сваіх паездак туды. Інакш чаму б ён вырашыў вярнуцца туды на схіле гадоў?[33].

У 2000 годзе я прыязджаў у Вільнюс на тыдзень і меў шмат прыемнасці ад знаёмства з маімі зводнымі сёстрамі і братам, з пляменнікам Эрыкам (сынам Ларысы) і, безумоўна, з Серафімай Грыцкевіч, бацькавай удавой. Мяне прынялі па-каралеўску. Яны ўсе былі страшэнна радыя нарэшце ўбачыць мяне. Я, у сваю чаргу, таксама пачуваўся вельмі шчаслівым, што сустрэўся з імі. Мяне вельмі ўразіла другая татава сям’я. Усе людзі былі адказныя, шчырыя і дзелавітыя; замест таго, каб прыгнятаць сябе ўспамінамі пра мінулыя пакуты, яны жылі цяперашнім днём і стараліся ўладкаваць сваё жыццё як найлепей.

Ларысін сын Эрык Емяльянаў з энтузіязмам запрапанаваў паказаць мне горад, і разам з ім мы наведалі шмат гістарычных і маляўнічых мясцінаў Вільнюса. Аднойчы Эрык адвёз мяне і Ларысу за горад, у прыгожы парк на беразе рэчкі. Але мне не хацелася празмерна абцяжарваць Эрыка, і таму я знайшоў сабе экскурсавода, каб той правёз мяне па найбольш цікавых месцах Вільнюса і ягонага наваколля. Мой гід, маладая жанчына, выдатна справілася са сваёй задачай.

Я быў вельмі ўражаны раскошнай прыгажосцю праваслаўных цэркваў і каталіцкіх касцёлаў. На шчасце, гэтыя месцы пакланення Богу і пакаяння перажылі камуністычную эпоху непашкоджанымі. На прапанову майго гіда, мы з’ездзілі на маляўнічыя азёры, размешчаныя крыху на поўнач ад горада. Гід таксама завезла мяне ў Тракай (Трокі)[34] — гістарычнае мястэчка, дзе жыве народ караімаў[35].

У культуры караімаў хаты прынята будаваць так, каб з боку вуліцы яны абавязкова мелі тры вакны, размешчаныя на аднолькавай адлегласці адно ад аднаго. Гэта надае караімскім паселішчам вельмі адметны выгляд. Продкі цяперашніх караімаў з’явіліся ў Троках шмат стагоддзяў таму, калі князь Вітаўт Вялікі[36] перасяліў сюды

---

33 Магчыма, бацьку Святаслава Шабовіча пасля зняволення было забаронена сяліцца ў Беларусі.

34 **Тракай (Трокі)** — горад, раённы цэнтр у Літве. Знаходзіцца за 28 км на захад ад Вільні.

35 **Караімы** — народ, які жыве ва Украіне (пераважна у Крыме), Літве, Расіі і Польшчы і налічвае сёння каля 2 тысячаў чалавек.

36 **Вітаўт Кейстутавіч** (Вітаўт Вялікі, каля 1350 — 1430) — вялікі князь літоўскі ў 1392–1430 гг., адзін з найбольш вядомых кіраўнікоў Вялікага Княства Літоўскага.

з Крыма некалькі сотняў караімскіх сем'яў[37]. Я наведаў таксама і замак князя Вітаўта[38], збудаваны на выспе пасярод возера, якое ляжыць каля Трокаў.

За ўвесь час існавання замка ягоныя абаронныя збудаванні ні разу не былі разбураныя пры нападах![39]. Гэты цудоўны помнік гісторыі і архітэктуры быў карпатліва адрэстаўраваны, каб цешыць вока нам і нашым нашчадкам. Аднак, як бы я ні захапляўся прыгажосцю і велічнасцю замка, я не прамяняў бы мой зручны ложак на той, у якім спаў князь Вітаўт! А возера ўразіла мяне чысцінёй: вада ў ім была крышталёва празрыстай. Я спадзяюся, яна і застанецца такой самай для ўсіх наступных пакаленняў.

З гутарак, якія я вёў з членамі сям'і майго нябожчыка таты, паўставаў вобраз зусім іншага чалавека, чым той, якога я ведаў у маленстве. Выглядала, што бацька пакінуў па сабе толькі прыемныя і пяшчотныя ўспаміны. Ніхто ані разу не намякнуў, а тым больш не сказаў адкрытым тэкстам, што тата быў здольны да абразаў або схільны да гвалту, калі злаваўся. Ды і падчас усёй маёй перапіскі з віленскімі сваякамі ніхто з іх не напісаў пра тату нічога зневажальнага. З усяго гэтага я раблю выснову, што пакуты, якія бацька зазнаў у ГУЛАГу, вельмі моцна змянілі і змякчылі ягоны характар.

Будучы ў Вільнюсе, я, безумоўна, наведаў татаву магілу. Адным ясным папалуднем Эрык прывёз мяне і Ларысу на могілкі. Могілкі знаходзяцца за рысай горада, на пагорку, які плаўна спускаецца ўніз. Паміж магілаў тут і там растуць дрэвы. Могілкі выглядаюць добра дагледжанымі. А найбольш мяне ўзрадавала, што татава магіла падтрымліваецца ў выдатным стане.

Дызайн надмагільнага помніка вельмі ўражвае, гэта сапраўдны твор мастацтва. Верхнія дзве трацiны займае выява крыжа. Крыж злёгку ўзвышаецца над узроўнем пліты і ўздымаецца над асновай. Вакол магілы пастаўлена металічная агароджа. Магілу атачае бетонны бардзюр, а пасярэдзіне высаджаны кветкі. Грошы на помнік у памяць пра майго дарагога тату я пераслаў Серафіме

---

[37] Паводле караімскага падання, у 1392 г. вялікі князь Вітаўт разбіў крымскіх татараў і захапіў шматлікі палон, у тым ліку і караімаў. Частка палонных і была паселеная ў Троках.

[38] Маецца на ўвазе **Троцкі астраўны замак** — абарончае збудаванне канца XIV — пачатку XV ст., куды Вітаўт Вялікі перанёс сваю рэзідэнцыю з бацькавага Старога замка.

[39] Інфармацыя не адпавядае рэчаіснасці. У 1655 г. замак быў разбураны маскоўскім войскам, і толькі на пачатку XX ст. пачаліся даследчыя і кансервацыйныя працы, а рэканструкцыя адбывалася ў 1955–1962 гг.

раней, і, як я цяпер пераканаўся, яны былі выдаткаваныя самым найлепшым чынам.

Вярнуўшыся ў «Стыкляй» (*«Stikliai»*, так называўся гатэль, дзе я спыніўся), я доўга разважаў над татавым жыццём. Якое гэта было незвычайнае падарожжа! Падарожжа, поўнае імкненняў, змагання, пераадолення перашкодаў, дасягненняў, вялікіх радасцяў і потым дашчэнту перакроенае пакутніцкім лёсам. Гэта проста неспасціжна, як непадуладныя нам падзеі могуць абрынуцца на нас і змяніць у нашым жыцці ўсё даастатку.

## 5. СМЕРЦЬ БАБУЛІ АЛЬЖБЕТЫ

Я быў сведкам таго, як летняй раніцай два савецкія міліцыянеры забралі майго тату з дому. Я стаяў каля ганка, абсалютна прыгаломшаны сцэнай, што разгортвалася на маіх вачах. Міліцыянеры схапілі бацьку і пацягнулі да воза, адзін з іх прыставіў пісталет да татавых грудзей, пагражаючы націснуць на курок. На бацьку надзелі наручнікі і гвалтам запхнулі яго на воз.

Больш я ніколі не бачыў таты. Хадзілі чуткі, што яго трымалі ў вязніцы ў Вілейцы[40]. Бабуля Альжбета ведала, што яе сына арыштавалі за тое, што ён «кулак» (гэта была абразлівая метафара, якой за савецкім часам менавалі заможных землеўласнікаў)[41]. Заможных гаспадароў называлі кулакамі, каб падкрэсліць, што ад іх нібыта сыходзіць пагроза, як ад сціснутых кулакоў. Насамрэч метафара была скіраваная на няслушны аб’ект. Пагроза людзям сыходзіла не ад кулакоў, а ад самога савецкага рэжыму.

Яшчэ да пачатку гітлераўскага нападу на Савецкі Саюз я перасяліўся назад з Сымоніхі ў Марцінова і жыў там з татам і бабуляй Альжбетай. Я заставаўся там жа, калі нямецкія вайскоўцы занялі гэтую тэрыторыю, выцесніўшы савецкую армію на ўсход. Я быў вельмі прывязаны да Марцінова. Апрача таго, хадзіць адсюль у школу было нашмат бліжэй. Мае тры сястры засталіся жыць з маці ў Сымонісе.

---

[40] **Вязніца ў Вілейцы** (сёння раённы цэнтр Мінскай вобласці) была пабудаваная ў сярэдзіне XIX ст. і актыўна выкарыстоўвалася і палякамі ў міжваенны час, і савецкай уладай ад 1939 г.

[41] Назва **«кулак»** з’явілася яшчэ ў дарэвалюцыйнай Расіі і выкарыстоўвалася ў іменаванні заможных сялянаў, якія выкарыстоўвалі ў сваёй гаспадарцы працу аднавяскоўцаў-наймітаў або таксама займаліся ліхвярствам. Яны, як лічылася, трымалі ўсю грамаду ў залежнасці ад сябе — «у кулаку». Ад самага пачатку слова мела адмоўнае значэнне.

У чэрвені 1941-га Германія напала на Савецкі Саюз. Нямецкія войскі маланкава прасоўваліся ўглыб савецкай тэрыторыі. Хадзілі чуткі, што перад уцёкамі з Вілейкі савецкія вайскоўцы расстралялі ўсіх вязняў мясцовай турмы[42]. Усе думалі, што сярод расстраляных быў і бацька. Толькі адна бабуля Альжбета наадрэз адмаўлялася верыць, што тата загінуў. Насуперак усяму бабуля не страчвала надзеі ўбачыць свайго дарагога сына жывым. Мой бацька быў самым любімым бабуліным сынам, яна была цалкам яму адданая. У бабулі ў галаве не ўкладалася, каб яе сыночак мог зрабіць штосьці кепскае альбо няслушнае. Урэшце, бацька ж быў адзіным яе сынам, які вярнуўся дадому з Амерыкі. Убачыць сына жывым было б самым вялікім святам у бабуліным жыцці. На жаль, яна не дажыла да такога дня. Лёс несправядліва пазбавіў яе гэтага шчасця.

У бабулі Альжбеты было чацвёра сыноў і дачка. Дачка Марыя выйшла замуж за Данілу Блізнюка, і яны жылі за некалькі кіламетраў ад Марцінова. Наймалодшага сына Фадзея забралі ў расійскую армію, і ён ваяваў на Першай сусветнай вайне. Фадзей ацалеў на фронце, але захварэў у акопах на сухоты і памёр у дваццаць два гады. Тры астатнія сыны — мой бацька Антон і два яго браты, Ян і Пётр, — пазбеглі прызыву ў войска, бо паплылі на караблі ў Амерыку, Абяцаную Зямлю. Пётр і Ян так і засталіся ў Злучаных Штатах, на сваёй новай радзіме. А мой бацька, разбагацеўшы, вярнуўся на бацькаўшчыну багатым чалавекам. Ён купіў сядзібу Марцінова. Бацькава маці, бабуля Альжбета, пераехала жыць са сваёй сціплай хаткі, якую яна ўспадкавала ад бацькоў, да сына ў Марцінова. Як моцна памянялася пасля гэтага яе жыццё!

Бабуля Альжбета была вельмі ўладным чалавекам. Яна мела неверагодна вялікі ўплыў на бацьку. Мне нават здаецца, што з нейкай прычыны бабуля чулася абавязанай кіраваць і татавым шлюбам. Няма сумневу, што бабулін уплыў (калі толькі гэта не было непасрэднае ўмяшанне ў асабістыя адносіны маіх бацькоў) меў негатыўны эфект на бацькаў шлюб.

Пры нямецкай уладзе калгасы перасталі існаваць. Усе зямельныя надзелы былі вернутыя гаспадарам — тым, хто валодаў гэтай зямлёй да таго, як яна была канфіскаваная савецкім рэжымам. На жаль, амаль не было каму прывітаць гэтую важную падзею:

---

[42] Паводле вядомых дакументаў, пасля нападу Германіі на СССР значная частка вязняў Вілейскай турмы была эвакуяваная ў Разанскую турму. Тыя, хто з розных прычынаў не падлягаў эвакуацыі (а іх аказалася таксама нямала), былі расстраляныя. Яшчэ каля 140 чалавек загінулі ў часе самой эвакуацыі. Гл.: Тайны муроў Вілейскай турмы: http://vialejka.info/1992-tajjny-muro-vilejjskajj-turmy.html.

усе ўладальнікі вялікіх маёнткаў былі высланыя кудысьці далёка ў азіяцкія рэгіёны СССР. Некаторым землеўласнікам удалося пазбегнуць дэпартацыі. Яны добраахвотна пакінулі свае маёнткі і перасяліліся ў акупаваную немцамі Польшчу. Мой дзядзька Аляксандр Дубяга, усведамляючы, што, калі ён будзе трымацца за сваю зямлю, яго і ягоную сям'ю чакае немінучая высылка, вымысліў бліскучы ход. Ён не марудзячы падпісаў дакумент, што перадае Чырвонай арміі ўсё правы на валоданне маёнткам. Дзядзька Аляксандр асабіста завёз гэты дакумент нейкаму вялікаму савецкаму начальніку, хутчэй за ўсё камісару. Дзядзька сказаў новаму ўладальніку, што перадае маёнтак у рукі Чырвонай арміі добраахвотна і неадкладна. Яго дарунак быў прыняты. Дзядзьку Аляксандру і ягонай сям'і дазволілі выехаць у Польшчу, якая тады ўжо была пад нямецкай акупацыяй. Яны выехалі адразу — і ніколі пра гэта не пашкадавалі. Сям'я дзядзькі Аляксандра пасялілася каля Варшавы, у Мазавецкім[43]. Пасля Другой сусветнай вайны яны засталіся жыць у Польшчы і ніколі не вярталіся, нават з кароткім візітам, на сваю радзіму.

Бабуля Альжбета зрабілася дэ-факта ўладальніцай Марцінова — пасля таго, як ёй вярнулі сядзібу, канфіскаваную савецкім рэжымам. Фальварак быў дашчэнту разрабаваны: за два гады савецкага гаспадарання з яго пазнікала ўсё сельскагаспадарчае абсталяванне, свойская жывёла, прадметы хатняга ўжытку і нават шмат якія асабістыя рэчы. Тым не менш усе будынкі засталіся цэлымі і непашкоджанымі. Ну і, вядома ж, засталася сама зямля.

Частка ворных земляў была сапсаваная праз неахайную культывацыю. Я памятаю, як аднойчы назіраў за працай савецкага механізатара — ён мусіў пераараць частку зямлі, што раней належала нам. Напачатку механізатар доўга заводзіў свой трактар заводнай ручкаю. Мне было вельмі цікава назіраць за працэсам, бо я ніколі не бачыў такога раней. Пасля шматлікіх спробаў трактарысту ўсё ж удалося запусціць рухавік, і трактар пачаў араць зямлю. Я глядзеў на адвораныя пласты зямлі і бачыў, што яны пакрытыя спадыспаду тоўстым слоем пяску. Відавочна, плугі трактара былі кепска адрэгуляваныя і пасаджаныя заглыбока. Урадлівы верхні слой глебы пайшоў пад ніз, а пясок — наверх. Тыя, хто хоць трохі знаюцца на сельскай гаспадарцы, разумеюць, што на пяску нічога не вырасце. Большасць земляў Беларусі не даюць добрых ураджаяў

---

[43] У ваколіцах Варшавы ёсць шэраг мястэчак, у назве якіх маецца слова «Мазавецкі»: Мінск Мазавецкі, Гродзіск Мазавецкі, Новы Двор Мазавецкі і інш. Магчыма, маецца на ўвазе Мазавецкае ваяводства наагул.

самі па сабе. За невялікімі выключэннямі, беларускія землі — гэта пясчанікі.

Але нават і цяпер, калі фальварак страціў большасць сваёй былой велічы, ён, тым не менш, даваў нам магчымасць жыць бязбедна і досыць камфортна. Мне, малому, ён усё адно падаваўся выдатным месцам для жыцця. Калі я не свавольнічаў, бабуля дазваляла мне рабіць усё, што я хачу. Яна не чытала мне натацый.

У будынку сядзібы быў адзін вельмі вялікі пакой. Ён выкарыстоўваўся як пякарня, кухня і сталовая на будні. З аднаго боку пакоя была вялізная печ і кухня. Рэшта памяшкання прызначалася пад сталовую. Вялікае акно добра асвятляла пакой. Пачаўшы гаспадарыць у Марцінове, бабуля Альжбета ператварыла тую частку пакоя, дзе раней была сталовая, у спальню. Тут спалі ўсе, хто жыў у доме, уключаючы нанятых работнікаў (звычайна гэта была пакаёўка). Відавочна, бабуля зрабіла такую перастаноўку з меркаванняў бяспекі.

Маё жыццё пад доглядам бабулі цякло без асаблівых падзей, але яно было прыемным. Так працягвалася да адной летняй начы, успаміны пра якую дагэтуль вярэдзяць маю памяць. У тую ноч, як звычайна, я моцна спаў у сваім ложку ў нашай агульнай імправізаванай спальні. Бабуля і пакаёўка таксама спалі кожная ў сваім ложку. Пакаёўка была маладой, высокай, танклявай бландзінкай, вельмі прыгожай маладой жанчынай гадоў дваццаці, я думаю. Яна нядаўна нарадзіла пазашлюбнае дзіця — для беларускай вёскі ў тыя часы гэта была надзвычайная падзея. Чацвёртым чалавекам, які начаваў з намі, быў Раман — пажылы селянін з вёскі Сваткі. Раман быў майстрам на ўсе рукі і сябрам нашай сям’і. Ён заставаўся ў нашым доме нанач на просьбу бабулі, якая тады пачувалася смялейшай. Раман спаў на палку над вялікай печчу, куды трэба было забірацца па ўбудаванай лесвіцы. Я вельмі любіў залазіць туды да яго, бо гэта было весела, і спаць на палку было вельмі ўтульна.

Мяне разбудзіла настойлівае груканне ў акно. Гэты стук абудзіў і бабулю. Яна падышла да акна і запыталася: *«Хто там? Што вам трэба?» «Польскі салдат»,* — адказаў ёй голас па-польску. *«Zapal ogien, pani*, — працягваў невядомы мужчына, — *нам трэба паразмаўляць»*. Відавочна, гэты чалавек не хацеў прызнавацца, кім ён быў насамрэч. Польскае войска перастала існаваць з тых часоў, калі Польшча была падзеленая паміж Савецкім Саюзам і Германіяй. *«Хто б ты ні быў, табе няма чаго рабіць тут уначы, ідзі прэч»*, — адказала бабуля.

Раптам размову бабулі з незнаёмцам прерарваў аглушальны выбух, успышка святла і гук разбітай шыбы. Бабуля гучна ўскрыкнула і ўпала на падлогу. У поўным жаху я закрычаў з усёй моцы:

*«Zapalim! Zapalim!»* Потым я выскачыў з ложка і ў адно імгненне ўскараскаўся на палок да Рамана. Мне падавалася, што палок — гэта самае бяспечнае месца ў хаце. Тым не менш я быў перапоўнены жахам і з трывогай чакаў, што ж будзе далей.

На некалькі секунд за вокнамі запанавала злавесная цішыня. Але яна працягвалася нядоўга. Я пачуў крокі па разбітым шкле. Няпрошаныя начныя госці не збіраліся пакідаць сядзібу. Наадварот, яны пачалі высаджваць цяжкія, акутыя жалезам аканіцы ў суседнім пакоі. У лепшыя часы той пакой служыў галоўнай спальняй. Ён і цяпер заставаўся цалкам умэбляваным, там захоўвалася адзенне, сямейныя партрэты і іншыя каштоўныя рэчы.

Гукі ўдараў па аканіцах чуліся працяглы час. Аканіцы доўга не паддаваліся, але ўрэшце абрынуліся на зямлю. Следам пачуўся гук разбітай шыбы. Не ведаючы, чаго чакаць далей, я скамянеў ад страху. Ці залазілі забойцы ў суседні пакой, каб абрабаваць яго, так і засталося невядомым. Паўстае пытанне: калі забойцы дасягнулі сваёй мэты, усадзіўшы кулю ў чалавека, якога яны прыйшлі забіць, дзеля чаго ім спатрэбілася потым выломваць аканіцу ў пустым пакоі? У мяне няма адназначнага адказу, але ёсць некалькі версій. Магчыма, гэта была няўклюдная спроба замаскаваць забойства пад рабаванне. Альбо гэта магла быць дэманстрацыя сілы: паказаць гэтым недабітым нашчадкам, якія сядзяць у Марцінове, што яны тут не гаспадары. Гэтыя прыпушчэнні базуюцца на маёй упэўненасці, што чалавекам, непасрэдна вінаватым у забойстве бабулі, быў былы распарадчык Марцінова, прызначаны на гэтую пасаду пасля таго, як савецкая ўлада канфіскавала сядзібу. Відавочна, з ім быў яшчэ хоць адзін паплечнік.

Узломшчыкі сышлі, але мой страх не паменшыўся. Хвіліны і гадзіны, якія прайшлі да надыходу раніцы, падаліся мне вечнасцю. На вуліцы панавала мёртвая ціша. У пакоі мы не прамовілі ані слова. Адзінымі гукамі, якія я чуў, былі стогны бабулі і біццё майго ўласнага сэрца. Усе мы не маглі нават зварухнуцца ад жаху. Я не адважваўся злезці з палка. Страх апанаваў і Раманам, які таксама не наважваўся варухнуцца. Пад раніцу, калі ён больш не мог цярпець, Раман справіў малую патрэбу проста на падлогу, не злазячы з палка.

Дзесьці пад раніцу пачаў выць наш сабака. Жалобнае выццё чулася да самага світання. Магчыма, сабака таксама адчуваў, што здарылася трагедыя.

Ніхто з нас не выйшаў з дому, пакуль цалкам не развіднела. Калі раніца ўрэшце надышла, я выбег з дому паглядзець, што сталася з аканіцамі, якія так старанна выломвалі забойцы. Цяжкія акутыя жалезам аканіцы ляжалі на зямлі, яны былі адарваныя ад сцяны,

але ў цэлым непашкоджаныя. Вялізнае бервяно, якім узломшчыкі малацілі па аканіцах, ляжала тут жа. Хіба толькі Геркулесу было б пад сілу ў адзіночку высадзіць гэтым бервяном цяжкія аканіцы. Бервяно выглядала свежаспілаваным. Без сумневу, яго адмыслова падрыхтавалі менавіта для гэтай працы. Пазней у той самы дзень я зайшоў у суседні пакой, каб узяць штосьці з вопраткі. Мне падалося, што ў пакоі ўсё было ў парадку — так, як і да начнога гвалту.

З надыходам раніцы Раман запрог каня ў воз і паехаў у Мядзел[44], досыць буйное мястэчка ў нашым наваколлі. Па дарозе ён заехаў да Данілы Блізнюка, каб паведаміць пра няшчасце. Бабулін зяць Даніла разам з двума сынамі, Мікалаем і Антонам, прыехалі да нас дзесьці ў сярэдзіне дня. Раман вярнуўся толькі пад вечар, ён прывёз з сабой доктара і паліцыянта.

Бабуля цэлы дзень праляжала ў ложку і ўвесь час прасіла піць. Яна нясцерпна пакутавала, гэта было вельмі балюча назіраць.

Доктар неадкладна заняўся параненай, яму дапамагала суседка. Удваіх яны знялі з бабулі начную кашулю, набрынялую крывёю, і надзелі на яе чыстую. Замянілі таксама прасціны, якія таксама ўсе былі перапэцканыя ў крыві. Як мне сказалі, куля трапіла бабулі ў верхнюю частку жывата. Аглядаючы пацыентку, доктар заўважыў пад скурай на спіне бабулі, блізка да хрыбціны, невялікі бугарок. Ён памацаў яго і вызначыў, што гэта куля. Доктар зрабіў невялікі надрэз і дастаў кулю. Гэта была куля ад пісталета сярэдняга калібру. Доктар забінтаваў абедзве раны — уваходную і выходную. Больш ён практычна не мог дапамагчы бабулі нічым.

Апрануты ў форму паліцыянт прывёз з сабой вінтоўку, якую ён увесь час трымаў пры сабе. Ён быў вельмі ахайны, з бледнай скурай, нядаўна паголены, акуратна падстрыжаныя валасы былі расчасаныя на прабор. Яго далікатныя гарадскія рысы выдавалі ў ім шляхціца. Паліцыянт дапытаў кожнага з нас, хто прысутнічаў у доме падчас начнога нападу. Распытваючы сведкаў, ён вельмі падрабязна ўсё запісваў, да самых найменшых дэталяў. Пра што паліцыянт пытаўся ў мяне — гэта і для мяне самога таямніца. Я не памятаю аніводнага слова з нашай размовы. Толькі потым, шмат разважаючы над падзеямі тае начы, я зразумеў, чаму я пра ўсё забыўся. Расказваць паліцыянту пра жахлівае здарэнне мне было невыносна цяжка. Таму мой мозг абачліва выцер гэтую гутарку з памяці.

---

[44] **Мядзел** — горад, раённы цэнтр Мінскай вобласці, знаходзіцца за 160 км на паўночны захад ад Мінска.

Бабулін стан усё пагаршаўся і пагаршаўся. Яна страціла зашмат крыві. Жыццё літаральна выцякала з яе на вачах. Бабулін зяць Даніла вельмі добра разумеў што бабуля памірае. Ён прысунуў крэсла бліжэй да яе ложка, потым нахіліўся над бабуляй і запытаўся ў яе, дзе знаходзіцца золата, якое схаваў мой бацька. Бабуля прашаптала адказ на вуха Данілу. Што яна яму сказала, мог пачуць толькі ён. Познім вечарам сэрца бабулі спынілася. Яна сканала, ніколі больш не пабачыўшы на гэтым свеце свайго ўлюбёнага сына Антона, майго тату. Я не памятаю, хто знаходзіўся ля бабулінага ложка, калі яна перастала дыхаць.

Хадзілі ўпартыя і дастаткова верагодныя чуткі, што мой бацька прывёз з Амерыкі скарб у залатых далярах. Наколькі я ведаю, ніхто з нашай сям'і ніколі не пацвердзіў гэтых чутак адкрыта. Зразумела, з якіх прычынаў.

Золата — каштоўнае золата! — у ахопленай вайной Усходняй Еўропе яно было выратаваннем ад нэндзы і страхоўкай на чорны дзень. Пасля падзелу Польшчы паміж Германіяй і Савецкім Саюзам папяровыя польскія грошы цалкам абясцэніліся. Аднак срэбны польскі злоты захаваў сваю вагу і добра абменьваўся на чорным рынку.

На наступны дзень бабулю рыхтавалі да хаўтураў — тут жа, у доме, у тым самым пакоі, дзе яе застрэлілі. У звычаях было цалаваць руку нябожчыка перад пахаваннем. Я таксама падпарадкаваўся гэтай традыцыі. Пахаванне было праз дзень пасля смерці. Цела бабулі завезлі ў праваслаўную царкву ў Сватках. Мяне не ўзялі ні ў царкву, ні на могілкі. Магу толькі ўявіць, як цяжка мне было б перажыць абедзве гэтыя цырымоніі. З царквы труну з целам бабулі перавозілі на возе на могілкі ў Судніках[45], дзе быў пахаваны яе муж, Захарый. Бабулю пахавалі непадалёк ад мужа. Падчас пахавання адбылася замінка. Калі працэсія выйшла з царквы і скіравалася да могілак, святар спахапіўся, што забыўся ўзяць крыж, які ён выкарыстоўваў пры ўсіх набажэнствах, уключаючы і хаўтуры. Святара мусілі падвезці ў царкву, каб ён забраў крыж. Хутка пра гэтае здарэнне стала вядома ўсім. Агульнае меркаванне было такое: неўзабаве ў сям'ю Шабовічаў прыйдзе яшчэ адна смерць. Улічваючы, якія тады стаялі часы, у гэтае страшнае прароцтва было няцяжка паверыць…

На наступны дзень пасля пахавання дзядзька Блізнюк разам са сваімі двума сынамі, Мікалаем і Антонам, з'явіўся ў Марці-

---

[45] **Суднікі** — вёска ў Слабадскім сельсавеце Мядзельскага раёна. У 1940 г. налічвала 27 двароў, 75 жыхароў.

нове — відавочна, з мэтай распачаць пошукі бацькавага золата. Рыдлёўкамі і ламамі двое маладых хлапцоў накапалі шмат ямаў на прысядзібнай тэрыторыі. Шукалі яны і ў склепе — рылі ямы ў падлозе, праламалі ў некалькіх месцах бетонную сцяну. *«Мы не знайшлі нічога, абсалютна нічога!»* — заявіў Блізнюк. Пошукі працягваліся і на наступны дзень. І зноўку, пад канец дня дзядзька Даніла сказаў, што не знайшоў анічога з бацькавых скарбаў. Ці казаў ён праўду? Я схіляюся да думкі, што не. Калі мой бацька вызваліўся з ГУЛАГу, ён напісаў мне ў адным са сваіх лістоў, што папрасіў свайго швагрападзяліцца золатам з ім самім. Але Блізнюк па-ранейшаму адмаўляў, што яму ўдалося знайсці хоць бы частку скарбу.

Я думаю, што бабулю забілі, каб прымусіць яе маўчаць. Яна адкрыта абвінавачвала былога распарадчыка Марцінова і ягонага памочніка ў тым, што яны камуністы і злачынцы і што іх трэба за гэта пакараць. Гэтыя два чалавекі, на чыім сумленні, як я думаю, была бабуліна смерць, ніколі не былі афіцыйна абвінавачаныя ў злачынстве. Відаць, праўная сістэма таго часу не была прыстасаваная да таго, каб расследаваць загадкавую смерць звычайнага чалавека. Справу аб бабуліным забойстве відавочна адсунулі ўбок, а потым і забыліся пра яе.

Тым не менш два падазраваныя мужчыны былі пакараныя лёсам. Аднойчы ўзімку аддзел эсэсаўцаў прыехаў у Сваткі. Яны заставаліся ў вёсцы адну ноч, начавалі ў прыватных хатах. Падчас свайго кароткага візіту яны расстралялі трох чалавек. Двое з іх былі меркаванымі забойцамі маёй бабулі. Экзекуцыя не мела нічога супольнага з яе смерцю: мужчынаў расстралялі за іх пракамуністычныя сувязі, за тое, што яны былі замаскаванымі сувязнымі камуністычнага падполля. Трэці расстраляны быў простым бондарам. Паколькі на рынку немагчыма было купіць ніякіх патрэбных прыладаў, бондар займаўся тым, што зразаў правады з тэлефонных і тэлеграфных слупоў, а потым выкарыстоўваў іх для вырабу бочак. Гэты занятак і прывёў яго да трагічнага канца.

Пакаранне смерцю адбывалася на галоўнай плошчы ў Сватках. На загад эсэсаўцаў, целы мусілі заставацца навідавоку ў людзей не менш чым два дні. Па дарозе ў школу я праходзіў міма плошчы. Будучы цікаўным хлапчуком, я падышоў блізка да целаў, каб іх разгледзець. Трое мужчынаў ляжалі на спінах на заснежанай зямлі. У кожнага з іх ніжняя частка твару была разнесеная выбухам. Дзірка ў твары ў кожнага была дакладна ў адным і тым месцы. Немцы выкарыстоўвалі разрыўныя кулі. Выканаўца прысуду, без сумневу, быў майстрам сваёй справы.

Пасля бабулінай смерці мая маці перасялілася з Сымоніхі ў Марцінова, каб пераняць кіраванне гаспадаркай. Нарэшце я зноў стаў жыць разам са сваімі сёстрамі.

## 6. МАМА ВЯРТАЕЦЦА Ў МАРЦІНОВА

Пасля смерці бабулі Альжбеты мама пераехала з Сымоніхі назад у Марцінова. Я і мае тры сястры — Фаіна, Ніна і Ірына — ізноў сталі жыць разам. Маці, відаць, адчувала, што гэта яе абавязак, каб не сказаць — наканаванне: вярнуцца ў Марцінова, каб захаваць фальварак, што па праве спадчыны належаў яе дзецям. Мама была вельмі мэтанакіраванай жанчынай, яна ўсімі сіламі імкнулася пераадольваць любыя перашкоды, якія паўставалі на яе шляху. Да таго ж яна была загартаваная лёсам і ўмела прыстасоўвацца да любых цяжкасцяў. Трэба яшчэ зазначыць, што мама мусіла быць вельмі смелым чалавекам — гэта ж трэба было наважыцца стаць гаспадыняй Марцінова, памятаючы пра лёс, які напаткаў яе свякроў Альжбету! Навакол бушавала вайна, і небяспека з усіх бакоў падпільноўвала мірных жыхароў, асабліва тых, хто жыў у сельскіх раёнах, — нягледзячы на тое, што яны былі далёка ад лініі фронту. Марцінова трапляла акурат у гэтую катэгорыю…

Пераняўшы гаспадарку ў Марцінове, маці ўвяла ў фальварку, можна сказаць, *«палітыку адчыненых дзвярэй»*. Усе навакол — як суседзі, так і новыя жыхары, што з’яўляліся ў нашых мясцінах, — ведалі, што іх візітам у Марцінове будуць заўсёды рады. Ранейшая завядзёнка, якой прытрымліваліся мой тата і бабуля, — цалкам затуліць фальварак ад вонкавых уплываў — адышла ў нябыт. Усе былі радыя, калі маладыя мужчыны з блізкай вёскі Рудзевічы, што часам прыходзілі дапамагаць маці па гаспадарцы, заставаліся начаваць у нашым доме. Калі мы мелі ў доме начлежнікаў, мы пачуваліся смялейшымі.

Нашыя гусі ўначы звычайна сядзелі ціха, калі толькі іх не трывожылі нейкія няпрошаныя госці — ці то людзі, ці то звяры. Гусятнік быў прыбудаваны да нашага дома, і ўваход туды быў заўсёды адчынены. Гусі маглі заходзіць і выходзіць, калі хацелі. Часам уначы гусі раптам пачыналі гучна гагакаць. Крыкі гусей былі для нас сігналам трывогі. Калі ў гэты час у доме начаваў госць, ён асцярожна выходзіў на двор, каб праверыць, што ўзбударажыла гусей. Але ні разу на нашым панадворку не былі заўважаныя чужыя людзі. Відаць, гусей усё ж палохалі дзікія звяры.

Калі-некалі госці начавалі і ў маёй спальні. Адну з такіх начэй я запомніў вельмі яскрава, бо яна была не зусім звычайная. Цагляная

печка, у якой павольна гарэлі дровы (яна трохі нагадвала камін), кідала водбліск святла на частку пакоя. Я спаў у сваім ложку, калі нейкае варушэнне ў пакоі прабудзіла мяне з глыбокага сну. Я злёгку прыўзняў галаву над падушкай і паглядзеў на асветленую частку пакоя. Там, перад печкай, напоўненай чырвоным вуголлем, стаяў наш начны госць і… мастурбаваў. Я бачыў, як ягоная сціснутая рука хутка рухалася ўзад-уперад. Мне было вельмі добра відаць усё збоку. Вось дык неспадзяванка! Я моўчкі ляжаў, назіраючы за працэсам да самага канца. На наступны дзень я шмат разважаў над тым, што бачыў папярэдняе начы. Уга! Што калі б і мне аднойчы наследаваць прыкладу нашага начнога госця?

Кіраванне гаспадаркай у Марцінове паглынала амаль увесь матчын час і забірала шмат сілаў. Каб апрацоўваць зямлю, маці мусіла наймаць сялянаў з навакольных вёсак, расплачваючыся за працу часткай ураджаю. Але, наколькі мне памятаецца, маці было даспадобы зноў жыць у Марцінове. Калі ў яе і былі нейкія кепскія прадчуванні або засцярогі, яна гэтага перад намі, дзецьмі, не выяўляла.

Вайна працягвалася, і баі, якія ішлі на ўсходзе, выганялі людзей з родных мясцінаў. Некаторыя з бежанцаў перабіраліся ў Заходнюю Беларусь, каб перачакаць канфлікт. Маці пачувалася абавязанай дапамагаць гэтым людзям, і ў нашым доме, змяняючы адна адну, пэўны час жылі жанчыны-бежанкі. Калі памяць мне не здраджвае, у адной з іх было двое маленькіх дзяцей. Другая жанчына мела нейкае расстройства сну — я памятаю, што бачыў яе ў ложку ўдзень, яна ўсё спала і ніяк не магла прачнуцца. Бежанкі заставаліся з намі нядоўга — не больш як на некалькі месяцаў. Не маю ўяўлення, куды яны потым параязджалі.

Два былыя салдаты Чырвонай арміі таксама знайшлі прытулак у нашым доме. Адзін з іх расказваў нам, як ён спрабаваў уцячы ад нямецкіх войскаў, якія бліскавічна наступалі. «*Я вёў машыну на максімальнай хуткасці, аж колы ўзляталі над дарогай*», — казаў ён. Ды ўсё было марна: нямецкі вайсковы аддзел адрэзаў гэтаму салдату шлях да савецкіх войскаў. Але замест таго, каб здацца ў палон, ён і ягоны сябар шмыгнулі ў кусты, а потым уцяклі да вёскі і змяшаліся з мясцовым насельніцтвам.

Без сумневу, маці вельмі падабалася мець двух былых чырвонаармейцаў у нашым доме. Я памятаю, яны былі сталыя прыемныя мужчыны. Маці нават мела рамантычныя памкненні да аднаго з іх, але з гэтага не выйшла нічога. Пакуль чырвонаармейцы заставаліся з намі, яны дапамагалі з рознымі сельскагаспадарчымі працамі. Узамен яны былі накормленыя і абароненыя ад акупацыйных уладаў, інакш бы іх чакаў лагер для ваеннапалонных.

Гасцяванне чырвонаармейцаў у нашым доме закончылася нечакана: яны пайшлі ў партызаны. Ці яны добраахвотна сталі партызанамі, ці іх прымусілі, я дакладна не ведаю. Думаю, што ў іх не было іншага выйсця, бо яны, калі б не прылучыліся да партызанаў, лічыліся б дэзэртырамі з Чырвонай арміі.

Партызанскі рух развіваўся паступова. Але калі маланкавая перамога немцаў над Савецкім Саюзам падпала пад сумнеў, шэрагі партызанаў пачалі імкліва расці. У партызаны звычайна ішлі: былыя чырвонаармейцы; мясцовыя жыхары, якія спачувалі савецкаму рэжыму; бандыты, якія ўбачылі магчымасць беспакарана разбойнічаць і рабаваць; маглі быць і тыя, хто далучыўся да партызанаў з іншых прычынаў.

Вырашальную ролю ў развіцці партызанскага руху адыгрываў савецкі ўрад, які знаходзіўся ў Маскве. Арганізатараў партызанскіх атрадаў закідвалі ўначы на парашутах на акупаваныя немцамі тэрыторыі. Разам з імі на парашутах скідвалі зброю, амуніцыю, выбуховыя прылады. Партызанскія атрады пачалі вандраваць па наваколлі: удзень яны хаваліся ў лесе, а па начах з'яўляліся ў вёсках.

Лічылася, што мэтай партызанаў было разбураць нямецкую інфраструктуру, у прыватнасці транспартныя шляхі, ды яшчэ забіваць немцаў (як вайскоўцаў, так і цывільных), а таксама тых, хто ім дапамагае. На практыцы ж партызаны вялі тэрарыстычную дзейнасць супраць людзей, якія не падзялялі марксісцкай дактрыны альбо, яшчэ горш, адкрыта выказваліся супраць яе.

...Яшчэ адзін прыклад матчынай высакароднасці і гасціннасці ў дачыненні да людзей, якія апынуліся ў нядолі і без даху над галавой, — гэта выпадак, калі яна прытуліла ў нашым доме нежанатую пару. Мужчына і жанчына, якія не былі ў афіцыйным шлюбе, з удзячнасцю прынялі матчыну прапанову часова пажыць з намі. Мужчыне было на выгляд гадоў 35, жанчыне — сорак з вялікім гакам, калі не пяцьдзясят. Іх паводзіны сведчылі, што гэта добра адукаваныя людзі. Жанчына, відаць, раней была школьнай настаўніцай. Яе спадарожнік мог быць інжынерам-электрыкам. Ён шмат разважаў пра тое, што добра было б пабудаваць у Марцінове вятрак, які б даваў электрычны ток. Я з захапленнем слухаў ягоныя размовы. Паколькі я абсалютна нічога не ведаў ні пра электрычнасць, ні пра тое, як прадукуюць электрычны ток, гутаркі з гэтым чалавекам былі для мяне вельмі адукацыйнымі. Вядома, з ідэі пабудаваць вятрак нічога не выйшла. Прычына вельмі простая: немагчыма было знайсці матэрыялы, неабходныя для такой пабудовы.

Цешыліся матчынай гасціннасцю і цыгане. *«Аднойчы ўвосень у Марцінове спыніўся цыганскі табар. Чарада маляўнічых павозак выстраілася ўздоўж дарогі. Бакі павозак былі пакрытыя*

*чорным лакам і распісаныя залатымі лістамі і чырвонымі фігуркамі танцораў»*, — пісала ва ўспамінах мая сястра Фаіна[46]. Але гламурны выгляд цыганскіх павозак не палепшыў матчынай думкі пра іх гаспадароў. Маці ставілася да цыганаў з недаверам: з гэтымі людзьмі заўсёды трэба было трымацца напагатове. Сярод мясцовых жыхароў цыгане мелі рэпутацыю гандляроў крадзеным і падманшчыкаў, якія ашуквалі даверлівых людзей.

Якія б падазранні да цыганаў ні мела маці, тым не менш яна дазволіла табару спыніцца ў Марцінове. Прыгожы малады цыган, прадстаўнік ад табара, звярнуўся да маці, просячы дазволу застацца на пару тыдняў у нашым садзе, каб падкарміць коней перад далёкай дарогай на поўдзень, куды яны кіраваліся, каб уцячы ад лютай зімы. Да таго ж, дадаў цыган, жанчыны і старыя людзі ў ягонай вялікай сям'і былі змучаныя доўгім падарожжам і патрабавалі адпачынку. Відаць, маці кранулі гэтыя просьбы. *«Добра! Але вы мусіце паабяцаць не набліжацца да нашага дома і трымацца далёка ад усіх нашых будынкаў»*, — паставіла маці цвёрдую ўмову.

Цыгане раскінулі свае шатры і зажылі ў іх вясёлым і бесклапотным жыццём вандроўнікаў. *«Неба было яшчэ сінім, але шэрыя аблокі веставалі пра набліжэнне восені. Прахалоднае, свежае паветра нібыта рабіла цэлы цыганаў лёгкімі і рухавымі. Стваралася ўражанне, што яны не хадзілі, а адскоквалі ад зямлі, такія яны былі акрыленыя жыццём»*, — узгадвала Фаіна.

*«Мяккія слупы белага дыму ўздымаліся над садам і змешваліся з аблачынкамі ў восеньскім небе. Да нашых вушэй даносіліся пералівістыя мелодыі рухавых цыганскіх песень, якім акампаніявалі высока настроеныя гітары. Песні гучалі весела і легкадумна. "Мама, мамачка, ну можна мы пойдзем і паглядзім, што робяць цыгане, хоць на трошачкі. Калі ласка!" Матчын твар пацямнеў. "Абсалютна не!!! Гэта прыманка. Усім вядома, што цыгане крадуць маленькіх дзяцей. Яны ціішком з'едуць ўначы і раніцай будуць ужо ў нейкай далёкай краіне, дзе яны прададуць скрадзеных дзяцей. Я не хачу, каб гэта здарылася з вамі", — рашуча адказала мама»*. Такім чынам, Фаіне і мне заставалася толькі назіраць здалёк за вясёлым цыганскім жыццём…

Падчас свайго кароткага гасцявання ў нашым садзе цыгане не стваралі маці аніякіх праблемаў. Маці нават выменьвала ў іх на ежу патрэбныя ёй швейныя прылады. Аднойчы, калі я і Фаіна гулялі на панадворку, адзін з цыганаў выйшаў на сярэдзіну дарогі і паманіў мяне рукой. Ён папрасіў мяне сказаць маці, што табар

---

[46] Успаміны сястры Фаіны захоўваюцца ў сям'і Шабовічаў.

з’язджае заўтра, а таксама даў мне пакунак, загорнуты ў тканіну. *«Перадай гэта тваёй маме і скажы, што мы хацелі б спыніцца тут і ў наступным годзе»*, — сказаў цыган.

Жыццё ў Марцінове па-ранейшаму прыносіла мне адчуванне, што я ў сябе дома. Урэшце, я ж і быў на сваёй роднай зямлі, з якой было звязана столькі прыемных успамінаў. Я па-ранейшаму любіў Марцінова, але пасля смерці бабулі Альжбеты маё жыццё пакацілася па іншых рэйках — часам рызыкоўных і небяспечных. Мама глядзела на мае паводзіны скрозь пальцы, бо была вельмі занятая па гаспадарцы, кіраваннем вялікім фальваркам. Я меў мноства магчымасцяў, каб збочыць з роўнай дарожкі, і карыстаўся імі, дзе толькі было можна. Напрыклад, я пачаў ужываць хатні алкаголь, калі мне яго прапаноўвалі.

У пашкуматаным вайной беларускім грамадстве таго часу піццё алкаголю не лічылася выключна дарослым заняткам. Літаральна кожны, хто мог утрымаць шклянку, незалежна ад узросту, мог вольна каштаваць алкаголь — ці то гарэлку, ці то яе хатні замяняльнік, самагонку. Дарослыя, у тым ліку і сваякі, не пярэчылі, калі хлопчык, яшчэ нават не ў падлеткавым узросце, ужываў алкаголь — абы толькі дзіцё не напівалася. Наадварот, піццё алкаголю ў раннім узросце ўважалася многімі як станоўчы крок на шляху да ранняга ўзмужання.

Мама была яшчэ маладой жанчынай, і ёй было трэба, каб у яе жыцці прысутнічаў мужчына. Сястра Фаіна (Фэй) прыгадвае ва ўспамінах матчыны словы: *«Хата пустая, калі ў ёй няма мужчыны»*. І маці сустрэла свайго мужчыну — выпадкова, на чыгуначнай станцыі. Новага матчынага знаёмага звалі Нікадзім Лапка.

Аднойчы ранняй вясной мяцеліца затрымала маці на чыгуначнай станцыі ў Крывічах[47]. Маці тады адведвала сястру ў Радашковічах[48] і ўжо вярталася дадому, але праз завіруху мусіла заначаваць на станцыі. Там яна і пазнаёмілася з Нікадзімам, які прыехаў на станцыю дамовіцца наконт перавозкі збожжа. Яны разгаварыліся, і Нікадзім прапанаваў маці перачакаць у ягоным доме, пакуль дарогі расчысцяць ад снегу. Нікадзім разам з братам-удаўцом Уладзімірам жылі на вялікай ферме у маланаселеным

---

[47] **Чыгуначная станцыя Крывічы** знаходзіцца за 3 км ад аднайменнага мястэчка ў Мядзельскім раёне, на лініі чыгункі Маладзечна – Мядзел.

[48] **Радашковічы** — мястэчка ў Маладзечанскім раёне, за 41 км ад Мінска.

вясковым раёне — у мястэчку Астравок[49]. Відаць, непрацяглага знаходжання ў доме Нікадзіма было дастаткова, каб маці вырашыла, што ён будзе для яе адпаведнай парай.

Маці запрасіла Нікадзіма наведаць Марцінова. Ён прыняў запрашэнне і быў вельмі ўражаны нашым фальваркам. Нікадзім пагадзіўся ажаніцца з маці і пераехаць да яе ў Марцінова. Шлюб быў толькі цывільны. Адна з магчымых прычынаў, чаму яны не бралі царкоўнага шлюбу, была абумоўленая фактам, што жаніх з нявестай належалі да розных канфесій. Маці была праваслаўнай, а Нікадзім — адданым каталіком. Хоць галоўныя прычыны маглі быць і іншыя. Вяселле, паводле словаў Фаіны, адсвяткавалі *«вялікай гулянкай у гасцёўні, куды сабралі сякую-такую мэблю»*.

*«Нікадзім, безумоўна, быў шляхціцам. Ён заўсёды насіў белую кашулю з запінкамі на манжэтах і паводзіўся як важная персона — усе ягоныя рухі былі павольныя і дакладна разлічаныя. Нікадзім не займаўся сельскай гаспадаркай, як спадзявалася маці, — ён пераважна бавіў свае дні дома, займаючы гасцей размовамі, абмяркоўваючы палітыку і разліваючы гарэлку. Было відавочна, што чалавек, за якога маці выйшла замуж, атрымліваў асалоду ад лёгкага жыцця. І ён палка верыў, што велічны фальварак Марцінова здольны сам па сабе прыносіць грошы, калі толькі знайсці слушны спосаб»*, — пісала Фаіна.

Відаць, адно з першых месцаў у планах Нікадзіма займаў пункт пра забеспячэнне гаспадаркі дастатковым запасам гарэлкі. Нікадзім запрасіў некалькі спрактыкаваных мужчынаў, каб яны дапамаглі яму наладзіць увесь працэс вырабу самагонкі, ад пачатку да канца. Пад гэтыя мэты выкарыстоўвалася кухня. *«Жытняя і ячменная закваскі, якія брадзілі ў драўляных кадках, напаўнялі пакой вострым хлебным духам»*, — прыгадвала Фаіна. Нарэшце ў кухні ўсталявалі перагонны апарат. О, на гэтае відовішча варта было паглядзець!

Мяне вельмі цікавіла тое, што адбывалася на кухні. Для мяне гэта быў адукацыйны досвед — назіраць за працэсам перагонкі. Я глядзеў, як Нікадзім ловіць струменьчык первача ў кубак, як празрыстая вадкасць павольна сцякае з тонкай меднай трубкі на канцы змеевіка ў падстаўленую пасудзіну. Нікадзім наліў крыху самагонкі на стол і кінуў туды запалку. Самагонка загарэлася светла-блакітным полымем. Нікадзім асцярожна змёў рукой палаючую вадкасць са стала. Самагонка працягвала гарэць і на падлозе. *«Цудоўна!*

---

[49] Магчыма, маецца на ўвазе **Асавок** — засценак у Княгінінскім сельсавеце Мядзельскага раёна. Сёння не існуе. У 1921 г. ён складаўся з 3 двароў, 17 жыхароў.

*Стопрацэнтна чысты спірт!»* — усклікнуў Нікадзім. Ён перадаў кубак па коле, запрашаючы ўсіх пакаштаваць. Я з задавальненнем прыняў запрашэнне.

Самагонка з высокім утрыманнем спірту высока цанілася на рынку. Насамрэч, калі самагонка не праходзіла тэст на гарэнне, яе ніхто не хацеў купляць. Падчас працэсу перагонкі у бразе паступова змяншаўся працэнт утрыманага спірту — аж пакуль брага зусім пераставала выпараць алкаголь.

Паміж Нікадзімам і ягонымі хаўруснікамі разгарэлася спрэчка на прадмет таго, як прадаваць выраблeную самагонку. Як выглядала, Нікадзім патрабаваў, каб яму даставалася львіная доля прыбытку, а ягоныя партнёры з такой дзяльбой не пагаджаліся. Але ўрэшце бакі прыйшлі да пагаднення, якое задаволіла ўсіх. Угоду адсвяткавалі ў былой гасцёўні. Нікадзім і ягоныя шэсць «партнёраў па бізнесе» пілі тосты адзін за аднаго, раздаваўся гучны смех. Я ўвайшоў у пакой незапрошаным. Нікадзім працягнуў мне шклянку з гарэлкай. *«Выпі, Славік*, — сказаў ён, — *Я навучу цябе быць сапраўдным мужчынам!»* Вядома ж, я вельмі хацеў далучыцца да сапраўдных мужчынаў! Але маці не дала ўгняздзіцца гэтай ідэі, як піша Фаіна. *«Маці сурова перасцерагала Славіка, каб ён не захапляўся алкаголем, — яна сказала, што ад гарэлкі ён перастане расці і ператворыцца ў ідыёта»*.

Гулянка перайшла ў дзікую п’янку. Фаіна памятае, што ў сцяну паляцелі шклянкі. Нікадзім набраўся пад завязку. Гук бітага шкла прыцягнуў увагу маці. *«Ці ж табе не досыць?»* — запыталася маці ў Нікадзіма. Але той толькі адмахнуўся. На наступную раніцу ўдзельнікаў гулянкі можна было бачыць уроссып па ўсім пакоі. Некаторыя ляжалі проста на падлозе, забыўшыся п’яным сном.

Хутка я адкрыў, што алкаголь здымае ўнутраныя забароны і прыносіць адчуванне бясстрашнасці і неперамoжнасці. Гэта дапамагло мне выказваць свае думкі больш адкрыта. Ці спрыяў алкаголь майму ўзмужненню — рэч, безумоўна, спрэчная. Але ў той час я зусім не быў заклапочаны, што піццё самагонкі неяк негатыўна адаб’ецца на маім здароўі. Памятаю, тады мяне вельмі мучыла нейкая праблема (цяпер я ўжо забыўся якая). Мне вельмі трэба было парадзіцца наконт яе з той нежанатай парай, якая некаторы час жыла ў нашым доме, а потым перабралася ў больш зручнае для іх месца і пасялілася ў школе ў Сватках. Я лічыў гэтых людзей вельмі разумнымі. Дзіва што — мужчына вельмі добра разбіраўся ў электратэхніцы.

Каб набрацца смеласці на гаворку, я выпіў самагонкі. З набліжэннем вечара я пайшоў да іх у Сваткі. Я памятаю, як прыйшоў туды, а больш не памятаю нічога. Свядомасць адключылася. Колькі часу

гэта працягвалася і што здарылася потым, я не маю ўяўлення. Мне потым расказвалі, што я ляжаў на вуліцы без памяці. Яшчэ горш было, што чужыя дзеці насміхаліся з мяне. Патроху я апрытомнеў, але далей усё было як у тумане. Першы ўспамін, які вярнуўся да мяне, — гэта як я стаю на беразе Вузлянкі. Плынь была хуткая. У ваду адмыслова паклалі вялікія камяні, каб па іх можна было пераходзіць рэчку. Некаторыя з камянёў выступалі вонкі, некаторыя злёгку хаваліся пад паверхняй вады. Людзі пачалі карыстацца гэтым бродам каля Сватак пасля таго, як савецкія партызаны спалілі мост праз Вузлянку. Я прастаяў там нейкі час, углядаючыся ў плынь, і ведаў, што ў мяне няма іншага спосабу вярнуцца дадому, апрача як перайсці рэчку па камянях. Вельмі-вельмі асцярожна я ўвайшоў у ваду і пачаў рухацца наперад: я стараўся захоўваць раўнавагу і добра намацваць нагой камень, перад тым як перанесці на нагу цяжар цела. Не ведаю як, але мне ўдалося перайсці рэчку і дабрацца дадому без прыгодаў.

На наступны дзень я прачнуўся з жудасным галаўным болем — гэта было пахмелле, з’ява, з якой я дагэтуль не сутыкаўся. Я мучыўся з галавой цэлы дзень. У давяршэнне ліхога мне трэба было акурат у той дзень ехаць са старым Раманам у Астравок, і я не наважыўся адмовіцца. Як звычайна, мы паехалі туды на возе. Раман трымаў лейцы, а я, седзячы побач з ім, спрабаваў знайсці такое становішча, у якім галава балела б меней. Цяжкое пахмелле шмат чаму мяне навучыла: я вырашыў, што ніколі не дапушчу, каб такое паўтарылася зноў. Як ні дзіўна, я трымаўся дадзенага сабе самому абяцання на працягу многіх дзясяткаў гадоў! Аднаго немагчыма было дасягнуць — пазбыцца ганьбы, якую я прынёс маме і тату. Прашу Госпада, каб ён дараваў мне гэтую правіну.

Тое прыкрае здарэнне не зрабіла мяне абстынентам. Я дагэтуль люблю адчуванне бесклапотнасці, якое нараджаецца пасля аднаго-двух глыткоў гарэлкі. Але пасля таго выпадку я ніколі больш не напіваўся да адключкі, каб не памятаць сябе.

Маці і Нікадзім часта мелі патрэбу скантактавацца з Нікадзімавым братам Уладзімірам, які жыў у Астраўку. Тэлефон і пошта ў нашым раёне не працавалі, не было ў нас і паштовых галубоў. Але я з задавальненнем пагаджаўся быць пасыльным — перадаваць лісты і вусныя паведамленні. Часам я вазіў якія-небудзь рэчы, якія трэба было перадаць з дома ў дом. Гэтыя падарожжы былі вельмі цікавым заняткам: нарэшце я ўбачыў свет за межамі Марцінова! Ездзіць у Астравок сталася для мяне адной з найлепшых забаваў, асабліва ўзімку, калі не было чым заняцца. Адлегласць паміж Марціновам і Астраўком не стамляла каня, і ў пагодны дзень падарожжа было

прыемнае. Звычайна дарога ў адзін канец займала ў мяне менш чым палову дня.

Дом, дзе жыў Уладзімір, быў вялікі, раскошна ўмэбляваны, і парадак там падтрымоўваўся скрупулёзна. Памятаю лазню пры доме. Яна была меншага памеру, калі параўноўваць з лазняй у Марцінове, але цалкам магла змясціць усю сям'ю. Лазня вельмі ўражвала мяне сваім абсталяваннем, а асабліва тым, што там быў нават душ — незвычайная рэч для тых часоў, бо ніякіх воданапорных вежаў у наваколлі не існавала. Вада ў душ паступала з рэзервуара, які знаходзіўся на вуліцы.

Галоўнай крыніцай даходу для Уладзіміра і Нікадзіма быў прыбытак ад фермерскай гаспадаркі. Уладзімір, які моцна заікаўся, быў вельмі добрым даглядчыкам жывёлы. Ён трымаў стойлы чыстымі, засланымі свежай саломай. Жывёла была добра гадаваная: у яслях і кармушках заўсёды меўся корм. Побач з домам было вялікае бульбянішча, агароджанае па перыметры дротам. Звычайна я не звяртаў увагі на бульбяныя палеткі, але гэтае бульбянішча немагчыма было не заўважыць. Бульба на ім радзілася белая і велізарная, непараўнальна большая ад той, што я звык бачыць на полі і ў талерцы. Пазней, калі лёс закінуў мяне ў Чэхаславакію і Германію, я і там не сустракаў такіх вялікіх бульбінаў. Толькі шмат пазней, калі я пераехаў у Злучаныя Штаты, я ўбачыў у супермаркетах тую самую славутую белую бульбу. Яна зрабілася, дый дагэтуль застаецца, маім улюбёным гатункам для запякання.

Уладзімір быў не толькі выдатным фермерам, але яшчэ і руплівым хатнім гаспадаром. На ложках заўсёды былі чыстыя прасціны, чыстых ручнікоў ніколі не бракавала, у пакоях падтрымліваўся ідэальны парадак. Уладзімір праводзіў шмат часу на кухні, ён любіў гатаваць.

Уладзімір меў залатое сэрца — сумленны і клапатлівы чалавек, заўсёды гатовы зрабіць усё, каб людзям вакол яго было добра. Ён запрашаў мяне з сёстрамі пагасцяваць у яго ў Астраўку, і там мы маглі напоўніцу адчуць усю ягоную шчырую гасціннасць. Гасцяванне ў доме Уладзіміра было прыемнае і карыснае. Я адчуваў сябе там абсалютна бесклапотным — як быццам я знаходзіўся ў іншым свеце! Аднойчы ўлетку ў Астраўку, даследуючы наваколле, я разварушыў гняздо шэршняў — проста каб праверыць, ці змагу ад іх уцячы. Не змог… Шэршні балюча ўджалілі мяне ў галаву некалькі разоў. Ох, як гэта балела!

Яшчэ адной характэрнай рысай Уладзіміра была яго гатовасць заўсёды дапамагчы чалавеку ў пільнай патрэбе. Аднойчы ўвосень, памятаю, я назіраў за малацьбой. У тыя дні снапы збожжа прывозілі з палёў на малатарню. Прафесійны малацьбіт меў усё

неабходнае абсталяванне. Малатарня прыводзілася ў рух коньмі. Некалькі коней прыпрагалі да гарызантальнага шаста, і яны хадзілі па коле, паварочваючы гэты шост. Шастом прыводзілася ў рух малацільнае кола, якое круцілася вельмі хутка. Каласы збожжа — жыта альбо пшаніцы — трэба было падкладаць пад кола рукамі. Аднойчы хлопец гадоў дваццаці, які падкладаў каласы, не ўбярогся, і ягоную далонь зацягнула пад малацільнае кола. Рука была пачварна скалечаная — проста жах глядзець. Не губляючы ні хвіліны, Уладзімір загадаў камусьці іншаму наглядаць за малатарняй, запрог каня ў павозку і павёз параненага ў нейкі горад да доктара. Па твары Уладзіміра было відаць, наколькі моцна ён перажываў за таго хлопца.

Калі я ездзіў у Астравок адзін, некаторыя паездкі былі нуднаватыя, іншыя — рызыкоўныя. Але, аглядаючыся назад, я лічу, што ўсе яны прынеслі мне карысць. Дарога, па якой я ездзіў у Астравок і назад, пачыналася ў Сватках. Адтуль яна ішла ўздоўж урobленай зямлі, паўз лугі, лапікі лясоў і праз малёнькую вёску. За вёскай ля дарогі ржавелі каркасы двух савецкіх браневікоў. Ад іх шлях вёў праз вялікі лес, праехаўшы які, я апынаўся на шырокім закінутым полі. Далёка злева можна было разгледзець вясковыя хаты. Потым дарога перасякала землі вялікага маёнтка, пасля яна кружляла вакол чыгуначнай станцыі — гэта быў добра ўмацаваны нямецкі ключавы пункт. За чыгункай краявід паабапал дарогі рабіўся вельмі маляўнічым і прыемным для вока — і так да самога Астраўка.

Па дарозе ў Астравок я бачыў габрэяў з нашытай на адзенні зоркай Давіда. Яны хадзілі за агароджай з калючага дроту. Агароджаная прастора месцілася каля дарогі, на тэрыторыі вялікага маёнтка і, як выглядала, не вельмі моцна ахоўвалася. Па начах некаторым габрэям удавалася ўцячы, і яны знікалі бясследна — відаць, знаходзілі прытулак у лясах. Глядзець на габрэйскае гета[50] за калючым дротам было непрыемна, але гэта быў павучальны досвед.

Адна паездка ў Астравок асабліва мне запомнілася. Я, Раман і яшчэ нейкі чалавек (цяпер ужо не памятаю, хто гэта быў) заехалі глыбока ў лес. Стаяла позняя раніца цудоўнага сонечнага дня. Удалечыні каля дарогі штосьці дымілася. Калі мы пад'ехалі бліжэй, заўважылі мужчынаў у цёмнай форме — відаць, паліцыянтаў — каля таго месца, адкуль ішоў дым. Мы спыніліся на абочыне дарогі, не наважваючыся рухацца далей. Калі паліцыянты з'ехалі, мы асцярожна пасунуліся наперад і ўбачылі невялікі спалены гру-

---

[50] З крыніцаў вядома пра габрэйскае гета, што знаходзілася ў мястэчку Крывічы ў 1941 — верасні 1942 г. Магчыма, аўтар згадвае менавіта яго.

завік. Мае спадарожнікі адразу здагадаліся, што грузавік трапіў у партызанскую засаду. Падрабязнасці гэтай акцыі неўзабаве сталі шырока вядомымі. Гэта быў нямецкі армейскі грузавік, у ім ехалі тры ці чатыры нямецкія салдаты, і ўсіх іх забілі на месцы. Цёлы забітых потым забралі паліцыянты, якія прыйшлі з чыгуначнай станцыі. На грузавіку перавозілі свіней. Нямецкія салдаты, па ўсёй верагоднасці, забралі гэтых свіней у сялянаў, нічога не заплаціўшы. У тыя дні гэта было нормай.

Паліцыя складалася пераважна з беларусаў, якія захацелі служыць у немцаў. Знайсці хоць якую працу ў тыя дні было амаль немагчыма. Першапачаткова задачай паліцыі было падтрымліваць закон і парадак. Калі ж савецкія партызаны распачалі актыўныя баявыя дзеянні, паліцыя адпаведна мусіла стаць парамілітарнай сілай, ахоўваючы ад налётаў партызанаў грамадзянскае насельніцтва ў гарадах і ключавыя аб’екты — такія, як чыгуначныя станцыі.

Я не баяўся ездзіць у Астравок — ні да, ні пасля гэтага нападу партызанаў на грузавік. Каму б спатрэбілася нападаць на мяне? У мяне не было нічога каштоўнага.

Зімою, калі мароз прабіраў да касцей, паездкі ў Астравок рабіліся больш цяжкімі, тым не менш заставаліся займальнымі. Я адчуваў сябе абавязаным выпраўляцца ў дарогу, калі маці прасіла аб гэтым. У тых зімовых падарожжах я бачыў не працу, а прыгоду. Выбіраючыся ў дарогу, я надзяваў некалькі ваўняных швэдраў і захутваўся як мог, але твар усё роўна заставаўся адкрытым для калючага халоднага ветру, а часам і снежнай замеці. Яшчэ адной перашкодай, якую трэба было пераадолець на шляху, была рэчка Вузлянка. Партызаны спалілі мост праз Вузлянку, які стаяў каля Сватак. Каб пераехаць праз рэчку на возе, я мусіў ехаць далёка ўбок, дзе за вёскай Рудзевічы была наладжаная імправізаваная пераправа. Рэчка ў гэтым месцы была вузкая, але плынь хуткая. Масток трымаўся на драўляных слупах, з выгляду трывалых. Але ў маста не было парэнчаў, і ён быў завузкі — толькі-толькі каб праехаць возу. Бярвёны маста былі расхістаныя. Шчыра кажучы, пераязджаць па ім рэчку было страшнавата. Але ж вяртацца назад было немагчыма. Я накіроўваў каня на сярэдзіну моста і асцярожна пераязджаў пераправу.

Аднойчы конь, на якім я ездзіў у Астравок, раптоўна акалеў неўзабаве пасля майго вяртання ў Марцінова. У той раз я ездзіў адзін. Нікадзім адразу ж зрабіў выснову, што я ехаў занадта хутка і загнаў каня. Нічога не магло быць далейшым ад праўды! На працягу ўсёй паездкі я ні разу не прымусіў каня бегчы трушком. Конь цягнуў лёгкую павозку, ідучы спакойным крокам, і гэта мяне цалкам задавальняла. Тым не менш смерць каня ўсхвалявала мяне.

Можа, конь сканаў ад моцнага марозу? Можа, застаніся ён у цёплай стайні, ён жыў бы і далей? І ці так ужо неабходна было мне цягнуцца ў Астравок па халадэчы? Усе гэтыя неспакойныя думкі бударажылі мой розум.

Калі я ездзіў у Астравок узімку, маім спадарожнікам была толькі мая самота. Вельмі рэдка я сустракаў на дарозе іншых людзей. Я ўжо не памятаю, пра што я думаў падчас гэтых паездак. Але ў адным я абсалютна ўпэўнены: гэтыя самотныя падарожжы не пакінулі негатыўных адбіткаў на маёй свядомасці. Наадварот, яны загартавалі мяне і прывучылі сустракаць цяжкія сітуацыі тварам у твар, а не уцякаць ад іх.

У мяне не было ніякіх сур'ёзных праблемаў са здароўем, нічога такога, што пагражала б жыццю, пакуль я не захварэў на тыф. Я захварэў узімку, калі быў у Марцінове. Цьмяна памятаю, як я ляжаў у ложку абсалютна бездапаможны — у мяне не было сілаў нават прыўзняць руку. Я правальваўся ў непрытомнасць на працяглы час. Калі свядомасць вярталася да мяне, я не ведаў, ноч гэта ці дзень, і нічога не памятаў з папярэдняга дня. Часам, калі я вяртаўся да прытомнасці і чуў галасы ў пакоі, блізка да майго ложка, я не мог пазнаць, хто гэта. Але я памятаю маю маму, як яна пяшчотна прыўздымала маю галаву і клала мне ў рот мёд на лыжачцы, а потым давала мне выпіць цёплага малака са шклянкі. Я не адчуваў ніякага болю падчас хваробы і нават уяўлення не меў, як блізка да смерці я знаходзіўся. Але лёс і мама, якая заўсёды была каля мяне, не далі мне памерці.

Эпідэміі тыфу нярэдка здараліся ў нашых мясцінах. Яны прайшліся па ўсіх вёсках наўкола Марцінова і за ім. На шчасце, смяротныя выпадкі былі рэдкія. Толькі адзін чалавек памёр у Сватках і яшчэ адзін — у Рудзевічах. Магчыма, мясцовае насельніцтва выпрацавала свайго роду імунітэт да тыфу?

Я ніколі не думаў пра Нікадзіма як пра айчыма. Для мяне ён быў проста мужчынам, якога маці прывяла ў дом, каб запоўніць пустэчу ў сваім жыцці. Ці мне гэта перашкаджала? Абсалютна не! Аднак я не сышоўся з Нікадзімам блізка. Ён быў не тым чалавекам, да якога я пайшоў бы раіцца ў складанай сітуацыі. Калі ў мяне ўзнікалі нейкія асабістыя праблемы, я ішоў бы з імі да Рамана. Але якімі б ні былі мае пачуцці да Нікадзіма, я не магу не адзначыць, што гэты чалавек вызначаўся добрым характарам. Я ніколі не бачыў Нікадзіма ў гневе, ён ніколі не абразіў мяне, ніколі не вылаяўся. А найбольш важна было тое, што ён не крыўдзіў маму.

Стасункі маёй мамы і Нікадзіма не нанеслі ніякай шкоды ні мне, ні маім сёстрам. Наадварот, яны расчынілі дзверы, асабіста для мяне, каб убачыць небакрай за межамі Марцінова. Паездкі ў

Астравок далі мне магчымасць лепей зразумець свет, у якім я жыў. Гэтага не здарылася б, калі б я так і заставаўся ўвесь час у Марцінове. А яшчэ я вельмі любіў гасцяваць ва Уладзіміра ў Астраўку. Ад гэтых гасцінаў засталіся вельмі добрыя ўспаміны.

## 7. ЯК МАМА НАМАГАЛАСЯ ЗАХАВАЦЬ МАРЦІНОВА

### Жыццё ва ўмовах тэрору

Вяртаючыся ў Марцінова, мама, напэўна, мела вялікія спадзевы на будучыню як для сябе самой, так і для сваіх дзяцей. На жаль, гэтым спадзевам не суджана было спраўдзіцца. Як часта будучыня прызапашвае для нас нечаканы паварот лёсу! Калі нам шанцуе, гэты паварот вяшчуе добрую долю, але бывае і так, што ён гасіць усе нашыя надзеі на светлае заўтра.

Мама была вельмі камунікабельным чалавекам, і яна паклапацілася пра тое, каб навязаць таварыскія стасункі з уплывовымі людзьмі. Камендант паліцыі са Сватак, святар праваслаўнай царквы ў Сватках, жонка святара, дырэктар школы і школьныя настаўнікі — усе яны бывалі гасцямі ў нашым доме. Гэта былі ціхія пасядзелкі, якія праходзілі пераважна за размовамі — ніякага параўнання з раскошнымі банкетамі, якія бацька калісьці ладзіў для сваіх гасцей.

Пасля адступлення савецкіх войскаў нямецкія акупацыйныя ўлады сфармавалі на ўсёй тэрыторыі Беларусі аддзелы мясцовай паліцыі. Выглядала, што ахвотнікаў служыць у паліцыі сярод мясцовых жыхароў не бракавала — знайсці хоць якую працу ў той час было выключна цяжка. Як і ў даваенныя часы, паліцэйскі ўчастак размясцілі ў Сватках. Нягледзячы на палітычную заангажаванасць паліцыі, яе прысутнасць усё ж дапамагала падтрымліваць — да пэўнага ўзроўню — закон і парадак. Пазней, калі ў лясах з'явіліся савецкія партызаны, клопаты паліцыі зрабіліся значна больш сур'ёзнымі: паліцыянты сталі абаронцамі цывільнага насельніцтва ад спусташальных налётаў партызанаў. Для нашай сям'і прысутнасць паліцыі ў Сватках была дабраславеннем. На жаль, калі партызанскі рух набраў размах, паліцыянтаў дзеля іхнай жа ўласнай бяспекі перавялі ў нейкае мястэчка — відаць, у Мядзел. Там быў вялікі паліцэйскі гарнізон, і пры падтрымцы нямецкіх вайскоўцаў, якія размяшчаліся тамсама, у Мядзеле, паліцыянты былі здольныя адбіваць партызанскія налёты на мястэчка. Але для нас і ўсіх астатніх, хто жыў на вёсцы, сыход паліцыі азначаў, што

мы засталіся ў непрадказальным і злавесным атачэнні, пакінутыя на літасць партызанаў.

Калі Савецкі Саюз захапіў Заходнюю Беларусь, адарваўшы яе ад Польшчы, у сістэме адукацыі адбыліся глыбокія змены. У школах беларуская мова прыйшла на змену польскай. Настаўнікі і адміністрацыйны персанал пераехалі ў Заходнюю Беларусь — я мяркую, добраахвотна — з Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (БССР). Мне вельмі падабалася, што мова навучання змянілася. Польская мова была чужая для большасці вучняў, уключаючы і мяне. Шчыра кажучы, калі я ўзгадваю два передваенныя гады, што прайшлі пры савецкай уладзе, я не магу сказаць нічога кепскага пра школу альбо настаўнікаў.

З пачаткам вайны паміж Германіяй і Савецкім Саюзам настаўнікі і школьная адміністрацыя ўцяклі на ўсход. Школа ў Сватках адчынілася ўвосень 1941 года ўжо пад новым кіраўніцтвам. Настаўнікі, як і раней, былі беларусамі — толькі цяпер пераважна з тых беларускіх тэрыторый, што да 1939 года належалі да Польшчы. Відаць, прафесіяналаў не хапала, бо, як я памятаю, да настаўнікаў далучыўся дыякан з праваслаўнай царквы ў Сватках.

Мая мама, пэўна, уздыхнула з палёгкай, калі школа ў Сватках адчынілася наноў. Яна лічыла адукацыю важнай мэтай, якую павінны былі дасягнуць яе дзеці. Мае ўласныя жаданні не супярэчылі матчыным. Я любіў хадзіць у школу, мне там было цікава. На жаль, школа пратрымалася адчыненай толькі адзін школьны год — 1941/42. Зачынілася яна праз партызанаў. Партызаны імкнуліся ўсімі сіламі перашкаджаць функцыянаванню асноўных інстытутаў грамадства, і школы патрапілі ў гэты чорны спіс. Пакуль у Сватках быў паліцэйскі ўчастак, настаўнікі адчувалі сябе больш-менш у бяспецы. Калі ж ён зачыніўся, настаўнікі засталіся пакінутымі на свой страх і рызыку. Таму ўсе яны паспешліва выехалі са Сватак, кіруючыся ў гарады і мястэчкі, дзе маглі пачувацца абароненымі ад партызанскіх карных налётаў.

Нават у тыя цяжкія часы ў людзей здараліся і святы — Каляды працягвалі прыносіць радасць у наш дом. А стварыць святочны настрой лепш за ўсіх умелі калядныкі. Мая сястра Фаіна вельмі яскрава апісала калядныкаў ва ўспамінах: *«Апоўдні прыйшлі калядныкі з вёскі Рудзевічы. Двое мужчын трымалі вялізную папяровую зорку, умацаваную на жардзіне. Зорку асвятлялі знутры запаленыя свечкі. Святло ад свечак пранікала скрозь каляровую паперу, якую перад тым акунулі ў расплаўлены воск, а потым нацягнулі на драўляную раму. Цэнтр зоркі быў упрыгожаны абразкамі з выявай Нараджэння Хрыстовага. Прыблізна з дзясятак маладых мужчын і хлопчыкаў, што наважыліся прабрацца да нашага дому*

*праз глыбокі снег, стоўпіліся ў вітальні. Маці запрасіла іх у цёплы, утульны пакой. Там каляднікі сталі каля печы і пачалі спяваць песні пра Божае Нараджэнне.*

*"Дзякуй вам, хлопцы", — сказала маці, частуючы іх выпечкай са святочнага стала. "Як бачыце самі, гэтым годам наш пачастунак куды сціплейшы, чым было раней", — дадала яна, выбачаючыся.*

*"Што, і смагу прагнаць не будзе чым?" — выгукнуў адзін з каляднікаў. "Анягож! — умяшаўся ў гаворку Нікадзім, ставячы на цэнтр стала бутэльку гарэлкі. — Сядайце з намі вячэраць, хлопцы. А ты падсунь да стала яшчэ адну лаву і прынясі чаго-небудзь гарачага з кухні, — махнуў ён у матчын бок. — Не звяртайце ўвагі на кабету. Яна проста занадта сціплая"».*

У ранейшыя часы ўсе мы, дзеці, чакалі калядную ялінку з асаблівай нецярплівасцю і вялікім захапленнем. Традыцыя ўпрыгожваць калядную ялінку засталася ў нашым доме нязменнай і падчас вайны. Але для мяне асабіста Каляды чамусьці страцілі тую прывабнасць, што мелі даўней — да таго, як Марцінова было разрабаванае за часам савецкага панавання. Можа, таму я так цьмяна і невыразна прыгадваю Каляды ваеннае пары. А вось Фаіна запомніла іх значна больш дэталёва.

*«Калядная ялінка была невялікая — значна меншая, чым звычайна ставіў бацька. Бацькавы ялінкі былі грандыёзныя. Яны былі заўсёды высокія, да столі. Бліжэй да вершаліны развешваліся запаленыя зоркі, ніжэй — пернікавыя анёлы і чырвоныя бутэлечкі салодкіх газіраваных напіткаў»*, — пісала Фаіна ў мемуарах. Нягледзячы на розніцу ў памерах і больш сціплыя ўпрыгожанні, ялінка часоў вайны захавала даволі шмат ад былое чароўнасці. *«Дзеці не маглі наглядзецца на калядную ялінку, упрыгожаную цукеркамі і печывам у яркіх абгортках»*, — узгадвала сястра.

Па вяртанні ў Марцінова мама прысніла загадкавы сон. У сне яна бачыла сем коней, і ў кожнага з іх на спіне была прымацаваная запаленая свечка. Свечкі гарэлі так ярка, што асвятлялі ноч. Коні ляцелі па небе цугам, аддаляючыся ад Марцінова. Тыя, што ляцелі спераду, выглядалі значна вышэйшымі. Урэшце коні даляцелі да далягляду і зніклі з вачэй.

Маці лічыла, што гэты сон вяшчуе ёй самой штосьці важнае, інакш яна б не расказала пра яго ўсім нам. На маю думку, сон прарочыў тое, што адбылося неўзабаве: трагічную смерць маці, спаленую школу і царкву, якія згарэлі ў адзін дзень з Марціновам, і смяротную небяспеку, у якой засталіся яе дзеці-сіроты.

Большасць нашых сноў нараджаецца з падсвядомасці. Я гатовы гэта засведчыць. Да мяне асабіста сны прыходзяць штоночы, хоць я рады быў бы іх не бачыць. Яны мне назаляюць. Сны бываюць

таксама прарочыя. Я схіляюся да думкі, што мамін сон пра сем коней належыць да гэтай катэгорыі.

Пасля вяртання ў Марцінова маміна жыццё стала вельмі нялёгкім. Звычайныя побытавыя клопаты — тое, што мы тут, у Злучаных Штатах, успрымаем яе нешта само сабой дадзенае, — там вылівaліся ў вялікія праблемы. Памятаю, аднойчы ўзімку мама папрасіла мяне прынесці малака з суседскай фермы, землі якой межавалі з нашымі. Мама была хворая і ляжала ў ложку, здаецца, з прастудай альбо грыпам. Я апрануўся цёпла, па-зімоваму, абуў зімовыя боты вышынёй да калена. На дварэ бушавала завіруха з мокрым снегам. Я вырашыў пайсці напрасткі праз поле. Пад нагамі хлюпала снегавая каша. Я быў вельмі рады, калі паспяхова дабраўся да фермы. Суседка ахвотна адгукнулася на матчыну просьбу і наліла мне малака ў невялікі слоік. Маці вельмі суцешылася, калі ўбачыла, што я вярнуўся, і я таксама быў вельмі задаволены.

Пасля таго як у наваколлі з'явіліся партызаны, жыццё ў Марцінове зрабілася вельмі небяспечным. Памятаю адзін прыемны летні вечар. Сонца амаль села. Мы з Нікадзімам былі на двары, калі я выпадкова заўважыў, што па сцяжынцы праз поле, з боку Сватак, да нас ідуць сямёра партызанаў. Яны ішлі адзін за адным, і вінтоўкі боўталіся ў іх на плячах. Калі Нікадзім убачыў партызанаў, ён пабег у дом і загадаў маці не прызнавацца партызанам, што ён тут жыве. Не ўдаючыся ў доўгія тлумачэнні, Нікадзім сказаў маме, што пойдзе хавацца.

Калі Нікадзім выйшаў з панадворку, я скіраваўся следам за ім. Нікадзімаў страх перад партызанамі неяк перадаўся і мне. Мы асцярожна прабраліся да Сватак, абмінаючы шырокай дугой партызанаў, якія надыходзілі нам насустрач. У Сватках мы пайшлі да дома дыякана (я забыўся, як яго звалі). Дыякан выйшаў на панадворак і, без сумневу, пазнаў нас. (Як я казаў раней, ён быў адным з маіх школьных настаўнікаў.) Нікадзім таропка распавёў дыякану пра партызанаў і запытаўся, ці не маглі б мы схавацца на адну ноч дзесьці на тэрыторыі ягонай сядзібы. Дыякан адмоўна пакруціў галавой. Нікадзім пачаў умольваць яго даць нам прытулак, але просьбы не дапамаглі. Дыякан загадаў Нікадзіму зараз жа сыходзіць. Ён не хацеў праз нас займець сабе непрыемнасці. Мы развіталіся і спешна сышлі.

Непадалёк ад дыякана жыў святар праваслаўнай царквы, але Нікадзім да яго не завітаў. Не ведаю, чаму Нікадзім не зрабіў спробы знайсці прытулак у доме святара. На сённяшні розум мне здаецца, што ён баяўся нарвацца на яшчэ адну зневажальную адмову.

Мы ішлі нядоўга і выйшлі на край негустога лесу. Такі лес, відаць, не падаўся Нікадзіму надзейным прытулкам, бо ён павярнуў

назад і зноў скіраваўся да поля, дзе выспявала збожжа. На полі Нікадзім зайшоў глыбока ўсярэдзіну, і я за ім. Там мы і правялі ноч — лежачы на полі паміж жытніх каласоў. Ноч выдалася вельмі прыгожай. Неба было чыстае і сіняе, у кропках зорак. Але ноч была яшчэ і вельмі халодная, а на мне з адзення былі толькі кароткія штаны ды кашуля. Затонкая вопратка, каб начаваць на голай зямлі! Ад холаду я не здолеў задрамаць і на хвілінку. Гэта было досыць цяжкое выпрабаванне.

Калі развіднела, мы вярнуліся назад у Марцінова і даведаліся ад маці, што партызаны сышлі з нашага дома яшчэ ўчора, позна ўвечары. Нібыта яны прыходзілі шукаць схаваную зброю і патрабавалі ад маці, каб яна ім яе аддала. Ясна, што мама не магла ім нічога аддаць, бо ані пра якую зброю яна ведаць не ведала. Партызаны проста прыдумалі легенду наконт пошукаў зброі, насамрэч яны хацелі дапячы маці так, каб яна не вытрымала і сама з’ехала з Марцінова. На жаль, мама тады не зразумела сутнасці гэтых д’ябальскіх разлікаў.

Калі я ляжаў на зямлі, у жытнім полі, я ад холаду прыціскаўся спінай да Нікадзіма. Тады я не надаў гэтаму ніякага значэння. Пазней Нікадзім нагадаў мне пра гэты выпадак, сказаўшы, што той быў адзіны-адзінюткі раз, калі я выявіў нейкія цёплыя пачуцці да яго.

Партызаны прыходзілі «шукаць зброю» яшчэ некалькі разоў, працягваючы запалохваць маці. Адзін з такіх візітаў ператварыўся ў сапраўдны начны кашмар. Познім вечарам банда партызанаў — здаецца, іх было пяцёра — увайшла ў наш дом. Іх камандзір — відавочна, мясцовы беларус — ізноў пачаў патрабаваць ад маці аддаць ім няісную «схаваную зброю». *«Аддай нам зброю, і з табой нічога не здарыцца»,* — патрабаваў ён. Вядома ж, маці ніяк не магла выканаць гэтага патрабавання, бо не мела, чаго аддаць. Партызан працягваў настойваць і пагражаць. Мае сёстры прыціснуліся да мамы. Маці ўмольна прасіла свайго мучыцеля, каб той паверыў, што ніякай зброі яна не мае. Яна была ўся ў слязах. Пазней яна стала перад ім на калені. Але гэта быў яшчэ не канец пакутам. Камандзір партызанаў загадаў маці выйсці з хаты. *«Зараз мы спалім гэты дом»*, — абвясціў ён. Мяне апанаваў абсалютны жах. Я адчуваў сябе так, нібыта перада мной расчынілася пякельная брама, і цэлы легіён д’яблаў штурхае мяне туды, проста ў шугаючае полымя. Мы ўжо пачалі выходзіць з дома, калі партызан сказаў: можаце вяртацца назад, цяпер я вам веру. Неўзабаве партызаны сышлі. Гэта быў адзін з самых змрочных момантаў майго жыцця…

Савецкія партызаны былі ў сутнасці бандамі тэрарыстаў, якія ўпарта здзекваліся з вясковых жыхароў, і не было ніякіх прычынаў, якія маглі б апраўдаць гэты разбой. Адзін маленькі прыклад: у

вёсцы непадалёк ад нас партызаны ва ўпор застрэлілі малацьбіта, які адмовіўся аддаць ім свайго каня, кажучы, што конь неабходны яму для працы ў малатарні. Заўважыўшы партызанаў, вяскоўцы ўздрыгвалі, ніколі не ведаючы, чаго ад іх чакаць і заўсёды баючыся самага горшага. Безумоўна, партызаны забівалі і нямецкіх салдатаў. Вялікая рэч! Якім галаўным болем ні былі б партызаны для немцаў, іх дзеянні не мелі значнага ўплыву на ход вайны. Вынік Другой сусветнай на еўрапейскім кантыненце вырашаўся на палях баёў: пад Сталінградам[51], пад Курскам[52], у пясках Паўночнай Афрыкі[53], на пляжах Нармандыі[54], — а таксама на нямецкіх прадпрыемствах, якія кавалі вайсковую моц Трэцяга рэйху. Амерыканскія стратэгічныя бамбардзіроўшчыкі, лётаючы сотнямі за адзін раз, сваімі ўдарамі раўнялі з зямлёй нямецкія вайсковыя заводы, прадукцыя якіх была жыццёва неабходная для нямецкай арміі.

Партызаны не дачакаліся ўдзячнасці ад сваіх ідэйных натхняльнікаў і замоўцаў. Як толькі Чырвоная армія «вызваліла» акупаваныя тэрыторыі ад немцаў, НКУС замардавала многіх славутых партызанскіх камандзіраў. Шараговыя партызаны былі, як я падазраю, накіраваныя ў Чырвоную армію альбо высланыя ў сталінскія лагеры прымусовай працы[55]. Цяпер, калі паслугі партызанаў больш не патрабаваліся, савецкія камісары вырашылі пазбавіцца ад іх сваім традыцыйным спосабам… Што было прычынай гэтаму — ці то «кепскія паводзіны» лясных братоў, ці то

---

[51] Ваенныя дзеянні па абароне Сталінграда (сёння горад Валгаград) і разгроме 6-й нямецкай арміі, вядомыя пад назвай **Сталінградская бітва**, адбываліся ў ліпені 1942 г. — лютым 1943 г. і сталі пераломнымі ў падзеях на Усходнім фронце Германіі.

[52] **Курская бітва** адбывалася 5 ліпеня — 23 жніўня 1943 г. і стала найбуйнейшай танкавай баталіяй у гісторыі.

[53] Маецца на ўвазе **Паўночна-афрыканская кампанія** Другой сусветнай вайны ў 1940–1943 гг., што адбывалася на тэрыторыі Егіпта і краінаў Магрыба пры ўдзеле 8-й Брытанскай арміі на чале з генералам Мантгомеры і амерыканкага войска на чале з генералам Эйзенхаўэрам. Кампанія завяршылася ў маі 1943 г. капітуляцыяй італьянска-нямецкіх войскаў па паўвыспе Бон у Тунісе.

[54] Маецца на ўвазе **высадка войскаў заходніх саюзнікаў у Нармандыі** 6 чэрвеня 1944 г., што стала пачатковым этапам аперацыі *«Overlord»*, якая завяршылася вызваленнем Парыжа 31 жніўня 1944 г. Дэсант саюзнікаў у Нармандыі быў адкрыццём Заходняга фронту Германіі.

[55] Масавых рэпрэсій у дачыненні савецкіх партызанаў пасля Другой сусветнай вайны не было. Больш за тое, іх часта прасоўвалі па партыйнай лініі, нават болей актыўна, чым франтавікоў.

недавер да іх з боку камуністаў? Хутчэй, другое. Крывадушнасць была вызначальнай рысай савецкай дзяржаўнасці — пачынаючы ад Іосіфа Сталіна і далей.

…Маме прыйшоў час нараджаць, і роды былі цяжкія. Яны пачаліся познім вечарам. Мне загадалі бегчы ў Сваткі па бабку. Павітуха, не губляючы ні хвіліны, паспяшалася са мной да нашага дома. У той самы вечар мама нарадзіла хлопчыка. Нікадзім быў з ёю, вельмі ўзрушаны, што трымае на руках свайго нованароджанага сына. Але пасля родаў у маці пачалася гарачка. Яна ляжала ў ложку без сілаў, не ў стане нават пакарміць немаўлятка. Каб уратаваць сына, Нікадзім знайшоў для яго карміліцу ў Сватках.

У гэты цяжкі час асабліва відочна праявілася любоў Нікадзіма да маці. *«Нікадзім прасядзеў каля матчынага ложка цэлую ноч. Раніцай ён загадаў нам, дзецям: будзьце каля мамы, не адыходзьце ад яе ні на крок, а я пабягу ў вёску па дапамогу»*, — узгадвала Фаіна. Нікадзім стрымаў слова: ён вярнуўся дадому вельмі хутка і прывёў яшчэ некалькі жанчын. Яны адразу ж абцёрлі маці вільготнай губкай, памянялі ёй пасцель, выпралі бялізну. Калі маці была дагледжаная належным чынам, жанчыны перайшлі на кухню і ўзяліся за гатаванне ежы. Яны засталіся ў нас на ноч і ў далейшым заўсёды былі гатовыя дапамагчы ў патрэбе.

На жаль, хлопчык, якога назвалі Віктарам, не выжыў. *«Праз дзень або два ягоны няспынны плач трохі сцішыўся, а потым дзіця змоўкла назаўсёды. Адзін раз у жыцці я бачыла, як Нікадзім плакаў, — калі ён глядзеў на нерухомы, загорнуты ў пялюшкі скрутак, што ляжаў на стале»*, — пісала Фаіна ў мемуарах.

Немаўлятка пахавалі на нашай зямлі, у агароджы магілы Пілсудскага, былога ўладальніка фальварка. Маленькі драўляны крыж пазначыў месца магілы брацікa.

Пакуль партызаны заставаліся ў наваколлі, Нікадзім жыў у стане заўсёднай трывогі за сваё жыццё, і ён больш не мог вынесці такога прэсінгу. Ён не хаваў сваёй заклапочанасці ад маці. Удваіх яны абмеркавалі сітуацыю, і Нікадзім вырашыў вярнуцца ў Астравок, бо там ён адчуваў сябе ў большай бяспецы. Нікадзім запэўніваў маці, што яна цалкам здольная сама ўправіцца з гаспадаркай. «Не забывайся, што на мне яшчэ чацвёра дзяцей!» — сказала маці. Тады Нікадзім прапанаваў, каб Ніна пераехала з ім у Астравок, дзе яна будзе пад надзейным доглядам ягонага брата. Маці пагадзілася. Нікадзім забраў Ніну і з’ехаў. Перад ад’ездам ён паабяцаў, што будзе «час ад часу» адведваць маці.

## Дзень трагедыі

Фальварак Сымоніха заставаўся матчынай уласнасцю. Яна пусціла туды жыць сям’ю, якой не было дзе прытуліцца. Хутчэй за ўсё, тыя людзі жылі ў Сымонісе, не плацячы маме нічога за арэнду — у якасці аплаты яны даглядалі сядзібу. Дарога з Марцінова да Сымоніхі ішла праз вёску Даўжані. Той нешчаслівай раніцай маці пайшла пешшу ў Сымоніху, каб паглядзець, як там ідуць справы. Мама сказала нам, што вернецца пасля абеду. Яна папрасіла, каб на час яе адсутнасці за намі прыглядала Вера Трахім — жанчына з Рудзевічаў, якая дапамагала маці па гаспадарцы, у прыватнасці даіла карову.

Сястра Фаіна апісала маму, якой яна запомніла яе перад адыходам у Сымоніху: *«Мама выглядала занадта хударлявай у сваім вельветавым пінжаку і белай блузцы з доўгімі рукавамі. Твар яе быў ажыўлены ад усведамлення мэты, якую яна перад сабой паставіла, і гэта надавала яму амаль дзявочы выраз. Як заўсёды, маміны белакурыя валасы былі закручаныя ў пляцёнку вакол галавы»*.

Наступіў і прайшоў абед, а мамы ўсё не было відаць. Калі сонца пачало садзіцца, Фаіна выйшла на вуліцу і доўга-доўга ўглядалася ў далячынь. Яна хацела пабачыць, як вяртаецца мама, але не пабачыла нікога. Калі зусім сцямнела, Фаіна зайшла ў дом і села на падваконні, гледзячы ў вакно і ўсё яшчэ спадзеючыся, што вось-вось мама выйдзе з цемры. Аднак і гэтым чаканням не лёс быў спраўдзіцца. (Магу толькі ўявіць, што адчувала Фаіна ў той вечар. Маё сэрца і сёння поўніцца шкадаваннем за пакуты сястры.)

Мама не прыйшла і назаўтра. А Фаіна ўсё верыла і малілася, каб мама вярнулася. Вера Трахім увесь гэты час была з намі, стараючыся супакоіць нас і даглядаючы гаспадарку. Праз суткі муж Веры, Васіль Трахім, пайшоў у Даўжані, каб распытаць, ці не бачыў хто нашай мамы ў дзень, калі яна знікла. І ён сапраўды знайшоў сведку тых падзей. Адзін вясковец бачыў, як партызаны валаклі нейкую жанчыну ў лес за вёскай. Ён чуў, як яна маліла сваіх забойцаў пашкадаваць яе малых дзяцей і не пазбаўляць яе жыцця… Васіль Трахім пагутарыў і з іншымі вяскоўцамі, спрабуючы дазнацца больш пра знікненне маці. Аповеды людзей развеялі апошнія сляды надзеі, што наша мама яшчэ жывая… Калі Васіль канчаткова ўпэўніўся, што маці загінула, ён вырашыў знайсці яе цела, каб пахаваць належным чынам. Пакуль ён шукаў па вёсцы, хто б пагадзіўся завесці яго ў лес і паказаць месца, дзе партызаны забілі маці, пагалоска пра гэтую справу дайшла да вушэй мясцовага камуніста. Гэты былы камуністычны ідэолаг, які быў у хаўрусе з партызанамі, груба загадаў Васілю не сунуць носа не ў свае спра-

вы і правальваць з вёскі чым хутчэй, калі ён не хоча нарвацца на вялікія непрыемнасці. Потым Васіля завялі ў дом, дзе жыў гэты камуніст, і там прыгразілі яму расправай за намеры вывезці і пахаваць матчына цела, а таксама загадалі надалей сядзець цішэй вады і ніжэй травы. Такім чынам, маміны парэшткі так і засталіся ляжаць у лесе…

Улетку 2000 года, калі я прыязджаў у Беларусь, я абавязкова хацеў знайсці месца, дзе матчына жыццё было абарванае бандыцкай рукою. Мікалай Корсак, мой праваднік і шафёр, прывёз мяне і маіх спадарожнікаў у Даўжані. Са мной былі: Гэлена Герман, мая стрыечная сястра са Шчэціна, Ліда Барабанава, мінская сяброўка Гэлены, і Ежы Шпэрковіч з Варшавы — яго сям'я жыла па-суседстве з сям'ёй Гэлены перад Другой сусветнай вайной. У Даўжанях мы адшукалі аднаго старога вяскоўца, які пагадзіўся завесці нас у лес і паказаць тое месца, дзе партызаны пакінулі цела маёй мамы. Гэтага старога звалі Уладзімір Шалапа, і тады, у 2000 годзе, яму ішоў восемдзесят другі год. Уладзімір быў высокім хударлявым дзядком, стрункім у паставе. Ён быў апрануты ў паласатую кашулю з доўгімі рукавамі, штаны запраўленыя ў боты вышынёй да калена, на галаве насіў кепку.

Мікалай правёз нас праз поле на ўскраек лесу. Адтуль мы пайшлі пешшу. Лес быў густа зарослы падлескам. Уладзімір Шалапа павёў нас па сцяжынцы, і мы зайшлі за ім даволі глыбока ў лес. У адным месцы сцяжынку перагарадзіла паваленае дрэва, давялося яго абыходзіць. Нарэшце сцяжынка вывела нас на невялікую палянку на ўзгорку. Тут стары спыніўся і пачаў апавядаць нам, што яму было вядома пра смерць Галіны, маёй маці. Партызаны застрэлілі яе менавіта на гэтым месцы. Потым яны адцягнулі цела на некалькі метраў убок, кінулі ў яму, сяк-так прысыпалі зямлёй і сышлі. Цела засталося ляжаць на спажыву ваўкам. Уладзімір сказаў, што яшчэ і праз два гады пасля забойства тут ляжаў чалавечы чэрап. Я спытаў яго, куды той чэрап потым падзеўся, але Уладзімір таго не ведаў.

Менавіта там і тады я вырашыў паставіць на гэтым месцы помнік, каб ушанаваць памяць пра маму. Мае спадарожнікі ў адзін голас падтрымалі такую ідэю. Помнікам, ад майго імя, пагадзіўся заняцца Мікалай Корсак. Улетку таго ж года Мікалай прыслаў мне фотаздымак ужо гатовага помніка, які мне вельмі спадабаўся. Без сумневу, Мікалай даверыў гэтую працу сапраўдным майстрам. Помнік уяўляў з сябе металічны крыж вышынёй каля дзевяці футаў (пад тры метры), умацаваны ў прастакутны бетонны падмурак, што выступаў над зямлёй. Вакол крыжа паставілі дэкаратыўную металічную агароджу вышынёй да пояса, а ў бетонны падмурак

умуравалі шыльдачку з літарамі *Д.Ш.Г.* — ініцыяламі матчынага дзявочага прозвішча, прозвішча па мужу і імя.

Уладзімір Шалапа ведаў пра абставіны, якія прывялі да матчынай смерці. У яе забойстве быў вінаваты мясцовы палымяны камуніст, жыхар Даўжаняў, партызанскі сувязны. Менавіта на ягоны загад партызаны здзейснілі гэты злачынны акт. Шалапа расказаў нам таксама, што сталася потым з гэтым камуністычным ідэолагам. Пасля вайны той пераехаў у горад, дзе працягваў займацца палітычнай прапагандай на нейкай ідэалагічнай пасадзе. Відаць, ягоная прапаганда моцна дзейнічала камусьці на нервы, бо агітатара ўрэшце выкінулі з акна шматпавярховага будынка, і ён разбіўся насмерць.

Помнік па маме дагэтуль стаіць на сваім месцы. Пакуль Мікалай Корсак быў жывы, ён рэгулярна адведваў яго, часам разам з унукамі. На вялікі жаль, Мікалай памёр ад інсульту некалькі гадоў таму. Цяпер Вера Клімовіч, дачка маёй стрыечнай сястры, яе сын і мая стрыечная сястра Ніна Жызлова, якая жыве са сваім мужам у Даўжанях, даглядаюць крыж і выполваюць траву вакол яго. Пра гэты помнік ведаюць і іншыя жыхары Даўжаняў. Я быў прыемна здзіўлены, пачуўшы аднойчы, як маладая жанчына расказвала, што яна збірала грыбы на *«Галінінай зямлі»* (маючы на ўвазе — каля сядзібы ў Сымонісе). Значыць, памяць пра маю маму захоўваецца і сярод новага пакалення вяскоўцаў.

Я магу толькі ўяўляць агонію маці і ўсё, што яна перажыла, пакуль яе цягнулі па лесе зласлівыя забойцы. Маці добра разумела, што чакае яе ў канцы сцяжынкі, і пакуты, якія яна цярпела ў гэты момант, пераўзыходзяць маё разуменне. Адна толькі думка пра іх разрывае мне сэрца. Маці зарызыкавала сваім жыццём у імя дзяцей — з мэтай захаваць для іх Марцінова. Мама, мая дарагая мама! Ты мая трагічная гераіня!

Калі Веры і Васілю Трахімам стала зразумела, што наша мама не вернецца назад, ім давялося вырашаць, што ж рабіць з намі, трыма дзецьмі — Фаінай, Ірынай і мной, каб нас уратаваць. Ірыну, наймалодшую з маіх сёстраў, забралі да сябе Марыя і Даніла Блізнюкі (Марыя была нашай цёткай па бацьку). Фаіна і я засталіся жыць у сям'і Трахімаў. Ніны на той час ужо не было ў Марцінове: Нікадзім, як я казаў, забраў яе ў Астравок яшчэ да трагедыі.

Відаць, для мяне пераезд з Марцінова ў Рудзевічы быў вельмі трагічнай падзеяй, бо я зусім не запомніў першыя дні пасля пераезду. Гэта таму, што наш мозг здольны заблакаваць самыя жудасныя падзеі, як бы выкрэсліваючы іх з памяці. Я не памятаю, напрыклад, што мне вельмі падабаліся кошкі і каты, не памятаю, што свайго ўлюбёнага ката я называў Башмачок, і ўяўлення не маю, што з ім

потым сталася. Пра ўсё гэта я ведаю толькі дзякуючы ўспамінам маёй сястры Фаіны. На шчасце, шок ад рэзкай перамены ў жыцці не трываў доўга. Праз нейкі час я ўжо адчуваў сябе ў Трахімаў як дома. Фаіне пераезд даўся цяжэй. Я чуў, як Вера сказала ёй аднойчы: калі табе тут ужо так моцна не падабаецца, дык ідзі куды хочаш! Фаіна адказала: аддай мне тое, што мне належыць, і я пайду. Памятаю, я адчуў тады няёмкасць за сестрыну няўдзячнасць да Трахімаў — пасля ўсяго добрага, што яны зрабілі для нас, сіротаў.

Васіль Трахім і два ягоныя сыны, Віця і Сяргей, перавезлі некаторыя нашыя хатнія рэчы, уключаючы частку мэблі, да сябе ў Рудзевічы. Рэшта нашай маёмасці захоўвалася на тэрыторыі Марцінова — за некалькі метраў ад дома, у прасторным склепе, пад замком.

Я кепска памятаю, на што я спадзяваўся ў той час, якімі марамі жыў. Магчыма, некаторыя з іх былі прарочыя. У любым выпадку ў мяне не было іншага выйсця, як цалкам пакласціся на волю лёсу.

## Пякельная ноч

Жахлівыя падзеі на гэтым не скончыліся. Аднойчы сярод начы Вера разбудзіла мяне крыкамі: *«Марцінова гарыць!»*. Я выскачыў з ложка, хутка накінуў на сябе штосьці з адзежы і выбег на двор. Сям’я Трахімаў ужо была там. Гэта было жудаснае відовішча, і яно засталося ў маёй памяці назаўсёды. Увесь небакрай палаў агнём. Гіганцкая сцяна агню падымалася проста ў неба. Пажар быў такі вялікі, што нават месца, на якім мы стаялі, было добра асветленае.

На тэрыторыі Марцінова было шмат вялікіх драўляных пабудоваў. Для патрэбаў нашай гаспадаркі нават у даваенныя часы многія з гэтых будынкаў былі завялікія. Яны засталіся ад часоў, калі тэрыторыя фальварка была значна большая за тую, што набыў тата. Сярод гаспадарчых пабудоваў былі: вялікі свіран для збожжа, дзве адрыны, дзе трымалі сена, салому і іншы корм для жывёлы, вялікі хлеў для кароваў і коней, меншы хлеў для авечак, вазоўня, вяндлярня, лазня на беразе рэчкі, надбудова над вялікім склепам, дзе захоўваўся ўраджай яблыкаў, і, вядома ж, сам дом.

Марцінова было не адзіным месцам, якое згарэла ў тую трагічную ноч. Лёс Марцінова падзялілі будынак школы і прыгожая драўляная праваслаўная царква ў Сватках. Хто ж падпаліў усе гэтыя будынкі? Партызаны. Спачатку яны падпалілі царкву і школу, а потым рушылі ў Марцінова, каб закончыць свой варварскі разгул.

Полымя яшчэ шугала ў паветра, калі мы пачулі стрэлы з аўтаматаў на дальнім, з боку Марцінова, канцы вёскі. Страляніна нарастала з кожнай хвілінай. Потым пачуліся крыкі. Я пачуў поўны жаху пранізлівы енк жанчыны: ён рэзка абарваўся, потым

пачаўся ізноў. Нецяжка было здагадацца, што ў вёску завіталі партызаны. Прадчуваючы самае горшае, Вера загадала нам, дзецям, спусціцца ў сутарэнне пад домам. Уваход у склеп быў з кухні праз квадратныя дзверы ў падлозе. Вера запаліла лямпу ў склепе і завяла туды мяне і Фаіну. Але доўга мы там не прабылі — баючыся, што партызаны падпаляць вёску, Вера перадумала і наказала нам вылезці са склепа і схавацца на бульбянішчы за домам. Бульбоўнік ужо падрос і стаяў высокі. Я ляжаў у баразне, прыціснуўшыся да зямлі. Страляніна раз-пораз усчыналася і абрывалася. Калі ўрэшце ўсё сціхла, мы вярнуліся ў дом. Потым я даведаўся, што крычала маладая незамужняя жанчына, прыгожая бландзінка. Партызаны хацелі змусіць яе да сексу. Спрабуючы ўратавацца ад гвалтаўнікоў, жанчына кінулася да калодзежа на двары, схапіла вяроўку, да якой было прывязанае вядро, і спусцілася на самае дно калодзежа. Пазней, як апавядалі вяскоўцы, партызаны пачалі пераконваць тую жанчыну, што ёй няма чаго баяцца і абяцалі, што не зачэпяць яе. Урэшце яна пагадзілася, каб яе выцягнулі з калодзежа на вяроўцы. Вось толькі мне невядома, ці стрымалі партызаны сваё абяцанне…

Няма сумневаў, што партызанам хацелася павесяліцца ў тую ноч — пасля такой удалай серыі падпалаў. Пэўна ж не выпадкова яны з’явіліся менавіта на тым канцы вёскі, дзе жыў мясцовы самагоншчык, які меў свой самагонны апарат. Я ўпэўнены, што партызаны панапіваліся да поўнай адключкі, і нават звыш таго. Чым яшчэ можна растлумачыць гэтую страляніну ўначы?

Я, відаць, быў у нейкім трансе, калі надышла раніца, цалкам прыгаломшаны падзеямі. Але новы дзень пакінуў на мне яшчэ адзін непазбыўны след. Пазней гэтай самай раніцай камандзір партызанаў прыслаў свайго чалавека ў дом Трахімаў, патрабуючы, каб той прывёў мяне і Фаіну. Вера прадчувала, пра што партызанскі камандзір будзе распытваць нас. Стоячы перада мной вельмі блізка і гледзячы мне проста ў вочы, яна сказала: *«Славік, калі партызан будзе пытацца ў цябе, ці ты любіш маму і тату, скажы яму, што ты іх не любіш і грэбуеш імі — інакш ён цябе таксама заб’е»*. Яна гаварыла гэта з вельмі сур’ёзным выразам твару.

Камандзір партызанаў часова абаснаваўся ў вясковай хаце, за некалькі дамоў ад Трахімаў. Калі нас прывялі, ён сядзеў за сталом. На выгляд яму было, напэўна, каля сарака пяці гадоў. Нязмушаны і нечакана цывілізаваны, ён махнуў нам рукой, каб мы таксама селі. Некалькі хвілінаў ён моўчкі разглядаў нас, потым пачаў размаўляць пра розныя дробязі. Урэшце ён задаў мне галоўнае пытанне: ці я люблю сваю маму. Нягледзячы на ўсе Верыны перасцярогі, я не змог стрымаць пачуццяў. Слёзы паліліся з вачэй, і я сказаў тое, што адчуваў: што я вельмі люблю маму. Калі камандзір запытаўся пра

тату, я адказаў, што люблю яго таксама. Партызан не каментаваў маіх адказаў. Нічога ён не сказаў і пасля таго, як запытаўся ў Фаіны, ці яна сумуе па сваёй маме. На гэтым пытанні скончыліся, і нам дазволілі вярнуцца назад.

Я і сёстры часова ўратаваліся ад партызанскага шалу, але мы заставаліся ў смяротнай небяспецы. Толькі нядаўна я даведаўся ад сваячкі, Веры Клімовіч (унучкі Данілы і Марыі Блізнюкоў), пра тое, як партызаны прыходзілі да іх дадому шукаць дзяцей Шабовічаў. *«Дзе яны?* — крычаў на Марыю адзін з іх. — *Мы хочам скончыць справу!»* — «*Адкуль мне ведаць, дзе яны*, — адказала Марыя. — *Калі вы прагнеце помсты, вазьміце ды забіце маіх дзяцей і мяне разам з імі»*. *«Не слухай ты дурную бабу*, — сказаў іншы партызан. — *Яна сама не ведае, што гаворыць»*. І партызаны сышлі.

З ліста, які напісала мне Вера, Марыіна ўнучка, я даведаўся, што смелы адказ Марыі партызанам зрабіў яе гераіняй у сям'і. Усе хвалілі яе за смеласць і высакароднасць, і гэты ўчынак Марыі стаўся ў сям'і легендарным.

Марцінова, якім я ведаў яго, знікла назаўсёды. Ад яго амаль нічога не засталося. Ацалелі толькі тры будынкі: карэтнік, склеп і напаўразбураны бровар — будынак з цэглы і камення, у якім гняздзіліся сотні галубоў. На пажары загінула наша чорная карова. Яе шкілет ляжаў на галавешках ад хлява, якія яшчэ смылелі. Мама вельмі любіла гэтую карову. Конь уратаваўся, бо ў тую ноч пасвіўся на вуліцы. Яго знайшлі ў самым дальнім куце агароджанага пляца, што прылягаў да хлява.

Калі я вярнуўся ў Марцінова ў 1991 годзе (цяпер яно называлася *«Калгас імя Леніна»*), бровар знік таксама. На працягу гадоў яго разбіралі, цагліна за цаглінай, выкарыстоўваючы як будаўнічы матэрыял.

Фаіна і я маглі б пераехаць да нашых дзядзькі і цёткі — Данілы і Марыі Блізнюкоў. Яны запрашалі нас прыехаць і жыць з імі. Я паспрабаваў пажыць у іх доме некалькі дзён, але адчуў сябе страшэнна самотным. Я хацеў быць побач з месцам, дзе нарадзіўся, — фальваркам Марцінова. Выглядае, што тое самае адчувала і Фаіна. Яна таксама вырашыла вярнуцца да Трахімаў. Ірка засталася ў Блізнюкоў, аточаная пільным клопатам цёткі Марыі.

У сям'і Трахімаў да нас ставіліся вельмі добра. Што яны самі елі, тое і нам давалі. Не памятаю, каб я хоць калісьці быў там галодны. Шчыра кажучы, я адчуваў сябе там, амаль як дома. Я вельмі любіў наваколле: рэчку Вузлянку, зялёныя лугі на яе берагах, духмяны лес за лугамі, шнуры грэчкі, зіхатлівыя палі жыта ў кропачках сініх валошак. І паўсюль былі птушкі, якімі я захапляўся.

Пакуль я жыў у Трахімаў, я дапамагаў ім у розных справах, вельмі захапляльных для мяне тады. Напрыклад, я хадзіў разам з імі ў бліжні лес у грыбы і ягады. Аднойчы, памятаю, мы зайшлі далёка ў лес, шукаючы ягады, падобныя да журавінаў. Раптам мы выйшлі на палянку, што была аж чырвоная ад ягадаў. За кароткі час мы напоўнілі кошыкі да краёў. Ягады, што мы назбіралі тады, мелі немалую бартэрную каштоўнасць. Большасць іх мы абмянялі на соль — соль была страшэнным дэфіцытам у вёсках падчас вайны.

А яшчэ быў выпадак, калі я пайшоў у лес адзін і наблукаў на палатачны лагер. Некалькі палатак стаялі шчыльна адна каля адной. Я зразумеў, што людзі ў гэтых палатках жылі стала, а не проста выехалі на пікнік. Каля палатак я заўважыў жанчын і дзяцей. Я не падыходзіў блізка, а калі ішоў назад, натрапіў на групу мужчынаў, магчыма, узброеных. Адзін з іх крыкнуў мне, каб я ішоў прэч. Мне не трэба было паўтараць двойчы — я ўцякаў адтуль з усіх ног. Жыхары палатак, як я даўмеўся потым, былі габрэямі, якія хаваліся ў лесе ад нацыстаў. Пэўна ж, вяскоўцы ведалі пра габрэйскі лагер, але ніхто і ніколі, уключаючы Трахімаў, не згадваў пра яго ў размовах.

Аднак самым захапляльным з жыцця ў вёсцы для мяне было ездзіць на кані. У сям'і Трахімаў быў прыгожы конь. Часта па вечарах вяскоўцы выводзілі коней у начное на бераг ракі. Коні пасвіліся на лузе да світання. Я заўсёды ахвотна пагаджаўся весці каня ў начное — у прадчуванні захаплення ад паездкі. З цягам часу я навучыўся досыць добра ездзіць на кані — на голай спіне, без сядла. У той час гэта было маім сапраўдным вялікім дасягненнем. На жаль, верхавая язда неўзабаве спынілася. Трахімы вельмі баяліся, што партызаны могуць забраць іхнага прыгожага каня, і яны знарок аблілі яго спіну нейкімі хімікатамі, каб з'явіліся ранкі. Адно суцяшэнне было — ведаць, што з цягам часу гэтыя ранкі загояцца.

Пакуль я жыў у Трахімаў у Рудзевічах, побач з Марціновам, я меў шмат магчымасцяў наведваць родныя мясціны. Я прыходзіў туды даволі часта. Чаму — я і сам не пэўны. Відаць, каб ажывіць успаміны пра лепшыя дні. Звычайна я хадзіў толькі па тым месцы, дзе стаяў наш дом. Часам я браў палку і калупаўся ёй на папялішчы, нібыта спадзеючыся знайсці нейкую сямейную каштоўнасць. Маю ўвагу прыцягнулі руіны скляпення. Склеп перажыў пажар, але ненадоўга. Цяпер на яго месцы была гара цэментных абломкаў. Прыгледзеўшыся, я зразумеў, што чыгуначныя рэйкі, якія падпіралі столь склепа, былі выдраныя з коранем. Як дзіўна! Каму маглі спатрэбіцца гэтыя брыдкія металічныя палосы, думаў я? А вось жа камусьці спатрэбіліся, ды яшчэ пільна. Інакш хто б хацеў брацца за такую катаржную працу — разламаць бетонны склеп — ды яшчэ і без магутных інструментаў?

Пясчаны бераг ракі насупраць былога двара стаў маім улюбёным месцам адпачынку. Я прыходзіў сюды, каб супакоіцца, паназіраць за прыродай і, час ад часу, аддацца феерычным фантазіям. Памятаю, аднойчы я сядзеў там, гледзячы на неба за ракой, і ўяўляў сябе камандзірам вялікага птушынага войска — у некалькі тысячаў вялікіх птушак, з шырока расстаўленымі крыламі, а пад кожным крылом прымацаваная бомба. Я амаль што бачыў наяве гэтую птушыную армаду, што набліжалася да мяне, і зачаравана сачыў за яе «палётам». І раптам — бац, вярнуўся да рэчаіснасці. Якімі б неверагоднымі ні былі мае фантазіі, яны не адрывалі мяне ад рэальнасці. Памятаю, я задумваўся над тым, чым буду зарабляць сабе на жыццё. Напрыклад, я прымяраў да сябе кар'еру вулічнага гандляра і нават выбіраў тавары, якімі буду гандляваць. На шчасце, да гэтага не дайшло.

Падчас маіх візітаў у Марцінова для мяне звычайнай справай было лаяцца з любой самай дробнай нагоды. Напрыклад, спатыкнуся аб камень — і адразу крычу ад злосці «*Ё... твою маць, Бог!*». Чамусьці менавіта гэтая лаянка вельмі забаўляла дарослых. Думаю, што прычынай такога несусветнага багахульства былі абставіны майго жыцця. Я спыніўся мацюкацца толькі пасля таго, як мой дзядзька Ян Жарскі[56] забраў мяне з сёстрамі да сябе ў Радашковічы.

Блукаючы па наваколлі, я ніколі не заходзіў у Сымоніху ці Дубавое. Вера Трахім сурова наказала, каб маёй нагі там ніколі не было. Яна сказала, што і я, і Фаіна апынуліся б у смяротнай небяспецы, калі б мы туды пайшлі. *«На руках гэтых людзей яшчэ не высахла кроў вашай маці, і яны заб'юць вас, не зміргнуўшы вокам»*, — навучала яна мяне. Я прыслухоўваўся да яе перасцярог.

Надышоў час жніва. У тыя часы было заведзена, што вясковы гаспадар наймаў малацьбіта, які прывозіў сваю малатарню разам з коньмі на ток да гаспадара. Таксама быў звычай, каб усе суседзі

---

[56] **Ян (Іван) Жарскі** (16.07.1899, в. Жары, сёння Вілейскі раён Мінскай вобл. — 21.09.1968, Кліўленд, Агаё, ЗША) — праваслаўны святар. Па заканчэнні Віленскай духоўнай семінарыі служыў у в. Мураванка (сёння Шчучынскі раён Гродзенскай вобл.). Потым служыў у Рудоміне пад Вільняй, а у 1929 г. быў прызначаны другім святаром у Радашковічы. У 1936 г. пераехаў у в. Жукаў Барок (каля Стоўпцаў), а ў 1939 г. вярнуўся ў Радашковічы, дзе служыў да 1944 г., пакуль не выехаў на эміграцыю. Праз Варшаву і Чэхаславаччыну апынуўся ў Германіі. Служыў у Гальдэнбергу і Майнгейме. У 1954 г. выехаў у ЗША. Служыў у Паўночна-Амерыканскай мітраполіі Рускай праваслаўнай царквы, цягам чатырох гадоў у храме Хрыста Збаўцы ў Нью-Ёрку, а пазней у храме Св. Феадосія ў Кліўлендзе. Пахаваны на могілках Свята-Ціханава манастыра ў Пенсільваніі.

збіраліся ў той дзень вялікай талакой, каб дапамагчы гэтаму гаспадару ўправіцца з малацьбой. Такая вялікая праца рабілася ўсяго раз на год, і ўсе суседзі дапамагалі адзін аднаму бясплатна. Скончыць малацьбу трэба было за адзін дзень, пакуль не сцямнела. Потым, каб адудзячыць усім памочнікам, гаспадар ладзіў вялікую вячэру ў сваім доме. Калі я жыў у сям'і Трахімаў, мне аднойчы таксама давялося дапамагаць пры малацьбе. Таму і я прысутнічаў на святочнай вячэры пасля заканчэння працы.

Мы сядзелі за доўгім сталом. Бутэлька абыходзіла стол, і самагонка лілася ракой. Стол быў застаўлены смачнымі стравамі. Усе ажыўлена гаманілі, раз-пораз размову перапынялі выбухі рогату. Людзі цешыліся з магчымасці адпачыць у добрай кампаніі. Раптам увага ўсіх скіравалася на дзверы. Увайшлі двое мужчынаў, абодва ўзброеныя. Я адразу пазнаў няпрошаных гасцей. Гэта былі былыя салдаты-чырвонаармейцы, якія калісьці жылі ў нас у Марцінове і дапамагалі маці па гаспадарцы. Цяпер яны былі паўнапраўнымі партызанамі. Кожны з іх меў расейскі «пісталет-кулямёт», з круглым патроннікам каля асновы ствала (на выгляд такія пісталеты нагадваюць улюбёную зброю гангстэраў банды Аль Капонэ[57] ў Чыкага[58]). Вядома ж, партызанаў запрасілі сесці да стала і павячэраць разам з усімі. Пасля некалькіх чарак языкі ў гасцей развязаліся. Салдат, якім мая мама калісьці захаплялася, сядзеў за сталом насупраць мяне. Ён запатрабаваў увагі. Усе размовы спыніліся. Партызан сказаў: *«Калі мой камандзір загадаў мне забіць "яе" (ён меў на ўвазе маю маці), я адказаў яму ў твар: не, я не магу гэтага зрабіць. Ён накрычаў на мяне за непаслушэнства і ў якасці пакарання ў мяне на месяц забралі зброю»*. Партызан не ўдаваўся ў далейшыя дэталі, і ніхто з гасцей за сталом, як выглядала, не меў ахвоты працягваць гаворку на гэтую тэму.

Нягледзячы на тое што гэты чалавек быў у партызанскім атрадзе і мусіў падпарадкоўвацца загадам, ён здолеў захаваць сваё сумленне. За ягоны ўчынак я пачаў яго паважаць. Бо ніякімі аргументамі нельга апраўдаць, каб культурны чалавек пагадзіўся ўдзельнічаць у зверствах — у якой бы сітуацыі гэты чалавек ні апынуўся. На жаль, не ўсе ў гэтым свеце ёсць культурнымі людзьмі…

---

[57] **Аль Капонэ** (Альфонса Габрыэль Капонэ, 1899–1947) — амерыканскі гангстэр, які дзейнічаў у 1920–1930-я гг. у Чыкага.

[58] **Чыкага** (англ. *Chicago*) — горад у штаце Ілінойс на ўзбярэжжы возера Мічыган. Трэці па колькасці жыхароў (пасля Нью-Ёрка і Лос-Анджэлеса) горад ЗША, найбуйнейшы транспартны вузел Паўночнай Амерыкі.

## Наш дзядзька Ян Жарскі выратоўвае мяне і сёстраў

Навіна пра забойства мамы ўрэшце дайшла да маёй цёткі Антаніны (Тоні) і дзядзькі Яна. Яны жылі ў Радашковічах, дзе дзядзька Ян быў парафіяльным святаром. Калі ў раёне Марцінова пачалі гойсаць партызаны, цётка Антаніна ўмольвала нашую маму, каб тая кінула фальварак і пераехала жыць да іх у Радашковічы, у «бяспечнае мястэчка». Мама тады адмовілася. Цяпер дзядзька і цётка вырашылі ўратаваць хоць бы рэшту сям'і Шабовічаў — дзяцей. Каб выбавіць нас з небяспекі, дзядзька Ян пусціўся ў вельмі рызыкоўнае па тым часе падарожжа. Ён прыехаў на цягніку ў Крывічы, а потым пайшоў да мясцовага праваслаўнага святара і спыніўся ў ягоным доме. У нядзелю пасля літургіі святар зрабіў з амбона агалошанне ад імя дзядзькі Яна. Ён распавёў прыхаджанам пра сіротаў, якія апынуліся ў цяжкім становішчы і якімі цяпер апякуюцца чужыя добрыя людзі. Іх дзядзька прыехаў сюды, каб забраць іх з сабой пад апеку жонкі, роднай сястры нябожчыцы — маці дзяцей. Ці ёсць сярод прысутных хтосьці, хто мог бы з'ездзіць у Рудзевічы і забраць дзяцей? Гэтаму чалавеку добра заплацяць, паабяцаў святар. А яшчэ больш важна, што ён дапаможа людзям і зробіць добры ў вачах Госпада ўчынак. Наперад выйшаў мужчына. Ён меў лёгкую павозку і добрага каня. І ён ведаў тыя мясціны, дзе знаходзіліся мы з сёстрамі.

Гэты чалавек, чыё імя я забыўся, прыехаў у Рудзевічы цішком, каб не прыцягваць увагі. Я ўпэўнены, што сям'я Трахімаў уздыхнула з палёгкай, калі даведалася, што дзядзька хоча нас забраць. Для іх гэта было шчаслівым вырашэннем нялёгкай праблемы. Трахімы насамрэч зрабілі настолькі шмат добрага для мяне і сёстраў, што ў мяне не хапае словаў, каб выказаць ім удзячнасць. Надзвычайныя людзі! Яны — красамоўнае сведчанне, што заўсёды знойдуцца людзі сумлення, якія не паддаюцца ідэалогіі зла.

Трахімы расказалі чалавеку, які прыехаў па нас, што мая самая малодшая сястра, Ірка, жыве ў сям'і Блізнюкоў, дзе цётка Марыя апякуецца ёй асабіста. Блізнюкі жылі не вельмі далёка ад Рудзевічаў. Вазніца пасадзіў нас усіх траіх на воз і павёз да дзядзькі. Дзіўна, што я зусім не памятаю, як мы ад'язджалі з Рудзевічаў. Відаць, я быў перапоўнены сумам. Калі вазніца перадаў нас дзядзьку Яну, ён яшчэ з'ездзіў у Астравок і прывёз Ніну. Здаецца, Нікадзім з братам не пярэчылі, каб ён забраў дзяўчынку.

Нарэшце мы ўсе, чацвёра дзяцей, ізноў сабраліся пад адным дахам — у доме святара. І дом, і сад былі вельмі прыгожыя. Дом быў абсаджаны маляўнічымі кустамі. Яшчэ ў гаспадара быў прыгожы сабака — нямецкая аўчарка. Сабаку дазвалялася вольна бегаць па

ўсім доме. У тую ноч, калі мы ўсе знаходзіліся ў доме святара, да яго нечакана завіталі партызаны — як заўсёды, без запрашэння і без папярэджання. Яны нічога не ведалі пра нас. Яны зайшлі, каб забраць былога чырвонаармейца, які знайшоў прытулак у доме святара і выконваў там розную працу па гаспадарцы. У салдата не было іншага выйсця, як пайсці з партызанамі. Відаць, яны прымусілі яго далучыцца да партызанскага атрада.

На нас усіх не хапіла ложкаў, таму я і адна з маіх сёстраў спалі на падлозе. Адзін з партызанаў заўважыў нас і спытаў, хто мы такія. Святар адказаў начному візітанту, што мы — дзеці ягонага блізкага сваяка, што прыехалі пагасцяваць на некалькі дзён. Больш роспытаў не было, і партызаны сышлі мірна. Гэты нечаканы начны візіт прымусіў дзядзьку Яна не на жарт перахваляваццa. Ён з палёгкай уздыхнуў, калі няпрошаныя госці сышлі.

Мы селі на цягнік на станцыі Крывічы — той самай, куды прыехаў дзядзька Ян. Я не вельмі памятаю, як выглядаў цягнік і вагоны. Ці былі там узброеныя нямецкія салдаты, каб абараняць людзей на выпадак налёту партызанаў? Не ведаю. Але я добра ведаю, што праца на чыгунцы была смяротна небяспечная для машыністаў. Тыя, хто працягвалі выконваць яе, нягледзячы на небяспеку, заслугоўваюць найвышэйшай удзячнасці.

Мы ехалі ў таварным вагоне, дзе, апрача нас, нікога не было. Дзядзька рассунуў дзверы вагона з абодвух бакоў. Нам ён загадаў сесці ззаду, дзе дзверы былі зачыненыя, — каб мы мелі дадатковую абарону ад куляў, калі раптам на цягнік нападуць партызаны. Сам дзядзька, наадварот, сеў пасярэдзіне вагона, паміж адчыненымі дзвярыма, каб яго добра было відаць з абодвух бакоў. На ім было звычайнае святарскае адзенне, даўжынёй да пят. На ягоных грудзях на металічным ланцужку вісеў вялікі праваслаўны крыж. Дзядзька знарок сядзеў навідавоку, спадзеючыся, што партызаны, заўважыўшы святара, не будуць страляць па вагоне. Дзякаваць Богу, мы дабраліся да Краснага[59] без прыгодаў. Ад Краснага да Радашковічаў мы даехалі на машыне.

Марцінова! Ты было маім Райскім Садам напачатку — і стала месцам найцяжэйшых пакутаў, якія немагчыма забыць. Даруй мне, што я вымавіў гэтыя словы. У тым, што здарылася, няма тваёй віны. Я дагэтуль люблю цябе. Ты жывеш у маіх снах. Даруй і бывай!

*Сакавік 2010 года*

---

[59] **Краснае** — вёска, цэнтр сельсавета ў Маладзечанскім раёне. Знаходзіцца за 16 км на паўднёвы ўсход ад Маладзечна. Чыгуначная станцыя тут мае назву Уша.

# 8. ЖЫЦЦЁ З ЦЁТКАЙ АНТАНІНАЙ І ДЗЯДЗЬКАМ ЯНАМ ЖАРСКІМ У РАДАШКОВІЧАХ

Наша цётка Антаніна не памятала сябе ад радасці, калі ўбачыла нас, чатырох сіротаў, жывымі і здаровымі. Са слязамі на вачах яна абдымала нас і прыцiскала да сябе. Цётка доўга распытвала нас пра сем'і, якія прыгарнулі нас пасля забойства мамы. Яна маліла Бога, каб той узнагародзіў гэтых добрых людзей за іх высакародны ўчынак. Але часцей за ўсё цётка вярталася думкамі да непапраўнай страты. Яна ніяк не магла змірыцца з фактам, што яе дарагой сястры, нашай мамы Галіны больш няма. *«Я ж так прасіла яе кінуць Марцінова і пераехаць да нас у Радашковічы!»* — бедавала цётка Тоня.

Пасля пераезду да цёткі і дзядзькі нашае жыццё шмат у чым стала іншым, лепшым. З першага дня цётка карміла нас вельмі сытна. Яна настойвала, каб мы елі больш, — спадзеючыся такім чынам кампенсаваць тыдні і месяцы, калі наш рацыён быў сціплы. А ў цётчынай гаспадарцы ежы нам ніколі не бракавала.

Адзенне, у якім мы пераехалі ў наш новы дом, даўно вынасілася і прасіла замены. Крамаў, дзе прадавалася б вопратка, паблізу не было, затое было шмат краўцоў, якія паспяхова запаўнялі гэты недахоп. Не адкладаючы справы надоўга, цётка замовіла ў краўцоў новае адзенне для ўсіх нас, уключаючы святочныя нядзельныя строі, бо ад нас чакалася, што мы будзем наведваць царкву штонядзелі.

Дзядзька і цётка заняліся нашым выхаваннем. Цётка Антаніна вучыла нас этыкету за сталом. Дзядзька ж Ян, у сваю чаргу, узяўся кіраваць нашым індывідуальным развіццём. Шмат разоў ён клікаў мяне да сябе ў кабінет і вёў са мной доўгія гутаркі. Кожны раз гэта была размова на нейкую канкрэтную тэму. Часам ён гаварыў пра рэлігію наагул. Іншым разам — пра праваслаўную хрысціянскую царкву і чым яна адрозніваецца ад каталіцкай. Дзядзька Ян быў непахісным адэптам праваслаўнай галіны хрысціянства. Каталіцкая царква была для яго чымсьці агідным, аднак да пратэстанцкіх цэркваў ён ставіўся памяркоўна. І ўсё ж большасць маіх гутарак з дзядзькам датычыліся прыватных тэмаў — ад адукацыі і да правілаў паводзінаў: як сябе трымаць, як апранацца, навошта трэба паважаць старэйшых. Дзядзька хацеў, каб я вырас адказным, законапаслухмяным і багалюбным чалавекам. Ён перасцерагаў мяне супраць падступнага ўздзеяння алкаголю і тлумачыў, чаму я мушу трымацца ад яго далей.

Цяпер, калі сям'я цёткі павялічылася на чатыры чалавекі, пытанні гігіены сталі аднымі з самых надзённых. Мне і сёстрам далі

вадкія лекі ад глістоў. Наколькі я памятаю, у мяне глістоў не знайшлі. А вось Фаіне пашанцавала менш. Яна перажыла сапраўдны жах, калі ўбачыла *«слізкія чырвоныя штукі»*, якія выйшлі з яе цела.

Аднойчы надвячоркам Фаіна гушкалася на крэсле-гушкалцы і глядзела ў вакно, за якім згушчалася сутонне. Раптам яна адчула востры сверб ніжэй спіны. Фаіна пацёрла месца, якое свярбела, і намацала рукой штосьці, што, як яна думала, было тонкай вяровачкай. Але гэта была зусім не вяровачка і не шнурок… Доўгі чырвоны гліст абвіўся вакол яе рукі. Фаіна страсянула рукой, закрычала з усіх сілаў і пабегла да цёткі — расказаць, што здарылася. Цётка Антаніна супакоіла Фаіну, што нічога страшнага тут няма. Потым цётка вымыла падлогу і выкупала Фаіну.

Раніцамі, падчас сняданку, цётка давала ўсім нам чатыром, а таксама свайму сыну Уладзіміру (Вову) рыбін тлушч. Цётка сказала, што ўсе мы мусім піць рыбін тлушч, пакуль у нас не палепшыцца колер твару і мы не перастанем выглядаць такімі бледнымі.

Дом цёткі Антаніны быў досыць прыгожа ўмэбляваны. Паколькі ў тыя дні я звяртаў мала ўвагі на дэкор памяшканняў, дазвольце мне працытаваць адзін з абзацаў з мемуараў Фаіны: *«Пярэдні пакой быў гасцёўняй і сталовай адначасова. Адразу пры ўваходзе стаяла французская канапа з габеленавай абіўкай і фатэль. Заднюю частку пакоя займаў вялікі стол, засланы карункавым абрусам. Вакол стала быў раўнамерна расстаўлены тузін крэслаў з высокімі спінкамі. На атынкаваных сценах былі выціснутыя маленькія чырванаватыя кветкі, што надавала пакою сучасны выгляд. Паабапал дзвярэй, што вялі ў пакой, віселі партрэты. На ўсіх трох вокнах фасада былі далікатныя карункавыя фіранкі, а на падваконнях стаялі вазоны з фіялкамі. Над жырандоляй вісела адна-адзінюткая электрычная лямпачка. У жырандолю, якую можна было падымаць і апускаць ніжэй, устаўляліся тоўстыя васковыя свечкі. Але галоўнай крыніцай святла былі, вядома ж, газавыя лямпы»*.

Дзядзька Ян меў прасторны кабінет. Спальняў у доме было няшмат, але для патрэбаў дзядзькавай сям'і іх хапала. Сам ён з жонкай спаў у вялікай спальні. Побач з ёю фіранкамі быў выгараджаны закуток, дзе спаў Вова. Мая стрыечная сястра Таісія (Тая) мела лепшыя ўмовы: у яе была сапраўдная спальня. Пакой Таісіі быў светлым і сонечным, пры ўваходзе стаяла піяніна. Высокая этажэрка была поўная кніжак. На вокнах віселі далікатныя тонкія фіранкі. У куце пакоя стаяла шафа чырвонага дрэва. У пакоі быў толькі адзін невялікі металёвы ложак, накрыты жоўтай вязанай капай.

Калі мы прыехалі жыць да дзядзькі і цёткі, іх дачка Тая вучылася ў школе ў Вільні. Яе пакой пуставаў, і яго аддалі нам, чатыром прыбышам. На Таіным ложку спала Ірына, наймалодшая з нас. Астатнія трое спалі на раскладушках. У нашым пакоі было цеснавата, але гэта не замінала мне спаць спакойным моцным сном, ноч пры начы.

У доме было дзве кухні — «маленькая» і «вялікая». У вялікай кухні стаяла цагляная печка, у якой выпякалі хлеб. Яшчэ там захоўвалася гародніна, хатнія кансервы, вэнджанае мяса і саленні накшталт квашанай капусты. Ежу ж гатавалі у маленькай кухні.

Частку свайго святарскага дома Жарскія з неабходнасці здавалі ўнаймы. Арэндаваная частка дома была падзеленая надвое. У адной палове кватаравалі муж і жонка Конрады. Муж быў дырэктарам пачатковай школы, якая знаходзілася непадалёк ад дома святара. У другой палове жыла незамужняя жанчына, якую мы клікалі «панна Анна». Панна Анна была піяністкай. Цётка Тоня дамовілася, што яна будзе даваць урокі ігры на фартэпіяна ўсім нам, за выключэннем зусім малой тады Ірыны.

Мае заняткі з паннай Аннай працягваліся нядоўга: я хутка пераканаўся, што не маю здольнасцяў да музыкі, і кінуў урокі.

Дзядзька Ян меў хобі — рабіць свечкі. За гэтым ягоным заняткам вельмі любіла назіраць Фаіна — яна не прапускала ніводнага разу, пільна сочачы за працэсам. Дзядзька павольна і акуратна ліў гарачы воск на кнот, потым паўтараў гэтую аперацыю зноў і зноў, пакуль свечкі не дасягалі неабходнай таўшчыні. Тады іх пакідалі астываць на некалькі гадзінаў, а потым разразалі на кавалкі. Саматробныя свечкі выкарыстоўваліся пры царкоўных набажэнствах.

Напэўна, абставіны навучылі дзядзьку быць эканомным. Ён ніколі не выкідваў агаркі свечак, што гарэлі ў царкве, а збіраў іх, сашкрабаў з іх воск і зноў выкарыстоўваў яго для вырабу новых свечак. Дзядзька лічыў, што выкідваць агаркі — гэта марнатраўства, тым больш у часы, калі свечкі не так лёгка было дастаць.

Дзядзька вельмі ганарыўся сваім умельствам. Фаіна памятае, як дзядзька браў з кошыка жменю жоўтых свечак уласнага вырабу, любаваўся імі — яны выходзілі ў яго вельмі роўнымі, аднолькавай даўжыні і таўшчыні — і казаў: *«Ну хіба ж яны не прыгажуні?!»*

Тут, у Радашковічах, я быў надзейна захінуты ад карцінаў гвалту, спароджанага дзеяннямі ваеннае пары. Цяпер я мог назіраць за вайной з бяспечнай адлегласці. Я бачыў павозкі з трунамі, якія ехалі паўз дом майго дзядзькі, кіруючыся на могілкі. Усе памерлыя былі з суседняй вёскі. На вёску наляцеў атрад немцаў, якія падпалілі хаты. Немцы стралялі па вяскоўцах, што спрабавалі ўцячы, і забілі многіх.

Я не думаю, што вышэйшае нямецкае камандаванне санкцыянавала такія дзеянні сваіх вайскоўцаў. Без сумневу, той налёт на вёску быў здзейснены на вар'яцкі загад камандзіра лакальнага вайсковага падраздзялення. Мы бачылі прынамсі адзін задакументаваны выпадак, як амерыканскія салдаты масакравалі мірнае насельніцтва падчас вайны ў В'етнаме. Як і варта было чакаць, вінаватым у гэтым разбоі аказаўся камандзір асобна ўзятага атрада.

Шмат хто з вяскоўцаў, якія перажылі напад, але чые дамы былі спаленыя, перабраліся ў Радашковічы. Некаторыя пайшлі жыць да сваякоў, іншыя былі вымушаныя шукаць міласэрных людзей, якія ўзялі б да сябе беспрытульных пастаяльцаў. Каля тузіна вяскоўцаў, якім не было куды падзецца, знайшлі часовы прытулак у дзядзькавым доме. Іх размясцілі ў вялікай кухні. Дзядзька Ян адслужыў у царкве адмысловую заўпакойную службу па забітых вяскоўцах.

Царква стаяла на пагорку, і гэты пагорак быў ідэальнымназіральным пунктам, з якога добра праглядалася ўсё наваколле. Сюды прыкамандзіравалі аддзел нямецкіх салдатаў, каб пільнаваць ваколіцы Радашковічаў у начны час. Салдатам патрабавалася месца для вайсковай базы і начлегу. Дом святара як нельга лепей падыходзіў да гэтай мэты. Каля дзясятка нямецкіх салдатаў перайшлі да нас жыць і занялі дзядзькаў кабінет. Уся падлога ў ім была пакрытая спальнікамі. Дзядзька вымушаны быў выкарыстоўваць пад кабінет іншае памяшканне ў доме. Пакой, дзе спалі нямецкія салдаты, ніколі не зачыняўся. Аднойчы ўначы я прабраўся туды на пальчыках, каб пагуляць са зброяй. Я нарабіў трохі шуму, але, на маё шчасце, салдат, які гучна хроп, не абудзіўся. Неўзабаве начныя дзяжурствы на пагорку спыніліся, салдаты выехалі ад нас, і кабінет ізноў перайшоў у дзядзькава карыстанне.

Яшчэ адным, відаць, самым нечаканым госцем у доме стаў нямецкі генерал. Ён прызямліўся на сваім аднаматорным самалёце на полі непадалёк ад нас. Генерал вырашыў, што дзядзькаў дом вельмі пасуе яму пад жытло. Як ён мог размясціцца ў нашым доме, не выцесніўшы дзядзьку і цётку з іхных пакояў, я не ўяўляю. Добра хоць, што генерал пражыў у нас нядоўга — ён выехаў менш чым праз тыдзень.

Мы прыехалі ў Радашковічы акурат перад пачаткам 1943/44 школьнага года. Пачатковая школа, у якую запісалі мяне, Фаіну і Ніну, знаходзілася метраў за дзвесце ад святарскага дома, на краю мястэчка. За школай было шырокае поле. Школа размяшчалася ў надзвычай вялікім прыватным доме. Яго ўладальніца, Кацярына Жалязоўская, з сваёй ахвоты аддала большую частку дома пад школу. Сама яна працягвала жыць у тым самым доме, у другой

палове. Фаіна запомніла яе як высокую бландзінку гадоў трыццаці, крыху паўнаватую, але элегантна апранутую.

Апрача заняткаў у школе, я далучыўся да беларускага моладзевага руху, які называўся «Юнакі»[60]. Мой стрыечны брат Вова ўжо належаў да гэтай арганізацыі. Як і астатнім сябрам руху, мне выдалі зялёную форму, якую мы надзявалі, калі хадзілі строем. На рукавах мы насілі бел-чырвона-белыя павязкі, у колерах беларускага нацыянальнага сцяга. Мы маршавалі, скандавалі лозунгі і спявалі. Для мяне хадзіць строем было зусім новым досведам, і мне гэты занятак спадабаўся ад самага пачатку. Але я не памятаю, каб мы калі-небудзь маршавалі на парадах.

Па сваіх задачах «Юнакі» не былі падобныя ні да нацысцкага «гітлерюгенду»[61], ні да савецкага камсамолу[62]. Нямецкая і савецкая арганізацыі былі створаныя з мэтай палітычнай і ідэалагічнай індактрынацыі моладзі. «Юнакі» ж, са свайго боку, прапагандавалі беларускасць і беларускі патрыятызм. З вяршыні майго жыццёвага досведу я магу засведчыць, што юнацтва — найлепшы час, каб прышчапіць чалавеку пачуццё нацыянальнай ідэнтычнасці, якое застанецца з ім назаўсёды. Гэта асабліва важна для нашага народа, бо, жывучы паміж двума дамінантнымі суседзямі з усходу і захаду, беларусы маюць тэндэнцыю страчваць сваю нацыянальную ідэнтычнасць і разглядаць сябе як «расейцаў» альбо «палякаў».

Паколькі маім апекуном быў святар, натуральна, што ён усклаў на мяне некаторыя царкоўныя абавязкі. Дзядзька Ян даручыў мне прыслужваць у алтары. Царква стаяла на ўзгорачку, і з дома святара яе было відаць як на далоні. Дарога да царквы была недалёкая і няцяжкая — туды вяла ўтаптаная сцяжынка праз поле. Дзядзька Ян арганізаваў будаўніцтва гэтай царквы пасля таго, як старую

---

[60] Хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе Саюз беларускай моладзі — моладзевая нацыянальная арганізацыя, створаная ў 1943 г., якая мела асобныя структуры для юнакоў і для юначак.

[61] **Гітлерюгенд** (ням. *Hitler-Jugend*) — нямецкая моладзевая ваенізаваная арганізацыя, галоўны кадравы рэзерв НСДАП. Створана ў 1922 г. як Моладзевая федэрацыя нацыянал-сацыялістаў. Сябрамі арганізацыі былі выключна юнакі ва ўзросце 14–18 гадоў.

[62] **Камсамол** — Усесаюзны ленінскі камуністычны саюз моладзі — палітычная моладзевая арганізацыя ў СССР. Створана першапачаткова ў Расіі ў 1918 г., а ад 1922 г. са стварэннем СССР атрымала ўсесаюзны статус. Моладзевая арганізацыя Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

царкву[63] разбамбілі нямецкія самалёты[64] — гэта здарылася на самым пачатку вайны паміж Германіяй і Савецкім Саюзам. Калі меркаваць па фотаздымках, у архітэктурным плане новая царква[65] моцна саступала старой. Тым не менш гэта была добрая царква, і яна цалкам задавальняла патрэбы парафіянаў. Яна і сёння стаіць у Радашковічах, служачы ўжо новым пакаленням вернікаў. Апошні раз я бачыў яе, калі наведваў Беларусь у 2000 годзе. Знадворку царква выглядае такой самай, як я запомніў яе з часоў вайны. Але царкоўная тэрыторыя стала значна больш упарадкаванай. Плакучыя бярозы, высаджаныя на царкоўным двары, ствараюць вельмі маляўнічы і прыемны для вока выгляд. Вакол царквы цяпер стаіць металічная агароджа, а перад уваходам — брама з цэглы і металу ў выглядзе аркі, што абапіраецца на два слупы. Такія брамы служаць ідэнтыфікацыйным сімвалам праваслаўных цэркваў. Металічныя дзверы брамы былі замкнёныя падчас майго візіту, і мне не ўдалося трапіць усярэдзіну.

Адным з маіх абавязкаў як алтарнага služкі было сачыць за кадзілам. Кадзіла ўяўляе з сябе невялікі металічны сасуд залатога колеру, падвешаны на трох ланцужках, з накрыўкай у форме высокага купала. У накрыўцы зробленыя адтуліны, а ў кадзіла закладаецца распаленае вуголле. Падчас багаслужбы на гэтае вуголле кладуць ладан, які, згараючы, дае непаўторны пах. У праваслаўнай царкве кадзіла выкарыстоўваецца падчас кожнай багаслужбы. Святар, які вядзе службу, раз-пораз размахвае кадзілам з боку ў бок. Калі дзядзька Ян хацеў, каб я падаў яму кадзіла, ён рабіў мне

---

[63] Маецца на ўвазе **Свята-Пакроўская царква**, пабудаваная ў Радашковічах яшчэ ў сярэдзіне XIX ст.

[64] Насамрэч царква згарэла ў час бамбардавання савецкімі самалётамі Радашковічаў 26 чэрвеня 1941 г. Дачка а. Яна Жарскага Таісія згадвала: *«Когда горели 26 июня Радошковичи и церковь, то мама сказала, чтобы я ехала к Романовским на Волоки, но я, доехав до церкви, вернулась, т. к. было очень большое пламя и невыносимый жар. Никто ничего не спасал, была всеобщая паника, суета. Летали советские самолёты, немцы стреляли по ним, люди в ужасе прятались кто куда. Мама (матушка Антонина) обнесла дом иконой Божией Матери три раза и поставила икону ликом к горящей церкви. Пламя в нашу сторону не пошло и дом церковный, в котором мы тогда жили, уцелел благодаря Богу»* (цыт. паводле: Шаплыко, Фома. Радошковичи православные. Białystok, 2008. С. 27).

[65] Новая царква — **Свята-Іллінская** — была пабудаваная пад кіраўніцтвам а. Яна Жарскага радашковіцкімі прыхаджанамі ў 1942–1943 гг. Першая багаслужба ў новай царкве адбылася на Вялікдзень 1943 г.

адмысловы знак рукой. Ягоны сын Вова таксама выконваў абавязкі алтарнага служкі.

Час ад часу мне даручалі біць у званы на царкоўнай званіцы — напрыклад, падчас пахаванняў. Адна толькі думка, што душа памерлага у гэты самы час лунае недзе побач, у царкве, выклікала ва мне страх. Памятаю пахаванне маладога паліцыянта. Ён быў забіты ў сутычцы з партызанамі. Ён ляжаў у адкрытай труне белага колеру (потым мне растлумачылі, што труну пафарбавалі ў белае, бо паліцыянт быў маладым чалавекам). Царква была перапоўненая людзьмі, якія прыйшлі з ім развітацца. Калі паніхіда скончылася, труну вынеслі з царквы на вуліцу. Людзі на руках знеслі труну ўніз з царкоўнага пагорка і там паставілі яе на адкрыты катафалк, у які быў запрэжаны конь. Доўгая чарада людзей ішла ўслед за катафалкам на могілкі, што размяшчаліся на ўскраіне мястэчка. У гэты час я знаходзіўся на званіцы. Я званіў паволі, чакаючы, пакуль рэха ад папярэдняга гулкага ўдару растане ў паветры. Мне ўяўлялася, што звон рассылае людзям нейкае таямнічае паведамленне.

Неўзабаве пасля пераезду ў дом дзядзькі Яна я знайшоў сабе хобі, а дакладней, заразіўся ім ад Вовы — запускаць папяровых змеяў. Я вельмі захапіўся змеямі і ахвотна бавіўся імі ў вольны час. Як і раней, мне значна больш падабалася бываць на вуліцы, чым сядзець у хаце. Паколькі мы жылі на ўскраіне мястэчка, я меў безліч магчымасцяў даследваць навакольныя палі. Але раз-пораз вяртаўся з гэтых экскурсій расчараваны, бо там абсалютна не было на што глядзець. Зразумела, былі і выключэнні. Вельмі цікавым аб’ектам для назірання аказаўся, напрыклад, збудаваны над ручаём мост, які быў часткай шашы з Радашковічаў у Мінск. Адкрытая прастора пад мостам была з усіх бакоў агароджаная некалькімі віткамі калючага дроту ды яшчэ ўмацаваная супрацьпехотнымі мінамі. Гэта былі захады бяспекі, каб партызаны не змаглі ўзарваць мост.

Паколькі гэтая шаша мела вялікае стратэгічнае значэнне для немцаў, яе добра ахоўвалі ад партызанаў. Непадалёк ад моста, на пагорку, я заўважыў назіральны пост, на якім знаходзілася трое нямецкіх салдатаў. А яшчэ я ўбачыў, як на гэтым самым участку шашы працаваў мінны тральшчык. Тройка коней цягнула на доўгіх тросах цяжкі металёвы валік. За валікам, на некаторай адлегласці ад яго, ішоў мужчына, трымаючы лейцы. Гэтая карціна мяне моцна ўразіла. З дапамогай такога эканамічнага спосабу немцы адшуквалі міны, якія партызаны маглі закапаць на небрукаванай шашы.

Часам я і Вова гулялі ў футбол на полі каля ручая, што цёк праз нашую частку мястэчка. (Ручай быў на тым самым месцы і ў 2000 годзе, калі я прыязджаў у Радашковічы.)

Нашае жыццё ў Радашковічах працягвалася да вясны 1944 года, калі сям’я Жарскіх была вымушаная пакінуць Беларусь, уцякаючы ад наступу Чырвонай арміі.

Падчас майго візіту ў Радашковічы ў 2000 годзе я і мой праваднік ўзабраліся на самы высокі пагорак на ўскрайку мястэчка, непадалёк ад таго месца, дзе я жыў. Адсюль адкрываліся вельмі прыгожыя краявіды. Я бачыў цэнтр мястэчка, праваслаўную царкву, дзе служыў мой дзядзька, каталіцкі касцёл, абсаджаны высокімі дрэвамі, дом святара, які быў калісьці і маім домам, а таксама наваколле Радашковічаў.

На гэтым пагорку немцы падчас вайны ўсталявалі пражэктар, які асвятляў мясцовасць уначы, паварочваючыся на 360 градусаў. Я быў здзіўлены, калі ўбачыў на вяршыні пагорка маленькія і добра дагледжаныя габрэйскія могілкі, абнесеныя металічнай агароджай. Пры могілках быў і вартаўнік, які парадкаваў тэрыторыю. Іншыя габрэйскія могілкі, вялікія і занядбаныя, знаходзіліся ніжэй на схіле.

## 9. УЦЯКАЮЧЫ З БЕЛАРУСІ НА НЯЗВЕДАНЫЯ ТЭРЫТОРЫІ

Нямецка-савецкі пакт аб ненападзе 1939 года абумоўліваў падзел Польшчы паміж Германіяй і Савецкім Саюзам. Германія мелася акупаваць заходнюю частку Польшчы, населеную пераважна этнічнымі палякамі. Савецкаму Саюзу дасталася ўсходняя частка, на якой спрадвеку жылі беларусы і ўкраінцы. Праз дзевяць дзён пасля падпісання пакта Германія напала на Польшчу. Не губляючы часу, Савецкі Саюз выслаў сваю Чырвоную армію ва ўсходнюю Польшчу, каб не ўпусціць сваю долю здабычы. Польшча як дзяржава перастала існаваць.

Гэтыя падзеі выклікалі катастрафічныя наступствы ў жыццях мільёнаў людзей паабапал ад лініі раздзелу, і сям’я Дубягаў трапіла ў іх лік. Пераняўшы кантроль над Заходняй Беларуссю, савецкія ўлады неадкладна распачалі нястомную барацьбу з так званымі ворагамі дзяржавы. Пераважная большасць настаўнікаў дзяржаўных і прыватных школаў былі арыштаваныя і бесцырымонна высланыя ў далёкія ўсходнія раёны Савецкага Саюза, пераважна ў Сібір. Не лепшая доля выпала і чыноўнікам, якія пры палякам працавалі на дзяржаўнай службе. Што датычыць вайскоўцаў, дык тысячы польскіх жаўнераў апынуліся ў лагерах прымусовай працы. Але афіцэраў чакаў куды больш страшны лёс… Савецкія энкавэдысты

расстралялі ў лесе каля вёскі Катынь[66] (заходняя частка Расіі) некалькі тысячаў польскіх афіцэраў. Чатыры тысячы целаў былі эксгумаваныя з масавых пахаванняў каля Катыні падчас нямецкай акупацыі[67]. Залішне было б казаць, што і да польскіх паліцыянтаў Саветы не мелі абсалютна ніякай літасці. Камандзіры (начальнікі паліцыі) былі зліквідаваныя адразу, часам проста ў сябе дома. Стук у дзверы, патрабаванне, каб вышукваны чалавек выйшаў наперад і пацвердзіў сваю асобу. Пасля гэтага — стрэл на месцы. Паліцыянты, якім удалося пазбегнуць экзекуцыі, былі высланыя ў ГУЛАГ, дзе яны працавалі як рабы.

Пазбавіўшыся ад польскага істэблішменту, савецкі рэжым перанёс сваю ўвагу на грамадства ў цэлым. Цяпер злавесны цень навіс над землеўласнікамі. Працэс калектывізацыі земляў разгарнуўся ўсур'ёз. У землеўласнікаў пазабіралі вялікія зямельныя надзелы (безумоўна, без усялякай кампенсацыі) і ператварылі іх у калгасы (кааператыўныя сельскагаспадарчыя адзінкі, якімі кіравала і ў якіх гаспадарыла дзяржава). Бяднейшых сялянаў таксама спешна пазаганялі ў калгасы. Савецкая прапагандысцкая машына называла буйных землеўласнікаў няйнакш як *«паразіты»*, *«эксплуататары рабочага класу»*, *«ворагі сацыялістычнага ладу»*. Былых уладальнікаў маёнткаў высылалі ў таварных вагонах на ўсход, у аддаленыя раёны Савецкага Саюза. Звычайнымі месцамі прызначэння для дэпартаваных былі Сібір і Казахстан.

Цётка Тоня нарадзілася ў маёнтку Дубавое, які належаў сям'і Дубягаў. У час, пра які ідзе гаворка, у маёнтку па-ранейшаму жылі яе сваякі: маці Стэфаніда, брат Канстанцін з жонкай і малой дачкой Гэленкай. Яшчэ адзін цётчын брат, Аркадзь, ведаючы пра пагрозу дэпартацыі, сышоў з дому і хаваўся дзесьці пад чужым імем.

Халоднай і снежнай зімовай ноччу ў Дубавое знянацку завіталі супрацоўнікі аддзела тайнай паліцыі. Сям'і Дубягаў было загадана хутка збірацца і выязджаць — на вуліцы ўжо чакалі вазы, запрэжаныя коньмі. Дубягам дазволілі ўзяць з сабой толькі некаторыя

---

[66] **Катынь** — вёска ў Смаленскім раёне Смаленскай вобласці Расіі, за 18 км на захад ад Смаленска. Стала вядомая дзякуючы масавым забойствам каля 4,4 тысячы польскіх грамадзянаў (пераважна палонных афіцэраў польскага войска), якія ажыццяўлялі супрацоўнікі НКУС СССР у лесе каля вёскі ў 1940 г.

[67] Раскопкі і эксгумацыю целаў у Катыні немцы пачалі ў 1943 г. Аднак савецкае кіраўніцтва абвяргала вынікі праведзенага расследавання і абвінаваціла ў масавых расстрэлах немцаў. Толькі ў 1990 г. прэзідэнт СССР М. Гарбачоў прызнаў датычнасць савецкага НКУС да падзей у Катыні. Сярод расстраляных там былі таксама сотні беларусаў.

асабістыя рэчы. Увесь астатні набытак, нажыты за гады працы на сваёй зямлі, яны мусілі пакінуць тут — на рабунак савецкай дзяржаве.

Наступнай раніцай я, як звычайна, ішоў у школу ў Сваткі. Нечакана ў цэнтры вёскі, на скрыжаванні дарог, я натыкнуўся на чараду вазоў, якія стаялі на месцы. У вазах, стуліўшыся ад холаду, сядзелі людзі, захутаныя ў зімовае адзенне. Раптам я пачуў знаёмы голас: *«Славік, Славік, хадзі сюды!»* Гэта была мая бабуля Стэфаніда, матчына мама! Яна памахала мне рукой, каб я падышоў, і прыветна заўсміхалася. Толькі я памкнуўся падысці да бабулі, як узброены вартаўнік перагарадзіў мне дарогу, штурхануў мяне назад і загадаў сыходзіць. Вось такое атрымалася развітанне з бабуляй. Я вельмі стараюся не прыгадваць гэты момант майго далёкага мінулага, бо мне цяжка бывае ўстрымацца ад слёз.

Сям'ю Дубягаў выслалі ў Казахстан. Па прыездзе іх проста высадзілі з цягніка на край дарогі, а далей людзі самі мусілі шукаць сабе прытулак і ежу. Дубягам, на шчасце, пашанцавала знайсці прыстанішча, і яны сяк-так маглі пракарміць сябе. Цётка Тоня, якая тады жыла ў Радашковічах, замужам за святаром дзядзькам Янам, рэгулярна дасылала сваякам у Казахстан пасылкі з ежай і адзеннем. За выключэннем дзядзькі Канстанціна, усім Дубягам удалося выжыць у суровых умовах высылкі. Канстанціна ў Сібіры адлучылі ад сям'і і выслалі ў лагер прымусовай працы. Больш ад яго не было звестак. Няма сумневаў, што ў лагеры ён і загінуў.

У 1941 годзе Германія напала на Савецкі Саюз. Напачатку нямецкая армія хутка наступала і прасунулася глыбока на савецкую тэрыторыю. Аднак з цягам часу Савецкі Саюз завалодаў ініцыятывай і пачаў выцясняць агрэсара назад.

Стаяў май 1944 года. Чырвоная армія набліжалася да Мінска, сталіцы Беларусі. Радашковічы (дзе я і мае тры сястры жылі ў сям'і дзядзькі Яна і цёткі Тоні разам з двума іхнымі дзецьмі) знаходзіліся не вельмі далёка ад Мінска. Праз Радашковічы з захаду на ўсход, у напрамку да Мінска, вяла вялікая шаша (яна і цяпер існуе). Па гэтай дарозе з нябачанай раней хуткасцю імчаліся на ўсход грузавікі з падмацаваннем: зброяй, амуніцыяй і людзьмі. Дзядзьку і цётцы стала зразумела, што нямецкія войскі адступаюць і не паспее прайсці некалькі дзён — нават не тыдняў! — як Чырвоная армія пяройдзе ў наступ. Цётку Тоню апанаваў жах. Адна толькі думка пра жыццё пад савецкім рэжымам наганяла на яе дрыжыкі. У цётчынай памяці яшчэ свежыя былі ўспаміны пра тое, што Саветы зрабілі з яе блізкімі, горача любімымі людзьмі. Цётка Тоня прадчувала — і мела на гэта ўсе падставы, — што як толькі прыйдуць бальшавікі

(гэтым словам усе прывыклі называць савецкі рэжым), яе ўласную сям'ю будзе чакаць лёс сям'і брата Канстанціна. Ну і вядома ж, цётчын страх перад савецкім камуністычна-дыктатарскім рэжымам яшчэ больш узмацніўся пасля таго, як увесну 1943 года партызаны забілі яе сястру Галіну (маю маму).

Дзядзька Ян меў свае ўласныя прычыны баяцца кіпцюроў савецкай тайнай паліцыі. У абсалютным жаху ён узгадваў сваю першую сустрэчу з супрацоўнікамі савецкіх спецслужбаў. Гэта было ў 1939 годзе, пасля першага прыходу Саветаў на ягоную радзіму. Камісары хацелі зрабіць дзядзьку сваім тайным агентам і прымусіць яго шпіёніць за парафіянамі. Рызыкуючы галавой, ён адмовіўся. Дзядзька Ян ненавідзеў савецкі камуністычны рэжым. Перспектыва зноў апынуцца пад тыраніяй і рэпрэсіямі палохала яго не жартам — такога шчасця ён ужо паспытаў. Таму дзядзька не бачыў іншага выйсця, як уцякаць на Захад.

Каля дома дзядзькі Яна акурат у тыя дні спыніўся нямецкі тылавы канвой. Гэта быў невялікі аддзел, усяго каля дваццаці машынаў, і сярод іх было шмат грузавікоў. Тая і Тамара Чыла, мае стрыечныя сёстры, завялі знаёмства з некаторымі афіцэрамі канвою. (Тамара Чыла жыла са сваімі бацькамі ў іншым мястэчку і прыехала пагасцяваць да Жарскіх. Калі дзядзька і цётка пачалі гаварыць пра выезд на Захад, Тамара вырашыла ўцякаць разам з імі.) Дзяўчатам удалося пераканаць афіцэраў, што для сям'і Жарскіх пытанне выезду з Беларусі — гэта пытанне жыцця і смерці. Тая і Тамара ўмольвалі афіцэраў дазволіць нам усім паехаць на траспарце канвою. Да вялікай радасці цёткі Тоні і дзядзькі Яна, такі дазвол быў атрыманы. Канвой меў загад паволі рухацца на захад, трымаючыся далей ад лініі фронту, якая няўмольна насоўвалася.

Падрыхтоўка да ад'езду пачалася адразу. Жарскія аддалі сваю любіміцу-карову суседзям. Шмат якія груваcткія рэчы паразда-валі тым, хто хацеў іх забраць. Мэблю і піяніна пакінулі ў доме чакаць новых гаспадароў — заставалася толькі спадзявацца, што яны будуць вартыя такога падарунка. Калі ж дайшла справа да высокага гадзінніка з боем, цётка Тоня нізавошта не захацела з ім разлучацца. Гадзіннік узялі з сабой. Вузлы з вопраткай, пасцельнай бялізнай, ручнікамі і кухоннымі прыладамі склалі ў грузавік. Перад самым ад'ездам цётка купіла некалькі вядзерцаў сала, каб узяць яго ў дарогу.

Дзень нашага ад'езду прыйшоўся на крытычны час. Пакуль мы цярпліва чакалі магчымасці пакінуць Радашковічы, мясцовыя вайсковыя і цывільныя ўлады абвясцілі ўсеагульную эвакуацыю. Кожны, хто хацеў з'ехаць з мястэчка, мог гэта зрабіць. А вось

дзяржаўным службоўцам, настаўнікам, паліцыянтам і асобам, якія прапагандавалі беларускія нацыянальныя інтарэсы, не проста давалі магчымасць, а настойліва прапаноўвалі выехаць разам з сем'ямі. Неўзабаве пачаўся масавы сыход людзей. Дарога, па якой мы ехалі, была забітая ўцекачамі, наколькі хапала вачэй. Запрэжаныя коньмі вазы, на якіх сядзелі жанчыны, дзеці і старыя, рухаліся па дарозе адзін за адным, след у след. Такое відовішча не забываецца! Дарожнабудаўнічыя машыны грукаталі побач у сваім няспешным тэмпе. І вядома ж, іншыя механізаваныя транспартныя сродкі, уключаючы наш канвой, спаборнічалі за праезд.

Я адчуваў вялікую палёгку, бо мы рухаліся прэч ад небяспекі, і большай часткай зусім не задумваўся, што чакае нас у будучыні. Надвор'е нам спрыяла: дні стаялі цёплыя і сонечныя. Вайскоўцы далі мне і Вову месца ў грузавіку з брызентавым дахам. Вова хутка знайшоў сярод пакункаў, якія перавозіў грузавік, скрынкі з разынкамі. Вось гэта быў сапраўдны банкет! (Пячаткі на скрынках сведчылі, што разынкі паходзілі з адной з краінаў Паўночнай Афрыкі.) Нарэшце канвой спыніўся для адпачынку у ваколіцах Гродна. Мы вылезлі з машынаў, якія прыпыніліся на ўскрайку поля, і далучыліся да грамады іншых уцекачоў. Большасць іх ехала ў павозках, запрэжаных коньмі. (Будучы вялікім аматарам жывой прыроды, я вельмі цешуся, што ў цывілізаваных краінах коней перасталі выкарыстоўваць у якасці цяглавай сілы.) Амаль усё сцерлася з памяці, засталіся толькі ўрыўкі ўспамінаў. Памятаю, напрыклад, як нейкі мужчына гадоў трыццаці запытаўся ў мяне: *«Ну і як ты мяркуеш? Ці будзе нам лепей, калі мы адсюль з'едзем?»* Я памаўчаў хвілінку, паглядзеў на мужчыну запытальна і адказаў: *«Я спадзяюся на лепшае»*.

Мільёны савецкіх грамадзянаў былі кінутыя ў мясарэзку змрочнага і няўдалага эксперыменту, распачатага савецкімі бальшавікамі: стварыць жыццяздольную камуністычную дзяржаву. Урэшце сістэма, прыдуманая Карлам Марксам і створаная Уладзімірам Леніным[68] і яго наступнікам Іосіфам Сталіным, абрынулася. Сістэма не змагла выканаць свайго абяцання: даць лепшае жыццё народным масам. У эканамічным плане сістэма правалілася адразу. Тым не менш насельніцтва Савецкага Саюза мусіла цярпець яе на працягу доўгіх сямідзесяці гадоў. Сёння некаторыя могуць запытацца: чаму савецкі рэжым трываў так доўга? Адказ вельмі просты: дзякуючы

[68] **Уладзімір Ленін** (сапр. Ульянаў, 1870–1924) — расійскі камуністычны тэарэтык, арганізатар і кіраўнік Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расіі, першы кіраўнік Савецкай дзяржавы.

брутальнай дыктатуры. А як толькі Міхаіл Гарбачоў[69] вырашыў адмовіцца ад дыктатарскага стылю кіравання, дэмакратыя хутка прыйшла на змену камунізму. Неўзабаве Савецкі Саюз перастаў існаваць, і пятнаццаць незалежных дзяржаваў паўсталі на ягоных развалінах.

Наступны раз мы спыніліся ў прадмесці Вільні (пасля вайны горад быў перайменаваны ў Вільнюс, і цяпер ён — сталіца Літвы). Канвой размясціўся на пастой непадалёк ад магістральнай шашы. На гэты раз, памятаю, мне пашанцавала, і я спаў у драўлянай хаце. Надвор’е было даволі прыемнае: цёплыя сонечныя дні і халаднаватыя зорныя ночы. Мы прастаялі там некалькі дзён. У ноч перад нашым ад’ездам пачалося сапраўднае пекла.

Я моцна спаў, калі мяне абудзілі грамавыя выбухі, што раздаваліся зусім побач. У тую ж хвіліну я выбег з дома. Неба перакрэслівалі промні пражэктараў, імкнучыся намацаць сілуэты бамбардзіроўшчыкаў. Я пабачыў, як людзі бягуць прэч ад дома, і пабег следам за імі. Мы схаваліся ў бліндажы, дзе можна было толькі стаяць (зямлянка, у якой мы апынуліся, па ўсёй верагоднасці, выкарыстоўвалася ўвосень як бульбасховішча). Дзякаваць Богу, праз нейкі час выбухі спыніліся. Ніколі раней я не чуў выбухаў такой аглушальнай моцы! Ніхто з нашага канвою не быў паранены падчас гэтага начнога налёту савецкіх бамбардзіроўшчыкаў. Не памятаю таксама, каб я бачыў варонкі ад бомбаў блізка да нашай стаянкі.

Афіцэры канвою вырашылі не затрымлівацца на гэтым месцы і не чакаць новых сюрпрызаў. Наступнай раніцай канвой выехаў з віленскіх ускраінаў. Пазней у той самы дзень мы разбілі лагер на беразе шырокай прыгожай рэчкі з няспешнай плынню. Мы прабылі там некалькі дзён, начуючы ў выгодных дамах непадалёк. Як на заказ, дні стаялі цёплыя і сонечныя. Вова, Тая і я некалькі разоў купаліся ў рацэ каля берага. Аднойчы, памятаю, нейкі дагала раздзеты хлопец падплыў да Таі і пачаў гарэзнічаць. Таіса закрычала. Ёй неяк удалося адчапіцца ад хулігана, і яна хутка выйшла на бераг.

Пасля гэтага прыстанку канвой накіраваўся ў Беласток[70] — горад ва ўсходняй частцы Польшчы. Канвой спыніўся на ўскраіне

---

[69] **Міхаіл Гарбачоў** (нар. 1931) — савецкі дзяржаўны і палітычны дзеяч. У 1985–1991 гг. — Генеральны сакратар ЦК КПСС. У 1990–1991 гг. — першы і адзіны прэзідэнт СССР.

[70] **Беласток** (польс. *Białystok*) — горад у сучаснай Польшчы, цэнтр Падляскага ваяводства. Знаходзіцца на захадзе этнічнай беларускай тэрыторыі, за 82 км ад Гродна. Увосень 1939 г. увайшоў у склад БССР, аднак 20 верасня 1944 г., паводле савецка-польскай дамовы, быў перададзены Польшчы.

горада, і нашыя нямецкія гаспадары паінфармавалі нас, што мы не можам больш заставацца з імі, бо яны атрымалі загад рыхтавацца да нейкай важнай місіі. Немцы прапанавалі завезці нас і нашыя рэчы на галоўны чыгуначны вакзал Беластока. Безумоўна, мы прынялі гэтую прапанову з удзячнасцю. Раніцай немцы павезлі нас у горад. На пад'ездзе да чыгуначнага вакзала мы ўбачылі некалькі будынкаў, пашкоджаных пры начных налётах савецкіх бамбардзіроўшчыкаў. Калі параўноўваць з інтэнсіўнымі бамбардаваннямі нямецкіх тэрыторый амерыканскімі і брытанскімі самалётамі, разбурэнні былі зусім нязначныя. Тым не менш пры адным толькі позірку на часткова разбомбленыя дамы цётку Тоню прабіралі дрыжыкі.

Мы селі на цягнік, які меўся вывезці нас далей ад небяспекі, прэч ад наступаючых дывізій Чырвонай арміі. З намі ў цягніку знаходзіліся іншыя сем'і бежанцаў. Гадзіны міналі, а цягнік усё стаяў на станцыі. Прычына была простая: вагоны не мелі лакаматыва. А яшчэ горш, што ніхто з чыгуначнага начальства не ведаў, калі ўдасца раздабыць для нас той лакаматыў. З набліжэннем вечара цётка Тоня запанікавала. Яна баялася, што ўначы прыляцяць савецкія самалёты і скінуць на нас бомбы. *«Мы мусім знайсці нейкі іншы спосаб выехаць адсюль, пакуль не наступіла ноч!»* — лямантавала цётка Тоня. *«Слушна кажаш, мама*, — падтрымала яе Тая. — *Тамара, хадзем пашукаем якога транспарту, каб выбрацца адсюль»*, — сказала яна стрыечнай сястры. *«Хадзем, я гатовая»*, — адказала Тамара. Цётка Тоня, вядома ж, таксама выправілася з імі. Тры жанчыны падышлі да чарады машынаў, якая выстраілася каля вакзала. Яны ўбачылі, што каля аднаго грузавіка стаіць група мужчынаў, жанчын і дзяцей, а ў кузаве ляжаць асабістыя рэчы. Цётка і сёстры запыталіся, куды накіроўваюцца гэтыя людзі, і пачулі ў адказ, што грузавік паедзе ў Варшаву. Жанчыны звярнуліся да нямецкага афіцэра, які кіраваў пасадкай у грузавік. *«Калі ласка, дазвольце нашай сям'і таксама паехаць на гэтай машыне!»* — пачалі прасіць Таіса і Тамара. А цётка Тоня хутка дастала з сваёй торбачкі царскую залатую пяцірублёвую манету і сунула яе афіцэру. Афіцэр пагадзіўся і сказаў, каб яны неслі свае пажыткі і сядалі ў грузавік без затрымкі.

Жанчыны пабеглі назад да вагона. *«Ваня, мы можам ехаць!»* — закрычала цётка Тоня дзядзьку Яну. Чацвёра дарослых хутка параіліся, што рабіць. Усе аднагалосна выказаліся за тое, каб ехаць на грузавіку. *«Хутчэй, хутчэй»*, — падганяла цётка Тоня, загадаўшы ўсім нам узяць з сабой па вядзерцу з салам. Я таксама панёс адно вядзерца да грузавіка, які нас чакаў. Здаецца, гэта яшчэ Напалеон

Банапарт[71] сказаў, што армія перасоўваецца на страўніках сваіх салдатаў. Апрача вядзерцаў з салам кожны захапіў з сабой столькі, колькі мог данесці. У цягніку засталіся вялікі гадзіннік, пасцельная бялізна, амаль усё нашае адзенне і большасць асабістых рэчаў. Мы дабеглі да грузавіка. Ён быў загружаны вузламі з рэчамі, а на вузлах сядзелі людзі, пераважна жанчыны і дзеці. На шчасце, там яшчэ заставалася дастаткова месца для нашай сям'і. Мы загрузілі ў грузавік тое, што прынеслі з сабой, акуратна ставячы вядзерцы з салам вертыкальна. Я прытуліўся да нейкага мяккага вузла. Абапіраючыся на яго, я мог сядзець паўлежачы-паўседзячы, і гэты вузел крыху засланяў мяне ад ветру. Грузавік крануўся з месца, калі ўжо пачынала цямнець. Я сядзеў тварам назад. Усю ноч я драмаў, засынаючы і прачынаючыся, і глядзеў на зоркі, якія мільгацелі над галавой.

Значна пазней мы даведаліся, што цягнік, які мы пакінулі ў Беластоку, паехаў ва Усходнюю Прусію — раён на паўночным усходзе Еўропы, на Балтыйскім моры. Усходняя Прусія была часткай Германіі, і на працягу стагоддзяў там жылі этнічныя немцы. Пасля Другой сусветнай вайны Усходняя Прусія[72] перастала існаваць. У 1945 годзе Іосіф Сталін падзяліў яе тэрыторыю паміж Польшчай і Савецкім Саюзам[73]. Этнічных немцаў з Усходняй Прусіі павыганялі. Але гэтым, каго выгналі, яшчэ пашанцавала. Праз шмат гадоў, калі я працаваў у Панамерыканскім універсітэце Эдынбурга (штат Тэхас)[74] бібліятэкарам па развіцці фондаў, я неяк гартаў «Дэр Шпігель»[75] (нямецкі тыднёвік). Адзін з выпускаў тыднёвіка дагэтуль стаіць перад вачамі. Там была фатаграфія жанчыны і

[71] **Напалеон Банапарт** (1769–1821) — генерал французскай рэвалюцыйнай арміі, у 1799–1804 гг. — першы консул Першай Французскай Рэспублікі. У 1804–1814 гг. — імператар Францыі.

[72] **Усходняя Прусія** (ням. *Ostpreußen*) — правінцыя Прусіі з цэнтрам у Кёнігсбергу, знаходзілася ў складзе Германскай імперыі.

[73] Прусія як дзяржаўнае ўтварэнне спыніла існаванне паводле рашэння Патсдамскай канферэнцыі 1945 г. Частка Усходняй Прусіі са сталіцай, перайменаванай у Калінінград, апынулася ў складзе РСФСР, дзве трэці яе тэрыторыі ўвайшлі ў склад ЛітССР і Польшчы.

[74] Маецца на ўвазе **Тэхаскі Панамерыканскі ўніверсітэт** (англ. *The University of Texas — Pan American*) — універсітэт штата Тэхас, заснаваны ў 1927 г. у г. Эдынбургу (англ. *Edinburg*).

[75] **«Шпігель»** (ням. *Der Spiegel*, у перакладзе «люстра») — адзін з самых вядомых і чытаных штотыднёвых часопісаў у Германіі і Еўропе з больш як мільённымі тыднёвымі накладамі. Выдаецца ў Гамбургу ад 1947 г.

дзіцяці, якому на выгляд было ўсяго некалькі месяцаў. Яны ляжалі нежывыя на тратуары, і адзенне на іх было задранае так, што былі відны геніталіі. Подпіс пад здымкам тлумачыў, што жанчына і дзіця былі замучаныя аддзелам помсты савецкай Чырвонай арміі. Гэта садызм у ягоным найгоршым выглядзе, падумаў я. Прадукт аднаго з найбольш варварскіх рэжымаў дваццатага стагоддзя!

Калі я адклаў часопіс убок, думкі перанеслі мяне на чыгуначны вакзал у Беласток, дзе ўвесну 1944-га мы чакалі і чакалі лакаматыва, які ўсё не прычаплялі да цягніка. Як добра, што мы не засталіся ў тым цягніку і не паехалі на ім ва Усходнюю Прусію!

Наш грузавік прыехаў у Варшаву на світанку. Мой стрыечны брат Вова (Уладзімір / Уолтэр) толькі нядаўна сказаў мне, што ў Варшаве нас спачатку накіравалі ў нейкую ўстанову накшталт канцэнтрацыйнага лагера. Яшчэ ён сказаў, што жыхары гэтага лагера былі вельмі худыя, скура ды косткі. Гэтае адкрыццё ўразіла мяне бязмежна. Я папросту не памятаю знаходжання ў месцы, якое было б настолькі жахлівым. У той самы час у мяне няма падставаў сумнявацца ў аповедах Вовы. Чалавечы розум часам дзіўна гуляе з нашай памяццю. Загадкавым чынам розум здольны цалкам адключаць некаторыя блокі памяці з нашага мозгу.

Паводле аповедаў Вовы, цётку Тоню, Таю і Тамару прымушалі працаваць у канцлагеры прыбіральшчыцамі. Каб выбрацца з лагера, цётка Тоня падкупіла аднаго з начальнікаў залатой царскай манетай. Гэта спрацавала. Нас перавялі ў месца, якое адпавядала нашаму статусу бежанцаў.

Тэрыторыя перасыльнага лагера, дзе мы апынуліся, была абнесеная па перыметры калючым дротам. Аднак вароты ў лагер былі адчыненыя і не ахоўваліся. Знадворку лагера, адразу каля ўвахода, стаяў барак з душам. Ён прызначаўся для насельнікаў лагера. Літаральна насупраць брамы высіліся некалькі пабеленых шматпавярховікаў. Памятаю, я самавольна зайшоў у адзін з іх, каб скарыстацца прыбіральняй. Мяне вельмі ўразіла, што прыбіральня была вельмі чыстая і ў ёй быў унітаз. Але як толькі я выйшаў адтуль, нейкі мужчына пачаў крычаць на мяне па-польску: *«Ты, такі й растакі расеец, прэч адсюль, і каб ты не смеў з’яўляцца тут ізноў!»* Я пабег у лагер, нават не задумваючыся, ці гэты чалавек сапраўды мае права там камандаваць. У лагеры я адчуваў сябе ў бяспецы.

Не ўсе жыхары лагера ўцякалі ад савецкай тыраніі. Сярод іх былі сем’і, якіх немцы прымусова вывезлі з беларускіх вёсак у Германію, бо ў Трэцім рэйху не хапала працоўных рук. Нечакана для саміх сябе мы таксама зрабіліся працоўнай сілай. Але я не магу сказаць, што кіраўніцтва лагера ставілася да яго насельнікаў

зняважліва. Я памятаю беларускага паліцыянта, які знаходзіўся ў лагеры разам са сваёй сям'ёй. Ён заўсёды хадзіў у сваёй форме, на грудзях віселі медалі. Аднойчы паліцыянт чамусьці вырашыў іх зняць. Нямецкі афіцэр, які распараджаўся ў лагеры, загадаў яму прышпіліць узнагароды назад. Паліцыянт падпарадкаваўся.

Дзядзька Ян, цётка Тоня, Тая і Тамара нястомна шукалі магчымасці выехаць з Варшавы, бо добра ўсведамлялі, што горад немінуча капітулюе перад націскам Чырвонай арміі. Да ўсеагульнай палёгкі, праблема вырашылася нечакана і сама сабой. У наш лагер прыехаў прадстаўнік ад завода, размешчанага ў акупаванай немцамі Чэхаславаччыне, каб набраць людзей для працы на вытворчасці. Гэты пажылы мужчына, якога, калі не памыляюся, звалі гер Шрайбэр, выбраў некалькі сем'яў, у тым ліку і нашу.

Нас павезлі на цягніку, у пасажырскіх вагонах. Цягнік рухаўся вельмі павольна, часта спыняючыся, пакідаючы вагоны на запасных шляхах. Дарога да месца прызначэння заняла некалькі дзён. Нарэшце мы прыехалі ў горад Гогенштат, які пазней быў перайменаваны ў Забрэг[76] і цяпер знаходзіцца ў Чэшскай Рэспубліцы. Адтуль усю нашую групу перавезлі ў вёску Лештына[77], за некалькі кіламетраў ад Гогенштата. Вёска ляжала каля падножжа маляўнічага і часткова парослага лесам горнага ланцуга. На дальнім канцы вёскі горныя схілы былі ўзараныя пад пасевы. Разнастайныя сельскагаспадарчыя культуры раслі на ўзараных тэрасах. Што за прыгажосць! — думаў я. Я ніколі ў жыцці не бачыў нічога падобнага.

Нас усіх пасялілі ў будынку, дзе раней, відаць, размяшчаўся грамадскі цэнтр вёскі. Цяпер у зале з высокай столлю блізка адзін да аднаго стаялі двух'ярусныя ложкі, засцеленыя прасцінамі. Будынак стаяў у самым цэнтры, на галоўнай вуліцы. Задняя сцяна яго выходзіла на горы.

Нашая група ўяўляла з сябе стракаты натоўп: дарослыя мужчыны і жанчыны, дзеці, падлеткі накшталт мяне самога і двое, можа трое, старых. Ясна, што малыя і нямоглыя былі вызваленыя ад працы. Некалькі дарослых былі вызваленыя ад працы з палітычных альбо рэлігійных прычынаў, як мой дзядзька Ян. Таксама было дазволена не працаваць жанчыне, якая нядаўна нарадзіла. Астатнюю большасць жыхароў лагера падзялілі на дзве катэгорыі. У першую

---

[76] **Забрэг** (чэшск. *Zábřeh*, ням. *Hohenstadt*) — горад у Аламоўцкім краі сучаснай Чэшскай Рэспублікі. У 1939–1945 гг. знаходзіўся ў складзе адабраных немцамі ад чэхаў Судэтаў.

[77] **Лештына** (чэшск. *Leština*) — вёска ў Шумперскай акрузе Аламоўцкага краю Чэшскай Рэспублікі.

ўключылі здаровых мужчынаў, якія маглі выконваць цяжкую фізічную працу. Ім даручылі грузіць боепрыпасы ў таварныя вагоны, якія накіроўваліся на Усходні фронт. На працу мужчыны мусілі хадзіць пешкі з Лештыны ў Гогенштат. Ім давалі дадатковы рацыён і раз на дзень, падчас працоўнай змены, кармілі іх сытным абедам. Работнікі, якіх уключылі ў другую катэгорыю, працавалі на розных участках на заводзе, які выпускаў электраматоры. Да гэтага завода ад нашага лагера было сорак пяць хвілінаў хады хуткім крокам.

Я таксама не застаўся без працы. Мяне далучылі да раздачы гарачых абедаў. Абеды цэнтралізавана гатаваліся на кухні, на тэрыторыі завода, адзін раз на дзень — апоўдні. Па чарзе з іншымі хлопчыкамі майго веку я і яшчэ адзін хлопчык павінны былі цягнуць вазок на чатырох колах з нашага лагера ў Лештыне на завод. Там, на кухні, кухары раскладалі гарачую ежу па тэрмасах, ставілі іх на вазок, і мы цягнулі яго некалькі кіламетраў назад, у лагер, дзе нас ужо нецярпліва чакалі. У гарачыя летнія дні мы, калі пераязджалі праз ручай, спыняліся там на некалькі хвілінаў. Бурлівая халодная вада, якая збягала з гораў, была крышталёва чыстая. Я акунаў туды галаву і адчуваў невымоўную асалоду. Цяпер, на сённяшні дарослы розум, гэта можа паказацца дзіўным, але я нічога не меў супраць, каб хадзіць па ежу на кухню. Гэтая праца дазваляла мне рабіць штосьці карыснае і пазбегнуць лагернай нудоты. Апрача таго, на кухні нам давалі дадатковую ежу. З заводскай кухні ежа дастаўлялася ў лагер на вазку толькі адзін раз на дзень — у абед. Прадукты для сняданку і вячэры траплялі ў лагер іншымі шляхамі. Па-за паходамі на заводскую кухню, я падарожнічаў па наваколлі і аднойчы ўзабраўся на самую вяршыню гары, што стаяла пры канцы вёскі. Падарожжа атрымалася беспрыгодным, затое я назбіраў на пагорку чырвоных вішняў, якія прынёс у лагер, каб падзяліцца з астатнімі.

Паволі набліжалася восень, і наш лагер перавялі з Лештыны ў Лесніцэ[78] — вёску, ад якой да Гогенштата і да завода было крыху бліжэй. Ізноў нас пасялялі ў будынку з вялікімі пакоямі накшталт аўдыторый. Наш дом стаяў на ўскрайку вёскі, за ім ужо пачыналіся культываваныя палеткі. На гэты раз нашую тэрыторыю не сціскалі з абодвух бакоў двары вясковых жыхароў. Перад будынкам была вялікая пляцоўка, парослая травой. Маю ўвагу прыцягнула купа пустых драўляных прычэпаў, якія грувасціліся ўдалечыні каля агароджы. Я неяк запытаўся пра гэтыя прычэпы і даведаўся, што

---

[78] **Лесніцэ** (чэшск. *Lesnice*) — вёска ў Шумперскай акрузе Аламоўцкага краю Чэшскай Рэспублікі.

яны належалі габрэям, якія ўцякалі ад нацыстаў. Я не ведаў, які лёс напаткаў тых габрэяў. Але спачуваў ім, бо сам уцякаў ад Саветаў.

Сям'і пажылых сялянаў, чый дом стаяў праз вуліцу, гледзячы вокнамі на наш лагер, патрабавалася дапамога са зборам ураджаю. Аднойчы сонечным днём стары селянін паманіў мяне рукой. Ён запытаўся, ці не хацеў бы я дапамагчы ім сабраць ураджай, і паспяшаўся дадаць, што за працу мне заплацяць. Я пагадзіўся адразу ж. (Да таго часу я пачаў ужо някепска разумець гутарковую чэшскую мову.) Палі, якія належалі гэтаму селяніну, таксама былі недалёка ад тэрыторыі лагера.

Пакуль цягнулася восень, я дапамагаў селяніну збіраць бульбу, капусту, чырвоныя буракі і, магчыма, нейкую іншую гародніну. Узамен жонка фермера досыта карміла мяне ў іхным доме. Яна давала мне разнастайную выпечку, торты і іншую ежу, каб я ўзяў яе з сабой у лагер. Апрача таго, муж з жонкай апранулі мяне. Да гэтага часу маё адзенне ператварылася практычна ў лахманы. Тыя пару адзежынаў, якія я ў спешцы захапіў з цягніка на беластоцкім вакзале, вынасіліся дарэшты, і ў мяне не было аніякай цёплай вопраткі. Старыя сяляне далі мне груду ўжыванага адзення, прыдатнага для восені, зімы і вясны. Шкарпэткі былі зацыраваныя, але яны паслужылі мне вельмі добра. Цяпер я выдатна разумею, што тыя ўжываныя рэчы былі самай карыснай платай за маю працу ў гаспадарцы фермера. Я так і застаўся б без цёплай вопраткі на зіму, каб не шчодрасць гэтых двух старэнькіх сялянаў.

Мае сёстры, Фаіна і Ніна, таксама не сядзелі без справы. Яны заняліся жабраваннем. Грукаючыся ў дзверы вяскоўцаў, яны прасілі ў людзей даць ім трошкі ежы. Іх занятак прыносіў неблагі плён. Вяскоўцы сардэчна адгукаліся на просьбы, калі бачылі на сваім парогу дзвюх худзенькіх дзяўчынак. Часцей за ўсё ім давалі штосьці з выпечкі. Я памятаю, сёстры часам прыносілі так званыя бучты[79] (салодкія рулеты). О, якія яны былі смачныя! Мая наймалодшая сястра Ірына, якую мы ласкава звалі Ірка, не ўдзельнічала ў жабраванні. Яна была яшчэ замалая, каб бадзяцца па вёсцы. Цётка Тоня ніколі б не дазволіла Ірцы хадзіць разам з сёстрамі, нават калі б тая і прасілася.

Цётка Тоня, будучы жанчынай практычнай і здольнай знайсці выйсце з усіх сітуацый, без пайковых картак купляла ў мясцовай краме розныя прадукты, уключаючы выспелы сыр. У якасці гро-

---

[79] **Бучта** (чэшск. *Buchta*) — чэшская салодкая выпечка з дрожжавага цеста, часта з сочывам. Распаўсюджаная і па-за Чэхіяй у Цэнтральнай Еўропе.

шай яна выкарыстоўвала польскія срэбныя злотыя — манеты, якія нагадвалі амерыканскія срэбныя даляры. Польскія папяровыя злотыя выйшлі з абароту яшчэ ў 1939-м, калі Польшча была падзеленая паміж Германіяй і Савецкім Саюзам. Але злотыя ў манетах захоўвалі сваю каштоўнасць на чорным рынку, бо былі зробленыя са срэбра.

Мой уклад да сямейнага абедзеннага стала быў мінімальны. Але прыйшоў час, калі і мая дапамога спатрэбілася. Цётка падахвоціла мяне рызыкнуць купіць хлеба ў мясцовага пекара. Я ахвотна пагадзіўся. Аднойчы позна ўвечары я зайшоў у пякарню і папрасіў пекара прадаць мне хлеба. У мяне не было прадуктовых картак. Не задаючы пытанняў, пекар працягнуў мне тры вялікія буханкі хлеба з грубай жытняй мукі. Я расплаціўся легальнай валютай — дойчмаркамі.

Позна ўвосень наш лагер перавялі ў іншае памяшканне ў Лесніцэ — гэта быў ужо трэці пераезд па ліку. Ізноў мы жылі ў вялікай зале са сцэнай. Зала размяшчалася на другім паверсе, і туды вёў асобны ўваход са двара. Вокны выходзілі на вялікі піўны шынок. У зале не было цэнтральнага ацяплення. Калі надышла зіма, мы палілі вугаль у печы, якую паставілі на сцэне. Увечары печка шугала агнём, рассылаючы цеплыню ва ўсе куткі. Наколькі я разумею, новы будынак лагера быў выбраны з прычыны ягонага геаграфічнага размяшчэння. Будынак стаяў пры галоўнай дарозе ў Гогенштат, што быў вялікім чыгуначным вузлом рэгіёна. Аўтобус-тарахцелка, які працаваў на вуглі, служыў пасажырскім транспартам ад Гогенштата да Лесніцэ, потым ён ехаў да завода і, магчыма, яшчэ далей. Вугаль спальваўся ў высокай круглай печцы, прымацаванай да бока аўтобуса. Літаральна чмыхаючы дымам, аўтобус рухаўся павольна, а часам наагул спыняўся, каб даць матору адпачыць. Але, негледзячы на прымітыўнасць сэрвісу, гэты пасажырскі транспарт добра служыў людзям — асабліва старым вяскоўцам і мужчынам з лагера, якія грузілі боепрыпасы для Усходняга фронту ў таварныя вагоны ў Гогенштаце.

Калі прыйшла зіма і выпаў снег, я адкрыў новую захапляльную зімовую забаву — катацца на санках з крутой гары. Доўгая пакручастая расколіна, па якой з гары сцякала вада, улетку выкарыстоўвалася як сцяжына як для людзей, так і для свойскай жывёлы. Узімку ж, калі расколіну засыпаў глыбокі снег, яна рабілася ідэальнай трасай для саначнікаў. Імчацца на санках з гары па звілістым спуску — гэта прыносіла такі ўраган вострых адчуванняў, які пераўзыходзіў па моцы ўсе мае самыя дзікія фантазіі. Упэўнены, Вова адчуваў тое самае. І я дагэтуль удзячны той чэшскай сям'і, якая пазычыла нам санкі.

Тут, у Лесніцэ, я ўпершыню пабачыў на свае вочы адну характэрную традыцыю мясцовых жыхароў, а магчыма, і цэлага рэгіёна — пахавальны абрад. Ідучы за пахавальнай працэсіяй і стараючыся трымацца наводдаль, я назіраў, як труну вельмі павольна везлі на могілкі, што знаходзіліся адразу за мястэчкам. Духавы аркестр, трубячы на ўсю моц, суправаджаў труну да самых могілак. Я ніколі не бачыў нічога падобнага. У маёй рэлігіі, праваслаўным хрысціянстве, нябожчыкаў адвозілі на могілкі без усялякіх фанфараў. Тут, у Лесніцэ, святар адпраўляў невялікае набажэнства каля вырытай магілы, пасля чаго труну апускалі ў дол. Пасля кожны прысутны браў жменьку зямлі і кідаў яе на века труны — хіба на знак апошняга развітання.

Выканаўшы свой абавязак, музыкі з духавога аркестра вярталіся пехатой назад у мястэчка і абавязкова спыняліся каля піўнога шынка. Яны ўваходзілі туды, сядалі пры сталах і пілі піва. Аднойчы я падумаў, што няблага было б і мне скарыстацца нагодай ды пакаштаваць піва ў тым шынку. Я ўвайшоў і сеў за стол у самым дальнім куце, далёка ад музыкаў. Выпіўшы два ці можа нават тры куфлі піва з бочкі, я не адчуў, што хмялею. Падумаў, што піва было безалкагольнае альбо з мінімальным утрыманнем алкаголю. Увечары я ціхамірна заснуў на верхнім ярусе двухпавярховага ложка. Пада мной спала мая самая малодшая сястра Ірка. Недзе ўначы ўсё маё піва папрасілася вонкі, і я, сам таго не ведаючы, выпусціў моцны струмень, які лёгка прайшоў праз саламяны матрас і абмачыў Ірыну. Я прачнуўся ад гучных крыкаў сястры. Яна вельмі спалохалася, мне ж было жахліва сорамна. Гэты ўрок назаўсёды адвучыў мяне піць шмат вадкасці перад сном.

Паколькі людзі ў лагеры жылі ў цясноце, у перапоўненых пакоях, ва ўсіх нас завяліся вошы. Адмысловы парашок, які мусіў дапамагчы ад гэтай напасці, не дзейнічаў. Заставалася адно — змірыцца з рэчаіснасцю і навучыцца жыць з гэтай праблемай без залішняга стрэсу, вырашаючы яе наколькі магчыма. І я здолеў гэтаму навучыцца. Час ад часу мы, жыхары лагера, мелі частковую палёгку ад агідных паўзуноў: нас вазілі на аўтобусе ў лазню, дзе мы мелі магчымасць памыцца пад сапраўдным гарачым душам. У памяшканні побач з душам знаходзілася дэзінфекцыйная камера. Там нашыя рэчы апрацоўвалі сумессю з гарачага паветра і нейкага газу. Калі мы ехалі ў лазню, я забіраў з сабой усю пасцельную бялізну, якую мог захапіць, і аддаваў яе ў дэзінфекцыю разам з усім сваім адзеннем. Кожны жыхар лагера рабіў тое самае. Пакуль мы мыліся ў душы, вопратка і бялізна праходзілі праз дэзінфекцыю ў камеры.

Недзе ўвосень 1944 года я атрымаў афіцыйны дакумент — пасведчанне асобы. На пасведчанні было напісана, што я замежнік

беларускага паходжання, а таксама меўся мой фотаздымак. Каб сфатаграфавацца на пасведчанне, мне давялося пешшу ісці ў Гогенштат. Апрача таго, мне выдалі *«Arbeitsbuch für Ausländer»* (працоўную кніжку для замежнікаў). Спачатку я не надаў гэтаму факту вялікага значэння. Я падумаў: ну якую такую працу мне могуць даць на заводзе *«Skrat Electrofabrik»* (на гэтым прадпрыемстве працавала большасць насельнікаў нашага лагера). Таму я вырашыў, што мяне пакінуць у спакоі. Час, аднак, паказаў, што я моцна памыляўся. Не прайшло і некалькіх тыдняў, як мне загадалі выходзіць на працу. Я мусіў цяпер падымацца да світанку, атрымліваў на сняданак лусту хлеба і кубак цёплай гарбаты, а потым ішоў на завод разам з астатнімі рабочымі. Назад я вяртаўся, калі ўжо пачынала цямнець. На заводзе мне даручылі рэзаць ізаляцыйны матэрыял і зачышчаць перад пайкай аголеныя правады на маленькіх электраматорах. Гэтая нудная, манатонная праца цягнулася гадзіна за гадзінай, ад пачатку працоўнага дня і да апошняга званка. Нізавошта ў жыцці я не хацеў бы паўтарыць такі досвед (калі б у мяне, вядома, запыталіся).

Я мушу сказаць, што немцы ставіліся да нас дастаткова гуманна. Гэта праўда, што шасцідзённы працоўны тыдзень не даваў нам шмат часу для адпачынку. Але, з іншага боку, у тыя дні амаль ніхто не меў такой раскошы, каб працаваць па сорак гадзінаў у тыдзень.

Дырэктарам завода (а можа, і яго ўладальнікам) быў гер Шрайбэр (*Herr Schreiber*). Час ад часу ён з’яўляўся ў нашым лагеры без папярэджання, разглядаўся вакол, аддаваў нейкія загады і знікаў. Ён таксама рэгулярна наведваў сам завод. Калі б я яго ні бачыў, у яго на плячы заўсёды вісела дубальтоўка. Відаць было, што гэты чалавек падрыхтаваны да любой непрадбачанай сітуацыі.

Стрыечная сястра Тая расказвала, што гер Шрайбэр і ягоная сям’я жылі непадалёк ад завода. Аднойчы яе нават запрасілі да іх у дом на гарбату.

Камендантам лагера, як успамінала сястра Фаіна, быў мужчына гадоў трыццаці з невялікім, звалі яго Вазэка. Ён размаўляў на ламанай пальшчызне. Вазэка быў назойлівы і наязджаў у лагер вельмі часта — праўджваў умовы жыцця, але перадусім не забываў нагадаць, што кожны жыхар лагера мусіць працаваць вельмі старанна. *«Мы не пацерпім лайдакоў»*, — паўтараў ён зноў ды зноў. Шчыра кажучы, я не звяртаў вялікай ўвагі на словы Вазэкі. Я жыў у сваім уласным свеце.

Стаяла ранняя зіма 1945 года, і Усходні фронт набліжаўся. У Гогенштаце з’явіліся супрацьпаветраныя батарэі. Усіх працаздольных мужчынаў мабілізавалі на рыццё акопаў. Цётка Тоня камянела ад страху. Дзядзька Ян, Тая і Тамара адчувалі сябе не нашмат лепей.

Перспектыва апынуцца зноў пад савецкай тыраніяй была для іх жудасная. Хто не жыў пад савецкай уладай, той не зразумее, які жах і прыгаломшанасць адчувалі людзі, якія ўжо адчулі на ўласнай скуры «дабрадзейнасць» савецкага рэжыму…

Але дзядзька Ян быў не з тых, хто здаецца на волю лёсу. Ён паехаў разам з Таісай у Гогенштат, каб выпрасіць у нямецкіх уладаў дазвол пакінуць лагер і пераехаць далей на захад. Як ні дзіўна, яму ўдалося атрымаць такі дазвол! У дакуменце чорным па белым было напісана, што дзядзьку і ягонай сям'і дазволена без перашкодаў выехаць у Германію, па ўсёй верагоднасці ў Баварыю.

Перад тым як мы выехалі з лагера, адбыліся яшчэ дзве важныя падзеі. Па-першае, вырашана было, што мая наймалодшая сястра Ірка, якой было тады тры ці чатыры гады, застанецца ў Лесніцэ. Немаладыя чэхі, муж і жонка, у якіх не было сваіх дзяцей, захацелі ўдачарыць Ірыну. Цётка і дзядзька пагадзіліся. Яны вырашылі (безумоўна, слушна), што для Ірыны будзе нашмат лепей застацца ў сям'і, дзе яна будзе расці ў любові і бяспецы, чым выпраўляцца ў поўнае небяспекі падарожжа. Таіса запомніла Ірыну прыгожай, мілай і ўсмешлівай дзяўчынкай.

Па-другое, стрыечная сястра Тамара, абаяльная маладая жанчына, закахалася ў заможнага і адукаванага чэха. Мне здаецца, яны заручыліся, і Тамара таксама вырашыла застацца ў Чэхіі. На жаль, яе рамантычным марам на шлюб з каханым не суджана было спраўдзіцца. Калі ў Чэхію прыйшла Чырвоная армія, Тамару схапілі, пасадзілі ў таварны вагон і выслалі ў Савецкі Саюз разам з сотнямі іншых былых савецкіх грамадзянаў. Як і ўсе, хто знаходзіўся разам з ёю ў вагоне, Тамара была пэўная, што іх вязуць у ГУЛАГ, кудысьці на ўсход Савецкага Саюза — хутчэй за ўсё, у Сібір. Бо ў Савецкім Саюзе на той час дзейнічала правіла, што кожны, хто апынуўся пасля вайны на захад ад межаў СССР (не мела розніцы — добраахвотна ці пад прымусам), меўся прайсці некалькі гадоў «папраўчай працы», гэта значыць адпрацаваць іх у канцэнтрацыйным лагеры[80]. Аднак Тамары ўсміхнулася ўдача. Калі іх цягнік ішоў праз Беларусь, Тамара здолела ўцячы і вярнулася ў родныя мясціны, у Даўгінава[81]. Пазней яна выйшла замуж

---

[80] Нягледзячы на сапраўды насцярожанае стаўленне савецкіх уладаў да тых, хто ў вайну пэўны час знаходзіўся за межамі СССР, згаданага аўтарам правіла пра абавязковыя «папраўчыя працы» не было.

[81] **Даўгінава** — вёска, цэнтр сельсавета ў Вілейскім раёне Мінскай вобласці, за 18 км ад чыгуначнай станцыі Крывічы.

за настаўніка, у іх нарадзіліся чацвёра дзяцей. Вось так склаўся лёс Тамары.

Ірыне пашанцавала болей. Яна расла ў любові і апецы, пачала хадзіць у чэшскую школу. Ірына пражыла ў сям'і прыёмных бацькоў, якіх горача любіла, некалькі гадоў. Потым і яна трапіла ў Савецкі Саюз, але пры іншых абставінах, чым Тамара. Ірына атрымала магчымасць вучыцца ў Савецкім Саюзе і закончыла на «выдатна» школу ў Адэсе[82], партовым горадзе на Чорным моры. Дзяўчына марыла пра тое, каб працягнуць адукацыю за мяжой, асабліва яе прываблівала Чэхаславакія. Нейкім цудам Ірыне ўдалося атрымаць дазвол на выезд з Савецкага Саюза па студэнцкай візе. Яна паступіла ў пражскі Інстытут хіміі і тэхналогіі[83], дзе і спаткала свайго будучага мужа, Яраслава Крыжа[84]. Яны вучыліся разам і закончылі інстытут у 1961 годзе. Абое яны сталі спецыялістамі ў хіміі палімераў.

Неўзабаве пасля заканчэння інстытута Ірына і Яраслаў ажаніліся і пераехалі ў індустрыяльны горад Усці-над-Лабэм[85] (былы нямецкі Аўсіг), дзе распачалі даследчыцкую дзейнасць. Праз год Ірына знайшла сабе іншую працу — на пасадзе выкладчыка ў Педагагічным інстытуце. У 1964 годзе Ірына і Яраслаў вярнуліся ў Прагу, дзе Ірына атрымала яшчэ дыплом спецыяліста ў прамысловым заканадаўстве са спецыялізацыяй «патэнтазнаўца». Яраслаў працягнуў даследчыцкую працу ў Інстытуце макрамалекулярнай хіміі Акадэміі навук — найбуйнейшай навуковай установе Чэшскай Рэспублікі. Ён стаў кандыдатам, а потым доктарам навук.

Яраслаў — выбітны чалавек, шчодра надзелены талентамі, і дасягнуў вельмі многага ў жыцці. Ён атрымаў найвышэйшыя

---

[82] **Адэса** — горад на паўночна-заходнім узбярэжжы Чорнага мора, абласны цэнтр Украіны, буйны порт.

[83] Маецца на ўвазе **Вышэйшая хімічна-тэхналагічная школа ў Празе** (чэшск. *Vysoká škola chemicko-technologická v Praze*) — найбуйнейшая ў Чэхіі вышэйшая навучальная ўстанова ў галіне хімічнай прамысловасці.

[84] **Яраслаў Крыж** (чэшск. *Jaroslav Kříž*, нар. 1939) — чэшскі хімік, літаратар, філосаф, доктар навук. Аўтар шэрагу чэшскамоўных і англамоўных апавяданняў, на падставе якіх рабіліся радыёпастаноўкі. Адно з апавяданняў у 1985 г. было прызнанае BBC найлепшым з напісаных замежнікамі. Цягам 2002–2007 гг. Выдаў чатыры кнігі (раманы, аповесці, літаратурна-філасофскія эсэ).

[85] **Усці-над-Лабэм** (чэшск. *Ústí nad Labem,* ням. *Aussig an der Elbe*) — горад на поўначы Чэхіі, ля ўпадзення Біліны ў Лабу, адміністрацыйны цэнтр Усцецкага краю.

ўзнагароды за свае дасягненні ў навуцы і быў абраны чальцом Чэшскай акадэміі навук. Яго таленты і памкненні выходзяць вельмі далёка за межы навуковых даследаванняў — у філасофію, прыгожае пісьменства і маляванне. На жаль, я не чытаў ніводнай кнігі Ярослава, бо не валодаю чэшскай мовай. Але ягоныя карціны мяне шчыра ўражваюць. На большасці іх увасобленыя фантастычныя істоты. Карціны адначасова зачароўваюць і будзяць фантазію, а манера пісьма Ярослава вабіць да сябе гледачоў. Аднак найбольш я захапляюся Ярославам як чалавекам. Ён вельмі сціплы, просты ў зносінах, зусім пазбаўлены прэтэнзій і адкрыты да іншых людзей. Кожны раз, калі мы сустракаемся, я адчуваю шчырую прыемнасць ад знаходжання ў кампаніі Ярослава. Іх шлюб з Ірынай атрымаўся трывалым, і яны дагэтуль жывуць у Празе[86].

Хоць мы пакідалі ў Лесніцэ дваіх сваякоў, усе ў сям'і дзядзькі Яна з нецярплівасцю чакалі ад'езду. Усе — за выключэннем мяне, неразумнага. Неўзабаве перад тым я моцна пасварыўся з Вовам і чамусьці вельмі раззлаваўся на цётку і дзядзьку. Я заявіў ім, што застаюся ў Лесвіцэ таксама. У адказ дзядзька Ян папросту надраў мне вушы. *«Ты паедзеш са сваімі сёстрамі, і я не жадаю больш слухаць тваіх глупстваў»*, — цвёрда сказаў ён. Я мусіў падпарадкавацца. І, безумоўна, я назаўсёды застаўся ўдзячны дзядзьку Яну за тое, што ён пераканаў мяне ехаць.

У дзень ад'езду мы дабраліся з лагера на чыгуначную станцыю ў Гогенштаце. Там селі на пасажырскі цягнік, які праз шмат гадзінаў падарожжа давёз нас да чыгуначнага вакзала ў Празе. Мы прыехалі туды на світанку, выгрузілі рэчы з вагона і спакойна чакалі іншага цягніка, які павінен быў давезці нас да месца прызначэння. Я не памятаю, колькі часу мы правялі на вакзале, памятаю толькі, што спаў на кафлянай падлозе. Гэта не было так ужо нязручна — прынамсі лепей, чым спаць на зямлі на вуліцы. Урэшце мы селі на цягнік, які завёз нас кіламетраў за сорак ад Плзеня[87], у нейкае мястэчка ў Судэтах, дзе мы мусілі затрымацца, бо не было ніякага транспарту, каб ехаць далей (Судэты — гэта мясцовасць на поўначы Чэхіі, што знаходзіцца пры Судэцкіх гарах, заселеная пераважна

[86] Сын Ярослава і Ірыны Ігар Крыж працуе прафесарам матэматыкі ў Мічыганскім універсітэце.

[87] **Плзень** (чэшск. *Plzeň* , ням. *Pilsen*) — горад у заходняй Багеміі ў Чэхіі, сталіца Плзенскага краю. Чацвёрты па колькасці насельніцтва горад у Чэхіі.

немцамі[88]). Разам з іншымі ўцекачамі, у большасці сваёй немцамі, мы пасяліліся на тэрыторыі былога курорта, размешчанага ў даліне, кіламетры за два ад мястэчка. Там мы заставаліся да канца вайны.

## 10. НЕЗАБЫЎНАЕ ПАДАРОЖЖА

Стаяла сярэдзіна чэрвеня 1945 года. Некалькімі тыднямі раней Германія капітулявала перад войскамі саюзнікаў. Мне было тады дванаццаць, сёстрам Фаіне і Ніне — адпаведна дзесяць і восем гадоў. Мы жылі ў сям'і майго дзядзькі Яна Жарскага, праваслаўнага святара. Апрача нас трох сям'я дзядзькі Яна складалася з яго жонкі Антаніны (сястры нашай мамы) і іх двух дзяцей — Таісіі і Уладзіміра. Таісіі было сямнаццаць гадоў, Вове — адзінаццаць.

Як і многія іншыя ўцекачы з Усходу, мы апынуліся ў Судэтах, нямецкім анклаве на заходняй мяжы Чэхаславакіі. Немцы анексавалі Судэты 1–2 кастрычніка 1938 года — не сустрэўшы адпору, з маўклівай згоды Англіі і Францыі. І цяпер, пасля паразы Германіі, Судэты, безумоўна, ізноў пяройдуць да Чэхаславакіі, — так разважаў мой дзядзька. Пакуль што гэтая тэрыторыя знаходзілася пад кантролем арміі Злучаных Штатаў. Але што здарыцца потым, калі амерыканцы сыдуць? Верагодней за ўсё, уцекачы з Савецкага Саюза будуць гвалтам вернутыя на радзіму. Адна толькі думка пра такое развіццё падзей працінала маіх дзядзьку і цётку дрыжыкамі да пятак. Урэшце, яны ж і пакінулі сваю радзіму, Беларусь, гнаныя жахам перад наступам Чырвонай арміі.

Разам з намі, этнічнымі беларусамі, у перасыльным лагеры для ўцекачоў жылі дзве сям'і з Літвы, самотны мужчына-літовец, якога звалі Гопас, адна сям'я з Украіны і прыблізна 80–100 немцаў з Усходняй Прусіі. Сем'і ўцекачоў складаліся пераважна з жанчын, дзяцей і старых. Потым, у канцы мая, да нас прыехалі дзве маладыя жанчыны, гадоў дваццаці пяці. Адна з іх амаль зусім не мела валасоў. Я не памятаю, якой яны былі нацыянальнасці — магчыма, датчанкі. Гэта былі вязні нацысцкага канцэнтрацыйнага лагера, вызваленыя войскамі саюзнікаў. Дзіўна, як шмат супольнага можа знайсціся паміж ахвярамі розных тыраній! Мой дзядзька Ян, каб

---

[88] **Судэты**, або **Судэцкая вобласць** (чэшск. *Sudety*, ням. *Sudetenland*) — гістарычная вобласць на поўначы і паўночным захадзе Чэхіі, месца кампактнага пражывання немцаў. У 1938 г. была далучаная да нацысцкай Германіі. Пасля 1945 г. этнічныя немцы былі выселеныя з Чэхаславакіі, а назва, што мела найперш этнічны змест, больш не ўжываецца.

ратаваць сваё жыццё, мусіў уцякаць ад «вызваліцеляў» з Чырвонай арміі і іх крыважэрных валадароў — «энкавэдэ», савецкай тайнай паліцыі.

Мы жылі ў вялікай цясноце, але ў надзвычай прыгожым месцы. Раней тут быў летні курорт, размешчаны ў даліне ўздоўж празрыстага ручая, які спакойна бруіўся між лугоў, расквечаных палявымі краскамі. Вада ў ручаі была вельмі чыстая, у ім можна было купацца. На другім баку ручая віднеўся маляўнічы хвойны лес, што рос высока на скалах. Тут і там на круглых узараных пагорках зелянелі пасевы. За палямі рос малады лясок. Наваколле выглядала так чароўна, нібыта мы трапілі ў нейкі казачны свет, і хто б не марыў застацца ў гэтай казцы? Летні курорт быў часткай фермерскай гаспадаркі, уладальнікі якой жылі па суседстве з намі.

Раніцай мы прачыналіся пад спевы птушак. Гэта было букалічнае, калі не ідылічнае месца, захінутае ад мітусні і беганіны штодзённага гарадскога жыцця. Магу ўявіць, колькі асалоды атрымлівалі гараджане, якія прыязджалі сюды на адпачынак да вайны — перад тым, як жыццё ў Еўропе ператварылася ў кашмар.

Пасля падзелу Польшчы ў 1939 годзе і да нападу Германіі на Савецкі Саюз у 1941-м мой дзядзька жыў пад таталітарным камуністычным рэжымам, і гэтае жыццё было поўнае небяспекі. Маці цёткі Антаніны, яе дзвюх сёстраў і дваіх братоў (аднаго разам з сям'ёй) энкавэдысты выселілі з дамоў. Аднойчы зімовай ноччу іх вывезлі на чыгуначную станцыю і выслалі ў таварных вагонах у далёкі Казахстан. Уся іх зямля і маёмасць былі канфіскаваныя.

Маім уласным бацькам выпаў не лягчэйшы лёс. Яны таксама, не маючы за сабой ніякай віны, трапілі ў спіс «ворагаў народа». Бацьку арыштавалі, трымалі ў вязніцы, а потым выслалі ў невядомым напрамку. Усе думалі, што яго проста забілі. Толькі пасля Другой сусветнай вайны мы, дзеці, даведаліся, што бацька прабыў шмат гадоў у ГУЛАГу, а потым яшчэ некалькі гадоў на пасяленні ў Сібіры, і толькі пасля гэтага яму дазволілі вярнуцца ва Усходнюю Еўропу. (У камуністычнай дзяржаве чалавеку, каб лічыцца злачынцам, зусім не абавязкова было ўчыняць злачынства — дастаткова было ягонага сацыяльна-эканамічнага статусу альбо палітычнай арыентацыі.) А маю маму забілі партызаны ў 1943 годзе.

Пасля гэтай трагедыі дзядзька Ян забраў мяне і сёстраў у сваю сям'ю. З таго часу наш лёс быў непарыўна звязаны з лёсам дзядзькі. Наймалодшая сястра Ірына больш не жыла з намі — яна засталася ва ўсходняй Чэхаславакіі пад апекай чэшскай сям'і. Яе прыёмныя бацькі, немаладыя ўжо людзі, вельмі любілі Ірыну і рабілі ўсё, каб яна адчувала сябе як дома.

Калі Усходні фронт наблізіўся, нам давялося з’язджаць без затрымкі. Мы параехалі ў Судэты па чыгунцы, пакінуўшы Ірыну ў прыёмных бацькоў.

Паколькі дзядзька Ян выехаў з радзімы, уцякаючы ад Саветаў, цяпер ён аўтаматычна залічваўся ў вельмі шырокую катэгорыю «ворагаў народа». Людзі, якія атрымлівалі такі ярлык, падлягалі суроваму пакаранню. Дзядзька ведаў, што калі б ён цяпер трапіў у рукі савецкіх начальнікаў, гэта азначала б у самым лепшым выпадку дарогу ў адзін канец — у ГУЛАГ, куды-небудзь у Сібір. Вельмі сумнеўна, каб ягоную сям’ю чакаў лепшы лёс. Дзядзька Ян і так лічыў, што яму вельмі пашанцавала, бо яму ўдалося пазбегнуць арышту пры савецкім рэжыме, перад прыходам немцаў. Неаднаразова агенты НКУС спрабавалі завербаваць дзядзьку, зрабіць яго інфарматарам, каб ён данасіў на сваіх парафіянаў. І кожны раз дзядзька адмаўляўся. Але ён жыў у заўсёдным страху, ніколі не ведаючы, што прынясе яму наступная ноч.

Дзядзька Ян любіў умеранасць у жыцці. Ён быў рэалістам і практыкам. Ён ведаў, што Госпад Бог не забяспечыць цябе ўсім неабходным для штодзённага жыцця, калі ты сам не заробіш гэтага сваёй працай. Вера дзядзькі Яна ва ўсходнюю праваслаўную рэлігію была непахісная. Яго немагчыма было прымусіць сумнявацца ў прынцыпах веры, і дзядзька ніколі не стаў бы гуляць у гульні са сваім сумленнем. Я перакананы, што ён сапраўды хутчэй памёр бы за сваю веру, чым адрокся б ад яе. Аднак дзядзька зусім не прагнуў дапоўніць сабой лік пакутнікаў. Ён не стаў бы ахвяраваць сабой, сваёй сям’ёй альбо іншымі, пакуль існавала магчымасць пазбегнуць жыццёвых трагедый. Дзядзька меў сур’ёзныя засцярогі што да Рыма-каталіцкай царквы, асабліва яе іерархіі. Магчыма, карані ягонай непрыязі да царквы-сястры раслі з таго факта, што каталіцкая царква ў Польшчы заўсёды імкнулася навярнуць праваслаўных у каталіцызм.

Адносна нашага ненадзейнага статусу ў Судэтах дзядзька Ян не меў ніякіх ілюзій. Ён быў перакананы, што нам трэба выехаць адсюль і як мага хутчэй. Але на шляху ляжалі пэўныя перашкоды. Каб пакінуць гэтую тэрыторыю, нам трэба было атрымаць падарожныя дакументы — дазвол на выезд — ад амерыканскіх акупацыйных уладаў. На шчасце, рэгіянальны адміністрацыйны офіс Трэцяй арміі ЗША[89] размяшчаўся за нейкія чатыры кіламетры

[89] **Трэцяя армія ЗША** (англ. *The Third United States Army*) — амерыканскае вайсковае злучэнне, што ўдзельнічала ў Першай і Другой сусветных войнах, а пазней у аперацыі ў Персідскім заліве (1991) і

ад таго месца, дзе мы жылі, — у гарадку, які называўся Міес, альбо Міс[90]. Такую адлегласць легка было пераадолець нават пешшу.

Дзядзька Ян быў вельмі рашуча настроены на тое, каб здабыць падарожныя дакументы і выехаць з Судэтаў у Баварыю. Калі прыйшоў запланаваны дзень, дзядзька апрануўся адпаведна нагодзе: надзеў свой чорны святарскі гарнітур, кашулю з каўнерам-стойкай, абуў чорныя туфлі. Яго срэбны праваслаўны крыж, даўжынёй сантыметраў дванаццаць ці болей, вісеў на срэбным ланцужку на ягоных магутных грудзях. Відаць было, што дзядзька вельмі зручна адчувае сябе ў святарскім убранні.

Дастаткова высокі для свайго веку, дзядзька Ян быў добра складзены і фізічна развіты. Ён меў вельмі светлую скуру, пранізлівыя сінія вочы і танклявы нос. Пышныя, кранутыя сівізной валасы дзядзька насіў зачасанымі назад, твар быў заўсёды гладка паголены, за выключэннем акуратна падстрыжаных вусоў і бародкі, якія вельмі яму пасавалі. Дзядзька быў патрабавальны як да свайго вонкавага выгляду, так і да атачэння. Ён не цярпеў неахайнасці ў сям'і, асабліва беспарадку ў хаце. Дзядзька любіў строгую дысцыпліну. Ён не курыў і не ўжываў алкаголю, але заўсёды меў у шафе бутэльку гарэлкі для гасцей.

Таісія, сямнаццацігадовая дачка дзядзькі Яна, мусіла адыграць ключавую ролю ў запланаванай экспедыцыі да амерыканскіх вайскоўцаў. Таісія мела адну вельмі каштоўную здольнасць: яна ўмела бегла размаўляць па-нямецку. А яшчэ яна была таварыскай па характары і сталай не па гадах — вайна і цяжкасці лёсу звычайна прыспешваюць працэс сталення моладзі. Таісію не так лёгка было адахвоціць ці адгаварыць ад таго, што яна наважылася зрабіць. Яна была ўпартая, што датычылася прынцыпаў і мэтаў. Прырода шчодра надзяліла яе прыгажосцю: вельмі светлая натуральная бландзінка з блакітнымі вачамі і снежна-белай скурай — сапраўдны нардычны тып.

Дзядзька Ян і Таісія выправіліся ў рэгіянальны аддзел амерыканскай арміі. Як і трэба было чакаць, памяшканне было перапоўненае іншымі ўцекачамі. Усе яны імкнуліся атрымаць дазвол на выезд у амерыканскую зону акупацыі — тую частку Германіі, што знаходзілася пад кантролем ЗША. У першы дзень дзядзьку

---

вайне ў Іраку (ужо пад назвай Цэнтральнай арміі ЗША). Падчас Другой сусветнай вайны Трэцяя армія пад камандаваннем генерал-лейтэнанта Джорджа Патана (1882–1945) удзельнічала ў баявых дзеяннях у Заходняй і Цэнтральнай Еўропе.

[90] Маецца на ўвазе **Штрыбро** (чэш. *Stříbro*, ням. *Mies*) — горад у Плзенскім краі Чэхіі, за 25 км на захад ад Плзеня.

і Таісіі нават не ўдалося прабіцца да амерыканскіх службоўцаў. Спатрэбілася яшчэ як мінімум два падарожжы, пакуль дзядзька Ян і Таісія змаглі сустрэцца з паўнамоцным чыноўнікам і выкласці яму сваю просьбу. Дзядзька казаў пра тое, што яму і ягонай сям'і трэба быць сярод суайчыннікаў, што ў лагерах для бежанцаў ён будзе здольны праводзіць праваслаўныя набажэнствы для вернікаў, што дзецям трэба вярнуцца ў школу, бо яны і так мелі вялікі перапынак у адукацыі. Ягоныя просьбы былі пачутыя. Дзядзьку далі дазвол пакінуць Судэты і выпісалі падарожныя дакументы.

Гэтая навіна прынесла ўсім нам шмат радасці. Пачуўшы яе, цётка Тоня так расчулілася, што пачала плакаць. Яна ўпала на калені і, хрысцячыся, дзякавала Богу за ягоную ласку.

Цётка Тоня была яшчэ маладжавай жанчынай сярэдняга росту, з карымі вачыма і такога ж колеру валасамі без прыкметаў сівізны. Яна добра пачувалася ў таварыстве іншых людзей і лёгка заводзіла знаёмствы. У больш шчаслівыя часы да Другой сусветнай вайны цётка Тоня вельмі любіла вясёлыя шумныя кампаніі. У дзявоцтве яна вылучалася хараством, ды і цяпер была вельмі прывабнай жанчынай. Цётка Тоня была вельмі клапатлівай гаспадыняй, яна ставіла дабрабыт сям'і паперадзе свайго ўласнага і адчувала маральны абавязак дапамагаць сваякам у патрэбе. Пасля трагічнай смерці нашай мамы цётка, не вагаючыся, вырашыла забраць нас, чатырох дзяцей, у сваю сям'ю. Цётка выдатна гатавала: смакуючы яе дранікі, можна было язык праглынуць. Я лічыў цётчыны дранікі найлепшымі ў цэлым свеце. Цётка Тоня была вельмі практычным чалавекам — жорсткія рэаліі часу загартавалі яе і навучылі прымаць рашэнні ў экстрэмальных сітуацыях. Я памятаю той вечар у 1944 годзе, калі мы намагаліся выехаць з Беластока ў Варшаву, бо Усходні фронт падыходзіў усё бліжэй. У грузавіку, які мог за ноч давесці нас да Варшавы, заставалася зусім няшмат вольнага месца. Цётка апынулася перад нялёгкім выбарам: што з рэчаў узяць з сабой, а што пакінуць. Без аніякага вагання цётка Тоня вырашыла спачатку ўзяць усе вядзерцы з салам (здаецца, іх было шэсць), а потым ужо столькі бялізны і вопраткі, колькі мы маглі данесці ў руках. Шмат якія каштоўныя рэчы давялося пакінуць у Беластоку. Многімі гадамі пазней, калі я размаўляў з цёткай сам-насам, яна прызналася, як моцна яна шкадуе, што ў яе не было магчымасці атрымаць адукацыю. Цётчына маці лічыла, што для дзяўчат пачатковай школы цалкам дастаткова і што адукоўваць іх далей — гэта марнаваць час і грошы. У яе разуменні, дочкі мусілі траціць свае дні не на ўрокі, а на тое, каб засвоіць прыгожыя манеры і стаць добрымі хатнімі гаспадынямі — у надзеі на тое, што ім

удасца зацікавіць заможных жаніхоў, удала выйсці замуж і потым гадаваць сваіх дзяцей.

Падрыхтоўка да ад'езду пачалася адразу ж, як толькі дазвол выехаць у Баварыю быў атрыманы. Дзядзька Ян змазаў колы вазка, які ён набыў загадзя ў спадзяванні на выезд. Вазок меў высокія колы і нечым нагадваў вазы амерыканскіх піянераў, на якіх яны калісьці перасякалі прэрыі на сваім шляху на захад. Але наш вазок быў невялікі, з парэнчамі па баках і доўгімі драўлянымі ручкамі, за якія было зручна трымацца. Ён прызначаўся для таго, каб яго цягнулі людзі, што ў нашай сітуацыі было ідэальным варыянтам. Майстравіты і вынаходлівы дзядзька Ян прыдумаў зрабіць вупраж для сябе самога, якую ён потым прымацаваў спераду вазка. У вазок змясціліся ўсе нашыя рэчы.

Напярэдадні ад'езду мы прачыталі малітвы. Цётка Тоня дабраславіла ўсіх прысутных. Дзядзька Ян быў пэўны, што Найвышэйшая воля захавае нас у бяспецы да самага канца падарожжа. Мы развіталіся з тымі, хто заставаўся, — без слёз тут не абышлося. На світанку мы пакінулі нашую цудоўную даліну. Мы ішлі пехатой. Дзядзька Ян, запрэгшы сам сябе ў вазок і трымаючыся рукамі за поручні, цягнуў воз спераду. Усе астатнія, за выключэннем наймалодшых Ніны і Фаіны, па чарзе падпіхвалі вазок ззаду.

На малых дарогах нам амаль не сустракаліся аўтамабілі. Толькі зрэдку нас абганялі (альбо разміналіся з намі) вазы, запрэжаныя коньмі. А вось на шашы была зусім іншая карціна. Трэба было глядзець пільна, каб не трапіць пад машыну — пераважна гэта былі амерыканскія армейскія грузавікі. Калі машына набліжалася, дзядзька Ян кіраваў наш вазок на ўзбочыну, і мы, не спыняючыся, працягвалі нашае падарожжа ў невядомае.

Нас абганялі калоны вайсковых грузавікоў. Равучы маторамі, міма нас праносіўся доўгі ланцуг машынаў, напоўненых пад завязку квадратнымі пяцігалонавымі каністрамі з бензінам. Кіроўцы грузавікоў былі вельмі прыязнымі людзьмі. Шмат разоў яны кідалі нам з кабінаў розныя прысмакі: цукеркі, пакецікі з печывам, а часам нават і бляшанку кансерваў з вайсковага пайка. Мы, дзеці, вядома ж, найбольш радаваліся цукеркам.

Мы працягвалі ісці ад світанку да заходу сонца, ненадоўга спыняючыся для адпачынку. На пачатку падарожжа мы ўладкоўваліся на начлег непадалёк ад дарогі, выбіраючы месца там, дзе расла купка дрэваў. Пазней, калі мы дабраліся да Баварыі, мы ўжо маглі пераначаваць у імправізаваных прытулках для ўцекачоў. Гэтыя прытулкі арганізоўваліся нямецкімі муніцыпальнымі ўладамі і прызначаліся пераважна для немцаў, якіх гвалтам высялялі з іх спрадвечных мясцінаў у Судэтах, Усходняй Прусіі і з нямецкіх зе-

мляў на ўсход ад ракі Одэр[91]. Зрэшты, не думаю, што арганізатары прытулкаў стваралі іх выключна з прычыны нямецкага патрыятызму. Хутчэй, людзьмі кіравала спачуванне, а яшчэ — пачуццё абавязку, тыповае для нямецкіх цывільных чыноўнікаў. Я вельмі рады засведчыць, што супрацоўнікі нямецкай адміністрацыі прымалі грамадскія праблемы блізка да сэрца. Больш за тое, калі некаторыя з іх і мелі ў глыбіні душы непрыязь да людзей іншых нацыянальнасцяў, пачуццё грамадскага абавязку пераважала над асабістым. Нягледзячы на нашае славянскае паходжанне, мы паўсюль сустракалі добры прыём.

Паколькі нашая адысея працягвалася без перашкодаў з боку амерыканскіх вайскоўцаў, я пачаў заўважаць на тварах дзядзькі і цёткі выразы палёгкі. Было вельмі прыемна бачыць, што яны зноў пачалі ўсміхацца. Ніхто ж не здагадваўся, што наперадзе чакаюць новыя выпрабаванні… Аднойчы вайсковыя паліцыянты, нядбайна кінуўшы позірк на дакументы, якія паказаў ім дзядзька Ян, без усялякіх тлумачэнняў забаранілі нам рухацца далей. Нам сказалі, што мы мусім заставацца ў ваколіцы і чакаць далейшых загадаў. Паліцыянты скіравалі нас у невялікі лагер пры дарозе, за некалькі сотняў метраў ад кантрольна-прапускнога пункта.

Лагер размяшчаўся ў груба зробленых драўляных бараках. Відаць, падчас вайны тут жылі рабочыя, прыгнаныя з Усходу. З пасцельных прыналежнасцяў меліся толькі нары і саламяныя матрасы — ні коўдраў, ні прасцінаў, ні падушак. Нягледзячы на спартанскія ўмовы, лагер забяспечваў першасныя патрэбы насельнікаў. А самае галоўнае — у ім была кухня, на якой варылі гарачы суп! У лагеры жылі людзі розных нацыянальнасцяў, што, як і мы, шукалі шляхоў, каб прабрацца на захад. Прыемная нечаканка: мы сустрэліся тут з літоўскімі сем'ямі, з якімі жылі раней у лагеры каля Міеса. Іх таксама затрымалі на прапускным пункце.

Час ішоў, а сітуацыя заставалася тупіковай. Твары цёткі і дзядзькі змрачнелі з кожным днём. Цётка была перакананая (і небеспадстаўна), што калі мы тут будзем сядзець і далей, нас схопяць і гвалтам рэпатрыююць на радзіму. Страх перад бальшавікамі і савецкім рэжымам быў для цёткі наймацнейшы.

Аднойчы здарылася падзея, якая падштурхнула нас да рашучых дзеянняў. Мой стрыечны брат Вова зайшоў неяк у іншы лагер, што знаходзіўся праз дарогу ад нас. У тым лагеры жылі нядаўна вызваленыя людзі, якіх падчас вайны прымусова вывезлі на працу

---

[91] **Одэр** (ням. *Oder,* чэшск. і польск. *Odra*) — рака ў Чэхіі, Польшчы і Германіі. Па Одэры праходзіць 187 км мяжы паміж Германіяй і Польшчай.

ў Германію. Большасць іх былі палякі. У адрозненне ад нас яны вельмі хацелі вярнуцца на радзіму, у Польшчу. Вова паразмаўляў з некаторымі з іх і ў размове неяк згадаў маршрут, якім мы рухаліся. Мужчыны раз'юшыліся настолькі, што некалькі чалавек пайшлі следам за Вовам у наш лагер і падступіліся да цёткі Тоні з пагрозамі. *«Як вы смееце ісці ў бок Германіі! Вы — прадажныя нацысцкія калабаранты!»* — крычаў іх завадатар на цётку. *«Не, нічога падобнага,* — заклінала цётка. — *Нас, як і вас, прымусілі працаваць на немцаў. У нас ёсць дакументы, якія гэта пацвярджаюць».* Тут з'явілася Таісія. Даведаўшыся, у чым прычына скандалу, яна таксама пачала рашуча адпрэчваць усе абвінавачанні. Каб пераканаць мужчынаў, Таісія хуценька паказала сваю *«Arbeitsbuch fur Auslander»* (працоўную кніжку для замежнікаў). Вова і цётка Тоня таксама дасталі свае працоўныя кніжкі. «*А чаму тады вы ідзяце ў Баварыю?»* — не адступаўся мужчына. Цётка патлумачыла, што ў Баварыі ў адным з лагераў для бежанцаў знаходзіцца яе хворая маці, якая патрабуе догляду. Да таго ж яна хоча быць у вялікім лагеры са сваімі суродзічамі, дзе дзеці зноў маглі б наведваць школу. Здавалася, мужчынаў задаволілі цётчыны тлумачэнні. Але перад тым, як сысці, іхні главар разразіўся шквалам лаянкі і абразаў у бок немцаў. Большасць з іх сцерлася з памяці, але некаторыя я памятаю дагэтуль. Я памятаю, як ён гаварыў: *«А што да гэтых нямецкіх сук, дык іхныя дзетародныя органы трэба вырваць і скарміць сабакам. Гэтыя людзі не маюць права існаваць на зямлі»*.

Гэты інцыдэнт прымусіў цётку яшчэ раз задумацца над нашай сітуацыяй. Цётка мела змрочныя прадчуванні — пра гэта беспамылкова сведчыў яе твар. Дзядзька і цётка параіліся паміж сабой. Становішча было самае недарэчнае: нас затрымалі ўсяго за некалькі кіламетраў ад мяжы з Баварыяй! Нарадзілася спантаннае рашэнне. Кантрольны пункт ці не кантрольны пункт, а з лагера трэба выбірацца не марудзячы. Не даюць пропуску — абыдземся без яго. Адзін фермер з мясцовых вызваўся паказаць нам шлях у абыход прапускнога пункта. Ён сказаў, што ведае палявую дарогу, якая прывядзе нас у Баварыю. Няйнакш той мужчына быў нашым пераапранутым анёлам! Цётка Тоня шчодра аддзячыла гэтаму чалавеку. Яна расплацілася з ім ці то польскімі срэбнымі злотымі, ці, можа, нават царскімі расейскімі залатымі пяцірублёўкамі, што высока цаніліся ў той час, калі папяровыя грошы абясцэніліся амаль да нуля.

Мы рыхтаваліся да ад'езду ў поўным сакрэце. Развіталіся толькі з нашымі літоўскімі сябрамі (потым мы даведаліся, што ім пашчасціла іміграваць у Аўстралію). Наш праваднік прыехаў у лагер са сваім возам гадзіны за дзве да світанку. За гадзіну мы

сабраліся і былі гатовыя да ад’езду. З лагера фермер скіраваў воз на прасёлачную грунтовую дарогу. Мы ішлі за ім пешкі, цягнучы наш двухколавы вазок. Калі пачало світаць, мы дабраліся да баварска-чэшскай мяжы. Перад намі ляжала разбітая ў гразь каляіна, якая і была нашым шляхам да выратавання. Відаць, сотні і сотні вазоў праехалі па гэтай дарозе перад намі. Багна па лытку была паўсюль. Справа высіўся густы лес, злева на метраў на трыста распасціраўся луг. Луг і лес абступалі дарогу наперадзе, наколькі хапала вачэй. Ці гэта была старая мяжа паміж Германіяй і Чэхаславакіяй? Магчыма. Праваднік, які давёў нас сюды, вярнуўся назад на сваю ферму. Мы засталіся адны. На ўсім працягу шляху, апрача нас, не было відаць ніводнай жывой душы.

Развіднела, і час быў рухацца ў дарогу. Нас перапаўняла энергія, і гэта было вельмі дарэчы, бо пхаць вазок праз густую гразь было нялёгкай працай. Але мы рухаліся наперад. Я пачаў заўважаць ноткі палёгкі ў голасе дзядзькі Яна. Цётка Тоня старалася падбадзёрыць нас. *«Дзеці, Бог з намі, і ён нас уратуе»*, — сказала яна. Потым цётка перахрысцілася, і вусны яе прашапталі нячутную малітву. Таісія ўсміхалася. Усе адчувалі прыліў аптымізму.

На жаль, пачуццё палёгкі і бадзёрасці было вельмі хуткаплыннае. Супакой і яснасць прыгожай раніцы разбурылі гукі стрэлаў, што раптоўна данесліся з лесу. Усе здрыгануліся ад жаху. Чуліся адзіночныя стрэлы вінтовак, якія перамяжаліся кароткімі аўтаматнымі чэргамі. Страляніна гучала небяспечна блізка ад дарогі. Усе мы перапалохаліся ледзь не да смерці, і было ад чаго! Мы думалі, што гэта страляюць салдаты новага чэшскага памежнага войска. Спатканне з імі мела б катастрафічныя наступствы для нашай сям’і. Мы рухаліся як мага цішэй, не даючы сабе перадышкі, аж пакуль зона страляніны не засталася ззаду. Асабіста для мяне гэтыя стрэлы ў лесе былі самым страшным здарэннем, якое я перажыў за час усяго нашага падарожжа.

Ужо бралася на вечар, калі мы, знясіленыя і галодныя, перакрочылі мяжу Баварыі. Якраз насупраць стаяла вялікая малочная ферма. Нам трэба было знайсці месца для начлегу, і мы вырашылі папытаць шчасця ў фермера. Гаспадара мы сустрэлі на двары. Таісія расказала яму (па-нямецку), хто мы такія і адкуль, і запыталася, ці не дазволіў бы ён пераначаваць нам на ягонай зямлі. Фермер пагадзіўся прытуліць нас на адну ноч і сказаў, што мы можам пераначаваць у адрыне. Спаць на сене было насамрэч вельмі прыемна! Раней, дома, я начаваў на сене шмат разоў — проста дзеля задавальнення. Сям’я фермера дала нам малака, сыру і хлеба, так што мы больш не былі галодныя. Нам дазволілі карыстацца прыбіральняй з умывальнікам. Здаецца, там жа была і ванна. Мы,

вядома ж, не ўпусцілі магчымасці добра вымыцца — у дарозе такая нагода выпадала нам нячаста.

Фермер аказаўся вельмі прыветным і гасцінным чалавекам. Раніцай ён паказаў нам свой цудоўны статак — там было не менш за сотню кароў хольстэнскай пароды[92]! Кароў трымалі ў вялікім хляве, у вельмі добрых натуральных умовах. Але што мяне ўразіла найбольш — гэта апараты машыннага даення. Да гэтага часу мне ніколі не даводзілася бачыць, як кароў дояць пры дапамозе даільных апаратаў!

Адпачылыя і сытыя, мы выправіліся з фермы, калі дзень ужо добра ўвабраўся ў моц. Дзядзька, цётка і Таісія шчыра дзякавалі сям'і фермера за іхную шчодрасць і гасціннасць. На развітанне фермер пажадаў нам бяспечнага падарожжа. Неўзабаве мы выйшлі на роўную вузкую брукаванку. На дарозе, апрача нас, нікога не было. І раптам наперадзе, далёка на даляглядзе, паказаўся абрыс замка. Ён велічна ўзвышаўся на высокім пагорку. Калі надышоў час адпачыць і дзядзька пацягнуў вазок з дарогі на ўзбочыну, я не мог адарваць вачэй ад дзівоснага замка. Мая фантазія хутка перанесла мяне далёка-далёка — у Нью-Ёрк. Я ніколі не быў там, але бачыў ягоныя краявіды на карцінках і фотаздымках. Нібыта пры дапамозе нейкага чараўніцтва, перада мной раптам паўсталі абрысы нью-ёркскіх хмарачосаў. Я ўбачыў Эмпайр Стэйт Білдынг[93]. Як цудоўна было б, думаў я, падняцца на ліфце на самы ягоны верх, на аглядную пляцоўку, і разгледзець адтуль усю панараму гэтага цудоўнага горада, а потым паблукаць па ягоных вуліцах-каньёнах, узняцца на статую Свабоды, аж да самай паходні. Магчыма, надыдзе такі дзень, калі мае мары спраўдзяцца? Раптам я адчуў, як хтосьці паляпвае мяне па плячы, потым па другім. *«Славік, Славік, нам трэба ісці наперад»*, — сказаў дзядзька.

Калі мы ішлі па Баварыі, нам шанцавала знаходзіць начлег у маленькіх мястэчках уздоўж нашага шляху. Звычайна мы спыняліся ў грамадскіх будынках, дзе побытавыя выгоды былі мінімальныя. На жаль, у большасці прытулкаў падарожнікаў не кармілі. Аднойчы праз два бясконцыя дні ў мяне не было ані крошкі ў роце. А потым лёс ізноў злітаваўся над намі. Мы прыйшлі ў мястэчка,

---

[92] Маецца на ўвазе **галштынская**, ці **галштынска-фрызская**, — найбольш распаўсюджаная ў свеце парода малочных кароваў, што паходзіць з Галандыі.

[93] **Эмпайр Стэйт Білдынг** (англ. *Empire State Building*) — 103-паверховы хмарачос на Манхэтэне ў Нью-Ёрку. Пабудаваны ў 1931 г., ён да 1972 г. быў найвышэйшым будынкам у свеце.

дзе сабралася вялікая грамада нямецкіх уцекачоў з Усходу. На цэнтральнай плошчы мястэчка на ўсю моц працавала палявая кухня. Сястра Ніна, якая цярпець не магла гароху, праглынула ў адно імгненне цэлую міску гарохавай салаты і папрасіла дабаўкі. Мы потым доўга падсмейваліся над Нінай, прыгадваючы гэтую раптоўную любоў да гароху.

Паўсюль, дзе б мы ні ішлі, дзядзька Ян наводзіў даведкі наконт лагераў для ўцекачоў. Найбліжэйшыя з такіх лагераў знаходзіліся пад Вайдэнам[94] і ў самім Вайдэне (Верхні Пфальц). Гэтыя лагеры былі арганізаваныя палякамі, але там знайшлі сабе часовы прытулак і людзі іншых нацыянальнасцяў, у прыватнасці беларусы. Дзядзька Ян не сумняваўся, што такі лагер пасаваў бы нам дасканала. Урэшце, мы ж былі грамадзянамі Польшчы да яе падзелу ў 1939 годзе. Таму ўсе дарослыя — дзядзька, цётка і Таісія — размаўлялі па-польску абсалютна вольна. У даваеннай Польшчы яны жылі з палякамі ў блізкім суседстве і мелі да гэтых суседзяў вельмі цёплыя пачуцці. Цяпер, калі над намі ўсё яшчэ навісала пагроза прымусовай рэпатрыяцыі ў Савецкі Саюз, польскі лагер для ўцекачоў падаваўся нам самым утульным і бяспечным прытулкам, і мы вырашылі кіравацца туды.

Адным сонечным папалуднем мы ўвайшлі ў Вайдэн. Не было ўрачыстай сустрэчы, аркестра, і трубы геральдаў не абвяшчалі пра нашае прыбыццё. Але мясцовыя ўлады ахвотна накіравалі нас у польскі лагер для ўцекачоў, які знаходзіўся на ўскраіне горада. Лагер складаўся з аднаго доўгага драўлянага барака, перагароджанага пасярэдзіне шырокім калідорам. Па абодва бакі калідора цягнуліся шэрагі пакояў. Ззаду барака была кухня. Ванная і прыбіральня былі месцамі агульнага карыстання, але гэта нас не здзівіла зусім. Тры чвэрці насельнікаў лагера складалі маладыя мужчыны, пераважна гадоў дваццаці, хоць сустракаліся сярод іх і тыя, каму было крыху за трыццаць. Паводле этнічнага складу абсалютная большасць жыхароў былі палякамі (да нашага прыезду ў лагеры жылі, магчыма, двое-трое беларусаў і адзін украінец). Гэтых мужчынаў немцы вывезлі з Польшчы ў Германію падчас вайны на прымусовую працу. Вызваленыя з няволі палякі гарэлі жаданнем паквітацца з немцамі. Яны былі досыць ваяўнічыя, а да таго ж амаль заўсёды нападпітку, таму паміж імі самімі нярэдка ўспыхвалі спрэчкі і бойкі, якія часам заканчваліся панажоўшчынай.

[94] **Вайдэн** (ням. *Weidan*) —горад ва Усходняй Баварыі, Верхнім Пфальцы, размешчаны за 100 км на ўсход ад Нюрнберга і за 35 км на захад ад Чэшскай Рэспублікі.

Нашае знаходжанне ў гэтым лагеры было непрацяглае, але я пра яго зусім не шкадую — нягледзячы на ўсю небяспеку жыцця сярод нецвярозых і агрэсіўных мужчынаў. Я вельмі радаваўся, што ў нас ізноў быў дах над галавой і ежа на талерцы. Кожнаму з нас выдзелілі месца на нарах, далі матрац (на гэты раз не саламяны!), падушку, дзве прасціны і зялёную салдацкую коўдру. Пра што яшчэ магло марыць у тых умовах дзіцянё накшталт мяне! Пад жыллё нашай сям'і адвялі вялікі пакой.

Нам наўрад ці б удалося здзейсніць нашае падарожжа, калі б не непахісная вера дзядзькі і цёткі і не Таісіна валоданне нямецкай мовай. Дзядзька Ян быў вялікім аптымістам. *«Усё, што ні робіцца, робіцца да лепшага»*, — любіў ён паўтараць у няпэўныя часы. Разважаючы над маім уласным доўгім жыццём, я глыбока ўдзячны, што некаторыя рэчы, пра якія я калісьці горача марыў, ніколі не спраўдзіліся. Слушна вучыць вядомае выслоўе: *«Будзьце вельмі ўважлівыя да таго, што вы просіце ў малітвах, бо вы можаце гэта атрымаць»*.

*Чэрвень 2002 года*

## 11. ПЕРШЫ ЛАГЕР ДЛЯ ЎЦЕКАЧОЎ: У ПОЛЬСКІМ АНКЛАВЕ

Стаяла ранняе лета 1945 года. Нашае ўтомнае падарожжа з Судэтаў у Баварыю нарэшце скончылася ў Вайдэне. Тут нас накіравалі ў лагер для ўцекачоў, у якім жылі пераважна палякі. У лагеры нас пасялілі ў прасторным пакоі, але нашая сям'я мусіла дзяліць яго з жанчынай-украінкай па прозвішчы Бжэска і яе дзвюма малымі дочкамі, Лэсяй і Дадай. Нейкае падабенства прыватнага жыцця стварала фіраначка са старых прасцінаў, якая адгароджвала іх частку пакоя ад нашай. Такое ўпарадкаванне побыту задавальняла абодва бакі. Мы жылі дружна.

Цётку Тоню непакоіла, што ў гэтым лагеры мы, беларусы, апынуліся ў польскім анклаве. Яна ведала з досведу, што малаадукаваныя палякі з працоўных класаў зазвычай лічылі людзей, якія гавораць па-беларуску альбо па-ўкраінску, «расіянамі». А да рускіх палякі мелі вялікую непрыязь, карані якой сягалі ў глыбіню стагоддзяў. І, безумоўна, стаўленне палякаў да рускіх толькі пагоршыў германа-савецкі пакт аб ненападзе 1939 года — дакумент, які паклаў канец кароткаму перыяду незалежнасці Польшчы. Цётка не хацела, каб мы, дзеці, вылучаліся сярод іншых жыхароў сваёй «рускай» гаворкай, бо гэта магло б стаць небяспечным раздраж-

няльнікам для нашых польскіх суседзяў. Дарослыя вырашылі прыняць засцерагальныя меры. Па-першае, нам (дзецям) забаранілі размаўляць паміж сабой па-беларуску, калі гэта мог пачуць хтосьці з суседзяў-палякаў. Па-другое, для нас арганізавалі спешныя «моўныя курсы»: цётка Тоня і Таісія навучылі нас найбольш простым і ўжывальным польскім фразам, з дапамогай якіх мы маглі б падтрымаць нескладаную гаворку. Польская мова далася мне лёгка — урэшце, я ж быў яшчэ дзіцём і схопліваў мовы з лёту.

Не прайшло і некалькіх дзён пасля пераезду, як я і стрыечны брат Вова пачалі даследаваць наваколле нашага новага прытулку. Звычайна мы выпраўляліся ў экспедыцыі паасобку. Я не сумаваў у кампаніі самога сябе, і Вова, відаць, таксама. Інтарэсы і кірункі пошукаў у нас былі розныя.

Насупраць увахода ў наш барак стаяў шэраг цагляных шматкватэрных будынкаў — пяці- ці шасціпавярховых. У гэтых дамах жылі сем’і немцаў. За баракам разлягалася пустая пляцоўка — туды звозілі рэшткі разбомбленых будынкаў, калі расчышчалі вуліцы ад завалаў. Вова хутка адкрыў, што на гэтым сметніку пад абломкамі былых дамоў можна знайсці надзвычай каштоўныя рэчы — нямецкую зброю, у тым ліку пісталеты, кінжалы і шпагі ад параднай афіцэрскай формы.

Мяне ж больш вабіла пшанічнае поле, якое пачыналася адразу за шматкватэрнымі дамамі. Пшаніца там была незвычайна высокая. Гуляючы па ўскрайку поля, я заўважыў сцежкі, якія вялі ўглыб. Я пачаў іх даследаваць і адкрыў, што сцежкі заканчваюцца палянкамі, дзе збожжа было прымятае і прытаптанае. Такіх вытаптаных лапікаў у полі аказалася даволі шмат. Гэта ж людзі качаліся тут у пшаніцы, здагадаўся я. Відаць, яны прыходзілі сюды пазабаўляцца! Маю цікаўнасць узбуджалі таксама скарыстаныя прэзерватывы, якія я знаходзіў у полі. Я адчуваў, што за ўсім гэтым крыецца нейкі новы, невядомы для мяне свет — свет, поўны таямніцаў, разгадка якіх у мяне яшчэ наперадзе. Я доўга блукаў па пратаптаных сцяжынках, спадзеючыся знайсці што-небудзь сапраўды каштоўнае. Але я знаходзіў толькі скарыстаныя кандомы, насоўкі колеру хакі, абгорткі ад шакаладак і цыгарэтныя бычкі. Тым не менш, калі я вынырнуў з глыбіні поля на ўскраек, у мяне было пачуццё, нібы я чагосьці дасягнуў.

Амерыканскія салдаты мелі загад вышэйшага камандавання не ўступаць у прыяцельскія стасункі з нямецкім насельніцтвам. Безумоўна, да гэтага загаду ніхто не прыслухоўваўся і ніхто сурова не караў за яго невыкананне. Крамы ў вайсковых лагерах заўсёды мелі запас прэзерватываў. Адзінае, пра што камандзіры нагадвалі

салдатам, — гэта пра неабходнасць засцерагацца ад венерычных хваробаў.

Эканоміка Германіі была ў жудасным стане. Прадуктаў не хапала, і ўсе яны прадаваліся па картках. Папяровых грошай на руках было безліч, але на іх немагчыма было купіць нават бохана хлеба, калі ў цябе не было прадуктовых картак. Маладыя нямецкія жанчыны, якія ахвотна прапаноўвалі свае паслугі амерыканскім салдатам, атрымлівалі ў якасці аплаты цыгарэты, шакаладкі, апельсіны і мандарыны. Усе пералічаныя рэчы былі вельмі каштоўнымі таварамі ў тыя дні, асабліва амерыканскія цыгарэты. Прапануй пару цыгарэтаў *«Camel»* касіру тэатральнай касы, і ён імгненна знойдзе табе білеты на спектакль, на які афіцыйна «ўсе білеты прададзеныя». Булачнік прадасць за цыгарэты хлеб без прадуктовай карткі, а прачка ўсяго за некалькі цыгарэтаў памые табе бялізну. Якую фантастычную моц маюць, аказваецца, цыгарэты над людзьмі! Гэта было адкрыццём для мяне.

Перамешчаныя асобы, якія жылі ў лагерах для ўцекачоў, таксама мелі доступ да амерыканскіх цыгарэтаў. Яны атрымлівалі іх праз Адміністрацыю дапамогі і рэабілітацыі пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (*UNRRA*)[95], якая клапацілася пра бежанцаў. Калі Другая сусветная вайна закончылася ў Еўропе, у амерыканцаў засталіся велічэзныя запасы пакункаў, прызначаных для амерыканскіх ваеннапалонных (падчас вайны немцы дазвалялі распаўсюджваць гэтыя пакункі сярод амерыканскіх ваеннапалонных праз Чырвоны Крыж). Пасля заканчэння вайны пазасталыя ўпакоўкі былі перададзеныя ў *UNRRA* для распаўсюду ў лагерах сярод перамешчаных асобаў, якіх называлі Ды-Пі (скарачэнне ад *«displaced persons»*). Гэтыя квадратныя кардонныя скрынкі былі сапраўднымі скарбніцамі каштоўнасцяў. У скрынцы звычайна ляжалі туалетныя прыналежнасці, шакалад, распушчальная кава, цукар, сушаная садавіна, бляшанкі з кансервамі (тушонка, арахісавае масла і інш.), жэле з садавіны ў слоіках, крэкеры, жуйка і, безумоўна, найбольш каштоўная рэч — некалькі пачкаў цыгарэтаў. Сярод цыгарэтаў, якія ўкладаліся ў пакункі, я памятаю маркі *«Philip Morris», «Lucky Strike», «Chesterfield», «Camel»* і іншыя. Паколькі

---

[95] **Адміністрацыя Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па дапамозе і аднаўленні** (англ. *United Nations Relief and Rehabilitation Administration, UNRRA*) — арганізацыя, створаная ў 1943 г. для дапамогі вызваленым краінам, а таксама для апекі над уцекачамі. Пад наглядам *UNRRA* ствараліся лагеры для перамешчаных асобаў на тэрыторыі паваенных Германіі і Аўстрыі. Арганізацыя дзейнічала да 1947 г.

ніхто з нашай сям'і не курыў, цыгарэты былі для нас найкаштоўнейшым прадуктам для абмену ў тыя неспакойныя часы.

Вайдэну амаль цалкам удалося пазбегнуць ваенных спусташэнняў. Крыху пацярпела ад бамбёжак фабрыка па вырабе парцаляны. У іншай частцы горада ўдарамі з паветра была часткова разбураная электрастанцыя. Абодва яе коміны не мелі верхавінаў — хутчэй за ўсё, па іх стралялі з гарматаў, калі самалёты-знішчальнікі пралятал на нізкай вышыні. Трэба зазначыць, што гэта былі па-майстэрску трапныя стрэлы! Але электрастанцыі ўсё адно працавалі, і ў горадзе было святло. Цэнтр горада са старымі будынкамі ўцалеў ад бамбёжак і нават не меў слядоў пашкоджанняў. Велічныя касцёлы і іншыя цудоўныя архітэктурныя помнікі стаялі там па-ранейшаму ганарліва і годна.

Для хлопца-падлетка, якім я быў тады, у лагеры не было ніякага занятку — мне заставалася толькі блукаць па горадзе і яго ваколіцах. Але калі цяпер узгадваю той перыяд, усведамляю, што тады быў збольшага задаволены сваім жыццём. Я не заклапочваўся будучыняй і не бедаваў па мінулым — жыў цяперашнім часам, прымаючы кожны новы дзень такім, якім ён быў. Можна нават сказаць, што я пражываў мае дні на ўмовах, якія выстаўляла само жыццё. Аднак глыбока знутры нібыта бліскаў агеньчык надзеі — я верыў, што мяне чакае святлейшая будучыня і спакайнейшае жыццё дзе-небудзь у вольным свеце. Інтуітыўна я ведаў, што больш не вярнуся ў Беларусь.

Што датычыць дарослых людзей у лагеры, дык вельмі многія з іх не змаглі прымірыцца з абставінамі, у якіх апынуліся. У лагерным грамадстве, якое пераважна складалася з маладых мужчынаў, п'янства зрабілася неад'емнай рысай побыту.

У суседстве з намі, праз сцяну, жылі восем мужчынаў. Вельмі часта з іх пакоя даносіліся п'яныя галасы, бразгат бутэлек ды іншыя падобныя гукі. Мы не звярталі ўвагі на гэтыя папойкі, пакуль аднойчы Таісія не заўважыла, што некаторыя з нашых суседзяў ляжаць на траве каля барака. Яна спрабавала загаварыць з імі, яны мармыталі штосьці бяззвязнае. Таісія пабегла ў іх пакой. На ложку ляжаў мужчына, якога яна добра ведала. Гэты мужчына часта прыходзіў у госці да дзядзькі Яна, і яны доўга размаўлялі на розныя тэмы. Мой дзядзька вельмі паважаў гэтага чалавека. Мужчына вылучаўся сярод сваіх таварышаў па пакоі, бо ён быў адукаваны і старэйшы за ўсіх астатніх — яму было ўжо за трыццаць. Таісія апусцілася на калені каля ягонага ложка і схапіла яго за руку. Яна клікала яго, ён адказаў: *«Я цябе не бачу, я аслеп»*. — *«Што здарылася?»* — спытала яна ў роспачы. *«Мы выпілі штосьці не тое»*, —

пачула яна ў адказ. Віноўнікам трагедыі быў метанол[96]. Хлопцы раздабылі дзесьці металёвую бутэльку з метанолам, прынеслі яго ў пакой і пачалі выпіваць.

Таісія спрабавала супакоіць мужчыну і паабяцала яму, што знойдзе дапамогу. Яна выбегла з барака на вуліцу. Заўважыўшы джып амерыканскай ваеннай паліцыі, яна ліхаманкава замахала рукамі. Джып спыніўся. Таісія растлумачыла, што здарылася. Паліцыянты забралі Таісію з сабой і паехалі па медыкаў. Назад Таісія вярнулася на машыне хуткай дапамогі, якая належала амерыканскай арміі. Медыкі перавезлі нашага знаёмага ў шпіталь, Таісія паехала з імі. Дактары зрабілі ўсё, што можна было зрабіць у тых умовах, але ўратаваць жыццё нашага знаёмага ім не ўдалося… Астатнім мужчынам пашанцавала больш. Амаль усе яны паправіліся, хоць, здаецца, адзін ці двое гасцей, якія прыходзілі на гулянку з іншага лагера, таксама пабраліся з зямелькаю…

Дзядзька Ян вельмі высока паважаў памерлага мужчыну за ягоны інтэлект, шчырасць, таварыскасць. Цётка Тоня захаплялася ім, Таісія таксама. Мужчына выразна вылучаўся ў натоўпе сумнеўных асобаў. Ён заўсёды называў сябе палякам і ўсяляк падкрэсліваў сваю польскасць. Але дзядзьку Яну ён сказаў праўду. Паміраючы, мужчына прызнаўся дзядзьку, што насамрэч ён належыць да праваслаўнай царквы. Таму дзядзька Ян пахаваў яго, як належыць па праваслаўным абрадзе.

Гэты чалавек, імя якога сцерлася з маёй памяці шмат гадоў таму, быў пахаваны на ўскраіне Вайдэна. Дзядзька Ян, апрануты ў свае святарскія рызы, адслужыў паніхіду каля магілы. Цётка Тоня і Таісія спявалі заўпакойныя псальмы.

Жыццё — самая каштоўная рэч, якой кожны з нас валодае. Кожнаму з нас яно даецца толькі адно і толькі адзін раз. У геалагічным вымярэнні яно кароткае, як успышка святла ў начной цемры, і хуткаплыннае, як рабізна на паверхні ручая. І ўсё ж мы нядбайна, бестурботна рызыкуем нашым жыццём, як быццам бы гэта гульня за картачным сталом у казіно Лас-Вегаса.

Калі не лічыць жанчыны-ўкраінкі і яе дзвюх дачок, якія жылі з намі ў адным пакоі, я не памятаю імёнаў жыхароў лагера. За выключэннем аднаго, якога ўсе ведалі па мянушцы Зупка. Было яму пад трыццаць ці крыху за трыццаць. Ён страшэнна любіў суп

---

[96] **Метанол** — метылавы спірт, бясколерная вадкасць з характэрным пахам, падобным да паху этылавага спірту. Метанол з’яўляецца вельмі атрутным рэчывам, якое нават у дозе да 15 мл выклікае слепату і цяжкае атручэнне арганізма чалавека. Смяротная доза для чалавека 30–100 мл.

(па-польску «зупка»), які штодня варыла для насельнікаў лагера пажылая кухарка. Дзень пры дні Зупка круціўся каля кухні, раз-пораз выгукаючы: *«Мамуся, ці гатова зупка?»*, *«Мамуся, дай мне трохі зупкі!»*, *«Мамуся, я без тваёй зупкі жыць не магу!»*.

На жаль, у Зупкавым характары было шмат цёмных бакоў. Аднойчы познім вечарам я ішоў па калідоры і пачуў, што з нейкага пакоя раздаюцца гучныя ўдары. Я падбег паглядзець, што там адбываецца. Дзверы пакоя былі шырока распахнутыя. Усярэдзіне стаялі Зупка і, калі не памыляюся, ягоны сусед па пакоі. Зупка быў голы да пояса. На ягонай левай руцэ аж да локця былі надзетыя наручныя гадзіннікі. Зупка і ягоны сябра займаліся тым, што разбівалі гадзіннікі і іншыя ювелірныя вырабы малаткамі на драўлянай калодзе. Пры гэтым Зупка нешта мармытаў сабе пад нос. Абодва мужчыны выглядалі, як вар'яты, яны былі цалкам паглынутыя сваім заняткам. Што гэта было — можа, нейкі рытуал? Я не ведаю. Але гэта быў, без сумневу, яшчэ адзін новы раздзел у маёй пазашкольнай адукацыі. Я назіраў за відовішчам некалькі хвілінаў, а потым на пальчыках сышоў адтуль.

Каштоўнасці, якія знішчалі Зупка і ягоны сябар, былі, безумоўна, прыдбаныя заганнымі шляхамі — праз крадзеж, разбой, рабаўніцтва. Ахвярамі гэтых злачынстваў рабілася нямецкае насельніцтва. У пасляваеннай Германіі нямецкая паліцыя яшчэ толькі ствараласяі яна не мела юрысдыкцыі над замежнікамі, што насялялі лагеры для ўцекачоў. Амерыканскія акупацыйныя ўлады часцей за ўсё даручалі ахову правапарадку самім насельнікам лагераў. Некаторыя з такіх «дружыннікаў» нават атрымлівалі дазвол на нашэнне зброі. Але ў лагеры, пра які я расказваю, унутрылагерных сілаў праваахoвы не існавала. Падтрыманне парадку ўваходзіла ў кампетэнцыю амерыканскай вайсковай паліцыі. Я заўважыў, аднак, што вайсковыя паліцыянты не надта спяшаліся ўмешвацца ў міжасабовыя разборкі жыхароў лагера, калі толькі тыя не заканчваліся забойствамі.

Зупка меў і іншыя антысацыяльныя схільнасці. Горш за ўсё было тое, што ён вельмі часта напіваўся. Тады ягоны юр немагчыма было закілзаць. У дальнім канцы барака было два пакоі, якія першапачаткова прызначаліся для сержантаў. У адным з гэтых пакояў жылі дзве маладыя жанчыны. Пра старэйшую з іх было вядома, што яна абслугоўвае амерыканскіх салдатаў. Я думаю, яна і Зупку абслугоўвала таксама, бо не мела іншага выйсця. Яе сяброўка па пакоі была выкраеная з зусім іншага матэрыялу. Яна пазбягала мужчынаў і была поўная рашучасці захаваць сваё дзявоцтва. Але для Зупкі такія рэчы нічога не значылі. Аднойчы ўначы, калі дзяўчына была ў пакоі адна, Зупка прыйшоў да яе і гвалтам

прымусіў выканаць свае плоцевыя жаданні. Раніцай на зямлі пад яе вакном валяліся выкарыстаныя прэзерватывы. Пасля гэтага здарэння дзяўчына некалькі дзён была ў стане шоку і плакала без перапынку. Пажылая пара, якая займалася кухняй («мамуся» і яе муж), моцна дакарала Зупку за ягоны ўчынак. Ці мелі іх словы хоць які ўплыў на Зупку, я не ведаю.

Стрыечны брат Вова меў сваю праграму дзеянняў. Ён раскопваў звалку, куды вывозілі абломкі разбомбленых дамоў (туды не выкідалі звычайнага бытавога смецця). Вова спадзяваўся знайсці нямецкую зброю — шпагі, кінжалы, пісталеты. Аналізуючы мінулае, я цяпер разумею, што Вова заўсёды меў схільнасць да збірання рэчаў (ды і дагэтуль мае). Я ж, з іншага боку, быў, хутчэй, назіральнікам за падзеямі (і таксама застаўся такім на ўсё жыццё). Вовавы раскопкі прынеслі плён: ён знайшоў некалькі каштоўных рэчаў, і сярод іх пісталет сістэмы маўзер[97] — у кабуры, у выдатным стане. Вова прынёс сваю каштоўную знаходку ў барак, і дзядзька Ян пачаў яе разглядаць. Дзядзька трымаў пісталет руляй да падлогі, калі той раптам выстраліў. Мы ўсе здрыгануліся ад нечаканасці, але сполах хутка прайшоў. Дзіўна, але ніхто з жыхароў лагера не адрэагаваў на стрэл — ні адразу, ні потым. Ніхто ні пра што ў нас не запытаўся. Такія былі тады часы. Дзядзька Ян загадаў Вове пазбавіцца пісталета, схаваўшы яго ў надзейным месцы. Але Вова задумаў адваротнае: ён захацеў набыць патроны для яго. Вова звярнуўся да аднаго з жыхароў лагера, які звычайна хадзіў у форме салдата амерыканскай арміі. Мужчына ахвотна пагадзіўся дапамагчы і папрасіў прынесці яму пісталет, каб слушна выбраць калібр патронаў. Вова паверыў і аддаў зброю. Натуральна, калі хлопец потым захацеў атрымаць свой пісталет назад, мужчына яму яго не аддаў. Вова спачатку плакаў, потым пачаў лаяцца, але ўсё было марна. Ягоная каштоўная знаходка ніколі да яго не вярнулася.

Але ў лагеры здараліся і куды больш сур’ёзныя трагедыі. Хлопец гадоў дваццаці запытаўся ў сябра, якому давяраў, як можна выдаліць татуіроўку, каб не засталося слядоў. У гэтага хлопца, які, па ўсёй верагоднасці, быў украінцам, на ўнутранай паверхні рукі, бліжэй да пахі, быў вытатуіраваны нумар, які выдаваў ягоную прыналежнасць да ўсім ненавіснага СС (*Schutzstaffel*)[98]. У гэтым

---

[97] Відаць, маецца на ўвазе самазарадны пісталет, выраблены нямецкай кампаніяй, заснаванай братамі Пітэрам Паўлем і Вільгельмам Маўзерамі.

[98] **СС** (ням. *Schutzstaffeln* — «ахоўныя (абарончыя) атрады») — ваенна-палітычная арганізацыя ў Германіі ў 1930–1940-я гг., першапачаткова прызначалася для асабістай аховы Адольфа Гітлера і ўваходзіла ў

выпадку гаворка, хутчэй за ўсё, магла ісці пра Узброеныя сілы СС (*Waffen-SS*)[99]. На няшчасце хлопца, сябар, якому ён даверыўся, здрадзіў яму. Гэтая здрада мела далёкасяжныя і прадказальныя наступствы. У параўнанні з імі здрада Лінды Трып[100], «лепшай сяброўкі» Монікі Левінскі[101], выглядае як бяскрыўдная забава…

Раніцай у пакой да хлопца з татуіроўкай уварваліся некалькі жыхароў лагера, схапілі яго і пацягнулі ў прыбіральню, што знаходзілася акурат насупраць нашага пакоя. Стаяў прыгожы сонечны дзень. А з умывальнага пакоя даносіліся спачатку стогны і енкі, а потым раздаўся крык, поўны агоніі. Крыкі працягваліся доўгі час без перапынку. Урэшце яны сціхлі, ізноў раздаліся стогны. Мужчыны, якія збівалі хлопца, выклікалі вайсковую паліцыю, каб перадаць ім выкрытага эсэсаўца. У чаканні паліцыянтаў катавальнікі загадалі ахвяры ўмыцца і прывесці сябе ў парадак. Яму прынеслі чыстую пару штаноў і прымусілі пераапрануцца. У вачах катавальнікаў гэты малады хлопец быў адказным за ўсе злачынствы нацысцкага рэжыму. Вельмі зручны аб’ект, каб вымесціць на ім прагу помсты. Бо ўсе мужчыны мелі сапраўдныя ці ўяўныя крыўды, за якія хацелі пàквітацца з нацыстамі.

---

склад штурмавых атрадаў. Ад 1934 г. структуры СС былі вылучаныя са штурмавых атрадаў як асобная структура НСДАП і падпарадкоўваліся асабіста Гітлеру і рэйхсфюрэру Г. Гімлеру. У падпарадкаванні СС знаходзіліся канцэнтрацыйныя лагеры і лагеры смерці. Інстытуцыя была асноўным арганізатарам тэрору і знішчэння людзей па расавых прыкметах, палітычных перакананнях і дзяржаўнай прыналежнасці як у Германіі, так і ў акупаваных ёю краінах.

[99] **Войскі СС** (ням.: *Waffen-SS*) — ваенныя фарміраванні СС, якія ўзніклі на аснове так званых палітычных частак і зондэркамандаў СС спачатку як «рэзервовыя войскі СС». Гэта былі фактычна ўласныя войскі А. Гітлера, якія адрозніваліся «безумоўнай вернасцю» асабіста яму, задачай якіх было гарантаванне бяспекі. Часткі войскаў СС бралі ўдзел як у ваенных дзеяннях, так і ў акцыях айнзацгрупаў, якія здзяйснялі генацыд.

[100] **Лінда Трып** (*Linda Rose Tripp*, нар. 1949) — супрацоўніца аддзела аховы ў Пентагоне, што таемна запісала тэлефонныя размовы сваёй знаёмай Монікі Левінскі пра сексуальную сувязь з прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам. Гэтыя запісы сталі падставай для расследавання, якое мела вынікам пачатак працэдуры імпічменту Прэзідэнту.

[101] **Моніка Левінскі** (*Monica Samille Lewinsky*, нар. 1973) — стажорка у Белым доме, а пазней супрацоўніца Пентагона, галоўная фігурантка скандалу, што ўзнік у 1998–1999 гг. вакол яе сексуальнай сувязі з прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам

Калі паліцыянты прыбылі, ахвяру пацягнулі праз калідор на вуліцу. Я заўсёды быў цікаўным хлопчыкам, і таму таксама пайшоў туды паглядзець на развіццё падзей. Перад баракам стаяў джып, на якім прыехалі тры вайсковыя паліцыянты ў касках. Адзін з іх, пухлы мужчына сярэдніх гадоў, меў нашыўкі сяржанта на рукавах. Астатнія два былі маладзёнамі, ніжэйшымі па званні. Хлопец, якога збівалі, быў босы, на ім не было нічога, апрача штаноў. Двое мужчын моцна трымалі яго за рукі. Сяржант падышоў да яго бліжэй, спыніўся на некалькі секундаў, гледзячы хлопцу ў вочы, потым, ні слова не кажучы, ударыў яго ботам у пахвіну. Хлопец сагнуўся і застагнаў. Два маладзейшыя паліцыянты зацягнулі яго ў машыну, і джып з’ехаў.

Пасля гэтага здарэння я чуў, як мужчыны, якія бралі ўдзел у збіванні былога эсэсаўца, выхваляліся рознымі прыёмчыкамі, якія яны прымянялі, каб замаскаваць сляды катаванняў. Я ўжо не памятаю ўсіх дэталяў, ад якіх у мяне тады кроў застывала ў жылах. Цьмяна прыгадваю, што нейкую ролю там адыгрывалі мокрыя ручнікі, якія дапамагалі пазбегнуць сінякоў на целе ахвяры. Відаць было, што ка́ты дасканала прадумалі сваю працу і добра падрыхтаваліся да яе.

Далейшы лёс арыштаванага мужчыны мне невядомы. Калі толькі не адбылося нейкага цуду (кшталту рызыкоўных уцёкаў), хлопца, відавочна, перадалі ў рукі савецкіх уладаў. Можна з вялікай доляй верагоднасці дапусціць, што былога ўкраінскага штурмавіка чакала хуткая смерць. Альбо яго расстралялі адразу ж на месцы, альбо ён загінуў у ГУЛАГу — гэтае месца было яшчэ страшнейшае за смерць…

Ад моманту расейскай рэвалюцыі ў 1917 годзе апарат савецкага «правасуддзя» знічшыў незлічоную колькасць савецкіх грамадзянаў. Уся іх «віна» палягала на тым, што гэтыя людзі, на думку камуністычных кіраўнікоў, не ўпісваліся ў мадэль савецкай дзяржавы, якую запланавалі стварыць камуністы. Масавыя чысткі зацягвалі ў свае віры ўсё новых і новых ахвяраў рэжыму. Усіх гэтых пакутнікаў, сярод якіх былі людзі самага рознага этнічнага паходжання, з розных эканамічных класаў, розным узроўнем культуры і адукацыі, вернікі розных рэлігій, — усіх іх аб’яднаў аднолькавы лёс: яны падлягалі знішчэнню і татальнаму забыццю. Савецкія салдаты, якія падчас вайны трапілі ў нямецкі палон і выжылі там, пасля вяртання ў СССР адразу накіроўваліся ў ГУЛАГ. Які лёс тады мог чакаць чалавека, які адкрыта ваяваў супраць савецкага рэжыму?

З майго асабістага жыццёвага досведу я добра ведаў, наколькі па-варварску таталітарны бальшавіцкі рэжым абыходзіўся са сваімі грамадзянамі. Аднак да нядаўняга часу я ўяўлення не меў пра размах гэтага выродлівага збачэнства — аж пакуль не прачытаў

«Архіпелаг ГУЛАГ» Аляксандра Салжаніцына[102]. Нарэшце я зразумеў, як савецкі рэжым ажыццяўляў сваю скрупулёзна прадуманую д’ябальскую праграму па вынішчэнні тых, хто не падыходзіў пад камуністычныя ідэалагічныя стандарты, і як увязняў у ГУЛАГу, для рабскай працы, усіх, хто трапіўся пад руку, — проста для таго, каб дасягнуць патрабаваных зверху працэнтаў «выкрытых ворагаў». Жыхары краіны былі для гэтага рэжыму ўсяго толькі расходным матэрыялам. У гэтым пякельным коле, за межы якога падавалася немагчымым вырвацца, загінулі мільёны савецкіх грамадзянаў — мільёны бязвінных людзей.

Жахлівая карціна савецкіх злачынстваў, намаляваная Салжаніцыным, скаланае розум цывілізаванага чалавека. Цяпер я цалкам разумею, чаму прэзідэнт Рональд Рэйган[103] назваў Савецкі Саюз «імперыяй зла»[104]. Толькі я хацеў бы яшчэ крыху дапоўніць гэтае вызначэнне. Не вагаючыся, я магу з усёй адказнасцю сказаць, што камуністычны рэжым Савецкага Саюза быў адной з найгоршых тыраній, якія калі-небудзь існавалі на зямлі. Я веру, што гісторыя вынесе гэтаму рэжыму адпаведны прысуд, а Бог зацвердзіць яе вердыкт.

У польскім лагеры нярэдка здараліся розныя інцыдэнты, і некаторыя з іх маглі напалохаць не жартам. Аднойчы, напрыклад, я ішоў па калідоры ў наш пакой. З іншага пакоя выскачыў мужчына і прабег міма мяне на вуліцу. З адзення на ім былі толькі шорты, а па ўсім целе цякла кроў ад нажавых ранаў. Я скамянеў на месцы. Але ніхто не праводзіў ніякіх расследаванняў і ніхто потым не размаўляў пра гэты выпадак — ён прайшоў незаўважаным у чарадзе падобных здарэнняў. І наколькі б жахлівым ні быў выгляд

---

[102] **Аляксандр Салжаніцын** (1918–2008) — рускі пісьменнік, гісторык, грамадскі дзеяч, дысідэнт. Твор «Архіпелаг ГУЛАГ», заснаваны на лістах, успамінах і вусных сведчаннях зняволеных, распавядае пра рэпрэсіі ў СССР у 1918–1956 гг. Першы том працы быў апублікаваны ў Парыжы ў 1973 г.

[103] **Рональд Рэйган** (1911–2004) — амерыканскі палітычны дзеяч, 40-ы прэзідэнт ЗША (1981–1989), губернатар штата Каліфорнія, акцёр і радыёвядучы. Рэйган адыграў ключавую ролю ў заканчэнні халоднай вайны.

[104] **«Імперыя зла»** — літаратурны выраз, што стаў папулярным палітычным клішэ дзякуючы амерыканскаму прэзідэнту Рональду Рэйгану, які выкарыстаў яго ў якасці характарыстыкі СССР у прамове перад Нацыянальнай асацыяцыяй евангелістаў у Фларыдзе ў сакавіку 1983 г.

акрываўленага чалавека, я ўжо не прымаў такія рэчы блізка да сэрца, бо на той час наглядзеўся ўсякага.

Аднак ніхто не чакаў, што наступнай ахвярай гвалтоўных разборак стане цётка Тоня. Аднойчы раніцай, калі яна выходзіла з пакоя, з дзвярэй насупраць вылецеў гліняны кубак і стукнуў цётку ў лоб. Удар быў такой моцы, што кубак разляцеўся на кавалкі, а цётка Тоня страціла прытомнасць і ўпала на падлогу. Яе прынеслі назад у пакой, з раны на яе лобе цякла кроў. Кубак быў шпурнуты з умывальнага пакоя, які знаходзіўся якраз насупраць нашага. Кінуты з усёй сілы, ён праляцеў праз акно ў дзвярах, дзе калісьці было шкло, а цяпер вісела тонкая фіранка. Мяркуючы па гуках, якія даносіліся з умывальніка, там ішла сварка, якая перарастала ў бойку, — чуліся крыкі, удары і тупаценне ног. Дзядзька Ян рызыкнуў паглядзець, што там адбываецца. Ва ўмывальніку сварыліся двое мужчынаў, адзін з іх Зупка. Пазней Зупка прызнаўся, што гэта ён кінуў той злашчасны кубак, хочучы пацэліць у свайго суразмоўцу. (Калі б Зупка нарадзіўся не ў Польшчы, а ў Злучаных Штатах і цікавіўся бейсболам — хто ведае, можа быць бы яму зоркавым гульцом на падачах у нью-ёркскіх «Янкіз»[105]!) Пазней абодва мужчыны доўга выбачаліся перад цёткай Тоняй і ўсёй сям'ёй. Прабачэнні былі прынятыя. На шчасце для ўсіх нас, дзяцей і дарослых, цётка Тоня цалкам ачуняла пасля таго інцыдэнту. Толькі на лобе назаўсёды застаўся шнар.

Яшчэ да таго, як здарыўся няшчасны выпадак з цёткай Тоняй, дзядзька Ян пачаў шукаць магчымасці пераезду ў іншы лагер, які больш пасаваў бы для сям'і з дзецьмі. І такі лагер знайшоўся. Нам сказалі, што непадалёк ад Вайдэна ёсць вялікі лагер, дзе жывуць пераважна сем'і і што там знайшлі сабе часовы прытулак людзі розных нацыянальнасцяў — палякі, украінцы, літоўцы, беларусы, чэхі, венгры і іншыя. Лагер размяшчаўся у прыгожым месцы: баракі стаялі там паміж дрэвамі на пагорку, а за баракамі рос вялікі сасновы бор. Гэта гучала, як спаўненне мараў, думаў я. Я быў гатовы да пераезду.

---

[105] **«Нью-Ёрк Янкіз»** (англ. *New York Yankees*) — прафесійны бейсбольны клуб, які базуецца ў нью-ёркскім Бронксе. Сёння гэта самы паспяховы клуб у Амерыканскай лізе Галоўнай лігі бейсболу.

# 12. ЖЫЦЦЁ Ў ДРУГІМ ЛАГЕРЫ: ДОЎГАЧАКАНЫ АДПАЧЫНАК

Паколькі мы былі ўцекачамі і знаходзіліся ў амерыканскай зоне акупацыі Германіі, нам было наканавана правесці ў лагерах для перамешчаных асобаў некалькі гадоў. Наш першы лагер быў збольшага польскім, ён знаходзіўся на ўскраіне Вайдэна. Мы пражылі там прыблізна два з паловай месяцы. Адтуль мы вырашылі пераехаць у іншы прытулак у ваколіцах Вайдэна — шматнацыянальны лагер для перамешчаных асобаў з Усходняй Еўропы. І дзядзька Ян, і цётка Тоня вельмі хацелі жыць у такім лагеры, які б складаўся з сем'яў (а не ў бараку, дзе жылі пераважна адзінокія мужчыны). Лагер, куды мы кіраваліся цяпер, якраз пасаваў пад гэтае вызначэнне. Наш другі часовы дом у Баварыі прытуліў пераважна сем'і розных нацыянальнасцяў: тут былі палякі, украінцы, літоўцы, беларусы, чэхі, славакі, венгры і іншыя народы.

Новы лагер утульна размясціўся на схіле пагорка, дзе рос велічны хвойны лес. Да Вайдэна адсюль можна было дайсці пешшу. Лагер з горадам злучала жвіровая дарога. Апрача яе да горада вяло шмат пратаптаных сцяжынак. Ідучы з горада ў лагер па жвіроўцы, немагчыма было не звярнуць увагі на раскошныя сядзібы, што стаялі паабапал дарогі. Як мне растлумачылі, у гэтых вілах больш не жылі іх ранейшыя ўладальнікі. Цяпер вілы былі занятыя амерыканскімі вайскоўцамі і цывільнымі чыноўнікамі. Былых уладальнікаў сядзібаў пераможцы папросту павысялялі з дамоў, часам без аніякага папярэджання. Някліка용ыя «госці» відавочна цешыліся такімі пладамі перамогі.

Паколькі я любіў вандраваць і даследаваць наваколле, для мяне гэты лагер быў нечым накшталт краіны цудаў. Прыгожыя краявіды атачалі нас з усіх бакоў. Схіл пагорка быў добраўпарадкаваны і падзелены на тэрасы, умацаваныя бярвеннем і каменнем — гэта засцерагала іх ад апаўзання. З тэрасы на тэрасу вялі прыступкі, зробленыя таксама з бярвення. На тэрасах стаялі аднапавярховыя драўляныя дамы барачнага выгляду. Пакоі былі вялікія, з вокнамі, і кожны пакой меў свой асобны ўваход. Безумоўна, прыбіральні і ўмывальнікі былі месцамі агульнага карыстання, але ў тыя часы гэта нікога не здзіўляла. Ты мусіў быць удзячны за тое, што маеш. А наракаць на цяжкасці ўсё адно не мела сэнсу.

Правёўшы дзіцячыя гады на ўлонні прыроды ў фальварку Марцінова, я адчуваў сябе тут амаль як дома. Па начах я любіў разглядаць зорнае неба. На досвітку, калі нашы баракі і лес ззаду іх былі яшчэ ахінутыя ранішняй смугою, я з асалодай слухаў меладычныя галасы птушак. Чароўныя карціны абуджэння прыроды

было нескладана назіраць, бо штораніцы, яшчэ да світанку, усіх нас будзіў зычны голас мужчыны, які клікаў памагатых на кухню. Венгр, які працаваў на кухні, абыходзіў баракі і крычаў на ўсё горла па-венгерску: *«Вылазьце з ложкаў, соні! Час абіраць бульбу, і нам трэба дапамога. Зараз жа цягніце сюды свае задніцы!»*

Немцы заўсёды былі народам з высокаразвітай экалагічнай свядомасцю. Іх павага да навакольнага асяроддзя вартая найвышэйшай ухвалы. На працягу гісторыі немцы бераглі сваю прыроду ад празмернай эксплуатацыі, ставячы гэтую задачу нават паперадзе эканамічнага развіцця. Наш лагер быў жывой праявай такой пашаны да прыроды.

Ад першых дзён спакойная і ціхамірная атмасфера нашага новага прытулку вельмі мяне супакойвала. За колькі метраў ад барака пачынаўся лес, які падаваўся бясконцым, і гэта было найвыдатнейшае месца для падарожжаў і даследаванняў. Лес быў поўны чарніцамі і грыбамі. Я мог блукаць там гадзінамі, удыхаючы духмянае паветра і любуючыся краявідамі. Лес быў месцам, куды я і іншыя жыхары лагера маглі ўцячы ад нудоты, — ён ніколі не надакучваў. Блуканне па лесе на самоце прыносіла мне пачуццё глыбокага задавальнення і душэўны спакой. Ніхто не турбаваў мяне там. Хіба што часам, калі я збіраў грыбы, мяне палохалі бяскрыўдныя чорныя змейкі. Звычайна я паспяваў толькі краем вока пабачыць вяртлявае тулава, якое праслізгвала каля ног і хавалася ў кустоўі. Але і гэта было захапляльна!

Больш спакойную атмасферу ў лагеры стварала і тая акалічнасць, што наш побыт быў цяпер упарадкаваны іначай. Нам больш не трэба было дзяліць адзін доўгі калідор з людзьмі непрадказальнага тэмпераменту: у наш пакой вёў асобны ўваход! Гэта быў сапраўдны дарунак лёсу. І яшчэ, у адрозненне ад папярэдняга лагера ў гэтым жылі пераважна не адзіночкі, а сем'і. Адпаведна, людзі, якія тут знаходзіліся, думалі найперш пра эміграцыю і далейшае ўладкаванне жыцця, а не пра тое, каб паквітацца з немцамі альбо вымесціць свае няшчасці адзін на адным.

У гэтым пастаральным наваколлі мне нават менш хацелася назіраць за жыццём суседзяў. Дый самі суседзі былі цяпер не навідавоку. Але з любога правіла ёсць выключэнні. Найлепш памятным выключэннем была сям'я, якая жыла ў суседстве з намі: маці з кранутымі сівізной валасамі, яе дачка гадоў васямнаццаці-дзевятнаццаці і сын гадоў васьмі. Гэта была ва ўсіх сэнсах неардынарная сям'я. Маці і дачка вылучаліся ветлівасцю і тактоўнасцю. Яны былі вельмі прыемнымі людзьмі — заўсёды ў добрым гуморы, заўсёды поўныя павагі да астатніх. Хлопчык быў добра выхаваны і ніколі не ствараў ніякіх праблемаў (вельмі спадзяюся, што ягоны далейшы

лёс склаўся паспяхова і шчасліва!). Тым не менш я, відаць, даўно забыўся б пра гэтую сям’ю, калі б не іх дачка, імя якой сцерлася з памяці.

Высокая і стройная, з доўгімі прыгожымі нагамі і грацыёзнымі далікатнымі рукамі, нібыта вытачанымі з белага алебастру, яна адразу вылучалася сярод астатніх дзяўчат. Яе аблічча дапаўнялі пышныя светлыя валасы, скульптурныя скулы, акуратны нос і прапарцыйны лоб, падбароддзе, што крыху выступала наперад, глыбока пасаджаныя пранізлівыя вочы… Не дзіва, што на гэтай жанчыне неадменна спыняліся ўсе мужчынскія позіркі — яна проста зачароўвала. А таварыскасць і прыязнасць толькі дадавалі ёй прывабнасці. Я амаль не кантактаваў з ёй: калі мы выпадкова сутыкаліся, дык перакідваліся парай слоў. Але што мяне найбольш ураджвала ў гэтай дзяўчыне, дык гэта яе смеласць. Для яе было звычайнай справай выйсці на прагулку ў сарафане з тонкай, амаль празрыстай тканіны, пад якім больш нічога не было надзета. Тады мне выпадала ўдача бачыць дзявочыя атрыбуты, звычайна схаваныя ад чужых вачэй, і захапляцца іх хараством.

Прыгажосць маладой жанчыны не засталася незаўважанай і іншымі. Як я хутка зразумеў, гэтую прыгажосць даўно адкрылі афіцэры амерыканскай арміі. Яны атрымлівалі асалоду ад інтымнай кампаніі нашай суседкі, расплочваючыся цыгарэтамі, слодычамі (найперш шакаладам), бляшанкамі з кансервамі (пераважна мяснымі), туалетнымі прыналежнасцямі (якія ўключалі мыла і зубную пасту) і, магчыма, найбольш каштоўнымі рэчамі — нейлонавымі панчохамі. Наагул, кошт за гэты вельмі папулярны сэрвіс быў зусім невялікі. Але жанчыны ахвотна прапаноўвалі свае паслугі вайскоўцам у абмен на пералічаныя тавары, што былі тады вялікім дэфіцытам. Нашая маладая суседка абслугоўвала вайскоўцаў з другога боку Атлантыкі тактоўна і далікатна. Ніколі, ні ўдзень, ні ўвечары, не было такога, каб каля дома ашываліся людзі ў вайсковай форме. Яны заўсёды прыходзілі і адыходзілі незаўважна. На тэрасе, ніжэйшай за нашую на адзін узровень, перпендыкулярна да нашага дома стаяў пусты будынак. Паколькі я любіў усё даследаваць, я, безумоўна, залез і туды. Я знаходзіў на падлозе скарыстаныя прэзерватывы, завязаныя вузлом вышэй узроўню вадкасці. Некаторыя з іх утрымлівалі незвычайна вялікую колькасць мутнай субстанцыі. Ці не сам Сатыр[106] забаўляўся тут з німфамі, думаў я?

[106] **Сатыр** — у старажытнагрэчаскай міфалогіі істота з казліным хвастом, нагамі, барадой і рогамі, распусны і юрлівы спадарожнік бога Дыяніса.

Нашая маладая Афрадыта[107] мела свайго бізнес-менеджара. Яе маці ўзяла на сябе ролю «матроны». Размаўляючы з цёткай Тоняй, маці дзяўчыны расказвала, што яе дачка абслугоўвае толькі афіцэраў амерыканскай арміі (ні ў якім выпадку не шараговых салдатаў), што яна прымае візітараў толькі ў пэўныя дні тыдня і не больш чым аднаго за вечар. Такія прызнанні з вуснаў нашай суседкі ўзбуджалі ва мне моцную цікавасць. Я ўжо не памятаю, што адказала ёй цётка, — хутчэй за ўсё, штосьці нейтральнае. Урэшце, шчырасць, асабліва калі яна сыходзіць ад твайго суседа, — гэта заўсёды станоўчая рэч.

Юнай Афрадыце даводзілася сутыкацца і з няпрошаным візітантам, які, без сумневу, хацеў бы атрымаць сваю долю паслугаў за бясплатна. Гэта быў не хто іншы, як сам камендант лагера — уцякач з Польшчы. Калі пачынала цямнець, камендант з'яўляўся пад акном пакою, дзе жыла дзяўчына. Пачыналася слоўная перапалка. Дзяўчына прасіла каменданта пакінуць яе ў спакоі — ён не здаваўся і настойваў на сваім. Я назіраў такую сцэну некалькі разоў, застаючыся незаўважаным гледачом. Не ведаю, ці ўдалося каменданту атрымаць тое, чаго ён так прагнуў. Адно магу сказаць: гэты чалавек меў бясспрэчны густ што да жаночай прыгажосці…

Нашае амерыканскае грамадства ў цэлым няўхвальна глядзіць на такую з'яву, як секс за грошы. Законы і звычаі наўпрост асуджаюць гэтую даўнюю практыку, называючы яе крымінальнай. А вось еўрапейцы падаюцца мне людзьмі больш шырокіх паглядаў. Калі я ўзгадваю пасляваенную Германію, акупаваную войскамі саюзнікаў, я разумею, што юныя Афрадыты рабілі неацэнную паслугу для амерыканскіх мужчынаў-вайскоўцаў. За свой сэрвіс яны атрымлівалі пераважна прадукты і тавары, якія ў той час немагчыма было купіць на рынку: шакалад, апельсіны, кансервы, цыгарэты, нейлонавыя панчохі, касметыку. Гэта было ўзаемавыгадным пагадненнем, бо амерыканскім салдатам паслугі дзяўчат даставаліся па вельмі даступнай цане. Уявіце сабе гэтых маладых вайскоўцаў, адлучаных ад сваіх сяброўак, каханак, жонак на працяглы час — часам на доўгія гады. Яны і так дастаткова ахвяравалі сабой для сваёй краіны, але ж ці справядліва ўключаць у спіс ахвяраванняў яшчэ і вымушаны цэлібат?

Маці юнай Афрадыты аднойчы папрасіла мяне (а магчыма, і Вову) дапамагчы ёй у нейкай справе. Яна размаўляла са мной папольску — на мове, якую я разумеў. Яна таксама бегла гаварыла

---

[107] **Афрадыта** — багіня кахання і прыгажосці ў старажытнагрэчаскай міфалогіі.

па-нямецку (гэтай мовы я тады добра не ведаў). Адсюль можна было зрабіць выснову, што або яна сама, або яе муж былі немцамі. У якасці ўзнагароды за працу жанчына паабяцала даць мне апельсінаў, шакаладу і іншых прысмакаў. Я пагадзіўся і зрабіў тое, што яна прасіла (не памятаю, што гэта было). Як і было дамоўлена, я атрымаў сваю аплату прадуктамі. Пазней — нашмат пазней — я разважаў: а што было б, калі б сама Афрадыта папрасіла мяне ёй дапамагчы? Ці пагадзіўся б я прамяняць апельсіны і шакаладкі на яе любошчы? Сам сабе я адказаў: так. Падлетак, безумоўна, не ўстаяў бы перад чарамі гэтай прыгожай дзяўчыны.

Якімі б маляўнічымі ні былі ваколіцы лагера, гэта не магло ўтрымаць мяне і Вову ад далёкіх экспедыцый. Спачатку наш маршрут вёў у прадмесце Вайдэна, на гарадскую звалку. Мы былі там не адзінымі наведнікамі: шмат людзей таксама шукалі на звалцы штосьці карыснае ці пажыўнае. Звычайна маю ўвагу прыцягвала пляцоўка, куды высыпалі смецце, вывезенае з лагераў амерыканскіх вайскоўцаў. Але нават там мае знаходкі былі вельмі сціплыя. Час ад часу я знаходзіў некалькі вялікіх бульбінаў для запякання, якія яшчэ можна было скарыстаць. Апельсіны, мандарыны і лімоны заўсёды трапляліся гнілыя. Вова займаўся пошукам больш сур'ёзных рэчаў. Я вельмі добра памятаю, як аднойчы ён знайшоў электраматор. Ён панёс яго са звалкі, і тут на яго насеў нейкі мужчына, які хацеў адабраць знаходку. Завязалася бойка. Вова закрычаў, я прыбег яму на дапамогу. Урэшце нам удалося адстаяць матор, і мы прынеслі яго ў лагер. На жаль, Вова не знайшоў пакупніка на свой тавар, але ён усё адно вельмі ганарыўся гэтай здабычай. Нягледзячы на мізэрнасць вынікаў, нашыя падарожжы на звалку ўсё ж мелі карысць: яны давалі нам нейкі занятак, дазвалялі чымсьці запоўніць вольны час, якога мы мелі безліч.

Вова вельмі любіў зброю. Незадоўга да капітуляцыі Германіі вайскоўцы нямецкай арміі павыкідалі вялікую колькасць розных боепрыпасаў — на шчасце, сярод гэтага арсеналу не было зброі масавага знішчэння… У любым глухім кутку можна было натыкнуцца на небяспечныя «цацкі». Звычайна знаходку не чапалі і пакідалі ляжаць там жа, дзе ўбачылі, — калі толькі гэта не было штосьці маленькае і кампактнае. Аднойчы, гуляючы па лесе, Вова знайшоў супрацьтанкавую ракету (*Panzerfaust*). Ён страшэнна ўзрадаваўся знаходцы і, безумоўна ж, захацеў праверыць яе ў дзеянні. Вова забраў ракету з сабой і выпусціў яе непадалёк ад лагера. Гук выбуху быў аглушальны. З лагера выбеглі людзі, пытаючыся адзін у аднаго: што гэта было такое? Хто гэта зрабіў? Віноўніка выбуху шукалі, але не знайшлі. Вову выдаў ягоны ўласны доўгі язык. Вядома ж, Вова лічыў гэты выпадак сваім подзвігам, таму ён не хаваў яго ў

сакрэце, а, наадварот, з гонарам усім пра яго расказваў. Дайшлі чуткі і да дзядзькі Яна. Дзядзька моцна насварыўся на хлопца і сурова загадаў яму больш ніколі не гуляць з боепрыпасамі і зброяй.

Бывалі выпадкі, калі я, Вова і яшчэ адзін малады мужчына з лагера, дачакаўшыся цемры, хадзілі капаць бульбу на суседнюю ферму. На бульбянішчы, арудуючы кароткімі рыдлёўкамі, мы паспешліва напаўнялі бульбай пару мяхоў і як мага хутчэй цягнулі нашую здабычу ў лагер. Цётка Тоня была майстрыцай гатаваць бульбу рознымі спосабамі. Яе дранікі былі найлепшыя з усіх, якія мне давялося каштаваць у жыцці. На бульбянішча нас гнаў заўсёдны голад. Ежы, што гатавалі на лагернай кухні, вобмаль хапала толькі на тое, каб не памерці з голаду. У XXI стагоддзі падобны лагер быў бы ідэальным месцам для людзей, якія хочуць скінуць вагу…

Аднойчы наш кампаньён па налётах на бульбяныя палеткі (ягонае імя я забыўся) прапанаваў мне паўдзельнічаць у яшчэ адной авантуры. Усё, што я памятаю пра гэтага мужчыну, можна ўкласці ў адзін сказ: ён быў дваццаці з невялікім гадоў, сярэдняга росту, светласкуры і хударлявы, з блакітнымі вачыма. А, і яшчэ ў яго была прыгожая маладая жонка. На гэты раз наш шлях ляжаў на далёкае капуснае поле. Калі звечарэла, мы паехалі туды на веласіпедзе. Мужчына круціў педалі, я сядзеў на раме. Нам давялося праехаць дастаткова далёка па брукаванцы, пакуль мы трапілі, куды хацелі. Качаны капусты былі ўжо вялікія, гатовыя да ўборкі. Без лішніх цырымоній мы напоўнілі капустай два вялікія мяхі. Адзін мех прывязалі да рамы, а другі ззаду да багажніка. Я таксама заскочыў на раму, і мы паехалі назад. Я захоплена сачыў, як па-майстэрску гэты мужчына кіруе цяжка нагружаным веласіпедам! Мы дабраліся ў лагер без прыгодаў і паспяхова давезлі ўсе нашыя несумленна здабытыя трафеі. Такія былі тады часы.

У той час я жыў у сваім уласным свеце і звяртаў мала ўвагі на маіх сёстраў, Фаіну і Ніну. Не дзіва, што я практычна не памятаю, чым яны тады займаліся. Падобным чынам, я мала памятаю, як праводзілі свае дні Таісія і цётка Тоня. Нядаўна Таісія расказала мне, што яны бавілі час пераважна за чытаннем і вышываннем крыжыкам. Яшчэ Таісія сказала, што адна з вышываных крыжыкам карцінаў, выкананая тады ў Баварыі, дагэтуль вісіць на сцяне яе прасторнага дома ў Грос Пойнт Фармз[108], у штаце Мічыган. А вось

---

[108] **Грос Пойнт Фармз** (англ. *Grosse Pointe Farms*) — прыбярэжны пасёлак, прыгарад Дэтройта, знаходзіцца ў акрузе Уэйн (*Wayne*) штата Мічыган ЗША.

дзядзьку Яна ў тым лагеры я памятаю вельмі добра. Неўзабаве пасля нашага прыезду дзядзька Ян арганізаваў там праваслаўную парафію. Невялікая зала, якая стаяла без ужытку, была ператвораная ў капліцу, і там пачалі праводзіцца набажэнствы. У нядзелю раніцай вернікі запаўнялі гэтую імправізаваную царкву пад завязку. Аднойчы, памятаю, я прысутнічаў там на нядзельнай багаслужбе. Натоўп людзей стаяў так шчыльна, што цяжка было локцем зварухнуць. Паветра было гарачае і пахла ладанам. Раптам я адчуў, што ў мяне закружылася галава. Я зразумеў, што зараз самлею, і паспеў толькі сесці на падлогу. Калі я апрытомнеў, я ўбачыў, што сяджу на вуліцы ў раскладным крэсле, а каля мяне завіхаюцца некалькі жанчын. Гэтыя жанчыны і вынеслі мяне на свежае паветра, якое хутка вярнула мяне да прытомнасці. Такі выпадак больш не паўтарыўся. Я працягваў наведваць нядзельныя багаслужбы, бо гэта было абавязковым патрабаваннем да нас, дзяцей.

Пастаральныя краявіды лагера зрабілі на мяне аздараўленчы ўплыў. Я адчуваў мяккія абдымкі прыроды, і гэта было супакаяльным пачуццём. Пасля доўгай чарады трагічных і балючых здарэнняў маё жыццё нарэшце запоўнілі спакой і надзея. Я лічу, што вельмі вялікую ролю ў гэтай змене адыгралі мае шматгадзінныя вандраванні па лесе. Лес прываблiваў мяне з самага ранняга дзяцінства. Нават сёння мне цяжка растлумачыць, чаму мяне заўсёды так цягнула ў лес. Дома, у Беларусі, я выкарыстоўваў кожную магчымасць, каб ізноў адчуць таямнічую ўладу лесу нада мной. Часам я хадзіў у лес, каб збіраць грыбы і ягады, але не менш часта я блукаў там без пэўнай мэты, проста каб пабыць у лесе на самоце і атрымаць ад гэтага асалоду. Седзячы на мяккім дыване з моху, я мог адсунуць убок мае турботы, памарыць пра будучыню, адпусціць фантазію на волю. Я адчуваў сябе ў лесе запрошаным і доўгачаканым госцем. Меладычны шум высокіх дрэваў, водар квітнеючых кустоў, рэзкі пах сасновай жывіцы, тоўсты дыван пругкага моху — усё гэта дагэтуль жывое ў маёй памяці. Лес маёй радзімы, ты суправаджаеш мяне паўсюль, дзе б я ні быў!

Мне давялося правесці ў Германіі некалькі гадоў жыцця, якія прыпалі якраз на той перыяд, калі фарміруецца асоба чалавека. Азіраючыся назад на гэтыя гады, я ніяк не магу назваць іх страчанымі. Яны былі цяжкія, але цікавыя, былі гадамі пошукаў і адкрыццяў. Траўмы ваенных часоў нарэшце пачалі забывацца, іх месца занялі надзея і спадзяванне на лепшае жыццё, у якім кожны можа церабіць сваю ўласную сцежку да самарэалізацыі і шчасця.

Краіна, якая нас прытуліла, Германія, была цывілізаваным грамадствам. Безумоўна, пра зверствы нацыстаў і ўсё зло, якія яны прынеслі чалавецтву, ніхто ніколі не забудзецца. Але калі

разглядаць нямецкі народ сам па сабе, нельга не прызнаць яго адным з найбольш культурных народаў свету. Нягледзячы на хаос і неразбярыху ваеннага часу, у краіне падтрымліваўся парадак, і людзі падпарадкоўваліся законам, — гэта было бяспечнае і ўтульнае месца для жыцця. Нацысты зніклі, а разам з імі знікла і іх спадчына. У Германіі 1945 года амаль усе правапарушэнні здзяйсняліся замежнікамі, якія жылі там у лагерах часовага прытулку. Амерыканская вайсковая паліцыя звычайна так і менавала парушальнікаў закону — *«гэтыя клятыя дыпісы»*.

Наш побыт у другім па ліку лагеры быў спакойны і прыемны, і гэтаму, безумоўна, паспрыяла тая акалічнасць, што паміж людзьмі ў лагеры панавалі прыязныя і таварыскія адносіны. Але і ў другім лагеры мы не затрымаліся надоўга. Позняй восенню мы ўжо развіталіся з нашымі новымі сябрамі і знаёмымі, бо нас ізноў чакаў пераезд.

Дзядзька Ян сказаў, што мы пераязджаем у мястэчка Тырсгайм[109] каля горада Хоф[110], непадалёк ад мяжы з Чэхаславакіяй. Наш наступны прытулак змяшчаў не больш за тры тузіны чалавек. Гэта былі праваслаўныя епіскапы са сваім атачэннем і праваслаўныя святары з сем’ямі. Большасць насельнікаў лагера былі беларусамі з паходжання, калі не па перакананнях. Як і мы, яны былі ўцекачамі, якія вымушаныя былі пакінуць сваю радзіму. Дзядзька Ян верыў, што гэты лагер будзе самым адпаведным месцам для нас.

Не памятаю, як мы дабіраліся да Тырсгайма. Магчыма, на цягніку. У любым выпадку гэтае падарожжа было беспрыгоднае, бо яно цалкам знікла з памяці.

*Чэрвень 2003 года*

## 13. ТЫРСГАЙМ: У БЛІЗКІМ СУСЕДСТВЕ З НЕМЦАМІ

Была позняя восень 1945-га, калі дзядзька Ян, цётка Тоня, стрыечныя сястра і брат, Тая і Вова, а таксама я з сёстрамі Фаінай і Нінай прыехалі ў Тырсгайм — маленькі ціхі правінцыйны гарадок, акружаны лугамі і палеткамі. Мястэчка шчасліва пазбегла ваен-

---

[109] **Тырсгайм** (ням. *Thiersheim*) — камуна ў Германіі, у акрузе Верхняя Франконія Баварыі. У 1945 г. у Тырсгайме пры дапамозе *UNRRA* атрымалі месца для жыцця іерархі Беларускай праваслаўнай царквы.

[110] **Хоф** (ням. *Hof*) — горад у Германіі, у акрузе Верхняя Франконія Баварыі.

нага спусташэння. Жыхары працягвалі займацца сваімі справамі, падтрымліваючы амаль даваенны ўклад жыцця. Крамнікі ахайна падмяталі ходнікі перад сваімі будынкамі, заадно замятаючы і друз з броўкі. Такія паводзіны, без сумневу, часткова дыктаваліся спадчынным гонарам за іх старадаўнюю грамаду і агульны дом; з іншага боку, у гэтым прысутнічала і пачуццё абавязку — спрычыніцца да таго, каб гарадок і надалей заставаўся чыстым і прыгожым. Фермеры, у сваю чаргу, сачылі за тым, каб жывёла была добра накормленая, размяшчалася ў дыхтоўных стайнях і каб яна не бадзялася па вуліцах мястэчка (апошні факт усіх вельмі радаваў). Машынаў тады амаль не было, калі не лічыць адзінкавых матацыклаў. У гэтым пастаральным антуражы выразна раздаваўся пераліў царкоўных званоў, які было чуваць як зблізку, так і здалёк.

Мы прыехалі ў Тырсгайм з Вайдэна, каб прылучыцца да суполкі ўцекачоў, якую складала святарства вышэйшага рангу Беларускай праваслаўнай царквы[111], а таксама людзі з іх атачэння. Уся суполка жыла ў адным доме на Гаўптштрасэ (*Hauptstrasse*) — гэта была галоўная вуліца гарадка, былая Гітлерштрасэ (*Hitlerstrasse*). Наш прытулак быў мажным двухпавярховым цагляным будынкам з прасторным пакатым гарышчам. Сцяна разгароджвала дом пасярэдзіне на дзве роўныя часткі. На кожным паверсе было тры-чатыры пакоі, агульная кухня і купальня з ваннай і душам. Ацяпленне ў пакоях не было, у халодныя месяцы года жыхары ратаваліся пад цёплымі коўдрамі, выкарыстоўвалі перасоўныя электрычныя награвальнікі. Адпаведна, засцерагальнікі, якія знаходзіліся на гарышчы, вельмі часта перагаралі. Высокі кацёл для вады награваўся на печцы, якую трэба было прапальваць вугалем ці дровамі, — такім чынам мы атрымлівалі гарачую ваду для ванны або душа. Гэта была неверагодная раскоша, даступная толькі тады, калі шанцавала дзесьці дастаць вугаль ці дровы. У сутарэнні стаяла вялікая скрыня на вугаль і меншыя скрынкі, у якіх захоўваліся бульба, морква, слоікі з салёнымі гуркамі ды іншыя прадукты.

Да капітуляцыі Германіі ў гэтым доме жылі школьныя настаўнікі. Дом акурат і стаяў каля пачатковай школы, аддзелены ад яе невялікім дворыкам. Калі мы там жылі, у школе працягвалі вучыцца

---

[111] Шэсць епархій Беларускай праваслаўнай царквы былі адноўленыя ў 1942 г. пасля знішчэння праваслаўных прыходаў у БССР напярэдадні Другой сусветнай вайны. Беларускую праваслаўную царкву ў гэты час узначаліў мітрапаліт Мінскі і ўсёй Беларусі Панцеляймон (Ражноўскі). У 1944 г. царкоўныя іерархі выехалі з Беларусі на Захад, баючыся рэпрэсій з боку савецкіх уладаў.

дзеці. Трэба думаць, пасля вайны настаўнікі знайшлі сабе іншае жытло, не ў такіх аскетычных умовах.

Нам дастаўся пакой на першым паверсе, вокны якога выходзілі на галоўную вуліцу. У ім, невядома як доўга, мы павінны былі жыць усямёх. У суседнім пакоі жыў украінскі святар Барышкевіч[112] з жонкай і сынам гадоў дваццаці. Іншымі нашымі суседзямі былі архіепіскап Рыгор[113], яго старэнькая матуля і яго эксцэнтрычны сын Сева, якому, мабыць, было ўжо пад трыццаць.

Як я цьмяна прыгадваю, у абліччы Севы было штосьці незвычайнае, штосьці, што выбівалася з агульнапрынятых стандартаў таго часу. Ён выглядаў цалкам замкнёным у сваім унутраным свеце, абыякавым да заняткаў людзей, што былі вакол яго. Магчыма, ён не хацеў, каб яго адваблівалі ад ягоных думак. А яшчэ Сева меў іншую асаблівасць: ён любіў спяваць на ўвесь голас, каб усе яго чулі. Перад тым як заспяваць, ён расчыняў дзверы свайго пакоя, і ягоны барытон раскатваўся па ўсім будынку, быў чутны не толькі на першым паверсе, але і вышэй. Адной з улюбёных песняў

---

[112] Магчыма, маецца на ўвазе **Фёдар Барышкевіч** (17.02.1900, Жытомір, Украіна — 1973, Хобарт, Тасманія, Аўстралія) — праваслаўны святар, брат архіепіскапа Рыгора (Барышкевіча). Закончыў Валынскую духоўную семінарыю, Жытомірскі багаслоўскі інстытут. У 1929 г. атрымаў ступень магістра багаслоўя у Варшаўскім універсітэце. Святарскі сан атрымаў у 1928 г. Належыў да Польскай праваслаўнай царквы. У 1928–1943 гг. быў святаром у Княгініне на Валыні. Пазней нейкі час служыў у кафедральным саборы ў Гродне ў юрысдыкцыі БАПЦ. Ад 1944 г. — на эміграцыі ў Германіі. У 1946 г. разам з беларускімі царкоўнымі іерархамі далучыўся да РЗПЦ. Служыў у лагеры Ды-Пі ў Шляйсгайме. У 1950 г. выехаў у Аўстралію. Заснавальнік і першы настаяцель (цягам 23 гадоў) Крыжаўзвіжанскай царквы ў Хобарце (Тасманія).

[113] **Рыгор** (свецк. **Георгі Барышкевіч**, 18.04.1889, в. Межрынская, сёння Ровенская вобласць, Украіна —26.10.1957, Чыкага, Ілінойс, ЗША) — праваслаўны святар украінскага паходжання, у гады Другой сусветнай вайны дзеяч БАПЦ. У 1910 г. скончыў Валынскую семінарыю, пазней Імператарскую духоўную акадэмію ў Казані. Служыў на Валыні, у 1927–1932 гг. быў настаяцелем сабора ва Уладзіміры-Валынскім, потым у Крамянцы. Ад студзеня 1939 г. — настаяцель сабора ў Гродне. У 1942 г. пастрыжаны ў манахі пад імем Рыгора (Грыгорыя), узведзены ў архімандрыты, а ў кастрычніку 1943 г. прызначаны епіскапам Гомельска-Мазырскім. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Германіі. У 1946 г. перайшоў у лона РЗПЦ. Ад 1947 г. — епіскап Манрэальскі і Усходнеканадскі, ад 1954 г. — архіепіскап. У 1954 г. узначаліў Чыкагска-Кліўлендскую епархію (ад 1957 г. епархія Чыкагска-Дэтройцкая і Сярэдняга Захаду).

Севы была «Дванаццаць разбойнікаў»[114]. Аднак асноўную частку песеннага рэпертуару складалі царкоўныя спевы. Сева таксама спяваў у царкоўным хоры, не выключана, што нейкі час ён нават быў яго рэгентам.

Цяжкасці паўставалі на кожным кроку. Не паспелі мы яшчэ як след распакаваць рэчы, як нам ужо трэба было ісці шукаць паліва — і для кухоннай печкі, і каб нагрэць ваду для ванны. У нашых суседзяў заставалася трохі вугалю, але ён ужо заканчваўся, і ніхто не ведаў, калі вугаль прывязуць наступны раз. Вугаль размяркоўваўся паводле нормаў на кожнага чалавека, і суседзям не вельмі хацелася дзяліцца рэшткамі паліва з новапрыбылымі. Ну што ж, нам заставалася толькі адно: пайсці ў лес і назбіраць там сухастою. Я і Вова падахвоціліся схадзіць у лес. Да нас далучыліся яшчэ двое хлапцоў. Здаецца, адным з іх быў малады Барышкевіч. Нямецкі фермер пазычыў нам вазок на чатырох колах, і мы пайшлі. Да найбліжэйшага хвойніку трэба было ісці некалькі кіламетраў. Дрэвы былі высокія, на зямлі ляжала поўна сухіх галінак і сухадрэвінаў. *«Ого, якая багатая спажыва!»* — падумаў я. Мы нагрузілі вазок з каптуром і пакацілі яго назад у гарадок, усю дарогу распяваючы песні.

Нарэшце нам прывезлі вугаль. Грузчыкі засыпалі вугаль у скрыню праз шахты, якія ішлі па задняй сцяне будынка. Гэтая падзея ўзбудзіла ўсіх жыхароў лагера. Але праблемы на тым не скончыліся. Паўстала наступная: як раздзяліць такое багацце паміж насельнікамі? Яшчэ перад тым, як нам прывезлі вугаль, архіепіскапы выказалі свой поўны давер дзядзьку Яну. Яны прызначылі яго «камендантам» лагера, і ён мусіў цяпер вырашаць усе асноўныя пытанні, звязаныя з жытлом і побытам. Дзяльба вугалю паміж жыхарамі лягла на дзядзькавы плечы; як і трэба было чакаць, задача аказалася не з лёгкіх. Дзядзька Ян вырашыў падзяліць вугаль «па галовах», гэта значыць, пароўну паміж усімі жыхарамі, незалежна ад іх веку альбо сямейнага стану. Святар Барышкевіч рашуча запярэчыў гэтаму. Ён прапанаваў падзяліць вугаль пароўну не паміж жыхарамі, а паміж пакоямі (бо пры такім падзеле ён сам апынаўся ў больш выгадных варунках). Завязалася гарачая спрэчка. Але дзядзька Ян цвёрда трымаўся сваёй пазіцыі, і ён перамог.

Жонка Барышкевіча, з свайго боку, дапякала цётку Тоню і стрыечную сястру Таю сваім спосабам. *«Яна цалкам захапіла*

---

[114] **«Дванаццаць разбойнікаў»** — руская песня, прысвечаная легендарнаму злодзею Кудзеяру. Музычная апрацоўка на словы Мікалая Някрасава (частка з паэмы *«Кому на Руси жить хорошо»*) была ўключаная ў рэпертуар Фёдара Шаляпіна і стала вельмі папулярнай.

*кухню; толькі я хачу нешта згатаваць, як яна ўжо там»*, — ціха скардзілася цётка Тоня ў нашым пакоі. *«Ваня, зрабі ты з гэтым штосьці!»* — прасіла яна дзядзьку. *«Не хачу я ў вашыя справы ўмешвацца, разбірайцеся вы самі»* — такі быў ягоны звыклы адказ. Кузіна Тая выношвала свае ўласныя планы на прадмет таго, як насаліць жонцы Барышкевіча. Колькі напяцця, колькі фрустрацый! Што можа раздражняць жанчыну больш, чым неабходнасць дзяліць кухню з іншай жанчынай? Я б сказаў, хіба толькі нявернасць мужа альбо каханка. Але адчай адчаем, а толькі цётка Тоня і Тая мала што маглі зрабіць адносна манапалізацыі кухні Барышкевічыхай. Яны мусілі з гэтым неяк пагадзіцца. І яны прымірыліся.

Раздражненне звычайна толькі памнажаецца з часам. *«Бедныя вы мае сіраціначкі»*, — прычытала Барышкевічыха кожнага разу, як бачыла на кухні Ніну і Фаіну. Пры гэтым яна абавязкова гладзіла іх па галоўцы. Прылюднае выяўленне пяшчоты да Ніны і Фаіны ўвайшло ў яе звычку, што выклікала яшчэ большую злосць з боку цёткі Тоні і Таі. Яны папросту не маглі гэтага больш цярпець. Нават і сёння Тая ўзгадвае жонку Барышкевіча нядобрым словам, калі пра яе заходзіць гаворка. Але хоцькі-няхоцькі — паступова жанчыны мусілі зрабіцца больш талерантнымі. Нягледзячы на цяжкасці жыцця ў перанаселеным доме, яны — трэба аддаць ім належнае! — навучыліся даволі добра суіснаваць адна з адной.

Лёс наканаваў нам жыць побач з некаторымі выбітнымі суайчыннікамі. Па-першае, тут трэба назваць мітрапаліта Панцеляймона[115], які ачольваў у час вайны Беларускую праваслаўную царкву. Рангам

---

[115] **Панцеляймон** (свецк. **Павел Ражноўскі**, 20.09.1867, Кастрама, Расія — 30.12.1950, Мюнхен, Германія) — праваслаўны святар, царкоўны і грамадскі дзеяч, мітрапаліт БАПЦ. Закончыў ваенна-інжынерную вучэльню, афіцэр царскай арміі. У 1897 г. прыняў манаства, закончыў місіянерскія курсы пры Казанскай духоўнай акадэміі. У 1906–1913 гг. — настаяцель Маркава манастыра ў Віцебску. У 1913–1920 гг. — епіскап Дзвінскі і Полацкі. Ад 1920 г. — епіскап Пінскі. За супраціўленне аўтакефаліі Польскай праваслаўнай царквы пазбаўлены кафедры. У гады Другой сусветнай вайны браў удзел у арганізацыі царкоўна-рэлігійнага жыцця на акупаванай нямецкімі войскамі тэрыторыі Беларусі. Фармальна спрычыніўся да аднаўлення Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ), адзін з арганізатараў і старшыня Часовай мітрапалітальнай управы Беларусі, мітрапаліт Мінскі і ўсёй Беларусі. З-за супраціву беларусізацыі БАПЦ выдалены пад нагляд паліцэйскіх уладаў у манастыр Ляды (Смалявіцкі раён Мінскай вобл.), потым — у Вялейку. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі, жыў у Германіі. Увесну 1946 г. перайшоў пад юрысдыкцыю РЗПЦ, быў кіраўніком Беларускай мітраполіі РЗПЦ.

ніжэй за Яго Эксцэленцыю знаходзілася кагорта з пяці архіепіскапаў. Гэта былі: Філафей[116], Рыгор[117], Венедыкт[118], Дзмітры[119]

---

[116] **Філафей** (свецк. **Уладзімір Нарко**, 21.02.1905, в. Занарач, сёння Мядзельскі раён Мінскай вобл.; паводле іншых звестак, в. Ілля, Вілейскі раён Мінскай вобл. — 24.09.1986, Гамбург, Германія) — праваслаўны святар, архіепіскап БАПЦ. Закончыў Віленскую духоўную семінарыю, тэалагічны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта, вучыўся ў грэчаскай тэалагічнай школе ў Стамбуле (Турцыя). Атрымаў ступень магістра тэалогіі. У 1934 г. пастрыгся ў манахі пад імем Філафей. У гады Другой сусветнай вайны ўдзельнічаў у аднаўленні і фармаванні царкоўнага кіраўніцтва БАПЦ. На Усебеларускім царкоўным саборы ў Мінску ў 1942 г. быў прызначаны епіскапам Магілёўскім і Мсціслаўскім, узведзены ў сан архіепіскапа. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Разам з трыма іншымі іерархамі епіскапату БАПЦ у 1946 г. перайшоў у Расійскую зарубежную праваслаўную царкву, быў вікарыем Нямецкай епархіі РЗПЦ.

[117] Маецца на ўвазе згаданы вышэй епіскап Рыгор (Барышкевіч).

[118] **Венедыкт** (свецк. **Васіль Бабкоўскі**, 28.02.1876 в. Завалочча, сёння Пскоўская вобласць, Расія — 03.09.1951, Мюнхен, Германія) — праваслаўны святар, архіепіскап БАПЦ. Закончыў духоўную вучэльню ў Вялікіх Луках, вучыўся ў Пскоўскай духоўнай семінарыі. У 1905 г. рукапакладзены ў святары. Ад 1914 г. служыў у Наваградку. Ад 1918 г. — пратаіерэй, настаяцель кафедральнага сабора ў Наваградку. У 1937 г. прыняў манаства, рукапакладзены ў сан іераманаха, потым ігумена і архімандрыта, стаў настаяцелем Свята-Успенскага манастыра ў Жыровічах. Ад 1941 г. — епіскап Брэсцкі, вікары Мінскай епархіі. У 1942 г. далучыўся да БАПЦ, быў архіепіскапам Гродзенскім і Беластоцкім, экзархам Усходняй Прусіі. У 1944 г. эвакуяваўся ў Германію і ўвайшоў у склад кліру Расійскай зарубежнай праваслаўнай царквы. Ад 1946 г. — чалец Архірэйскага сіноду РЗПЦ, ад 1950 г. — архіепіскап Берлінскі і Германскі.

[119] Сярод архіепіскапаў тагачаснай Беларускай праваслаўнай царквы асобы з імем Дзмітры не было. Затое быў архіепіскап Стэфан (Сцяпан Сеўба), які не згадваецца ў тэксце. Магчыма, маецца на ўвазе архіепіскап **Дзімітры** (свецк. **Яўген Маган**, 25.06.1899, Чарнігаў, Украіна — 01.04.1970, Джэксан, Нью-Джэрсі, ЗША) — праваслаўны святар, епіскап Украінскай аўтаномнай царквы. У 1924 г. рукапакладзены ў сан іераманаха. Служыў на Холмшчыне, у Пачаеве. Ад 1935 г. быў настаяцелем Жыровіцкага манастыра. У 1941 г. хіратанісаны на епіскапа Наваградскага, вікарыя Чарнігаўскай епархіі Украінскай аўтаномнай царквы. У 1942 г. — епіскап Екацярынаслаўскі і Мелітопальскі, пазней — Екацерынаслаўскі і Запарожскі, ад 1943 г. — Данецкі. Пасля Другой сусветнай вайны некаторы час жыў у Германіі. У 1949 г. выехаў у ЗША. Архіепіскап Бостанскі і

і Апанас[120]. На радзіме ў Беларусі архіепіскапы стаялі на чале дыяцэзій[121]. У доме жылі яшчэ і пяцёра святароў: чатыры свецкія і адзін манах. Дзядзька Ян Жарскі пасяліўся ў лагеры апошнім. Да яго тут ужо жылі: айцец Барышкевіч з жонкай, а таксама іхны дарослы сын; айцец Лапіцкі[122] з жонкай, іхная дачка-падлетак і

---

Нью-Інгландскі, а таксама Пенсільванскі (у юрысдыкцыі Паўночна-Амерыканскай мітраполіі Рускай праваслаўнай царквы).

[120] **Апанас (Афанасій)** (свецк. **Антон Мартас**, 08.09.1904, в. Завітая, сёння Нясвіжскі раён Мінскай вобл. — 03.11.1984, Буэнас-Айрэс, Аргенціна) — рэлігійны дзеяч, праваслаўны святар. У 1927 г. пастрыжаны ў манахі пад імем Апанас (Афанасій). У 1930 г. закончыў багаслоўскі факультэт Варшаўскага ўніверсітэта. Намеснік Яблочынскага манастыра. У сакавіку 1942 г. у Мінску высвячаны на епіскапа Віцебскага і Полацкага. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1946 г. далучыўся да Расійскай зарубежнай праваслаўнай царквы, але не страчваў кантактаў і з беларускім рухам. У душпастырскай працы карыстаўся беларускай мовай, выкладаў рэлігію ў беларускай гімназіі ў Ватэнштэце, супрацоўнічаў з беларускай праваслаўнай прэсай, выдаў падручнік Старога Запавету на беларускай мове. У 1950–1955 гг. — вікарны епіскап у Аўстраліі. Потым пераехаў у Аргенціну. Епіскап (пазней архіепіскап) Буэнас-Айрэскі і Аргенцінска-Парагвайскі. У 1966 г. выдаў кнігу *«Белорусь в исторической государственной и церковной жизни»* (прадмова па-беларуску). У 1971 г. Сінод РЗПЦ забараніў чытанне і распаўсюд кнігі, а аўтара адлучыў ад рэлігійнай дзейнасці.

[121] На чале створаных у часе Другой сусветнай вайны беларускіх епархій стаялі: архіепіскап Апанас — Віцебская, архіепіскап Венедыкт — Гродзенская, архіепіскап Філафей — Магілёўская, архіепіскап Стэфан — Смаленская, архіепіскап Рыгор — Гомельская, мітрапаліт Панцеляймон — Мінская.

[122] **Мікалай Лапіцкі** (31.12.1907, в. Грэлікі, сёння Вілейскі раён Мінскай вобл. — 08.08.1976, Глен-Спэй, Нью-Ёрк, ЗША) — рэлігійны і грамадскі дзеяч, праваслаўны святар, педагог. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, закончыў тэалагічны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта, абараніў магістарскую дысертацыю «Праваслаўе ў ВКЛ у часы вялікага князя Ягайлы». Працаваў у прыходах у Ашмянах, Стэфанпалі Дзісенскага павета. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Мінску, быў актыўным прыхільнікам БАПЦ. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Настаяцель царквы Св. Еўфрасінні Полацкай у Рэгенсбургу — першай беларускай царквы на Захадзе. Выкладаў у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. У 1950 г. выехаў у ЗША. Арганізаваў парафію Св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі) і быў яе настаяцелем цягам 1950–1976 гг. У 1960–1970-я гг. узначальваў Злучаны беларуска-амерыканскі дапамаговы камітэт, браў

сын, меншы за яе; айцец Лічко[123] з жонкай і дзецьмі — дарослым сынам, дачкой-падлеткам і малодшым сынам. Манах Юліян не меў нікога, кім ён мусіў бы апекавацца. Ён сам падпарадкоўваўся непасрэдна мітрапаліту Панцеляймону: быў ягоным памочнікам, сакратаром, пасыльным, аканомам (называйце як хочаце).

У нашым лагеры была рэпрэзентаваная і шляхта: у асобе графа Мяшчэрскага і ягонага сына гадоў пяці, бландзіна з прыгожымі кучаравымі валасамі.

Шараговыя ж насельнікі лагера ўяўлялі з сябе разнастайную грамаду людзей, сярод якіх пераважалі нежанатыя. Тым ці іншым чынам усе яны спрычыніліся да агульнага дабра і, у пэўных выпадках, нават да шчасця асобных індывідуумаў. Іван Касяк[124], інжынер па прафесіі і вылучны беларускі патрыёт, быў у нас, гэтак

---

удзел у кангрэсах беларусаў Амерыкі, уваходзіў у кіраўнічыя структуры Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі.

[123] **Аляксандр Лічко** (? — пасля 1967, ЗША) — праваслаўны святар. У 1929–1932 гг. служыў у Свята-Мікалаеўскай царкве ў в. Засімавічы (сёння Пружанскі раён Брэсцкай вобл.), у 1930–1935 гг. — у царкве Св. Пятра і Паўла ў в. Мокрае (сёння Пружанскі раён Брэсцкай вобл.). Ад 1935 г. быў настаяцелем прыхода ў Бярозе-Картузскай. Падчас нямецкай акупацыі далучыўся да БАПЦ. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Германіі далучыўся да РЗПЦ. Служыў у лагерах Ды-Пі. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Кліўлендзе, працаваў у друкарні. У 1967 г. выйшаў на пенсію.

[124] **Іван Касяк** (01.11.1909, в. Гіры, сёння Вілейскі раён Мінскай вобл. — 13.03.1989, Рывер-Форэст, Ілінойс, ЗША) — грамадскі дзеяч. У 1941 г. закончыў політэхнічны факультэт Львоўскага ўніверсітэта са спецыяльнасцю інжынера. Падчас нямецкай акупацыі ўваходзіў у склад Цэнтралі Беларускай народнай самапомачы, актыўны прыхільнік абвяшчэння аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы, адзін з арганізатараў Царкоўнага сабору БПЦ у 1942 г. У 1944 г. — намеснік прэзідэнта БЦР на Глыбоцкую акругу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У Германіі быў адным з кіраўнікоў Беларускага праваслаўнага аб'яднання. Не прызнаў аднаўлення БАПЦ пад кіраўніцтвам Сергія (Ахатэнкі) і аднаўлення Рады БНР пад кіраўніцтвам М. Абрамчыка. У маі 1948 г. узяў удзел у аднаўленчым Пленуме БЦР, у 1948–1951 гг. узначальваў Сакратарыят БЦР. У 1949 г. выехаў у ЗША. Спачатку жыў у Нью-Ёрку, ад 1978 г. — у Рывер-Форэсце (Ілінойс). У 1957–1989 гг. быў старшынёй Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі. Быў сябрам Беларускага вызвольнага фронту, браў удзел у антыкамуністычных канферэнцыях у розных краінах свету, куды ездзіў за ўласны кошт. Аўтар кніг «З гісторыі праваслаўнай царквы беларускага народу» (1956), «Byelorussia: historical outline…» (1989), «Другая сусьветная вайна на Беларусі і паваенны час» (выдрукавана ў кнізе «Беларусь учора і сяньня», Менск, 1993).

бы мовіць, *«міністрам замежных справаў»*. Андрэй Кандратавіч (гэта ягонае імя па бацьку) раней быў настаўнікам, а ў лагеры ён бясплатна вучыў дзяцей, у тым ліку і мяне з Вовам. Потым, там была яшчэ Ларыса Паўлаўна (таксама імя па бацьку). Яна жыла з сынам гадоў чатырох-пяці. Ці яна была ўдавой, ці яна развялася, а можа, разышлася з мужам ці каханкам — я ніколі не даведаўся, гэта было ахутана таямніцай. Ларыса была высокая, стройная, бледнатварая — вельмі прывабная маладая жанчына. Ёю апекаваўся архіепіскап Філафей, і яна паўсюль следавала за ім. У яе было вельмі прыгожае сапрана, і, да ўсеагульнай прыемнасці, яна спявала ў царкоўным хоры ў нядзелю. Але я пералічыў тут толькі некаторыя імёны. Людзей у лагеры было значна больш.

Гэтая супольнасць, большую частку якой складалі духоўныя асобы, спараджала атмасферу амаль манастырскага жыцця. Архіепіскапы заўсёды апраналі чорныя шаты, якія спадалі да пятаў. На грудзях яны насілі адмысловыя медальёны, якія сімвалізавалі сабой іх статус у царкоўнай іерархіі. Наколькі мне вядома, ніводны архіепіскап ніколі не выйшаў са свайго пакоя без гэтай рэгаліі. Забаўна было назіраць, як прэлат расчэсваў на прабор свае густыя вусы або прыгладжваў пышную бараду. Святары, з свайго боку, дазвалялі сабе больш вольнасці ў адзенні, калі знаходзіліся ўнутры будынка. Яны з задавальненнем пакідалі свае рызы ў пакоі на вешаку. Але ў пэўных выпадках яны таксама — усе без выключэння — апраналі чорныя шаты, паверх якіх на тоўстых срэбных ланцужках віселі нагрудныя срэбныя крыжы (памеры крыжоў маглі дасягаць сантыметраў васьмі ўшыркі і дванаццаці — уздоўжкі). Адным з такіх выпадкаў магла быць аўдыенцыя ў архіепіскапа. На публіку ж і ў падарожжа святары часцей надзявалі, на заходні манер, чорную рызу і кашулю з белым падкаўнерыкам. Аднак калі святар выпраўляўся кудысьці недалёка і ненадоўга, безумоўна, куды зручней было накінуць сутану проста на хатняе адзенне.

Жыццё поўнае нечаканасцяў. Часам сюрпрызы абарочваюцца непрыемнасцямі, але бывае і так, што яны прыносяць неспадзяваную радасць. Гэтак, аднойчы перада мной нечакана з’явіўся — нібы з паветра саткаўся — манах Юліян, памочнік мітрапаліта. Я адклаў убок кніжку, якую чытаў. *«Яго Высокаправялебнасць мітрапаліт хоча бачыць цябе»*, — сказаў мне ён. З другога канца пакоя да мяне падышла цётка Тоня. Яна відавочна разгубілася і не ведала, што думаць. *«Славік, прычашыся»*, — сказала яна і потым паляпала мяне па плячы, прашаптаўшы нешта сабе пад нос. Без доўгіх цырымоній айцец Юліян правёў мяне ў пакой мітрапаліта, які знаходзіўся на другім паверсе. Калі мы ўвайшлі, айцец Юліян паказаў мне рукой, каб я прайшоў наперад, туды, дзе за сваім ста-

лом насупраць акна сядзеў мітрапаліт Панцеляймон. Мітрапаліт выйшаў з-за стала, дабраславіў мяне і працягнуў мне правую руку тыльным бокам дагары; не марудзячы, я пацалаваў яе як належыць. Ён павітаў мяне і запрасіў сесці на крэсла, якое стаяла насупраць ягонага крэсла, спераду пісьмовага стала. Упершыню ў жыцці я бачыў мітрапаліта не ў царкве падчас службы, а гэтак зблізку, у хатняй абстаноўцы, і мне было вельмі цікава за ім назіраць. Хіба за нейкі метр ад мяне сядзеў, выпрастаўшы спіну, высокі хударлявы мужчына сталага веку, апрануты ў беласнежныя рызы. На грудзях у яго вісеў авальны медальён, адпаведны яго духоўнаму рангу. Шырокая сівая барада была акуратна прычасаная, доўгія валасы (адметна багатыя для 81-гадовага, як я даведаўся потым, мужчыны) былі гладка зачасаныя назад. Густыя сівыя бровы прыгожа выступалі на гладкім, амаль без адзінай зморшчынкі, лобе. Вочы мітрапаліта глядзелі на дзіва ясна і пранікліва, і ён не насіў акуляраў. Для свайго паважанага веку мітрапаліт знаходзіўся ў вельмі добрай фізічнай форме. Ён адхіліўся трошкі назад у сваім крэсле, паглядзеў проста на мяне, усміхнуўся і загаварыў. Голас у яго быў глыбокі, але крышталёва чысты. Ён прывітаў мяне як новага чальца сваёй паствы. Мітрапаліт пацікавіўся, ці я і мае сёстры ўжо добра абжыліся ў нашым новым «доме». Я адказаў яму, што так. Мітрапаліт працягваў задаваць мне пытанні. Ён хацеў ведаць, калі і пры якіх абставінах мы страцілі нашых бацькоў. Я пачаў расказваць, раз-пораз мяне перапаўнялі эмоцыі, але я стараўся расказваць паслядоўна і сцісла, час ад часу спыняючыся, каб сабрацца з думкамі. Мой аповед відавочна зацікавіў мітрапаліта, і ён сказаў, што хацеў бы сустракацца са мной і ў будучыні. Ён падняўся і дабраславіў мяне знакам крыжа. Я пацалаваў яго руку і выйшаў.

Пры адным памятным выпадку нашая размова пачалася з агляду ранняга ўсходняга праваслаўнага хрысціянства, а менавіта як яно прыйшло да ўсходніх славянаў. Прэлат папрасіў мяне расказаць, што я ведаю на гэты конт. Мае веды пра гісторыю ўсходняга праваслаўя былі вельмі сціплыя, але я распавёў яму ўсё што мог. Каротка кажучы, я сказаў наступнае: першымі сярод усходніх славянаў былі ахрышчаныя з паганства ў хрысціянства жыхары Кіеўскай Русі на загад іхных князёў. З Кіева праваслаўнае хрысціянства хутка распаўсюдзілася ў незалежныя тады беларускія княствы і ў Расію. Калі агляд вытокаў усходняга хрысціянства скончыўся, мітрапаліт перавёў гаворку на супярэчлівую і цяжкую тэму — пра дачыненні з Рыма-каталіцкай царквой.

Ён пачаў выказваць свае сумневы наконт царквы-сястры. Я сядзеў і слухаў. Наколькі я магу ўзгадаць, ключавымі момантамі ягонай прамовы былі наступныя. На працягу стагоддзяў іерархі

Каталіцкай царквы настойліва спрабавалі падарваць адзінства ўсходняй праваслаўнай веры. Калі ў іх не атрымалася напраскті заваяваць сэрцы адданых праваслаўных вернікаў, Рым паставіў перад палякамі задачу перакананць праваслаўных, якія жылі на польскай тэрыторыі, каб яны навярнуліся ў каталіцызм. Палякі актыўна ўзяліся выконваць загад. Дзяржава зрабіла маштабныя захады, каб змусіць беларускіх і ўкраінскіх праваслаўных хрысціянаў адступіцца ад іх спрадвечнай веры. Гвалтоўны ўціск на праваслаўе працягваецца і ў нашыя дні, але цяпер у завуаляванай форме. Рым не пазбыўся сваіх цёмных намераў наконт праваслаўя. Мы знаходзімся ў небяспецы. Пратэстанты, з іншага боку, лепей абароненыя ад небяспекі насоўвання на іх рыма-каталіцызму — менавіта таму, што яны вельмі ўпартыя ў сваёй веры. Таму мы, праваслаўныя вернікі, мусім усімі сіламі захаваць нашую Богам дадзеную ўсходнюю праваслаўную веру. Мы мусім быць напагатове кожную хвіліну, каб абараніць самі сябе ад разбурэння, мы не павінны паддавацца ні на якія змовы.

Скончыўшы свой маналог, мітрапаліт Панцеляймон адкінуўся ў крэсле, пагладжваючы бараду. Ён заплюшчыў вочы (магчыма, каб нічога не адваблівала яго ад разважанняў), рысы ягонага твару разгладзіліся. Праз хвіліну-другую прэлат нахіліўся наперад, пільна ўглядаючыся ў мяне. *«Паабяцай мне, Славік, што ты застанешся верным праваслаўю. Гасподзь узнагародзіць цябе за тваю веру»*, — сказаў мне ён. *«Я нарадзіўся праваслаўным і памру праваслаўным»*, — адказаў я без ценю ваганняў. Пачуўшы гэта, мой духоўны настаўнік усміхнуўся і падняўся. Нашую дыскусію, сказаў ён, мы працягнем іншым разам. Ён дабраславіў мяне, і я выйшаў.

Аддзяленне ўсходняй царквы ад заходняй, або лацінскай, пачалося з падзелам Рымскай імперыі на дзве часткі пры імператары Канстанціне Першым[125]. Фармальны падзел цэркваў адбыўся ў 1054 г.[126]. Усходняя (візантыйская) і заходняя (рымская) канфесіі праз доўгі час разыходзіліся ў пытаннях дактрыны. У пераліку

---

[125] **Канстанцін I Вялікі** (272–337) — рымскі імператар (306–337), заснавальнік Канстанцінопаля (куды была перанесеная сталіца імперыі). Зрабіў хрысціянства пануючай рэлігіяй у Рымскай імперыі. Прылічаны праваслаўнай царквой да святых.

[126] У 1054 г. Рымскі Папа Леў IX скіраваў сваіх легатаў у Канстанцінопаль з патрабаваннем падначалення ягонай уладзе. Канстанцінопальскі Патрыярх Міхаіл Керулары адмовіўся. У выніку папскія легаты абвясцілі пра адлучэнне Патрыярха ад царквы, а той абвясціў анафему легатам. Ад таго часу рымская і канстанцінопальская царкоўныя іерархіі (і цэрквы) дзейнічаюць самастойна.

іншых разыходжанняў усходняя царква не прымала патрабавання рымскай царквы пра захаванне святарамі цэлібату. Спрэчкі паміж Рымам і Канстанцінопалем прывялі да схізмы (раздзялення) дзвюх цэркваў. У 1054 г. Папа Леў IX[127] і канстанцінопальскі Патрыярх Міхаіл Цэрулярыюс[128] наўзаем адлучылі адзін аднога ад Царквы; гэтая падзея сталася апошняй кропкай, пасля якой дзве царквы канчаткова разышліся. У наступныя стагоддзі прагал паміж канфесіямі толькі павялічваўся, і да сёння яны застаюцца раздзеленымі. Толькі ў XX стагоддзі, на знак узаемнай павагі, Папа і Патрыярх скасавалі адлучэнне ад царквы адзін аднога[129]. Але ўсходняя праваслаўная царква не прызнае вяршэнства Папы.

Нашыя сустрэчы з мітрапалітам працягваліся без усялякага раскладу — раз на тры, на чатыры тыдні. Падчас сустрэчаў гасцінны гаспадар усё больш і больш распытваў пра мяне, сёстраў і пра людзей, якія займалі значнае месца ў маім жыцці: напрыклад, пра майго дзядзьку Яна Жарскага і маю цётку Тоню. Мітрапаліт цікавіўся маімі планамі на будучыню, у прыватнасці планамі наконт вучобы. Ён усяляк пераконваў мяне, што я мушу вучыцца далей. Я адказаў, што буду старацца з усіх сілаў, каб ён ва мне не расчараваўся. Чым далей працягваліся нашыя сустрэчы, тым далей на задні план адступалі пытанні рэлігіі. Іх месца займалі тэмы пра жыццё наагул. Я памятаю, як аднойчы мой настаўнік гаварыў са мною пра пісанне лістоў. Часам, казаў ён, чалавек адчувае абавязак напісаць камусьці ліст, але не ведае, з чаго пачаць. Тады варта пачынаць з любога месца, бо як толькі ты пачнеш, ідэі самі пачынаюць нараджацца ў галаве. Калі я стаў дарослым, я шмат разоў пераконваўся ў бясспрэчнай карыснасці гэтай парады.

Мітрапаліт Панцеляймон быў адзіным чалавекам, каму я адкрыў сваё мінулае да драбніцаў. Іншыя людзі ў лагеры маглі расказаць свае ўласныя гісторыі, не менш цяжкія, бо падчас той страшнай вайны на долю кожнага выпала нямала бяды. Нават цяпер я памятаю, як Рыгор Іванавіч (Грышка) распавядаў групе людзей, дзе прысутнічаў і я, пра жахлівыя начныя бамбаванні Дрэздэна 13–14 лютага 1945 года. Уначы 13 лютага васямсот амерыканскіх

---

[127] **Леў IX** (1002–1054) — Рымскі Папа (1049–1054), прылічаны Рымска-каталіцкай царквой да ліку святых. Пасля яго смерці афіцыйна адбыўся раскол хрысціянскай царквы на заходнюю і ўсходнюю.

[128] **Міхаіл I Керулары** (1000–1059) — Патрыярх Канстанцінопальскі (1043–1058). Пры ім адбыўся канчатковы раскол хрысціянскай царквы.

[129] У 1965 г. узаемныя анафемы былі афіцыйна знятыя Рымскім Папам Паўлам VI і Усяленскім Патрыярхам Афінагорам і падпісаная сумесная дэкларацыя.

і брытанскіх бамбавікоў накрылі горад дзясяткамі тысячаў запальных бомбаў. Горад ператварыўся ў мора агню. Такога пажару Дрэздэн не бачыў ніколі. Сотні людзей спрабавалі ўратавацца ад агню ў метро, дзе яны задыхнуліся, бо пажар высмактаў адтуль увесь кісларод. Я не памятаю ўжо, дзе знайшлі прытулак у тую жахлівую ноч сам Грышка і архіепіскап Дзмітры — відаць, непадалёк ад іх рэзідэнцыі. Калі Грышка сказаў архіепіскапу, што іх будынак гарыць, архіепіскап закрычаў: *«О, мой Божа! Золата, золата!»* — і выбег са сховішча, бо ўзгадаў пра свае скарбы. Дарэмна Грышка спрабаваў затрымаць архіепіскапа. Адчайны ўчынак Дзмітрыя прынёс поспех: архіепіскапу ўдалося ўратаваць скарбніцу і не развітацца з жыццём. А вось Грышка сапраўды страціў у тыя дні свайго сябра: праўда, той загінуў не на пажары, а ад кулі… Той хлапец узяў сабе веласіпед з часткова разбуранага склада. Яго затрымалі нямецкія ўлады, абвесцілі марадзёрам і расстралялі. Агулам падчас бамбаванняў і ў агні пажараў у Дрэздэне тады загінулі дзясяткі тысячаў чалавек; паводле некаторых падлікаў, тыя ночы забралі восемдзесят тысячаў жыццяў мірных людзей[130].

У даваенны час на еўрапейскім ландшафце Дрэздэн меў рэпутацыю вытанчанага культурнага цэнтра. Горад ганарыўся тым, што яму ўдалося захаваць гэты дух і падчас вайны. З вайсковага гледзішча не было аніякіх абгрунтаваных прычынаў выпальваць Дрэздэн дашчэнту. У горадзе або ягоным наваколлі не базаваліся вялікія вайсковыя фармаванні, не было там ані ваеннай прамысловасці, ані буйных складоў зброі. Вынік вайны быў ужо прадвызначаны. Ну чаму тады, з якой прычыны гэтая навала абрынулася на цывільнае насельніцтва мірнага прыгожага горада? Сляпая, кіпучая, бязлітасная помста, без сумневу, адыграла тут сваю ролю. Але не выключана таксама, што ў катастрофе прысутнічаў і элемент садызму. Гэты ўчынак ляжыць на сумленні брытанскага генерала паветраных войскаў, які спланаваў, санкцыянаваў і правёў бамбаванні горада[131]. Бамбаванне Дрэздэна працягвалася да сярэдзіны красавіка. На вайне мяжа паміж абгрунтаваным знішчэннем праціўніка і

---

[130] Паводле падлікаў нямецкіх гісторыкаў, у выніку бамбардавання Дрэздэна загінулі каля 25 тысячаў чалавек. Гл.: http://www.dresden.de/media/pdf/infoblaetter/Historikerkommission_Dresden1945_Abschlussbericht_V1_14a.pdf.

[131] Ідэолагам стратэгіі бамбардавання нямецкіх гарадоў быў маршал Каралеўскіх паветраных сілаў Чарльз Портал (1893–1971). Падтрымоўваў яго ў рэалізацыі згаданай стратэгіі кіраўнік Камандавання бамбардаваннем Каралеўскіх паветраных сілаў сэр Артур Харыс (1892–1984), што меў мянушку Бамбардыроўшчык. Менавіта гэтыя асобы мелі непасрэднае

злачынствам тонкая, як лязо. Мы павінны пільна сачыць за сабой, каб не паддацца залішняму абурэнню. Не толькі японцы здзейснілі ганебныя ўчынкі падчас Другой сусветнай. Іншыя краіны таксама спрычыніліся да бясслаўных акцый.

Нашыя побытавыя ўмовы працягвалі паляпшацца. *UNRRA* пачала дастаўляць нам пасылкі з таварамі, недаступнымі на адкрытым рынку ў той час. Першапачаткова гэтыя пасылкі прызначаліся для распаўсюду праз Чырвоны Крыж сярод амерыканскіх грамадзянаў, захопленых у палон немцамі. Манна з нябёсаў? Не! Вядома ж, з Амерыкі. Змесціва пасылак перакрочвала нашыя самыя смелыя чаканні. Спіс узначальвалі пяць пачкаў цыгарэтаў (марак *«Philipp Morris»*, *«Chesterfield»*, *«Camel»*, *«Pall Mall»* і *«Lucky Strike»*). Распушчальная кава, кубікі цукру, печыва, джэм, ялавічная тушонка, сардынкі, сухая садавіна, вітамін С і іншыя прадукты складалі пераважнае змесціва пасылак. Туды ўкладаліся таксама некаторыя туалетныя прыналежнасці, уключаючы зубную пасту.

Ніхто з нас не курыў і не піў кавы. У тыя дні мы пілі гарбату, калі яна была. Такім чынам, цыгарэты і кава — прадукты рэдкія, якія вельмі цаніліся немцамі, — зрабіліся каштоўнымі таварамі для абмену на чорным рынку. У Германіі таго часу існавала карткавая сістэма. Прадукты прадаваліся выключна па нормах, вызначаных на кожны месяц. Тым не менш было не вельмі цяжка ўпрасіць уладальніка крамы або фермера зрабіць «выключэнне», калі вы прапаноўвалі яму трохі цыгарэтаў. Гаворка не ішла пра дзясяткі пачкаў цыгарэтаў або пра кіляграмы кававых зярнятаў. Я памятаю два выпадкі, калі цётка дала мне зусім трошкі кававага зерня і паслала мяне абмяняць яго на прадукты. Я быў вельмі здзіўлены і нават адчуваў сорам, калі гаспадар крамы даў мне вялікі пучок морквы і гуркі ў абмен на тое, што мне здавалася зусім нішчымнай колькасцю кававых зярнятаў. Наступным разам мяне паслалі на ферму, каб памяняць кававае зерне на бульбу. І той фермер таксама не паскупіўся пры абмене.

Некаторыя з рэчаў, якія мы атрымлівалі ў пасылках узімку 1945-га, былі вельмі экстраардынарныя. Так, аднойчы нам прыслалі снегаступы, потым — гель для выпрамлення валасоў. На давяршэнне ўсяго, мы атрымалі кансервы з ежай для сабак. Не здагадваючыся, што гэта такое, мы з Вовам аплялі ледзь не ўсю бляшанку і толькі потым даведаліся, што кансервы прызначаліся для *«лепшага сябра чалавека»*. Безумоўна, потым было шмат жар-

---

дачыненне да арганізацыі бамбардавання нямецкіх гарадоў, у тым ліку Берліна, Лейпцыга і Дрэздэна.

таў на гэтую тэму. Стрыечная сястра Тая доўга яшчэ пыталася Вову, як яму спадабалася на смак сабачая ежа.

Нам было вельмі цесна жыць — семярым у адным пакоі (чацвёра чалавек у сям'і дзядзькі плюс мае дзве сястры і я). Пачалі пытацца ў суседзяў, ці не ўзяў бы хто аднога з дзяцей начаваць да сябе. Такі чалавек знайшоўся: Іван Касяк, які жыў адзін і займаў маленькі пакой, пагадзіўся браць аднога з дзяцей да сябе на ноч. Здагадайцеся, каму так пашанцавала? Мне. Пакой Івана Касяка знаходзіўся ў іншай палове будынка, на верхнім паверсе, у самым канцы калідора. У суседстве з Касяком жыла сям'я святара Лічко з пяці чалавек, а таксама архіепіскап Філафей і Ларыса Паўлаўна са сваім малым сынам. Зрэдку ўлетку я начаваў на самым версе ўсходаў, што вялі на гарышча ў нашым крыле будынка.

Досыць часта я меў раскошу спаць аднаму ў пакоі Івана Касяка, бо мой гаспадар часта падарожнічаў. Ягоныя паездкі здаваліся бясконцымі, большасць з іх была звязаная з грашовымі аперацыямі — Іван спекуляваў валютай. Калі я заставаўся адзін у ягоным пакоі на ноч, мяне нічога не адваблівала, і я міжволі прыслухоўваўся да галасоў, гукаў і рухаў, што даносіліся з калідора.

Вяртаючыся ў думках на паўстагоддзя назад, у тыя ночы, я чую лёгкія крокі босых ног на калідоры, потым ледзь чутны стук у дзверы. Відаць, камусьці не спіцца. Я пачынаю разважаць, хто б гэта мог быць. Чамусьці і я не магу цяпер заснуць, я кручуся і варочаюся ў ложку. Урэшце я запальваю святло і пачынаю чытаць. Чытаю да глыбокай ночы, але тае бяды — раніцай я магу паспаць даўжэй. У мяне ж няма ніякай працы ці заняткаў, якія прымушалі б мяне ўставаць рана. Ночы прыходзяць і мінаюць, зноў і зноў працягваюцца таямнічыя перасоўванні ў калідоры. З іншага боку, жыхары мусяць карыстацца агульнай прыбіральняй, дык няма нічога дзіўнага, што часам чуюцца крокі на калідоры ў неадпаведныя гадзіны сутак. Не маючы начнога гаршка ў пакоі, я і сам раз-пораз мушу бегаць басанож у прыбіральню пасярод ночы.

Аднойчы ўночы здарылася нешта нечаканае. Вяртаючыся з прыбіральні ў свой пакой, я пачуў прыцішаны смех з пакоя архіепіскапа Філафея, і гэта быў жаночы смех — без сумневу! Я прыпыніўся каля ягоных дзвярэй на хвіліну — смех сціх, запанавала цішыня. Я заспяшаўся вярнуцца да сябе. У тую ноч мне сапраўды хацелася спаць, дык я заснуў адразу. Надышла раніца. Хто ж была гэтая начная госця ў пакоі архіепіскапа? Можа, Ларыса Паўлаўна? Мая юначая цікаўнасць распалілася неймаверна. У наступныя дні я пачаў прыглядацца з увагай да насельнікаў будынка: куды і калі кожны з іх звычайна ходзіць. Мая падвышаная пільнасць хутка прынесла вынікі. Я заўважыў, што ўдзень Ларыса Паўлаўна часта

заходзіла ў пакой архіепіскапа Філафея. Ну дык што ў гэтым такога, думаў я. Ларыса, без сумневу, чуецца самотнай, ёй няма да каго прытуліцца і няма ад каго атрымаць падтрымку ў гэтыя няпэўныя часы. Наколькі мне было вядома, архіепіскап Філафей мог быць яе духоўным настаўнікам. Дый хто б іншы лепей пасаваў для гэтай ролі? Ён быў вельмі таварыскім, гарадскім, адукаваным чалавекам. А паколькі ён жыў тут жа, у суседстве, дык да яго можна было лёгка звярнуцца пры патрэбе. Чаго ж больш хацець чалавеку, думаў я?

Архіепіскап Філафей на свой час мог лічыцца чалавекам вышэй сярэдняга росту. Ён быў стройны і даволі малады для свайго высокага рангу ў іерархіі Беларускай усходняй праваслаўнай царквы. Яго раскошныя цёмна-карычневыя валасы, што на яркім святле адлівалі золатам, былі акуратна прычасаныя назад за плечы. У густой барадзе і вусах не было ні ценю сівізны. (Ва ўсходнім праваслаўі кожны святар, які хоча стаць епіскапам, павінен спярша далучыцца да манашаскага ордэна, а гэта, у сваю чаргу, вымагае, каб ягоныя валасы на галаве і твары раслі вольна і без перашкодаў — падстрыгаць іх манахам забараняецца.) На лобе і шчоках архіепіскапа Філафея не было аніводнай зморшчынкі; нос быў прапарцыйны і не парушаў сіметрыі твару; у карых вачах гарэлі агеньчыкі. Я не ўспомню, каб я хоць аднойчы бачыў яго нахмураным — ён заўсёды быў падцягнуты і таварыскі, часам сузіральны. Трымаўся ён струнка. Заўсёды насіў манашаскі ўбор, адпаведны свайму чыну: чорную сутану і нагрудны знак.

Ларысе Паўлаўне, здаецца, магло быць крыху за трыццаць. Высокая і хударлявая, яна была, без сумневу, прывабнай жанчынай. Яе твар выглядаў добра дагледжаным, фарбаваныя бялявыя валасы маляўніча ільсніліся. Скура на твары, а таксама на руках і нагах у яе была вельмі светлая. Выразныя рысы твару з першага погляду выклікалі прыемнае ўражанне. У яе былі прыгожыя ногі, і яна сачыла за тым, каб яе абутак быў таксама паглядным (у тыя часы жанчыны не насілі сандаляў, дзякаваць Богу). Яе рукі былі грацыёзныя, пальцы — доўгія і роўныя. Блакітныя вочы выдавалі яе нардычнае (беларускае) паходжанне.

У дадатак да павабнай знешнасці Ларыса Паўлаўна была адораная прыгожым сапрана, і яе голас зачароўваў усіх нас. Яна спявала ў царкоўным хоры; апрача таго, яна і памянёны Сева па чарзе кіравалі хорам на набажэнствах усходняй праваслаўнай царквы ў Тырсгайме. Ларыса была гаваркой, незалежнай, адукаванай жанчынай шырокіх поглядаў, гатовай самой вырашаць свой лёс. Жыла яна з маленькім сынам, якому было, я думаю, гадоў чатыры-пяць. Сын яе таксама быў бялявы. Ніхто не ведаў, ад каго яна яго нарадзіла.

У дадзены момант жанчына жыла адна, не маючы партнёра. Ці я памыляўся на гэты конт?

Аднойчы мне зноў давялося начаваць адному ў пакоі Івана Касяка (гаспадар быў у ад'ездзе). Пасярод ночы мне спатрэбілася выйсці ў прыбіральню, якая была ў самым канцы цёмнага калідора. Вяртаючыся ў свой пакой і стараючыся ступаць нягучна, я затрымаўся насупраць пакоя архіепіскапа Філафея і прыслухаўся (згодны, што гэта было не вельмі прыгожа з майго боку…). Ледзь чутныя гукі далятталі да мяне з-за дзвярэй — штосьці там, безумоўна, дзеілася. Што б гэта магло значыць? Я спрабаваў здагадацца. І раптам, нечакана, з цемры за зачыненымі дзвярыма да мяне данёсся жаночы стогн, стогн асалоды… потым яшчэ адзін… яшчэ адзін… Я застыў на месцы, з цяжкасцю стрымліваючы эмоцыі, якія мяне перапаўнялі. Мая цікаўнасць зашкальвала, але розум падказаў, што я мушу вяртацца да сябе. У сваім пакоі я працягваў абдумваць тое, што пачуў. Я быў упэўнены, што той невядомай жанчынай у пакоі архіепіскапа была Ларыса Паўлаўна. Ну хто іншы адважыўся б на такую адчайную авантуру?

Мне здаецца вельмі дзіўным, што некаторыя мужчыны даюць урачысты зарок зачыніцца ад зямных радасцяў дзеля таго, каб заслужыць вечнае жыццё ў нябёсах. Як мала ведаюць яны пра тое, што рай можна знайсці тут і цяпер, у абдымках каханай жанчыны… І дзе ў Святым Пісьме сказана, што мужчына не можа служыць Госпаду і людзям, калі ён не аддаліцца ад жанчын? Я не ведаю месца ў Бібліі — пра такія бязлітасныя забароны. І я ніколі не мог зразумець патрэбы цэлібату шараговых святароў Рыма-каталіцкага касцёла, якога вымагае ад іх папскі прастол. На маю думку, у гэтым няма ніякага сэнсу. Цэлібат мусіць быць выключна добраахвотнай з'явай: кожны святар сам павінен вырашаць, ці ён хоча быць самотным чалавекам альбо мець жонку. Нават калі ён ажэніцца, ён усё адно можа прапаведаваць слова Божае і настаўляць сваю паству на праведны шлях. Здаецца, Усходняя праваслаўная царква зрабіла слушны крок, на працягу стагоддзяў дазваляючы сваім святарам мець сям'ю. Як тут не падзякаваць ёй за гэта! Я ўпэўнены, што жанатыя святары таксама не пазбаўленыя Божай ласкі.

Інтымныя дачыненні паміж архіепіскапам Філафеем і Ларысай Паўлаўнай не былі такім ужо страшэнным сакрэтам, як гэта здавалася мне напачатку. Іншыя жыхары нашага перанаселенага лагера таксама не маглі не заўважаць іх. Але ўсе тактоўна стараліся не абмяркоўваць гэтай тэмы публічна — у тыя часы людзі ўмелі шанаваць прыватныя справы. Наколькі мне вядома, шчыльныя стасункі архіепіскапа і Ларысы Паўлаўны працягваліся без перашкодаў і без умяшання з боку трэціх асобаў. Ларыса Паўлаўна знаходзілася пад

пратэкцыяй архіепіскапа Філафея, яна працягвала суправаджаць яго паўсюль, куды б ён ні накіроўваўся.

Я шчыра перакананы, што зарок цэлібату не мусіць быць пажыццёва непарушным. Наадварот, гэтае пытанне трэба пакідаць на сумленні індывіда. Калі тактоўныя дачыненні паміж нежанатым святаром і дарослай жанчынай прыносяць ім абаім асалоду і напаўняюць іх радасцю, такая сувязь не павінна абражаць Бога, не павінна яна таксама і перашкаджаць святару ў ягоным святарскім служэнні.

У Тырсгайме я чуўся калі і не зусім як дома, дык прынамсі сярод добразычлівых людзей. Іншыя жыхары лагера адчувалі, мне здаецца, штосьці падобнае. Нашыя нямецкія суседзі ўспрынялі нашую часовую прысутнасць сярод іх без усялякіх праяваў варожасці. Я не памятаю, каб хтосьці хоць аднойчы абазваў мяне словамі *«verflueht auslander»* («пракляты чужынец»). Нічога не баючыся і не асцерагаючыся, я хадзіў дзе хацеў — і па мястэчку, і вакол яго. Падчас нашага побыту ў Тырсгайме мне давялося сутыкацца шмат з кім з мясцовых жыхароў. І нават калі некаторыя з насельнікаў нашага лагера перакрочвалі межы прынятых паводзінаў, як зрабіў гэта айцец Барышкевіч, гараджане рэагавалі на такія ўчынкі больш з гумарам, чым з асуджэннем.

За квартал ад нашага дома была лаўка мясніка. У ёй цётка Тоня часта купляла ялавічныя косткі для булёну, на якім яна потым варыла суп; астатнія рабілі тое самае. Пры драбіне шацунку яны маглі б, відаць, падкупіць гаспадара, каб ён прадаў ім мяса або каўбасу — прадукты, што распаўсюджваліся толькі па прадуктовых картках, якіх мы, уцекачы, не мелі. Як цяжка даводзілася тым, хто пражыць не мог без мяса! Калі айцец Барышкевіч зайшоў у лаўку мясніка аднойчы раніцай, выгляд свежых кілбасак, развешаных па ўсёй краме, відаць, пазбавіў яго розуму. Ад адной толькі думкі пра пах свежых кілбасак, калі яны сквірчаць на гарачай патэльні, у яго пацяклі слінкі. Няздольны супрацьстаяць спакусе, айцец Барышкевіч зрабіў нечуваную рэч: ён схапіў адну з кілбасак і схаваў яе пад сутанай, пакуль мяснік у дальнім куце крамы адважваў яму косткі. Як кілбаска магла ўтрымацца пад святарскай рызай, застаецца для мяне загадкай. На вялікі жаль для святара, ягоныя хітрыкі не падманулі мясніка. Вярнуўшыся да прылаўка, мяснік рашуча запатрабаваў ад айца Барышкевіча вярнуць кілбаску, схаваную пад сутанай. Спачатку айцец Барышкевіч спрабаваў усё адмаўляць, але, бачачы безвыходнасць сітуацыі, ён усё ж дастаў кілбаску і аддаў яе мясніку. Гэтак мара айца Барышкевіча паснедаць смажанай каўбасой марай і засталася…

Мяснік не надаў гэтаму эпізоду вялікай вагі: ён не склаў афіцыйнай скаргі на айца Барышкевіча, але замест таго расказаў пра гэты выпадак усім, каму мог. Нашыя суседзі-немцы смакавалі падрабязнасці інцыдэнту, жыхары ж лагера, у пераважнай большасці, праігнаравалі яго. Мне невядома, ці камітэт архіепіскапаў выклікаў айца Барышкевіча, каб той вытлумачыў свае паводзіны, — калі гэта і было насамрэч, рашэнне камітэта засталося канфідэнцыйным. Інцыдэнт з кілбаскамі зрабіўся легендарным і застаўся ў памяці жыхароў горада на доўгія гады, яго пераказвалі адзін аднаму нават пасля таго, як наш лагер выехаў з Тырсгайма, — але пра гэта я даведаўся нашмат пазней, дык не буду забягаць наперад.

Быў і яшчэ адзін выпадак, які прыцягнуў немалую ўвагу грамады, — гісторыя з парсюком. У ёй адну з галоўных роляў іграла цётка Тоня. Усё пачалося з самых лепшых цётчыных намераў: яна надумалася пачаставаць сям'ю свежанінай, а па тым часе гэта быў неверагодны дэлікатэс. Мясцовы фермер пагадзіўся прадаць цётцы маладога парсючка (натуральна, гандаль мусіў адбывацца ў строгім сакрэце, бо такія аперацыі лічыліся тады незаконнымі). І вось аднойчы ўвечары фермер перадаў цётцы Тоні жывога парсючка. Як бедную жывёліну ўдалося даставіць з хлява ў наш будынак, за некалькі кварталаў, застаецца для мяне загадкай. Відаць, нехта дапамагаў маёй адчайнай цётцы. Безупыннае верашчанне парсюка на ўсім шляху ад хлява да дома не магло не прыцягнуць увагі жыхароў гарадка. Няшчаснага кабанчыка прывалаклі на задні двор будынка і праз маленькае квадратнае акно ўсунулі ў сутарэнне, дзе яго неўзабаве і закалоў Грышка, пратэжэ архіепіскапа Дзмітрыя.

Справа на тым не скончылася. Мясцовыя ўлады дазналіся пра нелегальную гандлёвую аперацыю, і цётку Тоню выклікалі ў магістрат, што знаходзіўся ў іншым горадзе. Я памятаю, як яна выпраўлялася туды, апранутая адпаведна сытуацыі: спадніца, блузка і жакет. Трымалася яна заклапочана. Без сумневу, з ёй тады мусіла паехаць яе дачка Тая, якая вольна гаварыла па-нямецку. Да вялікай палёгкі кожнага з нас, цётка Тоня вырабілася з гэтай прыкрай гісторыі досыць лёгка: яе прызналі вінаватай у нелегальнай трансакцыі, прымусілі заплаціць невялікі штраф і загадалі больш такога не рабіць.

Калі ў чэрвені 1994 года я быў у чатырохтыднёвым падарожжы па Еўропе, жаданне наведаць Германію, асабліва Баварыю, зрабілася проста нясцерпным. Я папрасіў маю стрыечную сястру Гэлену Герман і яе мужа Багуслава (яны жылі ў польскім горадзе Шчэціне) суправаджаць мяне ў гэтай паездцы і вельмі цешыўся, калі яны з ахвотай пагадзіліся. З прычыны таго, што я быў абмежаваны ў часе, з маршруту паездкі давялося выкінуць шматлікія геаграфічныя

пункты, якія мне хацелася наведаць. Але Тырсгайм застаўся, дый як бы я мог абмінуць яго? Прыехаўшы туды, мы прыпаркаваліся на гарадской плошчы. Адтуль няспешным крокам мы падняліся на пагорак да пратэстанцкай царквы, якая месцілася ў самым дальнім канцы плошчы. Велічны будынак царквы, што налічваў некалькі стагоддзяў, узвышаўся над дамамі, ствараючы ўражанне поўнай гармоніі з наваколлем.

Я прысеў на лаўку. Нахлынулі ўспаміны з тых далёкіх часоў. Усе яны былі звязаныя з гэтай пратэстанцкай царквой, збудаванай з каменю і дрэва, якая стаяла зусім блізка ад мяне, на пагорачку. Успаміны вялі мяне ўсярэдзіну бажніцы, за яе муры метровай таўшчыні. Масіўныя драўляныя дзверы былі ўмацаваныя жалезнымі кратамі, такія самыя масіўныя дзверы, замкнёныя на вісячы замок, ахоўвалі ўваход у тунэль, які пачынаўся ўнутры царквы. У мінулыя стагоддзі царква, відаць, неаднойчы была для жыхароў мястэчка ратункам і сховішчам ад марадзёраў.

Падчас нашага прабывання ў Тырсгайме святары нашага лагера дамовіліся з пастарам царквы, і ён даў дазвол на правядзенне ў ёй набажэнстваў згодна з усходнім праваслаўным абрадам. Мне было даручана прыслугоўваць у алтары — гэта была ўжо добра вядомая мне праца.

Менавіта там, у глыбіні алтара, я натрапіў на фотаздымкі жаўнераў — нараджэнцаў Тырсгайма, якія загінулі на палях Першай сусветнай вайны. Фотаздымкі былі сабраныя пад агульнай рамкай, за шклом. Там было, можа, з два тузіны здымкаў, калі не больш. Усе мужчыны былі ў вайсковай форме, шмат хто ў спічастых касках; цяпер, узгадваючы іхныя твары, я пачаў задумвацца, пры якіх абставінах яны маглі загінуць. Безумоўна, вырашыў я, усе яны паляглі на пярэднім краі. Некаторыя, відаць, загінулі ў артылерыйскай перастрэлцы, спрабуючы схавацца ад снарадаў у сваіх акопах. Іншых маглі зрэзаць кулямётныя чэргі, калі яны ішлі ў атаку на пазіцыі праціўніка. Я намагаўся ўявіць сабе жахі пярэдняга краю той гіганцкай вайны. Залпы цяжкіх вінтовак, выбухі снарадаў, няспыннае стракатанне кулямётаў, выбухі гранатаў, стогны і крыкі параненых і тых, хто памірае, адгукаліся ў маёй галаве.

Гэтыя мужчыны мусілі пакінуць свае сем'і і дарагіх ім людзей, каб загінуць у нейкіх чужых краях. Дзеля чаго, разважаў я? Навошта была патрэбная тая вайна? Чым можна апраўдаць такі жахлівы канфлікт? Няўжо яго немагчыма было пазбегчы? І чаго такога дасягнулі ў выніку, чым можна было б апраўдаць гіганцкія страты маладых жыццяў? У дзяцінстве я не мог знайсці адказу на гэтыя пытанні. Толькі потым, з узростам, я зразумеў, што вайна прынесла некалькі станоўчых вынікаў: Аўстра-Венгерская імперыя

прыйшла да развалу, у выніку чаго некаторыя ўсходнееўрапейскія і балканскія народы вызваліліся і атрымалі магчымасць самім вырашаць свой лёс; вайна спрычынілася таксама да распаду Асманскай імперыі, вызваліўшы іншыя народы з-пад турэцкага ярма (на жаль, курды[132] не ўвайшлі ў іх лік). Падзеі Першай сусветнай мелі і негатыўныя наступствы: у выніку вайны адбылася бальшавіцкая рэвалюцыя ў Расіі, якая прынесла людзям, што жылі ва Усходняй Еўропе і на шырокіх прасторах Азіі, дэспатычны камуністычны рэжым — тыранію нечуванага размаху, беспрэцэдэнтную ў гісторыі чалавецтва. Калі аглядаешся назад, разумееш, што з рэальнасцю не паспрачаешся: у нас няма іншага выйсця, як толькі прыняць усе падзеі Першай сусветнай, уключаючы найбольш катастрафічныя, менавіта так, як яны адбываліся, бо гісторыя, непрадказальная і магутная сіла, заўсёды выбірае свой уласны шлях.

На досвітку XX стагоддзя ваенныя канфлікты паміж дзяржавамі, якімі б брутальнымі яны ні былі, вырашаліся на крывавых палях баёў. Але Другая сусветная вайна рашуча перайначыла правілы, і ў вайну былі ўцягнутыя мірныя жыхары. Усё пачалося з ідыёцкага рашэння Адольфа Гітлера бамбіць Лондан[133] — пасля таго як Англія абвясціла вайну Германіі ў 1939 годзе. Мне не верыцца, што хоць хтосьці з генералаў паветраных войскаў, уключаючы маршала Герынга[134], ухваляў гэтую ідэю. Але, безумоўна, генералы мусілі выконваць загады фюрэра без намёку на пратэст. Гэты загад Гітле-

---

[132] **Курды** — іранамоўны народ, які жыве пераважна ў вярхоўях рэк Тыгр і Ефрат у гістарычным рэгіёне Курдыстан. Сёння Курдыстан падзелены паміж Турцыяй, Іранам, Іракам і Сірыяй. Пасля распаду Асманскай імперыі і стварэння Турэцкай Рэспублікі пачаўся актыўны нацыянальны рух курдаў у Турцыі. У адрозненне ад Ірана і Ірака, дзе курдскія тэрыторыі маюць тую ці іншую ступень аўтаноміі, у Турцыі нацыянальныя правы курдаў да сёння неабароненыя і з’яўляюцца падставай супрацьстаяння, у тым ліку і ўзброенага, паміж турэцкімі ўладамі і апазіцыйнай Рабочай партыяй Курдыстана ды іншымі курдскімі арганізацыямі.

[133] Бамбардаванне Лондана нямецкімі самалётамі пачалося 7 верасня 1940 г. і цягнулася 57 начэй. У выніку былі знішчаныя больш як мільён будынкаў, аднак галоўныя мэты па дэмаралізацыі брытанскага ўрада і падрыву эканомікі не былі дасягнутыя.

[134] **Герман Вільгельм Герынг** (ням. *Hermann Wilhelm Göring*, 1893–1946) — палітычны, дзяржаўны і ваенны дзеяч нацысцкай Германіі, рэйхсміністр авіяцыі (1933–1945), рэйхсмаршал. Адыграў ключавую ролю ў арганізацыі ваенна-паветраных сілаў Германіі, якімі кіраваў цягам усёй Другой сусветнай вайны.

ра, нібы траянскі конь, адчыніў браму злачыннасці, і цяпер стала лічыцца нармальным наносіць бомбавыя ўдары па грамадзянскім насельніцтве (у тым ліку па жанчынах і дзецях!) варожай краіны. І Уінстан Чэрчыль[135], і Франклін Рузвельт[136] выкарыстоўвалі свае ваенна-паветраныя сілы для бамбавання цывільнага насельніцтва суперніка. Ці Другая сусветная паклала канец цывілізаванаму вядзенню войнаў?

Раптам перада мной сталі мая стрыечная сястра з мужам, і гэта вярнула мяне з падарожжа ў мінуўшчыну. Я падняўся з лаўкі, і мы падышлі да фантана. Ён распырскваў у паветра чыстую ваду, зусім гэтак, як у даўнейшыя часы. Вось толькі чырвоныя рыбкі, якія плавалі раней на дне басейна, зніклі. Побач з фантанам з'явіліся дзве высокія металічныя панэлі: на адной былі выбітыя імёны вайскоўцаў, што загінулі ў Першую сусветную вайну, на другой — імёны ахвяраў Другой сусветнай. Гэты мемарыял быў пабудаваны ўжо пасля таго, як мы пакінулі Тырсгайм, — без сумневу, тады, калі закончылася амерыканская акупацыя гэтай часткі Германіі. Плошча была абсаджаная цяністымі дрэвамі. Калі б хто хацеў пасядзець у спакоі і паразважаць пра жыццё, лепшага месца, чым у засені гэтых раскідзістых дрэваў, цяжка было б знайсці. Шматпавярховыя будынкі пашыхтаваліся па абодва бакі плошчы. Усе яны выглядалі добра дагледжанымі і былі ў выдатным стане. Уціснутая паміж імі, стаяла гарадская ратуша. Памяць ізноў вынесла на паверхню ўспаміны. Тады, у 1946 годзе, я сабраў усю сваю мужнасць і прыйшоў у ратушу, каб паразмаўляць з бурмістрам — я хацеў папрасіць яго, каб ён выдаў мне талон на пакупку футбольных бутсаў, бо без талонаў тады абутак не прадаваўся. Бурмістр, чалавек у паважных гадах, прыняў мяне ветліва, але ў маёй просьбе адмовіў. Ён растлумачыў мне, што талоны выдаюцца толькі сталым жыхарам і грамадзянам Германіі, а паколькі я меў статус уцекача і жыў у часовым прытулку, пра мяне мусіць клапаціцца *UNRRA*. Безумоўна, ён часткова меў рацыю: я атрымліваў шмат дапамогі ад *UNRRA*. Але ж ці магла тая *UNRRA* забяспечыць усе мае патрэбы? Я меў моцныя сумневы на гэты конт. Спачатку я спрабаваў спрачацца з бурмістрам, але калі ўсвядоміў марнасць сваіх аргументаў, выракся сваёй просьбы і пайшоў ні з чым.

---

[135] **Уінстан Чэрчыль** (1874–1965) — брытанскі палітычны дзеяч, прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі ў 1940–1945 і 1951–1955 гг.

[136] **Франклін Дэлана Рузвельт** (1882–1945) — амерыканскі палітычны дзеяч, 32-і прэзідэнт ЗША. Рузвельт кіраваў ЗША ў час сусветнага эканамічнага крызісу і Другой сусветнай вайны.

Успаміны зноў адступілі ў мінуўшчыну, і я звярнуў увагу на наваколле. Калі паглядзець праз плошчу, то за галоўнай вуліцай — Гаўптштрасэ — воку адкрываліся раскошныя зялёныя палеткі і сенажаці. Неймаверна, але яны ўсё яшчэ выглядалі такімі самымі, як у маім юнацтве! Іх не захінулі аніякія высокія будынкі, і з самага цэнтра горада можна было любавацца цудоўным пастаральным краявідам. Усё сведчыла за тое, што змены, якія адбыліся ад сярэдзіны 1940-х гадоў у гэтай квітнеючай супольнасці, былі толькі да лепшага.

Размаўляючы пра мястэчка, мы ўтраіх працягнулі няспешную прагулку да месца, дзе была прыпаркаваная ўзятая напракат машына. Праз некалькі хвілінаў мы ўжо пад'язджалі да будынка на галоўнай вуліцы, дзе калісьці размяшчалася памятная сяліба майго юнацтва — наш лагер уцекачоў.

Будынак нядаўна пафарбавалі ў ружовы колер, вокны па перыметры і куты дома абвялі белым. Пад вокнамі віселі скрынкі, поўныя рознакаляровых кветак. Як гэта прыгожа, падумаў я, і чаму ж мы не падумалі завесці такія кветнікі, калі жылі тут? Цяпер жыхары будынка мелі сваю стаянку, дзе я запаркаваў аўтамабіль. Мы ўтраіх накіраваліся да ўвахода ў дом (з таго боку, дзе я калісьці жыў). Нас сустрэла жанчына — адна з цяперашніх жыхарак дома. Мы адрэкамендаваліся, і я расказаў ёй пра мэту нашага нечаканага візіту. Жанчына прыняла нас сардэчна і з цікавасцю. Я запытаўся, ці памятае яна ўцекачоў, якія жылі тут у 1940-я гады.

*«Ну хіба ж мы маглі б забыцца на вас?»* — адказала яна з усмешкаю. *«Але што вам запомнілася найбольш пра лагер уцекачоў?»* — працягваў дапытвацца я. Жанчына рассмяялася: «*Пра кілбаскі і парсючка»*. І тут жа, не чакаючы просьбаў, яна распавяла нам усю гісторыю з пакупкай парсючка — у тым выглядзе, у якім яна засталася ў памяці мясцовых жыхароў. *«Не сумняюся анітрохі, што гэты аповед — чыстая праўда*, — сказаў я і дадаў: — *Ці не маглі б вы завесці мяне ў сутарэнне? Я б вельмі хацеў пабачыць, як яно цяпер выглядае»*. Жанчына ахвотна згадзілася (Гэлена і Багуслаў не пайшлі са мной — яны засталіся ў вестыбюлі будынка, размаўляючы з жыхарамі, чыю ўвагу мы прыцягнулі сваім візітам).

Жанчына паказала мне квадратнае акно, праз якое няшчаснага парсючка зацягнулі ў сутарэнне, пры гэтым яна дадала новыя дэталі тае прыгоды. Я агледзеўся. Не дзіва, што скрыня з вугалем знікла, замест яе тут цяпер стаяў газавы кацёл, які награваў ваду для ваннаў і кухняў. О, як цудоўна гэта было б, каб у любы дзень можна было залезці ў ванну, адкруціць кран з гарачай вадой і з асалодай паплёскацца ў ёй, але ў нашыя часы такая раскоша была нам недаступная.

*«Гісторыя пра парсюка, якую вы распавялі, вельмі цікавая, а што гэта за прыгода з кілбаскамі?»* — запытаўся я ў жанчыны. Яна зноў весела рассмяялася. Увесь час хіхікаючы, яна пераказала нам увесь эпізод з няўдалай спробай крадзяжу кілбасак. У яе маляўнічай інтэрпрэтацыі інцыдэнту факты перапляталіся з чуткамі і плёткамі. Гэта ж трэба, падумаў я! Два маленькія і нязначныя выпадкі разрасліся да памераў легендарных здарэнняў, і, на жаль, толькі яны і засталіся ў памяці мясцовых жыхароў на гады і дзесяцігоддзі.

Безумоўна, я не мог не наведаць пакоя, дзе я жыў са сваімі дзвюма сёстрамі і сям'ёй дзядзькі Яна. Жанчына пазнаёміла нас з людзьмі, што займалі гэты пакой цяпер: гэта была сямейная пара сталага веку, якая прыняла нас вельмі сардэчна. Гаспадар быў ветэранам Другой сусветнай вайны, ён змагаўся ў войсках Вермахту на Усходнім фронце, а потым выжыў у савецкім лагеры для ваеннапалонных. На сцяне вісела намаляваная ад рукі каляровымі алоўкамі мапа, дзе паказаныя былі ягоныя ваенныя маршруты. Пакуль мы сядзелі на канапе, размаўляючы з гасціннымі гаспадарамі, я раз-пораз вяртаўся ў думках у мінуўшчыну. Як маглі мы ўсямёх — трое дарослых і чацвёра дзяцей — цясніцца ў адным пакоі і не нажыць нервовых расстройстваў? Ды вось жа неяк здолелі.

Цяпер у гэтым будынку жылі не самыя ўдачлівыя пенсіянеры, якія раней працавалі на грамадзянскай службе, а таксама ветэраны Другой сусветнай. Дом і звонку, і знутры знаходзіўся ў выдатным стане, але ж побытавыя ўмовы для жыхароў заставаліся вельмі сціплымі, паводле цяперашніх стандартаў, — адзін пакой для жыцця, агульная кухня і агульная ванна з прыбіральняй.

Для нас, падлеткаў, якія прапусцілі некалькі гадоў школы, Тырсгайм быў паваротным пунктам — адсюль шлях ізноў прывёў нас у школьныя класы. Нас траіх — мяне, маю сястру Фаіну і стрыечнага брата Вову — запісалі ў Беларускую гімназію імя Янкі Купалы[137], у якой мы павінны былі распачаць заняткі ўвосень. Беларуская гімназія была тыповай еўрапейскай сярэдняй школай, якая рыхтавала вучняў да паступлення ва ўніверсітэт. Знаходзілася яна ў Міхель-

---

[137] **Беларуская гімназія імя Янкі Купалы** — навучальная ўстанова, заснаваная ў 1945 г. у беларускім лагеры Ды-Пі у Рэгенсбургу. У 1946–1948 гг. дзейнічала ў лагеры ў Міхельсдорфе, пазней у Віндышбергердорфе, Розенгайме як васьмікласная гімназія ў сістэме адукацыі ў паваеннай Германіі. Імя Янкі Купалы атрымала ў 1947 г. Спыніла існаванне ў 1950 г. Падрабязней пра яе можна прачытаць у: Максімюк, Ян. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне (1945–1950). Нью-Ёрк — Беласток, 1994.

сдорфе[138], у ваколіцах Кама[139] (*Cham*). Дачка святара Лапіцкага Лёля[140] і дачка святара Лічко Галя (абедзве ў падлеткавых гадах) таксама мусілі распачаць школьнае навучанне ўвосень 1946 года.

Для нас, будучых вучняў, кожная хвіліна была дарагая. Вайна перапыніла нашую адукацыю. Некаторым з нас вельмі трэба было дапоўніць веды з асноўных дысцыплінаў — да гэтай катэгорыі вучняў, без сумневу, належаў і я. На нашае шчасце, выбітныя насельнікі лагера ўзяліся падрыхтаваць нас да гімназіі. Архіепіскап Філафей стаў маім настаўнікам беларускай мовы. Звычайна, калі я ўваходзіў у ягоны пакой, я бачыў яго за пісьмовым сталом: ён шмат пісаў. Архіепіскап махаў мне рукой, каб я сядаў побач з ім. Праз непрацяглы час ён адсоўваў убок тое, над чым працаваў, і наш урок пачынаўся. Да сёння я вельмі ўдзячны архіепіскапу Філафею за яго бескарыслівую дапамогу. Андрэй Кандратавіч стаў маім настаўнікам матэматыкі. Мне вельмі пашанцавала: ён быў геніяльным педагогам, які выдатна тлумачыў матэрыял. Усё, чаму ён навучаў мяне, я схопліваў з лёту. Мой стрыечны брат Вова таксама студыяваў матэматыку пад кіраўніцтвам Андрэя Кандратавіча. Хачу выказаць сваю запозненую падзяку гэтаму выбітнаму чалавеку! Архіепіскап Апанас, які бездакорна валодаў беларускай мовай, таксама займаўся з дзецьмі. Напэўна, былі сярод жыхароў і іншыя настаўнікі.

---

[138] **Міхельсдорф** (ням. *Michelsdorf*) — вёска за 2 км ад горада Кам у Ніжняй Баварыі (Германія), дзе ў бараках былога вайсковага лётнішча ўлетку 1946 г. былі паселеныя беларусы, вывезеныя з Рэгенсбурга. Беларускі Ды-Пі-лагер у Міхельсдорфе быў адным з найбуйнейшых у Германіі.

[139] **Кам** (ням. *Cham*) — горад у Германіі, у зямлі Баварыя, знаходзіцца на рацэ Рэген за 150 км на паўночны ўсход ад Мюнхена. У пасляваенны час у горадзе і ваколіцах з'явілася вялікая колькасць уцекачоў з Судэтаў і Сілезіі.

[140] **Лёля Касоўская** (дзяв. **Лапіцкая**, нар. 27.09.1933, маёнт. Ярылаўка, сёння Бераставіцкі раён Гродзенскай вобл.) — грамадская дзеячка, дачка М. Лапіцкага, жонка Л. Касоўскага. Вучылася ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхельсдорфе. Выехала з бацькамі ў ЗША. Жыла ў Саўтр-Рыверы (Нью-Джэрсі). Мае хімічную адукацыю, працавала ў менеджарам бібліятэкі ў буйной фармацэўтычнай кампаніі. Актыўная ўдзельніца беларускага жыцця ў Нью-Джэрсі. У 1950-я гг. была сакратаркай Аб'яднання беларуска-амерыканскіх студэнтаў. Пазней уваходзіла ў кіраўніцтва Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі. Жыве ў Лоўрэнсвіле (Нью-Джэрсі).

Баварскія зімы халодныя і слотныя: у гэты час толькі і вучыцца або займацца нейкай справай для душы, якую можна рабіць у хаце. Стрыечны брат Вова быў на сёмым небе, калі бацькі падарылі яму акардэон. Ён іграў на ім кожны дзень. Мае ж музычныя здольнасці пакідалі жадаць шмат лепшага, і гэтак яно засталося да сёння. Таму на розных урачыстых імпрэзах, накшталт Калядаў, я аддаваў перавагу чытанню вершаў. Для такіх імпрэзаў нам звычайна давалі залу ў будынку гарадской управы. Памятаю таксама, як аднойчы да нас з канцэртам прыехалі гастралёры — беларускія танцоры і спевакі. Мясцовая канцэртная зала была перапоўненая, і гледачам канцэрт вельмі спадабаўся. Нягледзячы на ўсе гэтыя забавы, я прагна чакаў вясны, марачы пра дні, калі я буду гойсаць па маляўнічых ваколіцах Тырсгайма.

І вось вясна прыйшла, на радасць нам усім. Дрэвы павольна абуджаліся ад зімовага сну і пакрываліся маладой зелянінай; зацвілі яблыні і вішні; там і тут распускаліся палявыя краскі, нібы пацвярджаючы, што халады адступілі незваротна. Ад кветнікаў у некаторых прыватных дамах немагчыма было вока адвесці — такія яны былі прывабныя. Якраз з другога боку школьнага двара за плотам быў адзін з такіх кветнікаў, дзе цвілі ўсемагчымыя кветкі і пышна квітнела дэкаратыўнае кустоўе. Гэты сад-аранжарэя прыцягваў увагу ўсіх жыхароў, тым больш што ён быў вельмі добра відаць ад нашага дома. Мне здаецца, цётка Тоня часцяком купляла ў тым садзе кветкі на розныя выпадкі.

Навакольная прырода вабіла мяне найбольш. Луг з празрыстым ручайком, які віўся скрозь густую траву, старадаўні лес, спакойны, непарушны, загадкавы, — усё гэта клікала мяне да сябе. Там, на самоце, я любіў слухаць птушак, назіраць за дзікай прыродай і, безумоўна, збіраць грыбы ды ягады, калі на іх быў сезон. Лес зрабіўся маім прытулкам. Вада таксама прыцягвала мяне, як магніт, калі я быў юнаком. За нейкіх дзвесце метраў ад дарогі, акурат за гарадской мяжой, на лузе была сажалка, каля якой у летнія месяцы ў цёплае сонечнае надвор'е збіраліся дзясяткі мясцовых жыхароў. Берагі сажалкі былі заўсёды запоўненыя людзьмі. Лежачы на посцілках альбо ў складных пляжных фатэлях, дарослыя падстаўлялі свае бледныя целы сонечным промням. Дзеці ў той час весела плюхаліся ў вадзе каля берага. Я вельмі цешыўся, калі таксама адкрыў для сябе гэты маляўнічы куточак. Заставалася толькі вырашыць, як туды дабірацца. На маё шчасце, адзін цудоўны і шчодры чалавек падарыў мне веласіпед. Займеўшы транспартны сродак, я правёў каля сажалкі шмат пагодных дзён лета 1946 года, дасхочу плаваючы ў цёплай вадзе.

Летнія дні адышлі ў гісторыю, і я разам з іншымі падлеткамі выправіўся ў Міхельсдорф, дзе распачаў навучанне ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. У Міхельсдорфе я прабыў да канца навучальнага года. Калі ж наступным летам я вярнуўся ў Тырсгайм на вакацыі, сярод маіх першапачатковых планаў было знайсці добрае месца для купання. Поўны вялікіх надзей, я сеў на веласіпед і паехаў да маёй улюбёнай сажалкі, якая падарыла мне столькі прыемных уражанняў мінулым летам. На маё здзіўленне і расчараванне, каля сажалкі не было ні душы, а яе берагі параслі высокай травой. Але ніколі не ведаеш, дзе страціш і дзе знойдзеш. Адзін з апантаных купальшчыкаў у лагеры прапанаваў мне паехаць з ім на возера, якое знаходзілася за некалькі кіламетраў ад Тырсгайма, на ўзвышшы, і куды няцяжка было дабрацца на веласіпедзе. Я быў у захапленні ад таго, што пабачыў: вада ў возеры была крышталёва чыстая і вельмі спакойная. Ззаду возера крутыя схілы гор параслі хвойнікам, купкі лістоўных дрэваў былі раскіданыя па яго берагах. Азярко было невялікае, можна нават сказаць, што драбнюткае, але такое мілае! І тут не было натоўпу. Толькі адзінкі прыязджалі сюды, каб адпачыць і расслабіцца.

А яшчэ адной маёй улюбёнай забавай быў футбол. Каманды, якія змагаліся ў раённым турніры, гулялі з фанатычным запалам, і футбольным заўзятарам гэта вельмі падабалася. Я таксама падхапіў «футбольную ліхаманку». Дый чым яшчэ было заняцца ў нядзелю па абедзе маладому альбо маладому ў душы чалавеку?

Я памятаю маладога брамніка з футбольнай каманды Тырсгайма. Ён гуляў проста бліскуча; без сумневу, гэта быў самы лепшы гулец у камандзе, і ён выклікаў усеагульнае захапленне. Ён прыводзіў сваіх фанатаў да экстазу, беручы найцяжэйшыя мячы. Да сёння я памятаю некаторыя з гэтых момантаў, калі ён не прапусціў мяч. Малады брамнік быў новым чалавекам у мястэчку — магчыма, уцекачом з нейкіх тэрыторый, экспрапрыяваных у Германіі пасля вайны. Ён жыў непадалёк ад нас, на другім баку вуліцы: яго прытуліла адна сям'я, у якой была танюткая прывабная дачка гадоў васямнаццаці.

На жаль, німб футбольнай супер-зоркі моцна прыгас, калі людзі даведаліся пра яго пазафутбольныя прыгоды. З куратнікаў на нашай вуліцы пачалі прападаць куры. Справа дайшла да паліцыі. Спачатку думалі на лісаў, але пасля пільнага даследавання прыйшлі да высновы, што курэй крадзе нехта з мясцовых жыхароў. Шмат хто з футбольных фанатаў, і я ў іх ліку, вельмі перамаліся, калі высветлілася, што галоўнае падозранне падае на нашага ўлюбёнца-брамніка. Ён, аднак, вырашыў не чакаць, пакуль яго схопяць на гарачым, і ўцёк, пакінуўшы цяжарнай дачку гаспадара, у якога

ён жыў. Мне было вельмі шкада, што мой горача любімы герой больш не будзе цешыць нас сваім майстэрствам.

На пачатку лета 1946 года нас наведаў пляменнік цёткі Тоні, Аркадзь ДэЧыла (мой траюрадны брат) з жонкай Лідай. Аркадзю было тады трошкі за трыццаць, я думаю. Ён быў высокі і шчуплы, з бледным тварам і светла-каштанавымі валасамі, зачасанымі назад, — прыгожы мужчына згодна з усімі стандартамі. Па прафесіі ён быў інжынерам, выпускніком Варшаўскага ўніверсітэта. Аркадзь быў выразна гарадскім індывідуумам, касмапалітам, ён не меў сантыментаў ні да якога філасофскага кірунку або руху. На першае месца ён ставіў асабістую свабоду і права кожнага чалавека выбіраць свой уласны лёс — каб ні дзяржава, ні царква не навязвалі яму, куды ісці і што рабіць.

Жонцы Аркадзя, Лідзе, магло тады быць каля трыццаці ці таксама трошкі за трыццаць. Яна была натуральнай бландзінкай з чысцюткай белай скурай. Тонкія рысы яе твару беспамылкова сведчылі пра шляхетнае паходжанне. Яна была напорыстай, упэўненай у сабе асобай: не вагалася ані хвіліны, калі хацела выказаць сваю думку на спрэчныя тэмы. Яе з поўным правам можна было назваць свабоднай жанчынай, жанчынай з будучыні, якая апярэджвала свой час. Яна вырасла ў вельмі касмапалітычным горадзе — Варшаве. У рафінаваных колах даваенная Варшава мела славу *«ўсходняга Парыжа»*. Яе паспяховыя сыны і дочкі пражывалі сваё жыццё з нязгасным запалам, пачасту выдаткоўваючы больш, чым яны маглі сабе дазволіць. Няма сумневу, што Ліда таксама спазнала смак бязбеднага жыцця.

Была і яшчэ адна выразная рыса, якая вылучала Ліду ад астатніх: яна была габрэйкай. Неверагодна! Як ёй удалося перажыць Халакост? Відаць, сваю ролю адыгралі ўменне знаходзіць выйсце з кожнай сытуацыі, прыродная геніяльнасць, прага да жыцця і папросту ўдача. Ліда была змагаркай ад прыроды. Калі ў жніўні 1944 года выбухнула Варшаўскае паўстанне[141], яна далучылася да польскіх падпольшчыкаў, якія зрабілі адчайную, але няўдалую спробу вызваліць горад ад немцаў да прыходу Чырвонай арміі. Гэты крывавы супраціў доўжыўся некалькі тыдняў.

Я прыгадваю адну з ваенных гісторый, расказаных Лідай, — мароз прабіраў па скуры ад аповеду пра тое, як ёй удалося выслі-

---

[141] **Варшаўскае паўстанне** — узброенае змаганне супраць немцаў у Варшаве ў рамках акцыі «Бура», што адбывалася цягам 1 жніўня — 3 кастрычніка 1944 г. Паўстанне пацярпела паразу, значная частка горада была разбураная, загінула каля 150 тысячаў мірнага насельніцтва.

знуць літаральна з-пад носу ў немцаў. Невялікая група польскіх падпольшчыкаў, у якой была Ліда, трапіла ў аблогу. Прарвацца праз нямецкае атачэнне не было аніякай магчымасці. Здацца — значыць гарантавана трапіць пад расстрэл. Што ж заставалася? Толькі надзея! Адзін з байцоў, чалавек з шурпатым тварам, пераканаў сяброў не паддавацца паніцы. Ён паабяцаў ім, што ўратуе іх, калі яны будуць ва ўсім яго слухацца. Адзінае, пра што ён іх папрасіў, — цалкам даверыцца яму. Ён распавёў сваім паплечнікам, што да вайны працаваў у дарожнай службе і шмат разоў спускаўся пад зямлю, у каналізацыйныя люкі. План таго чалавека быў просты: яны будуць уцякаць праз сістэму каналізацыі. Людзі ўбачылі ў гэтым надзею, некаторыя ўздыхнулі з палёгкай.

*«Мы альбо патонем там у людскім дзярме, альбо задыхнемся»*, — прашаптаў нехта. *«Калі мы будзем ісці вельмі асцярожна і глядзець, куды ступаем, усе застануцца жывыя»*, — запэўніў іх выратавальнік. Падпольшчыкі спусціліся следам за гэтым мужчынам у каналізацыйную трубу, якая ішла пад вуліцай. Намацваючы свой шлях у абсалютнай цемры, яны раптам трапілі ў воблака моташлівага газу (немцы распылялі атрутныя газы ў сістэме каналізацыі, спрабуючы выкурыць з-пад зямлі барацьбітоў супраціву). Але гэтай групе падпольшчыкаў пашанцавала: канцэнтрацыя газу на іх шляху аказалася не настолькі моцнай, каб перарваць іхнае падарожжа. Вочы людзей слязіліся, і ў горле пяршыла, але яны былі здольныя ісці далей. Змучаныя падпольшчыкі спыніліся перадыхнуць якраз пад каналізацыйным люкам. Раптам цішыню наверсе разрэзаў тупат ботаў і галасы нямецкіх салдатаў. Салдаты хадзілі ўзад-уперад, якраз над галовамі ўцекачоў. Ліду працяў жах. І тут раптам адзін з уцекачоў закашляўся. У той жа момант былы дарожны рабочы, які вёў групу, схапіў гэтага мужчыну ззаду і заціснуў яму рот рукой. Той мужчына выжыў і потым шмат разоў, напэўна, расказваў сябрам гэтую самую гісторыю.

Група ўцекачоў здолела прайсці падземным калідорам і падняцца на паверхню на бяспечнай тэрыторыі. Перажыўшы гэтую падзею, ад якой стылі косткі, Ліда вырашыла, што з яе хопіць, што прыйшоў яе час адысці ад супраціву і пакінуць змаганне іншым. Пераапранутая да непазнавальнасці, яна змагла выехаць з Варшавы.

Аркадзю таксама давялося перажыць падчас Варшаўскага паўстання момант, калі ён ледзь не загінуў. Недзе ў межах палаючага горада яго спыніў на вуліцы нямецкі патруль. У партфелі Аркадзь нёс не зусім звыклы груз: царскія залатыя манеты, ювелірныя вырабы, упрыгожаныя каштоўнымі камянямі, і пару пачкаў банкнотаў. Скарб быў не толькі ягоны: частка рэчаў належала яго жонцы Лідзе, яе бацькам, братам і сёстрам. Патруль пацягнуў Аркадзя

ў вайсковы штаб. Змрочныя думкі перапаўнялі яго. Што чакае яго ў канцы дарогі — куля ў патыліцу каля бетоннай сцяны? На шчасце, з безвыходнага, здавалася б, становішча знайшоўся выхад. У памяшканні вайсковага штаба Аркадзь спакойна папрасіў дазволу паразмаўляць з афіцэрам. Ён сказаў афіцэру, што ўцякае ад расейцаў, што савецкі рэжым пераследаваў яго бацьку — святара ўсходняй праваслаўнай царквы, што ён не мае нічога супольнага з паўстанцамі і асабіста сам асуджае іх дзеянні і што, калі яму дазволяць без перашкодаў пакінуць горад, ён ахвотна падзеліцца з афіцэрам змесцівам свайго чамадана. Да вялікай палёгкі Аркадзя, афіцэр кіўнуў галавой на знак згоды. Частка скарбу перайшла ў рукі афіцэра, а Аркадзя пасля гэтага вывезлі на вайсковым транспарце за горад, у бяспечнае месца, якое ён сам выбраў.

Існуе іншая версія гэтай Аркадзевай прыгоды. Паводле яе, Аркадзь нёс скарб у валізе, каб перадаць яго польскім падпольшчыкам. Калі яго спыніў патруль, нямецкія салдаты без доўгіх цырымоній паставілі яго да сцяны і хацелі расстраляць на месцы. Застаецца, аднак, загадкай, якім чынам Аркадзю тады ўдалося пазбегнуць вернай гібелі. Мне асабіста гэтая другая версія падзей падаецца малаверагоднай. Аркадзь быў вельмі рацыянальным чалавекам, ягоны халодны розум звычайна пралічваў кожную сітуацыю наперад, і для яго на першым месцы заўсёды стаяла асабістая бяспека і дабрабыт. Калі ў 1939 годзе Польшча была падзеленая паміж нацысцкай Германіяй і Савецкім Саюзам, Аркадзь жыў у Варшаве. Калі б ён жыў на «крэсах усходніх» (тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны), яго, без сумневу, арыштавалі б і пакаралі б смерцю або выслалі б у ГУЛАГ, дзе б ён і загінуў без следу. Таму якую крыўду мог мець Аркадзь да нямецкіх акупантаў? Не хачу сказаць, што ён падтрымліваў знішчэнне нацыстамі габрэяў і іншых людзей. Наадварот, сам па сабе Аркадзь асуджаў гэтыя варварскія злачынствы. Але ён быў не схільны — ад прыроды ці з перакананняў — рызыкаваць сваёй скурай дзеля іншых. Яго цалкам задавальняла становішча, калі змаганнем займаліся іншыя і ў лік гэтых іншых уваходзілі палякі.

Цягам усёй гісторыі палякі ўсімі сіламі спрабавалі знішчыць самаідэнтычнасць беларускай і ўкраінскай мяншыняў у межах польскай дзяржавы. І адной з перашкодаў на шляху гэтых планаў стала ўсходняя праваслаўная вера названых мяншыняў. Як украінцы, так і беларусы, што жылі ў Польшчы, былі пераважна праваслаўныя. Палякі ж, у абсалютнай сваёй большасці — рымакаталікі. Таму задача навярнуць усходнеправаслаўнае насельніцтва ў каталіцызм сталася Святым Граалем Рыма-каталіцкай царквы, і застаецца такой да нашых дзён. Як і чакалася, іерархі ўсходняй

Праваслаўнай царквы рабілі ўсё, што ў іхнай моцы, каб адбіць напады з боку Каталіцкай царквы, і робяць гэта да нашага часу. У сваім імкненні перарабіць сваіх грамадзянаў усходнеправаслаўнага вызнання на каталікоў польскі ўрад сягнуў да адкрытага прымусу. Некаталікам было забаронена займаць большасць дзяржаўных пасадаў, уключаючы працу ў паліцыі і ў школах. Існаваў цэлы спіс іншых абмежаванняў для праваслаўных. Аркадзь цвёрда трымаўся сваёй праваслаўнай веры, да вялікай радасці свайго бацькі, які быў шчырым і адданым святаром усходняй Праваслаўнай царквы на «крэсах усходніх». Хіба ж усіх гэтых прычынаў было недастаткова, каб Аркадзь трымаўся далёка ўбаку ад непасрэднага ўдзелу ў Варшаўскім паўстанні? На маю думку, больш як дастаткова.

Дзядзька, цётка і Тая былі вельмі радыя, што Аркадзь і Ліда затрымаліся ў нас у гасцях на некалькі дзён. Мы, дзеці, цешыліся з іхнай кампаніі таксама. У мяне засталіся вельмі прыемныя ўспаміны пра Аркадзя і Ліду. Я не памятаю, каб я сустракаўся з Аркадзем калісьці раней.

Лета заканчвалася. Неўзабаве я, мая сястра Фаіна і стрыечны брат Вова будзем выпраўляцца ў Міхельсдорф, у Беларускую гімназію імя Янкі Купалы, каб узнавіць нашую адукацыю, перарваную вайной на доўгі час. Лёля, дачка святара Лапіцкага, і Галя, дачка святара Лічко, таксама рыхтаваліся да паездкі ў Міхельсдорф, каб працягнуць там навучанне ў беларускай школе, якая рыхтавала да ўніверсітэта. Мая сястра Ніна заставалася дома: было вырашана, што яна яшчэ замалая, каб выйсці з-пад нагляду апекуноў, яе дзядзькі і цёткі. Стрыечная сястра Тая на той час ужо выехала з Тырсгайма, каб студыяваць медыцыну ў Мюнхене[142]. Малады хлопец, імя якога я забыўся, таксама пакінуў лагер і студыяваў медыцыну недзе ў Германіі.

У 1946 годзе мітрапаліт Панцейляймон у згодзе з іншымі беларускімі архіепіскапамі, якія жылі ў нашым лагеры, прынялі нечаканае рашэнне. Яны — Сінод — вырашылі выйсці з Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы і далучыцца да Рускай усходняй праваслаўнай царквы ў замежжы[143]. Гэтае рашэнне мела

---

[142] **Мюнхен** (ням. *München*) — сталіца Баварыі, трэці паводле колькасці насельніцтва горад Германіі. Пасля Другой сусветнай вайны менавіта ў Мюнхене быў арганізаваны ўніверсітэт *UNRRA*, дзе маглі навучацца перамешчаныя асобы. Акрамя таго, тут дзейнічалі Мюнхенскі ўніверсітэт і Мюнхенскі тэхнічны ўніверсітэт.

[143] **Расійская праваслаўная царква за мяжой** (або Расійская замежная праваслаўная царква) — руская праваслаўная эміграцкая царкоўная арганізацыя, якая выйшла з адміністрацыйнага падначалення

глыбокія негатыўныя наступствы як для рэлігійнага, так і для палітычнага жыцця беларускіх эміgranцкіх суполак таго часу. Яно пасеяла зерне разладу і недаверу, у вялікай ступені спрычыніўшыся да расколу і сварак паміж беларускімі эмігрантамі. Водгулле гэтай падзеі працягвала вярэдзіць жыццё беларускай грамады і праз дзесяцігоддзі, потым ужо ў іншых краінах, куды пераехалі беларускія эмігранты. Ці можна, паклаўшы руку на сэрца, сказаць, што былі нейкія грунтоўныя і важкія прычыны, якія змусілі святароў да адступніцтва? Я не хачу абмяркоўваць гэтую тэму. Лічу, што час сам расставіць усё на месцы і што суд гісторыі — самы справядлівы.

Калі звесткі пра тое, што мітрапаліт і архіепіскапы адышлі ад Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, зрабіліся набыткам грамадскасці, я амаль не звяртаў увагі на тое, як іх успрынялі людзі. Але я памятаю рэакцыю Івана Касяка: ён быў проста прыбіты такой навіной.

Толькі тры беларускія святары — мой дзядзька Ян Жарскі, айцец Лапіцкі і айцец Лічко — не пайшлі за архіепіскапамі. Яны пацвердзілі сваю незалежнасць ад Сіноду, набываючы тым самым волю вырашаць свой уласны лёс, служыць Госпаду і людзям так, як падказвала ім іхнае сумленне.

*Жнівень 2004 г.*

## 14. ВУЧОБА Ў МІХЕЛЬСДОРФЕ[144]

Міхельсдорф! Я ўпершыню ўбачыў цябе ўвосень 1946-га, і ты дагэтуль жывеш у маёй памяці.

Мой стрыечны брат Вова, сястра Фаіна і я прыехалі сюды з Тырсгайма, каб працягнуць нашую адукацыю, перапыненую вайной. Ледзь падымаючы туга напханы заплечнік, я выйшаў з цягніка на

---

Маскоўскаму патрыярхату з прычыны рэвалюцыі 1917 г. у Расіі. Створаная ў 1920-я гг., яна аб’ядноўвала шэраг епіскапаў Рускай праваслаўнай царквы, што апынуліся ў эміграцыі і якія не пажадалі падпарадкавацца Часоваму Патрыяршаму Сіноду ў савецкай Маскве. РПЦЗ апекавалася рускімі праваслаўнымі прыходамі на Захадзе незалежна ад Маскоўскага патрыярхату, пакуль у 2007 г. не быў падпісаны Акт аб кананічных зносінах РПЦЗ і РПЦ. На Саборы епіскапаў у Мюнхене 6 мая 1946 г. іерархі БАПЦ на чале з мітрапалітам Панцеляймонам афіцыйна далучыліся да РПЦЗ. Гэта справакавала раскол у шэрагах беларускіх праваслаўных вернікаў на эміграцыі.

[144] Раздзел напісаны пры ўдзеле Уладзіміра Жарскага (Варэн, штат Мічыган).

перон чыгуначнай станцыі ў мястэчку Кам, што знаходзіцца за нейкіх два з паловай кіламетры ад Міхельсдорфа.

Маленькая вёсачка Міхельсдорф, жыхары якой занятыя пераважна ў сельскай гаспадарцы, ляжыць на лёгкім узвышшы над звілістай рачулкай Міхель. На першы пагляд вада ў Міхелі падаецца нерухомай, але месцамі там даволі глыбока. Непадалёк ад Міхельсдорфа Міхель уліваецца ў шырокі і пакручасты Рэген[145]. Рэген цячэ на ўсход праз паўднёвыя ваколіцы Кама і далей да самага Рэгенсбурга[146], дзе ён упадае ў Дунай.

З Кама ў Міхельсдорф вядзе *Michelsdorfer Weg* — Міхельсдорфскі шлях. Дарога віецца па раўніне, якую падчас паводак часта залівае вадой. На паўднёва-ўсходняй ускраіне Кама цераз рэчку Рэген перакінуты мажны бетонны мост у форме лука — адсюль і пачынаецца Міхельсдорфскі шлях. Ужо пад самым Міхельсдорфам шлях праходзіць па яшчэ адным мосце, цяпер ужо цераз Міхель. У гэткі спосаб Міхельсдорф злучаецца з сваім вялікшым суседам — Камам.

У часы, калі я тут жыў, дарога не была забрукаваная. Залежна ад надвор’я яна бывала пыльнай альбо месцамі гразкай. У дадатак дарога капрызліва кружляе па даліне, чым моцна павялічвае дыстанцыю паміж двума населенымі пунктамі. Нецярплівыя падарожнікі накшталт мяне заўсёды шукалі, як бы зрэзаць кавалак шляху. Я знайшоў адну з такіх кароткіх дарог — вузкую і роўную сцяжынку, пратаптаную праз сакаўны луг. Сцяжынка пачыналася досыць далёка на захад ад грунтоўкі і сыходзілася з асноўнай дарогай толькі каля Міхеля. Ад сярэдзіны вясны да сярэдзіны восені хадзіць гэтай сцяжынкай было суцэльнае задавальненне.

За мостам цераз Міхель дарога крута паварочвае налева на ўсход і далей нейкі час ідзе ўздоўж рачулкі. Дабраўшыся да ўсходняй ускраіны вёскі, шлях рэзка забірае ўправа, на поўнач, і цяпер ужо вядзе праз вёску. Ён сканчаецца рэзка і нечакана — за ваколіцай вёскі, дзе ў мае часы стаялі некалькі разнаякасных драўляных баракаў.

Гэтыя баракі былі збудаваныя на ўскрайку вёскі з адмысловай мэтай. Падчас Другой сусветнай вайны тут размяшчалася база самалётаў-перахопнікаў, а ў будынках жылі пілоты і тэхнічны

---

[145] **Рэген** (ням. *Regen*) — рака ў Баварыі, левы прыток Дуная.

[146] **Рэгенсбург** (ням. *Regensburg*) — горад у Германіі, у зямлі Баварыя. У першыя пасляваенныя гады ў яго ваколіцах размяшчаўся адзін з найбуйнейшых лагераў для перамешчаных асобаў. Тут жа ў чэрвені 1945 г. быў створаны Беларускі нацыянальны камітэт.

персанал. Роўныя палі на поўнач ад базы выкарыстоўваліся як узлётна-пасадачныя палосы для самалётаў-знішчальнікаў.

Комплекс будынкаў складалі восем ці, можа, дзесяць вялікіх і доўгіх баракаў. Яны ўсе стаялі паралельна адзін аднаму і мелі ўваходы з абодвух канцоў. Праз увесь будынак, ад увахода да выхада, пралягаў шырокі калідор; направа і налева ад калідора размяшчаліся дастаткова вялікія пакоі. Менавіта ў гэтых бараках жылі беларусы-«дыпісы» — жыхары міхельсдорфскага лагера. Адзінокія асобы мусілі сяліцца па некалькі чалавек у адным пакоі, часам нават сем'і дзялілі пакоі з іншымі сем'ямі. Тады ніхто нават не марыў пра асобныя прасторныя кватэры.

Крыху на поўнач ад вялікіх баракаў, з правага боку, стаяла другая група будынкаў меншага памеру. Кожны з гэтых меншых баракаў меў тры вялікія пакоі, усе з асобнымі ўваходамі. Не дзіўна, што менавіта гэтыя пакоі былі аддадзеныя пад класы Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы і чатырохкласнай пачатковай школы[147].

Яшчэ ў лагеры былі будынкі для розных грамадскіх патрэбаў. Найперш трэба, відаць, назваць вялікую залу для сходаў. Яна стаяла вельмі зручна — якраз насупраць жыллёвых баракаў, упоперак да іх. Гэтая вялікая драўляная пабудова выконвала мноства функцый. Частка залы была прыстасаваная пад сталовую, у канцы якой была сцэна, а за сцэнай — грымёркі. Адпаведна, усе канцэрты і спектаклі адбываліся менавіта ў гэтым памяшканні. Я таксама дэкламаваў вершы з гэтай сцэны, выступаючы перад надзвычай добразычлівай лагернай аўдыторыяй. Школа праводзіла тут свае ўрачыстыя сходы, тут віншавалі выпускнікоў і ўручалі ўзнагароды за поспехі ў вучобе. Жыхары лагера збіраліся ў гэтай зале, каб выбраць органы самакіравання, абмеркаваць надзённыя праблемы ці паспрачацца па гарачых пытаннях.

Два невялікія баракі, што стаялі з заходняга боку лагера, аддзяляла ад астатніх будынкаў паласа апрацаваных палеткаў. Магчыма, гэтыя баракі пабудавалі ў апошнюю чаргу для размяшчэння новапрыбылых, бо ўсе астатнія жылыя памяшканні былі ўжо перанаселеныя. Пакоі ў гэтых двух бараках мелі ўваходы не з агульнага калідора, а знадворку, таму іх жыхарам усе зайздросцілі — тады асобны ўваход лічыўся ледзь не раскошай.

---

[147] **Пачатковая школа ў Міхельсдорфе** пачала працу 1 верасня 1946 г. і мела спачатку тры класы (36 вучняў). У 1947 г. было ўжо 4 класы і 48 вучняў. Дырэктарам школы быў Міхась Міцкевіч, а настаўнікамі Апалонія Савёнак, Марыя Кіпель і інш. Падрабязней гл.: Вініцкі, Алесь. Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Менск, 1994. С. 113–115.

Яшчэ адной з лагерных выгодаў, пра якую я захаваў самыя прыемныя ўспаміны, быў душавы барак. Раз на тыдзень, звычайна ў суботу, я меў магчымасць памыцца пад гарачым душам — вядома ж, не адзін, а ў агульнай лазні, але гэта ўсё адно было выдатна.

Жыхары лагера мелі да сваіх паслугаў і іншыя памяшканні, якія яны выкарыстоўвалі вельмі вынаходліва. Узяць хоць бы велічэзны будынак, у якім праходзілі набажэнствы Беларускай праваслаўнай царквы. Калі меркаваць па шырыні і вышыні будынка, раней у ім рамантавалі самалёты-знішчальнікі, а таксама захоўвалі матэрыялы і абсталяванне. Яшчэ ў час пабудовы гэты ангар быў падзелены на некалькі частак.

І царкоўны, і свецкі хоры праводзілі тут свае рэпетыцыі. Адну з секцый будынка энтузіясты фізкультуры і гімнастыкі прыстасавалі пад спартовую залу. З абсталявання тут пераважна былі гімнастычныя снарады — навічкам накшталт мяне займацца на іх было даволі цяжка. Тым не менш я палюбіў спартзалу і часта яе наведваў. Маімі ўлюбёнымі снарадамі сталі турнік і гімнастычныя кольцы. Хоць у мяне і не вельмі атрымлівалася з імі ўпраўляцца, трэніроўкі ў спартовай зале нязменна прыносілі мне радасць.

Яшчэ адна секцыя будынка была аддадзеная пад бібліятэку. На паліцах стаяла зусім няшмат кніг. Але ўсё адно атмасфера бібліятэкі прыемна заспакойвала. Я прыходзіў сюды, каб зрабіць урокі, каб адпачыць і пачытаць у цішы. Менавіта тут я пазнаёміўся з творамі Льва Талстога[148]. Шукаючы, што б пачытаць, я натрапіў на тоўсты том «Севастопальскіх аповедаў» — серыю гісторый, што расказвалі пра абарону Севастопаля падчас Крымскай вайны. Мяне вельмі захапілі апавяданні, і я прачытаў кнігу ад коркі да коркі. Кніга была на рускай мове — мове арыгінала. Але я дастаткова добра ведаў рускую, каб атрымліваць асалоду ад чытання. (Усе астатнія творы Талстога, пераважна яго раманы, я прачытаў значна пазней і па-англійску — калі вучыўся ва Уэйнскім універсітэце штата Мічыган у Дэтройце. Мой улюбёны раман Талстога — гэта «Ганна Карэніна». «Вайну і мір» было чытаць цяжкавата, але я ўсё ж такі адолеў і гэты раман, чым потым быў вельмі задаволены.)

З іншых рускіх празаікаў я палюбіў Дастаеўскага[149], і ён стаў, без сумневу, маім самым улюбёным рускім пісьменнікам. Я прачытаў, відаць, большасць яго раманаў, калі не ўсе. Чытаў я іх у англійскіх

[148] **Леў Талстой** (1828–1910) — рускі пісьменнік, мысляр, публіцыст.

[149] **Фёдар Дастаеўскі** (1821–1881) — рускі пісьменнік, філосаф, публіцыст.

перакладах, у канцы 1950-х альбо ў першай палове 1960-х гадоў. Чытаў — і не мог адарвацца, так яны мне падабаліся.

Былі і іншыя рускія пісьменнікі, чыёй творчасцю я захапляўся. Напрыклад, Мікалай Васільевіч Гогаль[150] альбо Міхаіл Лермантаў[151], чый раман «Герой нашага часу» дагэтуль абуджае цьмяныя ўспаміны (гэты раман я чытаў на мове арыгінала, калі браў курс рускай мовы ва Уэйнскім універсітэце).

Што да рускіх паэтаў, дык за выключэннем Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна[152], я звяртаў на іх мала ўвагі. У паэзіі мяне заўсёды найбольш вабілі беларускія аўтары, перш за ўсё Янка Купала[153] і Якуб Колас[154]. Вельмі падабаліся мне вершы Максіма Багдановіча[155]. І безумоўна, я з захапленнем чытаў паэтычныя творы Наталлі Арсенневай[156] і Ма-

---

[150] **Мікалай Гогаль** (1809–1852) — рускі і ўкраінскі пісьменнік, драматург, паэт.

[151] **Міхаіл Лермантаў** (1814–1841) — рускі паэт, празаік, драматург.

[152] **Аляксандр Пушкін** (1799–1837) — рускі паэт, драматург, празаік.

[153] **Янка Купала** (сапр. **Іван Луцэвіч**, 1882–1942) — паэт, драматург, публіцыст, перакладчык, класік беларускай літаратуры, народны паэт Беларусі.

[154] **Якуб Колас** (сапр. **Канстацін Міцкевіч**, 1882–1956) — паэт, празаік, драматург, крытык, публіцыст, класік беларускай літаратуры, народны паэт Беларусі.

[155] **Максім Багдановіч** (1891–1917) — паэт, публіцыст, літаратуразнаўца, класік беларускай літаратуры.

[156] **Наталля Арсеннева** (у шлюбе **Кушаль**, 20.09.1903, Баку, Азербайджан — 25.07.1997, Рочэстэр, ЗША) — паэтка, грамадская дзеячка, жонка Ф. Кушаля. Нарадзілася ў рускай дваранскай сям'і. Ад 1905 г., за выняткам 1915–1919 гг., жыла ў Вільні. Закончыла Віленскую беларускую гімназію. У 1922 г. узяла шлюб з вайсковым дзеячам Францам Кушалем. Жыла ў Польшчы. У 1940–1941 гг. разам з сынамі Яраславам і Уладзімірам знаходзілася ў высылцы на поўначы Казахстана. У маі 1941 г. атрымала дазвол вярнуцца ў Беларусь. У 1942–1944 гг. працавала ў «Беларускай газеце», перакладала лібрэта для Мінскага гарадскога тэатра. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку была ў Германіі, дзе ўдзельнічала ў беларускім культурным жыцці ў лагерах Ды-Пі, выкладала ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. У 1950 г. пераехала ў ЗША. У 1952–1954 гг. рэдагавала газету «Беларус», потым працавала ў нью-ёркскім офісе Беларускай рэдакцыі Радыё «Свабода». Была сябрам Галоўнай управы Беларуска-Амерыканскага задзіночання, управы БІНіМа. У 1967 г. пасля смерці нявесткі, Наталлі Куліковіч-Кушаль, разам з мужам пераехала да сына Уладзіміра ў Рочэстэр. Аўтарка шэрагу паэтычных зборнікаў, а таксама словаў гімна «Магутны Божа».

сея Сяднёва[157] — тагачасных жыхароў Міхельсдорфскага лагера. Абодва паэты былі вельмі плёнными творцамі, абодва яны занялі выбітнае месца ў беларускай літаратуры. Яны працягвалі пісаць вершы і ў лагеры, і ў пазнейшыя гады, жывучы ў Амерыцы. Іх паэзію я захоўваю глыбока ў сэрцы — настолькі яна натхняльная, прыгожая і памятная.

Бібліятэка была не адзіным месцам, дзе я знаёміўся з паэтычнымі творамі. На ўроках беларускай літаратуры, якую выкладала Наталля Орса[158], мы падрабязна вывучалі вялікую паэму «Новая зямля» Якуба Коласа. Гэтая паэма, даўжынёй больш за 140 старонак, расказвае пра штодзённае жыццё звычайных беларусаў на вёсцы. У кнізе шмат чароўных і натхняльных апісанняў прыроды. Мы мусілі завучваць на памяць некаторыя раздзелы з «Новай зямлі». Сёння, на жаль, я не прыгадаю адтуль ні радка. Але ў свой час мне вельмі падабалася дэкламаваць шмат якія ўрыўкі з паэмы.

Калі мы прыехалі ў лагер, мяне і Вову пасялілі ў спальні для вучняў. Яна была абсталяваная шырокімі двухпавярховымі ложка-

---

[157] **Масей Сяднёў** (19.08.1913, в. Мокрае Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., сёння Касцюковіцкі раён Магілёўскай вобл. — 05.02.2001, Глен-Коў, Нью-Джэрсі, ЗША) — паэт, празаік. У 1933–1936 гг. вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце. Быў рэпрэсаваны і высланы на Калыму. У 1941 г. вернуты ў Беларусь на перагляд справы. З пачаткам вайны вярнуўся да бацькоў, працаваў на гаспадарцы. У 1943 г. разам з бацькамі выехаў на Захад. Жыў у Беластоку, працаваў у «Новай дарозе», Беларускім камітэце. У 1950 г. выехаў у ЗША. Выкладаў рускую мову ва ўніверсітэце Індыяны. У 1968–1983 гг. працаваў у Беларускай рэдакцыі Радыё «Свабода», быў яе кіраўніком. Аўтар кніг «На край святла» (1947), «Спадзяванні» (1947, 1948), «У акіяне ночы» (1947), «Цень Янкі Купалы» (1947), «Ля ціхай брамы» (1955), «Патушаныя зоры» (1975), «Раман Карзюк» (1985), «І той дзень надышоў» (1987), «А часу больш, чым вечнасць» (1989).

[158] **Наталля Орса** (дзяв. **Сазановіч**, 19.08.1903, в. Сланеўская Воля, сёння Навагрудскі раён Гродзенскай вобл. — 18.01.1990, Нью-Ёрк, ЗША) — грамадская дзеячка, педагог, жонка А. Орсы, маці Г. Орсы і А. Орса-Рамана. Закончыла наваградскую гімназію, а ў 1927 г. — Украінскі педагагічны інстытут у Празе. Працавала выхавацелькай дзявочага інтэрнату ў Наваградскай беларускай гімназіі, а таксама выкладала беларускую мову і літаратуру, у тым ліку і ў Наваградскай настаўніцкай семінарыі падчас нямецкай акупацыі. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Выкладала ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Германіі. У 1949 г. выехала ў ЗША. Жыла ў Нью-Ёрку. Выкладала ў беларускіх школах. Была сябрам Беларуска-Амерыканскага задзіночання, уваходзіла ва ўправу і кіравала жаночай секцыяй Нью-Ёркскага аддзела арганізацыі.

мі. Тут жылі школьнікі, якія не мелі ў лагеры бацькоў або сваякоў. Вова і я, здаецца, былі наймалодшымі з усіх. За парадкам у інтэрнаце сачылі старэйшыя навучэнцы, і яны вельмі добра спраўляліся з гэтай задачай. Ад усіх патрабавалася быць ахайнымі, бо ў спальным пакоі мы не толькі адпачывалі, але і рабілі ўрокі. Так атрымалася, што інтэрнацкі пакой стаў для мяне і Вовы толькі часовым домам. Неўзабаве пасля нашага прыезду ў лагер нам прапанавалі жыць у сем'ях. Вова перайшоў жыць да Шыбутаў[159], а мяне забрала да сябе сям'я Кіпеляў, якая складалася з трох чалавек — Яўхіма[160], Марыі[161]

---

[159] Маецца на ўвазе сям'я **Хведара Шыбута** (26.06.1901, паводле іншых звестак — 14.04.1900, в. Дунайчыцы, сёння Клецкі раён Мінскай вобл. — 18.12.1990, Норт-Плейт, Нябраска, ЗША) — грамадскі дзеяч. У 1925–1926 гг. быў сябрам Беларускага сялянскага саюза. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у беларускай цывільнай адміністрацыі. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945 г. стаў кіраўніком бацькоўскага камітэта Беларускай гімназіі ў Рэгенсбургу. У 1950 г. прыехаў у ЗША. Пасяліўся ў г. Пуэбла (штат Каларада). Прыхільнік БЦР, прадстаўнік Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі на Каларада.

[160] **Яўхім Кіпель** (12.10.1898, в. Байлюкі Бабруйскага пав., сёння Глускі раён Магілёўскай вобл. — 27.07.1969, Нью-Джэрсі, ЗША) — грамадскі дзеяч, бацька В. Кіпеля, муж М. Кіпель. Падчас Першай сусветнай вайны — паручнік царскай арміі, ваяваў на Румынскім і Паўднёвым франтах. У 1918–1921 гг. — у Чырвонай арміі. Ад 1921 г. жыў у Мінску, быў сябрам Тэрміналагічнай камісіі Наркамата асветы, працаваў у Інстытуце беларускай культуры. Арыштаваны ў 1930 г. па справе Саюза вызвалення Беларусі і высланы на пяць гадоў у Вяцкую вобласць, у 1935 г. арыштаваны паўторна і высланы на Далёкі Усход. У 1942 г. вярнуўся ў Мінск, працаваў у Галоўным школьным інспектарасе, рэдакцыі газеты «Голас вёскі», займаўся падрыхтоўкай падручнікаў. Старшыня Другога Усебеларускага кангрэса. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Германіі, потым у ЗША. Браў удзел у грамадска-палітычным руху, уваходзіў у кіраўніцтва БЦР, рэдагаваў газету «Беларускае слова», быў сябрам Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі. Стварыў Асацыяцыю былых палітвязняў савецкіх лагераў.

[161] **Марыя Кіпель** (дзяв. **Зубкоўская**, 14.01.1904, Мінск — 14.12.1992, Нью-Джэрсі, ЗША) — грамадская дзяячка, жонка Я. Кіпеля, маці В. Кіпеля. У 1927–1931 гг. вучылася на літаратурна-лінгвістычным факультэце Беларускага дзяржаўнага вышэйшага педагагічнага інстытута. У 1933–1942 гг. жыла ў Расіі, куды паехала следам за асуджаным мужам. Працавала настаўніцай. У 1942 г. вярнулася з мужам і сынам у Мінск, адкуль у 1944 г. выехала ў Германію. Пасля Другой сусветнай вайны працавала настаўніцай у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхельсдорфе. У 1949 г. выехала ЗША. Жыла з мужам у Нью-Джэрсі.

і іх сына Вітаўта[162]. Марыя Кіпель выкладала ў школе беларускую мову і літаратуру. Вітаўт вучыўся ў старэйшым класе гімназіі і быў лідарам беларускага скаўцкага руху.

Сям'я Кіпеляў дзяліла параўнальна вялікі пакой з іншай жанчынай і яе маленькім сынам, які вучыўся ў пачатковай школе. Пакой быў раздзелены на дзве роўныя часткі перагародкай з палатна і прасцінаў, а ўваход быў агульны. Зразумела, што ў выгараджаных закутках было цесна, для мэблі ўвогуле не заставалася месца. Я спаў наверсе двухпавярховага ложка, і Кіпелі ставіліся да мяне як да члена сям'і.

Жанчына, з якой мы дзялілі пакой, была вельмі мілая. Вось яе сын — той быў гарэза і пракуда, але не са зласлівых шкоднікаў. Праз многа гадоў, жывучы ў Штатах, я з вялікім жалем даведаўся ад Вітаўта Кіпеля, што гэты хлопец памёр недзе ў Каліфорніі ў веку трыццаці чатырох гадоў ад перадазіроўкі какаіну.

Мая сястра Фаіна таксама жыла ў сям'і Ліцягаў (калі я не блытаю прозвішча). У сям'і была дачка Фаініных гадоў, і дзяўчаткі сталі сяброўкамі на ўсё жыццё. На жаль, гэта амаль усё, што я

---

[162] **Вітаўт Кіпель** (нар. 30.05.1927, Мінск) — грамадскі дзеяч, навуковец, даследчык беларускай эміграцыі. У 1933–1942 гг. разам з бацькамі жыў у Расіі. Потым вучыўся ў Мінску, пакуль у 1944 г. не выехаў з бацькамі ў Германію. У 1945–1948 гг. вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, займаўся скаўтынгам. Потым паступіў на медыцынскі факультэт Цюбінгенскага ўніверсітэта, у 1953 г. закончыў Лювенскі ўніверсітэт са спецыяльнасцю геолага, а ў 1955 г. атрымаў ступень доктара мінералогіі. Быў заступнікам старшыні Саюза беларусаў Бельгіі. У 1955 г. пераехаў у ЗША. Працаваў у навукова-вытворчых фірмах, у Балтыморскім універсітэце (штат Мэрыленд). У 1959–1985 гг. — у Даследчым цэнтры навукі і тэхналогіі Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі (у тым ліку на пасадзе выканаўчага дырэктара). У 1962–1963 гг. вучыўся ў Ратгерскім універсітэце (Нью-Джэрсі) па спецыяльнасці бібліятэказнаўства. У 1960–1980-я гг. супрацоўнічаў з Радыё «Свабода». У 1972–1982 гг. — старшыня Федэрацыі беларускіх рэспубліканскіх клубаў. У 1974 г. абраны на старшыню Рэспубліканскай федэрацыі штата Нью-Джэрсі. Заснавальнік і дырэктар беларускіх фестываляў у Нью-Джэрсі (1976–1979). У 1972 г. у Вашынгтоне абраны на намесніка старшыні Нацыянальнай канфедэрацыі амерыканскіх этнічных групаў. У 1975 г. узнагароджаны медалём Паняволеных народаў Эйзенхаўэра. У 1978–1982 гг. — старшыня Этнічнай рады штата Нью-Джэрсі. Ад 1982 г. — старшыня БІНіМа. Аўтар працы «Беларусы ў ЗША» (1993 г.; англамоўнае выданне 1999 г.), шэрагу грунтоўных бібліяграфічных даведнікаў, а таксама дзясяткаў публікацый, у тым ліку артыкулаў беларусазнаўчай тэматыкі ў амерыканскіх энцыклапедыях.

магу расказаць пра прабыванне Фаіны ў Міхельсдорфе — я жыў тады цалкам акунуты ў свой уласны свет.

Апрача ўрокаў у школе было шмат пазакласных заняткаў. Першнаперш, безумоўна, трэба сказаць пра скаўцкі рух. Усіх вучняў, як хлопчыкаў, так і дзяўчатак, настаўнікі заахвочвалі далучыцца да беларускіх скаўтаў. Зрэшты, нікога і не трэба было ўпрошваць: усе дзеці самі вельмі хацелі стаць скаўтамі. Я таксама прылучыўся да скаўтаў і з гонарам насіў скаўцкі значок з беларускай эмблемай паўсюль[163], куды ні ішоў.

Наш вучэбны дзень пачынаўся на досвітку. Ранішнюю цішыню разрываў гук сірэны — сігнал пад'ёму для школьнікаў. Праз некалькі хвілінаў па калідоры барака праходзіў лідар скаўтаў, голасна рэцытуючы: *«Студэнты-гімназісты, пара ўставаць, выходзьце на зарадку!»* Не было часу на раскачку. Я саскокваў з ложка, хуценька нацягваў спартовы строй і бег на спартовую пляцоўку, што знаходзілася побач з футбольным полем. Калі ўсе вучні збіраліся на пляцоўцы, мы рабілі розныя гімнастычныя практыкаванні, у тым ліку адцісканні, потым беглі невялікую дыстанцыю ў калоне адзін за адным. Тэмп задаваў той, хто бег наперадзе. Для мяне бег быў вельмі цяжкім практыкаваннем. У мяне былі слабыя лёгкія, і ўжо на палове дарогі я пачынаў хапаць паветра ротам і задыхацца. Сілаў маіх ледзь-ледзь хапала на тое, каб перакрочыць фінішную лінію.

Агульная для ўсяго лагера прыбіральня і ўмывальнік знаходзіліся ў будынку, які стаяў паміж жыллёвых баракаў. Пасярэдзіне пакоя меўся вялікі ўмывальнік з доўгімі металічнымі ракавінамі з абодвух бакоў. Над умывальнікам праходзіла труба з вадой, а ад яе адыходзілі шматлікія краны. Як мінімум дваццаць чалавек маглі карыстацца ўмывальнікам адначасова. Улетку, узімку, увесну ці ўвосень — вада ва ўмывальніку заўсёды была халодная. Але чалавек умее прывыкаць да нязручнасцяў, калі ведае, што іх немагчыма пазбегнуць. Да таго ж умыванне халоднай вадой бадзёрыла. На шчасце, у тыя часы мне яшчэ не трэба было галіцца. Старэйшыя хлопцы і мужчыны мусілі грэць ваду на галенне ў маленькіх перасоўных электрычных кацялках. У задняй частцы будынка размяшчалася ўласна прыбіральня. Жаночая прыбіральня і ўмывальнік знаходзіліся ў тым самым будынку, у другой яго палове. Была і яшчэ адна прыбіральня зусім простай канструкцыі, якая стаяла з усходняга боку лагера. Гэта быў барак, перагароджаны пасярэдзіне на мужчынскую і жаночую паловы. У кожнай палавіне было шмат

---

[163] Беларускі скаўцкі значок уяўляў з сябе выяву традыцыйнай скаўцкай лілii з надпісам «Напагатове».

асобных кабінак з дзвярыма. Трэцяя, самая маленькая прыбіральня, стаяла пад паветкай на заходнім баку лагера. Для школьнікаў, у тым ліку і для мяне, яна была сапраўдным выратаваннем, бо знаходзілася непадалёк ад школьных будынкаў.

Вымыты і апрануты, я спяшаўся ў сталовую, дзе ўжо стаяла чарга іншых вучняў. Чарга рухалася хутка, і неўзабаве кухар працягваў мне сняданак на алюмініевай талерцы. На сняданак звычайна была каша. На абед і вячэру ў вялікіх колькасцях ужывалася кукуруза. Колькі разоў я марыў пра тое, каб у нашых стравах было менш кукурузы і больш пярлоўкі! Порцыі былі сціплыя, цяперашнія гіганцкія талеркі з ежай тады і блізка ніхто не мог уявіць. Але мы і не наракалі на памер порцый, бо ежа, прызнацца, не была такая ўжо смачная.

Для нас, гімназістаў, урокі пачыналіся а восьмай раніцы і працягваліся да гадзіны дня. Потым класы займалі вучні пачатковай школы (з першага па чацвёрты класы). Школьных памяшканняў было значна менш, чым дзяцей у лагеры, таму даводзілася вучыцца ў дзве змены.

Урокі былі рознай даўжыні — ад сарака пяці да пяцідзесяці хвілінаў, з перапынкамі паміж імі. Часу на самападрыхтоўку ў ранішнім школьным раскладзе не было, урокі ішлі чарадой адзін за адным. Мы вучыліся ад панядзелка да суботы, з адным выходным днём на тыдзень.

Падручнікаў было вельмі мала, і іх не выдавалі школьнікам на рукі. Толькі настаўнікі мелі падручнікі, а школьнікам даводзілася абыходзіцца копіямі, зробленымі на мімеографе[164]. Добра разумеючы цяжкасці навучання без падручнікаў, настаўнікі вельмі добра і падрабязна тлумачылі новы матэрыял, а таксама шматкроць паўтаралі пройдзеныя тэмы — вяртаючыся назад кожнага разу, як толькі заўважалі прыкметы разгубленасці на твары каго-небудзь з вучняў. Як я здагадваюся, нашыя настаўнікі ставілі сабе задачай не пакінуць ніводнага вучня ззаду. Такая стратэгія, безумоўна, давала плён. Я вельмі стараўся не адстаць і падрабязна канспектаваў усе лекцыі ў сваім школьным сшытку.

Адукацыйны ўзровень гімназіі цалкам адпавядаў узроўню тыповай нямецкай школы, якая рыхтавала вучняў для паступлення ва ўніверсітэт (Міністэрства адукацыі Баварыі ўстанавіла для ўсіх

---

[164] **Мімеограф** (або рататар) — вынайдзеная Томасам Эдысанам машына трафарэтнага друку, прызначаная для аператыўнага памнажэння кнігі невялікім накладам. У паваеннай Германіі часта выкарыстоўвалася ў лагерах перамешчаных асобаў для выдавецкіх справаў.

школаў на сваёй тэрыторыі аднолькавыя стандарты). Беларуская гімназія імя Янкі Купалы выдатна спраўлялася са сваёй задачай: яе выпускнікі без цяжкасцяў паступалі ва ўніверсітэты Германіі[165] і іншых краінаў Заходняй Еўропы.

У 1946-м, маім першым гімназічным годзе, школьны тыдзень складаўся з 30 урокаў. На другі (і апошні) школьны год нагрузка вырасла да 33 урокаў на тыдзень — за кошт таго, што да праграмы дадалася французская мова. Рэлігія займала дзве гадзіны на тыдзень, беларуская мова і літаратура — 6, англійская мова — 3, нямецкая мова — 3, гісторыя — 3, геаграфія — 2, біялогія і навукі аб прыродзе — 3, матэматыка — 5, маляванне — 1, спевы — 1, фізкультура — 1, французская мова — 3. Калі б я застаўся ў школе яшчэ на год, я мусіў бы дадаткова вывучаць фізіку і латынь.

Рэлігію ў нас выкладалі праваслаўныя святары. Адначасова яны забяспечвалі патрэбы праваслаўных парафіянаў, а менавіта праводзілі цырымоніі шлюбаў, хрысцілі дзяцей і, безумоўна, адпраўлялі набажэнствы ў царкве. Урокі па рэлігіі, наколькі я памятаю, былі цалкам пазбаўленыя індактрынацыі. Гэта не былі звычайныя студыі па вывучэнні Бібліі. Узамен таго мы вывучалі гістарычныя аспекты праваслаўя: яго эвалюцыю, дачыненні з іншымі цэрквамі, яго ўплывовасць і, у прыватнасці, ролю праваслаўя ў жыцці беларускага народа.

Мне вельмі падабаліся ўсе прадметы школьнай праграмы, за выключэннем французскай мовы. Яна падавалася мне непатрэбнай і збыткоўнай. Я не збіраўся жыць у Францыі, таму дзвюх сучасных замежных моваў — нямецкай і англійскай — было, на маю думку, цалкам дастаткова. Але я адчуваў падабенства французскай і беларускай моваў. Абедзве яны вельмі меладычныя і прыемныя для вуха — як быццам журчанне ручая ў лугах. Ні пра нямецкую, ні пра рускую мову такога не скажаш. Тым не менш любой мовай пачынаеш захапляцца пасля таго, як табе робяцца даступнымі яе нюансы. Руская і нямецкая тут не выключэнні. Іх прыгажосць яскрава выяўляецца ў песнях, паэзіі і прозе.

Самым цяжкім прадметам для мяне была матэматыка. На хатнія заданні па матэматыцы я траціў больш часу, чым на ўсе астатнія ўрокі. Задачы, што нам задавалі, былі зусім не з лёгкіх!

---

165 Гімназія імя Янкі Купалы забяспечала добры ўзровень падрыхтоўкі, аднак паступіць у вышэйшыя навучальныя ўстановы перамешчаным асобам было даволі складана. Гл.: Рагуля, Барыс. Беларускае студэнцтва на чужыне. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2006. 188 с.

Нам, гімназістам, вельмі пашанцавала на таленавітых, высокаадукаваных і натхнёных настаўнікаў. Спіс выкладчыкаў, які прыводзіцца ў кнізе Яна Максімюка «Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне 1945–1950 гг.»[166], дапамог мне ўспомніць імёны многіх маіх настаўнікаў. Сярод іх былі: Наталля Орса (беларуская мова і літаратура), Аўген Каханоўскі[167] (беларуская мова і літаратура), Антон Адамовіч[168] (гісторыя),

---

[166] Максімюк, Ян. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне 1945–1950 гг. Нью-Ёрк; Беласток, 1994. 197 с.

[167] **Аўген Каханоўскі** (да эмігр. **Калубовіч**, 05.03.1912, в. Ціхінічы, сёння Рагачоўскі раён Гомельскай вобл. — 25.05.1987, Кліўленд, ЗША) — грамадскі дзеяч, пісьменнік, гісторык. У 1930 г. закончыў Бабчынскі педтэхнікум, быў асуджаны за «беларускі нацыяналізм» і высланы на тры гады ў Сібір. У 1934–1939 гг. выкладаў у Мінску і вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце. Пасля працаваў кансультантам-метадыстам у Наркамасветы БССР. З пачаткам нямецка-савецкай вайны мабілізаваны ў армію, трапіў у нямецкі палон пад Масквой. Вызваліўшыся, жыў у Мінску, кіраваў аддзелам культуры Беларускай цэнтральнай рады, узначальваў Беларускае культурнае згуртаванне. Падчас Другога Усебеларускага кангрэса — аўтар асноўнага даклада «Аб канчальным разрыве Беларусі з Масквой і аб уневажненні маскоўскага голасу ў беларускіх справах», па выніках якога была прынятая рэзалюцыя, якая ў завуаляванай форме абвяшчала незалежнасць Беларусі. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгенсбургу. Ад 1947 г. быў кіраўніком Урада БНР. Ад 1950 г. жыў у ЗША, спачатку ў Нью-Ёрку, а ад сярэдзіны 1950-х гг. — у Кліўлендзе. Быў адным з лідараў беларускага жыцця ў Кліўлендзе. У 1953 г. стаў старшынёй Злучанага беларускага камітэта ў Кліўлендзе, выдаваў яго «Бюлетэнь». Быў сябрам Беларуска-Амерыканскага задзіночання, у 1952–1955 гг. — старшыня Кліўлендскага аддзела арганізацыі. У сярэдзіне 1950-х гг. выйшаў з Рады БНР і БАЗА. Аўтар шэрагу працаў па гісторыі і культуры Беларусі.

[168] **Антон Адамовіч** (26.06.1909, Мінск — 12.06.1998, Нью-Ёрк, ЗША) — грамадскі дзеяч, літаратуразнавец, гісторык, публіцыст, літаратар. Вучыўся ў Беларускім педагагічным тэхнікуме. У 1928 г. паступіў у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Уваходзіў у літаб'яднанне «Узвышша». У 1930 г. арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі» і высланы ў Глазаў, у 1934 г. пераведзены ў Вятку (Кіраў), дзе працаваў у навучальных установах. Арыштаваны паўторна ў 1937 г., вызвалены ў 1938 г., вярнуўся ў Мінск, працаваў у школе, закончыў БДУ. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Мінскай гарадской управе, «Беларускай газеце», галоўным рэдактарам выдавецтва «Менск», уваходзіў у Цэнтральную Раду Беларускай народнай самапомачы,

Мечыслаў Рагажэцкі[169] (матэматыка), Мікола Равенскі[170] (спевы), Мікола Кругловіч (маляванне / выяўленчае мастацтва), айцец Мікалай Лапіцкі (рэлігія / гісторыя), Гіпаліт Паланевіч[171] (геаграфія),

---

выконваў абавязкі рэферэнта па справах прэсы і прапаганды Генеральнага камісарыята Беларусь. Увосень 1943 г. выехаў у Германію. Па вайне працаваў у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгенсбургу, быў адным з заснавальнікаў газеты «Бацькаўшчына», яе рэдактарам. Радны БНР, у розны час уваходзіў ва Урад і Раду БНР. Ад 1949 г. жыў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амерыканскага задзіночання, уваходзіў ва ўправу Нью-Ёркскага аддзела арганізацыі. Займаўся навуковымі даследаваннямі, аўтар вялікай колькасці літаратуразнаўчых працаў. Супрацоўнічаў з Інстытутам вывучэння СССР у Мюнхене. Працаваў на Радыё «Свабода». Адзін з заснавальнікаў БІНіМа.

[169] **Мечыслаў Рагажэцкі** (сапр. **Мікалай Перагуд-Пагарэльскі**, 1894, Случчына — 18.12.1964, Нью-Ёрк, ЗША) — грамадскі дзеяч, педагог. Закончыў матэматычны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта. Працаваў настаўнікам. Падчас нямецкай акупацыі нядоўга працаваў выкладчыкам матэматыкі ў Гандлёвай школе ў Баранавічах. У Германіі выкладаў матэматыку ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. Пазней перабраўся ў ЗША.

[170] **Мікола Равенскі** (05.12.1886, в. Капланцы Ігуменскага пав., сёння Бярэзінскі раён Мінскай вобл. — 09.03.1953, Лювен, Бельгія) — кампазітар, хормайстар. У 1903–1914 гг. — кіраўнік хору пры мужчынскім манастыры ў Мінску. У 1915 г. закончыў рэгенцкія курсы ў Маскве, у 1930 г. — Маскоўскую кансерваторыю. У 1930-я гг. выкладаў у Мінскім музычным тэхнікуме, Беларускай кансерваторыі. У 1938 г. быў выключаны з Саюза кампазітараў. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Чэрвені, быў рэгентам царкоўнага хору. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Працаваў align рознарабочым на тартаку ля Мюнхена. У 1950 г. пераехаў у Лювен (Бельгія), арганізаваў студэнцкі ансамбль пры Лювенскім універсітэце. Аўтар музыкі гімна-малітвы «Магутны Божа» (словы Н. Арсенневай).

[171] **Гіпаліт Паланевіч** (23.07.1907, Міншчына — 24.10.1997, Нью-Ёрк, ЗША) — грамадска-культурны дзеяч, педагог, гісторык. У 1932 г. закончыў Ленінградскі педагагічны інстытут. Быў рэпрэсаваны і ў 1936–1940 гг. адбываў пакаранне ва Ухта-Іжэмскім лагеры (Комі АССР). Пасля вызвалення вярнуўся ў Беларусь і працаваў настаўнікам. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Выкладаў гісторыю ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Германіі, кіраваў тэатральным гуртком. У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. У 1962 г. атрымаў універсітэцкі дыплом у галіне бібліятэказнаўства. Працаваў па спецыяльнасці. Быў стваральнікам газеты «Беларус» разам з М. Кунцэвічам. Сябра Беларуска-Амерыканскага задзіночання, уваходзіў ва ўправу Нью-Ёркскага аддзела арганізацыі. Аўтар шэрагу публікацый па гісторыі Беларусі.

Мікалай Сіцко[172] (англійская мова), Марыя Станкевіч[173] (англійская мова), Наталля Арсеннева (англійская і французская мовы), Іван Муха[174] (фізкультура).

За сваю самаадданую працу настаўнікі атрымлівалі невялікую кампенсацыю спачатку ад *UNRRA*, а потым ад яе наступніка — Міжнароднай арганізацыі ўцекачоў (*IRO*)[175]. Настаўнікам не

---

[172] **Мікалай Сіцько** (1924, Рыга, Латвія — 2008, Нью-Джэрсі, ЗША) — грамадскі дзеяч. Закончыў беларускую пачатковую школу і гімназію ў Рызе. Падчас вайны выехаў у Германію, вучыўся на хімічным факультэце Берлінскага ўніверсітэта. У 1946–1948 гг. выкладаў англійскую мову ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхельсдорфе, працаваў перакладчыкам пры структурах *UNRRA*. Пры канцы 1940-х гг. выехаў у ЗША, пасяліўся ў Саўт-Рыверы. Адзін з актывістаў прыхода Св. Еўфрасінні Полацкай, уваходзіў у царкоўную раду. У 1960–1970-я гг. належаў да ўрада Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі.

[173] **Марыя Станкевіч** (дзяв. **Новак**; 20.10.1900, в. Чэскі Брод, сёння Чэхія — 05.05.1983, Нью-Джэрсі, ЗША) — грамадская дзяячка, жонка Я. Станкевіча. У 1922 г. закончыла *Vassar College* ў Нью-Ёрку, потым Карлаў універсітэт у Празе. У 1926 г. разам з мужам пераехала ў Вільню. У 1941–1945 гг. разам з сынамі Вячкам і Юркам жыла ў Празе, пазней у лагерах Ды-Пі ў Германіі. Брала ўдзел у працы розных беларускіх арганізацый, выкладала ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. У 1949 г. пераехала ў ЗША. Была сябрам Беларуска-Амерыканскага задзіночання, некаторы час была кіраўніцай жаночай секцыі Нью-Ёркскага аддзела арганізацыі.

[174] **Іван Муха** (03.12.1912, м. Ахроміевічы Карукоўскага раёна, сёння Чарнігаўская вобласць Украіны — 03.02.1982, Нью-Джэрсі, ЗША) — грамадскі дзеяч. Закончыў сярэднюю школу і тэхнікум. Вучыўся ў настаўніцкім інстытуце ў Нежыне. Працаваў настаўнікам матэматыкі і фізікі. У 1939 г. быў мабілізаваны ў армію, трапіў у танкавую школу ў Гомелі. У 1942–1945 гг. працаваў настаўнікам у Нясвіжскай семінарыі. Двойчы быў арыштаваны, больш як месяц праседзеў у Баранавіцкай турме. Пасля Другой сусветнай вайны апынуўся ў Германіі, у лагерах Ды-Пі ў Розенгайме, Рэгенсбургу, Міхельсдорфе, працаваў настаўнікам матэматыкі і фізкультуры ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. У 1950 г. выехаў у ЗША. Ад часу набыцця адпачынкавага цэнтра «Белэр-Менск» дапамагаў праводзіць спартовыя гульні.

[175] **Міжнародная арганізацыя па справах уцекачоў** (англ. *International Refugee Organization — IRO*) — заснаваная ААН 20 красавіка 1946 г. арганізацыя для дапамогі ўцекачам, якія з'явіліся ў выніку Другой сусветнай вайны. *IRO* стала пераемніцай *UNRRA* і апекавалася выездам Ды-Пі на сталае месца жыхарства з Германіі і Аўстрыі ў іншыя краіны.

плацілі грошай за працу, ім выдавалі амерыканскія цыгарэты[176]. Аплата была чыста сімвалічная. Настаўнік, у класе якога было 20 вучняў, мог атрымаць два пачкі амерыканскіх цыгарэтаў на тыдзень. Гэта было б яшчэ не так кепска. Але ж у нашай гімназіі здараліся часы, калі на штат у дваццаць настаўнікаў прыпадала ўсяго 100–110 вучняў. На шчасце, *IRO* не прытрымлівалася строга сваёй жа ўстаноўленай квоты, і цыгарэтаў настаўнікам перападала больш, чым ім належала па норме.

Не думаю, што хоць адзін з настаўнікаў нашай гімназіі курыў. Курыць цыгарэты ў тыя часы было б чыстай раскошай, калі не марнаваннем каштоўных рэсурсаў.

Сёння, у час масавых кампаній па барацьбе з курэннем, сёй-той можа запытацца: а чаму наагул у якасці аплаты за працу выкарыстоўваліся цыгарэты??? Адказ вельмі просты. У першыя гады пасля заканчэння Другой сусветнай вайны такія прадукты, як цыгарэты, шакалад і натуральная кава, вельмі высока цаніліся сярод немцаў. У абмен на гэтыя тавары чалавек мог набыць рэчы, якія адсутнічалі ў адкрытым продажы. Такія былі тады часы.

Мне таксама раз-пораз усміхалася ўдача. Хоць і рэдка, але і я атрымліваў цыгарэты — цэлы пачак за раз! Не маю ўяўлення, ці гэта быў такі дадатковы паёк для вучняў, якія жылі асобна ад сем’яў, ці проста час ад часу цыгарэты распаўсюджваліся сярод усіх жыхароў лагера. Наагул, дзейнасць лагернай адміністрацыі ў Міхельсдорфе[177] зрабіла на мяне самае станоўчае ўражанне. Кіраўнікі лагера былі сумленныя, самаадданыя, яны насамрэч клапаціліся пра людзей, і ў іх асяроддзі не было і следу карупцыі. Яны вельмі добра спраўляліся са сваімі абавязкамі.

Яшчэ з часоў Тырсгайма я засвоіў, што амерыканскія цыгарэты з’яўляюцца вельмі каштоўным таварам. У Міхельсдорфе я прымяніў гэты досвед на практыцы. У Каме, да якога з Міхельсдорфа можна было лёгка дайсці пешкі, быў адзіны на ўсю ваколіцу кінатэатр. За гадзіну ці дзве да сеанса перад акенцам касы выстройваліся даўжэзныя чэргі. Калі-некалі адзіным вынікам стаяння ў чарзе

[176] Паводле захаваных у фондзе БІНіМа ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ведамасцяў гімназіі за 1949 г., настаўнікі атрымоўвалі заробак часткова грашыма, а часткова цыгарэтамі. Так, прыкладам, за верасень 1949 г. кожны настаўнік атрымаў па 44 цыгарэты. Грашовая частка заробку залежыла ад працоўнай нагрузкі. Так, напрыклад, Аўген Кахаnоўскі атрымаў 121,45 марак, а Мікола Равенскі — 160, 95 марак.

[177] Камендантам лагера ў Міхельсдорфе быў грамадскі дзеяч Барыс Шчорс (1916–1975).

была абвестка, што ўсе білеты прададзеныя. І вось тут выручалі цыгарэты. Калі народ з чаргі пачынаў разыходзіцца, я падыходзіў да акенца і непрыкметна перадаваў касіру пару цыгарэтаў. Імгненна знаходзіліся білеты на сеанс, за якія я плаціў легальнай нямецкай валютай — дойчмаркамі. Іншым разам цыгарэты дапамаглі мне набыць хлеб без прадуктовай карткі. Я сказаў прадаўцу пякарні ў Каме, што хацеў бы купіць трохі хлеба і працягнуў яму тры цыгарэты. Ён загарнуў у паперу два боханы, і я заплаціў за іх папяровымі грашамі, у якіх мы не мелі недахопу.

Паколькі я жыў далёка ад маёй цёткі Тоні, я мусіў адшукаць кагосьці, хто б мыў мне бялізну. Мне пашчасціла знайсці ў вёсцы Міхельсдорф адну вельмі мілую жанчыну, якая ахвотна пагадзілася праць мае рэчы. Бруднае адзенне вярталася назад да мяне чыста вымытым, адпрасаваным і ахайна складзеным, бялізна мела прыемны свежы пах. З гэтай немкай я таксама разлічваўся цыгарэтамі за яе працу.

Нехта будзе здзіўляцца: а чаму немцы так улягалі за цыгарэтамі ў першыя паваенныя гады? Мала каму вядома, што кампаніі па барацьбе з курэннем[178] маюць свае вытокі ў нацысцкай Германіі. Курэнне вельмі моцна не ўхвалялася ўрадам і магло быць забароненае ў грамадскіх будынках. Адольф Гітлер упарта рэалізоўваў сваю мару: немцы павінны дамінаваць над астатнімі расамі і народамі. Каб дасягнуць такой амбітнай мэты, фюрэру для ягонай ваеннай машыны патрабаваўся запас здаровых маладых людзей. Кампанія супраць курэння працягвалася ў Германіі да самага канца Другой сусветнай. Не дзіва, што калі з курэння быў зняты кляйнот, доўга прыгнятанае жаданне паліцьператварылася для некаторых курыльшчыкаў у нясцерпную прагу. Нарэшце забаронены плод перастаў быць забароненым…

Перад намі, вучнямі, не паўставала праблемы, чым заняць сябе пасля ўрокаў апрача хатніх заданняў. Мы мелі дастаткова шырокі выбар пазашкольных заняткаў, якія спансараваліся школай. Для тых, хто хацеў прысвяціць свой вольны час спевам, танцам альбо тэатру, Наталля Арсеннева пісала дыялогі і п’есы, а таксама

[178] Барацьба з курэннем упершыню атрымала дзяржаўную падтрымку менавіта ў нацысцкай Германіі. Антытытунёвая кампанія была часткаю дзяржаўнай палітыкі Адольфа Гітлера і складалася з адмысловай прапаганды, скарачэння магчымасцяў рэкламы тытунёвых вырабаў, абмежавання курэння ў рэстарацыях і кавярнях, асуджэння жаночага курэння. Асабліва актывізавалася кампанія з пачаткам Другой сусветнай вайны, вынікам чаго сапраўды стала скарачэнне курэння, асабліва ў асяроддзі вайскоўцаў.

ажыццяўляла рэжысуру спектакляў. Што ж да музыкі, дык у нас было аж два сваіх кампазітары — Мікола Куліковіч-Шчаглоў[179] і Мікола Равенскі!

Беларусы па прыродзе сваёй — вясёлыя людзі. Яны любяць спяваць. Тут, у лагеры, які знаходзіўся вельмі далёка як ад радзімы, гэтак і ад буйных культурных цэнтраў, моладзь знайшла сабе занятак, каб не нудзіцца па вечарах. Юнакі і дзяўчаты збіраліся на вуліцы і спявалі. Групы спевакоў заўсёды ўтвараліся спантанна. Як толькі пачынала цямнець, на панадворак выходзілі людзі, сыходзіліся разам і заводзілі песню. Пачуўшы спеў, іншыя жыхары лагера таксама выходзілі з баракаў у вечаровую прахалоду. Некаторыя з іх далучаліся да спевакоў, іншыя — да слухачоў. Наваколле напаўнялася гукамі і мелодыямі беларускіх народных песняў. Мой стрыечны брат Вова спяваў шмат і з ахвотай. Зрэдку і я падцягваў нейкую песню, але часцей заставаўся слухачом — з увагі на адсутнасць музычных здольнасцяў.

Школьнікі, якія любілі фізкультуру і спорт, таксама мелі шмат магчымасцяў для гэтых заняткаў. Іван Муха, наш настаўнік фізкультуры, вырашыў збудаваць адкрыты спартыўны комплекс. З дапамогай вучняў старэйшых класаў ён падрыхтаваў бегавую дарожку з разметкай для стометровай дыстанцыі. Для аматараў скачкоў у даўжыню былі зробленыя адмысловыя ямы з пяском. Стаяла некалькі турнікоў. Але найбольш энтузіясты спорту ганарыліся нашым футбольным полем. Неўзабаве ў лагеры з'явілася і свая футбольная каманда, якая называлася «Штурм» і складалася пераважна з гімназістаў. У каманду лагера ўвайшлі самыя лепшыя гульцы.

Ледзь не з першых дзён свайго ўтварэння «Штурм» пачаў перамагаць, гуляючы як з нямецкімі футбалістамі з найбліжэйшых

---

[179] **Мікола Куліковіч** (сапр. **Шчаглоў**, 04.04.1893, Смаленшчына — 31.03.1969, Чыкага, ЗША) — кампазітар, музыка, музыказнаўца, грамадска-культурны дзеяч. Ад 1937 г. працаваў выкладчыкам у Беларускай кансерваторыі. Падчас нямецкай акупацыі кіраваў аркестрам у Мінскім гарадскім тэатры. Аўтар опер «Кацярына» (1939 ці 1941), «Лясное возера» (пастаўлена ў 1942 г.), «Усяслаў Чарадзей» (пастаўлена ў 1943 г.), аперэты «У вырай». Ад студзеня 1944 г. — кіраўнік музычнага аддзела пры БЦР. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Германіі ў 1947 г. арганізаваў Беларускі тэатр эстрады, які гастраляваў па лагерах Ды-Пі. У 1950 г. выехаў у ЗША. Спачатку жыў у Нью-Ёрку, дзе кіраваў хорам. Пазней перабраўся ў Кліўленд, а ад 1959 г. жыў у Чыкага і кіраваў хорам беларускай грэка-каталіцкай царквы Хрыста Збаўцы. Аўтар шэрагу музыказнаўчых публікацый. Сябра БІНіМа.

гарадкоў, так і з камандамі іншых баварскіх лагераў для ўцекачоў, утворанымі з гульцоў розных нацыянальнасцяў. Не дзіва, што футбольная каманда зрабілася гонарам усяго нашага лагера, а яе гульцы ўзвысіліся ледзь не да статусу герояў. Калі нашая каманда нечакана (для немцаў) перамагла ў матчы зборную гімназіі Кама, мясцовае насельніцтва пачало глядзець на беларусаў з Міхельсдорфа з павагай, калі не з захапленнем. Я не прапускаў ніводнай гульні на нашым полі, і ўсе яны мне вельмі падабаліся.

Нельга не сказаць некалькі словаў і пра экскурсіі, якія арганізоўваліся скаўцкімі лідарамі. Было вельмі прыемна і весела на некалькі гадзінаў пакідаць межы лагера. Мы вярталіся назад у той самы дзень, і такія падарожжы ладзіліся вельмі нячаста. Звычайна падчас такіх выцечак мы гулялі ў розныя спаборныя гульні. Адна з паездак запомнілася мне асабліва ярка. Раніца толькі пачыналася, калі я ўжо ехаў на цягніку ў кампаніі іншых скаўтаў. За акном вагона распасціраўся прыгожы вясковы краявід. Я зразумеў, што мы едзем на поўнач, у напрамку Рэгенсбурга. Мэтай нашага падарожжа была зацішная лясістая мясціна — яна мела нейкую гістарычную каштоўнасць. Для нас былі арганізаваныя заняткі ці забавы — не памятаю ўжо якія. Што я памятаю, дык гэта маю першую сустрэчу з Дунаем, які ціхамірна і няспешна нясе свае воды праз сэрца Еўропы на ўсім сваім доўгім шляху да Чорнага мора.

Па абедзе многія з нас захацелі спусціцца з высокага пагорка на бераг Дуная: адныя з цікаўнасці, другія — каб паплаваць у яго спакойнай вадзе. Мяне вабіла і першае, і другое. Дзень выдаўся сонечны і цёплы.

Я надзеў плаўкі, выйшаў на бераг і спыніўся ля самай вады, назіраючы за ракой. Дунай быў шырокі — вельмі шырокі, нашмат шырэйшы, чым я ўяўляў у самых смелых фантазіях! Нягледзячы на бадзёрую плынь, паверхня вады выглядала спакойнай. Абодва берагі былі амаль пляскатыя. Калі я ўвайшоў у ваду, мяне працяла раптоўнае адчуванне: як гэта цудоўна — быць жывым! Я паплыў, стараючыся не заплываць далёка — калі ногі пераставалі намацваць дно, я вяртаўся бліжэй да берага. Раз-пораз я спыняўся, каб адпачыць. Мне вельмі падабалася плаваць. І раптам нечаканае пачуццё экстазу агарнула мяне. На нейкае імгненне я адчуваў сябе так, быццам вось-вось паплыву ў вечнасць. Потым гэтае адчуванне знікла, і я паплыў да берага. Калі мы ўжо рыхтаваліся ісці назад на чыгуначную станцыю, я падумаў: *«Які ж сёння быў выдатны дзень!»*

Калі цяпер я спрабую дакладна прыгадаць, што я адчуваў у той момант, ва мне самі сабой нараджаюцца словы пашаны, якія я не паспеў выказаць тады: Дунай, Дунай, велічны Дунай! На працягу

стагоддзяў і нават тысячагоддзяў ты быў цярплівым сведкам падзей — і твае сакрэты назаўсёды застануцца нерасказанымі!

Усе вялікія рэкі адыгралі значную ролю ў гісторыі, і Дунай не выключэнне. Уздоўж ягоных усходніх берагоў маршавалі рымскія легіянеры. Не здолеўшы скарыць ваяўнічыя германскія плямёны, Рымская імперыя вымушаная была пагадзіцца з тым, каб яе ўсходняя мяжа пралягала па Дунаі[180]. Ужо ў нашыя часы, у XX стагоддзі, адборныя штурмавыя атрады Адольфа Гітлера засведчылі сваю прысутнасць на абодвух берагах Дуная — праўда, ненадоўга. І так яно ёсць. Імперыі прыходзяць і сыходзяць. Ты, вялікі і магутны Дунай, перажываеш іх усе.

Скаўты ўдзельнічалі ў шматлікіх імпрэзах у лагеры і ў Каме. Некаторыя з іх былі чыста беларускія, іншыя — шматнацыянальныя. У такіх выпадках мы мусілі маршаваць арганізаваным строем. На цырымоніі ў Каме мы звычайна ішлі маршавым крокам ад пачатку да канца дарогі. Памятаю адзін з такіх паходаў у Кам, калі мы бралі ўдзел у нейкім міжнацыянальным мерапрыемстве. Калі мы падышлі да моста, што злучаў Кам з далінай, камандзір скаўтаў скамандаваў: *«Усім затрымацца! Праз мост ісці вольным крокам!»* Ён потым растлумачыў нам, што калі калона людзей маршуе праз мост роўным крокам (сінхронна, з адной нагі), мост можа абрынуцца.

Калі мы прыйшлі на месца збору — гарадскую плошчу — мы сталі там, пашыхтаваўшыся ў калоны і шарэнгі. Мы спявалі беларускі нацыянальны гімн. І, безумоўна, мы цярпліва слухалі выступоўцаў. Я памятаю, з трыбуны выступаў айцец Лапіцкі, святар з нашага лагера. У сваёй прамове ён згадаў габрэяў. Замест звычайнага беларускага слова «жыды» (якое некаторыя людзі лічаць абразлівым найменнем для габрэяў) айцец Лапіцкі ўжыў яго рускі эўфемічны эквівалент — «яўрэі».

Скаўты павінны былі прытрымлівацца ўсталяваных нормаў паводзінаў — як у лагеры, так і за яго межамі. Нормай было вітаць салютам лідараў скаўтаў, нават калі сустрэнеш іх па-за лагерам. Я вельмі добра памятаю, як аднойчы я спаткаўся з Вітаўтам Кіпелем, старэйшым скаўцкім лідарам, на сцяжынцы, што вяла з Кама ў Міхельсдорф. Кіпель вяртаўся ў лагер, я ж кіраваўся ў Кам. Мы спыніліся за пару крокаў адзін ад аднаго. Я адсалютаваў, прыклаўшы правую руку да скроні, і выгукнуў «Напагатове!». Вітаўт адказаў мне такім самым салютам.

---

[180] Насамрэч па Дунаі праходзіла частка не ўсходняй, а паўночнай мяжы Рымскай імперыі.

Нельга не ўзгадаць пра рэдкія кулінарныя прыемнасці. Вельмі-вельмі нячаста, але здараліся такія дні, калі кожны жыхар лагера атрымліваў свежавыпечаны бохан белага хлеба — яго прывозілі з мясцовай пякарні. Аднойчы, атрымаўшы свой бохан хлеба, я купіў за пяць марак вэнджанага селядца — не ў краме, а ў гандляра з чорнага рынку, які жыў у адным бараку са мной. Не губляючы часу, я аплёў селядца і ўвесь бохан за адзін прысест.

Калі ж мне хацелася салодкага, я мусіў ісці ў Кам (звычайна з іншымі хлопцамі са школы). Крама, у якую мы кіраваліся, была адзіным гандлёвым пунктам на ўсё наваколле, дзе прадавалася марозіва.

У самім Міхельсдорфе не было прадпрыемстваў гандлю, за адным выключэннем: тут быў шынок, а ў ім ніколі не бракавала піва. Урэшце, піва — амаль сакральны напой для немцаў (гэтаксама, як гарэлка для рускіх). Я заходзіў у гэты шынок аднойчы, калі вяртаўся ў школу пасля летніх вакацый у Тырсгайме. Пасля некалькіх гадзінаў, праведзеных у цягніку, і пасля вандроўкі пад спякотным летнім сонцам ад чыгуначнай станцыі ў Каме да Міхельсдорфа, ды яшчэ з цяжкім заплечнікам на спіне, куфаль або два халоднага піва падаваліся вельмі прывабнымі. Я зазірнуў у шынок, выпіў два куфлі піва з бочкі, яно мяне асвяжыла, і я пайшоў далей у лагер.

Незлічоную колькасць разоў я праходзіў праз вёску Міхельсдорф — ідучы ў Кам або, улетку, на імправізаваны пляж на беразе Рэгена. Я ветліва вітаўся з вяскоўцамі, якіх сустракаў на вуліцы, але не памятаю, каб хоць з кімсьці з іх я вёў больш-менш працяглую размову. Магчыма, адзіным выключэннем была жанчына, якая прала мне бялізну. Але нават ад яе я не даведаўся нічога істотнага ні пра гісторыю гэтай мясцовасці, ні пра яе жыхароў. Усе мае веды былі здабытыя выключна шляхам назірання. Я бачыў жанчын, якія, сабраўшыся вялікай грамадою, выкідалі гной з хлявоў. Паветра напаўнялася характэрным моцным пахам. Часам я думаў: а дзе іх мужчыны? Ці яны ў гэты час працавалі ў полі? Альбо папросту не вярнуліся з вайны?

Вёска Міхельсдорф пазбегла фізічнага разбурэння падчас Другой сусветнай, але цень вайны ўсё адно азмрочыў жыццё вяскоўцаў. На ўскрайку вёскі, метраў за 50 ад дарогі, што вяла да моста, стаяў паўтараметровы драўляны крыж — нагадваючы пра тое, што рука вайны дацягнулася і сюды. Зверху на крыжы вісела нямецкая салдацкая каска, прабітая куляй. Кожны раз, праходзячы побач, я глядзеў на яе. Каска правісела на крыжы даволі доўга, а потым знікла. Я доўга думаў, хто і навошта яе зняў.

На ўсход ад комплексу баракаў, за ўтравелым полем, па якім калісьці пралягалі ўтрамбаваныя ўзлётна-пасадачныя палосы для

самалётаў-перахопнікаў, зелянеў невялікі лясок — купка высокіх соснаў. Пасля капітуляцыі Германіі гэты лясок стаў апошнім прытулкам для пары тузінаў нямецкіх знішчальнікаў. Часткова размантаваныя самалёты і іх дэталі ляжалі паміж дрэваў уроссып.

Шмат каго са школьнікаў, у тым ліку і мяне, самалётныя могілкі прыцягвалі, як магнітам. Я прыходзіў сюды пры кожным зручным выпадку — часам у кампаніі з іншымі, але часцей адзін. Аднойчы я доўга стаяў перад адной з гэтых цудоўных крылатых машынаў, зачараваны яе дасканаласцю. Самалёт быў добра ўзброены кулямётамі: па два на кожным крыле, і яшчэ адна пара, сінхранізаваная так, каб страляць праз прапелер. Я глядзеў і не мог наглядзецца — падышоў бліжэй і дакрануўся да рулі кулямёта, потым залез у кабіну пілота. Я моцна здзівіўся, што ветравое шкло такое тоўстае — не менш за 30 сантыметраў! І тут фантазія захапіла мяне цалкам. Што можа адчуваць чалавек, які стаў лётчыкам-знішчальнікам? Што б адчуваў я сам, калі б і мне давялося ўздымацца над зямлёй на крылах, выпрабоўваючы лёс? Рабіць «бочку», даваць нырца альбо крута ўзлятаць наверх? «Як захапляльна мець такую моц у сваіх руках!» — думаў я.

Лётчыкі, якія лядалі на гэтых самалётах-знішчальніках, мусілі быць з кагорты адважных. Яны былі маладыя і бесклапотныя, яны пагарджалі смерцю і любілі рызыкаваць. Для іх, без сумневу, сапраўдны паветраны бой працягваў заставацца найвялікшай з прыгодаў. Іх авантурны дух не ведаў межаў. А што датычыць небяспекі, неадрыўна звязанай з гэтай прафесіяй, дык лёс кожнага чалавека знаходзіцца ў руках яго анёла-ахоўніка…

Прага вандраванняў вяла мяне ўсё далей: я прайшоў самалётныя могілкі і выйшаў на луг, які распасціраўся далёка наперад. Праз нейкі час я дайшоў да сажалкі, у якой плавала мноства качак. На даляглядзе віднеўся адзінокі фермерскі дом. Я не знайшоў у гэтым краявідзе нічога захапляльнага і вярнуўся назад.

Самым улюбёным маім маршрутам, пасля Кама, зрабіўся імправізаваны пляж на беразе Рэгена. Рака ў гэтым месцы была глыбокая, плынь — павольная. Тут устанавілі трамплін для скачкоў у ваду. І школьнікі, і настаўнікі, і іншыя жыхары лагера — усе вельмі любілі хадзіць на пляж. Калі надыходзілі спякотныя летнія дні, я бавіў на рэчцы амаль увесь свой вольны час. Гэта было здорава!

Некаторыя могуць са мной не пагадзіцца, але я лічу, што былая самалётная база на ўскрайку вёскі Міхельсдорф ідэальна пасавала для размяшчэння ў ёй Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. Тут школьнікі былі адгароджаныя ад спакусаў і вабнотаў гарадскога жыцця, але ў той самы час усе выгоды цывілізацыі, уключаючы

чыгунку, былі для іх лёгка дасягальныя. Таму вучні мелі ўнікальную магчымасць прысвячаць амаль увесь свой час вучобе і іншым карысным заняткам. Мне вельмі пашанцавала, што я патрапіў у такое месца!

Аднойчы, напрыканцы восені ці на самым пачатку зімы 1946 года, наваколле лагера, звычайна ціхамірнае, раптам завіравала ад чалавечай дзейнасці. На краі ляска, дзе ляжалі паламаныя самалёты, адкуль ні вазьміся з'явіліся вайсковыя грузавікі. Не паспелі мы азірнуцца, як на ўзлессі вырас цэлы палатачны гарадок: памяшканні для жытла, кухні, душавыя кабінкі і перасоўныя прыбіральні. Калі будаўніцтва скончылася, у палатачны лагер прывезлі каля шасці з паловай тысячаў габрэяў. Палатачны гарадок было вельмі добра відаць з нашага лагера — усяго некалькі сотняў метраў аддзялялі яго ад нас. Круглыя суткі да яго пад'язджалі і ад'язджалі цыстэрны з вадой. Палатачны лагер прастаяў каля нас нядоўга — можа, тыдняў шэсць. Потым усе яго насельнікі з'ехалі на вайсковых грузавіках — гэтак жа раптоўна, як і з'явіліся. Палаткі згарнулі і таксама звезлі прэч.

Нашымі часовымі суседзямі былі пераважна маладыя мужчыны і жанчыны. Ім удалося перажыць Халакост — нацысцкую праграму, накіраваную на фізічнае знішчэнне габрэяў. Канчатковай мэтай падарожжа маладых габрэяў была Палестына: зямля, з часткі якой неўзабаве паўстане дзяржава Ізраіль[181]. Гэтыя маладыя змагары, загартаваныя жудаснымі выпрабаваннямі, былі гатовыя абараняць ад арабаў-палесцінцаў — калі спатрэбіцца, дык і са зброяй у руках — біблейскую Зямлю Абяцаную, на якой калісьці жылі іх далёкія продкі.

Беларускі лагер уцекачоў у Міхельсдорфе быў бастыёнам беларускай культуры і беларускага патрыятызму ў Заходняй Германіі. На вялікі жаль, беларускім патрыётам вельмі бракавала адзінства і палітычнай згоды: яны ніяк не маглі дамовіцца, якімі шляхамі ісці да сваіх высакародных мэтаў. Недавер і падозранні праціналі беларускую эліту, спараджаючы разлад у беларускай грамадзе — як у Міхельсдорфе, так і ва ўсіх іншых месцах.

Карані разладу раслі з шэрагу разыходжанняў: палітычных, рэлігійных і да пэўнай ступені ідэалагічных. Узніклі дзве фракцыі, якія спаборнічалі адна з адной. Лідары адной з фракцый пачалі

---

[181] Дзяржава Ізраіль была створаная на падставе рэзалюцыі Генеральнай Асамблеі ААН, прынятай 29 лістапада 1947 г. Афіцыйна незалежнасць Ізраіля была абвешчаная 14 мая 1948 г.

называць сябе «крывічамі»[182]. Іх апаненты засталіся верныя прызнанаму гістарычнаму назову свайго народа: «беларусы». І адны, і другія абвінавачвалі сваіх апанентаў у самых цяжкіх грахах. Дайшло да абразаў і знявагаў. «Крывічы» далі сваім супернікам мянушку «зарубежнікі». Гэта быў намёк на тое, што прыхільнікі апазіцыйнай ім фракцыі, пераважна праваслаўныя паводле веравызнання, былі ў сваёй большасці вернікамі Рускай праваслаўнай царквы ў замежжы.

Я ўжо расказваў раней пра тое, што ў 1946 годзе беларускі мітрапаліт Панцеляймон разам з сваімі архіепіскапамі перайшоў пад юрысдыкцыю Рускай праваслаўнай царквы ў замежжы. Менавіта гэты ўчынак і даў падставу «крывічам» менаваць сваіх спаборнікаў «зарубежнікамі». Самі ж «зарубежнікі» працягвалі называць сябе беларусамі. Ганебная мянушка была пазбаўленая якога-кольвечы сэнсу: апаненты «крывічоў» таксама прымалі інтарэсы сваёй радзімы, Беларусі, вельмі блізка да сэрца.

Я не вельмі пэўны, якую ролю адыгрывалі рэлігійныя повязі ў шэрагах «крывічоў». Сярод іх было шмат грэка-католікаў[183], але былі там таксама і праваслаўныя, і рыма-католікі. Грэка-католікі прызнаюць вяршэнства Папы Рымскага, але абрады і літургія ў іх адбываюцца на праваслаўны манер. Грэка-каталіцкія святары маюць права жаніцца перад рукапакладаннем, епіскапы павінны заставацца нежанатымі. Асабіста мне багаслужба ў грэка-каталіцкай царкве падалася практычна ідэнтычнай набажэнству ў праваслаўнай царкве, іконы і алтар таксама выглядалі амаль аднолькава.

Хутчэй за ўсё, фракцыя «крывічоў» паўстала з палітычных прычынаў. Яе лідары спаборнічалі з лідарамі апазіцыйнай фракцыі за вяршэнства: і тыя, і другія прагнулі быць адзінымі «афіцыйнымі» прадстаўнікамі беларусаў-«дыпісаў» у Заходняй Еўропе. Жаданне дасягнуць гэтай мэты набыло надзвычай эксцэнтрычныя формы[184].

Сам тэрмін «крывічы» паходзіць ад назвы племені. На тэрыторыі, якая пазней стала вядомая як Беларусь, у часы сівой даўніны жылі некалькі плямёнаў, і крывічы былі адным з іх. І племя, і ягоная

---

[182] Крывіцкая тэорыя была падтрыманая некаторымі дзеячамі, што ўваходзілі ў кола прыхільнікаў Міколы Абрамчыка і Рады БНР.

[183] Насамрэч, грэка-каталікоў сярод беларускіх эмігрантаў было вельмі няшмат. Затое былі актыўныя каталіцкія святары ўсходняга абраду (прыкладам, а. Леў Гарошка, а. Часлаў Сіповіч і інш.), дзякуючы ахвярнай дзейнасці якіх і засноўваліся адпаведныя беларускія асяродкі ў Еўропе.

[184] Падрабязней пра палітычны раскол у асяроддзі беларускай эміграцыі гл.: Гардзіенка, Н.; Юрэвіч, Л. Рада БНР (1947–1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск: Кнігазбор, 2013. С. 9–23.

назва так і засталіся б набыткам гісторыі (да якой яны правамоцна і належаць), калі б не адзін чалавек: доктар Янка Станкевіч[185]. У 1926 годзе ён абараніў у Карлавым універсітэце ў Празе (Чэхаславакія) доктарскую дысертацыю па славянскіх мовах і гісторыі. З прычынаў, адному яму вядомых, доктар Станкевіч надзвычай захапіўся племем крывічоў. Больш за тое, ён займеў перакананне, што беларусы павінны пачаць называць саміх сябе «крывічамі», а іх краіна, Беларусь, мусіць быць перанайменаваная ў «Крывію»[186].

Вярнуўшыся з Прагі ў Заходнюю Беларусь (якая тады была часткаю Польшчы), д-р Станкевіч узяўся прапагандаваць сваю дзівацкую ідэю з нязгасным запалам. Але выглядае, што да самага канца Другой сусветнай Янку Станкевічу не ўдалося здабыць для сваіх радыкальных фантазій хоць нейкую значную колькасць прыхільнікаў. Надышоў 1945 год. Д-р Станкевіч знаходзіўся тады

---

[185] **Янка Станкевіч** (26.11.1891, в. Арляняты Ашмянскага пав. Віленскай губ., сёння Смаргонскі раён Гродзенскай вобл. — 16.07.1976, Нью-Ёрк, ЗША) — грамадскі дзеяч, мовазнавец, журналіст. Вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі, але быў выключаны за беларускія погляды. На пачатку 1914 г. працаваў у «Нашай ніве», але з пачаткам Першай сусветнай вайны быў мабілізаваны ў царскае войска. У 1917 г. апынуўся ў аўстрыйскім палоне. У 1918–1920 гг. сябра Рады БНР. У 1926 г. закончыў Пражскі Карлаў універсітэт са ступенню доктара славянскага мовазнаўства і гісторыі. Выкладаў беларускую мову ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах Вільні і Варшавы. У 1928–1930 гг. — пасол польскага сейма. Выдаваў часопіс «Родная мова» (1930–1931). У жніўні 1939 г. пасаджаны польскімі ўладамі ў турму. Пазней, ратуючыся ад бальшавікоў, выехаў у Літву, а далей у Германію. Падчас нямецкай акупацыі вярнуўся ў Беларусь. Уваходзіў у склад Цэнтралі Беларускай народнай самапомачы, займаўся адукацыйнымі праектамі (школьніцтва, выдавецтва). У 1944 г. перабраўся да сям'і ў Прагу. У паваеннай Германіі настаўнічаў у беларускіх лагерах Ды-Пі, выкладаў у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. Стварыў Крывіцкае навуковае таварыства імя Пранціша Скарыны. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку, пазней у Нью-Джэрсі. Адзін з заснавальнікаў Беларуска-Амерыканскага задзіночання. Выдаваў часопіс «Веда». Уваходзіў у першы склад рэдкалегіі газеты «Беларус», друкаваўся ў газеце «Бацькаўшчына». Уваходзіў у склад Рады БНР, адкуль быў выключаны ў 1954 г. Аўтар шэрагу навуковых і навукова-папулярных працаў, дзясяткаў артыкулаў, першага поўнага перакладу Бібліі (супольна з М. Гітлінам). Супрацоўнічаў з Інстытутам вывучэння СССР у Мюнхене, пры якім быў выдадзены шэраг ягоных працаў.

[186] Аўтарам ідэі аб тоеснасці Полацкай («крывіцкай») і беларускай дзяржаўнасці быў гісторык і грамадскі дзеяч Вацлаў Ластоўскі (1883–1938). Менавіта яго канцэпцыю развіваў Янка Станкевіч.

ў Рэгенсбургу (Баварыя), у беларускім лагеры для перамешчаных асобаў[187]. Менавіта там ён знайшоў аднадумцаў, якія падтрымалі ягоныя экстраардынарныя пагляды. Гаворка ішла пра невялікую групу палітычна арыентаваных індывідуалаў, якія пачалі называць саміх сябе «крывічамі» і клікаць «Крывіяй» сваю радзіму Беларусь. Не выклікае сумневаў, што гэтыя людзі кіраваліся прыхаванымі матывамі, угрунтаванымі на палітычных амбіцыях.

Відаць, ім падавалася, што змена назову можа паслужыць зручным інструментам у змаганні з канкурэнтамі за лідарства сярод беларускіх Ды-Пі ў Заходняй Германіі. Бо чаго б раптам адукаваныя і разумныя суайчыннікі ўзяліся бараніць такую недарэчную ідэю? Маёй фантазіі не хапае, каб прыдумаць нейкае іншае лагічнае тлумачэнне іхнаму ўчынку[188].

У мяне няма падставаў сумнявацца ў тым, што доктар Янка Станкевіч быў вялікім патрыётам сваёй радзімы. Ён быў дарэшты адданы беларускай справе і прысвяціў ёй усё сваё жыццё — змагаючыся за свае ідэі так, як ён іх разумеў. Ягонае сляпое захапленне «Крывіяй» і «крывічамі» трэба разглядаць як вартую жалю ідыясінкразію[189].

Калі я вучыўся ў школе ў Міхельсдорфе, я амаль не звяртаў увагі на гарачыя спрэчкі паміж дзвюма апазіцыйнымі фракцыямі. Толькі пасля таго, як я выехаў з Міхельсдорфа, праз шмат гадоў, я зразумеў што гэтыя міжусобіцы прывялі да вельмі сур'ёзных наступстваў. (Падрабязны дакументаваны расповед Яна Максімюка пра тыя бурлівыя падзеі ў Міхельсдорфскім лагеры можна знайсці ў кнізе, якую я згадаў вышэй. Кніга Максімюка вельмі дапамагла мне ў працы над гэтым раздзелам.)

6 мая 1948 года ў праваслаўную царкву Св. Юр'я, што знаходзілася ў нашым лагеры, увайшла група скаўтаў. Ішло нядзельнае

---

[187] Беларускі лагер Ды-Пі ў Рэгенсбургу быў заснаваны ў 1945 г. Гэта быў першы беларускі лагер у амерыканскай зоне акупацыі Германіі.

[188] Пасля Другой сусветнай вайны «крывіцкая» ідэя набыла пэўную папулярнасць у сувязі з тым, што заходнія саюзніцкія ўлады і адміністрацыя часта блыталі беларусаў з рускімі праз падабенства назваў. Менавіта, каб больш адмежаваць беларусаў ад усходніх суседзяў і абараніць ад прымусовай рэпатрыяцыі, прапаноўвалася змяніць саманазву на «крывічы». Тым не менш нават у асяроддзі прыхільнікаў Рады БНР «крывіцкая» ідэя не мела адназначнай падтрымкі і на пачатку 1950-х гг. была знятая з парадку дня.

[189] **Ідыясінкразія** (англ. *idiosyncrasy*) — хваравлівая рэакцыя на пэўныя раздражняльнікі. Слова выкарыстоўваецца таксама як сінонім эксцэнтрычнасці, дзівацтва.

набажэнства[190]. Скаўты прынеслі з сабой беларускі сцяг, і ўсе прысутныя з вялікім здзіўленнем пабачылі, што на адным баку бел-чырвона-белага палотнішча было напісана слова «Беларусь», а на другім — «Крывія». Сцяг праілюстраваў глыбіню расколу сярод беларусаў, што жылі ў лагерах для перамешчаных асобаў. Нават скаўты апынуліся ўцягнутымі ў гэтыя разборкі!

Заўважыўшы на сцягу слова «Крывія», парафіяне сарвалі яго з дрэўка, кінулі на падлогу і пачалі таптаць нагамі. Святар Кайка[191], які вёў літургію, вымушаны быў спыніць набажэнства. З крыжам у руцэ ён падышоў да месца, дзе разгаралася бойка, і загадаў лідарам скаўтаў вынесці з царквы сцяг, які абураў людзей. Скаўты падпарадкаваліся загаду.

Узгадваючы сёння тое здарэнне ў царкве, я ўздрыгваю ад болю. Каму ж прыйшла ў галаву такая кашмарная ідэя — ператварыць беларускі сцяг у атрыбут правакацыі, выкарыстаць яго для таго, каб зламаць і сварыць паміж сабой людзей?[192]. Пісаць на нацыянальным сцягу палітычны лозунг адной з фракцый — гэта значыць зневажаць яго. Проста неверагодна, як палітычная заангажаванасць можа часам браць верх над здаровым глуздам.

---

[190] Падзеі адбываліся на свята св. Юр'я, які з'яўляецца апекуноў скаўтаў, і праграма мерапрыемства, у тым ліку і набажэнства з удзелам скаўтаў, была зацверджаная загадзя. Падрабязней пра падзеі можна прачытаць у: Нячуваны зьдзек над нацыянальнымі сьцягамі і скаўцкімі эмблемамі // Бацькаўшчына. 16.05.1948. С. 4; Белямук, Міхась. Свайго лёсу не мінеш. Вільня, 2006. С. 71–74.

[191] **Эмільян (Емяльян) Кайка (Кайко)** (?, Таракань, сёння Іменін Драгічынскага раёна Брэсцкай вобл. — 02.08.1972, Саўт-Рывер, Нью-Джэрсі, ЗША) — праваслаўны святар. Працаваў настаўнікам, быў высвячаны на дыякана, а пазней на святара. У 1936–1942 гг. быў настаяцелем царквы Св. Уладзіміра ў Крупчыцах. Потым нядоўга жыў з сям'ёй у Кобрыне, адкуль выехаў на эміграцыю. У паваеннай Германіі знаходзіўся ў лагеры Ды-Пі ў Міхельсдорфе. У 1950 г. прыбыў у ЗША. Нядоўгі час жыў у Пенсільваніі, а потым пасяліўся ў Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі). Служыў у храме Св. Уладзіміра ў Касвілі (Нью-Джэрсі), царкве Св. Мікалая ў Нью-Ёрку. Пахаваны на могілках манастыра Св. Троіцы ў Джорданвілі.

[192] Наўрад ці можна казаць пра свядомае імкненне скаўтаў да правакацыі. І да таго выпадку, і пасля яго беларускі скаўтынг намагаўся заставацца па-за палітычным падзелам беларускай эміграцыі і захоўваў сваё адзінства.

Я, з свайго боку, ніколі не называў апанентаў «крывічоў», якія самі называлі сябе «беларусамі», ганебнай мянушкай «зарубежнікі», бо мянушку гэтую ім даў не хто іншы, як самі «крывічы».

За апошнія часы многія краіны Азіі змянілі свае назвы. Пасля развалу Савецкага Саюза новапаўсталыя незалежныя рэспублікі вярнулі сабе гістарычныя імёны, абумоўленыя этнічным складам дзяржаваў. Такі самы працэс назіраўся і на Балканах, а канкрэтна ў былой Югаславіі. Чэхаславакія таксама падзялілася на дзве рэспублікі — Чэхію і Славакію. Няцяжка заўважыць, што ўсе назвы новых дзяржаваў паўсталі з назваў адпаведных рэспублік. Ніводная з назваў не была голым плёнам чыёйсьці фантазіі. І я вельмі сумняюся, каб ідэя перайменаваць Злучаныя Штаты Амерыкі ў «Пілігрымію» (ці даць гэтай краіне якое-небудзь іншае імя, якое ўшаноўвала б памяць першых пасяленцаў) хоць калі-небудзь прапагандавалася хоць бы адным з нашых палітыкаў.

З цягам часу канфлікт паміж «крывічамі» і іх антаганістамі дасягнуў крытычнай мяжы. Няма нічога дзіўнага, што і школьныя настаўнікі апынуліся ўблытанымі ў гэтыя разборкі. Навучальны год 1947/48 закончыўся ў напятай палітычнай атмасферы. Неўзабаве Рада лагера і яе адміністрацыя, якая складалася пераважна з прыхільнікаў фракцыі «беларусаў», утварыла Школьны камітэт. 18 мая 1948 г. камітэт выдаў дэкрэт аб вызваленні д-ра Аляксандра Орсы[193] з пасады дырэктара Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. Д-р Аляксандар Орса быў дырэктарам нашай гімназіі на працягу доўгага часу, і ён быў таксама палымяным прыхільнікам палітычных ідэй д-ра Станкевіча.

---

[193] **Аляксандр Орса** (24.07.1896, в. Нягневічы, сёння Навагрудскі раён Гродзенскай вобл. — 02.11.1959, Нью-Ёрк, ЗША) — грамадскі дзеяч, педагог, муж Н. Орсы. У 1913 г. закончыў навааградскае гарадское вучылішча, потым — двухгадовыя настаўніцкія курсы. Мабілізаваны ў царскае войска, закончыў школу прапаршчыкаў і быў накіраваны на фронт. У 1918 г. вярнуўся на радзіму, настаўнічаў. У 1923–1929 гг. вучыўся ў Празе ва Украінскім педагагічным інстытуце, потым у Карлавым універсітэце. Доктар прыродазнаўчых навук. У 1929–1934 гг. выкладаў прыродазнаўства ў Навагрудскай беларускай гімназіі. У 1938 г. разам з сям'ёй прымусова выселены ў этнічную Польшчу, аднак з пачаткам Другой сусветнай вайны вярнуўся ў Беларусь, настаўнічаў, працаваў школьным інспектарам у Навагрудскай акрузе. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Германіі быў дырэктарам Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгенсбургу, Міхельсдорфе. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Працаваў лабарантам у шпіталі. Арганізоўваў першыя беларускія школкі ў ЗША. Адзін з заснавальнікаў Беларуска-Амерыканскага задзіночання і БІНіМа. Старшыня Нью-Ёркскага сектара Рады БНР.

Адзін з настаўнікаў, Мікола Кругловіч, быў прызначаны часовым дырэктарам гімназіі. Вядома ж, д-р Орса і педагогі, якія яго падтрымлівалі, не пагадзіліся з вердыктам Школьнага камітэта. Яны звярнуліся з пратэстамі ў Баварскае аддзяленне *IRO* ў Рэгенсбургу, патрабуючы, каб рашэнне Школьнага камітэта былоануляванае. Аднак іх пратэсты не былі ўзятыя пад увагу (магчыма, адміністрацыя *IRO* кіравалася прынцыпам амерыканскай дэмакратыі, згодна з якім меншасць павінна падпарадкоўвацца рашэнням большасці).

Замест таго 28 верасня 1948 г. *IRO* выдала дырэктыву пра раздзяленне дзвюх варагуючых фракцый. У мемарандуме былі пералічаныя дванаццаць крокаў працэсу сепарацыі і вызначаліся правілы, паводле якіх мусіў адбывацца падзел. Дакумент пастанаўляў, што жыхары Міхельсдорфскага лагера, якія лічылі сябе «крывічамі», будуць перавезеныя ў лагер Віндышбергердорф[194] (гэты лагер знаходзіўся непадалёк ад нас і ён быў пераважна беларускім). Адпаведна, жыхарам Віндышбергердорфа, якія лічылі сябе «беларусамі», будзе прапанавана пераехаць у Міхельсдорф — калі яны самі таго захочуць.

Пераезд адбыўся 3 кастрычніка 1948 г. Восем настаўнікаў вырашылі пераехаць з д-рам Орсам у лагер Віндышбергердорф, чацвёра засталіся на ранейшых пасадах. 55 вучняў пераехалі ў іншы лагер, 60 засталіся ў Міхельсдорфе. Святар Мікалай Лапіцкі стаў новым дырэктарам школы ў Міхельсдорфе. 1948/49 школьны год распачаўся адначасова ў абодвух лагерах. Абедзве школы захавалі сваё ранейшае імя — Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Германіі[195].

Я памятаю айца Лапіцкага як аднаго з найбольш шчырых беларускіх патрыётаў. Ён, без сумневу, аддаў бы сваю душу за беларускую справу. Ягоная вера ў Праваслаўную царкву была непахісная. І ён быў заўзятым ворагам фракцыі «крывічоў».

Мае ўспаміны пра школьныя дні ў Міхельсдорфе выклікаюць самыя цёплыя пачуцці, не азмрочаныя ніякім сумам. Раздзел школы адбыўся ўжо пасля майго ад'езду з Міхельсдорфа. Я не бачыў яго на свае вочы і, адпаведна, не адчуў траўматызму сітуацыі. Цяпер я

---

[194] **Віндышбергердорф** (ням. *Windischbergerdorf*) — вёска за 5–6 км ад горада Кам у Баварыі, дзе ў 1947 г. быў створаны беларускі Ды-Пі-лагер з насельніцтвам каля 500 чалавек.

[195] Падрабязней пра падзеі падзелу гімназіі гл.: Максімюк, Ян. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне 1945–1950 гг. Нью-Ёрк — Беласток, 1994. С. 95–99.

разглядаю тыя падзеі проста як факт гісторыі (безумоўна, я вельмі хацеў бы, каб гэтага раз'яднання не адбылося!).

Я назаўсёды ўдзячны ўсім маім былым настаўнікам у Міхельсдорфе, незалежна ад іх палітычнай арыентацыі — і «крывічам», і «беларусам». Іх самаахвярнасць, адданасць сваёй справе і гатоўнасць зрабіць усё дзеля школьнікаў сталі легендарнымі. Такімі яны і былі насамрэч — гэта я магу засведчыць.

У Міхельсдорфе ў мяне не было рамантычных дачыненняў ні з адной з дзяўчатак у школе. Мне нават і думак такіх не прыходзіла. Мае інтарэсы і энергія былі скіраваныя ў іншыя бакі. Сяброўства? Так, я меў шмат прыяцелеў у школе, хоць большасць з іх не былі маімі блізкімі сябрамі, і нашае сяброўства спынілася пасля майго ад'езду. Тым не менш успаміны пра школу жывыя ва мне і да сёння.

Адзін даволі блізкі сябар у мяне тады быў, хоць ягонае імя даўно выпарылася з памяці. Перад праваслаўным Вялікаднем ён і я падахвоціліся наламаць галінак вярбы на Вербную нядзелю і прынесці іх у нашу праваслаўную царкву Св. Юр'я. Мы пайшлі на бераг рэчкі, дзе раслі вербы, і вярнуліся назад з ахапкам «коцікаў». Былі і іншыя рэчы, якія мы рабілі разам, і я вельмі цешыўся з нашага сяброўства. Усё выглядала цудоўна. І раптам, у адзін дзень, сяброўства скончылася. Мой сябар учыніў штосьці такое, што абурыла мяне, — альбо зрабіў, альбо сказаў. Абражаны, я назаўсёды абарваў з ім сувязі.

Наколькі я памятаю, мне заўсёды цяжка давалася блізкае сяброўства з хлопчыкамі-раўналеткамі. Калі такое сяброўства пачыналася, яно вельмі хутка і заканчвалася. Прычыны бывалі рознымі. Мой сябар мог, напрыклад, сказаць штосьці, што я палічыў абразлівым. Альбо ён мог зрабіць нешта такое, што мне падавалася бязглуздым і недарэчным, і гэтага было дастаткова, каб я павярнуўся да яго спінай і назаўсёды сышоў. Я ніколі не аднаўляў сяброўства пасля таго, як яно перапынялася.

Разам з тым я нікуды не мог падзецца ад гарманальных усплёскаў падлеткавага веку. Здаралася, што і я выбухаў гневам. Пасля я абдумваў сітуацыю на самоце і разбіраўся з праблемамі самастойна.

Была вясна 1948 года. Школьны год закончыўся. Надышоў сумны дзень развітання з Міхельсдорфам. Раніцай я пакінуў лагер, несучы на спіне заплечнік, а ў руцэ — невялічкую валізу. Кіруючыся на чыгуначную станцыю ў Каме, я прамінуў вёску і выйшаў на мост цераз сонны Міхель. Дайшоўшы да сярэдзіны моста, я спыніўся. На сэрцы было цяжка, грудзі сціскала туга. Я паглядзеў на вёску: яна ляжала зусім блізка, можна было дакінуць каменем. Павярнуўшыся кругом, я абвёў вачамі даліну. Потым паглядзеў на рэчку. Над маім улюбёным Рэгенам вісеў лёгкі туман. Слёзы

напоўнілі мне вочы і пацяклі па шчоках. Я толькі цяпер зразумеў, што бачу гэтыя дарагія для мяне краявіды ў апошні раз у жыцці. Некалькі імгненняў я прастаяў так, а потым павярнуўся тварам на ўсход, паклаў правую руку на сэрца і вымавіў: *«Беларусь, Беларусь! Табе я аддаю ўсяго сябе!»*

*Эдынбург (штат Тэхас)*[196]
*Ліпень 2005 года*

## 15. ПРЫТУЛАК ПРЫН-АМ-ХІМЗЭ[197]

Я і Фаіна не вярнуліся ў беларускую падрыхтоўчую школу ў Міхельсдорфе на 1948/49 навучальны год. Лёс скіраваў нас у іншы бок. Дзядзька Ян і цётка Тоня вырашылі паслаць мяне і маіх сёстраў, Ніну і Фаіну, у дзіцячы дом, якім апекавалася *IRO*. Дзіцячы дом утрымліваўся цалкам на сродкі Злучаных Штатаў Амерыкі. Цётка і дзядзька разважалі вельмі мудра: наш статус сіротаў і знаходжанне ў гэтым прытулку маглі вельмі паскорыць працэс эміграцыі ў ЗША. Цётка Тоня шматкроць нагадвала нам, каб перад выездам у Амерыку мы абавязкова скантакталіся з нашым дзядзькам па бацьку Пятром Шабовічам, які жыў у Лыне (Масачусетс). Дзядзьку Пецю мы звыкла называлі паміж сабой «амерыканскі дзядзька».

Дзядзька Ян загадзя запоўніў патрэбныя паперы і выслаў іх у адміністрацыю дзіцячага дому. Адтуль прыйшоў адказ, што мяне і сёстраў прынялі. Рыхтуючы нас да пераезду ў дзіцячы дом, дзядзька Ян і цётка Тоня надавалі нам безліч самых розных парадаў — пераважна наконт таго, як мы павінны клапаціцца пра сябе. Нарэшце надышоў дзень ад’езду. На досвітку мы былі ўжо апранутыя і гатовыя ехаць. Цётка Тоня зрабіла нам у дарогу бутэрброды. У нас былі таксама і грошы — новенькія дойчмаркі. У той час кожны чалавек мог абмяняць сорак старых рэйхсмарак (якія амаль абясцэніліся) на сорак марак новай валюты[198]. Цётка Тоня і дзядзька Ян правялі нас да чыгуначнай станцыі і дабраславілі перад

---

[196] **Эдынбург** (англ. *Edinburg*) — горад у акрузе Хідальга (*Hidalgo*) штата Тэхас.

[197] **Прын-ам-Хімзэ** (ням. *Prien am Chiemsee*) — камуна ў акрузе Розенгайм у Верхняй Баварыі, на беразе возера Хімзэ, за 16 км на ўсход ад Розенгайма.

[198] 20 чэрвеня 1948 г. у Германіі была праведзеная грашовая рэформа, у выніку якой старыя рэйхсмаркі былі замененыя на нямецкія маркі (*Deutsche Mark*).

пасадкай у вагон. Цётчыны вочы былі поўныя слёз. Так распачаўся новы этап нашых вандраванняў.

Мы прыехалі ў нямецкі горад Прын-ам-Хімзэ ўлетку 1948 года. Прын быў курортным гарадком, які на той момант перажываў часовы заняпад. Сядзібы ўсіх памераў і гатункаў аздаблялі навакольны краявід. У гарадку было мноства гатэляў. Два гатэлі стаялі на самым беразе возера, да іх з гарадка вяла асфальтаваная дарога. На даляглядзе, з боку Аўстрыі, віднеўся горны ланцуг. На вяршынях гораў ляжалі снегавыя шапкі, іх можна было добра разгледзець з самага цэнтра гарадка.

Чатыры з гатэляў, у тым ліку абодва тыя, што на беразе, былі аддадзеныя пад дзіцячы дом, частка персаналу таксама жыла ў іх. Думаю, што гатэлі былі часова рэквізаваныя амерыканскімі акупацыйнымі ўладамі. Ці атрымалі іх уладальнікі хоць нейкую кампенсацыю за арэнду будынкаў? Вельмі хацелася б верыць, што так! У любым выпадку мясцовы турызм тады зусім не існаваў. Немцам заставалася толькі цярпліва чакаць, пакуль здарыцца «эканамічны цуд» і адродзіць да жыцця прыгаслую прагу вандраванняў…

Калі мы прыехалі ў Прын, мяне пасялілі ў двухпавярховым гатэлі, што стаяў насупраць пратэстанцкай царквы. Гэты будынак таксама служыў адміністратыўным цэнтрам усяго дзіцячага дому. У другім гатэлі, чатырохпавярховым, які размяшчаўся на ўзвышшы насупраць чыгуначнай станцыі, жылі большасць хлопцаў-сіротаў і некаторыя старэйшыя дзяўчаты. Той гатэль меў прасторны цяністы дворык, дзе пад дрэвамі стаялі драўляныя сталы і лаўкі.

Большасць дзяўчат жылі ў шматпавярховым гатэлі на беразе возера. У другім гатэлі, што стаяў на ўзбярэжжы (ён называўся *«Strom»*) жылі выключна габрэйскія дзеці-сіроты, большасць з якіх былі дзяўчаткі. «Стром» быў, па-за ўсімі сумневамі, самым прывабным з усіх гатэляў Прына. Гэта быў невысокі будынак, не большы за два паверхі, снежна-белы звонку. Фасад гатэля выходзіў на возера, і ён быў амаль цалкам зроблены са шкла. За шклом адкрываўся прасторны вестыбюль з высокай столлю, што заканчвалася празрыстым купалам — праз яго ў вестыбюль трапляла сонечнае святло. Вестыбюль быў добра ўмэбляваны для адпачынку: там стаялі фатэлі з нахіленымі спінкамі, пры іх маленькія столікі. Але найбольш мяне ўразілі плямістыя пальмы, якія раслі ў кадках у вестыбюлі «Строма». Я ніколі не заходзіў туды ўсярэдзіну, але я шмат разоў і з цікавасцю разглядаў вестыбюль з берага возера. Разам з іншымі выхаванцамі дзіцячага дому мы часта хадзілі на возера загараць і купацца, ныралі з мола ў празрыстую ваду.

Хоць наш новы часовы дом знаходзіўся ў вельмі прыгожай мясціне, у першы ж дзень я перажыў сапраўдны шок. Прычынай шоку

была ежа. Яна была, без перабольшання, жахлівая! Тое, што там далі на абед у першы дзень, было немагчыма есці. Я рабіў гераічныя намаганні з'есці хоць што-небудзь, але ў выніку большасць абеду так і засталася на талерцы. І я быў вельмі ўражаны, што астатнія хлопчыкі вакол мяне проста заглытвалі ежу, іх талеркі пусцелі літаральна за секунды. Каб хоць неяк заглушыць голад, я пачаў есці яблыкі — шмат і штодня. Яблыні раслі ў Прыне паўсюль, так што яблыкамі можна было ласавацца ўволю. Яблыкі я люблю і дагэтуль, але цяпер я купляю іх у супермаркеце…

У двухпавярховым гатэлі я жыў на другім паверсе, дзелячы пакой з двума хлопцамі-палякамі. Хлопцы былі старэйшыя за мяне — ім было гадоў па дваццаць. Магчыма, яны былі братамі. Тыя хлопцы не былі сіротамі — наколькі я разумеў, яны выконвалі нейкую працу ў дзіцячым доме. У вольны час старэйшы з іх займаўся рамонтам радыёпрыёмнікаў, а таксама збіраў розныя прыборы для радыёаматараў. Хлопцы прынялі мяне прыязна, і на працягу ўсяго майго знаходжання ў гэтым доме ў нас былі добрыя адносіны. Размаўлялі мы выключна па-польску. Для мяне гэта была выдатная магчымасць удасканаліць гутарковую польскую мову.

З акна пакоя адкрывалася вельмі прыгожая панарама заснежаных альпійскіх гораў на аўстрыйскім баку мяжы. Гэты велічны краявід назаўсёды застаўся ў маёй памяці. Калі ў 1994 годзе я на кароткі час заязджаў у Прын, я цярпліва глядзеў у напрамку гор, спадзеючыся яшчэ раз пабачыць іх снегавыя вяршыні. Але я не пабачыў нічога, бо горы ахутваў туман (а магчыма, смог). Так шкада!

Дырэктарам дзіцячага дому была жанчына-габрэйка сярэдніх гадоў. Яе кабінет знаходзіўся якраз у тым гатэлі, дзе я жыў, толькі на першым паверсе. Дома, у Злучаных Штатах, нашая дырэктарка ўзначальвала пачатковую школу. Тут, у Прыне, яна з камфортам жыла ў адным з загарадных катэджаў. У яе нават была прыслуга — дзве пакаёўкі, якія рабілі ўсю працу ў доме. Былы баксёр-цяжкавагавік з Венгрыі выконваў абавязкі кухара, шафёра і целаахоўніка. Ён быў высокі і вельмі добра складзены, дружалюбны ў стасунках. Час ад часу я бачыў, як целаахоўнік суправаджаў дырэктарку праз фае да яе кабінета. Яна была пышнай жанчынай вялікіх габарытаў. Увайшоўшы ў фае гатэля, дырэктарка спынялася, разглядалася навокал і прыветна махала дзецям, якія ў гэты час апынуліся непадалёк. У яе прысутнасці я адчуваў сябе вельмі ўтульна.

Паколькі мне асабліва не было чым заняцца, я любіў назіраць за супрацоўнікамі дзіцячага дому, калі яны праходзілі праз фае. Адна з супрацоўніц мне асабліва запомнілася. Высокая і незвычайна стрункая, белакурая, яна шпарка праходзіла па калідоры з кабінета ў кабінет, несучы ў левай руцэ стосік нейкіх папераў, і не звяртала

ніякай увагі на тых, хто трапляўся ёй па дарозе. Яе скура была незвычайнага алебастравага адцення — колеру пялёсткаў лотасу, а твар выпраменьваў усю прыцягальнасць маладосці. Гэтая дзяўчына зрабілася маім захапленнем. Я спрабаваў здагадацца — замужам яна ці не, і калі не, дык ці ёсць у яе каханак? Думкі пра гэтую дзяўчыну паглыналі мяне і часам пераносілі ў свет яркіх фантазій.

Хутка я апынуўся ў палоне яе непераадольных чараў. Я ўяўляў гэтую дзяўчыну ў прасторнай спальні, асветленай толькі свечкамі. Блікі ад свечак дрыжалі на спінцы шырокага раскошнага ложка. У думках я бачыў, як яна падыходзіць да ложка, адзетая толькі ў белую шаўковую начную кашулю даўжынёй да пятак. Празрыстая тканіна кашулі не хавала грацыёзнага руху яе пругкіх клубоў. Потым дзяўчына слізгала пад коўдру, брала кніжку і пачынала чытаць. У фантазіях я бачыў сябе побач з ёй, у тым самым ложку, таксама з кніжкай у руках.

Я быў вельмі цікаўным і няўседлівым падлеткам, і ў Прыне я сутыкнуўся з маёй адвечнай праблемай: як заняць вольны час? У гарадку не было ніводнага кінатэатра. Але там было прыгожае возера, да якога няцяжка было дайсці пешшу. Не прайшло і некалькіх дзён, як я паспеў палюбіць возера і прывязаўся да яго ўсёй душой. Я нават узяў напракат лодку і аб'ехаў частку возера на ёй. Плата за пракат была прымальная: дзве з паловай маркі. Я веславаў у напрамку вострава Герэнінзэль[199], што знаходзіцца прыблізна за паўтара кіламетра ад берага. Падплыўшы бліжэй, я абагнуў востраў на лодцы кругом, не выходзячы на бераг. Хваля, якую падняў кацер з турыстамі, падкінула маю лодку нечакана высока. Мне спадабалася гэтае адчуванне!

Пазней я даведаўся, што на гэтым востраве знаходзіцца адзін з палацаў Людвіга Другога. (Людвіг Другі (1845–1886), таксама вядомы як Шалёны кароль Людвіг, быў каралём Баварыі)[200]. Палац на востраве Герэнінзэль быў сціплай копіяй Версальскага палаца Людовіка XIV[201]; ён наследаваў арыгіналу, але не пераўзышоў яго.

---

[199] **Герэнінзэль** (ням. *Herreninsel*) — найвялікшая з трох выспаў на возеры Хімзэ ў Верхняй Баварыі. Выспа вядомая палацам, а таксама аўгусцінскім кляштарам, дзе ў 1949 г. збіраліся стваральнікі Канстытуцыі ФРГ.

[200] Баварскі кароль **Людвіг II** застаўся ў гісторыі, сярод іншага, і праз будаўніцтва розных палацаў, самым вядомым з якіх стаў знакаміты замак Нойшвайнштайн.

[201] **Людовік XIV** (1638–1715) — французскі кароль, вядомы як «кароль-сонца», караляваў цягам 72 гадоў — найдаўжэй у еўрапейскай гісторыі.

Вядома ж, я пайшоў у палац на экскурсію, якую праводзіў гід. Цьмяна памятаю парк і тэрыторыю, што атачала палац: высаджаныя тэрасамі сады, фантаны, дрэвы — усё цешыла вока і радавала сэрца. Вельмі ўразіла мяне каралеўская зала для парадных прыёмаў. Падчас прыёмаў у жырандолях запальвалася дзесяць тысячаў свечак! Фантастыка, думаў я! А яшчэ маю ўвагу прыцягнула каралеўская ванна — вялізная, пабудаваная прыступкамі, сапраўды раскошная. Футурыстычны маяк для будучых заможных шукальнікаў асалоды?

Вакол возера сфакусавалася ўся мая адпачынкавая актыўнасць. Цёплымі папаулднямі я ляжаў на траве каля гатэля «Стром» і грэўся на сонейку ў кампаніі іншых хлопцаў і дзяўчат майго веку, а таксама старэйшых падлеткаў. Як і астатнія хлопцы і дзяўчаты, я дабіраўся да возера пехатою.

Але як ні прыемна было загараць на сонцы, найбольш мяне вабіла да сябе вада. Стоячы на кароткім насціле з дошак, я бачыў, як у крышталёва чыстай азёрнай вадзе плаваюць рыбы. Я назіраў за імі нейкі час, потым сам даваў нырца ў ваду. Шмат разоў я даплываў да вострава Герэнінзэль — каротка адпачываў там, а потым плыў назад. У тыя дні лодак на возеры было зусім няшмат.

У 1994-м я наведаў месца, дзе я звычайна купаўся падлеткам. Прыбярэжны гатэль стаяў усё там жа — падноўлены і павялічаны ў памерах. На травяністым беразе грэліся на сонцы юнакі і дзяўчаты, некаторыя дзяўчаты загаралі без станікаў. Возера было перапоўненае лодкамі, сярод якіх было мноства яхтаў. Дашчаны насціл быў на месцы, я прагуляўся па ім. Але вада больш не была крышталёва чыстая, яна была крыху мутнаватая. Стоячы на беразе, я ўзгадваў маё ранейшае жыццё ў Прыне. У памяці ўсплыла дзяўчына-ўкраінка, якая жыла ў адным гатэлі са мной. Яе дасканалая фігура вылучала яе сярод іншых дзяўчат. Як і я, дзяўчына любіла плаваць і ныраць у ваду з масткоў. Я проста любаваўся ёю ў тыя хвіліны.

Нашыя дні ў Прыне праходзілі ў адсутнасці хоць бы якіх заняткаў, і трэба было неяк разбіць іх манатоннасць. Прага вандраванняў вяла мяне ў самотныя прагулянкі па лясістых навакольных пагорках. Час ад часу я натрапляў на кусты дзікіх малінаў — тады ў мяне быў пір. Але найважнейшым было тое, што прагулянкі на самоце давалі магчымасць для сузірання і разважання. Сядзець на камені, адгарадзіўшыся ад свету сцяной густога лесу, і слухаць галасы птушак — гэта прыносіла мне такія патрэбныя моманты ціхамірнай светласці.

Без сумневу, мой нядоўгі побыт у гатэлі насупраць царквы быў найбольш спакойным перыядам усяго жыцця ў дзіцячым

доме. Ніхто не турбаваў мяне там. Можна сказаць, што раз-пораз я перажываў там моманты яснасці і супакою. Памятаю, аднойчы я сядзеў у раскладным крэсле каля галоўнага ўвахода ў гатэль, атрымліваў асалоду ад халаднаватага ветрыка і назіраў, як на вуліцы бушуе навальніца, слухаў, як цішу перарываюць частыя раскаты грому. Мне здаецца, гэта быў захапляльны досвед.

Аднак непрыемнасці падпільноўвалі мяне непадалёк. Ззаду нашага гатэля была досыць вялікая пляцоўка, пароспая травой і абнесеная плотам, — яна належала да гатэля. У дальнім канцы яе, блізка да плота, расла яблыня. За плотам ляжаў завулак (ён і цяпер там), а праз дарогу знаходзілася чыясьці агароджаная цяпліца (і яна таксама была на ранейшым месцы, калі я наведаў Прын у 1994 годзе). Прагны да яблыкаў, я шпурляў каменне ў галіны, імкнучыся збіць яблыкі долу. На няшчасце, аднойчы кінуты мной камень паляцеў не ў той бок і разбіў адну са шкляных панэляў цяпліцы. Я засмуціўся хіба што ўласнай нятрапнасцю і не надаў гэтаму здарэнню ніякай увагі. Назаўтра я зноў прыйшоў на тое ж месца па яблыкі. Я кінуў некалькі камянёў у дрэва — гэтым разам цяпліца не пацярпела. І раптам, абсалютна нечакана, праз дзірку ў плоце праціснуўся мужчына сярэдніх гадоў. Ён трымаў у руцэ вялізную драўляную палку і злосна закрычаў на мяне: *«Du verfluchter verrückter Hund!»* (*«Ты пракляты звар'яцелы шчанюк!»*). І тут мужчына рушыў на мяне. Я кінуўся наўцёкі, як бегавы рысак на іпадроме. Дабегшы да гатэля першым, я схаваўся ў ім. Мужчына, які пераследваў мяне, не наважыўся ўвайсці за мной у будынак. Пасля гэтага здарэння я хадзіў па яблыкі ў іншыя месцы…

Маё знаходжанне ў першым гатэлі было нядоўгае. Неўзабаве мяне перавялі ў іншы гатэль, што знаходзіўся каля чыгуначнай станцыі (гэта ніяк не было звязана са згаданым інцыдэнтам з цяпліцай і яблыняй). У адрозненне ад першага гатэля ў гэтым меўся вахцёр, што заўсёды сядзеў за сталом ззаду ад увахода, побач са сходамі (ліфта ў гатэлі не было). Наколькі я памятаю, мой новы дом быў чатырохпавярховым будынкам. Будынак быў перапоўнены дзецьмі і падлеткамі — пераважна хлопцамі, маладзейшымі за 18 гадоў. Жылі тут і некалькі старэйшых юнакоў, але ў іх у прытулку меліся малодшыя браты і сёстры. Мяне пасялілі на другім паверсе, у вялікай спальні, разам з некалькімі іншымі хлопцамі. Мы спалі на двухпавярховых ложках. Хлопцы былі ўкраінцамі, і з усімі імі я таварышаваў. Аднак таварышаванне не было завядзёнкай сярод насельнікаў гатэля. Украінцы варагавалі з сербамі і харватамі. Часам узаемная непрыязнь прыводзіла да кулачных баёў. Памятаю, адзін серб хваліўся, як іх першакласны баец перамог у кулачным

баі ўкраінца, які таксама карыстаўся славай выбітнага байца. На шчасце, бойкі ўсё ж адбываліся нячаста.

Я не памятаю імёнаў ніводнага з хлопцаў, з кім я жыў у першым і другім гатэлях у Прыне, але я памятаю шмат аблiччаў і постацяў. Сярод твараў, якія паўстаюць перад вачыма, быў, напрыклад, сямнаццацігадовы хлопец з вялікай дзіркай у левай вачніцы. Хлопец ахвотна расказваў пра сваё калецтва ўсім, хто хацеў яго слухаць. У апошнія дні вайны яго прызвалі на вайсковую службу і накіравалі ў супрацьпаветраную батарэю. Падчас знаходжання на фронце яму ў вока трапіла куля.

Паколькі я быў інтравертам, я ніколі не расказваў пра сваё мінулае іншым падлеткам у дзіцячым доме. Я трымаў мае ўспаміны глыбока ўнутры сябе, надзейна замкнёнымі на ключ. Але я заўсёды з гатовасцю слухаў іншых, калі ім хацелася падзяліцца са мной сваімі праблемамі і клопатамі.

Адным сонечным днём, калі я ішоў адведаць маіх сёстраў Ніну і Фаіну (яны жылі ў рэзідэнцыі каля возера), да мяне далучыўся спадарожнік — хлопец гадоў шаснаццаці-сямнаццаці. Мы размаўляліся. Хлопец накіроўваўся ў той гатэль, дзе жылі выключна габрэйскія сіроты. З самага пачатку я быў прыемна ўражаны тым, што хлопец размаўляў чыста па-беларуску. Родам ён быў з Беларусі. Хлопец расказаў мне, што мае праблемы са здароўем — арытмію. *«Паслухай, як часта яно б'ецца»*, — прапанаваў ён мне. Я прыклаў правую руку да ягоных грудзей і спалохаўся. Ягонае сэрца калацілася, як апантанае. Хлопец, у сваю чаргу, прыклаў сваю руку да маіх грудзей і таксама быў вельмі ўражаны. *«У цябе наагул амаль не чуваць, як сэрца б'ецца»*, — сказаў ён. Мне вельмі пашанцавала, бо маё сэрца і да гэтых дзён б'ецца амаль бязгучна. Калі мы дайшлі да месца, дзе нашыя дарогі разыходзіліся, я пажадаў гэтаму хлопцу ўсяго найлепшага. Больш мы з ім не бачыліся.

У мяне завязаліся прыяцельскія стасункі з некаторымі ўкраінцамі. Адзін з хлопцаў даваў мне пачытаць кнігі на ўкраінскай мове ў папяровых вокладках. Мне падаліся цікавымі раманы пра запарожскіх казакаў — пра тое, як яны гераічна змагаліся з туркамі і палякамі. Гэты хлопец быў ужо не падлеткам, а дарослым чалавекам — яму было гадоў дваццаць, калі не больш. Ён цягнуўся да ведаў, меў дапытлівы розум і любіў даследаваць новае. Аднойчы ён цалкам нечакана запрасіў мяне на экскурсію ў горы — у Альпы, якія ляжалі зусім недалёка. Безумоўна, я пагадзіўся адразу. Я даўно захапляўся абрысамі велічных горных вяршыняў, якія бачыў пакуль толькі здалёк. Цяпер у мяне будзе магчымасць убачыць іх зблізку! Я не мог дачакацца, калі ж надыдзе запланаваны дзень экскурсіі.

І вось аднаго дня на досвітку пяцёра з нас (чацвёра ўкраінцаў і я) выправіліся пешшу ў горы. У заплечніках мы неслі флягі з вадой, хлеб і сыр. Мы ішлі ўздоўж чыгуначнага шляху. Рэйкі вялі нас скрозь жылую забудову і сельскагаспадарчыя палеткі, мы міналі сады, прысады і сажалкі, пераходзілі дарогі. Каля падножжа гораў чыгунка рабіла паварот. Адтуль мы пайшлі напрасткі праз лугі. На краі зарослага лесам пагорка мы натрапілі на сцяжынку, па якой і пачалі ўздымацца ў горы.

Узыходзячы скрозь лес вышэй і вышэй, мы раптам выйшлі на адкрытую пляцоўку. Там стаяў дом і адрына — абодва будынкі выглядалі досыць старымі. Няма сумневу, гэтую зямлю хтосьці апрацоўваў і цяпер: сеяў і збіраў ураджай, касіў сена. Аднак нідзе не было відаць ані следу людзей або жывёлаў. Мы прайшлі скрозь гэтую дзіўную альпійскую сядзібу не затрымоўваючыся. Час ад часу на пад’ёме мы спыняліся, каб адпачыць. Мяне прыемна ўразіла ўласная вытрымка: я не адчуваў і следу зняможанасці. Мышцы на нагах у мяне не балелі, хіба што дыхаў я крыху часцей, чым звычайна. На ўсім шляху нам не сустрэлася ніводнага чалавека, аж пакуль мы не дабраліся да вяршыні. Толькі час ад часу мы бачылі, як па лясістых горных схілах уцякае алень, спалоханы нашымі крокамі.

Апошняя частка шляху была найбольш цяжкая. Мы выйшлі з лесу на адкрытую камяністую пляцоўку. Перад намі быў круты хрыбет, які вёў на плато. Мы ўзабраліся на хрыбет і выйшлі на плато — фінальны пункт нашага падарожжа. Відовішча, якое адтуль адкрывалася, было неверагоднае. Я стаяў прыгаломшаны, не маючы словаў, гледзячы на прыгожа вытачаныя, пакрытыя снегам горныя вяршыні, якія ляжалі проста перада мной.

На плато нас чакалі прыемныя адкрыцці. Месца было абжытае і добра абсталяванае: тут стаялі гатэль, рэстаран і невялічкі бар. Больш за тое, ва ўсе бакі вялі дагледжаныя пешаходныя дарожкі. Адна з іх рызыкоўна абгінала той край гары, што знаходзіўся насупраць аўстрыйскіх Альпаў. Паўсюль стаялі драўляныя лаўкі з выгодна адкінутымі спінкамі. Некалькі альтанак у цэнтры плато дадавалі ўтульнасці гэтаму горнаму куточку, прызначанаму для адпачынку людзей. Па канатнай дарозе бегаў вагончык, прывозячы сюды турыстаў і служачы яшчэ адной турыстычнай прывабнасцю. Стоячы ў азіноце, я глядзеў на горны ланцуг перада мной, захапляючыся яго незямной грандыёзнасцю. *«Вялікі Бог і велічныя Ягоныя стварэнні!»* — думаў я.

Мы правялі на гэтым плато ладны адрэзак часу і добра адпачылі перад вяртаннем назад. Я купіў сабе марозіва, мае сябры таксама. Спускаліся мы тым самым шляхам, па якім уздымаліся наверх. Дабраўшыся да падножжа гары, мы зноў пайшлі ўздоўж чыгункі,

а калі-некалі і па рэйках. Калі мы ўрэшце дайшлі на нашага гатэля, была ўжо шэрая гадзіна. Усе мы былі вельмі стомленыя, але я быў бясконца задаволены нашай экскурсіяй.

Я зрабіў яшчэ адно падарожжа, значна менш утомнае, — у Мюнхен, на электрычцы. Чыгуначная станцыя знаходзілася праз дарогу — якраз насупраць гатэля, дзе я тады жыў (ды яна і цяпер там). Цягнікі атрымлівалі энергію ад правадоў, нацягнутых над рэйкамі.

Я ехаў у Мюнхен, каб сустрэцца з маёй стрыечнай сястрой Таяй, якая вучылася там на доктара. Яна запрасіла мяне прыехаць адведаць яе, і мне вельмі спадабалася гэтая ідэя, бо я не бачыўся з Таяй ужо некалькі месяцаў. Аднойчы раніцай я сеў на электрычку і паехаў у Мюнхен. Вагон быў чысты, пасажыраў у ім няшмат, месцы для сядзення вельмі зручныя. Седзячы ля акна, я раз-пораз паглядаў на краявіды, што мільгацелі за акном. Я адчуваў сябе вельмі добра, у гармоніі са сваімі пачуццямі.

У Мюнхене я сеў на тралейбус, які давёз мяне да шматкватэрнага будынка, дзе жыла Тая. Яна сустрэла мяне ў рабочым адзенні — апранутая так, як апранаюцца працаўнікі кухні. Таіса сказала, што ўладкавалася на лета ў кавярню, якая абслугоўвае персанал амерыканскай арміі. Увосень Тая мелася аднавіць сваю вучобу ва ўніверсітэце, а на летніх канікулах зарабляла грошы, дапамагаючы кухару.

Мы размаўлялі. Таіса хацела ведаць, як мы жывем, як маюцца мае сёстры, Фаіна і Ніна, ці скардзімся мы на штосьці, ці нам чагосьці бракуе. Я запэўніў Таю, што мы жывем у добрых умовах і што ў дзіцячым доме да нас ставяцца па-чалавечы. Пакуль мы размаўлялі, Тая гатавала абед. Мы паабедалі (пасля кухні дзіцячага дому ежа падалася мне надзвычай смачнай!). Пасля абеду Тая прапанавала мяне сфатаграфаваць. Я выйшаў на балкон, каб кадр атрымаўся прыгажэйшым. Гэтая фатаграфія дагэтуль захоўваецца ў маім альбоме.

Таіса была ў самым росквіце маладосці — прыгожая, як заўсёды. З яе быццам выплёсквалася энергія і ўпэўненасць у сваіх сілах, да таго ж яна была вельмі мілая і шчодрая. Яна вярнула мне грошы, якія я патраціў на дарогу, і яшчэ дала мне грошай з сабой. Нашая сустрэча была кароткая, але памятная. Я вярнуўся ў Прын пад вечар таго самага дня.

Наперадзе мяне чакала яшчэ адна падзея, абсалютна нечаканая і, без перабольшання, найбольш брутальная з усяго майго досведу жыцця ў дзіцячым доме. Гэта здарылася неўзабаве пасля вяртання з Мюнхена. Я ўжо ляжаў у ложку, на другім паверсе — у спальні, якую я дзяліў з некаторымі іншымі хлопцамі. Час быў позні, каля

дзесяці вечара. Я пачаў драмаць. У пакоі было ціха. Раптам хтосьці ўвайшоў у пакой, гучна ляснуўшы дзвярыма. Я павярнуў галаву ў бок дзявярэй. Чалавек падышоў да майго ложка. Я пазнаў яго: гэта быў адзін з працаўнікоў, што абслугоўвалі будынак.

*«Ты пнуў яго нагой!»* — зароў ён на мяне па-польску (маючы на ўвазе, што я пнуў аднаго з меншых хлопчыкаў у інтэрнаце). На твары гэтага чалавека чыталася вар'яцкая сумесь пачуццяў — злосць і нянавісць. Рукі ягоныя былі сціснутыя ў кулакі. Ён ударыў мяне па твары спачатку правай рукой, потым левай. У мяне аж галава падскочыла на падушцы. Я стараўся захінуць галаву і твар рукамі як мог. Чалавек (я думаю, ён быў палякам) ударыў мяне яшчэ некалькі разоў. Потым, наталіўшы сваю звярыную прагу гвалту, гэты вылюдак выйшаў з пакоя.

За ўвесь час экзекуцыі я не вымавіў ні гуку і не заплакаў. Я маўчаў і цярпеў. Дык што я ж я зрабіў, каб справакаваць гэтага нягодніка на падобны ўчынак? Ды нічога абсалютна! Я сапраўды лёгка пнуў пад зад аднаго хлапчука — разбэшчанага назолу, які шпурляў у мяне гразёю. Паколькі словы на яго не дзейнічалі, мне давялося даць яму крыху навукі (так здарылася, што той хлопчык быў палякам).

Я не расказаў пра гэты выпадак нікому, не паскардзіўся адміністрацыі дзіцячага дому, якая знаходзілася за тры-чатыры кварталы ад будынка, дзе я жыў. Больш таго, ані словам, ані шэптам я не паведаміў пра напад нават маім сваякам — аж да хвіліны, калі я пішу гэтыя радкі.

Думаю, што я тады знаходзіўся ў стане абыякавасці да гвалту, выкліканым брутальнасцю часоў. За гады вайны мне столькі разоў даводзілася назіраць гвалт і злачынствы, што я, відаць, зрабіўся глухім і неадчувальным да іх.

Летнія дні прамінулі занадта хутка і засталіся толькі ва ўспамінах. Адчуўся подых восені. Халодныя вятры, частыя дажджы, зацягнутае хмарамі неба рэзка скарацілі час, які я бавіў на вуліцы. Мне ніколі не падабалася восень. З надыходам гэтай пары года я ўсё больш і больш часу праводзіў у памяшканні, чытаючы кнігі. Раптам у сярэдзіне лістапада нам сказалі, што дзіцячы дом у Прыне будуць пераводзіць у Бад-Айблінг[202], дзе яго аб'ядналюць з іншым дзіцячым прытулкам. Неўзабаве стала вядомая і дакладная дата пераезду. Гэтая падзея дазволіла мне зарабіць крыху грошай.

---

[202] **Бад-Айблінг** (ням. *Bad Aibling*) — курортнае мястэчка ў раёне Розенгайм у Верхняй Баварыі. Знаходзіцца на вышыні каля 500 м над узроўнем мора.

У адрозненне ад нас, хлопцаў, дзяўчаты, якія жылі ў гатэлі каля возера, спалі на сапраўдных ложках з пружыннымі матрацамі. Мне прыйшла ў галаву неблагая ідэя: прадаць матрацы з ложкаў, на якіх спалі мае сёстры, каму-небудзь з мясцовых жыхароў. Я запытаўся ў сёстраў, ці пагадзіліся б яны паспаць некалькі начэй без матрацаў, на голых ложках, і сёстры адразу пагадзіліся.

Я надумаў прапанаваць матрацы адной знаёмай немцы. Яна з двума малымі дзецьмі жыла ў сціплай кватэрцы непадалёк ад нашага гатэля. Магчыма, яна была ўдавой якога-небудзь нямецкага салдата, што загінуў на вайне. Раней я ўжо прадаў ёй два швэдры для яе хлопцаў. Да маёй радасці, жанчына ахвотна пагадзілася купіць у мяне два матрацы.

У адзіночку перанесці два матрацы было немагчыма, і я папрасіў аднаго знаёмага беларуса дапамагчы мне ў гэтай прыгодзе. З гэтым хлопцам я звёў знаёмства раней. У яго была кепская звычка — ён любіў маніць. Але я ладзіў з ім досыць добра. У яго быў мяккі характар, і гэтым ён мне падабаўся.

На самым пярэдадні нашага ад’езду з Прына мой напарнік і я прыйшлі позна ўвечары да гатэля на беразе возера, каб забраць матрацы. Асцярожна прабіраючыся па калідоры, мы змаглі вынесці матрацы з будынка так, што нас ніхто не заўважыў. Хлопец і я паклалі матрацы на спіны і панеслі іх на сабе, згінаючыся пад цяжарам ледзь не напалам. Мы кіраваліся ў бок чыгуначнага шляху, які праходзіў паблізу. Ідучы па рэйках у горад, мы часта спыняліся, каб адпачыць. Калі мы ўжо набліжаліся на канцавога пункта нашага падарожжа, аднекуль пачуўся шум. Мой памагаты перапалохаўся, кінуў свой матрац і пачаў уцякаць. Я таксама вымушаны быў скінуць са спіны матрац і пабег за ім, каб спыніць. Дагнаўшы хлопца, я пачаў пераконваць яго, што ніякай небяспекі няма: чым бы ні быў спароджаны той шум, ён даўно сціх. *«Вер мне*, — сказаў я хлопцу. — *Я не буду цябе падманваць»*. Хлопец паслухаўся. Мы вярнуліся назад, падабралі матрацы і пайшлі далей. Неўзабаве рэйкі скончыліся, але адтуль было ўжо недалёка да дома, дзе жыла мая знаёмая немка. Яна была радая ўбачыць нас з матрацамі і адразу адлічыла мне дамоўленую суму грошай. Частку грошай я аддаў майму палахліваму памагатаму. Вось так скончылася мая нявінная прыгода з продажам матрацаў. Зрэшты, ці была яна абсалютна нявіннай, вырашаць чытачу.

Зборы да пераезду на новае месца жыхарства былі досыць хуткія і нескладаныя. Усе мае рэчы лёгка змясціліся ў валізе сярэдняга памеру, ды там яшчэ і месца засталося. Мы ехалі з Прына ў Бад-Айблінг на вайсковых амерыканскіх грузавіках з брызентавым верхам. У кузаве кожнага грузавіка былі лаўкі для сядзення.

Я пражыў у Прыне прыблізна палову 1948 года і не пярэчыў лёсу, які зноў перакідваў мяне ў іншае месца. Я не баяўся і не перажываў з нагоды пераезду ў Бад-Альбінг. Любыя змены адкрывалі перада мной новыя далягляды і давалі надзею, што жыццё пераменіцца да лепшага. Урэшце, быць аптымістам аплочваецца, што б там ні атрымалася ў канчатковым выніку. Грэцкі філосаф Эпіктэт[203] (прыблізна 55–135 да н. э.) перасцерагаў нас ад таго, каб дзяліць усё, што здараецца з намі ў жыцці, на добрае і кепскае. Яму прыпісваецца такі выраз: *«Змяні да лепшага тое, што ў тваёй уладзе змяніць, і прымі ўсё астатняе такім, як яно ёсць»*.

Якім бы кароткім ні было маё знаходжанне ў Прыне, яно пакінула некаторыя прыемныя ўспаміны. На пачатку лета 1994 года, у кампаніі маёй стрыечнай сястры Гэлены і яе мужа Багуслава Германа я зноў наведаў Прын. Мне вельмі спадабалася тое, што я пабачыў. Горад быў вельмі дасканала падноўлены. Старыя гатэлі мадэрнізавалі ў адпаведнасці з сучаснымі стандартамі. Кветкі цвілі паўсюль, куды ні паглядзі. Гарадок вабіў вока сваім хараством і дагледжанасцю. Мае спадарожнікі былі вельмі ўражаныя тым, што пабачылі.

*«Славік, ты жыў у такім прыгожым месцы!* — усклікнуў Багуслаў. — *Чаму ж ты адсюль з'ехаў?» «Так склаўся лёс»*, — адказаў я.

Я ведаў, што мне не суджана заставацца ў Еўропе. Маім прызначэннем была Амерыка.

## 16. ЖЫЦЦЁ Ў БАД-АЙБЛІНГУ

Надышоў дзень пераезду. На грузавіках нас адвезлі ў наш новы дом у ваколіцах горада Бад-Айблінг. Там у прытулку ўжо жылі шмат сіротаў, і нас далучылі да іх. Мяне пасялілі ў адным пакоі з хлопцамі-ўкраінцамі, якія пераехалі разам са мной з Прына. Частка будынка, у якім размяшчаўся наш пакой, знаходзілася пад патранажам «хатняй мамы», як яе ўсе называлі. Гэта была жанчына ў гадах, якая жыла на тэрыторыі лагера разам са сваім мужам. Як і мы, яны былі перамешчанымі асобамі.

Наш новы прытулак нічым не нагадваў Прын. Мы апынуліся на тэрыторыі былой нямецкай вайсковай базы, прычым даволі вялікай. Я б сказаў, тут магла лёгка размясціцца пяхотная брыгада. Большасць будынкаў уяўлялі з сябе доўгія двухпавярховыя казармы з бетону і сталі. Звонку яны былі абкладзеныя чырвонай цэглай, дахі накрытыя дахоўкай. Казармы будаваліся дыхтоўна — з разлі-

---

[203] **Эпіктэт** (55–135) — старажытнагрэчаскі філосаф-стоік.

кам, што яны паслужаць некалькім пакаленням. Знаёмячыся з маім новым домам, я нечакана трапіў у сутарэнне, якое распасціралася пад нашай казармай на ўсю даўжыню будынка. Як выглядала, у некаторых з падвальных памяшканняў ранейшыя жыхары выпрабоўвалі стралковую зброю. Гэта таксама падалося мне цікавым і нязвыклым. Зразумела, што раней у казармах жылі толькі салдаты, а афіцэры мелі лепшае жытло — аднапавярховыя дамы, якія стаялі крыху на ўзвышшы. Цяпер у гэтых былых афіцэрскіх дамах жылі дзяўчаты, тамсама пасялілі і Ніну з Фаінай. Лагер меў свой шпіталь, тэатр, бібліятэку, спартовую залу і, вядома ж, памяшканне для багаслужбаў. Будынкі стаялі не ўпрытык адзін да аднаго, і вольная прастора паміж дамамі прыемна цешыла вока навічкоў. Усе гэтыя плюсы азмрочваліся тым, што тэрыторыя лагера была абгароджаная плотам з металічнай сеткі, па верхнім краі якой ішло некалькі віткоў калючага дроту.

У адрозненне ад Прына ў наваколлі тут не назіралася нічога, што магло б спарадзіць цікавасць альбо прагу даследаванняў. Кругом распасціраліся палеткі, сям-там сярод іх віднеліся дамы фермераў. Адзіным вартым увагі маршрутам заставаўся гарадок Бад-Айблінг, які знаходзіўся кіламетры за тры-чатыры ад тэрыторыі былой вайсковай базы. Я хадзіў туды пешкі, і ў пераважнай большасці гэтыя вандроўкі былі беспрыгодныя: ніхто і ніколі мяне не патурбаваў.

У гарадку Бад-Айблінг былі пошта, рэстараны, крамы моднага адзення, прадуктовыя крамы і кінатэатр. Цяпер, пасля ўвядзення новай валюты, білеты ў кіно сталі лёгкадаступныя. Я часта хадзіў у кіно — можна нават сказаць, што паходы ў кіно зрабіліся маім найгалоўным заняткам у вольны час. Апрача прагляду фільмаў я любіў таксама проста гуляць па вуліцах, разглядаючы вітрыны крамаў і мінакоў. Я і цяпер люблю назіраць за людскім натоўпам, седзячы ў буйным гандлёвым цэнтры за кубачкам кавы.

Жыццё ў лагеры не было такім ужо суцэльным нудоццем. Тыя, каму гэта было цікава, мелі магчымасць кантактаваць з амерыканцамі. Можна нават сказаць, што гэтыя маладыя амерыканцы былі прататыпам цяперашняга «Корпуса Міру» — спансараванай амерыканскім урадам арганізацыі, якая накіроўвае хлопцаў і дзяўчат на добраахвотную працу ў краінах трэцяга свету[204]. Маладыя амерыканкі час ад часу прыходзілі ў наш лагер і вялі гутаркі альбо з невялікімі групамі жыхароў, альбо з асобнымі індывідуаламі. Я быў сярод тых, каго такія размовы вельмі цікавілі. Нашыя амерыканскія

---

[204] **Корпус Міру** (англ. *Peace Corps*) — заснаваная ўрадам ЗША ў 1961 г. гуманітарная арганізацыя.

госці дапамагалі парадамі, спагадліва выслухоўвалі нашыя гаротныя гісторыі, ахвотна распавядалі нам пра амерыканскія звычкі і традыцыі, а часам прапаноўвалі разам паспяваць песні. Асабліва мне запомнілася адна маладая жанчына, якая любіла спяваць і заўсёды запрашала нас далучыцца да спеваў, што мы і рабілі з вялікай ахвотаю. Дагэтуль памятаю словы адной з песняў, вывучаных ад яе: *«You are my Sunshine; my only Sunshine; you make me happy, when skies are gray. You never know dear how much I love you»* (*«Ты маё сонечнае ззянне, маё адзінае сонечнае ззянне, ты робіш мяне шчаслівым у пахмурны дзень. Ты нават не здагадваешся, дарагая, як моцна я кахаю цябе»...*). Калі ўжо гаворка зайшла пра песні, дадам яшчэ, што аднойчы ў Бад-Айблінгу я трапіў на канцэрт хору данскіх казакаў[205] (канцэрт адбываўся ў будынку па суседстве з нашым лагерам) і меў шмат асалоды ад іх спеваў.

Добрым спосабам запоўніць вольны час мне падавалася чытанне кніжак, таму, як няцяжка было прадказаць, я зрабіўся сталым наведнікам лагернай бібліятэкі. На жаль, там я аднойчы трапіў у прыкрую сітуацыю. Хлопец-украінец, які ў Прыне ўзначальваў такую памятную мне экскурсію ў Альпы, папрасіў мяне вынесці для яго з бібліятэкі кніжку. Памятаючы ўсё тое добрае, што гэты хлопец зрабіў для мяне ў Прыне, і будучы не вельмі яшчэ разумным, мяккім па характары і схільным да таго, каб рабіць іншым прыемнае, я пагадзіўся выканаць ягоную просьбу. Кніжка, якую мне трэба было вынесці, аказалася гіганцкім томам. Я засунуў яе пад куртку і накіраваўся да выхада. Якая ж гэта была памылка! За бібліятэчнай стойкай дзяжурыў якраз той мускулісты югаслаў, які аднойчы ў Прыне перамог у кулачным баі ўкраінца. Ледзь зірнуўшы на маю адтапыраную куртку, ён залез пад яе рукой і дастаў кнігу. Ох і злы ж ён быў! Ён зароў на мяне на ўсю моц, ён мяне прыніжаў, сыпаў пагрозамі, і добра яшчэ, што ён мяне не пабіў. Мой украінскі знаёмец сядзеў у калідоры, насупраць выхада з бібліятэкі, і бачыў усю гэтую сцэну. Як толькі я выйшаў, украінец падышоў да мяне і пачаў шчыра выбачацца за тое, што так мяне падвёў. Я выбачыў яму і не трымаў на яго зла.

Не ўсё ішло гладка ў нашым сіроцкім прытулку. Ежа, напрыклад, была жахлівая, і гэта нават прывяло да хваляванняў у лагеры. Пэўная частка жыхароў вырашыла, што паляпшэнняў не дачакаешся, пакуль не возьмеш справу ў свае рукі. Аднойчы сонечным ранкам

---

[205] Магчыма, маецца на ўвазе **Хор данскіх казакаў пад кіраўніцтвам Сяргея Жарава**, заснаваны ў 1921 г. у Чылінгеры каля Канстынцінопаля. Гэты хор стаў найбольш вядомым казацкім хорам на Захадзе.

актывісты сабраліся на адкрытай пляцоўцы лагера, патрабуючы пераменаў. Я не вельмі ведаў, якія канкрэтна скаргі выказвалі людзі, але я пэўны, што нізкая якасць ежы была галоўнай прычынай для незадаволенасці. На гучныя крыкі павыходзілі іншыя жыхары лагера: хтосьці далучыўся да пратэстоўцаў, а хтосьці, як я, проста стаяў і назіраў збоку. Нарэшце з'явіліся і ахоўнікі лагера. Пачалася штурханіна, стала зразумела, што жарты на гэтым скончыліся. Ахоўнікі паспрабавалі арыштаваць гарластага завадатара. Ён пабег у найбліжэйшы будынак, ахоўнікі за ім. Лідар мітынгоўцаў залез на гарышча над другім паверхам, а адтуль вылез праз франтон на стромы дах. Ён прабегся туды-сюды па краі даху, потым ухапіўся за дрот, які цягнуўся ад коміна, і бясстрашна пачаў узбірацца наверх. У акне франтона паказаўся ахоўнік. Хлопец-уцякач выцягнуў з дахоўкі плітку і шпурнуў яе ў ахоўніка, потым другую, трэцюю… Ахоўнік палічыў за лепшае не рызыкаваць і абачліва вярнуўся на гарышча. Вядома ж, у нашага акрабата не было іншага выйсця, як урэшце злезці з даху і здацца лагерным уладам. Яго арыштавалі. Пра далейшы лёс таго хлопца мне нічога не вядома. Спадзяюся, яго не вельмі моцна пакаралі.

Ці была гэтая падзея паўстаннем? Безумоўна, не. Гэта было ўсяго толькі забурэнне. Паўстанне спараджае цялесныя пашкоджанні (напрыклад, разбітыя галовы) і вандалізм (накшталт падпальвання машынаў). Нічога падобнага не адбывалася. Аднак хваляванні прывялі да далёкасяжных наступстваў. Калі гаварыць пра пазітыўны бок, дык якасць і колькасць ежы змяніліся непараўнальна. Неўзабаве пасля гэтых падзей на вячэру кожнаму з нас упершыню далі варанае яйка! І я, і ўсе астатнія былі вельмі ўсцешаныя такой неспадзяванкай. Пасля гэтага нам сталі даваць яйкі рэгулярна. Аднойчы падчас вячэры я на хвілінку адышоўся да суседняга стала, каб пазычыць сальнічку. Калі я вярнуўся, майго яйка на талерцы ўжо не было… Тым не менш нашае меню сапраўды стала больш разнастайным, а ежа — больш якаснай, і гэта вельмі радавала ўсіх.

Але не ўсё, чым нас кармілі ў лагернай сталовай, было бяспечна есці. Аднойчы на вячэру далі столькі малака, што нам дазволілі яго піць хто колькі хоча. Я менавіта так і зрабіў — напіўся малака па горла (малако было парашковае). Ну і жахлівая ж ночка чакала мяне пасля такой вячэры! Мяне прабраў жудасны панос, прычым двойчы.

Палепшылася не толькі ежа: для жыхароў лагера адчынілася праграма прафесійнай падрыхтоўкі. Удзел у ёй быў непрымусовы, на жаданне, хоць нас моцна заахвочвалі далучацца. Я запісаўся ў механічную майстэрню, і мне выдалі камбінезон для заняткаў. Майстэрня знаходзілася ў сутарэнні будынка. У першы дзень настаўнік

паказаў мне маё працоўнае месца — варштат з замацаванымі на ім ціскамі. Яшчэ ён даў мне сталёвы брусок і напільнік. Я мусіў апрацоўваць напільнікам брусок і пры гэтым рабіць бясконцыя замеры. Гэтым я займаўся дзень пры дні, без усялякіх зменаў. Такая праца мяне хутка расчаравала, я пачаў прапускаць заняткі ў майстэрні, а потым і наагул кінуў іх. Урэшце, мае зацікаўленні і адукацыйныя мэты палягалі зусім у іншым баку: мяне цікавілі мовы, літаратура, гісторыя, матэматыка і шмат чаго іншага. А вось мой прыяцель-украінец, які знаходзіўся ў лагеры са сваім малодшым братам, запісаўся ў клас, дзе вучылі вырабляць зубныя пратэзы, і яму гэтае рамяство вельмі падабалася. Што ж, кожнаму свой хлеб.

Перад тым як развітацца з механічнай майстэрняй, я меў невялікую сутычку з вучнем-венграм. Мы неяк сустрэліся на калідоры, які ішоў уздоўж класаў, і абмяняліся парай словаў — хутчэй за ўсё, не вельмі прыязных. Слова за слова — і хлопец назваў мяне «рускім», дадаўшы да гэтага яшчэ адзін абразлівы прыметнік. Я не застаўся ў даўгу і таксама пачаставаў яго парай «пяшчотных» словаў. Рэч у тым, што я цярпець не мог, калі мяне называлі «рускім». Канфлікт разгараўся, і венгр пачаў правакаваць мяне на бойку. Тады я проста развярнуўся і сышоў назад у сваю майстэрню. Я не збіраўся нажываць сабе непрыемнасці на роўным месцы, якія маглі б перашкодзіць мне атрымаць амерыканскую візу. Апрача таго, у мяне былі вельмі прыгожыя зубы, і мне не хацелася імі рызыкаваць.

Агіда да таго, каб мяне называлі ганебнымі мянушкамі, асабліва «рускім», заставалася ў мяне на доўгія гады ўжо і пасля таго, як я стаў дарослым. Толькі пад старасць я пачаў вызваляцца ад гэтага пачуцця. Па-першае, я зразумеў, што кожны мае права на ўласную думку і ўласны погляд, і гэты погляд можа быць цалкам супрацьлеглы майму. Па-другое, я навучыўся быць больш сціплым. Ну і нарэшце, я перастаў ставіцца да сябе залішне сур’ёзна. Вось гэта было велічэзным дасягненнем! Сёння мне абсалютна ўсё роўна, хто і як мяне называе. Я проста смяюся, дый годзе.

Хваляванні, справакаваныя недабраякаснай ежай, мелі і адмоўнае наступства: насельнікам лагера цяпер забаранілі выходзіць за яго тэрыторыю без пісьмовага дазволу ад наглядчыка. Я быў паспрабаваў па ранейшай звычцы выправіцца ў кіно, але вартаўнік пры браме завярнуў мяне назад. Тады я пачаў прасіць «хатнюю маму», каб яна падпісала мне дазвол на выхад, але яна адмовілася. Колькі я ні ўпрошваў, яна заставалася непахіснай: *«Табе няма чаго рабіць за межамі лагера»*. Што мне заставалася рабіць? Трэба было знайсці іншае выйсце. Прычым у літаральным сэнсе. Трэба было знайсці выйсце з лагера ў абыход галоўнага ўвахода.

Даволі далёка ад галоўнай брамы, каля драцяной сеткі, якой быў абнесены наш лагер, расла купа ліставых дрэваў. Яны добра засланялі не толькі агароджу, але і дарогу за ёй. Ад галоўнага ўвахода нічога не было відаць. Па другі бок агароджы цурчэў вясёлы празрысты ручай — ён прабягаў пад дарогай і хаваўся ў траве на полі. Тут, у гэтым месцы, захінутым ад вачэй ахоўнікаў пры браме, я і знайшоў спосаб выбірацца з лагера. Я клаў наверх сеткі, на калючы дрот, падушку і без цяжкасцяў пералазіў праз агароджу. Ізноў я быў вольны і мог ісці куды хацеў! Гэта было прыемнае пачуццё. Тым не менш, калі я ўпершыню ўцёк з лагера цераз плот і ў адзіночку накіраваўся ў горад, я нечакана адчуў самоту. Вакол былі толькі чужыя людзі, і я быў сярод іх зусім адзін — ніводнага знаёмага твару! Як бы там ні было, мае самавольныя вылазкі ў горад працягваліся нейкі час без перашкодаў. Але наперадзе мяне падпільноўвала прыкрая нечаканасць… Я стаяў каля крамы з гатовым адзеннем, разглядаючы вітрыну. На мне быў цёмна-зялёны камбінезон, які мне выдалі для заняткаў у механічнай майстэрні і які я, безумоўна, і не падумаў вяртаць назад. Раптам каля броўкі насупраць мяне спынілася паліцэйская машына, з яе выйшлі двое паліцыянтаў. Яны спыталі, дзе я жыву. *«У лагеры для сіротаў»*, — адказаў я. *«Ты не мусіш тут знаходзіцца, мы завязем цябе назад у лагер»*, — сказалі паліцыянты. Адзін з іх адчыніў дзверцы машыны і загадаў мне сесці ў яе. Я падпарадкаваўся. Паліцыянты не надзелі на мяне наручнікаў, яны да мяне і пальцам не дакрануліся і наагул паводзіліся вельмі прыстойна. Мяне давезлі да лагера, высадзілі перад уваходам і здалі з рук на рукі вартаўніку. Паліцыянты не запаўнялі ніякіх папераў, вартаўнік таксама. Ён проста сказаў мне, каб я вяртаўся ў будынак, дзе жыву, і я паслухаўся.

Гэты інцыдэнт не пакінуў непрыемных успамінаў. Паліцыянты не прыніжалі мяне, я не пачуў ад іх ніводнага грубага слова. Наадварот, толькі што народжаная пасляваенная нямецкая праваахоўная сістэма зрабіла на мяне трывалае станоўчае ўражанне. Новыя нямецкія паліцыянты былі цалкам цывілізаванымі людзьмі!

Вартаўнікам лагера пашырылі кола абавязкаў. Цяпер яны павінны былі не толькі вартаваць уваход, але і патруляваць тэрыторыю лагера, асабліва пасля заходу сонца. Аднойчы позним вечарам я спрабаваў прабрацца ў іншы лагерны будынак. У маім заплечніку ляжала вайсковая коўдра. Гэтыя аліўкава-зялёныя коўдры былі вельмі папулярныя на той час — магчыма, увайшлі ў моду. На чорным рынку на іх быў надзвычай добры попыт: за такую коўдру можна было атрымаць аж цэлых 32 маркі! Я меў намер прадаць коўдру гандляру чорнага рынку, які жыў у суседнім будынку. Але мне не пашанцавала. Як з-пад зямлі, перада мной выраслі двое вартаўні-

коў. *«У такі позні час на вуліцы знаходзіцца забаронена*, — рэзка сказалі яны мне. — *Зараз жа вяртайся ў дом, дзе ты жывеш»*. Яны падвялі мяне да дзвярэй майго будынка і прасачылі, каб я ўвайшоў у дом. Нягледзячы на няўдачу, я адчуваў палёгку, бо вартаўнікі не праверылі, што было ў мяне ў заплечніку, і не канфіскавалі коўдры.

За ўвесь час майго знаходжання ў лагеры Бад-Айблінга я ніколі не назіраў на свае вочы, каб супрацоўнікі, уключаючы вартаўнікоў, жорстка абыходзіліся з насельнікамі, хоць не выключаю, што такія выпадкі маглі мець месца. А вось некаторыя з жыхароў лагера часцяком паводзілі сябе проста мярзотна. Памятаю, аднойчы я вяртаўся па сцяжынцы з Бад-Айблінга назад у лагер. Крыху наперадзе мяне ішла група жыхароў лагера, чалавек шэсць. Некаторых з іх я ведаў у твар. У групе было як мінімум двое дзяўчат. Раптам адзін з хлапцоў пачаў злосна сварыцца на дзеўку — прывабную бландзінку гадоў сямнаццаці-васямнаццаці. Хлопец схапіў дзяўчыну за блузку і груба пацягнуў да сябе. Ён злосна крыкнуў ёй у твар яшчэ колькі словаў, а потым наводмаш ударыў яе даланёй па твары — раз, другі, трэці, чацвёрты — і толькі пасля гэтага выпусціў. Дзяўчына разрыдалася. Аднак не прайшло і некалькіх хвілінаў, як кампанія пайшла далей, як быццам нічога не здарылася. Мала-памалу суняўся і плач дзяўчыны. Я працягваў ісці за імі ззаду, трымаючыся на адлегласці.

Хутчэй за ўсё, ніхто не паведаміў лагернай адміністрацыі пра гэты інцыдэнт. Праз некалькі тыдняў я сам меў сутычку з хлопцам, які ўдарыў дзяўчыну. Гэта менавіта ён груба вылаяў мяне за спробу вынесці кнігу з бібліятэкі. Бедная тая жанчына, якая пагадзілася выйсці за яго замуж (калі толькі такая знайшлася): хлопец цалкам пасаваў да катэгорыі мужоў, якія б'юць сваіх жонак.

Падчас жыцця ў лагеры Бад-Айблінга мне давялося правесці адну ноч у шпіталі — упершыню ў жыцці. У мяне і раней раз-пораз ішла кроў з носа, але звычайна крывацёк спыняўся сам сабой. А тут аднойчы позна ўвечары кроў як пачала ісці, так і не пераставала. Я лёг на спіну, але і гэта не дапамагло. Тады я вырашыў пайсці ў лагерны шпіталь, які знаходзіўся непадалёк ад нашага дома. Мяне без лішніх цырымоній правялі да дакторкі ў белым халаце. Дакторка паглядзела мяне і сказала, што я мушу застацца ў шпіталі на ноч. Медсястра, таксама апранутая ў белую шпітальную форму, правяла мяне ў адзіночную палату. Ложак стаяў засцелены, бялізна на ім была чыстая і свежая. Усё ззяла некранутай чысцінёй. Я правёў у шпіталі адну ноч, памятаю, што сярод лекаў, якія мне далі, быў аспірын. Так, менавіта аспірын, які сёння ўжываецца з супрацьлеглымі мэтамі — каб зрабіць кроў больш вадкай. Зразумела, што сёння мы ведаем значна больш пра лекі і іх уздзеянне на

арганізм, чым гэта было паўстагоддзя таму. На наступную раніцу мяне выпісалі. Ці я адчуваў сябе лепей? Ну, ва ўсялякім выпадку крывацёк з носа спыніўся. І яшчэ мне вельмі спадабалася начаваць у камфорце і ў асобнай спальні.

З набліжэннем лета 1949 года прыйшла вестка з амерыканскага кансулату ў Мюнхене, якая датычылася мяне і маіх сёстраў. Нам сказалі рыхтавацца да інтэрв'ю ў кансулаце. Існавала вялікая верагоднасць, што пасля гэтага інтэрв'ю нам траім дадуць візы на сталае жыхарства ў Злучаных Штатах Амерыкі — краіне маіх самых запаветных мараў. Цяпер мы павінны былі пакінуць лагер у Бад-Айблінгу і пераехаць у часовы лагер у Мюнхене, дзе мы мусілі чакаць запрашэння з амерыканскага кансулату. За дзень ці два да ад'езду з лагера я звярнуўся да «хатняй мамы» з просьбай даць мне другую пару штаноў. Тыя штаны, што я насіў, мне выдалі ў лагеры, але ў мяне не было нічога на змену. Я спрабаваў пераканаць гаспадыню, што мне пільна патрэбная другая пара, але яна толькі адмахнулася ад мяне: *«Ты паедзеш у Амерыку, і там табе дадуць усё, што трэба. Цяпер ідзі адсюль і не перашкаджай мне»*. Давялося сысці.

Адзенне, якім распараджалася і якое раздавала наша «хатняя мама», было прывезенае з Амерыкі. Па ўсіх Злучаных Штатах у цэрквах збіралі адзенне для еўрапейскіх сіротаў. Штаны, якія я насіў, таксама былі ахвяраваныя якімсьці міласэрным парафіянінам амерыканскай царквы. А яшчэ мне дастаўся добры пінжак з воўны, амаль няношаны. Ён быў мне завялікі, але я вельмі яго любіў.

Лагер, куды нас цяпер перавялі, знаходзіўся на ўскрайку Мюнхена. Ён быў вялікі, забудаваны пераважна драўлянымі баракамі. Гэта быў транзітны лагер для «дыпісаў», якія вось-вось павінны былі эміграваць у далёкія заакіянскія краіны. Дарослыя насельнікі лагера мусілі дапамагаць на кухні, дзе гатавалі ежу для ўсіх жыхароў. Мне не прызначылі ніякіх абавязкаў, але адзін з дарослых, чыя чарга дапамагаць на кухні прыпадала на наступны дзень, запытаўся ў мяне, ці не хачу я падзяжурыць замест яго за плату ў пяць марак. Я пагадзіўся. Цэлы дзень я правёў на кухні, абіраючы бульбу. Ці былі пяць марак вартай платай за такую працу? Хутчэй за ўсё, не. У лагеры была маленькая, але дагледжаная прыватная крамка, і там я купіў першую ў жыцці бутэльку кока-колы. Напой падаўся мне вельмі салодкім — нават засалодкім, як на мой тагачасны смак.

У лагеры амаль не было чаго рабіць, і каб нечым заняць сябе, я зноў узяўся за чытанне кніжак. Чытаў я што трапіцца пад руку, у тым ліку раманы на ўкраінскай мове. І яшчэ я сам выпраў свае рэчы, уключаючы верхняе адзенне. Паколькі штаны ў мяне былі толькі адны, я хадзіў у шортах, пакуль мае шматпакутныя нагавіцы

сушыліся на вяроўцы, нацягнутай за баракам. Але затое, калі мяне і сёстраў паклікалі ў амерыканскі кансулат, на мне была чыстая вопратка, і я выглядаў прыстойна.

Перад тым як мы атрымалі амерыканскія візы, нам давялося яшчэ прайсці медыцынскае абследаванне, у тым ліку праверку на туберкулёз. Нас прызналі здаровымі і годнымі для эміграцыі ў Злучаныя Штаты. Надышоў доўгачаканы дзень адлёту. Мяне, Фаіну і Ніну прывезлі на аўтобусе ў аэрапорт Мюнхена. Чатырохматорны турбавінтавы самалёт кампаніі «Транс Ворлд Эйрлайнз»[206] ужо чакаў нас там, каб адвезці ў легендарную краіну — Злучаныя Штаты Амерыкі. У Грэнландыі самалёт зрабіў пасадку на дазапраўку. Пакуль залівалі паліва, я выпіў у кавярні мой першы кубак сапраўднай кавы. Гэты напой уразіў мяне сваім магутным і адметным смакам. Дагэтуль я піў толькі эрзац-каву, зробленую з пражанага збожжа, дый тое гады ў рады. І вось нарэшце мы прызямліліся ў міжнародным аэрапорце Ла Гуардыя[207], непадалёк ад Нью-Ёрка. Гэта было 4 ліпеня 1949 года.

## 17. ПЕРШЫЯ КРОКІ НА АМЕРЫКАНСКІМ КАНТЫНЕНЦЕ

Наш пераезд у Амерыку стаўся магчымым дзякуючы дзейнасці Камітэта апекі над дзецьмі з Еўропы[208]. Штаб-кватэра гэтай арганізацыі знаходзілася ў Нью-Ёрку, і менавіта туды мяне і сёстраў прывезлі з аэрапорта. Камітэту належаў даволі вялікі зямельны надзел, на тэрыторыі якога стаялі некалькі двухпавярховых цагляных дамоў, аддзеленых адзін ад аднаго прасторнымі зялёнымі

---

[206] **«Транс Ворлд Эйрлайнз»** (англ. *Trans World Airlines*) — амерыканская авіякампанія, заснаваная ў 1925 г. як *«Western Air Express»*. Да 2001 г. была адной з чатырох найбуйнейшых нутраных авіякампаній ЗША, выконвала таксама шматлікія міжнародныя рэйсы. У 2001 г. была аб'яднаная з *«American Airlines»*.

[207] **Ла Гуардыя** (англ. *LaGuardia Airport*) — аэрапорт, што знаходзіцца ў паўночнай частцы раёна Квінс у Нью-Ёрку. Быў адчынены ў 1939 г.

[208] **Амерыканскі камітэт апекі над еўрапейскімі дзецьмі** (англ. *The United States Committee for the Care of European Children*) — арганізацыя, заснаваная ў 1940 г. з першапачатковай мэтай эвакуацыі брытанскіх дзяцей з бамбардаваных немцамі гарадоў у час «Бітвы за Брытанію». Пазней займалася вывазам габрэйскіх дзяцей з небяспечных рэгіёнаў Еўропы, а таксама дапамагала пераезду ў ЗША дзецям Ды-Пі. Камітэт спыніў дзейнасць у 1953 г.

газонамі. Была тут і свая зона адпачынку: адкрыты басейн, які тады не выкарыстоўваўся, і поле для гульні ў софтбол[209], абсталяванае на ўскрайку ўчастка. Сюды з горада вяла вуліца, маляўніча абсаджаная дрэвамі з абодвух бакоў. Сама тэрыторыя Камітэта знаходзілася ў Брукліне[210], на вонкавай мяжы горада, непадалёк ад маленькага вузкага заліва. Мясціны вакол заліва былі тады забалочаныя, і аднойчы з групай дзяцей на чале з маладой выхавацелькай мы хадзілі на балоты пехатой, каб паназіраць за птушкамі і паслухаць іх галасы.

Умовы жыцця ў гэтым дзіцячым доме былі выгодныя, нам не даводзілася цясніцца ў перапоўненых спальнях. У пакоі, дзе я начаваў, апрача мяне жыў толькі адзін хлопец. Было вельмі прыемна спаць у камфортным ложку са спружынным матрацам. Адміністрацыя Камітэта размяшчалася на гэтай самай тэрыторыі, займаючы невялікую частку першага паверха аднаго з будынкаў. У другой палове гэтага ж будынка знаходзілася кухня, персанал якой складалі мурыны. Кухня працавала ад золку да змяркання: там гатавалі сняданкі, абеды і вячэру. У сталовай, дзе мы елі (стравы там падаваліся на манер кафетэрыя), часцяком рабілася вельмі людна. Мы ніколі не былі галодныя, бо паміж сняданкам, абедам і вячэрай заўсёды можна было чымсьці перакусіць. Я не звык да высокакаларыйнай ежы, якой нас кармілі, але прызвычаіўся да яе вельмі хутка.

У штаце Камітэта працавалі некалькі жанчын, некаторыя з іх былі зусім маладзенькія. Частка выхавальнікаў жылі на тэрыторыі Камітэта, каб гадаванцы круглыя суткі заставаліся пад наглядам. Удзень супрацоўнікі ахвотна размаўлялі з дзецьмі на самыя розныя тэмы. Адной з найпапулярнейшых тэмаў былі цуды і дзівосы Нью-Ёрка. Асабіста я не мог уявіць цікавейшай размовы, чым гаворка пра Нью-Ёрк. Я лічыў, што мне вельмі пашанцавала, бо маё знаёмства з Амерыкай пачалося менавіта з гэтага горада.

На вуліцы мы часта бавілі час за гульнёй у софтбол. Гэтая гульня была новая для мяне. Ніколі раней мне не даводзілася шпурляць такі мячык альбо махаць бітай. Але я хутка ўсяму навучыўся і пачаў атрымліваць задавальненне ад софтбола. Аднак больш за ўсё я любіў экскурсіі па Нью-Ёрку. Выглядала, што перад супрацоўнікам нашага прытулку адмыслова ставілася такая задача: паказаць ягоным часовым насельнікам амерыканскі лад жыцця. І Нью-Ёрк як

---

[209] **Софтбол** (англ. *softball*) — камандная гульня, варыянт бейсбола, але з большым мячом і на меншай пляцоўцы (часта ў памяшканні).

[210] **Бруклін** (англ. *Brooklyn*) — адзін з пяці вялікіх і самы густа населены раён у Нью-Ёрку, знаходзіцца ў заходняй частцы Лонг-Айленда.

нельга лепей надаваўся для такой мэты! Час ад часу хто-небудзь з супрацоўнікаў браў з сабой невялікую групу выхаванцаў і вёў паказваць нью-ёркскія славутасці, а таксама самыя розныя куткі горада. Памятаю, як нас вазілі да Статуі Свабоды і ў Эмпайр Стэйт Білдынг. Наведваў я і крамы на Пятай авеню[211], хоць нічога там і не купляў. Мяне вельмі ўразіў фасад Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі[212], а таксама яе кнігазбор. Падчас майго першага наведвання бібліятэкі я ўзяў там пачытаць з аддзела славянскай літаратуры прыгодніцкую кніжку, якая называлася «Шэры пакой». Кніга была на рускай мове. Яна захапіла мяне настолькі, што я дагэтуль дакладна памятаю яе назву. Не ўзгадаю, каб нас вадзілі ў кіно ў Нью-Ёрку, але затое аднойчы мы прысутнічалі сярод публікі на наўпроставым эфіры аднаго з тэлешоу. Падчас ўсіх гэтых экскурсій мы абавязкова перакусвалі дзесьці ў горадзе. Я памятаю, як вулічны гандляр проста на вачах выціснуў для мяне шклянку апельсінавага соку. З таго першага разу я палюбіў апельсінавы сок назаўсёды.

Нашыя экскурсіі па Нью-Ёрку не абмяжоўваліся ягоным глянцавым фасадам. Нам паказалі і горшыя кварталы, напрыклад Баўэры[213]. Калі я ўпершыню пабачыў гэты раён, я быў уражаны неймаверна. Як магло здарыцца, што такое жабрацтва існуе ў краіне дастатку? Вуліцы былі закіданыя смеццем. Людзі ў паношаным адзенні бязмэтна бадзяліся па вуліцах, некаторыя сядзелі проста на ходніках, прытуліўшыся спінамі да сценаў дамоў. Паколькі я быў прызвычаены да чысцюткіх вуліцаў Германіі, брудныя вуліцы ў Баўэры ўразілі мяне да глыбіні душы. Горш за ўсё было тое, што, як мне сказалі, ніхто не займаецца тым, каб палепшыць становішча тутэйшых жыхароў. Значыць, Баўэры так і наканавана заставацца дном мегаполіса? Але нават калі я пабачыў гэты раён, маё добрае ўражанне пра Злучаныя Штаты не змянілася. Я ўспрымаў Баўэры як анамалію Нью-Ёрка, у скрайнім выпадку як ганебную пляму, але ні ў якім разе не як тыповую карціну.

Я быў рады, што за час майго непрацяглага знаходжання ў прытулку мне пашчасціла пабачыць зблізку, як жыве тыповы гра-

---

[211] **Пятая авеню** (англ. *The Fifth Avenue*) — вуліца ў цэнтры Манхэтэна ў Нью-Ёрку, адна з самых дарагіх у свеце. На ёй знаходзіцца вялікая колькасць эксклюзіўных крамаў.

[212] **Нью-Ёркская публічная бібліятэка** (англ. *The New York Public Library*) — другая па велічыні (пасля Бібліятэкі Кангрэса) публічная бібліятэка ў ЗША (трэцяя ў свеце). Яе фонды складаюць каля 53 мільёнаў асобнікаў.

[213] **Баўэры** (англ. *Bowery*) — вуліца і раён на Манхэтэне ў Нью-Ёрку. Падчас Вялікай дэпрэсіі раён быў забудаваны начлежкамі.

мадзянін Амерыкі, да таго ж пэўным чынам павязаны з нашым часовым домам. Гаворка ідзе пра адну жанчыну сярэдніх гадоў — хударлявую, добра апранутую і вельмі таварыскую. Жанчына раз-пораз прыходзіла ў наш прытулак, каб паразмаўляць з дзецьмі. Потым яна забірала маленькую групу выхаванцаў і вяла іх на экскурсію па горадзе. Я вельмі добра памятаю адну з такіх экскурсій, на якую ўзялі мяне і яшчэ дваіх маіх таварышаў па прытулку. Галоўнай падзеяй экскурсіі было наведванне кватэры, дзе жыла гэтая амерыканка. Кватэра, якая ёй належала, знаходзілася ў адным з нью-ёркскіх хмарачосаў, высока над зямлёй. Яе кандамініум[214] меў прасторную веранду, з якой адкрывалася цудоўная панарама горада. Стоячы каля борціка, я захоплена разглядаў горад далёка ўнізе. На верандзе раслі кветкі ў вазонах, некаторыя з іх цвілі, і наагул там было вельмі прыемна. Пасля таго як мы налюбаваліся выглядам горада, жанчына запрасіла нас да сябе ў гасцёўню — адпачыць і выпіць прахаладжальнага напою.

Як мы хутка даведаліся, гэтая жанчына мела паклонніка, прычым вельмі палкага. Відаць, ён быў багатым гаспадаром ранча аднаго з заходніх штатаў. Ягоны прыезд да дамы сэрца быў вартым подзіву відовішчам. Фермер прывёз з сабой у Нью-Ёрк аднаго з сваіх найлепшых коней! (Конь ехаў у адмыслова абсталяваным чыгуначным вагоне.) Жывёлу прывялі да нас у прытулак і часова размясцілі на полі для софтбола. Відаць, гаспадар ранча прывёз каня з намерам навучыць сваю каханую ездзіць верхам. Я назіраў, як ён падсаджваў яе ў сядло. Выглядала, што жанчына ніколі раней не ездзіла на кані, але вельмі хацела гэтаму навучыцца. Фермер трэніраваў яе ў верхавой яздзе, пакуль яна не пачала трымацца ў сядле дастаткова ўпэўнена, каб ездзіць самастойна.

Калі я дастаткова абжыўся ў транзітным дзіцячым доме, я напісаў нашаму «амерыканскаму дзядзьку» Пятру Шабовічу, які жыў у Лыне (штат Масачусетс), што мы з сёстрамі ўжо знаходзімся ў Амерыцы. Я не дачакаўся адказу на свой ліст, замест гэтага дзядзька вырашыў прыехаць да нас сам. Адным сонечным папалуднем у калідоры нашага дома да мяне падышоў мажны пажылы мужчына сярэдняга росту, а з ім высокі танклявы маладзён гадоў дваццаці пяці — дваццаці васьмі. Я адразу пазнаў дзядзьку Пятра, бо ён дасылаў нам свой нядаўні фотаздымак, калі мы яшчэ жылі ў Германіі. Маладзён аказаўся ягоным сынам, яго звалі Эдвардам (*Eddie*).

---

[214] **Кандамініум** (англ. *condominium*) — форма супольнага домаўладання, часцей за ўсё мае дачыненне да кватэраў у шматкватэрных дамах.

Яны прыехалі ў Нью-Ёрк на сваім сямейным «кадылаку» — гэтую машыну яны выкарыстоўвалі для далёкіх паездак. Кожны раз, калі дзядзьку Пятру трэба было ехаць кудысьці далёка, ён браў за кіроўцу Эдварда — дзядзька не вельмі давяраў сабе як шафёру.

У нашую першую сустрэчу мы толькі размаўлялі, затое вельмі доўга. Дзядзьку вельмі цікавіла ўсё, што датычыла нашай сям'і, і ён задаваў мне шмат пытанняў. Гаворка вялася толькі па-беларуску. Як выглядала, дзядзьку мала абыходзіла англійская мова.

Хоць і кароткім быў візіт маіх сваякоў, але для першага знаёмства яго хапіла. Я быў вельмі рады, што нарэшце сустрэўся з дзядзькам і стрыечным братам. У той самы дзень дзядзька Пётр і Эдвард вярнуліся дадому. На развітанне дзядзька даў мне пяцьдзясят даляраў. Я падзякаваў яму за падарунак. Грошы прыйшліся вельмі дарэчы, бо ў мяне тады не было ні цэнта за душой.

Амерыканскія сваякі мне вельмі спадабаліся. Дзядзька Пётр выдатна разумеў, што мне і сёстрам патрэбныя сям'я і дом. Відаць было, што ён шчыра заклапочаны нашым лёсам, хоць ён і не прапанаваў з ходу ўзяць нас да сябе. Але дзядзька паабяцаў, што падумае над гэтым. На гэтай аптымістычнай ноце мы і развіталіся. Эдвард дадаў, што я мушу быць цярплівым і што навіны ад дзядзькі мы атрымаем у самым хуткім часе.

Пакуль тое, я прыступіў да траты дзядзькавых грошай. Я падышоў да аднаго з кухараў на кухні і папрасіў яго разьмяняць мне дзесяцідаляравую банкноту. Кухар у белым халаце відавочна здзівіўся, пачуўшы ад мяне такую просьбу. *«Дзесяць даляраў!* — усклікнуў ён. — *Ды я б лічыў сябе багачом, калі б у мяне былі дзесяць даляраў! Там, адкуль я родам, за дзесяць даляраў чалавека лёгка могуць забіць»*. Не памятаю ўжо, хто разьмяняў мне грошы — відаць, нехта з офісных працаўнікоў.

Як і абяцаў Эдвард, весткі ад дзядзькі прыйшлі вельмі хутка. Дзядзька вырашыў забраць нас да сябе ў Лын. Пасля таго як былі падпісаныя ўсе неабходныя дакументы, якія засведчылі, што нас перадаюць пад апеку нашага дзядзькі Пятра Шабовіча, кожнаму з нас на развітанне выдалі новае адзенне. Сярод рэчаў, якія атрымаў я, мне вельмі добра запомніўся прыгожы сіні двухбортны гарнітур. Усе рэчы былі спакаваныя ў далікатную лёгкую валізку. Гэтую валізу я перахоўваў доўгія гады, магчыма для таго, каб яна нагадвала мне пра маё знаходжанне ў Нью-Ёрку, у Доме дзяцей-перасяленцаў з Еўропы (*European Children Resettlement Home*).

Дзядзька Пётр быў удаўцом. Паколькі ў доме не было жанчыны-гаспадыні, ён дамовіўся, што сёстраў Фаіну і Ніну забярэ да сябе сям'я Садлераў. Дзядзька вельмі добра ведаў гэтых людзей і паважаў іх. Сям'я Садлераў складалася з чатырох чалавек: гаспадар

Майк, ягоная жонка Эн і дзве малыя дачкі, троху маладзейшыя за Фаіну і Ніну. Дзядзька Пётр штотыдня плаціў Садлерам дамоўленую суму грошай за тое, што яны апекаваліся маімі сёстрамі. Пазней я даведаўся, што напачатку дзядзька запытаўся ў сваёй дачкі Мэры, у якой было двое сваіх дзяцей, ці не пагадзілася б яна ўзяць у сваю сям'ю Фаіну і Ніну, але Мэры адмовілася. Такім чынам, сёстры пераехалі да Садлераў, я ж застаўся жыць з дзядзькам.

Дзядзьку належаў трохпавярховы будынак на Мэйн Стрыт у Лыне. На першым паверсе знаходзіўся дзядзькаў бар, абутковая майстэрня і маленькая крамка, дзе гандлявалі рознай драбязой. На верхніх двух паверхах дома былі пераважна ўмэбляваныя пакоі, якія дзядзька здаваў у арэнду. Хіба толькі тры з гэтых пакояў мелі свае малюсенькія куханькі. На кожным паверсе было па два ванныя пакоі з душам. І дзядзька Пётр, і Эдвард таксама жылі ў гэтым самым доме. Дзядзькаў пакой знаходзіўся на другім паверсе, дакладна над барам. Эдвард займаў кутні пакой на трэцім паверсе, вокны якога выходзілі на вуліцу. Пакой, які далі мне, таксама размяшчаўся на трэцім паверсе. Раз на тыдзень прыходзіла жанчына, якая прыбірала пакоі, засцілала свежую бялізну на ложкі і пакідала гару чыстых ручнікоў. Бялізну і кашулі аддавалі мыць у пральню, якая знаходзілася за некалькі дамоў ад нашага. Уладальнікам пральні быў адзін кітаец, якога дзядзька называў няйнакш як *«чайна мэн»*. Адпрасаваную і акуратна складзеную бялізну прыносілі да нас у бар у прыгожым пакуначку, і толькі тады, атрымаўшы заказ, дзядзька расплочваўся за паслугі.

На першым паверсе, ззаду бара, знаходзілася кухня, якой карысталіся дзядзька і Эдвард. Дзядзька часта гатаваў нам ежу, хоць і не заўсёды. У прахалодным сутарэнні пад барам стаялі бочкі з півам.

І дзядзька, і Эдвард у сваіх пакоях адно толькі начавалі. Дзядзька пераважна праводзіў дні ў бары, размаўляючы з наведнікамі. Эдвард служыў у гарадской паліцыі Лына. У вольны ад службы час ён вёў бухгалтэрыю ў бары, выслухоўваў наведнікаў, якія прасілі палагодзіць дробныя парушэнні дарожнага руху, а таксама заўсёды быў гатовы дапамагчы бацьку ў любой патрэбе. У Эдварда ніколі не паўставала праблемы, чым заняць сябе па-за працай. Ён быў вялікім аматарам гольфа, а таксама наведваў бейсбольныя, баскетбольныя, хакейныя гульні, баксёрскія і барцоўскія турніры. І яшчэ ён любіў актыўны адпачынак на вольным паветры: паляванне, рыбалку, збор малюскаў.

У дзядзькі Пятра быў яшчэ адзін сын — Джо Шабовіч, малодшы брат Эдварда. З гэтым стрыечным братам я меў самыя шчыльныя стасункі праз усе тыя гады, што пражыў у дзядзькавым доме. Джо быў барменам, таму меў шмат клопатаў і абавязкаў, звязаных са

штодзённым функцыянаваннем бара. На працу Джо даводзілася ездзіць за дзесяць міляў — ён са сваёй сям'ёй жыў у двухпавярховым доме на ўскраіне Данверса[215], непадалёк ад марской бухты. Адтуль Джо прыязджаў у Лын прынамсі пяць разоў на тыдзень. Мы на дзіва хутка з ім пазнаёміліся і сышліся. Кожнага разу, як я прыходзіў паесці на кухню за барам, я не прапускаў магчымасці паразмаўляць з Джо, які стаяў за барнай стойкай.

Трэцім дзіцем дзядзькі Пятра была мая стрыечная сястра Мэры. Яна была замужам і мела дваіх дзяцей, Дыяну і Альберта. Яны таксама жылі ў Данверсе, вельмі блізка ад Джо. Калі я не памыляюся, дом, у якім жыла Мэры, раней належаў дзядзьку, і менавіта там выраслі ўсе трое ягоных дзяцей. Дзядзька браў мяне і сёстраў у госці да Мэры, каб мы лепей пазнаёміліся. У доме Мэры мне было вельмі ўтульна, і яна сама спадабалася мне з першага погляду.

Праз тое, што Мэры не захацела ўзяць да сябе Фаіну і Ніну, усё атрымалася, як у прымаўцы: *«Няма такога кепскага, каб не выйшла на добрае»*. Лын быў значна больш прыдатным месцам для жыцця і вучобы дзяўчатак. Ад дома, дзе жылі сёстры, да школы было як рукою дастаць. А калі б яны пераехалі ў Данверс, яны мусілі б дабірацца ў школу на адмысловым транспарце. Да таго ж у Лыне мелася адмысловая праграма для імігрантаў па вывучэнні англійскай мовы, разлічаная на дзяцей і падлеткаў школьнага веку. Цэлы год, перад тым як пайсці ў звычайную агульнаадукацыйную школу (*regular public school*), мы ўсе ўтраіх мусілі пяць дзён на тыдзень наведваць «спецыяльны англійскі клас». Заняткі адбываліся ў бібліятэцы пачатковай школы Конэлі (*Connelly Elementary School*) і працягваліся столькі ж, колькі школьны дзень у звычайнай школе. На ўрокі прыходзілі вучні самых розных узростаў, сёстры і я вучыліся там разам. Наша настаўніца выкладала толькі адзін прадмет — англійскую мову. І я, і сёстры хадзілі на заняткі пехатой. Пасля таго як мы паспяхова закончылі падрыхтоўчы англійскі клас, нас прынялі ў агульнаадукацыйную школу. Я стаў вучнем дзясятага класа сярэдняй школы *Lynn Classical High School*. Ніну і Фаіну запісалі ў іншую школу — *Cobet Junior High*; Ніна пайшла вучыцца ў восьмы клас, Фаіна — у дзявяты.

Так пачало разгортвацца нашае жыццё на новай зямлі — у шматабяцальнай краіне, дзе перад намі адкрывалася шмат перспектываў.

---

[215] **Данверс** (англ. *Danvers*) — мястэчка ў акрузе Эсэкс штата Масачусетс, на рацэ Данверс, прыкладна за 15 км ад Лына. Раней мястэчка мела назву вёска Салем і было вядомае гісторыяй пра Салемскіх вядзьмарак 1692 г.

# 18. ЖЫЦЦЁ Ў «КРАІНЕ НАДЗЕЙ» ПАЧЫНАЕ РАЗГОРТВАЦЦА

Жыць з дзядзькам Пятром аказалася не надта лёгка. Дзядзька быў вельмі ўпарты, і пахіснуць ягоныя перакананні было немагчыма. Таму ў ягонай прысутнасці я мусіў адпаведна дапасоўваць свае паводзіны, каб яго не абразіць. Не памятаю, каб я хоць аднойчы запярэчыў дзядзьку, хоць у некаторых пытанннях я быў з ім моцна нязгодны. Часам дзядзька казаў штосьці абразлівае пра майго тату. А яшчэ мне даводзілася выслухоўваць ягоныя поўныя абвінавачванняў тырады — з нагоды таго, што падчас Другой сусветнай вайны ў Злучаных Штатах узнік дэфіцыт на некаторыя тавары і прадукты. Дзядзька абураўся: вы там у сябе ў Еўропе мелі ўдосталь і таго, і сяго, а мы тут, у Амерыцы, мусілі перабівацца сяк-так наўскасяк. Слухаць такое мне было вельмі прыкра. У скаргах дзядзькі Пятра мне чуўся намёк, што і я ў пэўным сэнсе нажываўся на ягоных пакутах, з нагоды чаго я павінен адчуваць сябе вінаватым. Будучы чалавекам рахманым, я ўстрымліваўся ад таго, каб абвяргаць дзядзькавы бязглуздыя заявы. Я проста прымаў дзядзьку такім, якім ён быў. Таму я не займеў на яго крыўды ці абурэння, наадварот, я быў удзячны дзядзьку за тое, што ён даў дом мне і маім сёстрам.

Яшчэ адной непрыемнай нечаканкай, з якой я мусіў неяк даваць сабе рады, было тое, што дзядзька меў нядобрыя пачуцці да майго таты. Перад тым як вярнуцца ў Еўропу, мой бацька паклаў грошы ў банк і даверыў дзядзьку Пятру апекавацца імі. Вось гэтыя грошы і спарадзілі разлад паміж братамі. Дзядзьку пакрыўдзілі і раззлавалі лісты, у якіх тата сцвярджаў, што на пакладзеныя грошы ў банку мусілі нарасці большыя працэнты, чым гэта вынікала з дзядзькавых справаздачаў. Дзядзька назваў мне суму, на якую прэтэндаваў тата, і сказаў, што насамрэч доля майго бацькі складала і блізка не столькі. Аднак колькі ж там атрымалася грошай паводле дзядзькавых разлікаў, ён неяк забыўся згадаць. Я ўважліва выслухоўваў дзядзькавы маналогі, у якіх ён палка абвяргаў бацькавыя дамаганні, але вырашыў не мяшацца ў спрэчку паміж братамі.

У характары дзядзькі прысутнічала такая рыса, як зласлівасць. Звычайна яна хавалася дзесьці глыбока, але магла выступіць на паверхню, і менавіта тады, калі ты гэтага менш за ўсё чакаеш. Дзядзька кепска валодаў сваімі эмоцыямі. Калі ён быў моцна не ў гуморы, дык замест таго, каб найперш задумацца, што ж сталася прычынай кепскага настрою, ён проста выварочваў свой гнеў і злосць на ўсіх, хто трапляўся побач. Некаторыя з гэтых выбухаў

нервавалі мяне, бо яны былі накіраваныя на маіх блізкіх — калі не на мяне і сёстраў, дык на майго бацьку. Яны спараджалі ва мне адчуванне, што я і сёстры навязаліся на дзядзькаву галаву і абцяжарваем яму жыццё. На шчасце, мой стрыечны брат Эдзі не падзяляў бацькавых скрайнасцяў. Эдзі заўсёды ставаў на маю абарону, пярэчачы свайму тату. Гэта дапамагала: дзядзька хаваў «рогі» і пачынаў паводзіцца больш цывілізавана. А вось Эдзеў брат Джо, падобна свайму тату, меў нявытрыманы характар. Час ад часу ён таксама раздражняўся, што я зрабіў штосьці не тое альбо, наадварот, не зрабіў таго, што было патрэбна. Тое, што Эдвард заўсёды быў на маім баку, дапамагала мне вытрымліваць і дзядзькавы закіды, і прыдзіркі з боку Джо.

Нягледзячы на тое што Джо часцяком мяне крытыкаваў, не магу сказаць, што я яго не любіў. Па-свойму Джо быў добрым чалавекам. Ён даў мне мянушку Прафесар, што я ўспрымаў як камплімент. Часам я прыязджаў пакасіць газон перад ягоным домам — гэтую працу я выклікаўся рабіць добраахвотна. Калі сям'я сядала есці, Джо запрашаў мяне за стол таксама. Аднойчы за сталом яго малы сын выпадкова праліў гарачы напой мне на руку. Джо насварыўся на хлопца за нядбайства, прымусіў яго папрасіць у мяне прабачэння і паабяцаць, што такога больш не паўторыцца. Пасля гэтага выпадку, калі я зноў бываў у доме Джо, той любіў нязлосна кпіць з сына: *«А памятаеш, як ты абварыў Славіку руку?»*.

Дзядзькаў бар меў шмат сталых наведнікаў. Некаторыя заўсёднікі прыходзілі сюды вельмі часта, не прапускаючы ні тыдня. Была адна сям'я, якая ў нядзелю па абедзе звычайна сядзела ў бары некалькі гадзінаў, і да іх у гэты час яшчэ заходзілі госці. Дзядзька ахвотна ўступаў у гутарку са сваімі сталымі кліентамі. Нягледзячы на тое што мы з ім не сыходзіліся ў поглядах на шмат якія рэчы, дзядзька быў даволі адкрытым чалавекам, гатовым выслухаць розных людзей і розныя думкі. Дзякуючы гэтай станоўчай рысе характару дзядзька лёгка заводзіў размовы з наведнікамі ў сваім бары.

Што ж датычыць Эдзі, дык ён быў вельмі разважлівым чалавекам, які жыве ў рэальным свеце, а не ў палоне фантазій. Ён быў вельмі таварыскі, ад яго літаральна струмяніліся дабрыня і велікадушнасць. Уважлівы і чуйны да людзей Эдзі не спяшаўся судзіць ці абвінавачваць кагосьці. Ён сапраўды клапаціўся, каб я пачуваўся добра ў дзядзькавай сям'і, і дапамог мне паступова прызвычаіцца на новых умоваў жыцця. Калі б не Эдзі, цалкам магло б здарыцца так, што нашае знаходжанне ў дзядзькавым доме скончылася б зарана — задоўга да таго, як мы былі гатовыя да самастойнасці.

У мяне не хапае словаў, каб выявіць маю найглыбейшую ўдзячнасць да Эдзі. Дзякуй табе, Эдзі, дзякуй найвялікшы!

У дзядзькі была звычка дапасоўваць да англійскіх словаў канчаткі ягонай роднай мовы і скланяць гэтыя словы на беларускі манер. У дзядзькавым вымаўленні *«shoes»* (чаравікі, туфлі) ператвараліся ў *«шусі»*, *«peaches»* (персікі) — у *«пічасы»*, *«firemen»* (пажарнікі) — у *«фаерменаў»*, *«policemen»* (паліцэйскія) — у *«паліцменаў»*, а медсёстраў — *«nurses»* — ён называў *«нурскі»*.

Штонядзелі дзядзька браў мяне і сёстраў на багаслужбы ў Сэйлем[216], у праваслаўную царкву, якая знаходзілася міль за пятнаццаць ад Лына. Мы апраналіся святочна, адпаведна нагодзе. Я надзяваў адпрасаваную белую кашулю, гальштук, нагавіцы і пінжак. Сёстры таксама заўсёды былі прыгожа ўбраныя. Дзядзька апранаў дыхтоўны гарнітур, белую кашулю і гальштук. Мы прыязджалі ў царкву перад набажэнствам, якое пачыналася а дзясятай раніцы, і былі там да канца багаслужбы, гэта значыць звычайна да дванаццаці гадзінаў дня. Літургія служылася на царкоўнаславянскай мове, а пропаведзь святар казаў па-руску. Я вельмі любіў слухаць, як спявае царкоўны хор, і асабліва мне падабаўся чыйсьці бас, які магутна разліваўся пад купалам царквы. «Якім прыгожым голасам адарыла прырода гэтага чалавека!» — думаў я. (У праваслаўнай царкве хор стаіць на балконе, у задняй частцы царквы, і спявае а капэла.)

Калі я сядзеў на лаўцы ў царкве, некалькі разоў здаралася, што ў мяне ўзнікала нейкае нязвыклае адчуванне ў пахвіне, а потым пачыналася эрэкцыя. Яна была вельмі моцная, і мне заставалася толькі ўсёю душою спадзявацца (марна!), што яна неяк знікне сама сабой, да таго яшчэ, як мне трэба будзе падняцца з лаўкі і ўсе заўважаць, што са мной адбываецца. А трэба яшчэ дадаць, што тады, у 1950-я гады, сярод старшакласнікаў былі модныя вельмі вузкія штаны-«дудачкі». Я не хацеў вылучацца з кампаніі раўналеткаў і таксама занёс свае штаны да краўца, каб ён іх завузіў. Але вузкія штаны, безумоўна, не дапамагалі маскіраваць праблему, пра якую я распавёў вышэй.

У вольны час я аддаваў перавагу адпачынку на прыродзе. Мае стрыечныя браты Эдзі і Джо былі заўзятымі рыбакамі і паляўнічымі. Дзядзька Пётр таксама любіў бываць на вольным паветры, удалечыні ад натоўпу, але абмяжоўваўся рыбалкай. Ён перастаў хадзіць на паляванне шмат гадоў таму, калі ў яго пачаліся праблемы са здароўем. Эдвард як прадчуваў, што і мне таксама прыйдуцца даспадобы рыбалка і паляванне, і ён не памыліўся. Нездарма ж я

---

[216] **Сэйлем,** ці **Салем** (англ. *Salem*) — горад у акрузе Эсэкс штата Масачусетс, каля 10 км ад Лына.

правёў сваё ранняе дзяцінства на ўлонні прыроды — у Марцінове, у фальварку майго таты. Я быў вельмі шчаслівы, калі мне ўдавалася вырвацца за рамкі гарадскога жыцця і паехаць кудысьці на прыроду.

Мне запалі ў памяць нашыя паездкі на рыбалку. Эдзі і я выходзілі з дому яшчэ перад світаннем. Эдзі сядаў за руль, і спачатку мы кіраваліся ў Данверс, каб захапіць Джо. Потым, ужо едучы на возера, мы спыняліся паснедаць у маленькай прыдарожнай кавярні. Я заўсёды замаўляў сабе смажаныя яйкі. Пад'ехаўшы бліжэй да возера, мы яшчэ даволі доўга ішлі пешкі праз кустоўе, каб дабрацца да вады. Возера, у якім мы вудзілі рыбу, было чыстае, з пясчанымі берагамі. Наагул гэтае возера было часткай муніцыпальнай сістэмы водазабеспячэння, і ў ім забаранялася купацца, плаваць на лодках альбо лавіць рыбу. Але Эдзі і Джо не ўспрымалі апошнюю з пералічаных забаронаў усур'ёз. Урэшце, калі лавіць рыбу на вуду з берага — хіба гэтым сапсуеш чысціню вады?

Мы вудзілі шчупакоў і акунёў на спінінг — закідвалі леску з нажывай, потым падцягвалі яе назад, накручваючы на шпулю. Не прыпомню, каб я хоць аднойчы злавіў у гэтым возеры хоць якую рыбіну. А вось Эдзі і Джо, наадварот, раз-пораз цягалі з вады сапраўдных прыгажуноў. Тым не менш, хоць рыбацкае шчасце і не вельмі ўсміхалася мне, я вельмі любіў нашыя паездкі на рыбу. Бачыць, як устае сонца, назіраць за жыццём прыроды на возеры і ў яго ваколіцах — гэта ўсё было, безумоўна, вартым таго, каб падняцца на досвітку!

Аднак найчасцей мы вудзілі рыбу ўдзень — часам з Эдзі, часам з дзядзькам. Пазней, калі я ўжо атрымаў правы на кіраванне машынай, я калі-некалі ездзіў на рыбалку адзін. Памятаю, аднаго разу мы з Эдзі лавілі рыбу на вялікім возеры. Неба было чыстае, вада спакойная. Нам пашанцавала: мы нацягалі і акунёў, і шчупакоў. Калі вярталіся дадому, Эдзі заехаў да свайго сябра і пакінуў частку рыбы яму. Эдзі зазвычай так і рабіў — па дарозе з рыбалкі завітваў да якога-небудзь сябра ці прыяцеля, аматара свежай рыбкі, каб падзяліцца з ім часткай улову. Здзіўлены раптоўным візітам чалавек яшчэ стаяў перад хатай, разглядаючы нечаканы падарунак, а Эдвард, выслухаўшы словы падзякі, ужо ехаў дадому.

Для дзядзькі Пятра рыбалка была не азартным спортам, а проста прыемнай звычкай. Яна выцягвала яго з наскрозь пракураных вантробаў бара, даючы магчымасць расслабіцца і падыхаць свежым паветрам на беразе возера. У адрозненне ад Эдзі і Джо дзядзька не ставіў перад сабой задачы абавязкова злавіць вялікую рыбіну. Ён вудзіў на чарвяка, і вуда ў яго была самая звычайная, з паплаўком. Дзядзька закідваў вуду ў возера, а потым цярпліва сядзеў на беразе, чакаючы, пакуль рыба клюне. Дзядзька Пётр любіў рыбачыць на

маленькіх азёрах. Было, праўда, адно выключэнне: яму падабалася адно вялікае возера (цяпер ужо не прыгадаю, як яно называлася), якое ляжала даволі далёка ад Лына, на паўночна-ўсходні бок. Добра памятаю, што часцяком мы вярталіся адтуль з добрым уловам. Асабіста я найбольш цаніў у рыбалцы яе атмасферу і магчымасць пабыць на ўлонні прыроды: я адчуваў сябе там задаволеным і бесклапотным. І чамусьці найлепш у мяне клявала рыба ў цёплае надвор’е.

Не толькі мы, але і іншыя людзі, відаць, лічылі ваколіцы возера выдатным месцам, дзе можна так слаўна прабавіць вечарок. На беразе возера дзядзька расчысціў ад хмызоў невялікую пляцоўку, дзе ён паркаваў машыну. Гэты маленькі лапік зямлі заўсёды меў сляды чалавечай прысутнасці, якія яскрава сведчылі, што людзі прыходзяць сюды ўвечары і маюць свае ўцехі пасля заходу сонца. Я заўважаў на зямлі папялішчы ад вогнішчаў і скарыстаныя кандомы.

Дзядзькавы падарожжы на рыбалку не скончаліся з надыходам зімы. Калі азёры замярзалі, дзядзька ездзіў на падлёдную рыбалку. Для мяне гэта было ў навінку, і калі я быў не ў школе, я суправаджаў дзядзьку ў некаторыя з такіх паездак. На падлёдную рыбалку дзядзька заўсёды ездзіў у адно і тое месца. Возера, якое ён упадабаў, знаходзілася ў сельскай мясцовасці, сярод лясоў і пагоркаў. Па краі возера праходзіла дарога, але машыны па ёй праязджалі рэдка. Мы выходзілі на заледзянелую паверхню і, выбраўшы месца, высякалі ў лёдзе круглыя лункі. Потым закідвалі ў ваду лескі з нажыўкай і чакалі, пакуль клюне. Часам і мне ўдавалася злавіць там дробную рыбку. Я быў не супраць ездзіць на падлёдную рыбалку з дзядзькам, але сам адзін я туды не паехаў бы. Мне тады здавалася, што падлёдная рыбалка — гэта добрая забава для дарослых, але ніяк не для падлеткаў.

Пакуль я жыў з дзядзькам Пятром у Лыне, я прыахвоціўся і да палявання. Яно і не дзіва, што так сталася. У свае маладыя гады дзядзька быў аматарам палявання, стрыечныя браты Эдзі і Джо таксама зрабіліся спрактыкаванымі паляўнічымі. Было цалкам натуральна, што і я пераняў ад іх гэтую звычку. Дзядзька аддаў мне сваю дубальтоўку — драбавік дванаццатага калібру. Эдзі браў мяне з сабой, калі ездзіў паляваць на дробную дзічыну: трусоў, фазанаў, курапатак. Ад самага пачатку мне вельмі спадабаўся гэты спорт. Для мяне самым захапляльным у паляванні было прадчуванне таго моманту, калі трус знянацку выскоквае перад табой на адкрытае месца альбо фазан выпырхвае з-пад ног. Вокамгненна навесці дубальтоўку на здабычу і выстраліць — вось дзе была самая складаная задача. Калі ўдавалася пацэліць, гэта яшчэ больш распаляла

маю ахвоту. Спачатку я хадзіў на паляванне з Эдзі, а пазней, калі я атрымаў правы, дзядзька дазваляў мне браць сваю «машыну на штодзень», і я ездзіў на паляванне адзін. Некаторыя са сталых наведнікаў дзядзькавага бара таксама былі аматарамі такога спорту. Некалькі разоў я вазіў іх на паляванне на дзядзькавай машыне. Мы выязджалі вельмі рана ў суботу, сустракаючыся каля бара.

Той, хто мае паляўнічы досвед, ведае, што на паляванні ў любы момант могуць узнікнуць непрадбачаныя ці небяспечныя сітуацыі. Аднойчы раніцай у суботу я і яшчэ трое ці чацвёра вучняў з маёй школы ішлі па схіле пагорка, рэдка зарослага кустоўем, у надзеі ўпаляваць якую дзічыну. Удалечыні віднеліся дамы. Раптам аднекуль пачуўся стрэл. *«Падайце на зямлю!* — закрычаў хтосьці з нашай кампаніі. — *Яны страляюць па нас!»* І сапраўды, я чуў, як кулі свісцелі над нашымі галовамі, прашываючы кустоўе. Я паглядзеў туды, адкуль стралялі, і ўбачыў на крутым узгор'і некалькі чалавек. Думаю, гэта проста дурачыліся падлеткі, якія зусім не ўсведамлялі небяспекі сваёй забавы. Мы паспяшаліся хутка і непрыкметна выбрацца адтуль і адысці далей.

Калі хадзіць на паляванне ў адзіночку, таксама можна спаткацца з небяспечнаю прыгодай. Неяк раз я паехаў на паляванне адзін, як гэта часта рабіў. Мясціна, дзе я спадзяваўся ўпаляваць дзічыну, была густа зарослая кустоўем, і я выйшаў на прагаліну адпачыць. Раптам з хмызняку выйшаў малады хлопец, узброены лукам і стрэламі. Мы трохі паразмаўлялі пра паляванне. Я запытаўся, ці паляванне з лукам і стрэламі прыносіць нейкі плён. *«О, так!* — адказаў хлопец. — *Я вельмі трапны стралок. Магу пацэліць у галінку за некалькі метраў. Хочаш, пакажу? На, вазьмі вось гэта* (цяпер я ўжо забыўся, што гэта быў за прадмет) *і трымай каля сваёй шчакі — пабачыш, як мая страла прашые гэтую рэч навылёт»*. Зразумела, што я адмовіўся ад такой прапановы. Больш таго, я зняў свой драбавік з засцерагальніка і трымаў палец каля спускавога кручка ўвесь час, пакуль гэты хлопец стаяў паблізу мяне.

Я ніколі не паляваў на буйную дзічыну. Але Эдзі і Джо часам ездзілі ў Мэн[217] папаляваць на аленяў. Там яны наймалі праваднікá, які выводзіў іх на прыдатнае месца. Паходы заўсёды былі выніковыя: камусьці з дваіх удавалася падстрэліць аленя, і браты прывозілі яго дадому, паклаўшы на дах аўтамабіля. Аленя потым завозілі на мясаперапрацоўчую фабрыку. Там аленіна і захоўвалася пасля — у маразільнай камеры.

---

[217] **Мэн** (англ. *Maine*) — штат на паўночным усходзе ЗША. Сталіца — Агаста, найбуйнейшы горад — Портленд.

А яшчэ Эдзі паказаў мне адзін новы цікавы занятак — збіраць марскіх малюскаў. Па малюскаў мы ездзілі пад Глостар[218]: трэба было крыху збочыць з дарогі нумар 128, туды, дзе мора ўразаецца ў сушу вузкім рукавом. Мы рылі пясок і адкопвалі ракавінкі. Гэта была лёгкая і хуткая праца, бо малюскаў там была процьма, мы заўсёды прывозілі назад поўныя кашы. Ракавінкі з малюскамі мы захоўвалі ў сутарэнні, тамсама, дзе стаялі бочкі з півам. На ежу, калі я слушна памятаю, мы гатавалі малюскаў у вадзе. Я малюскаў раней ніколі не еў, аднак пакаштаваў іх без ваганняў, а пакаштаваўшы, неўзабаве і прызвычаіўся.

Часы ішлі, і неўзабаве мне ўжо было мала адной рыбалкі і палявання, пацягнула да іншых забаваў. Цяпер мяне найбольш вабілі такія імпрэзы, куды збіраліся і хлопцы, і дзяўчаты, напрыклад танцы. У цэнтры Лына муж і жонка сярэдняга веку трымалі вялікую танцавальную студыю. Двойчы на тыдзень па вечарах, надзеўшы абавязковыя пінжак і гальштук, я прыходзіў туды на ўрокі танцаў. Спачатку нас вучылі некалькім новым рухам, а потым усе вучні разбіваліся на пары і проста танчылі адзін з адным. Ды і не кожны раз заняткі ўключалі навучанне, часам мы танчылі цэлы вечар без усялякіх урокаў. Вось такія вечары мне падабаліся найбольш. Танцаваць з прыгожымі маладымі дзяўчатамі — гэта было цудоўным заканчэннем дня. Калі я ўжо навучыўся някепска танчыць, я пачаў ездзіць на танцы ў Рэвіер[219] — маленькі гарадок, што знаходзіцца паміж Лынам і Бостанам. Па суботах там ладзіліся танцавальныя вечарыны ў грамадскай танцзале.

На танцы прапускалі толькі тых, хто быў прыстойна апрануты, і ўваход быў платны. Аркестр іграў пераважна мелодыі бальных танцаў. На такія вечарыны ахвотна збіраліся нежанатыя хлопцы і незамужнія дзяўчаты. У мяне ніколі не паўставала праблемаў з тым, каб знайсці сабе партнёршу. Вакол танцпляцоўкі сядзелі на крэслах дзясяткі прывабных дзяўчат. Мне заставалася толькі падысці да кагосьці з іх і ветліва запрасіць на танец.

Наагул, калі весці гаворку пра забаўляльны адпачынак, дык Рэвіер быў маім «цэнтрам паломніцтва». Там быў яшчэ і парк з атракцыёнамі, сярод якіх меліся, безумоўна, і амерыканскія горкі. Памятаю, як я ўпершыню пракаціўся на гэтых горках і колькі гэта

---

[218] **Глостар** (англ. *Gloucester*) — горад і порт па мысе Эн у акрузе Эсэкс штата Масачусетс. Горад вядомы пастаўленым у ім у 1925 г. помнікам рыбаку. У 2001 г. тут з’явіўся і помнік жонцы рыбака.

[219] **Рэвіер** (англ. *Revere*) — горад у акрузе Сафалк штата Масачусетс, за 8 км ад прадмесцяў Бостана.

прынесла мне захаплення! Ладзіліся ў тым гарадку і тыповыя амерыканскія кірмашы — не такія, як у Беларусі (дзе гандлююць сельскагаспадарчай прадукцыяй), а такія, дзе можна паглядзець на цікавосткі, пакаштаваць розных прысмакаў і прасадзіць мноства грошай, гуляючы ў дзясяткі разнастайных гульняў. Неяк мы ішлі па кірмашы з групай школьных сяброў. З усіх бакоў нас наперабой клікалі згуляць у якую-небудзь гульню. Адзін з маіх сяброў, зваблены ўгаворамі асабліва красамоўнага зазывалы, вырашыў згуляць у прапанаваную тым гульню, спадзеючыся на лёгкі выйгрыш. Дзе там! Замест выйграць ён прайграў дастаткова адчувальную суму. Я ж вырашыў не паддавацца спакусе і не выпрабоўваць сваю ўдачлівасць.

А яшчэ ў Рэвіеры арганізоўваліся забегі хартоў[220], і гэта таксама было абсалютна новай для мяне і цікавай забавай. Сабачыя гонкі ладзіліся па вечарах, і туды збіралася процьма аматараў. Я хадзіў на хартовыя забегі адзін, каб палюбавацца імклівым бегам грацыёзных сабак. Звычайна я купляў сабе халоднае піва і ўліваўся ў натоўп. Да акенцаў, дзе прымалі стаўкі, выстройваліся чэргі. З'явілася думка: а што калі і мне паспрабаваць згуляць — раптам удалося б выйграць хоць пару даляраў? Спачатку я гуляў асцярожна — ставіў не больш чым па два даляры за раз. Аднак, выйграўшы раз, другі, трэці, я згубіў пільнасць і пачаў рызыкаваць большымі сумамі. На шчасце, я вельмі хутка зразумеў, якая небяспечная дрыгва закалыхалася ў мяне пад нагамі. Пад канец гонак я страціў не толькі ўсе выйграныя раней грошы, але і частку сваіх уласных. Тады я рашуча кінуў сабачыя забегі і ніколі пра гэта не пашкадаваў.

Ну і, вядома ж, я па-ранейшаму вельмі любіў хадзіць на пляж. Пляж знаходзіўся непадалёк ад дзядзькавага дома, і туды я лёгка даходзіў пешкі. Як прыемна было ў яркі сонечны дзень расцягнуцца на ручніку, пад якім адчувалася гарачыня нагрэтага пяску! Мяне агортваў поўны спакой, я быў у згодзе з самім сабой і светам. Ніякія турботы ці клопаты мяне не хвалявалі. Мой розум блакаваў любыя думкі, якія не датычыліся толькі гэтага, цяперашняга імгнення. Вядома ж, я прыходзіў на пляж не толькі паляжаць на ім — плаваць я вельмі любіў таксама. Вада ў акіяне была заўсёды халодная — гэта тыпова для ўсяго паўночна-ўсходняга ўзбярэжжа Злучаных Штатаў. Але холад мяне не спыняў, я смела кідаўся ў хвалі і плаваў, колькі мне хацелася. А калі я выходзіў з акіяна на бераг, дрыжучы ад холаду, я плюхаўся на гарачы пясок, падаслаўшы ручнік, і саграваўся ў імгненне вока. (Сёння я ўжо не рызыкнуў бы

[220] **Хорт** — парода паляўнічых сабак.

паўтарыць такое! Я выбраў бы для плавання пляжы Саўс Падрэ Айлэнда[221], што ў Тэхасе, — там, дзе ўлетку воды Мексіканскай затокі ахінаюць прыемнай цеплынёй.) Я так любіў хадзіць на пляж у юнацтве, што аднойчы, забыўшыся на час, праляжаў на сонцы занадта доўга і моцна абпаліў скуру. Вох і папакутваў жа я тады!

Непадалёк ад дзядзькавага дома ў Лыне была праваслаўная царква, а пры ёй — дом парафіяльнага святара. Я пазнаёміўся з бацюшкам, ягонай жонкай і сынам. Сыну было крыху за дваццаць, і ён марыў паступіць у семінарыю. Нашае знаёмства хутка перарасло ў сяброўства. Паколькі мой сябар не меў аўтамабіля, а я мог карыстацца дзядзькавым, я забіраў гэтага хлопца з дому на машыне, і мы ехалі на ўзбярэжжа ў Нэйхант[222], дзе нам падабалася рабіць здымкі.

Нэйхант — гэта вузкая каса, якая выдаецца ў Масачусецкую затоку. У тыя часы тут жыло зусім мала жыхароў. Мне запомніўся адзін прыгожы дом, які стаяў над самым абрывам, а вокны яго глядзелі на бурлівую ваду затокі. Яшчэ крыху далей, пры канцы паўвыспы, быў утульны шынок. Гэты рэстаранчык падаваўся мне і майму сябру ідэальным месцам, дзе можна пасядзець у спакоі і ўдосталь нагаварыцца, замовіўшы некалькі бутэлек піва. Мне так падабаліся гэтыя няспешныя гутаркі пра ўсё на свеце! Я думаў: як мне пашанцавала, што я знайшоў такога старэйшага сябра, з якім я мог бавіць час па-даросламу!

А вось на мясцовыя парады ў Лыне я хадзіў адзін. Я любіў разглядаць маляўнічыя строі ўдзельнікаў і слухаць аркестры, якія ігралі, маршыруючы пад уласную музыку. Аднойчы я трапіў на канцэрт, дзе на сцэне публічнай аўдыторыі Лына выступаў славуты «спяваючы каўбой» Джын Отры[223] — вядома ж, верхам на сваім кані! Мне вельмі падабаўся кінавобраз гэтага акцёра — узброены да зубоў зухаваты каўбой, які хвацка распявае песні. Іншым ра-

---

[221] **Саўс Падрэ Айлэнд** (англ. *South Padre Island*) — курортнае мястэчка ў акрузе Кемеран штата Тэхас. Мястэчка знаходзіцца на бар’ерным рыфе, што ляжыць уздоўж узбярэжжа Мексіканскай затокі і злучаецца з мацерыком праз дамбы горада Порт Ізабэль.

[222] **Нэйхант** (англ. *Nahant*) — мястэчка ў акрузе Эсэкс у штаце Масачусетс. Знаходзіцца на паўвыспе ў Масачусецкай затоцы.

[223] **Джын Отры** (англ. *Gene Autry*, сапр. Орван Гровер Отры, 1907–1998) — амерыканскі выканаўца, вядомы як «спяваючы каўбой». Папулярны ў 1930–1950-я гг. Сябра Музею і Залы славы кантры. Таксама быў уладальнікам бейсбольнага клуба, тэлевізійнага канала і некалькіх радыёстанцый.

зам мне пашанцавала паслухаць прамову Дуайта Эйзенхаўэра[224], калі той выступаў перад публікай у парку Лына. Эйзенхаўэр тады ўдзельнічаў у прэзідэнцкай гонцы і вёў сваю выбарчую кампанію, наведваючы розныя рэгіёны краіны.

Вельмі прыемныя ўспаміны засталіся ў мяне пра выпускны вечар. Дзеля гэтай урачыстасці я, безумоўна, апрануў гарнітур з гальштукам. На дзяўчыне, якую я запрасіў на выпускны баль, была вельмі прыгожая сукенка, да якой яна прышпіліла маленькі букецік. Танцавальная зала была святочна ўбраная. Радасна было бачыць вакол знаёмыя твары — сяброў, з якімі я больш ці менш блізка сышоўся за тыя тры гады, што правучыўся ў школе. У гэты развітальны вечар хацелася паспець паразмаўляць калі не з кожным, дык са многімі. Вечарына праходзіла вельмі прыемна. Большую частку часу мы з маёй дзяўчынай проста танцавалі. Але канец танцаў яшчэ не азначаў канца святкаванняў — прынамсі для мяне, маёй дзяўчыны і яшчэ адной маладой пары. Калі выпускны вечар скончыўся, я павёз нас чатырох на дзядзькавай машыне ў адзін з начных клубаў Бостана. Мы селі за столік, замовілі ежы і пітва. Не памятаю, колькі часу мы правялі ў начным клубе, але я адчуваў штосьці блізкае да эйфарыі і вельмі цешыўся, што мой выпускны вечар заканчваецца так цудоўна. Ніколі раней мне не даводзілася бываць у начных клубах, але мне тут спадабалася з першага разу. Я адразу вырашыў, што начны клуб — гэта найвыдатнейшае месца, каб з прыемнасцю правесці тут вечар.

Дзядзька, напэўна, даспеў да думкі, што надышоў час атрымліваць асалоду ад жыцця, і вырашыў інвеставаць у гэты праект частку з такой цяжкасцю заробленых грошай. Дзядзька купіў сабе за наяўныя грошы загарадны дом у Нью-Хэмпшыры[225], непадалёк ад мяжы з Масачусетсам. Дом стаяў на ўзвышшы пасярод лесу, і да яго можна было даехаць па пад'язной дарозе. За дарогай дол спускаўся ніжэй, і там было маленькае азярцо. Хоць яго трохі захіналі дрэвы, частку возера можна было бачыць непасрэдна з ганка дзядзькавага дома.

На другім баку возера ляжаў невялікі пасёлак, дзе жылі можа некалькі сотняў жыхароў. Тамсама знаходзіўся пясчаны грамадскі пляж, дзе можна было ўзяць напракат лодку з вёсламі. Я вельмі

---

[224] **Дуайт Дэвід Эйзенхаўэр** (англ. *Dwight David Eisenhower,* 1890–1969) — амерыканскі ваенны і палітычны дзеяч, генерал арміі, 34-ы прэзідэнт ЗША (1953–1961).

[225] **Нью-Хэмпшыр** (англ. *New Hampshire*) — невялікі штат у рэгіёне Новая Англія на паўночным усходзе ЗША. Сталіца — горад Канкорд.

любіў купацца ў возеры і загараць на пляжы. Калі мае сёстры і Філіс, дачка Садлераў, прыехалі ненадоўга пагасцяваць, мы ўсе каталіся па возеры на лодцы.

Мне вельмі падабаўся і ўтульны дзядзькаў катэдж, і прыгожая мясціна, дзе ён знаходзіўся. У доміку было дзве спальні, у кожнай з якіх стаяў вялікі камфортны ложак. Прасторная гасцёўня была ўмэбляваная мяккімі крэсламі і зручнай канапай. Быў там і ўмывальны пакой з душам і ваннай. На кухні стаялі сучасны халадзільнік, пліта і іншыя электрычныя прыборы. Яшчэ там была маленькая сталовая, дзе стаяў стол і крэслы. Хапала і ўбудаваных шафаў, каб пакласці рэчы. Вялікія вокны, што былі ў некалькіх пакоях дома, адкрывалі від на дзівосныя краявіды наваколля.

Спераду дома была драўляная веранда, прыўзнятая над зямлёй — яна трымалася на драўляных слупах. Абгароджаная акуратнымі драўлянымі парэнчамі, веранда нібыта запрашала пасядзець тут у спакоі і палюбавацца хараством прыроды. На верандзе стаялі крэслы і маленькі круглы столік, уніз да зямлі адсюль вялі драўляныя прыступкі.

Калі мы ехалі ў дзядзькаў загарадны дом, наш шлях ляжаў праз Лорэнс[226]. Калісьці ён быў адным з цэнтраў швейнай прамысловасці. Цяпер фабрыкі па пашыве адзення перабазіраваліся на поўдзень, і жыццё ў Лорэнсе пачало занепадаць. Многія з гарадскіх шматпавярховікаў стаялі пустыя, і гэта наводзіла сум і маркоту.

Але падарожжы ў Нью-Хэмпшыр давалі нам магчымасць пабачыць і мноства прыгожых амерыканскіх краявідаў. Адны толькі вялікія азёры з крышталёва чыстай вадой былі відовішчам, вартым подзіву! Зімой на азёрах утвараўся тоўсты слой лёду — для прафесійных нарыхтоўшчыкаў лёду гэта быў свайго кшталту клондайк.

Адзін раз мы спыніліся на беразе возера, каб паназіраць, як нарыхтоўваюць лёд. Рабочыя выпільвалі электрычнымі піламі ледзяныя кубы, а потым складалі іх на захаванне ў вялізны склад, перасыпаючы для лепшай ізаляцыі пілавіннем. Назіраючы за гэтым працэсам, я раптам узгадаў Марцінова. Ранейшы ўладальнік фальварка меў свой ледзяны склеп, рэшткі якога яшчэ захаваліся. Але мой бацька не лічыў лёд пільнай неабходнасцю ў гаспадарцы, таму ён не стаў будаваць сваю ўласную лядоўню.

У дзядзькавай сям'і пераважна гатавалі традыцыйную беларускую ежу, да якой і я быў прызвычаены. Напрыклад, усім нам

[226] **Лорэнсе** (англ. *Lawrence*) — горад у акрузе Эсэкс штата Масачусетс, на рацэ Мэрымак.

вельмі падабалася вяндліна. Вялікі кавалак вяндліны мы звычайна варылі з капустай, а потым елі гэтую страву некалькі дзён. Эдзі асабліва любіў край вяндліны з салам — ён казаў, што сала паляпшае смак мяса, і я з ім пагаджаўся. У асаблівых выпадках, калі дзядзьку прыходзіла фантазія пабыць кухарам, ён сам гатаваў каўбаскі, і для нас гэта быў ласунак. Я іх вельмі любіў, Эдзі таксама.

Час ад часу дзядзька браў мяне і Эдзі ў рэстаран. Сам ён найбольш любіў біфштэксы з натуральнага мяса. Яшчэ яму падабалася кітайская кухня, і ён часцяком адведваў адзін вельмі неблагі кітайскі рэстаранчык, які быў паблізу нас. Але калі дзядзьку хацелася біфштэксаў, мы ехалі ў рэстаран, які знаходзіўся на ўзгор'і — адтуль з абедзеннай залы адкрывалася цудоўная панарама з лугамі і лесам на заднім плане. Кожны раз, калі дзядзька запрашаў нас на абед у рэстаран, Эдзі вазіў нас туды на сямейным «кадзілаку».

Дзядзька імкнуўся не адставаць ад часу: у ягоным бары меўся тэлевізар, які стаяў высока ў куце, побач з перагародкай, што аддзяляла залу ад кухні. Я не быў вялікім аматарам тэлеперадачаў, мне больш падабалася кіно. Але было адно выключэнне: я любіў глядзець па тэлевізары бокс.Назіраць на двубоямі баксёраў было надзвычай цікава, і я вельмі стараўся не прапускаць ніводнага матча. Маім улюбёнцам быў Джо Луіс[227].

Яшчэ я любіў слухаць музыку па радыё, а таксама іншыя радыёперадачы — пераважна ток-шоу. Радыёпрыёмнік стаяў у маім пакоі, і я мог слухаць любыя праграмы, якія хацеў. Таксама мне падабалася мастацкая літаратура, і я нават запісаўся ў кніжны клуб, чытаў я пераважна раманы вядомых аўтараў.

Я прагнуў пачаць зарабляць уласныя грошы. Пачаў я з працы дыспетчарам на стаянцы машынаў у кінатэатры «Парамаўнт» у Лыне. Большую частку часу я праводзіў пад навесам перад заездам на стаянку — кіраваў машынамі, паказваў, каму куды ехаць. Яшчэ ў мае абавязкі ўваходзіла патруляваць стаянку, каб на яе не забраліся вандалы ці злодзеі. Наколькі я памятаю, мне плацілі семдзесят пяць цэнтаў у гадзіну. Гэта тады не падавалася мне мізэрнай платай. Білет у кінатэатр у тыя часы каштаваў 50 цэнтаў, і за гэты кошт можна было паглядзець два фільмы. Апрача таго, у мяне быў бясплатны пропуск у любы кінатэатр у Лыне. Мне вельмі падабаўся такі бонус да зарплаты! Я глядзеў адзін фільм за другім — на самыя розныя тэмы і ў самых розных жанрах.

---

[227] **Джо Луіс** (англ. *Joe Louis,* сапр. Джозэф Луіс Бэроў, 1914–1981) — амерыканскі баксёр-прафесіянал, абсалютны чэмпіён свету ў цяжкай вазе ў 1937–1949 гг.

Я бачыў, як гарцуе на кані Джын Отры, напяваючы знакамітае *«Ізноў сяджу ў сваім сядле…» («I am back in my saddle again…»).* Мяне зачароўвалі песні акцёра і спевака Марыё Ланца[228]. Адзін з фільмаў з ягоным удзелам я паглядзеў двойчы.

Праца на стаянцы была не самай кепскай для пачатку, але я ўсё ж спадзяваўся знайсці працу не на вуліцы, а ў памяшканні і каб за яе плацілі крыху больш. Не памятаю ўжо, як гэта атрымалася, але неўзабаве я пачаў падпрацоўваць у вялікай прамысловай пякарні. Яна называлася «Кушман Бэйкеры» (пякарня Кушмана), і ў ёй працавалі дзясяткі людзей. Пякарня знаходзілася ў Лыне, але ў індустрыяльнай частцы горада, то бок ад майго дома да яе трэба было прайсці немалы кавалак дарогі. Новая праца мне падабалася, а да таго ж мой працоўны расклад быў гнуткі, я мог змяняць яго пры патрэбе. Я працаваў пры машыне, якая мыла бляхі для выпечкі хлеба. Гэтая высокая, шырокая і доўгая машына, што ўвесь час шпурляла ў паветра струмяні пары, мела ўсярэдзіне транспарцёр, па якім бляхі марудна паўзлі ад аднаго канца да другога. Адзін чалавек стаяў пры пачатку транспарцёра і бесперапынна ставіў на яго брудныя бляхі, а другі стаяў пры канцы і мусіў паспяваць здымаць чыстыя бляхі з транспарцёра, складаць іх у стосікі па чатыры і ставіць на вазок, на якім потым бляхі вярталіся назад у пякарны цэх. Гэты другі чалавек і быў я. Праца была фізічна напружаная — праз некалькі гадзінаў мышцы спіны стамляліся і пачыналі балець.

Большасць работнікаў пякарні, уключаючы мяне, мусілі насіць уніформу: белыя палатняныя нагавіцы і кашулю з кароткім рукавом. Форму нам выдавалі ў пякарні, і ў кожнага з нас была свая маленькая шафка, дзе мы пакідалі сваё адзенне пасля таго, як перапраналіся ў рабочае.

У цэху, дзе стаялі печы, было страшэнна горача. Працаўнікі, якія ставілі бляхі з хлебам у печ, а потым даставалі з печы гатовы хлеб, былі абавязаныя праз кожныя паўгадзіны адпачываць пятнаццаць хвілінаў у сталовай, дзе быў уключаны кандыцыянер. Там, дзе працаваў я, было не такое пекла, але ўсё адно там было занадта горача, і немагчыма было вытрымаць такую працу працяглы час. Кожную гадзіну я і мой партнёр пры мыечнай машыне рабілі перапынкі і адпачывалі ў кафетэрыі, дзе было нашмат больш прахалодна. Да таго ж нам пашанцавала, што мыечныя машыны стаялі на другім паверсе, і мы маглі адчыняць вокны на вуліцу. Вулічная прахалода

---

[228] **Марыё Ланца** (англ. *Mario Lanza,* сапр. Альфрэда Арнольда Какоца, 1921–1959) — амерыканскі спявак (тэнар), акцёр.

падавалася такой прыемнай пасля гарачыні памяшкання! Гэта была амаль райская асалода.

Галоўным аздабленнем краявіду вакол пякарні быў вялізны комін нейкай фабрыкі, якая стаяла непадалёк ад нас. Відаць, гэтая фабрыка была зачыненая, бо з коміна ніколі не ішоў дым.

У пякарні мне плацілі ўжо даляр за гадзіну. Але ж у тыя часы даляр меў значна большую вартасць, чым цяпер, у XXI стагоддзі. Напрыклад, калі мне тады спатрэбілася паставіць пломбу, я заплаціў за яе дантысту тры даляры. Цалкам верагодна, што пазней мне крыху падвысілі заробак, але я не памятаю дакладна на колькі.

Непадалёк ад мяне ў пякарні працаваў чалавек, абавязкам якога было падрыхтоўваць ягады для пірагоў. Гэтаму дзядзьку было ўжо за пяцьдзясят. Ён прапускаў скрынкі з чарніцамі і іншымі ягадамі праз магнітную лавушку, і я быў уражаны, калі ўбачыў, колькі цвікоў і іншых металічных прадметаў было схавана паміж ягадаў.

Хоць мая новая праца патрабавала моцных фізічных высілкаў, я быў ёй задаволены. У мяне добра атрымоўвалася наладжваць кантакты з калегамі. З адным з іх, вялікім аматарам бокса, мы традыцыйна абменьваліся жартамі з нагоды запланаванага баксёрскага матча, у якім меліся браць удзел два найслаўуцейшыя баксёры ў цяжкай вазе — Джо Луіс і Рокі Марчыяна[229]. Марчыяна быў з паходжання італьянцам, як і гэты мой калега, таму не дзіва, што мой таварыш па працы палымяна падтрымліваў свайго суайчынніка. А я быў такім самым гарачым заўзятарам Джо Луіса. Мы заўсёды пацвельваліся адзін з аднаго, спрачаючыся, хто з нашых улюбёнцаў пераможа ў двубоі.

Адзін пажылы працаўнік пякарні любіў хваліцца сваімі сексуальнымі поспехамі сярод маладых прадстаўніц прыгожага полу. Я быў вельмі ўражаны ягонымі аповедамі. *«Ну і зух!* — думаў я. — *Мужчына ў ягоным веку — і калі ласка, валодае такой прыцягальнасцю для маладых жанчын. У чым жа ягоны сакрэт?»* Я шмат разважаў над гэтай таямніцай…

Мне здаецца, пякарня была някепскім месцам працы для яе персаналу. Не памятаю, каб хтосьці з работнікаў скардзіўся на працу альбо яе ўмовы. У пякарні працавала шмат пажылых людзей (дакладней, яны тады здаваліся мне пажылымі), якія працавалі тут шмат гадоў і нікуды не хацелі сыходзіць. Памятаю аднаго старога дзядзьку, які вярнуўся на працу пасля нейкай аперацыі — ён му-

---

[229] **Рокі Марчыяна** (англ. *Rocky Marciano,* 1923–1969) — амерыканскі баксёр-прафесіянал, чэмпіён свету ў цяжкай вазе (1952–1956).

сіў заўсёды насіць на сабе адмысловы мяшэчак, куды па трубках адводзіліся выдзяленні з ягонага цела.

Яшчэ памятаю аднаго маладога і амбітнага супрацоўніка, які захацеў паспытаць шчасця ў іншым месцы і перабраўся ў Каліфорнію. Але прабыў ён там нядоўга, хіба з месяц, пасля чаго вярнуўся на старое месца ў пякарню. Калі ў гэтага хлопца пыталіся, чаму ён вырашыў вярнуцца, ён адказваў так: на дарогах там заўсёды жахлівыя заторы, да працы дабірацца доўга, да таго ж адчуваеш сум па родных мясцінах. Карацей, на ягоную думку, выгоды ад пераезду не былі вартыя высілкаў.

У мяне засталіся вельмі прыемныя ўспаміны пра пякарню Кушмана. Не памятаю ніводнага разу, каб мне зрабіў заўвагу хтосьці з маіх непасрэдных начальнікаў. Што ж да таварышаў па працы, дык яны прынялі мяне ў свой калектыў як роўнага, і я добра пачуваўся ў іх асяроддзі. Адно толькі гэта (як я пераканаўся потым, калі пачаў працаваць у іншых месцах) ужо само па сабе вельмі важны складнік, каб адчуваць задавальненне ад працы. А калі ты сыходзіш з яе, не маючы зла ні на каго з былых супрацоўнікаў, ты заўсёды застаешся ў выйгрышы, бо пакідаеш сабе станоўчыя ўражанні.

Вядома ж, да працы ў пякарні я не быў прыкаваны, як да галеры. На адно лета я часова сышоў з пякарні, каб папрацаваць у падрадчыка, які займаўся ландшафтным будаўніцтвам. Адзін са сталых працаўнікоў гэтай ландшафтнай фірмы здымаў пакой у доме майго дзядзькі, і жыў ён якраз насупраць мяне. Мне здаецца, менавіта гэты чалавек паспрыяў таму, каб мяне прынялі ў ландшафтную кампанію на летні перыяд.

Нашая брыгада, у якую ўваходзіла некалькі чалавек, выконвала розныя работы па добраўпарадкаванні і азеляненні тэрыторыі ў сядзібах заможных людзей. Кожны дзень, вельмі рана, мы збіраліся каля дому нашага шэфа, а адтуль ехалі на ягоных машынах да месца працы. Падрадчык, апрача таго, што быў брыгадзірам і знаходзіў заказы, сам таксама выконваў цяжкую фізічную працу, ды яшчэ і вельмі энергічна — каб даць прыклад сваім падначаленым. Працаваць на вуліцы мне спадабалася ад самага пачатку. Праца была фізічная, але не да поўнага знямажання. Я мог выканаць тое, што ад мяне патрабавалася, не стамляючыся да паўсмерці. Больш за тое, ад працы ў ландшафтнай фірме я атрымаў і іншую нечаканую карысць. Я накачаў мышцы цела, мускулы на руках наліліся і сталі цвёрдымі. Для падлетка гэта было істотным плюсам!

Я заўсёды шукаў спосабы зарабіць крыху грошай — паўсюль, дзе толькі была магчымасць. Напрыклад, ідучы на пляж, я праходзіў міма аўтамыйні. Аднойчы я заўважыў аб’яву, што там шукаюць працаўніка на няпоўны дзень. Я прапанаваў свае паслугі,

і мяне прынялі. У мае абавязкі ўваходзіла выціраць вымытыя машыны. Я працаваў на аўтамыйні час ад часу, гадзіны па тры на раз. У канцы кожнай змены касір расплачваўся са мной наяўнымі.

Усім маім працадаўцам я быў вельмі ўдзячны, але хацеў бы зарабляць яшчэ больш. Дадатковы заробак я знайшоў, калі заняўся паліроўкай аўтамабіляў.

Фарба, якую выкарыстоўвалі для афарбоўкі машынаў у тыя часы, даволі хутка выцвітала, асабліва калі гаспадары мылі машыну нерэгулярна. А пасля некалькіх гадоў эксплуатацыі нават і частае мыццё не дапамагала вярнуць аўтамабілю ранейшы выгляд альбо зрабіць ярчэйшым выцвілы колер. Тут патрабавалася паліроўка. Спачатку машыну трэба было пачысціць спецыяльным сродкам, а потым паліраваць да бляску. Маімі заказчыкамі былі сталыя дзядзькавы кліенты. Я паліраваў іх машыны на стаянцы, што знаходзілася ззаду бара. Каб адпаліраваць адну машыну, патрабавалася каля трох гадзінаў вельмі напружанай працы, і я звычайна браў за такую паслугу 15 даляраў. Я нават падумваў над тым, каб пачаць рэкламаваць свой сэрвіс сярод багатых жыхароў прыгарадаў. Аднак пасля некаторага роздуму я адмовіўся ад гэтай ідэі: яна не выглядала практычнай, бо мне давялося б занадта далёка ездзіць да заказчыкаў.

Амерыка, зямля маіх надзей, паспела даць мне нямала карыснага працоўнага досведу, але я ўсведамляў таксама, што без адукацыі не абысціся. Я быў перакананы, што мне абавязкова трэба вучыцца далей пасля школы.

Класічная сярэдняя школа Лына, дзе я вучыўся і якую закончыў, знаходзілася ў цэнтры горада, непадалёк ад Лын Комонз[230]. Ад дзядзькавага дома да школы было сем хвілінаў хады хуткім крокам. Школьны будынак быў цагляны, шматпавярховы, ён вылучаўся прыгожым імпазантным фасадам. Знадворку школа была пафарбаваная ў белы колер. Будынак налічваў некалькі дзесяцігоддзяў, але і класы, і офісы, і лесвіцы былі ў выдатным стане. За тыя тры гады, што я правучыўся ў школе, да яе ззаду далучылі прыбудову, у якой размясціліся дадатковыя класы і спартовая зала. Я надзвычай узрадаваўся, калі спартовая зала адчынілася і мы змаглі яе наведваць.

Паколькі я збіраўся працягваць адукацыю пасля школы, я вырашыў вывучаць усе школьныя прадметы ў аб'ёме, неабходным для паступлення ва ўніверсітэт. Сярод прадметаў былі геаметрыя,

---

[230] Магчыма, маецца на ўвазе найстарэйшы раён горада Лын — *Lynn Common Historic District* — са скверам, што быў закладзены яшчэ ў XVII ст.

хімія, фізіка і французская мова. Французская мова была замежнай мовай, абавязковай для вывучэння. Я з радасцю вывучаў бы замест яе нямецкую, але, на жаль, нямецкая мова знікла са школьнай праграмы пасля таго, як Злучаныя Штаты ўступілі ў вайну з Германіяй. Алгебра таксама была абавязковым прадметам для паступлення ў ВНУ, і паколькі раней я ніколі не вывучаў алгебры, мне далі настаўніка, які займаўся са мной па індывідуальнай праграме. Яшчэ у мяне быў такі прадмет, як прамысловы краслюнак, дадатковым плюсам якога была спакойная і ненапружаная атмасфера ў класе. Але самымі любімымі былі ўрокі гісторыі.

Што ж да ўрокаў англійскай мовы, дык яны, безумоўна, мелі для мяне першаступенную важнасць. Я пачаў захапляцца замежнымі мовамі, яшчэ калі падарожнічаў па Еўропе. Памятаю, як мне было прыемна, калі ў мой самы першы год у гэтай школе настаўнік пахваліў мяне перад усім класам за твор, напісаны паводле «Аповеду пра два гарады» Чарльза Дыкенса[231]. Гэты раман уваходзіў у школьную праграму. Пазней, у старэйшых класах, сярод абавязковых для чытання твораў былі «Дом з сямю франтонамі» Натаніэла Готарна[232] і «Мяцеж на Баўнці»[233]. Першы з пералічаных раманаў мне вельмі спадабаўся.

Калі я вучыўся ў выпускным класе, я далучыўся да арганізацыі, якая называлася «Юнацкія дасягненні»[234]. Спонсарамі гэтай арганізацыі былі бізнесмены, а яе мэтай — увесці маладых людзей у свет бізнесу пасля заканчэння школы. Мяне выбралі старшынёй арганізацыі. Я не хацеў гэтай пасады і не дабіваўся яе, але астатнія ўдзельнікі прагаласавалі за мяне і пераканалі мяне пагадзіцца з вынікамі галасавання. Мы збіраліся на свае пасяджэнні ў камерцыйным будынку непадалёк ад школы, дзе нам выдзелілі па-

---

[231] **Чарльз Дыкенс** (англ. *Charles John Huffam Dickens,* 1812–1870) — брытанскі пісьменнік, раманіст. Раман «Аповед пра два гарады» (*A Tale of Two Cities*), прысвечаны падзеям Французскай рэвалюцыі, быў выдадзены ў 1859 г.

[232] **Натаніэль Готарн** (англ. *Nathaniel Hawthorne,* 1804–1864) — амерыканскі пісьменнік, навеліст. Ягоная гатычная навела «Дом з сямю франтонамі» (*The House of the Seven Gables*) убачыла свет у 1851 г.

[233] Пра паўстанне на «Баўнці» пісалі розныя аўтары. Вядомыя творы Жуля Верна і Чарльза Нордхафа ды Джэймса Нормана Хола.

[234] **«Юнацкія дасягненне»** (англ. *Junior Achievement*) — моладзевая арганізацыя, заснаваная ў 1919 г. Мае на мэце фармаванне фінансавай пісьменнасці ў моладзі, выяўленне прадпрымальніцкіх здольнасцяў і г. д. Сёння гэтая арганізацыя аб’ядноўвае больш за 10 мільёнаў студэнтаў у розных краінах свету.

мяшканне. На пасяджэннях мы абмяркоўвалі нашыя мэты, потым будавалі планы, як гэтых мэтаў дасягнуць, потым разбіралі вынікі нашай дзейнасці, ну і заадно проста з прыемнасцю бавілі час. Я хацеў бы расказаць вам крыху больш дэталёва, што ж канкрэтнага мы рабілі, але, на жаль, усе дэталі выпарыліся з памяці.

Тое, што мяне прынялі ў сваё кола аднакласнікі, мне было надзвычай прыемна. Уявіце сабе, што гэта значыла для навічка, нядаўняга перасяленца з іншай краіны, якому напачатку цяжка давалася англійская мова, — быць прынятым у калектыў равеснікаў і адчуваць сябе там роўным сярод роўных!

У мяне пачалі з’яўляцца рамантычныя пачуцці да некаторых маіх аднакласніцаў. Была сярод іх адна, прыгожая бландзінка, якая моцна распаляла маю фантазію. Я ўяўляў яе багіняй кахання. Я сніў пра яе сны, у якіх яна была са мной у ложку і наш секс заканчваўся аргазмам небывалай магутнасці. І аднак у рэальнасці я так і не наважыўся запрасіць яе на спатканне. Час ад часу я хадзіў на спатканні з іншымі дзяўчатамі, але гэта было проста баўленне часу, і ніводнае такое знаёмства не перарасло ў больш грунтоўныя адносіны. У тую пару майго жыцця я пастанавіў устрымлівацца ад сур’ёзных дачыненняў з дзяўчатамі. Я бачыў перад сабой новыя далягляды, і я хацеў мець наперадзе дарогу, вольную ад перашкодаў.

Не ў маім характары было шукаць увагі публікі, дый цяпер я застаўся такім самым, не вельмі публічным чалавекам. Але ж аднойчы, калі я вучыўся ў старэйшых класах школы ў Лыне, я патрапіў у цэнтр увагі міжволі. Мясцовая радыёстанцыя захацела ўзяць у мяне інтэрв’ю. Я так панікаваў перад мікрафонам, што і да сёння тое пачуццё страху не выветрылася з маёй памяці. А вось што выветрылася незваротна — гэта імя чалавека, які запрасіў мяне на інтэрв’ю, а таксама ці меў ён якоесьці дачыненне да нашай школы. Але горш за ўсё — я абсалютна не памятаю, пра што ў нас была гаворка. Магу толькі выказаць здагадку, што тэма інтэрв’ю была неяк павязаная з маім статусам нядаўняга імігранта. Яшчэ памятаю, што інтэрв’юер загадзя даў мне паперку, дзе былі надрукаваныя адказы на пытанні, якія ён меўся задаваць.

Яшчэ пазней, у апошнім класе школы, мяне запрасілі на тэлестудыю разам з іншымі гасцямі: мы павінны былі ўдзельнічаць у дыскусіі і адказваць на пытанні. Выступаць перад тэлекамерай я баяўся не менш, чым перад мікрафонам. І вядома ж, цяпер я таксама не магу прыпомніць ніводнага з пытанняў, якія мне задавалі, а таксама ніводнага са сваіх адказаў. Гэтым разам мне ўжо не далі ніякай паперкі з гатовым тэкстам, я мусіў думаць на хаду і выкручвацца сам!

Хоць гэтыя два інтэрв'ю — радыйнае і тэлевізійнае — пакінулі ва мне адчуванне, блізкае да правалу, праз шмат дзесяцігоддзяў у мяне з'явілася магчымасць рэабілітавацца перад самім сабой. У 2000 годзе, падчас майго пяцітыднёвага падарожжа па Еўропе, у мяне ўзяла інтэрв'ю Ада Чачуга, карэспандэнтка беларускай газеты «Ніва»[235], якая выходзіла (і выходзіць) у польскім Беластоку. Інтэрв'ю было доўгае, але ўвесь гэты час я адчуваў сябе вольна і нязмушана. Нават адказваючы на балючыя пытанні пра перажытыя ў дзяцінстве жахі і пакуты, я не страціў валодання сабой. Пасля інтэрв'ю Ада зрабіла некалькі здымкаў у пакоі рэдакцыі, а потым папрасіла мяне выйсці на вуліцу і сфатаграфавала на фоне беластоцкай праваслаўнай кафедральнай царквы. Выкарыстоўваючы мае адказы на пытанні, здымкі і тую інфармацыю, якую я пазней даслаў Адзе поштай, яна напісала пра мяне серыю артыкулаў для «Нівы»[236].

Не памятаю, каб за час маёй вучобы ў школе ў Лыне там былі якія-небудзь сур'ёзныя праблемы з дысцыплінай сярод вучняў. Безумоўна, як і ў кожнай школе, тут былі свае пракуднікі, з якімі даводзілася разбірацца дырэктару. Але дырэктар, містэр Барклей, валодаў амаль чараўнічай здольнасцю наводзіць парадак у калектыве школьнікаў. Нават калі шмат вучняў з некалькіх класаў збіраліся разам на сход, яму дастаткова было выгукнуць: *«Ціха!»* — і ў памяшканні адразу запаноўвала мёртвая цішыня. Вучні паважалі містэра Барклея, і да гэтай павагі прымешвалася здаровая доля боязі. У школьнай сталовай ніколі не бывала гармідару. Не памятаю, каб вучні, дурэючы, кідаліся талеркамі з ежай альбо каб там усчыналіся бойкі. Такія паводзіны больш характэрныя для сучаснай школы.

Некаторыя са старшакласнікаў пачалі курыць ужо ў школьныя гады. Яны прыносілі ў школу цыгарэты, і на перапынках прыбіральня была перапоўненая курыльшчыкамі. Безумоўна, школьная адміністрацыя пра гэта ведала, але не ўсчынала скандалу, што было разумнай тактыкай. Урэшце, задачай школы ёсць адукоўваць дзяцей, а не спрабаваць выправіць іх шкодныя звычкі.

За ўсе тры гады, што я правучыўся ў старэйшых класах школы, я ні разу не меў канфліктаў ні з кім. І ў мяне не ўзнікла непрыязі ні да каго з вучняў майго класа. Наадварот, я адчуваў сябе так, нібы мы ўсе належалі да адной вялікай сям'і. Я прыязджаў у Лын на

---

[235] **«Ніва»** — беларуская газета, што выдаецца у Беластоку (Польшча) ад 1956 г.

[236] Артыкулы Ады Чачугі «Чалавек з Тэхаса» друкаваліся ў пяці нумарах газеты «Ніва» ад 2 да 30 ліпеня 2000 г.

сустрэчу аднакласнікаў у чэрвені 2003 года — на пяцідзесяцігоддзе нашага выпуску. А таксама на пяцідзесяціпяцігоддзе, у 2008 годзе. Было сумна бачыць, як радзеюць шэрагі былых аднакласнікаў. Час бяжыць наперад, яго нельга папрасіць не спяшацца…

Большасць вучняў нашай школы былі белыя. На ўсю школу было, можа, шэсць чорных вучняў. Сярод іх быў хлопец выключных здольнасцяў, яго звалі Эдвард Робінсан. Эдвард быў абраны прэзідэнтам нашага выпускнога класа ў 1953 годзе. Я сышоўся з Эдам бліжэй, бо мяне захапляла ягоная дружалюбнасць і адкрытасць. Мы шмат размаўлялі, а зрэдку я прасіў яго прачытаць мае пісьмовыя работы і выказаць сваю думку пра іх. Пасля школы Эд атрымаў стыпендыю на вучобу і паступіў у Гарвардскі ўніверсітэт. Ён вывучаў там медыцыну. Атрымаўшы дыплом доктара, Эд пайшоў працаваць радыёлагам у шпіталь Сэйлема і працаваў там да самага выхаду на пенсію.

Дзядзька быў вельмі ўсцешаны, калі я закончыў сярэднюю школу. На ўспамін пра гэтае дасягненне ён падарыў мне залаты наручны гадзіннік. Я насіў той гадзіннік шмат гадоў, а калі ён перастаў хадзіць, я ўсё адно бярог яго як памятку. І толькі ў канцы 1970-х, калі кошты на золата ўзляцелі, я занёс гадзіннік у скупку і прадаў. Цяпер я пра гэта шкадую.

Стрыечны брат Эдзі таксама павіншаваў мяне з заканчэннем школы і вельмі мяне хваліў. Ён любіў паўтараць: *«Паглядзіце на гэтага хлопца, які амаль не ўмеў размаўляць па-англійску, калі прыехаў у Штаты, — і вось ён ужо паспяхова закончыў школу, у той час як многія падлеткі, што нарадзіліся і выраслі ў Амерыцы, не ў стане гэтага зрабіць!»*

Пасля выпускной вечарыны дзядзька пачаў заводзіць гаворку наконт нашых планаў на будучыню. Як высветлілася, дзядзька паспеў ужо выбраць прафесіі мне і маім сёстрам: ён хацеў, каб я стаў пажарным, а Фаіна і Ніна — медсёстрамі (*«нурскамі»*). Дзядзькава захапленне прафесіяй медсястры пачалося, калі ў яго ўзніклі праблемы з сэрцам, і яму давялося правесці некалькі дзён у шпіталі. Медсёстры настолькі добра клапаціліся пра яго, што дзядзька цвёрда вырашыў: Фаіна і Ніна мусяць абавязкова вывучыцца на *«нурсак»*.

Што датычыць мяне, дык у мяне ніколі і думкі і не было, каб зрабіцца пажарным. Я хацеў вучыцца далей, не спыняючыся на ўзроўні сярэдняй школы. Калі дзядзька даведаўся пра мае намеры, ён хоць і неахвотна, але пагадзіўся з імі. Ён нават даў мне зразумець, што мог бы дапамагчы мне плаціць за далейшую адукацыю. Аднак я не падтрымаў гэтай ідэі, бо не хацеў далей залежаць ад дзядзькі, а вырашыў сам распараджацца сваім лёсам. Да таго ж я

лічыў, што дзядзька і так ужо зрабіў для мяне вельмі шмат. Прыйшоў час рабіцца самастойным.

Неўзабаве пасля заканчэння школы я падаў дакументы ў «Бостан коледж»[237] і Паўночна-ўсходні ўніверсітэт — «Норсістэрн юнівэрсыты»[238] (абедзве навучальныя ўстановы знаходзяцца ў Бостане). Мяне прынялі ва ўніверсітэт. Грошай на вучобу ў мяне было няшмат — толькі тое, што ўдалося адкласці з уласных заробкаў у школьныя гады. Аднак ва ўніверсітэце існавала так званая кааператыўная праграма, дзе студэнты паўгода вучыліся, а другую палову года працавалі там, куды іх уладкоўваў універсітэт. Такая праграма пасавала мне як нельга лепей.

Увосень 1953 года я пачаў заняткі ў Паўночна-ўсходнім універсітэце на будаўнічым факультэце ў якасці студэнта кааператыўнай праграмы. Вельмі хутка я зразумеў, што мне бракуе матэматычнай падрыхтоўкі, каб паспяхова навучацца на інжынернай спецыяльнасці. Не марнуючы часу, я кінуў будаўнічы факультэт і запісаўся на факультэт гуманітарных навук. Але пачаць заняткі на гуманітарным факультэце можна было толькі пад канец года, таму я вымушаны быў зрабіць перапынак у вучобе. Я не губляў аптымізму і вельмі чакаў таго дня, калі зноў увальюся ў шэрагі студэнтаў.

Пакуль тое, я знайшоў сабе працу на поўны дзень — на адной са швейных фабрык Лына, у службе дастаўкі. Фабрыка размяшчалася на трэцім паверсе будынка былой гарбарні — раней гэтая галіна прамысловасці працвітала ў Масачусетсе. Пасля таго як на прадпрыемствах пачалі з’яўляцца кандыцыянеры, гарбарні перакінулі сваю вытворчасць у іншыя раёны Злучаных Штатаў. Будынак, дзе цяпер знаходзілася швейная фабрыка, быў адным з некалькіх спарудаў-блізнятаў, цяпер часткова апусцелых. Яны стаялі, як прывіды эпохі, што адышла ў нябыт.

На фабрыцы рупліва шчыравалі некалькі дзясяткаў спрактыкаваных швачак. Швейныя машынкі, якія стаялі ў цэху паўсюль, працавалі з каркаломнай хуткасцю. Калі б я не пабачыў іх на свае вочы, я ніколі не паверыў бы, што можна шыць у такім шалёным тэмпе! Гэта было яшчэ адным новым досведам для мяне, яшчэ адным адкрыццём. Але свае абавязкі я выконваў без спешкі і без

[237] **Бостанскі коледж** (англ. *Boston College*) — прыватны езуіцкі каталіцкі даследчы ўніверсітэт, што знаходзіцца ў Чэснут Хіл (*Chestnut Hill*) у заходнім прыгарадзе Бостана.

[238] **Паўночна-ўсходні ўніверсітэт** (англ. *Northeastern University*) — прыватны даследчы ўніверсітэт у Бостане. Універсітэт вядомы праграмай, паводле якой студэнты навучаюцца цягам васьмі семестраў і працуюць поўны працоўны дзень цягам трох семестраў.

асаблівай напрузі. Менеджару, без сумневу, падабалася, як я працую, і ён быў вельмі расчараваны, калі надышоў мой час аднавіць заняткі ва ўніверсітэце, і я быў вымушаны сысці з фабрыкі.

Праграма гуманітарнага факультэта падабалася мне і была мне цалкам пад сілу. Сярод прадметаў, якія я вывучаў, былі англійская і нямецкая мовы, дзейнасць амерыканскага ўрада і *«агульная навука»* (яе курс уключаў у сябе элементы біялогіі, фізікі, хіміі і прыродазнаўства). Апрача таго, я запісаўся на ўніверсітэцкі курс падрыхтоўкі афіцэраў запасу (*ROTC — Reserve Officers' Training Corps*). Усім курсантам там выдавалі форменнае верхняе адзенне кшталту паліто, і гэта мне вельмі падабалася, бо для халодных бостанскіх зімаў паліто было найлепшай вопраткай. Аднак вучоба ў школе падрыхтоўкі афіцэраў у мяне не пайшла. Пасля таго як я мне паставілі нездавальняючыя адзнакі за фізічную падрыхтоўку, я кінуў гэты курс.

Калі на лекцыях па «агульнай навуцы» мы праходзілі астраномію, наш прафесар правёў адзін урок пад адкрытым небам: у бясхмарную ноч мы сабраліся разам і разглядалі зорнае неба. Памятаю, што я адмыслова для гэтага ехаў з Лына на цягніку, а потым на метро. Прафесар вывёў нас на дах аднаго з універсітэцкіх будынкаў, каб мы маглі ўбачыць ва ўсёй прыгажосці Боскі сусвет, які расхінуўся над нашымі галовамі. Якое гэта было дзівоснае відовішча!

Лекцыі ва ўніверсітэце не ішлі адна за адной няспыннай чарадой. Калі ў мяне надараўся вольны час, я зазвычай праводзіў яго ва ўніверсітэцкай бібліятэцы. А яшчэ я падоўгу заседжваўся ў чытальнай зале, якая называлася «Настаўнік хрысціянскай навукі» (*The Christian Science Monitor*). Гэтая чытальня знаходзілася на авеню Хантынгтан, зусім недалёка ад універсітэта.

Дабірацца з Лына ў Бостан і назад аказалася няпростай задачай. Спачатку я далучыўся да сеткі «кар-пул» — гэта калі некалькі чалавек дамаўляюцца ехаць на працу ці з працы ў адной машыне, эканомячы грошы на бензін і памяншаючы заторы на дарогах. Разам з маімі спадарожнікамі я даязджаў да пэўнага месца ў Бостане, адкуль дабіраўся ва ўніверсітэт на трамваі. У цэнтры Бостана трамваі хадзілі пад зямлёй, а бліжэй да ўскраінаў выходзілі на паверхню. Прыпынак трамвая быў якраз насупраць Паўночна-ўсходняга ўніверсітэта.

Пазней я пазнаёміўся з адным студэнтам універсітэта, які ездзіў на заняткі з Лына на сваім аўтамабілі. Я запытаўся, ці не мог бы я ездзіць разам з ім, і ён пагадзіўся. Спачатку ўсё ішло добра, але потым кіроўца ўзяўся падвозіць яшчэ аднаго пасажыра. Паводзіны гэтага нашага трэцяга спадарожніка былі, вельмі мякка кажучы,

вартымі асуджэння. Доўга цярпець такое я не мог, а таму знайшоў іншы спосаб дабірацца да ўніверсітэта: я пачаў ездзіць у Бостан з Лына на цягніку, а на вакзале перасаджваўся на трамвай. Неўзабаве я пераканаўся, што найлягчэйшым спосабам даезду ва ўніверсітэт для мяне быў менавіта грамадскі транспарт.

Калі першы навучальны семестр у кааператыўнай праграме закончыўся, мяне накіравалі на працу. Працаваць мне давялося ў фірме, якая вырабляла медыцынскае абсталяванне. Яна знаходзілася ў Кембрыджы[239] — гарадку, што ляжыць якраз насупраць Бостана, па другі бок рэчкі Чарльз (Чарльз Рывэр)[240]. Фірма давала сваім супрацоўнікам вельмі добрыя працоўныя бонусы. Работнікі, якія адпрацавалі тут шмат гадоў, мелі права на штогадовы аплочваны паўтарамесячны адпачынак. Паколькі я быў часовым працаўніком, на мяне ўсе гэтыя даброты і выгоды не распаўсюджваліся. Хоць тое, што працоўныя ўмовы былі добрыя і ў калектыве да мяне ставіліся з павагай, было для мяне вельмі важна. Аднак існаваў адзін вялікі мінус. Праца, якую мне даручылі рабіць, — збіраць нейкія вузлы для медыцынскага абсталявання — была нудная да немагчымасці. Адзіным суцяшэннем было ўсведамленне, што гэтая праца — толькі часовая.

Я мог справіцца з цяжкасцямі даезду ва ўніверсітэт, але не мог вытрымаць нудоты на працы. І гэта прывяло да паваротнага пункту ў маім жыцці. Я вырашыў спыніць вучобу ва ўніверсітэце і пайсці ў амерыканскае войска. Служба ў войску, я лічыў, пойдзе мне толькі на карысць. Апрача таго, пасля дэмабілізацыі, згодна з папраўкамі да Канстытуцыі, я меў права на льготы — дзяржава часткова аплочвала дэмабілізаваным вайскоўцам іх далейшае навучанне.

8 лютага 1954 года я стаў натуралізаваным грамадзянінам Злучаных Штатаў Амерыкі. Гэтая памятная цырымонія адбылася ў Бостане, а праз некалькі дзён я адрапартаваў аб прыбыцці на армейскі прызыўны пункт у тым самым горадзе. Неўзабаве мяне накіравалі ў форт Дыкс[241],

---

[239] **Кембрыдж** (англ. *Cambridge*) — горад у штаце Масачусетс, праз раку ад Бостана. Тут знаходзяцца дзве сусветна вядомыя вышэйшыя навучальныя ўстановы: Гарвардскі ўніверсітэт і Масачусецкі тэхналагічны інстытут.

[240] **Рака Чарльз** (англ. *Charles River*) — рака ў штаце Масачусетс, цячэ праз Бостан і Кембрыдж, упадае ў Бостанскую бухту. На яе берагах знаходзяцца згаданыя вышэй дзве знакамітыя навучальныя ўстановы.

[241] **Форт Дыкс** (англ. *Fort Dix*) — амерыканскі вайсковы аб’ект, сёння частка Аб’яднанай базы МакГуайр — Дыкс — Лэйкхарст (*Joint Base McGuire-Dix-Lakehurst*). Форт Дыкс быў заснаваны як вайсковы лагер у 1917 г. за 25 км ад Трэнтана ў штаце Нью-Джэрсі. У 1947 г. стаў асноўным навучальным цэнтрам і базай 9-й пяхотнай дывізіі.

што ў штаце Нью-Джэрсі[242]. Там халоднай нью-джэрсійскай зімой я прайшоў курс базавай вайсковай падрыхтоўкі. Пасля заканчэння «вучэбкі» я быў залічаны ў якасці лінгвіста ў Першы амерыканскі батальён псіхалагічных прыёмаў вядзення вайны. Батальён дыслакаваўся ў форце Брэг[243] (штат Паўночная Караліна) і знаходзіўся ў складзе 77-га палка войскаў спецыяльнага прызначэння.

*Студзень 2011 года*

## 19. У АРМЕЙСКІХ БОТАХ

Мая вайсковая служба пачалася ўвосень 1954 года ў форце Дыкс, штат Нью-Джэрсі. Курс маладога байца прыпаў якраз на час халоднай зімы, характэрнай для паўночна-ўсходніх штатаў Амерыкі. Мяне залічылі ў роту пад нумарам 474 ААА. Пасля прыбыцця ўсім навабранцам выдалі палявую форму амерыканскага войска. Сярод іншых рэчаў там былі пара скураных ботаў, доўгія ваўняныя шкарпэткі з начосам і зімовая куртка з капюшонам. Бліжэй да заканчэння пачатковага трэнінгу мы атрымалі таксама парадную вайсковую форму.

Мы жылі ў драўляных двухпавярховых казармах часоў Другой сусветнай вайны. Праз дарогу ад нашай казармы знаходзілася гаўптвахта, тэрыторыя якой была абгароджаная плотам з калючага дроту, а на вышках па перыметры стаялі вартаўнікі. Гэтая турма для вайскоўцаў была прыкметным арыенцірам форта Дыкс, таму яна запала мне ў памяць.

Знутры казарма ўяўляла з сябе адно суцэльнае жылое памяшканне, за выключэннем двух асобных пакояў, што знаходзіліся ў канцы, адзін насупраць другога, і прызначаліся для унтэр-афіцэраў. На другім канцы казармы была ўмывальня з рукамыйнікамі, люстэркамі, унітазамі і душамі. А ўсю прастору пасярэдзіне займалі металічныя двух’ярусныя ложкі для навабранцаў. Ложкі стаялі перпендыкулярна да сценаў, яны былі засланыя бялізнай і накрытыя аліўкава-зялёнымі вайсковымі коўдрамі. Перад кожным

---

[242] **Нью-Джэрсі** (англ. *New Jersey*) — штат на паўночным усходзе ЗША, сталіца — горад Трэнтан. Штат з найвялікшай шчыльнасцю насельніцтва ў ЗША.

[243] **Форт Брэг** (англ. *Fort Bragg*) — адна з найгалоўнейшых вайсковых базаў Арміі ЗША, размешчаная ў акрузе Камберленд у штаце Паўночная Караліна. Заснаваная ў выглядзе вайсковага лагера ў 1918 г. Сёння займае тэрыторыю ў 650 км$^2$.

ложкам меўся драўляны куфар вышынёй з паўметра, дзе салдаты трымалі свае асабістыя рэчы.

У кожнай казарме была свая ўласная печ, якая стаяла ў асобным памяшканні (я называў яго бойлерным пакоем). Уваход у бойлерны пакой быў толькі з вуліцы. Ад печы, якую прапальвалі вугалем, награвалася і сама казарма, і вада ва ўмывальніку. Салдаты, што жылі ў казарме, мусілі па чарзе дзяжурыць у бойлерным пакоі, каб і ўдзень, і ўначы падтрымліваць агонь у печы. Не памятаю, каб мяне хоць раз паставілі на такое дзяжурства.

Наш дзень пачынаўся з гоману і мітусні. Раніцай, яшчэ да світанку, нас будзіў гук сігнальнай трубы. Неўзабаве ўсю казарму навылёт праходзіў сяржант, гарлаючы: *«Rise and shine troopers!»* — *«Салдаты, пад'ём!»* (*«Rise and shine»* — гэта ўстойлівы выраз, які літаральна азначае *«ўставай і ззяй»*.) Каб быць гатовым да каманды *«Стаць у шыхт!»*, я хуценька бег ва ўмывальны пакой, імкнучыся апярэдзіць астатніх. Трэба было паспець пагаліцца, пачысціць зубы, апрануцца і засцяліць ложак. На вуліцы мы ставалі шыхтом. Сяржант зачытваў спіс: якую працу або якія заняткі мусіў рабіць сёння кожны звяз. Закончыўшы абвесткі, ён выгукаў, што рота можа разысціся. Тады ўся гурма салдатаў спяшалася ў сталовую на сняданак. Стоячы ў чарзе адзін за адным, мы даволі хутка прасоўваліся да месца, дзе армейскія кухары ў белых халатах раздавалі металічныя падносы з ежай.

Важнай складовай часткай базавага трэнінгу была інтэнсіўная фізічная падрыхтоўка. Мы адціскаліся і качалі прэс, аж пакуль ужо больш не маглі паварушыцца. Каб спраўдзіць нашую фізічную загартаванасць, нам зладзілі выпрабаванне: марш-кідок на чатыры мілі (шэсць з паловай кіламетраў), без перапынку і з поўнай выкладкай. Гэта аказалася нялёгкай задачай. Такія самыя, як і я, маладыя салдаты, што беглі побач са мной, пыхцелі і хапалі ротам паветра. Я ж дыхаў нармальна і нават не адчуваў сябе стомленым. У мяне з сабой быў фотаапарат, і я забег наперад калоны, каб зрабіць фатаграфію на памяць (гэты здымак дагэтуль захоўваецца ў маім вайсковым альбоме). Мне было вельмі прыемна, калі мае сябры-навабранцы хвалілі мяне потым, кажучы, што я выдатна паказаў сябе на маршы.

На адным з маіх вайсковых здымкаў відаць таксама, як мы абедаем, апранутыя ў нашыя курткі з капюшонамі і седзячы на зямлі пад голымі зімовымі дрэвамі. Ніколі раней у жыцці мне не даводзілася есці на вуліцы ў такія моцныя халады. Аднак я адразу прывык да гэтых абедаў у палявых умовах і не бачыў у іх нічога надзвычайнага.

Быў адзін від вайсковай падрыхтоўкі, які мне падабаўся найбольш: стралянне па мішэнях. Мы практыкаваліся ў стралянні на палігоне, пачаўшы са сціплай дыстанцыі ў сотню ярдаў (дзевяноста метраў) і паступова павялічваючы яе да трохсот ярдаў (дзвесце семдзесят пяць метраў). У канцы палігона быў вялізны насып, перад якім устанаўліваліся мішэні. Мы па чарзе бегалі туды, каб замяніць скарыстаную мішэнь на новую. Трэба было вызваліць старую мішэнь з трымальніка, пацягнуўшы яе ўніз, а потым прымацаваць на яе месца новую для наступнага салдата. Акоп, дзе стаялі падстаўкі з мішэнямі, быў сыры, заплесневелы, і там вадзіліся павукі чорныя ўдовы[244].

Страляць па мішэнях у мяне атрымлівалася выключна добра. З адлегласці дзвесце ярдаў са становішча лежачы я ўсаджваў адну кулю за другой у самае яблычка. Нават і з трохсот ярдаў я цэліў дакладна ў цэнтр мішэні. Ва ўмовах вайны, як пехацінец на перадавой, я быў бы ідэальным кандыдатам на снайпера. І я вельмі ганарыўся тым, што камандзір роты адзначыў мае поспехі і назваў мяне чэмпіёнам у трапным стралянні.

Штодня мы займаліся фізічнай і страявой падрыхтоўкай на тэрыторыі нашай вайсковай часткі. Мы шыхтаваліся і мусілі зладжана выконваць каманды сяржанта: *«Рота, зважай!», «Направа — раўнуй!», «Крокам руш!»* і іншыя. Да гэтага ўсяго я прызвычаіўся адразу і прыняў як належнае. Але што мне не падабалася ў пачатковым вайсковым трэнінгу, дык гэта так званае курынае дзярмо (*chicken shit*) — розныя бессэнсоўныя і бескарысныя віды працы, якія сяржанты прыдумлялі для нас, абы мы заўсёды былі чымсьці занятыя.

Падчас Калядаў на тэрыторыі нашай вайсковай базы паказвалі кіно «Белыя Каляды»[245] з Бінгам Кросбі[246] ў галоўнай ролі. Гэтая кінастужка настолькі мне спадабалася, што я назаўсёды запомніў словы з песні, аднайменнай з назвай фільма:

Я мрою Калядой белай.
Так, як раней, спакон, здавён,

---

[244] **Чорная ўдава** — смяротна небяспечны від павукоў, распаўсюджаны ў Паўночнай Амерыцы, Аўстраліі і Акіяніі.

[245] **«Белыя Каляды»** (англ. «*White Christmas*») — музычная калядная кінастужка рэжысёра Майкла Кёрціса, знятая кінастудыяй «Парамаўнт» у 1954 г.

[246] **Бінг Кросбі** (англ. *Bing Crosby*, 1903–1977) — амерыканскі спявак і акцёр, адзін з найбольш паспяховых выканаўцаў у ЗША (41 яго песня займала першае месца ў хіт-парадах).

Дзе ў срэбры вецце, і любяць дзеці
Паслухаць санных бомаў звон.
Я мрою Калядой белай.
Пішу ў паштоўках праз гады:
Вясёлых святаў усім вам,
І Калядаў белых вам заўжды[247].

Тады, у войску, гэтыя радкі ўскалыхнулі ва мне цёплыя ўспаміны пра Каляды. У якіх толькі месцах і пры якіх толькі абставінах мне ні даводзілася іх сустракаць! І я раптам зразумеў: дзе б ты ні знаходзіўся, на Каляды ты паўсюль можаш адчуваць сябе як дома.

Я дастаткова добра і хутка прыстасаваўся да войска. Нягледзячы на адсутнасць прыватнай прасторы, я прымаў казарменныя ўмовы як неад’емную частку вайсковага жыцця. З астатнімі навабранцамі ў мяне склаліся добрыя дачыненні, а з некаторымі я нават пасябраваў. Памятаю, аднойчы мы з двума прыяцелямі паехалі на таксі ў шынок, які знаходзіўся па-за тэрыторыяй вайсковай базы. Мы сядзелі за сталом, пілі піва з бутэлек і размаўлялі пра жыццё.

У вайсковых частках былі бібліятэкі, і адна з іх знаходзілася побач з маёй казармай. Я зазірнуў туды, бо хацеў пазнаёміцца з кнігазборам, і быў насамрэч уражаны бібліятэчным фондам. Вайсковая бібліятэка была ўкамплектаваная так, каб задаволіць самыя розныя густы і патрэбы. Я ўбачыў некалькі кніг, якія мяне адразу зацікавілі, але вырашыў пакуль не браць ніводнай. Не той быў час, каб бавіцца кніжкамі. Толькі пазней, калі мяне перавялі ў форт Брэг, я пачаў вельмі актыўна карыстацца тамтэйшай бібліятэкай.

Нарэшце мой курс маладога байца быў скончаны. Па заканчэнні мне давялося прайсці іспыты на веданне моваў. Я паказаў добрыя вынікі ў рускай, украінскай і польскай мовах, а таксама прадэманстраваў неблагое веданне нямецкай мовы. Да майго расчаравання, беларуская мова не была ўключаная ў спіс для праверкі ведаў. Па выніках моўных экзаменаў мне была прысвоеная класіфікацыя «лінгвіст». Я быў накіраваны для праходжання вайсковай службы ў Першы амерыканскі батальён псіхалагічных прыёмаў вядзення вайны. Батальён дыслакаваўся ў форце Брэг (штат Паўночная Караліна) і знаходзіўся ў складзе 77-га палка войскаў спецыяльнага прызначэння.

Байцы батальёна і тут жылі ў двухпавярховых драўляных казармах, пабудаваных за часам Другой сусветнай вайны. Каля казармы, у якой пасялілі мяне, раслі высокія сосны. Глядзець на іх было ўцешна: яны нагадвалі мне Марцінова. Мне далі койку

[247] Пераклад Сержука Сокалава-Воюша.

на першым паверсе барака. Нашая казарма выглядала амаль цот-у-цот, як мая першая казарма ў форце Дыкс: такая самая бялізна на ложках, такія самыя зялёныя драўляныя куфры для асабістых рэчаў і нават планіроўка ўмывальнага пакою была вельмі падобная.

У батальёне служылі самыя розныя спецыялісты. Сярод іх былі друкары, яны працавалі ў вялікіх доўгіх трэйлерах, дзе стаялі друкарскія машыны. Не памятаю, каб я блізка сышоўся з кімсьці з іх. Але я пазнаёміўся з некаторымі іншымі лінгвістамі. У нас было шмат агульнага, уключаючы адукацыю, жыццёвы досвед і планы на будучыню. Потым я даведаўся, што адначасова са мной у батальёне служыў сын Эдалі Стывэнсана[248], кандыдата ад Дэмакратычнай партыі на выбарах 1956 года, але я з ім тады не быў знаёмы.

Большасць салдатаў батальёна былі звычайнымі прызыўнікамі, якія служылі па сваіх двухгадовых кантрактах. Мне ўдалося навязаць добрыя стасункі з пераважнай большасцю маіх армейскіх калегаў. Але былі некалькі непрыемных мне людзей, з якімі я пазбягаў кантактаў наколькі мог. Тым не менш зусім устрымацца ад спрэчак і сварак аказалася немагчымым. Я памятаю адну такую спрэчку, якую я меў з адным былым ізраільцянінам. Ён служыў па пяцігадовым кантракце, каб атрымаць амерыканскае грамадзянства, а да амерыканскага войска ён служыў у ізраільскім. Я завёў размову аб правах палесцінцаў у Ізраілі. У прыватнасці, я загаварыў пра пераслед палесцінцаў ізраільцянамі і запытаўся ў гэтага салдата, ці яму самому даводзілася пераследваць палесцінцаў падчас службы ў ізраільскім войску. Слова за слова — жарсці распаліліся. Гэты ізраільцянін так раззлаваўся, што хацеў мяне ўдарыць. Тады я перавёў гаворку на іншую тэму і адступіўся.

Я любіў пацвельвацца з іншых. У гэтым занятку я не бачыў нічога кепскага, апрача гумару. Часам прага пакпіць з кагосьці была такая моцная, што я нічога не мог з сабой зрабіць. Быў у нас адзін хлопец (ён таксама жыў на першым паверсе нашай казармы), які крыху вылучаўся сярод астатніх. У яго была забаўная манера хадзіць, і мне прыйшло ў галаву сказаць штосьці кпліваe на гэты конт. Я падумаў, што гэта будзе вельмі смешна, калі ўсе пазнаюць у жарце майго сябра. Дачакаўшыся, пакуль гэты хлопец выйдзе на сярэдзіну казармы, я гучна выкрыкнуў сваю дражнілку, каб усе

---

[248] **Эдалі Стывенсан** (англ. *Adali Stevenson*, 1900–1965) — палітычны дзеяч ЗША, прадстаўнік ліберальнага кірунку Дэмакратычнай партыі, у 1949–1953 гг. — губернатар штата Ілінойс. У 1952 і 1956 гг. быў кандыдатам ад дэмакратаў на пасаду Прэзідэнта ЗША. У 1961–1965 гг. — пастаянны прадстаўнік ЗША ў ААН.

маглі яе пачуць. Улічваючы, што я быў з гэтым хлопцам у сяброўскіх стасунках, мой жарт быў вельмі кепскага густу. Асабліва калі прыняць пад увагу, што памянёны хлопец неаднаразова рабіў мне добрыя паслугі! У яго на вайсковай базе быў свой аўтамабіль, і я некалькі разоў выязджаў з ім за тэрыторыю форта — ці каб наведаць якую-небудзь цікавую мясціну, ці проста ў рэстаран, у блізкі горад Фаетвіл[249]. Хлопец успрыняў мой жарт вельмі кепска. Больш ён ніколі не браў мяне ў паездкі на машыне.

Служба ў форце Брэг была, безумоўна, не кавалкам салодкага пірага. Нам часта ладзілі праверкі асабістага выгляду. Яшчэ глядзелі, ці акуратна засцеленыя койкі. Хоць, наколькі мне памятаецца, асабіста я ніколі не трапляў пад разносы, усё адно прыемнымі гэтыя праверкі не назавеш. Падобным чынам, раз-пораз адбывалася такая самая праверка усёй казармы. Мы мусілі выдраіць яе літаральна да бляску, каб задаволіць правяральшчыкаў. Зразумела, што ніякіх прыбіральшчыцаў у нас там не было, мы павінны былі мыць і чысціць усё самі.

Наш дзень і тут пачынаўся з таго, што яшчэ да світання нас будзілі гукі горна — сігнал для ўсіх вайскоўцаў, што пара *«ўставаць і ззяць»*. Пасля шыхтавання мы ішлі ў сталовую на сняданак. Потым пачыналіся дзённыя справы і выкананне розных працаў адпаведна з загадамі. Але большасць з гэтых працаў была, на маю думку, не чым іншым, як бессэнсоўным пераліваннем з пустога ў парожняе, абы мы ні хвіліны не сядзелі без занятку.

Тым не менш былі і вельмі паважныя справы, напрыклад дзяжурствы на кухні, і менаваліся кухонныя дзяжурныя таксама сур’ёзна — *«кухонная паліцыя»*. У іх абавязкі ўваходзіла вымыць талеркі і катлы, прыбраць сталовую і г. д. Але паколькі кухня абслугоўвала цэлы батальён, дзяжурствы на кухні выпадалі вельмі рэдка.

Часам мяне ставілі на варту: ахоўваць уначы машынны парк. Як мінімум двойчы за час службы мяне пасылалі ў цэнтральны штаб — атрымаць у касіра і прывезці ў форт зарплату на ўсю роту. У гэтых выпадках мне выдавалі карабін і пяць патронаў. Кіроўца падвозіў мяне на джыпе да будынка, дзе знаходзілася каса, я забіраў у касіра мех з грашыма і вяртаўся назад.

Пазней я атрымаў сталае даручэнне: апекавацца ротнай чытальнай залай. Я мусіў падтрымліваць там такі парадак, каб чытальная зала мела прывабны выгляд і каб патэнцыйным чытачам хацелася праводзіць тут свой вольны час. Сярод іншых газет, часопісаў і кніг

---

[249] **Фаетвіл** (англ. *Fayetteville*) — горад у Паўночнай Караліне, адміністрацыйны цэнтр акругі Камберленд.

у чытальнай зале мелася падшыўка амерыканскай вайсковай газеты «Старз энд Страйпс» («Зоркі і палоскі»)[250]. Потым камандзір роты прызначыў мне іншы абавязак: адказваць за зброю, якая захоўвалася на складзе пад замком. Загадчыкам склада быў сяржант. Я ж павінен быў выдаваць салдатам зброю, калі яна патрабавалася для заняткаў. Калі заняткі скончаліся, я мусіў прасачыць, каб кожны салдат вярнуў зброю на склад своечасова. Сабраць зброю ў час было няцяжка, але часам паўставалі праблемы з неахайнымі салдатамі, якія ленаваліся пачысціць зброю перад тым, як здаць яе назад.

За час службы мне пераважна ўдавалася пазбягаць непрыемнасцяў. Але адно выключэнне ўсё ж здарылася. Аднойчы ўвечары, перад тым, як заступіць на начную варту па ахоўванні машыннага парка, я пабіўся з адным салдатам. У выніку мая форма забрудзілася. Калі я з'явіўся на дзяжурства, увесь у плямах, дзяжурны афіцэр, падпаручык, сказаў, што такі вонкавы выгляд недапушчальны для салдата-вартавога і што раніцай ён складзе на мяне рапарт камандзіру роты. Да дзяжурства ў той вечар мяне так і не дапусцілі. На наступны дзень мяне выклікаў да сябе камандзір роты. Ён учыніў мне вялікі скандал і нават пагражаў трыбуналам. На шчасце, гэтыя пагрозы ніколі не спраўдзіліся.

Ротны камандзір заўсёды трымаў сябе на дыстанцыі ад салдатаў. Ягоны стыль камандавання я ўспрымаў як аўтарытарны. Цяжка сказаць, наколькі характэрным з'яўляецца такі тып паводзінаў для кадравага армейскага афіцэра. Урэшце нашага камандзіра роты замянілі, і на яго месца прыслалі афіцэра з Нацыянальнай гвардыі[251], які да войска, у цывільным жыцці, быў дырэктарам школы. Розніца ў метадах камандавання была каласальная! Новы ротны камандзір не сядзеў бязвылазна ў штабе, як гэта рабіў яго папярэднік, — ён наведваў казармы. Калі новы ротны ішоў па казарме, ён мог спыніцца і папросту запытацца ў салдата, як яму служыцца. Звяртаючыся да шарагоўцаў, ён не выпячваў свой вышэйшы вайсковы ранг. З новым камандзірам было лёгка і прыемна размаўляць. Нарэшце я

---

[250] **«Старс энд Страйпс»** (англ. *«Stars and Stripes»*) — штодзённая газета Міністэрства абароны ЗША, якая выдаецца ад 1861 г.

[251] **Нацыянальная гвардыя ЗША** (англ. *National Guard of the United States*) — адна са складовых частак рэзерву Узброеных сілаў ЗША. Нацыянальная гвардыя можа выкарыстоўвацца як для падтрымкі Арміі і ВПС ЗША падчас узброеных канфліктаў, гэтак і для выканання розных задачаў унутры краіны (ліквідацыя наступстваў стыхійных бедстваў, падтрыманне правапарадку ў выпадку масавых хваляванняў і інш.). Своеасаблівы аналаг унутраных войскаў.

адчуў, што да мяне ставяцца ў войску з павагай. Пра гэтага ротнага я мог з поўным правам сказаць: гэта Мой Камандзір!

На жаль, не ўсе камандзіры былі такія, як ён. Лейтэнанты другога рангу, з якімі мне час ад часу даводзілася кантактаваць, трымаліся фанабэрыста і размаўлялі са мной, як з дэбілам. Я стараўся, наколькі атрымоўвалася, трымацца ад іх чым далей.

А вось з сяржантамі такіх праблемаў ніколі не ўзнікала. Яны папросту выконвалі свае абавязкі, ніяк не дэманструючы «вышэйшасці» перад салдатамі ніжэйшых рангаў. Да кожнага з сяржантаў, з якімі мне давялося працаваць, я заўсёды мог наўпрост звярнуцца з любой патрэбай.

Нягледзячы на тое што нас нагружалі абавязкамі па службе, у нас яшчэ заставалася дастаткова вольнага часу, які мы маглі бавіць адпаведна са сваімі зацікаўленнямі. Я праводзіў значную частку свайго вольнага часу ў бібліятэцы, якая знаходзілася недалёка ад казармаў. Памяшканне было густоўна ўмэбляванае. Бібліятэкарка, чый стол стаяў у чытальнай зале, заўсёды была радая дапамагчы чытачам знайсці патрэбную кнігу альбо адказаць на іх пытанні. Паліцы бібліятэкі стракацелі цікавымі кнігамі. Мяне прывабілі тады мемуары Уінстана Чэрчыля[252]. Яны падаліся мне выключна цікавымі, і я прачытаў іх ад коркі да коркі. Мяне наагул натхнялі біяграфіі славутых гістарычных дзеячаў. Мастацкую літаратуру я любіў таксама. У той час я захапіўся творчасцю Эрнэста Хемінгуэя[253]. Бібліятэка мела ўсе ягоныя творы, і я, відаць, усе іх у войску і прачытаў — усе раманы, аповесці і апавяданні, якія Хемінгуэй паспеў напісаць да таго часу.

Па суседстве з бібліятэкай, у тым самым будынку, знаходзіўся вялікі дансінг-хол са сцэнай для аркестра. На выходных тут заўсёды ладзіліся танцавальныя вечарыны. На танцы збіралася шмат маладых жанчын, сярод іх пераважалі цывільныя, якія не мелі ніякага дачынення да нашай вайсковай базы. Часам і я наведваў танцы таксама. Было прыемна ўліцца ў натоўп і патанчыць з дзяўчатамі.

Наш батальён меў і сваю ўласную спецыялізаваную бібліятэку, якая арыентавалася на патрэбы вайсковага персаналу. Кнігі там былі пераважна на тэмы вайсковай гісторыі. Я заглянуў туды пару

---

[252] Магчыма, маецца на ўвазе аўтабіяграфічная кніга Уінстана Чэрчыля **«Мае маладыя гады»** (англ. варыянт «*My Early Life»,* амер. варыянт *«A Roving Commission: My Early Life»*), упершыню выдадзеная ў 1930 г.

[253] **Эрнэст Хемінгуэй** (англ. *Ernest Miller Hemingway,* 1899–1961) — амерыканскі пісьменнік, журналіст, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры 1954 г.

разоў, каб пазнаёміцца з падборкай выданняў. Але ніводная кніга з тых, што стаялі на паліцах батальённай бібліятэкі, не выклікала ва мне цікавасці.

Яшчэ быў кінатэатр, да якога ад казармаў батальёна таксама было недалёка. Часам я хадзіў у кіно на вечаровыя сеансы. Адзін фільм — «Знесеныя ветрам»[254] — я паглядзеў там двойчы.

Я любіў таксама нячастыя паездкі ў Фаетвіл — гарадок, які так зручна размясціўся паблізу форта Брэг. У цэнтры гарадка было шмат рэстаранаў. Мы звычайна прыязджалі туды з сябрамі на машыне па вечарах, а часам і ў суботы, каб паласавацца смачнай рэстараннай ежай. Памятаю, аднойчы, калі мы ўжо збіраліся сыходзіць з рэстарана, нехта працягнуў мне цыгару. Я ў тыя часы не курыў, але паспрабаваў пакурыць яе ўсё адно. Зацягнуўся пару разоў — і выкінуў цыгару. Потым я шчыра дзіваваўся: які чалавек у цвярозым розуме захацеў бы курыць такую гадасць? Але, з іншага боку, сярод аматараў цыгараў было нямала знакамітых людзей, сярод іх Уінстан Чэрчыль і Зігмунд Фрэйд[255].

Гуляючы па цэнтры Фаетвіла, нельга было не заўважыць прывабных дзяўчат, што працавалі па выкліку. Яны шпацыравалі па ходніках, заўсёды гатовыя прапанаваць свае паслугі вайскоўцам з форта Брэг. Па вечарах у выходныя дні цэнтр горада быў запалонены вайскоўцамі, і дзяўчаты мелі шмат кліентаў. На маю думку, гэтыя дзяўчаты — «начныя матылькі» — заслугоўвалі добрых словаў і падзякі. Большасць маладых вайскоўцаў былі адзінокія. Нават калі ў каго з іх і была сяброўка, усё адно яны не мелі магчымасці бачыцца на працягу доўгага часу. А «начныя матылькі», якія заўсёды былі ў межах дасягальнасці, спрыялі таму, каб уздымаць баявы дух вайскоўцаў. (Безумоўна, жанатыя салдаты, якія знаходзіліся ўдалечыні ад сваіх сем’яў, былі не ў лепшым становішчы, чым халасцякі. Але вечаровыя салдацкія прыяцелькі, натуральна, не рабілі ніякай дыскрымінацыі жанатым.)

За час маёй двухгадовай службы ў войску я не шукаў і не меў сексуальных кантактаў з жанчынамі. Каб задаволіць свае сексуальныя патрэбы, я мастурбаваў, і даволі часта. Душ быў найбольш

---

[254] **«Знесеныя ветрам»** (англ. *Gone With The Wind*) — кінафільм рэжысёра Віктара Флемінга паводле аднайменнага рамана Маргарэт Мітчэл. Гэта быў першы поўнафарматны каляровы фільм. Прэм’ера яго адбылася ў 1939 г. у Атланце. «Знесеныя ветрам» атрымалі 8 прэмій «Оскар» і былі самай касавай кінастужкай у гісторыі амерыканскага кінапракату.

[255] **Зігмунд Фрэйд** (ням. *Sigmund Freud,* 1856–1939) — аўстрыйскі псіхолаг, псіхіятр і неўролаг, заснавальнік школы псіхааналізу. Зігмунд Фрэйд быў вядомым аматарам цыгараў, якія курыў ад юнацтва.

прыдатным месцам для гэтага. Мой саслужывец, хлопец з Агаё, аднойчы заспеў мяне ў душы за гэтым заняткам. Ён падышоў да мяне потым, усміхаючыся, і ціха сказаў: *«Я бачыў, ты там у душы прыемна забаўляўся сам з сабой?»* Я моўчкі ўсміхнуўся ў адказ. Мы былі з гэтым хлопцам у прыяцельскіх стасунках. Ён быў шляхетны і не распускаў плётак пра тое, што бачыў.

Мяне і маіх сяброў прываблівае таксама гарадок Чапэл Хіл[256] (назва перакладаецца як «Пагорак з капліцай»). У гэтым гарадку знаходзіўся Універсітэт Паўночнай Караліны[257], і мы займелі звычку ездзіць туды на машыне, каб прагуляцца па ўніверсітэцкім гарадку і адпачыць у парку, непадалёк ад цэнтра горада. У парку мы сядалі на лаўку і назіралі за галубамі, якія сквапна заглытвалі крошкі, што кідалі ім мінакі. Потым мы ехалі ў цэнтр горада перакусіць чым-небудзь смачным. Прысутнасць універсітэта накладвала нейкі няўлоўны адбітак на атмасферу гарадка. Я адчуваў сябе тут як дома. Мне падабалася і тэрыторыя ўніверсітэта, шмат будынкаў якога маглі пахваліцца выдатнай архітэктурай, і сам гарадок Чапэл Хіл.

Аднаго разу мы з’ездзілі ў Дарэм[258], каб паглядзець Універсітэт Дзюка («Д’юк Юнівэрсыты»)[259]. Уражанні пра гэтую паездку ў мяне засталіся туманныя. Але я памятаю, што мяне прыемна ўразіла тэрыторыя ўніверсітэта. Мне здаецца, у ёй было штосьці букалічнае. Таксама, памятаю, мы спыняліся, каб паглядзець універсітэцкую капліцу, вельмі прыгожае збудаванне.

Яшчэ мы з маімі сябрамі — такімі ж, як я, аматарамі падарожжаў — наведалі невялікі гарадок на ўзбярэжжы Атлантычнага акіяна ў штаце Паўднёвая Караліна. Гарадок называўся Міртл Біч

---

[256] **Чапэл Хіл** (англ. *Chapel Hill*) — горад у акрузе Орынж штата Паўночная Караліна. Тут знаходзіцца ўніверсітэт штата. Разам з двума іншымі ўніверсітэцкімі гарадамі Дарэм і Ролі ўтварае так званы даследчы трохкутнік (*Research Triangle*).

[257] **Універсітэт Паўночнай Караліны** (англ. *University of North Carolina at Chapel Hill*) — найстарэйшы грамадскі ўніверсітэт ЗША ў сістэме ўніверсітэтаў штатаў. Заснаваны ў 1789 г. Універсітэт Паўночнай Караліны ўваходзіць у пяцёрку найлепшых грамадскіх універсітэтаў ЗША.

[258] **Дарэм** (англ. *Durham*) — горад на паўднёвым усходзе Паўночнай Караліны, цэнтр аднайменнай акругі, найбуйнейшы адукацыйны цэнтр штата.

[259] **Універсітэт Дзюка** (англ. *Duke University*) — прыватны даследчы ўніверсітэт у ЗША, размешчаны ў горадзе Дарэм (Паўночная Караліна). Заснаваны ў 1838 г. Адным з вядомых выпускнікоў гэтага ўніверсітэта быў амерыканскі прэзідэнт Рычард Ніксан. У 2014 г. Універсітэт Дзюка заняў 23 пазіцыю ў Акадэмічным рэйтынгу ўніверсітэтаў свету.

(у перакладзе — Міртавы пляж)[260]. Міртл Біч быў тады (а можа, і дагэтуль застаўся) прыбярэжным курортам, які славіўся сваім выдатным пляжам. На пляж мы і накіраваліся. Я надзеў плаўкі і пайшоў плаваць. Вада была прыемна цёплая — не тое, што ў Масачусецкай затоцы, дзе холад прабірае да костак. Там жа, у Міртл Біч, я ўпершыню паспрабаваў катацца на водных лыжах. Атрымалася не вельмі, але чаго хацець ад першага бліна!

Нашыя дні ў войску цягнуліся дастаткова аднастайна, але раптам надарылася магчымасць крыху адпачыць ад казарменнай руціны. Нарэшце нас накіроўвалі на палявыя вучэнні ў лясістую мясцовасць. Я захапіў з сабой сродкі асабістай гігіены і цёплае верхняе адзенне. Калі ўсё было гатова да ад'езду, мне даручылі весці машыну. Гэта быў стандартны армейскі грузавік з адкіднымі лаўкамі па абодвух бартах кузава. Грузавік быў поўны пасажыраў-салдатаў. Ведучы грузавік па пустыннай дарозе, я прыдрамаў, памалу губляючы разуменне, дзе я і што раблю. Грузавік пачаў патроху збочваць з дарогі. На шчасце, побач са мной сядзеў капрал, немалады ўжо чалавек, ён штурхануў мяне і гэтым абудзіў маю ўвагу. Я імгненна зрэагаваў і выраўняў машыну. Добра, што я меў спадарожніка ў кабіне, інакш і да бяды магло б быць недалёка.

Прыехаўшы на месца прызначэння, мы разбілі там намётавы лагер. Наш лагер размясціўся ў негустой лясістай мяцовасці, побач з дарогай. Вайсковыя намёты мелі брызентавыя дахі і сцены з празрыстай тканіны. Намёты былі высокія — чалавек мог стаяць там у поўны рост. Знутры палаткі меліся адмысловыя сеткі — па адной на кожнага салдата, якія трэба было насоўваць паверх спальнікаў. Як я пераканаўся, гэта былі вельмі карысныя прылады: сеткі ахоўвалі нас ад надакучлівых камароў падчас сну. Яшчэ ў мяне быў балончык з аэразолем ад камароў, які я заўсёды трымаў побач з сабой, калі клаўся спаць. Апрача палатак, у якіх мы спалі, у нашым намётавым лагеры паўсталі і іншыя часовыя збудаванні: умывальнікі, прыбіральні і, безумоўна, палявая кухня. Толькі вось душаў не было. Але, з іншага боку, мы планавалі правесці на палявых вучэннях усяго некалькі дзён. Камандаванне, напэўна, меркавала, што такі кароткі час салдат можа пражыць і без душа. Відаць, сэнс гэтых вучэнняў якраз і быў у тым, каб даць вайскоўцам пакаштаваць, што ж такое сапраўдныя палявыя ўмовы.

---

[260] **Міртл Біч** (англ. *Myrtle Beach*) — прыбярэжнае курортнае мястэчка ў акрузе Горы (*Horry*) штата Паўднёвая Караліна. Знаходзіцца ў цэнтры вялікай прыбярэжнай паласы (*Grand Strand*), што цягнецца на больш як 100 км на паўночным ўсходзе Паўднёвай Караліны.

Асабіста мне жыццё ў лагеры спадабалася, нягледзячы нават на камароў, якія заўсёды віліся каля нас хмарамі. Пражыць некалькі дзён у лесе было прыемна — гэта абуджала светлыя ўспаміны з майго далёкага мінулага, і я адчуваў сябе тут у спакоі.

Калі ішоў другі год маёй службы ў войску, прэзідэнт Дуайт Эйзенхаўэр выдаў загад аб правядзенні пашыраных вайсковых вучэнняў, у якіх мусілі ўдзельнічаць сто тысячаў вайскоўцаў. Па ўсёй верагоднасці, гэта адбывалася ранняй восенню. Наш Першы батальён псіхалагічных спосабаў вядзення вайны таксама меўся браць удзел у гэтых вучэннях, але спачатку мы павінны былі дабрацца ў форт Полк[261], што ў штаце Луізіяна[262]. Я з нецярплівасцю чакаў дня ад'езду: падарожжа на другі канец Амерыкі само па сабе выглядала як цікавая прыгода! Нам абвясцілі, што з базы ў форце Брэг мы выязджаем надоўга, і загадалі рыхтавацца да ад'езду. У грузавікі складалі абсталяванне, неабходнае для выканання пастаўленай перад нашым батальёнам задачы.

Праз увесь доўгі шлях канвой нашых грузавікоў рухаўся ў вельмі павольным тэмпе. Мы ехалі па шашы, якая цяпер называецца Інтэрстэйт 95[263] і пралягае ад Мэйна да самага паўднёвага канца Фларыды[264]. Дарога заняла некалькі дзён, бо мы ехалі толькі ў дзённы час. Бліжэй да вечара канвой грузавікоў з'язджаў з дарогі, і мы разбівалі лагер для начлегу. Былі і іншыя перапынкі ў руху. Звычайна яны не доўжыліся больш за адзін дзень. Я памятаю, як мы спыніліся для адпачынку ў форце Сцюарт[265] (штат Джорджыя).

---

[261] **Форт Полк** (англ. *Fort Polk*) — амерыканская вайсковая база ў штаце Луізіяна, за 16 км ад Лісвіля, вядомая таксама як **Аб'яднаны навучальны цэнтр баявой падрыхтоўкі арміі ЗША** (*The Joint Readiness Training Center*). Заснавана ў 1941 г. як база Лузіянскіх вайсковых манеўраў. Гэта адзіная амерыканская вайсковая база, якая з'яўляецца адначасова і навучальным цэнтрам, і месцам дыслакацыі рэгулярных вайсковых частак.

[262] **Луізіяна** (англ. *Louisiana*) — штат на поўдні ЗША, названы ў гонар французскага караля Людовіка XIV. Сталіца — Батан Руж, найбуйнейшы горад — Новы Арлеан.

[263] Міжштатавая аўтамагістраль ***Interstate 95*** — самая доўгая міжштатавая магістраль ЗША, што ідзе з поўначы на поўдзень. Магістраль пракладзеная па тэрыторыі пятнаццаці штатаў ад Мэна да Фларыды.

[264] **Фларыда** (англ. *Florida*) — штат на поўдні ЗША, на паўвостраве Фларыда. Мае межы з Алабамай і Джорджыяй.

[265] **Форт Сцюарт** (англ. *Fort Stewart*) — амерыканская вайсковая база ў паўднёва-ўсходняй частцы штата Джорджыя. Тэрыторыя базы складае каля 1100 км$^2$.

Вайсковая база там займала досыць вялікую тэрыторыю. Калісьці гэтыя землі знаходзіліся ў прыватным валоданні. Паблізу ад месца, дзе мы стаялі лагерам, былі маленечкія могілкі, і чымсьці яны прыцягнулі маю ўвагу. Я пайшоў туды паглядзець на надмагільныя камяні і помнікі. Могілкі густа пазарасталі травой. Яны былі закінутыя шмат гадоў таму і, хутчэй за ўсё, усімі даўно забытыя. Надпіс на адным помніку спыніў маё вока. Там было напісана: *«Пайшоў, але не забыты»*. «Што за іронія лёсу!» — падумаў я.

Калі мы дабраліся да Джэксанвіла[266] (гарадок на паўночным усходзе Фларыды), наш канвой паехаў па Інтэрстэйт 10. Гэта хуткасная шаша, што пачынаецца каля Джэксанвіла і віецца праз увесь поўдзень Злучаных Штатаў аж да Лос-Анджэлеса (штат Каліфорнія)[267]. У Луізіяне мы разбілі лагер на беразе возера Пончатрэйн[268], што ляжыць на поўнач ад Нью-Арлеана[269]. Гэта было вельмі дарэчы, бо ўсіх нас ужо парадкам змучыла доўгая дарога. У гэтай прывабнай мясціне мы правялі цэлы дзень. Ён, як у падарунак нам, выдаўся цёплым і сонечным. Непадалёк ад лагера знаходзіўся грамадскі пляж. Я надзеў плаўкі і пайшоў туды крыху пазагараць. Мне было прыемна, што побач са мной прымаюць сонечныя ванны маладыя жанчыны ў адкрытых купальніках.

Добра адпачыўшы ля возера, мы працягнулі нашае падарожжа ў заходнюю Луізіяну. І вось нарэшце наш канвой дасягнуў форта Полк! Гэты форт месціцца ў заходняй частцы штата, удалечыні ад населеных пунктаў. Нашаму батальёну прызначылі казармы ў цэнтры базы, і гэта было ідэальнае размяшчэнне, бо побач знаходзіліся вайсковая крама і бібліятэка. Сяржант-інтэндант аказаўся заўзятым чытачом. Кожны вечар ён браў з бібліятэкі новую кнігу! Я быў настолькі ўражаны хуткасцю, з якой сяржант паглынаў

---

[266] **Джэксанвіл** (англ. *Jacksonville*) — самы густанаселены горад у штаце Фларыда. Размешчаны на беразе ракі Сент-Джэнс, што ўпадае ў Атлантычны акіян. Ад 1968 г., калі кіраванне горада і акругі было аб’яднанае, Джэксанвіл — афіцыйна самы буйны паводле тэрыторыі горад у ЗША.

[267] Міжштатавая аўтамагістраль ***Interstate 10*** праходзіць па тэрыторыі васьмі штатаў: Фларыда, Алабама, Місісіпі, Луізіяна, Тэхас, Нью-Мехіка, Арызона, Каліфорнія.

[268] **Пончатрэйн** (англ. *Pontchartrain*) — найбуйнейшае возера ў амерыканскім штаце Луізіяна, другое паводле памераў салёнае возера ў ЗША.

[269] **Новы Арлеан** (англ. *New Orleans*) — найбуйнейшы горад у штаце Луізіяна (ЗША), знаходзіцца ля ўпадзення ракі Місісіпі ў Мексіканскую затоку.

кнігі, што нават пацікавіўся ў яго, ці ён насамрэч дачытвае кніжкі да канца! Сяржант вельмі пераканаўча запэўніў мяне, што гэта безумоўна так. Вайсковая крама таксама не мела недахопу ў наведніках. Сярод іншых тавараў там прадаваліся цыгарэты і піва. Дарэчы, пачак цыгарэт каштаваў тады 25 цэнтаў. Наколькі ж усё змянілася з таго часу!

Праз некалькі дзён пасля нашага прыбыцця ў форт Полк пераважная большасць байцоў майго батальёна выехала з тэрыторыі вайсковай базы на манеўры. Я ж здолеў апынуцца сярод тых нешматлікіх шчасліўчыкаў, каго вызвалілі ад палявых вучэнняў і пакінулі ў лагеры. Маёй задачай было дапамагаць двум сяржантам-кладаўшчыкам, а ў дадатак яшчэ выконваць абавязкі афіцыянта ў афіцэрскай сталовай (афіцэры раз-пораз вярталіся з манеўраў на кароткі адпачынак). Афіцыянтам мне даводзілася працаваць толькі падчас сняданкаў, і тое не кожны дзень. Ніякіх чаявых я, натуральна, не атрымліваў. Але мой уласны сняданак у такія дні рабіўся значна больш прыемным, бо ў мяне быў большы выбар, чым у салдатаў. Памятаю, маім улюбёным сухім сняданкам былі тады «вінаградныя арэшкі»[270] з малаком. Памятаю яшчэ, што гэтыя сняданкі былі ўпакаваныя ў невялікія парцыённыя пакецікі.

Падчас майго знаходжання ў форце Полк я пазнаёміўся з адным цікавым хлопцам. Ён, як і я, з нейкай прычыны знаходзіўся на базе ў часе манеўраў. З паходжання ён быў швейцарцам і на момант нашага знаёмства працягваў заставацца грамадзянінам Швейцарыі. Як і чаму ён апынуўся ў амерыканскім войску, мне было не да канца зразумела. Магчыма, ён спадзяваўся такім чынам атрымаць амерыканскае грамадзянства. (Замежным грамадзянам давалі амерыканскае грамадзянства пасля таго, як яны адслужаць у амерыканскім войску пяць гадоў. Я ведаў некалькі такіх салдатаў з майго батальёна, якія служылі свой пяцігадовы тэрмін з мэтай зрабіцца грамадзянамі Злучаных Штатаў.) Гэты хлопец быў вельмі яркай асобай, чым ён мяне і захапіў. Я бачыў, што ён вельмі разумны і таленавіты. У той час, калі мы пазнаёміліся, ён пісаў

---

[270] **«Вінаградныя арэшкі»** (англ. *Grape-Nuts*) — назва сухіх сняданкаў, вынайдзеных у 1897 г. амерыканцам па прозвішчы Пост (*C. W. Post*). Нягледзячы на назву, сярод складнікаў сняданкаў не было ні вінаграду, ні арэхаў. Цеста выраблялася з пшаніцы і ячменю. Глюкозу, якая выдзялялася пры гатаванні, Пост называў «вінаградным цукрам», што ў спалучэнні з арэхавым пахам збожжа і нарадзіла згаданую назву. Да таго ж форма ў драбінак сняданкаў нагадвала арэшкі. *Grape-Nuts* шырока выкарыстоўваліся ў харчаванні амерыканскай арміі ў часе Другой сусветнай вайны, а таксама пасля яе.

